**АЛЕГ ЛОЙКА**

# *Як агонь, як вада...*

РАМАН-ЭСЭ
ПРА ЯНКУ КУПАЛУ



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1984

Бел 2
Л72

Рэцэнзенты:
народны пісьменнік БССР, член-карэспандэнт АН БССР
І. П. ШАМЯКІН,
доктар філалагічных навук, прафесар
М. М. ГРЫНЧЫК

Мастак
МІКОЛА СЕЛЯШЧУК

Л $\frac{4702120200-013}{М\ 302(05)-84}$ 13—82

## ЗАМЕСТ ПРАЛОГА

Пачатак кожнага стагоддзя па-асабліваму чакае сонца, па-асабліваму радуецца маладзіку. Ды ці відзён ці не відзён быў у ноч пад 1900 год маладзік над адзінокім хутарам Селішчы, што згубіўся ў пагорыстай і пералескавай цэнтральнай Беларусі — на Міншчыне, пра гэта сёння не скажаш. Але што ўся сям'я арандатара Луцэвіча — сам яе галава, муж і бацька Домінік Ануфрыевіч, яго жонка і маці яго дзяцей Бянігна Іванаўна і ўсе іх сямёра дзетак — два сыны, пяць дачок — была шчаслівая ад таго, што ўсе яны былі разам — за адным сталом, пад адным дахам,— пра гэта можна сказаць напэўна. І яшчэ напэўна можна сказаць, што самаму старэйшаму сыну Луцэвічаў Ясю ішоў у тую ноч васемнаццаты год, і ніхто з сямейнікаў не ведаў, што новае стагоддзе разам з ім сустракае будучая слава Беларусі, адзін з яе самых першых народных паэтаў, імя якога стане адным з сімвалаў беларускае зямлі. І ніхто з застольнікаў не ведаў тады і таго, што ў XX стагоддзі ім усім разам за адным сталом больш не сядзець. І не ведаў таксама Ясь Луцэвіч, колькі шчасця ці гора адмерыць яму новае стагоддзе, не ведаў, што ўжо ёсць на свеце людзі, з якімі яго сутыкне лёс шчаслівы і нешчаслівы, а некаторых яшчэ і няма...

Што ні кажыце, пачатак новага стагоддзя — незвычайная дата ў жыцці чалавечым! Бо сапраўды, ці ж у сэрцы кожнага чалавека, якога застае прыход гэтай даты, не ўзнікае адчуван-

ня таго, што ён нібы зноў на пачатку пачаткаў, што нібы зноў на зямлі ўсё пачынае ўзнікаць упершыню, як агонь, як вада...

Зрэшты, і ў Яся Луцэвіча, як і ў кожнага чалавека на гэтым свеце, пачыналася ўсё з дня нараджэння, хоць, як і ў кожнага чалавека, і дзень і месца нараджэння засталіся нібы ў цемры. Вязынкі — невялічкай хаткі над невялічкай рачулкай, дзе вязалі плыты, ад чаго і назвалі мясціну Вязынкай, Ясь зусім не памятаў. Выйшаў з яе, як з ночы. Ён і бачыў з калыскі нізкую столь над сабой, і — як не бачыў; бачыў у той Вязынцы з рук маці Боні і няні Агаты Сай у небе — сонца, зоры, хмары, на зямлі — кусты, дрэвы, траву, бліскучую роўнядзь става і панурую аграмадзіну курганішча з бела-зялёным на сваёй гарбаціне чубком маладзенькага беразняку і не бачыў іх. Дык калі яго, Ясева, сапраўднае жыццё пачалося?!

Нявечны чалавек ты нібы вечны! Бо ці ж не пачалося Ясева жыццё ў Вязынцы ўжо з тымі жыццямі, што тут калісь нараджаліся — задоўга-задоўга да Ясевага? Бо ці ж не будуць людзі жыць тут, у Вязынцы, калі пра яго, Івана Дамінікавіча Луцэвіча, ужо і памятаць ніхто не будзе? Ці не адзавецца яго душа ў некім калісьці, як раптам часам у ім самім абуджаюцца гамонкім гаем галасы зусім яму невядомыя, нязнаныя? Ці гэта, можа, Ясю толькі так здаецца?..

...Больш чым праз паўстагоддзе раскапаюць людзі Замэчак — курганішча ля хаты, у якой нарадзіўся Янка Купала,— першабытную стаянку чалавека другога стагоддзя нашай эры. І адкрыюцца іх вачам шэсць зрубаў, у якіх калісьці зырчэлі агні ачагоў, ля якіх грэліся людзі, нешта смажылі, пяклі, а ў нейкіх пасудзінах закіпала вада. Ці не галасы насельнікаў ачарнелых зрубаў чуць будзе праз стагоддзі народжаны каля іхняга курганішча Ясь? Ці не на іх покліч рвацца будзе ў невядомы свет?..

Бацька і маці сядзяць шчаслівыя, пазіраючы, як на кветачкі, на ўсіх сваіх сямёра дзяцей. А Ясю нешта рупіць: яму нецярпліва, ён раз-пораз цікуе ў зашклёнае цемрай акно.

«Вось,— думае ён,— счакаю крышку пры бацьку, пры маці, і...» Ясю мроіцца нейкая надзвычайная кветка: ні канвалія, ні шалфей і нават не светаяннік. Што за кветка мроіцца Ясю, не ведаюць ні бацька, ні маці. А сын усё цікуе ў зашклёнае цемрай акно, і сэрца яго звонка б'ецца ў прадчуванні чагосьці, пра што ён словам сказаць пакуль што не можа, але што яго вабіць, цягне з неймавернай сілай. І не ў яго моцы не падначаліцца гэтай сіле, не ў яго моцы апанаваць сябе, свае думкі і душу, слых, што прагне пачуць нячутае, вочы, што хочуць убачыць нябачанае, рукі, што рвуцца дакрануцца да некранутага. Пра кветку, якая вабіць Яся, ён ведае адно: гэта павінна быць кветка шчасця — для яго і ўсіх людзей на свеце,— кветка шчасця вечнага, як сонца, вада, неба. Як называецца яна, Ясь яшчэ не ведае.

— Што маўчыш, Ясю? — пытаецца бацька.

— А ці я маўчу?..— здзіўляецца Ясь.

Сапраўды, ці ж ён маўчыць, калі думае, глядзіць у акно, чакае, што вось нехта незнаёмы падыдзе, пастукае ў шыбу, пакліча...

Але ў шыбы пакуль што стукае адзін сіберны вецер. Ён рве салому са страхі, салома таемна пашаствае над акенцам, над дзівосным узорам, вытканым на ім марозам. «Ці не тая гэта кветка?..» — саграваючы сваім дыханнем шыбіну, думае Ясь, а душа дзівуецца: «Калі ж сапраўды зацвітаюць кветкі — зімой ці ўлетку? А як назваць кветку шчасця свайго, кветку шчасця людзей?..» Адказаў у душы Яся пакуль што няма, але ўся яна — у найрадаснейшым прадчуванні: «Як добра, што ў мяне ўсё яшчэ наперадзе! Як добра!..»

# КАЛІ ЗАЦВІТАЕ ПАПАРАЦЬ?..

Саборная плошча і ў гэты дзень, як і ў Ясевым маленстве, стыла пад сонцам велічна, патрыярхальна. І Ясь Луцэвіч, нібыта і ў маленстве, уваходзячы на яе, і цяпер ніякавеў. Хаця... чаго было ніякавець? Тады, калі ён бегаў тут хлапчанём, яму ўсё здавалася тут куды большым, непарушным. На ратушы паўнаўладна вымерваў час гадзіннік, і ён, хлапчук, суцішваў свой крок, праходзячы пад аркадай ратушы, якая здавалася яму цудадзейным прыстанішчам вечнасці, а ратушавы гадзіннік — самой меркай чагосьці, што вышэй і павольных воблакаў у небе, і сонца ў чэрвеньскім паўдзённым небе, і зор апоўначы. Ніякавеў тады хлапчук таксама і ад цішы званіцаў, што з усіх бакоў абступалі Саборную плошчу; і ад учарнеласці кляштарных муроў, што прастаялі на плошчы не адно стагоддзе; ад пострaху, што недзе тут за таўшчэразнымі сценамі сядзіць першы чалавек у губерні, той, які тут правіць, які тут самы галоўны наперад цара, да якога, як гаварыў бацька, далёка.

Тры гады няма ўжо бацькі. А як бацька пакінуў Мінск, не знайшоўшы ў ім шчасця, дык ужо і больш трынаццаці гадоў мінула. Надзея ў бацькі была тады на каня. Але і балагол застаўся гол як сакол — горка ўсміхаўся бацька. А быць рамізнікам ды не быць лакеем — зноў жа — як разбагацець? Бацька ж — ладна высокі, вечна гаваркі, вясёлы, шчодры Ясеў бацька, які да апошняй капейкі мог усё аддаць першаму сустрэчнаму, а што давалі седакі яму, ніколі не пералічваў,—

што мог такі бацька нажыць з рамізніцтва?! І як ні хацелася бацьку, як ні марыў ён тады аддаць яго, Яся, тут, у Мінску, у навуку,— прыйшлося вяртацца да больш звычайнага, традыцыйнага для роду Луцэвічаў фаху — да арандатарства. Арандатарства бацька наканоўваў і свайму старэйшаму сыну Ясю, бо бацька зняверыўся не толькі ў Мінску — ён зняверыўся заадно і ў навуцы, налягаць на якую прымушаў Яся спачатку не толькі добрым словам, але і вуздэчкай. Ды потым бацька, відаць, згадзіўся з маці: «З кнігі Ясю хлеба не есці! Можа, хто і будзе есці, але не сын арандатара, ды яшчэ ў такія ліхія часы!..»

Што ж, аднак, задумаў Ясь? Што сказаў бы на гэта бацька?! Маці што сказала б, Ясь ведае, як ведаў ён тады, калі першы раз пакідаў матчыну хату...

Калі папраўдзе, то гэтая хата была не матчына і не бацькава, а панская. Маці Яся — удава Бянігна Іванаўна Луцэвіч, узяла яе ў арэнду ў пана Вайцяхоўскага. Але рашэнне Яся пакідаць хутар Селішчы і ісці немаведама куды ў свет было для Бянігны Іванаўны, або проста Боні, ці пані Боні, як называлі яе ў акаліцы, рашэннем сына пакідаць яе, матчыну, хату. Спачатку маці на сына прыкрыкнула — не памагло. Тады стала сварыцца — не памагло. Тады зацялася, як і сын, замоўкла ці не на тыдзень.

Ясь мацеры перад парогам сказаў коратка: «Пайду...»

Маці, як стаяла тварам да печы, не адвярнулася. На хвілю сын замарудзіў, намацваючы рукамі за сабой халодную клямку. Думаў: маці усё ж адвернецца ад печы, зірне ў бок дзвярэй. Не зірнула! Пераступіў парог, выходзячы з хаты спіной, убачыў: да акна прыпала — разгубленая, слёзы на шчоках — старэйшая з сястрычак Лёля. Рэзка павярнуўся да сонца і, не азіраючыся на хату, пайшоў...

Ясь добра памятае: не смерць бацькі штурхала яго ў людзі:

...Бацька ляжаў на лаве — выпрастаны, закасцянелы — галавой на покуць, нагамі да дзвярэй: ляжаў не ў сваёй хаце,

вымучаны жыццём, спакутаваны, заўчасны нябожчык. Ён пражыў усяго пяцьдзесят шэсць гадоў.

Ясь намагаўся запомніць твар бацькі — суровы, барадаты, нейкі вельмі велічны ў сваёй застыгласці, нібы святы. Але Ясевы вочы быццам засцілаў туман. Туман ападаў, і Ясь бачыў, як плача аднымі плячыма маці, бо слёзы ўсе свае ўжо выплакала. Туман нанава завалокваў Ясеў зрок, і Ясю пачынаў здавацца твар бацькі не мёртвым, а жывым. Але чаму бацькаў твар пачынае раптам у Ясевых вачах двaіцца, траіцца, чацвярыцца? Становіцца страшна, ды Ясю здаецца ўжо зусім іншае: нібы гэта перад ім зусім не мноства бацькавых галоў. Ясь прыглядаецца да гэтых чыіхсьці галоў і бачыць, што яны зусім не чыесьці, а памешчыкаў Здзяхоўскага, Жаброўскага, Высоцкага, Тарчынскага. Ды не толькі памешчыкаў! Вось і галовы памешчыкавых жонак, памешчыкавых дзяцей, памешчыкавых унукаў — усіх тых, на каго ўсё жыццё рабіў яго бацька, арандатар Домінік Луцэвіч. Галовы гэтыя выскокваюць з туману, як ганчакі,— з разяўленымі пашчамі, вогненнымі языкамі. І кожная з іх патрабавальна вішчыць, кожная намерваецца ўгрызціся ў бацькава цела, дасмактаць яго. А наперадзе ўсіх — галава Стэфана Дастаеўскага, валадара сенніцкага, пад Мінскам, маёнтка, мінскага губернскага пісара. Ды чаму гэта ў зубах у яго траячка?! Галава пана Стэфана тыцкае чамусьці гэтую замусоленую траячку ў рукі яго, Яся, а не ў зложаныя накрыж на грудзях рукі Ясевага бацькі. «Я не ваш упраўляючы! — крычыць Ясь галаве пана Дастаеўскага.— Я — сын Дамініка!..» Але пан Стэфан Дастаеўскі настырны; вочы ў яго шкляныя, як з пахмелля. Не, пан Стэфан не адступіць! Ён загадвае Ясю, нібы свайму ўпраўляючаму: «Idź!» [1] — «Куды ісці?» — «Bierz trzy ruble! Idź kup stryczek...» [2] Ідзі купі вяроўку, на якой павесіўся арандатар у суседа-памешчыка! Купі пятлю на шчасце...

---

[1] «Idź!» (польск.) — «Ідзі!»

[2] «Бяры тры рублі! Ідзі купі пятлю...»

О, пан Стэфан ведае сакрэты людскога шчасця!.. Ён не пойдзе, як апошні дурань, шукаць шчасця ў пушчы на Купалле!

А гэта ўжо голас не пана Стэфана, а яго, Ясіка,— голас хлопчыка з далёкага Купалля, якому так хацелася, каб яму паспявалі. І парабак Андруша — Ясь чуе — спявае:

Зайшло сонца,
Ўзышоў месяц,
А нашага пана
Вядуць вешаць:
Няхай ён праветрае,
Мо назаўтра палепшае...

Песня працінае Ясеву душу. Ясь чуе яе ўсім сваім нутром і чуе і тое, як непаўнагруды Ясік, ён сам, звонкім галасочкам пачынае падпяваць парабку: «Мо назаўтра палепшае...»

І што гэта робіцца? Што робіцца?! Раптам усе гэтыя, усіх гэтых Здзяхоўскіх, Жаброўскіх, Высоцкіх, Тарчынскіх, Дастаеўскіх, галовы пачынаюць пырхаць шэрымі мыльнымі пухірамі, адкочвацца, укочвацца назад у туман, чэзнуць разам з туманам,— на зямлі застаецца адна слата...

Ясь ачынаецца. Перад ім адзін толькі бацька-нябожчык. Ясь доўга не можа прыйсці да сябе — доўга, доўга...

І не было рашэння ісці ў вялікі свет яшчэ і тады, калі брат і дзве сястрычкі памерлі. Пачуццё віны было ў Яся тады настолькі вялікім, што ён нават плакаць не мог. Ксёндз быў у чорным, як усе ксяндзы, і была шэрая, сумотная восень. Хавалі дзяцей не ў Селішчы, бо хутаранцы-арандатары як не мелі ўласных хатаў, так не мелі і сваіх могілак. Хавалі памерлых у сяле з дзіўнаю назвай Корань, дзе ўсё, здавалася б, павінна было караніцца, расці, а не знаходзіць сабе вечны супакой. Ды якраз у гэтым сяле быў касцёл, пры касцёле — могілкі,— вось і хавалі.

Брат Казя памёр на тыдзень раней — ад шкарлятыны. Шкарлятына задушыла і сястрычак — Сабінку і самую гуллі-

вую, самую любімую Ясем Гэлечку. А яшчэ ж не прайшло паўгода, як хавалі бацьку. Маці хадзіла, як цень,— здавалася, ветрык падзьме — яна ўпадзе. Ясь падтрымліваў маці пад руку. Апора, якая горасная ён для сваёй роднай маці апора!..

Ксёндз адпяваў як звычайна. Незразумела, але ўзвышана — пявуча, мілагучна гучала ксяндзовая лаціна, і не паддацца яе абладзе нават у гэтым, такім непапраўным сваім горы Ясь — дарма намагаўся — не мог. Ды вось заціхла ў кашлатых надмагільных хвоях рэха адпявання, і да Яся падышоў ксёндз:

— Za dwie głowy biore, jak za dwa pogrzeby...[1]

Ясь, можа, і застаўся б да торгу асобы ў сутане абыякавым, бо, як і бацька, не сквапіўся на рубель, а тым больш над святымі для яго і для маці, аплаканымі імі доламі, ды столькі грошай, колькі запатрабаваў ксёндз, у Яся не было: усё, што было ў хаце, ён аддаў на дактароў. Ясь жа зусім не думаў, што дактары не ўправяцца, не дапамогуць і што яму прыйдзецца трувезці за раз дзве абабітыя знутры блакітным матэрыялам труначкі сюды, у магільны пясок. Ясь стаяў аслупянелы. Ён ніяк не мог даўмецца, чаму была адна паніхіда, а плаціць ён павінен за дзве? Няўжо два рэхі пайшло па соснах ад ксяндзовай, раўнадушнай да ўсіх Ясевых бедаў лаціны?..

Ці не ўпершыню, акідваючы вачыма набрынялую тоўшчу ксяндзовай постаці, Ясь разглядаў у твар чорнае? Ясь дапазычыў грошай тут, на могілках. Ксёндз застаўся задаволены. Але Ясь цяпер мог ужо аспрэчыць каго хочаш у тым, што бога нараджала магіла. Не! У магілах дзвюх Ясевых сястрычак бог для Яся памёр назаўсёды. Гэта было развітанне з небам. Не, не з сонцам, не з зорамі, не з блакітам! З небам, якім таргуюць ксяндзы, папы, усе, што абяцаюць рай у небе, а тут, на зямлі, прапаведуюць пакору, даравание, умільныя пану богу слёзы! Далоў пана бога, калі ён *пан*! Далоў падман, што напяльвае на сябе чорны колер жалобы!..

---

[1] За дзве галавы бяру, як за два пахаванні...

Не! Уголас тых слоў не крычаў Ясь ні на каранёўскіх могілках ля магіл бацькі, сястрычак, брата, не крычыць ён іх і цяпер, і, бадай, ніколі не выйдзе з імі на вуліцу, каб крычаць іх, патрасаючы ў небе кулакамі. Натура ў Яся не такая. Але ўсё-такі непрымірымае, грознае, адчайнае «далоў!» моўчкі крычала і крычыць у яго сэрцы ці не з лета мінулага года, калі на канспірацыйнай кватэры ў Мінску ён учуў першы раз тых, каго ён назваў у душы шалёнымі галовамі.

Не без апаскі, як і цяпер, ён збіраўся ў той дом. Той дом быў не ў цэнтры, як гэты, у які Ясь выбраўся цяпер. Але і тады і цяпер на прыход у іх Яся падбіваў адзін чалавек. Пра яго цяпер Ясь не думае. Зрэшты, той чалавек, хоць і быў сваім у дамку паміж вішнякамі ўскраіннага Мінска, шалёнагаловым, як астатнія іншыя, якіх убачыў Ясь у сутункавым пакоі за самаварам, ён Ясю не здаўся. Можа, таму якраз у Яся такі вялікі давер да гэтага чалавека, а не да незнаёмых тады яму іншых, што так палымяна прамаўлялі, нібы сабраліся цэлы свет перакуліць дагары нагамі. Тады кожную хвіліну можна было чакаць, што ўваліцца жандарская гайня і пацягне ўсіх прысутных туды, адкуль няма вяртання ці, ва ўсякім разе, нялёгка вырвацца. І Ясь таго сапраўды пабойваўся. Але для шалёных галоў страху нібы не было. Ці не з таго ж дня страх перад агромністым нязведаным светам пачаў быць незнаёмым і яму, Ясю? Хаця... ці ўжо так ён незнаёмы яму, калі Ясь так неадважна сябе тут, на цэнтральнай вуліцы, адчувае?..

Дом Дворжыца на Губернатарскай вуліцы Ясь знайшоў адразу. Аднак пераступіць парог гэтага дома яму было нялёгка. Ужо каторы раз — туды, назад — Ясь праходзіў міма парадных дзвярэй. Яны былі зашклёныя, з накладзенымі на шкло ўзорамі адмысловай коўкі. Узоры ляжалі раўналегла на дзвюх палавінах дзвярэй. Спачатку яны здаліся Ясю награмаджэннем — рад над радам — сярпоў: па сярпу з адной ручкі — два сярпы дугамі ў розныя бакі, а з ручкі-дзяржальна — рылцам

уверх — вастрадзюбая дзіда. Ды вось ужо сярпы, здаецца Ясю,— зусім не сярпы, а маладзікі і ветахі. З малога яшчэ Ясь чуў, як маці паўтарала: маладзік бачыць перад сабой — на шчасце! Беражы бог бачыць яго, азіраючыся цераз левае плячо!.. А што тут вяшчалі і маладзік і ветах?..

Ды — ці не wszystko jedno [1]?! — крутнуліся ў яго свядомасці слоўцы, якія прывязаліся да яго яшчэ ў Бяларуцкай школе, дзе ён адну зіму вучыўся.

Таблічка каля дзвярэй, запырсканая яшчэ вясновай слатой, здалася Ясю сурова абыякавай. На ёй большымі літарамі было напісана КРАЙ — літарамі друкаванымі, паважнымі, меншыя літаркі ішлі па чатырох большых, на фоне іх, і былі нібы ■ вяроўкі. «Вяровачныя»,— падумаў Ясь. А меншыя літаркі ўтварылі сабой назву «СѢВѢРО-ЗАПАДНЫЙ», і былі яны, здалося Ясю, як пута на КРАІ. Ясь заўсміхаўся аднымі вуснамі, але трэба было рашацца. Не тое каб зусім незнаёмыя людзі знаходзіліся за дзвярыма гэтай, як Ясю здавалася, на ўвесь свет знанай рэдакцыі. Але гэтых людзей Ясь яшчэ ні разу не бачыў і не ведаў, як яны яго сустрэнуць. Таму так марудзіў. Калі ж нарэшце таўхануў дзверы ў акоўцы, апынуўся ў даўгаватым калідорчыку, у якім пасля майскага сонца было нібы ў сутунках. Асвойтаўшыся з прыцемкам, на дзверцах справа прачытаў: «Издатель-редактор М. П. Мысавской». Яму трэба было да выдаўца-рэдактара, і, хочучы злёгку, ды ў зацішы перадпакоя здалося, што на ўвесь губернскі горад Мінск, Ясь пастукаў трохі ніжэй шыльдачкі.

Ці азваўся хто за дзвярыма, ён не пачуў, але дзверцы пад яго рукой зноў лёгка падаліся.

— Уваходзьце!..

Голас быў глухавата басавіты, але мяккі, і ніводная нотка ў ім не прыспешвала наведвальніка. Ясь гаварыць і не спяшаўся.

---

[1] усё роўна.

— Ну-с, малады чалавек,— азваўся голас больш патрабавальна.

Ясь выняў з нагруднай кішэнькі ўчацвёра складзены лісточак са школьнага сшытка і паклаў яго на стол. Чалавек за сталом мелькам зірнуў на гадзіннік, тут жа схаваўшы яго ва ўнутранай кішэньцы на поясе, і як схамянуўся:

— Ага!.. Пра вас мне казаў Уладзімір Іванавіч?..

— Самойла, Уладзімір Іванавіч,— ціхім голасам пацвердзіў юнак.

— Ага, ага,— думаючы яшчэ нібы пра нешта сваё, агакаў чалавек за сталом і, хуткім рухам разгарнуўшы Ясеў лісток, пачаў чытаць. Ясю здалося: чытаў вечнасць.

— Гэта ваш першы твор? — пачуў нарэшце Ясь.

— Не зусім...

«Цяжка паверыць,— думае чалавек за сталом,— але як не паверыць?!» Мысаўской, а гэта быў ён сам, глядзіць на Яся. Ён ніяк не можа спалучыць такіх з чыста-сінім адлівам бялкоў вачэй і бледнасці, мяккасці вырысаў юначага твару з тым, што толькі што прачытаў. Падлеткавыя, як зусім не дзяцінныя, вусны. Як у дзяўчаці, тонкія, выгнутыя дужкі броваў. А куртачка сядзіць, як на панічыку; як у панічыка, перахоплены вузялком-бабачкай і адтапыраны ганцястымі краёчкамі бялюткі каўнерык manішкі.

Мысаўской зноў цягнецца рукой да лістка з вершам, зноў пачынае чытаць яго — на гэты раз уголас. У Мысаўскога не вельмі атрымліваецца, бо ён сам — рускі, ды Ясь уражаны чытаннем рэдактара: сам Ясь сваіх вершаў уголас увогуле яшчэ нікому не чытаў, як і ўпершыню чуе гучанне свайго верша з вуснаў іншага чалавека. Ясю дзіўна, як гэта, чытаючы ягоны верш, Мысаўской так непазнавальна змяніўся. Ясю ўжо нават здаецца, што зусім не ён напісаў гэты верш, а Мысаўской, саратаўскі мужык, як яго называе Самойла, і што напісаўшы гэты верш пра сябе, Мысаўской цяпер, як ад сябе, пра сябе вымаўляе звонка, гучна:

Што я мужык, усе тут знаюць,
І як ёсць гэты свет вялік,
З мяне смяюцца, пагарджаюць,—
Бо я мужык, дурны мужык.

Чытаць, пісаць [redacted] не умею,
Не ходзіць гладка мой язык,
Бо толькі вечна ару, сею,—
Бо я мужык, дурны мужык...

...Як хвор ды бедзен — сам бяруся
Лячыць сябе: я чараўнік!
Бо я без доктара лячуся,—
Бо [redacted] мужык, дурны мужык...

Твар Мысаўскога спахмурнеў, бровы на пераноссі сцяліся, вусны, здалося Ясю, пабляднелі, калі выдушвалі:

Што голы я павінен згінуць,
Як той у лесе чашчавік,
І, як сабака, свет пакінуць...

Затое колькі запалу загучала ў голасе рэдактара, калі той пачаў заключныя строфы:

Але хоць колькі жыць тут буду,
Як будзе век тут мой вялік,
Ніколі, браткі, не забуду,
Што чалавек я, хоць мужык.

І кожны, хто мяне спытае,
Пачуе толькі адзін крык:
Што хоць мной кожны пагарджае,
Я буду жыць! — бо я мужык!

Голас Мысаўскога гучаў урачыста, пераможна. Мысаўской быў чалавек эмацыянальнага складу і скрыць сваё захапленне вершам не мог. Але, відаць, моцна засела ў ім і самае першае ўражанне — ад чытання верша самому сабе, калі ён ніяк не мог звязаць у адно постаці аўтара з тэкстам, што ляжаў перад ім. Рэдактар і цяпер прадаўжаў запытальна глядзець на тэкст,

а дакладней — на подпіс пад ім: Янук... «Янук...— звёўшы ў роздуме густыя бровы, сціху басіў Мысаўской.— Добра! Гэта — ад мужыка, ад яго імя. Былі ўжо ў вас, беларусаў, Яська — гаспадар з-пад Вільні, Мацей Бурачок, Сымон Рэўка — ці не так?.. Цяпер хай будзе і Янук. Ды,— рэзка звяртаецца Мысаўской да Яся,— ці не здаецца вам, малады чалавек, што не вельмі вяжацца вашае сярмяжнае «Янук» з язычаскім «Купала»?.. Вы,— прадаўжае Мысаўской,— не мужык, а пішаце пра мужыка. Добра, я з гэтым згодны. Але ж вы не паганін, каб называць сябе ім? Ці, калі ўжо назвалі сябе язычнікам, пішыце, як іх блізкі нашчадак — аўтар «Слова аб палку Ігаравым»! Чыталі?..»

Ясь «Слова аб палку Ігаравым» не чытаў і густа пачырванеў. Мысаўской, быццам бы таго не заўважаючы, прадаўжаў:

— Каб так гаварыць ад імя мужыка, як вы тут, вы ведаеце, кім трэба быць?

— Купалам,— падняў вочы Ясь.

— Дзе логіка? — зрэзаў Мысаўской.

— Я нарадзіўся на Яна Купалу,— нібы апраўдальнае, гаворыць Ясь.

— Добра, добра,— немаведама з чым згаджаючыся, ківае галавой Мысаўской.— А ваша сапраўднае прозвішча, даруйце?..

— Луцэвіч Іван Дамінікавіч,— адказвае Ясь.

— Зрэшты, гучыць,— падхопліваецца з крэсла Мысаўской: — Яну-ук Ку-у-па-а-ла — Луцэвіч Іван Дамінікавіч...

— Дамінікавіч?! Так я і ведаў: паляк, каталік, шляхцюк у прыдачу, але і ён туды ж — у мужычую світку! Інтрыганы!.. Інтэлігенты ў мужычай скуры!..

Голас, які раптам азваўся ў пакоі, перасмыкнуў твар Мысаўскога. Але той нехта, хто трымаўся ў прыцемку прыхожай за паўпрычыненымі дзвярмі і цяпер на ўвесь голас азваўся, звяртаючыся да Мысаўскога, цвёрдым тонам прадаўжаў:

— А і праўда, Міхаіл Паўлавіч, праўда! Ку-у-па-ла,— скрывіў гэты нехта губы,— сапраўды ўваскрэшанне паганскай

дзікасці, і ці вам яе, Міхаіл Паўлавіч, вітаць? І наогул, дазволю сабе вам далажыць, Міхаіл Паўлавіч, вось плён вашай сумніцельнай дзейнасці — заваблівання жаўтаротых юнцоў, якім вярзецца адзін бог ведае што і якія гатовы д'ябал ведае якія штучкі ўчыняць на шкоду нашаму гасудару!..

Фігура ў форменным сурдуце вяла сябе развязна. Але Яся асабліва ўразілі ў незнаёмцы вочы. Так глыбока праваленыя ў вачніцах, што здаваліся ад гэтага скошанымі — правае вока ў левы бок, левае ў правы. Зялёна-бутэлечны, цёмны пobліск рагавіцы быў жудасна непрыемны.

— Дэмагогі: вы і — гэты,— злосна прадаўжаў нечаканы візіцёр.

— Лука Іпалітавіч! — голас Мысаўскога быў гнеўны.— Гэты прыйшоў не да вас! Да вас такія не пойдуць!

— Ве-эдаю, ве-эдаю,— стаўшы ў позу ўсёй сваёй аграмаднай фігурай, гаварыў відмаваты Лука Іпалітавіч,— але я, бачыце, тут: азъ есмь, азъ быхъ, азъ бѫдѫ[1]. Нідзе дзенецеся!

— Гэта яшчэ паглядзім! — адрэзаў Мысаўской.— Для дыскусій не запрашаў.

— Вы-падкова трапіў на вашу рандэ-ву,— знарок расцягваючы словы, гаварыў Лука Іпалітавіч,— выпадкова! Але — цікава, мушу далажыць...

— Не палахлівы! — выдыхнуў Мысаўской, адрываючы кулакі са стала, і як выслізнуў у пачакальню аграмадніста-непаваротлівы Лука Іпалітавіч, Ясь адразу не ўцяміў.

— Гніда! Гад! — лаяўся Мысаўской, хоць таго, каму ён адрасаваў лаянку, у кабінеце ўжо не было. Зразумеўшы, што перад ім адзін Ясь, Мысаўской, сумеўшыся, глуха, як з падзямелля, выдыхнуў:

— Прабачце!

— За што?

Паказаў вачамі на выхад.

---

[1] Я ёсць, я быў, я буду *(старaслав.)*.

— Падобнага не збаіцёся? Вы ж такі,— хацеў сказаць «інтэлігентны», але сказаў, ледзь запнуўшыся: — Малады,— і дадаў: — Як з іншага свету...

— Я не такі, Міхаіл Паўлавіч,— адказаў Ясь.

— Не такі? Які ж?..

Ясь быў яшчэ ў тым узросце, калі чалавек мала ведае, што ён умее, чаго не ўмее, і больш за ўсё жыве нібы цалкам для яго яснымі асабістымі жаданнямі. Ясь жадаў цяпер аднаго — чытаць кніжкі і пісаць вершыкі. А што ён ведаў пра сябе? Ведаў ужо, што мае «непрыемны» почырк. Таму ён і не стаў пісарам у следчага ў Радашковічах. Уласна кажучы, следчы выгнаў Яся не за почырк. Ужо ў 1910 г. Купала напіша аб гэтым свайму першаму біёграфу — пецярбургскаму літаратару родам з беларускага мястэчка Капыль Льву Максімавічу Клейнбарту. Напіша гэтак: следчы «быў упаўне культурны чалавек, граў на скрыпцы і любіў пры выпадку забаўляць сваіх гасцей (доктара, начальніка паштовай канторы і інш.) чытаннем следчых крымінальных матэрыялаў (аб згвалчаннях і распусце падлеткаў)». Следчы, вядома, заўважыў, як сарамяжліва чырванеў пры яго чытаннях малады пісар. Які выйдзе з яго пісар, калі ён такі сарамяжны! — рашыў следчы і «па-дружаскі» параіў юнаку «вярнуцца да ранейшага стану». Следчы, напэўна, Карла Маркса не чытаў, але, як кажуць, шостым пачуццём адчуваў, што рэвалюцыя пачынаецца і з пачуцця сораму. Таму ніякага бунту ад сарамяжнага неафіта следчы чакаць не стаў — проста выгнаў сарамяжнага, і ўсё.

Ведаў Ясь яшчэ адзін з непрыемных недахопаў сваёй натуры, і гэты свой недахоп ён спазнаў ужо ад пана, калі пасля смерці бацькі стаў прасіць у таго не зганяць з арэнды ўдавымаці. Гэта было зусім нядаўна: год таму назад. Словы, якія былі патрэбныя, якія мо б і ўлагодзілі пана Вайцяхоўскага, развеялі яго змрочныя сумненні наконт таго, што ўдаве не справіцца з арэндай,— усе гэтыя словы пачалі раіцца ў галаве

Яся толькі пасля, калі ён плёўся ўжо далёка ад дому пана, як спушчаны [redacted] неба на зямлю. «Парэнчавае красамоўства» — чытаў недзе пра такое Ясь, і гэткага ўнутранага, памаўклівага красамоўства ў Ясю было сапраўды куды больш, чым адкрытага. Запозненае парэнчавае красамоўства наплыло на Яся і зараз, калі ён не выйшаў яшчэ з горада, перабіраючы ў памяці ледзь не ўсе дробязі наведвання рэдакцыі.

Чамусьці першым чынам Ясь высветліў для сябе нечаканае з'яўленне ў Мысаўскога невядомага яму Лукі Іпалітавіча. «Вядома,— рашыў Ясь,— за Мысаўскім, за гэткай газетай, як яго, не сачыць не могуць: газета ж вельмі смелая, адкрыта выступае супраць старых парадкаў, згуртоўвае вакол сябе ўсіх, хто любіць народ, хто стаіць за асвету для народа, за школу на роднай мове. Таму і Валодзька Самойла сябруе з Мысаўскім». Хоць не толькі [redacted] ім. Самойла ж пазнаёміў Яся і з Алесем Бурбісам, Сяргеем Скандраковым і з братамі Лапкевічамі. Кола знаёмстваў у Самойлы шырокае. І пракламацыі, і брашуры сам жа Ясь браў у знаёмых Самойлы, распаўсюджваў іх сярод сваіх знаёмых, чытаў. Мог жа Лука Іпалітавіч што-небудзь пра такое вынюхаць. «Вадзіць кампанію стаў Луцэўчык, вось і папаўся!» Хаця... Ці ж вельмі водзіць ён з кімсьці кампанію?.. Ён унурлівы, як кажа сястра Лёля, самотнік, які ўсё з кніжкай: дзяўчат з акна згледзіць, і то за кніжку ды з хаты. Цяпер, аднак, Ясь не пра кніжкі думаў.

«Вы,— зноў гучыць у Ясю развяжлівы голас Мысаўскога,— не мужык, а пішаце пра мужыка. Не здаецца вам, што не вельмі вяжацца... сярмяжнае з паганскім?..»

«Я так адчуваю,— задыхаецца ўнутраны голас Яся,— адчуваю! Сапраўды, я не «чысты», патомны мужык — я мужык па прыналежнасці да стану арандатараў, па абставінах, па духу; і мяне кліча дух мой, пачуццё абавязку — яны клічуць мяне гаварыць ад імя мужыка. Я не іду на падман, бо іх, мужыкоў, крыўда — мая крыўда, маё гора — іх гора, мой лёс — наш лёс. Я, можа, не выказваю сябе, гаворачы ад імя іх, але я адчуваю

сябе, як герой іх легендаў, казак. «Слова аб палку Ігаравым» я пакуль што не прачытаў — прачытаю, абавязкова! Бо я сам — са слова, з песні, з легенды, з казкі. Казкі, легенды, высокая паэзія, яны здаюцца панам далёкімі ад мужыка ў лапцях, а гэтыя ж казкі, легенды — мужыковы, у ім яны, у мужыку, мужыковыя. Толькі ж той, хто не ведае мужыка, думае, што мужык толькі ў брудзе і поце днюе і начуе — без аніякай мары. І толькі той, хто не ведае мужыка, будзе супрацьпастаўляць лапаць і папараць-кветку. Што ж? Я не буду сцвярджаць, быццам у кожным сягонняшнім мужыку жыве прага папараці-кветкі. Крыўды, прыгнёт спакон вякоў забівалі мужычую мару, стоптвалі ў яго душы папараць-кветку, і мару гэтую трэба ў мужыку сягоння будзіць, каб папараць-кветка расцвіла ў душы беларускага мужыка, акрыяла ў ёй. Яна, папараць-кветка, праз гады прыгнёту як бы адышла ад мужыка, адчужылася. Але ж яна ў яго душы ўзышла была ўжо некалі, ім, а не кімсьці іншым высненая! Няхай яна цяпер як засохлая кветка-закладка ў біблії стагоддзяў, няхай! Дык яе і трэба вымаць на дзённае святло, адчараваць, каб водар яе захмяліў мужычыя галовы! Няхай ён, Купала, ідзе да мужыка нібы здалёку, ды гэтае «здалёку» мужыку блізкае, бо яно ягонае, ягоных дзядоў-прашчураў, тых продкаў, якім шчасце некалі і прымроілася ў сімвале цуда-кветкі. І калі ён, Купала, прыйдзе да мужыка як пясняр ягоны, паэт ягоны, мужык спазнае, спасцігне Купалле, як сябе. Ён жа, Ясь, ідзе да яго, мужыка, як да сябе самога. Мужык сённяшні, вядома,— яшчэ не Купала, не паэт, але заўтра, паслязаўтра Купалам, паэтам ён будзе, бо стане сабою, чалавекам, беларусам! Мужык забыўся, хто ён, і яго трэба адрадзіць: ён, Ясь Луцэвіч, узнясе яго да высокага Купалля, да таго, што гэты мужык сам калісьці стварыў, сам жа страціў (ой, ці сам?!). Мне трэба быць Купалам, таму я і Янук Купала; мне трэба знайсці купальскую кветку шчасця; я той, каму шукаць яе — для сябе, для мужыка. Няўжо сваёй запалай у чорныя прорвы вачніц касавочынай Лука Іпалітавіч

не бачыць, што купальскія кветкі зацвітаюць па ўсёй Беларусі?! Мысаўской бачыць: зацвітаюць! Чаму ж тады пытаўся ён, вяжацца ці не вяжацца мужык і купальская кветка?..»

Ён, Ясь Луцэвіч, фармальна быў сапраўды не з мужыкоў. У гэтым, 1905 годзе ён пашпарта яшчэ не меў. Але калі 15 верасня 1907 г. Мінская мяшчанская ўправа выдасць Івану Луцэвічу пашпарт, на першай старонцы гэтага пашпарта будзе запісана: званне — мешчанін. Гэты мешчанін, аднак, нарадзіўся не ва ўласнамяшчанскім асяроддзі, а ў сям'і земляробаў пана Замбжыцкага, бо менавіта земляробамі гэтага памешчыка запісаны ўсе пяць братоў Луцэвічаў — Дамінік, Міхаіл, Адам, Антон, Юліян — у «Сямейных спісах Мінскай мяшчанскай управы», у сямейным спісе Луцэвічаў 1883 г. (у год пасля нараджэння Яся). Земляробамі ж Луцэвічы сталі, не атрымаўшы афіцыйнага пацверджання на шляхецтва, якога больш трыццаці гадоў дабіваўся Ануфрый Луцэвіч, дзед Янкі Купалы. У свае трыццаць тры гады гэты дзед атрымаў на рукі ўказ Правячага сената — Часовай службовай геральдыі — пра незацверджанасць роду Луцэвічаў у шляхецтве з-за недастатковасці доказаў. Справа Луцэвічаў Правячым сенатам разглядалася затым у 1850, 1856, 1862, 1864, 1869 і 1871 гг., ды ўпартасць і траты дзеда Янкі Купалы былі марныя. Дарма дзед Ануфрый да сёмага калена ўзнаўляў радаслоўнае дрэва роду, князь Леў Вітгенштэйн выбіў апошнюю надзею з-пад ног Луцэвічаў — выгнаў іх з родавых мясцін — з Лазараўшчыны каля Магільна ў Ігуменскім павеце Мінскай губерні. Гэтую Лазараўшчыну навакольныя вёскі называлі таксама Луцэвічамі, бо тут жылі адны Луцэўчыкі, як іх называлі на тутэйшы лад, а самі Луцэвічы называлі сваю бацькаўшчыну даволі празаічна — Пяскамі, бо адзін толькі пясок даводзілася ім тут араць.

Атрымаў жа род Луцэвічаў засценак Лазараўшчыну яшчэ ў 1692 годзе, 9 снежня, на падставе прывілея князя Радзівіла. Атрымалі гэты засценак сыны Станіслава Луцэвіча Ян, Базыль

і яшчэ адзін Ян. Станіслаў, такім чынам,— адзін з найстарэйшых продкаў Янкі Купалы, што вядомы нам сёння, быў народжаны ў першай палове XVII ст. У Яся ў яго дваццаць тры гады былі ўсе падставы ганарыцца сваім родам-племенем — родам, за плячыма ў якога было аж два з паловай стагоддзі вядомасці, родам, які належаў да герба Навіна, паходжанне якога адносілі аж да часоў Баляслава Крывавуста (XI ст.). Хоць род Луцэвічаў быў родам засцянковай шляхты, тым не менш і з яго, як увогуле з беларускай засцянковай шляхты, не раз выходзілі прызнаныя мясцовыя дзеячы як цывільныя, так і ваенныя. Так, на пасаду дазорцы засценкаў маёнтка Святы Двор у 1794 г. выбіраўся прапрадзед Купалы Ян; у 1823—1839 гадах тую ж пасаду займаў сын Яна Луцэвіча Францішак; Францішка змяніў ягоны сын Людвіг. Паручнікам войска Вялікага княства Літоўскага па прывілею польскага караля Аўгуста III ад 18 сакавіка 1734 г. быў Юры Луцэвіч, унук Станіслава Луцэвіча, продак Янкі Купалы ў шостым калене. Але ў асноўным продкі Янкі Купалы былі менавіта «зямянамі», як яны і названы ў прывілеі князя Радзівіла 1692 года — гэта значыць, яны былі вольнымі земляробамі, чыншавікамі, хоць за службу ў Радзівілаў ад платы чыншу вызваляліся. Яны былі, такім чынам, прадстаўнікамі беднай, так званай засцянковай, або, інакш яшчэ,— шарачковай шляхты. Шарачковай, бо як і навакольныя прыгонныя сяляне, шарачковая шляхта хадзіла не ў пазлацаных кунтушах — традыцыйным адзенні заможнай шляхты, а ў шэрай, самаробнай, з таго ж самага шарачку, што і сялянскія світы, вопратцы. Аб якой заможнасці роду Луцэвічаў можа ісці гаворка, калі, напрыклад, у 1774 г. чатыры Луцэвічы — Ігнат, Фама, Людвіг і Ян — усе разам валодалі дзвюма душамі сялян. Тым не менш род Луцэвічаў быў шляхецкі: яго жыццёвыя ўявы, сацыяльная псіхалогія, традыцыі і звычаі як у блізкім мінулым, так і ў больш далёкім, натуральна ж, не былі па-за тым, што характарызавала сабой дробную шляхту, яе жыццёвы лёс, нацыянальнае аблічча, са-

цыяльна-грамадскую асобнасць,— шляхту, з якое выйшлі і Тадэвуш Касцюшка, і Адам Міцкевіч, Валеры Урублеўскі, Кастусь Каліноўскі, Яраслаў Дамброўскі...

Спыталіся б вы, аднак, у Яся, які вяртаўся дадому ад Мысаўскога, і за што, чаму гэта ён так любіць свабоду? Ён мог бы вам адказаць словамі свайго нядаўна напісанага верша:

І люблю ж я, люблю
Гэту волю сваю!
Зямлёй лягу ў зямлю —
Вазьму волю сваю.

«Люблю волю, і ўсё тут»,— толькі гэта, па сутнасці, вам і сказаў бы Ясь Луцэвіч, які сам стане неўзабаве самым вольналюбівым беларускім паэтам. А што ён у гэтых сваіх перажываннях — нашчадак сваіх няўрымслівых продкаў,— аб тым паэт наўрад ці будзе калі задумвацца. Гэта сама Беларусь стагоддзямі збірала свае крыўды, каб выказаць іх наймагутнейшым голасам кагосьці; гэта Беларусь стагоддзямі акумуліравала прагу волі, каб голасам кагосьці выказаць яе наймагутней. Пазней Купала задасць сабе пытанне, за што ён любіць Пушкіна, і адкажа: «За яго гордасць, за свядомасць чалавечай дастойнасці», за тое, што ён — «жывы барацьбіт за свабоду, за шчасце чалавецтва...»

Спыталіся б вы таксама ў Яся, які вяртаўся ад Мысаўскога, чаму ён такі прасветлены душою, улюбёны ў свет, поўны высакародных пачуццяў, быццам толькі што ў таго ж Мысаўскога не сутыкнуўся з Лукой Іпалітавічам, дык і на гэтае пытанне Ясь цяпер таксама не адказаў бы нічога пэўнага. Бо паэт, які стане неўзабаве самым высакародным беларускім паэтам, менш за ўсё думаў аб сваім высакародстве і яго вытоках. Прыроджаная шляхетнасць? Можа, і прыроджаная, ды ці пра гэта яму думаць, калі ён паводзіць сябе ў гэтым свеце толькі так, а не інакш,— інакшым жыццё сваё на гэтым свеце ён не ўяўляе!

І яшчэ, калі б вы спыталіся ў Яся, які вяртаўся ад Мысаўскога, чаму ён так падобны — абліччам, паставай, жэстамі — якраз да шляхцюка? Ясь, па-першае, напэўна пакрыўдзіўся б, бо якраз намёк на гэта ён улавіў у развазе Мысаўскога: «Вы не мужык, а пішаце пра мужыка». А па-другое, ён і сам не ведае, чаму падобны ён да кагосьці...

«Я — не такі»,— адказаў ён Мысаўскому. А што сапраўды ён гэтым сказаў, што сцвярджаў, ад чаго адмаўляўся? Калі папраўдзе, то ён зусім не мешчанін, а шляхціц. Няўрымслівы, аднак, быў род Луцэвічаў — чаго не дамогся дзед Юрка, дамогся яго ўнук Дамінік. Унук, праўда, пайшоў у абход: узяў ды не ў сваю парафію завёз першынца, а ў суседнюю, дзе быў знаёмы ксёндз. Той і ўпісаў у метрыку Луцэвіча Івана Дамінікавіча, што ён — шляхціц. Але ці ён, Ясь, шляхціц?.. Не!.. Ён завельмі нацярпеўся крыўды ад паноў-шляхты, каб у свае дваццаць тры гады лічыць за гонар, што мае ў метрыцы ўпісанае «шляхціц». Шляхту ён паспеў ужо даўно ўзненавідзець, хоць не ўласна гэтым словам акрэсліваючы яе, а больш усеабдымным — пан, паны...

— Ясік, як жыць будзем? Бацькі няма, ты ўсё кніжкі чытаеш, вершы складаеш. Дабром усё гэта не скончыцца. Што ты сабе думаеш? Ці ты хлеб з гэтага будзеш есці?

І што мацеры на гэта адказваць, каб не пакрыўдзіць яе, каб яна яго зразумела. Сапраўды ж, хлеба за гэта, што палоніць усю яго душу, што цягне яго да кніжкі, да вершаў, ніхто не дае. Паны не дадуць! Казна не дае! Ён і сам не ведае, як гэта спалучыць — нялюбую для яго працу па гаспадарцы, гэты ўнурысты клопат, беспрасвецце, мазалі, гной, страх перад градам і спёкай і любоў да кнігі, імкненне вырвацца ў іншы свет, у іншыя абсягі. Супраць сябе, супраць таго, што яго апантала, як выстаяць, як устаяць? Устаяць немагчыма, але і мама ёсць мама — такая зразумелая яму ў сваіх клопатах аб ім, аб усіх сваіх дзецях.

— Ці ж я забараняю табе, Ясік?..

Сапраўды, ці ж яна забараняе? Яна больш абараняе яго сваім мацярынскім клопатам ад неспазнанага далёкага свету, які бог адзін ведае, чым можа пагражаць яе дзіцяці!..

...У Бараўцы з Мінска ці з Бараўцоў у Мінск Ясь звычайна дабіраўся дзе з балаголамі, дзе — пешкі. Спадзяваўся, што, як і ў Мінск, у Бараўцы нехта з падарожных падвязе, і не памыліўся: пад'ехаў да самай Паперні, адкуль накіраваўся на Пільніцу — перайсці там па кладачцы Вячу. З Пільніцы ж — цераз даліну, ускрай лесу, каля лугавое поймы, што ішла ля Вячы, было ўжо рукой падаць да Бараўцоў.

Падвёз Яся знаёмы балагол з Пасадца. Іх, балаголаў, гаваркіх жартаўнікоў, заўсёды здарожаных, але вясёлых, Ясь ведаў амаль усіх, як і гэты шлях, што выводзіў на паўночны ўсход з Мінска — Даўгінаўскі гасцінец. «Даўгінаўскі гасцінец! — думаў Ясь.— Доўгі... А якім будзе яго?..» Не, ён, Ясь, правільна выбраў шлях, ён з яго не сступіць! Ён удзячны Самойлу, які падказаў, які верш выбраць, занесці Мысаўскому. А іх жа ў яго ўжо цэлы сшытак. Калі надрукуюць «Мужыка», то Ясь зможа надрукаваць і іншыя, напісаць новыя і надрукаваць усё новыя і новыя. Ён, Ясь, не будзе безгалосы. Ён будзе чутны, як нябачныя цяпер яго воку расспяваныя ў баравіне птушкі, як жаўранак у гэтым высокім небе над Даўгінаўскім шляхам, над рэдкім жыцейкам на вузкіх палосах. Надрукуюць, і ўсё пойдзе па-іншаму, па-інакшаму. Вось, аказваецца, ёсць і рускія газеты, якія бяруць яго вершы, ёсць людзі, якія так адкрыта захапляюцца простым, мужыцкім словам!

Падзякаваўшы балаголу, пажадаўшы яму шчаслівай дарогі, Ясь саскочыў з фурманкі борзда, жвава. Рушыў на Пільніцу напрасткі — высокі, танклявы. Гэты майскі дзень, гэты свет, што адкрываўся яго вачам, здаваліся бясконцымі, бязмежнымі, як прастор маладых палеткаў, перасечаны пералескамі, якія то ўсплывалі на ўзгоркі, то сплывалі з іх зялёнымі палосамі.

З пагорка відна ўжо была Пільніца. Ясь міжволі прыпыніўся. Тут на ўзгорку, над гэтым краявідам, што разлягаўся, разбягаўся ўздоўж Вячы, ён сам сабе здаўся высокім-высокім — небасяжным. І даўно ён не адчуваў сябе так, каб аж дух займала, бо была, аднак жа, вясна, бо трава аж буяла кожнай сцяблінкай, а бярозы летуценна апускалі долу свае зялёныя косы, стаялі заварожанымі нявестамі на выданні. З баравін патыхала жывіцай. Птушыны грай аж глушыў. Усё птаства радавалася цёпламу сонцу, высокаму, чыстаму, сіняму небу. А над Вячай яшчэ дацвітала, як малаком аблітая, чаромха. Яе тут было цэлыя гаі.

У вёску Ясь спускаўся, як з неба на зямлю. Поруч з чаромхавым кветам яшчэ больш шэрымі, чым звычайна, выдаліся нізкія саламяныя стрэхі Пільніцы. Іх убогасць, маўклівасць была як бы не да месца ў гэтай спеўнай вясне. Цяпер чым бліжэй станавілася да дому, тым больш аб ім, аб маці думаў Ясь.

Ён быў падобны да яе: як і яна, не вельмі гаваркі, з падобным жа выразам задуменных вачэй, з падобнай жа светлізной твару. Кажуць здаўна: «Сын, падобны да маці, шчаслівы...» Ці шчаслівы ён, Ясь?.. Ён-то ён, а яна?! Ясь жа ізноў ідзе супраць яе. Не супраць сябе, а яе...

Бараўцы страчалі па-звычайнаму. Ясь не мог прыжыцца тут. Ён неўзлюбіў Бараўцы з першага погляду — ні асунутай набакір страхі старой, як свет, хаты, ні загароджы перад акенцамі на дарогу: штыкеціны цераз адну, шула адно, цалкам зваленае на дол. Удовіная хата, якая ў ёй весялосць,— чужая, недагледжаная! А ўдава ж — яго маці. З-за яго яна тут гаруе, бо куды лепш было ў Селішчах, у якім ён яе быў пакінуў адну.

Маці павіталася і маўчыць. Ясю карціць расказаць, дзе быў і што, можа, хутка надрукуюць яго верш. Але ён заводзіць зусім іншую размову:

— Лета дабуду тут, дапамагу вам, а там...

— Дзеткі, дзеткі,— толькі ўздыхае маці,— і захацелася табе гэтага лёгкага хлеба!

«Лёгкі хлеб» — гэта гучала ў вуснах маці як асуджэнне, раўнялася гаворцы пра легкадумнасць і пра вельмі, вельмі няпэўны хлеб. Якраз найперш баючыся за няпэўнасць лёгкага Ясевага хлеба, сэрца Ясевай маці і раней і цяпер больш за ўсё заходзілася, ныла і шчымела.

Стары Луцэўчык, як называлі бацьку Яся іншыя арандатары, звычайна паўтараў: «Няма горш, як даганяць і чакаць». Ясь не даганяў — чакаў, і чаканне гэта было вельмі напружанае, хоць ні маці нічога асаблівага ў сыне не заўважала, ні сёстры. Бо як было заўважыць, калі ён вось ужо каторы дзень толькі і намагаўся паказаць, што яму, апрача гаспадаркі, нічога не рупіць. А на самой справе рупіла — і ўдзень і ўначы...

Ясь прачнуўся ў халодным поце. У хаце было яшчэ цёмна. Нястомныя ходзікі цікалі роўна. Роўна саплі насамі на палацях маці і сёстры. Ясь ляжаў з адкрытымі вачыма і толькі цяпер пачаў успамінаць, што яму снілася да таго, як нешта хапіла за горла, навальвалася на яго чорным сном.

Quo vadis?![1] Камо грядеши?[2], галетнік, парый?..

У «Сѣвѣро-Западный край!» — гучыць у Ясю ягоны ж голас. Ды ён, Ясь,— не галетнік, не парый, не! Ён — патрыцый! Якая ўрачыстая на ім тога! А туніка?! Лёгкая крамная матэрыя хваляй спадае з гордага Ясевага пляча, а другую «палову» белай хвалі ён падтрымлівае правай рукой. Патрыцый! А чаму, сапраўды, чалавек павінен быць рабом?! Калі ён нават і нарадзіўся рабом, то што — яму дарога толькі ў рабства?!

— Ты не нарадзіўся рабом! — чуе Ясь магутны голас, незвычайны голас. Што за боль у ім! Што за пакуты! Ды гэта ж голас Конрада[3], пазнае раптам Ясь, і ўжо голас Яся зліваецца ў яго душы з голасам Конрада:

---

[1] «Quo vadis?» («Куды ідзеш?») — назва рамана Г. Сянкевіча пра старажытны Рым.

[2] «Камо грядеши? — пераклад на стараславянскую мову лацінскага «Quo vadis?».

[3] Герой паэмы Адама Міцкевіча «Дзяды».

Бог, прырода! Паслухайце спеў мой спакойна.
Ен вас варты, дастойны.
Я тварэц!
Я, тварэц, прасціраю далоні!
Прасціраю высока ў нябёсы далоні.
Я на зоры кладу іх, нібы на гармоніка планкі.
І раптоўна, рызыкоўна
Зоры рухаю гвалтоўна.
Мільён плыве гукаў, і ў тым міліёне
Кожны гук я знайшоў і суладзіў у тоне,
Як хачу — іх дзялю і яднаю,
У вясёлкі, акорды, у строфы злучаю,
Разліваюся ў гуках, палаю ў істужках маланкі...
Я люблю, ды любоў не спачыне
На якойсьці сям'і, на адным чалавеку,
Як пчала на шыпшыне,
Не аддам я любві нават цэламу веку;
Я люблю ўвесь народ! — да сябе прыхінаю
Пакаленняў наступных і будучых нівы,
Да грудзей прыцiскаю,
Як таварыш, каханак, як бацька руплівы...
Край і я — неадлучны.
Зваць мяне — Міліён, за людзей міліёны
Цярпець катаванні мушу.
Гляджу я на край свой змучаны,
Як сын, чыйго бацьку ўздымаюць на кол.
Я чую пакуты народа,
Як маці ва ўлонні ўздрыгванне плода...[1].

...Конрад падаў Ясю руку і развітваецца, адыходзіць. Яго магутная фігура сягае да зор.

— Я іду ў «Сѣвѣро-Западный край!» — гукае цяпер Ясь ужо ў спіну Конраду.— Я ведаю, што і як мне трэба пісаць!..

— ...Смутна мне, божа!.. Смутна мне, божа!..

«Каму гэта смутна так?! — зноў закарцела ў душы пытанне, зноў дапытваецца ў душы, як у сябе самога, Ясь.— Смутна вам, Юльюш Славацкі?..»

---

[1] Пераклад Максіма Лужаніна.

Вачасты, з шырокімі спадзістымі вусамі, каўнер — наросхрыст, Юльюш Славацкі заўсміхаўся Ясю спагадна, таямніча. І Ясь бачыць сябе ўжо не хлапчуком з пустыні і пушчы, не Мцыры, які перамог барса, і не высокім патрыцыем. Як бы зусім рэальныя, пазвоньваюць у яго за плячыма крылы — гусарскія, і ён, конны, скача, ляціць па выпаленых сонцам крамністых цяснінах Самасьеры — да белых муроў Сарагосы. Пазбаўлены Радзімы, ён ляціць пазбаўляць жыцця тых, хто падняўся на барацьбу за сваю Радзіму. Як гэта сталася такое? Як ён паверыў каварнаму Напалеону, што шлях на Літву — шлях цераз Пірынеі, цераз трагедыю вольналюбівай Сарагосы?! [1]

«Паліліся мае слёзы...» — чые слёзы? Вашыя, Адаме Міцкевічу, мае? Вы ж не былі ў Сарагосе: я — таксама не быў. Але ж былі вы тут, нарадзіліся тут, дзе нарадзіўся і я, дзе жыву.

Сум мой, ён сапраўды

Na Smutnym licu drży cieniem
Spuszczonych powiek
I w pierś mi puka pragnieniem:
"Zbudź się: tyś człowiek!" [2]

«Сѣвѣро-Западный край», ты чуеш, я іду, я збудзіўся, я — чалавек! Дзякуй вам, Марыя Канапніцкая, вы маеце рацыю, і я пазнаў гэтую сумоту, я — з яе, яна — сапраўды гэткая:

Pierś jej — to wulkan, jej oczy —
To zorza krwawa;
Przez śmierć do życia, grzmiąc, kroczy,
Przez gwałt — do prawa...

---

[1] Сюжэт паводле рамана польскага пісьменніка Стафана Жаромскага «Попел» («Popioły»).

[2] На смутным твары дрыжыць ценем апушчаных павек і ў грудзі мне стукае прагай: «Абудзіся, бо ты — чалавек!»

Jady krzywd zbiera i mierzy
I pije, blada...
Aż gdy godzina uderzy,
Piorunem spada [1].

Час прабіў: спадаць майму суму перуном!..

І куды ж гэта ляціць маланкай, спадае перуном мой сум — агромністы, як неба ў зорах, гарачы, як зорны дождж, абложысты, як шэрае неба позняй восенню?

Як куды? На кованыя дзверы. Вось ён, Ясь, зноўку перад імі. Як увайсці? Дом Дворжыца. Павуколлі, а паміж імі дзіды,— калючыя дзіды, пікі! Напорашся на адну такую, крывёю сэрца сцячэ!.. А сярпы, гатовыя разануць. Ды ўжо не сярпы! Маладзікі! Бачыш: яны проста перад табою ўзыходзяць на шчасце, усё больш яснеюць. А ў іх бляску паўкружжы зліваюцца ў бутоны, якія вось-вось развінуцца ў кветкі. Не дзіды паміж паўколляў,— тычынкі невядомых, неспазнаных кветак. Расцвілі! Працягвай руку, рві! Ці не кветкі гэта купальскія?..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Днём усплыла над Бараўцамі хмара. Нявыспаны Ясь не мог не цешыцца першаму майскаму грому, які быў не на голы лес, а, значыцца, на ўраджай. Гром, як заўсёды майскі гром, грымеў весела, раскаціста. Хмара, як усплыла, так і сплыла, і дыхалася пасля грымотаў лёгка і святочна. Пасля грому не было ўжо ні ў свядомасці, ні ў целе памяці пра чорны сон.

...Уладзімір Іванавіч Самойла прыехаў зусім нечакана. Заўважыўшы ягоную брычку яшчэ на выездзе з лесу, Ясь выбег на парог і, не збаўляючы ходу, да весніц. На панадворак Уладзімір Іванавіч заязджаць не стаў, спяшаўся. Высокі, хударлявы, з прадаўгаватым тварам, які здаваўся яшчэ даўжэйшым ад клінам адпушчанай бародкі, ён абняў Яся ля весніц.

---

[1] Грудзі яе — вулкан, яе вочы — гэта крывавая зара; крочыць, грымотная, смерцю сцвярджаючы жыццё, а правы свае — гвалтам... Атруты крыўдаў збірае і вымярае і п'е, бледная... А час выб'е, перуном спадзе.

— Дык... к... калі з... зацвітае п... папараць, К... Купала в...в... ведае? — пытаўся, заікаючыся яшчэ больш, чым звычайна, узбуджаны, вясёлы Самойла, уздымаючы над сабой, як сцяг, газету.— Аг... га, аг... га, н...не в...в...ведае!..

Першае, што кінулася Ясю ў вочы, гэта тое, што з двух бакоў над назвай газеты — у левым і правым кутках выразна стаяла «15 мая 1905 г.» Верш «Мужык» быў надрукаваны поруч з апавяданнем Льва Мікалаевіча Талстога «Тры сыны». Мысаўской сваё слова стрымаў: больш віднага месца, чым поруч са славутым пісьменнікам, у газеце сапраўды не было.

Ні то жартам, ні то ўсур'ёз Уладзімір Іванавіч прамовіў, амаль не заікаючыся, да Бянігны Іванаўны:

— Вось і няма ўжо Вашага Яся, няма і Івана Дамінікавіча Луцэвіча. Затое ёсць — Янук Купала!

Маці маўчала.

# КРУГ ПЕКЛА ДРУГІ...

У Яхімоўшчыне асаблівай навіны ў рабоце для Яся Луцэвіча не было: з дня ў дзень прарошчвай солад — ячмень, авёс, проса; сцялі іх на суткі пасцелямі, каб на градцы было па дзевяцьдзесяць пасцеляў; бяры на кожную пасцель замочку: глядзі, каб заўсёды была гатоваю «матка» — ад'ём гатовых дражджэй.

Кругам ідзе Ясева галава, калі ён схіляецца над брадзільнымі чанамі. Ад дражджанкі можна знепрытомнець, ды глядзець, як ідзе браджэнне — пачатковае, галоўнае, даброджванне,— гэта ў абавязках памочніка вінакура, як і сачыць за падачай спелай бражкі ў брага-перагонны апарат, за адыходам барды, за ходам спірытусу. Усё тут у руху — гарэлка падымаецца, барда адыходзіць, спірт ідзе. Увесь у руху і памочнік вінакура — у неспакоі, клопаце, бегатні. Скрозь патрэбна вока!..

А вока не магло без кнігі, не магло без радкоў, што лінейка за лінейкай станавіліся строфамі, вершамі, якіх назбіравалася ўсё больш. І тое, што іх назбіралася ўсё больш, урэшце пачало выклікаць у маладога памочніка вінакура вельмі супярэчлівыя пачуцці: менш усяго радасці, больш — пакутаў, неразвейных, бо маўклівых, зацяжных. Цяжка быць аўтарам ненадрукаванай кнігі, якая нібы ёсць і якой — няма! Яшчэ цяжэй быць аўтарам вершаў, якія рвуцца з сэрца, каб быць пачутымі іншымі, а іх ніхто не чуе, да нічыйго сэрца яны не даходзяць. Звон без языка, лес без рэха, птушка без крылаў — у якіх толькі вобразах не ўяўляў сябе Ясь Луцэвіч і пакутаваў.

Летам гэтых пакутаў у яго яшчэ не было: там быў уздым, душа выпявала народнае гора, долю мужыка, яго, Ясеву, долю, долю арандатаравага сына, так блізкага лёсам да мужыка. Душа пратэставала, церпячы, стогнучы: «Не! досыць, досыць! Трудна так далей...», «Нявольнік, кланяцца век трэба...» Нявольнік не жадаў больш нікому кланяцца. Нявольнік задумваўся над сваім жыццёвым лёсам: «Чаму я сею, а другія з сяўбы маёй збіраюць плён?» Нявольнік пярэчыў горкаму лёсу: «О досыць, досыць! Сэрца ные, Грыміць пагудкі новай звон». Нявольнік і суцяшаў сябе:

Эй, дзяцюк малады, не тужы,
Не глядзі ты скрозь слёзы на свет,—
Ідзі ў двор і там пану служы,
Як служыў і твой бацька, і дзед.

Гэтыя ўсе радкі перад ад'ездам сюды, у двор пана Любанскага, пісаў «дзяцюк малады» Ясь Луцэвіч. Мурашкі беглі па спіне ў самога Яся ад скаргаў, ад прадчуванняў таго, што яго ў двары чакае: «Працуй і гаруй», «сіл на чужых не жалей», «на багатых папекайся век і забудзься, што ты чалавек...» Пісаць яму, аднак, было лёгка, хоць пра нялёгкі свой лёс ён пісаў, лёгка, бо нічога ім не выдумвалася, усё было пра сябе, пра тое, чым жыў, што думаў.

Зноў на доўгую зіму пакінуў Ясь Луцэвіч у Бараўцах маці. У першыя дні тут, у Яхімоўшчыне, пра маці адно і думаў:

Маці мая, маці,
Што ж ты мне зрабіла,—
За што гараваці
На свет нарадзіла?..
Тваё гора знае
Сын твой ад пачатку,
Бядуе, уздыхае
За сябе і матку...

Ясь пісаў вершы пра сябе, пра сваю маці і як бы камяні здымаў са сваёй душы, цяжар, які яе прыдушваў. Маці ж вершаў не слаў, бо баяўся, што яшчэ больш зажурыцца.

На пачатку снежня дайшоў да Яхімоўшчыны лістападаўскі нумар «Нашай нівы», у якім паведамлялася, што паэт Янук Купала падрыхтаваў да друку першы зборнік вершаў пад назвай «Жалейка». Гэта Ясю і ўзрадавала, і здзівіла. Узрадавала, што кніжка яшчэ не выйшла, а пра яе выхад паведамляецца; здзівіла, чаму ж гэта газета, якая пра кнігу паведамляе, да гэтай пары ніводнага яго радка не надрукавала, хоць больш за дзесятак вершаў ён туды паслаў?

— Няхай,— меркаваў Ясь, заседжваючыся да позняга часу ў Андрэя Посаха — настаўніка з суседняй вёскі Гарадзілаўкі.— Няхай бы не надрукавалі «Водкліку з 29 кастрычніка 1905 года ў Мінску» — верша вострага, падцэнзурнага. Але паслухай, Андрэй, чаму не друкуюць гэта?

Ясь устае з-за стала. Рукі абапёрты на спінку крэсла. Вочы глядзяць у нейкую толькі яму бачную даль, а голас пытальны, усхваляваны:

— А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
— Беларусы.

А што яны нясуць на худых плячах,
На ў лапцях нагах, на ў крыві руках?
— Сваю крыўду.

А куды ж нясуць гэту крыўду ўсю,
А куды ж нясуць на паказ сваю?
— На свет цэлы...

Посаху здаецца, верш скончыўся. Ды малады яго таварыш прадаўжаў:

А хто гэта іх, не адзін мільён,
Крыўды несць научыў, разбудзіў іх сон?

Адказ грымеў шырокі, нібыта нават трыумфальны:

— Бяда, гора.

«Бяда, гора» ў голасе паэта сапраўды трыумфавалі, распасцёршы свае чорныя крылы над тымі, каго «крыўду несць» навучылі. Але Андрэю Посаху разам з тым становіцца ясна, чаму гэта ў мінулым часе бяда, гора «не адзін мільён крыўду несць» навучала: навучала, каб разбудзіць сон шматмільённага народа. І вось ён, разбуджаны ўжо, шматмільённы народ; вось ён выйшаў ужо на авансцэну гісторыі; вось здзіўленыя насельнікі свету ўзіраюцца на выхад яшчэ аднаго народа з сутункаў гісторыі. І ўжо не бяда, гора трыумфуюць — трыумфуе голас паэта:

А чаго ж, чаго захацелася ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?

Адказ адзін:

Людзьмі звацца!.. Людзьмі!..

...І быў тады звычайны снежаньскі вечар. Як звычайна, на стале свяцлела лямпа-трохлінейка, стосамі ляжалі правераныя ўжо і яшчэ неправераныя сшыткі з дыктантамі. У грубцы гуло полымя, лішне патрэскваючы, бо, відаць, зашмат сукастае елкі падкінуў гаспадар. На шыбах спрадвечныя ўзоры вымалёўваў мароз. І ўжо як быццам бы і не гучаў у Гарадзілаўскай школцы, у Посахавым пакойчыку верш, які толькі што чытаў бледнатвары юнак, стоячы за спінкаю крэсла, а цяпер сядзіць ужо на ім, звернуты тварам да настаўніка.

— Людзьмі звацца...— ціха разважае Ясь Луцэвіч.— Што ж тут падцэнзурнае, Андрэю? Натуральнае чалавечае жаданне. А што супрацьзаконнага ў выхадзе беларусаў з цемры забыцця?.. І чаму «Нашай ніве» не надрукаваць гэтага? — зноў не можа ўсядзець Ясь і, ужо ходзячы па пакоі, звяртаецца да Посаха: — Не, ты паслухай, Андрэй, паслухай...

Посах слухае. Голас Яся цяпер роўны, ціхі, стрыманы. Твар яго ў мігатлівым святле лямпы выдаецца яшчэ маладзейшым, чым звычайна. Новы верш сапраўды і звычайная жыццёвая

аповесць лапцюжнага, гарапашнага мужыка і раскацiста-песенная лірыка яго душы. Асабліва падабаюцца Андрэю дзве пачатковыя і заключныя страфы. Настаўнік бярэ Купалаў сшытак, каб перабегчы іх вачыма, але не стрымліваецца: устаўшы, сам чытае ўголас:

...А вот як не любіць гэта поле, і бор,
І зялёны садок, і крыклівую гусь!..
А што часам тут страшна заенча віхор,—
Гэта енк, гэта крык, што жыве Беларусь!

— А ты, Андрэй Фёдаравіч, чытаеш вершы куды лепш, чым я,— гаворыць Посаху Ясь.— Цяпер буду заўсёды прасіць, каб ты іх чытаў, каб на табе — пры добрым голасе вывяраць іх. На табе толькі і вывяраю...— хмурнасць кладзецца на высокае чало памочніка вінакура: — Чаму ўсё-ткі «Наша ніва» не друкуе, калі яна мужыцкая?

— Можа, дзе на пошце заваляліся вершы,— разводзіць рукамі Посах.

— Дакляраваць аб выхадзе кнігі і нічога з яе не друкаваць? Дзіўна! Чаго ж вам хочацца, панове?!.

Каб збіць такі настрой сябра, Посах пачынае:

— А яны глядзяць: хто ж там ідзе? Выглядаюць цябе, прыглядаюцца...

— Доўга ж прыглядаюцца,— кажа Ясь і змаўкае.

Памочнік вінакура ў маёнтку памешчыка Лубанскага Яхімоўшчына вельмі скора пераканаўся, што памочнік ён тут толькі на словах. Ці быў ён практыкантам у Сёмкаве, ці ходзіць у Яхімоўшчыне ў годнасці памочніка вінакура, рабіць яму даводзіцца тое ж самае, з тымі ж чорнарабочымі і амаль як чорнарабочы. Чорнарабочыя, праўда, адносяцца да «пана памочніка» з павагай: хоць малады, першымі вітаюцца з ім, прыпыняючы хаду, цікаўна пазіраючы на новага чалавека. Ды «пан памочнік» не з тых, што чакаюць, пакуль нехта першым дасць дабрыдзень, ён, вітаючыся, і кожнаму руку падасць і загаворыць

з кожным першы, і гаворыць і з панамі і з чорнарабочымі не па-польску, як пан вінакур Сасноўскі, а па-тутэйшаму, па-беларуску. Рабочыя разам з тым адразу ж заўважылі ў новым памочніку — пры яго непаспешлівых жэстах і рухах — уважлівасць, цікавасць да кожнага з іх. Выслухае кожнага да канца, больш таго, заахвочвае кожнага расказваць пра сябе. Гэта ў сваю чаргу выклікала цікавасць мясцовага люду да новага «пана памочніка».

А Ясь Луцэвіч нават не ведаў, што яго больш цяпер паглынае: ці прага пісаць, ці чытаць, ці акунацца ў жыццё іншых людзей — пазнаваць яго душой і сэрцам. І ён пісаў, і чытаў, і, што было новым для яго, ахвотна ішоў ва ўсё новыя хаты з прагай пазнання дум, перажыванняў, лёсу іншых людзей. Зрэшты, песельнікаў, казачнікаў, апавядальнікаў Ясь любіў з маленства. Але ў маленстве любіў, цягнуўся да песні і казкі стыхійна, неўсвядомлена. Тут, у Яхімоўшчыне, Ясь цалкам свядома ішоў на гук песні, бяседы. І людзям здавалася, што ён зусім не сарамяжлівы, не горды, не ганарысты. Ён, аднак, быў проста непыхлівы, сарамяжным жа, як быў, заставаўся. Ды сарамяжнасць сваю ў Яхімоўшчыне яму было вельмі лёгка пераадольваць, бо ён збліжаўся тут з людзьмі сваёй долі, сваіх думак, сваіх перажыванняў.

Тут, у Яхімоўшчыне, было, аднак, не як у маленстве: не на гук песні пайшоў тут спачатку Ясь Луцэвіч, а на галасы бяседы, на мілагучны басок крыху маладшага ад сябе Восіпа Парфена, на непаспешлівую гаворку старэйшага Васіля Кахановіча.

О, як уразіла гэта гісторыя маладога памочніка вінакура! Закаханы ў Алену Тамаш не аддае яе панскім гайдукам на п'яны гвалт. Тамаш ашаломлены. Ашаломлены каварствам пана, які даў Тамашу дазвол на жаніцьбу, а сам вырывае нявесту з рук Тамаша, патрабуючы яе ў свае пакоі паводле дзікага феадальнага права сюзерэна на першую ноч з нявестамі падданых яму хлопаў. Тамаш у адчаі ад таго, што нічога не можа

зрабіць, каб не аддаць свайго шчасця. Патаптана чалавечая годнасць Тамаша, свет чарнее ў яго вачах, сонца чарнее, і толькі паблісквае з-пад лавы, як халодны маладзік, адточанае лязо сякеры. Адной сякеры — бачыць Тамаш — не хопіць, каб рассекчы грудзі ўсіх панскіх халуёў, але яе хопіць на белыя грудзі адзінай Тамашовай абранніцы Алены, якую ён, Тамаш, не! нікому не аддасць — нікому! Вострае лязо, мільгануўшы перад насамі атрупянелых гайдукоў, рассякае грудзі Алены.

Гэты сюжэт Парфена стаў сюжэтам паэмы Янкі Купалы «Нікому». Эпас народа станавіўся эпасам Янкі Купалы.

Чаму, аднак, спачатку не на гук песні пайшоў у Яхімоўшчыне малады памочнік вінакура, а на покліч падання, легенды, народнага пераказу? Бо гук песні быў гукам песні Жанчыны, і першае, чым уразіў ён маладога паэта, было ад шчодрасці, дабрыні народнай песні. Гэтая песня перастрэла неяк яго, адзінокага, на позняй лістападаўскай дарозе дадому. У хаце, міма якой праходзіў Ясь, былі вячоркі: з цемрадзі надворка праз вокны, што выходзілі на вуліцу, добра было відно, як у хаце сядзелі дзяўчаты — хто на лавах уздоўж сцен, хто на ўслончыках, прымасціўшыся каля запека. Дзяўчаты пралі кудзелю, сеўшы, як у нейкія нязвыклыя аднапарусныя лодкі, на падаткнутыя пад сябе прасніцы. Некалькі дзяўчат сядзела за калаўротамі і, нібы ў люстэркі, глядзела ў прымацаваныя да калаўроткаў прадаўгаватыя поцесі, да якіх была прывязана кудзеля. Ясь ведае, што звычайна хлопец — ухажор, які да праллі заляцаецца, гэтыя прадаўгаватыя поцесі ёй знарок гэблікам выстругвае, ножычкам выразае, долатцам выдзёўбвае. Найчасцей на поцесях выдзёўбвалі сонейка з промнямі ці, калі хлопец адлучаецца ў войска, конніка на кані, каб, успамінаючы яго ў дарозе, праля на вячорках не забывалася пра свайго заляцальніка.

Ясь міжволі залюбаваўся, бачачы, як спрытна дзяўчаты пралі, хто пакручваючы ля нагі верацёнца і скубучы ў тонкую ні-

тачку кудзелю, хто круцячы светлае кола калаўротка, шпулька з ніткаю на якім неўпрыкмет таўшчэла, а барада кудзелі ўсё менела, у вислінелых пальчыках праляў пераўтвараючыся ў нітку.

Дзяўчаты ў хаце пралі і спявалі, і асабліва выносіў словы песні адзін галасочак, заклінаючы:

Будзь багаты, як зямля,
Будзь здаровы, як вада,
Будзь нахільны, як вярба!..

Нахільны-прыхільны, хоць Ясю было ўжо дваццаць чатыры гады, Ясь яшчэ да нікога не быў. Усялякімі пачуццямі поўнае было ўжо сэрца Яся, толькі не гэтым. У ім кіпелі ўжо горыч крыўдаў, нянавісць да паноў, запал любові да мужыка-гаротніка, элегічна-спакойныя пакуль што пачуцці любові да роднай зямелькі, і толькі не катлаваліся пачуцці кахання. Яны не працінали яшчэ Ясевага сэрца, не ўскалыхвалі яшчэ Яся да глыбіні душы. Ён жа, як і ўсе вялікія паэты, быў надзвычай уражлівы на покліч дзявочай красы, жаночага хараства. Ды перад Яхімоўшчынай, як і ў самой Яхімоўшчыне Ясь не даваў волі свайму сэрцу. І тое, што сам валадар свайго сэрца так доўга стрымліваў, зацугліваў яго,— о як жорстка ўсё гэта неўзабаве папомсціцца на Ясю! Але пакуль што тут, у Яхімоўшчыне, малады памочнік вінакура спраўляўся з заміраннем сэрца, хоць яно і пайшло ўжо на гук песні Жанчыны...

Зваць яе было Эмілія. 8 снежня 1906 г. Купала прызнаваўся:

І соладка сэрцам сваім не раз чую,
Што я не жадаю цябе, а люблю.
Люблю, як сястрыцу сваю дарагую,
Шаную, як родную матку сваю.

Не жадаю сустрэч з табою, Каханне! — вось у чым прызнаваўся Купала.— Ты, дзяўчына, на хвілю ўсхвалявала маё сэр-

ца, ды — дарма! Люблю цябе, як сясцёр, што гадаваў у Прудзішчы і Селішчы, як маці, якую пакінуў у Бараўцах. Люблю, любіў іх, а кніг і вучобы ні на што не праменьваў, бо нават з дому зыходзіў. І цяпер адна ў мяне мара — кнігі, вучоба, а бровар скоўвае мару, бровар толькі заглыбляе крыўды, што вынес я з жыцця.

Пралллі вялі мелодыю тонка, чыста — то з гуллівай радасцю, то з удаваным сполахам:

А гуляла сонейка
Ды па ясненькім небе,
А гуляла, гуляла,
У хмарачку хавалася,
Месяца баялася.
— Хавайся не хавайся,
Я цябе хоць дзе найду,
Я цябе к сабе вазьму!
А гуляла дзяўчыначка
Да па новенькім ганку,
А гуляла, гуляла,
У дзевачак хавалася,
Малайца баялася.
— Хавайся не хавайся,
Я цябе хоць дзе найду,
Я цябе к сабе вазьму!

Памочнік вінакура сядзеў на ганаровым месцы ў хаце Васіля Канановіча — на покуці, і захоплена слухаў пералівы гарэзных дзявочых галасоў. І хоць бачыў ён перад сабою маладыя твары пралляў, спачатку зусім іншыя — не песенныя — сонца і месяц уявіліся яму. У бляску таго месяца прымроіліся ні то казакі Налівайкі, Вашчылы (цягнуць вешаць вяльможнага гетмана Радзівіла), ні то паўстанцы Кастуся Каліноўскага (косы на плячах), ні то раз'ятраныя сяляне Прудзішчаў, Бяларучаў, Бясядаў, суседніх з Яхімоўшчынай вёсак Галянова, Вязавец, Палачаны. Ад таго, аднак, месяца, пра які калісьці спяваў Ясю парабак Андруша, песня пралляў неўзабаве валадарна вярнула памочніка вінакура ўсё ж у хату да Васіля Канановіча.

Песня дзяўчат гучала так хораша, што, слухаючы яе, малады памочнік урэшце і сябе пачаў уяўляць маладым месяцам, ад якога, дзяўчаткі, хавайцеся, ой, хавайцеся!..

Рашэнне прачытаць вершы рабочым прыйшло як бы нечакана, хоць папраўдзе яно было спароджана ўсё тым жа найвялікшым імкненнем выйсці да тых, каму пісаў. Не! Ён, Ясь Луцэвіч, не скліча рабочых, аб'яўляючы, што будзе чытаць уласныя вершы. Ён проста пачытае ім газету і... вершы з газеты: зусім не свае — кагосьці. Бо яму ж найважней, ці зразумелыя яны простаму люду, ці дойдуць да сэрцаў. Вершаў Ясь выбраў няшмат, але кожны — баявы, адрасаваны грамадзе, а не толькі маці, не толькі звернуты да сваіх дум і перажыванняў. Хваляваўся Ясь незвычайна, чуўся ніякавата, ужо нават сыходзячы з ганка хаты, у якой асталяваўся жыць. Парэнчаў не было, дашак ганка падпіралі дзве падпоркі, шалёўка на ганку была ўпоравень з ніжнімі рамамі вокан, што васьміквадратнымі шыбінамі пазіралі ўслед Ясю абыякава. «Хоць бы парэнчык які! — падумаў Ясь.— Хоць бы кіёк — абаперціся».

Кантора бровара сёння здалася Ясю надзвычай параднай. Кантора ўвогуле заўсёды звяртала на сябе Ясеву ўвагу сваёй фацэтнасцю, якую ён у душы ахрысціў панскай. Сёння ж яна са сваімі паўсонцамі застрэшкаў, зграбнатой карнізаў, вугламі адмысловай кладкі выдавалася маладому памочніку вінакура існым белакаменным палацам. Вершы чытаць яму толькі не ў ім! Найлепш было б склікаць рабочых да перагонна-кантрольнага апарата: там найчысцей і цішэй. Але і пан вінакур там найчасцей бывае, а як пан вінакур сустрэне чытанне вершаў свайго памочніка, ды яшчэ простым чорнарабочым, Ясю было ясна наперад. Таму падняўся на другі паверх: «Хай слухаюць яго лепш солад ды сусла, чым пан вінакур!..»

Пачуць, што новага ў газетцы, ахвотна згадзіліся Васіль Кананові, Восіп Парфен, Архіп Зыбайла, Іван Ключарэвіч і яшчэ некалькі чорнарабочых.

— Дамінікавіч! То пачынайце!

Пачынаць было найцяжэй. Ясь быў больш бледны, чым звычайна. Разгарнуўшы нумар «Нашай нівы», ён стаў чытаць спачатку артыкул аб свабодах. «А трэба ведаць,— чытаў ён,— што ва ўсіх краёх, дзе сам народ піша законы, ён ўжо дабіўся роўнасці: там ёсць такія парадкі, што забяспечваюць роўнасць усіх людзей перад законам (за роўнасць у багацтве доўга яшчэ, мусіць, будзе ісці вайна на свеце!)».

— То пэўна,— перабівае чытальніка словаахвочы Парфен.

— Каб палажыць канец бяспраўю і няволі кожнага чалавека,— прадаўжае чытаць Ясь,— трэба дабіцца такіх законаў, каб асоба кожнага чалавека была свабодна і каб арыштаваць яго можна было толькі па прыказу суда, каб следства было не пазней як праз 24 гадзіны пасля арышту, а калі не будзе відна, што чалавек вінаваты, каб яго зараз жа выпушчалі на свабоду; каб...

— Каб, каб,— ківае галавой дзядзька Кананові́ч,— во капаюць!

— Каб ды кабы, на печы б раслі грыбы,— устаўляе сваё слоўца рабочы за спіной Парфена.

Ясь, усміхнуўшыся Парфену, прадаўжае ўсё тым жа роўным тонам аб патрабаваннях свабоды сумлення і веры, свабоды слова і друку, свабоды сходаў і саюзаў, свабоды забастовак. Усе патрабаванні газеты ўхвальваюцца слухачамі кіўкамі галоў, пацвярджальнымі выгукамі «але ж! Так, так!». А тым часам Ясь чытае ўжо іншае: «Песня астрожніка» (з Максіма Горкага). «Сонца ўсходзіць і заходзіць, а ў вастрозі цёмна мне...»

Закураныя сцены, цэментная броварная халодная падлога. І ў гэтых жа сценах рэдкія, вузенькія вокны. І тут, у бровары, ці ўсходзіць сонца, ці заходзіць, цёмна!..

«Пойдзем...» Ясь выгукнуў назву новага верша, ды ўжо не з газеты — з лістка. Рабочыя таго не заўважаюць. «Пойдзем...» для іх гучыць як заклік ісці прэч адсюль, з бровара, з камен-

най сваёй турмы. Верш яны слухаюць напружана, каб не прапусціць ніводнага слова:

Пойдзем, сушачы вечных крыві й слёз разводдзе,
К лепшай долі з вялікай надзеяй,
Пойдзем, пойдзем туды, адкуль сонца ўзыходзе,
Адкуль вецер прыветлівы вее...

У канцы Ясь чытаў верш «Там». «Там кроў ліецца»,— пачаў ён, і голас яго абарваўся. Ясь маўчыць, бо перад унутраным яго зрокам узнікла відовішча таго, што там адбываецца. Але вось голас ажывае, бо вока бачыць, што «там за волю барцы на вісельні ідуць, а вы,— Ясеў голас гучыць напорыста, а ён сам цяпер глядзіць ужо не кудысьці ў прасцяг, а на рабочых — на сваіх слухачоў,— вы мучаны найболей, спіцё, хоць вас даўно там ждуць». І тады ўжо ў рабочых, учарашніх і сённяшніх сялян, Ясь пачынае пытацца:

Скажыце мне, а за каго йны
Пайшлі на смерць, пайшлі вайной?
Хто ёсць на свеце так дастойны,
Што трэ ахвяры аж такой?

Яхімоўшчанцы не ведаюць, за каго, не адказваюць, маўчаць.

Дык вось на смерць ісці іх змусіў
Найнешчасліўшы чалавек.

Ясь набірае поўныя грудзі паветра і міжвольна прыўстае, выгукваючы свой адчай, свой папрок:

А вы, адродкі Белай Русі,
Спіцё, як быццам кат засек!

«Адродкі Белай Русі» — гэта не «вырадкі Белай Русі», ды ўсё адно яўхімоўшчанцам становіцца не па сабе. Яны пачалі азірацца па баках, як быццам вінаватыя, як быццам толькі што прачнуўшыся, толькі працёршы пасля сну вочы. А голас іх Дамінікавіча гучыць, уладарна, патрабавальна:

Паўстаньце, покуль цар звыродны,
Крыві ўсяе не выссаў з вас!
Паўстаньце! Край ваш стогне родны,
Заве збаўляць, як зваў не раз.
Паўстаньце, гляньце, божа мілы,
Свабоды сонца вас заве!

Такім адухоўленым, незвычайным, акрыленым маладога памочніка вінакура яхімоўшчанцы яшчэ ніколі не бачылі. І ніколі так не гучаў, як гучыць цяпер, у закураных скляпеннях бровара памочнікаў голас. І ніколі так не ззялі, як ззяюць цяпер, вочы Івана Дамінікавіча.

Хай кроў пальецца дзень, другі
Варожым трупам на падсціл,
Хай у няволі ланцугі
Спадуць ад грому вашых сіл!

Памочнік вінакура скончыў чытанне, а рабочыя ўсё не разыходзіліся.

— О то газета!.. І складна ж нехта напісаў,— забасіў Парфен.

— За такія вершы па галоўцы не пагладзяць,— сказаў Васіль Канановіч.

Ясь, хаваючы згорнуты нумар газеты ў кішэнь, моўчкі ўсміхаўся.

Пра чытанне «Нашай нівы» рабочым бровара ў канторы стала вядома назаўтра. Назаўтра ж вінакур Сасноўскі выклікаў свайго памочніка ў кантору, каб выказаць яму сваё незадавальненне. Ды не толькі сваё. Не падаўшы рукі, не запрасіўшы прысесці, Сасноўскі пачаў афіцыйна, па-польску: «Niech że pan teraz słucha! [1] — Пан Луцэвіч, здаецца, на працу сюды прыехаў, не так?»

Адказу пан Сасноўскі не чакаў.

---

[1] Няхай жа пан цяпер слухае!

— І ў пана Луцэвіча, здаецца, ёсць старая маці?.. І, здаецца, пан Луцэвіч прасіўся на працу ў мяне, а не я ў пана Луцэвіча, не пан Любанскі прасілі пана Луцэвіча сюды прыбыць?

Пан Луцэвіч слухаў. Аказваецца, яго паводзінамі вельмі не задаволены пан памешчык Любанскі. Калі памочнік вінакура выглупяўся з нейкімі беларускімі вершыкамі на малапрыстойных банкетах у якіх-небудзь Канановічаў ці Парфенаў, то гэта была справа толькі яго, пана памочніка, які мог таксама вольна адрасавацца да розных паняў з любоўнымі мадрыгаламі, якіх сапраўдная шляхцянка ніколі не прыме разам з іх хамскаю мовай. Пан Любанскі мог яшчэ таксама глядзець праз пальцы і на тое, як пан памочнік прападае вечарамі ў чалавека падазроных паводзін — у пана з мужыкоў Анджэя Посаха, хоць пану Любанскаму вядома, што пан — nauczyciel [1] Посах выпісвае «Нашу ніву» — газетку, якую народным настаўнікам, як і ўсім прыстойным грамадзянам Rosji [2], выпісваць і чытаць забараняецца. Але таго, да чаго дайшоў пан памочнік вінакура, пан Любанскі ніколі nie oczekiwał [3]. Пан Любанскі заўсёды думаў, што пан Луцэвіч — шляхетны, разумны чалавек. Ды ён вельмі расчараваўся...

«Не! Пазычаць шляхетнасці да вас, пане Любанскі, я не пайду! — кіпела ў грудзях Яся.— І газет вашых чытаць рабочым не стану! Чаго вы ад мяне не чакалі? Каб я не быў разам з гэтымі парыямі жыцця, якія, як я сам? Каб я не быў разам з іх думкамі, надзеямі, спадзяваннямі, нарэшце, з іх мовай? Пагражаеце? Гэта вам лёгка — ваша сіла, ваша ўлада! Напамінаеце аб горкім лёсе маці? Напамінаць не трэба! За міску поліўкі хочаце зламаць мяне, згнэмбіць, знявечыць?!. Чаго, гэтага вам хочацца, панове?!.»

Малады памочнік вінакура стаяў каля перагонна-кантрольнага апарата. Пытанні ў ім раіліся, не змаўкалі. Ён ніяк не

---

[1] настаўнік.
[2] Расіі.
[3] не чакаў.

мог адысці ад перажыванняў, якіх зазнаў у канторы, калі яму яго віны выгаворваў Сасноўскі. Памочнік глядзеў на паказчыкі тэмпературы, бязводнасці, ды яму было не да іх. Апарат — высозны, з чатырох царгаў; у кожнай царзе па восем рэгардаў; кожная рэгарда — авальная талерка, замацаваная на стане двума балтамі. Ледзь не да самой столі ўзвышаліся паверхамі рэгарды. Глядзеў на іх, думаючы свае думы, памочнік вінакура, і ўжо яму здаецца, што яго пытанне «Чаго вам хочацца, панове?» адносіцца зусім не да паноў, а да рэгардаў. Рэгарды выпучваюць свае вочы-балты, варочаюць імі абыякава, зняважліва.

«Дарма, дарма!» — пратэстуе супраць рэгардаў унутраны голас юнака, і думка яго падхоплівае радкі, што ўжо гучаць, як верш:

Чаго вам хочацца, панове?
Які вас выклікаў прымус
Забіць трывогу аб тэй мове,
Якой азваўся беларус?

Верш пачаўся, верш шукае свайго працягу, верш, які, як штыкамі, ашчаціньваецца новымі пытаннямі: «Чаму вам дзіка яго мова?..» Рэгарды маўчаць. Паэт словам ва ўпор ім: «Паверце, вашай ён не ўкраў, сваё ён толькі ўспомніў слова, з якім радзіўся, падрастаў». Рэгарды спахмурнелі. «А? Вось як!» — ускліквае паэт.

Вам страшна нашай слёзнай песні
І жальбы страшна вам глухой?
Вам жудка сонца на прадвесні?
Мілей вам холад з цемнатой?

Рэгарды як бы падміргнулі: «Мілей... холад з цемнатой!» Але паэту ўжо не да рэгардаў: ён не бачыць іх, ён адчувае толькі сілу і моц сваёй праваты, ён ужо не перад рэгардамі, а нібы на плошчы, на вечы, на трыбуне. Ён — адвакат правоў мовы і народа. І якая гэта драбяза — пан Любанскі, гаспадзін Лука Іпалітавіч, шляхцюк з радашковіцкага кірмашу, што кры-

вяцца з мовы мужыка! Аднак, маючы на ўвазе і іх, малады памочнік вінакура запісвае ў свой сшытак:

А што ж вам беларус такога
Пасмеў зрабіць, пасмеў сказаць?

Але — хопіць пытанняў! Трэба патрабаваць! І пачынаецца патрабавальнае, праграмнае: аловак спяшаецца, адрасуючыся да ўсіх ворагаў беларушчыны, пачынаючы ад пана Любанскага:

Напасцю, лаянкай напраснай
Грудзей не варта мазаліць!
Не пагасіць вам праўды яснай:
Жыў беларус і будзе жыць!

Ясь адыходзіць ад перагонна-кантрольнага апарата, перачытвае запісанае і адчувае, што чагосьці ў канцоўцы верша нібы бракуе. Чаго? Завельмі аптымістычна? Але ці ж гэта няпраўда, што будзе так, як ён напісаў, і толькі так? Так-то так,— разважае Ясь,— але пакуль што... Што, аднак, пакуль што?! «Хамскія» натуры вынесуць усё!» «Хамскія», «хамскія»...— і Ясь дапісвае радкі:

Не столькі «хамскія» натуры
На карках вынеслі сваіх!
І свіст даносчыкаў пануры,
Паверце, не запудзіць іх!

...Пасля выкліку памочніка вінакура ў кантору прайшло тыдзень, два, і памочнік найвыразней зразумеў, што сезона, закантрактаванага ■ восені, у Яхімоўшчыне не дабыць. У аўтабіяграфічным лісце, успамінаючы аб сваёй працы на броварах, Янка Купала напіша: «Зазнаў там такога пекла, якога яшчэ не меў». Яхімоўшчына — пасля Сёмкава — была другім кругам гэтага пекла — пекла жыцця паэта ў невядомасці. Вясной 1907 г., калі, уласна кажучы, сезон на бровары яшчэ не быў закончаны, Іван Луцэвіч пераехаў працаваць на бровар у Дольны Сноў. Пачынаўся круг пекла трэці...

## ПАЧАТАК УЗЫХОДЖАННЯ

Калі бывае, што легенда пра чалавека апераджае чалавека? Бывае тады, калі чалавек — паэт, калі да іншага чалавека раней за самога паэта прыходзіць напісанае ім. Легенда пра выключнага, надзвычайнага паэта Янука Купалу разнясласся па Беларусі надзвычай хутка. Бо гэтаму спрыяў час — надзвычайны, гістарычны: рэвалюцыя 1905—1907 гг., спрыяў і надзвычайны попыт на паэтаў у Беларусі, абуджанай рэвалюцыяй 1905 г. Край чакаў, краіна шукала выразнікаў сваёй сацыяльнай нядолі, гістарычных крыўдаў, народнай прагі зямлі і волі, светлага будучага. І не дзіва, што самы наймацнейшы паэт, які на гэты час пакутна прабіваўся з сутункаў невядомасці на дзённае святло, стаў адразу ж запрыкмечаны, стаў адразу ж адорваецца народнай любоўю, і легенда аб ім пачала скрозь апераджаць яго — легенда светлая і незвычайная, як само свята, назва якога дала паэту псеўданім!..

11 мая 1907 г. верш Янука Купалы «Касцу» з'явіўся ў «Нашай ніве». У сакавіку 1908 г. у пецярбургскай выдавецкай суполцы «Загляне сонца і ў наша аконца» выйшаў першы зборнік Івана Дамінікавіча Луцэвіча «Жалейка Янкі Купалы». Гэты зборнік стануць называць проста «Жалейка». Але шырока ішоў да свайго чытача Янук Купала ўжо і да з'яўлення «Жалейкі». У ліпнёўскіх нумарах газеты «Наша ніва» былі надрукаваны яго вершы «Лета», «Ці ж гэта многа?!», «З песень беззямельнага», у жнівеньскіх — «Непагода», «Вучыся», «З пе-

сень аб мужыцкай долі», у вераснёўскіх — «Былі ў бацькі тры сыны», «Нашто?». Сацыяльна праграмным сярод гэтых твораў быў верш «Ці ж гэта многа?!». «Ад свету, ад бога» нямнога жадаў паэт:

Зямелькі з валоку,
К ёй шнур неўдалёку,
З святлічкай хацінку,
За жонку дзяўчынку,
Кусок салца к хлебу,
Рубля на патрэбу,
Здароўя чым болей,
Крыху долі, волі —
І ўсё! больш нічога...
Ну, ці ж гэта многа?!

Сур'ёзныя сацыяльныя патрабаванні, як бачым, выказваліся раешнікам, нібы чалавек проста жартаваў. Гэта давала магчымасць абмінуць рагаткі цэнзуры, як памагала паэту ў тым жа і народная песня. Верш «Былі ў бацькі тры сыны...» друкаваўся ў «Нашай ніве» пад загалоўкам «Старая песня на новы лад», а песня на самой справе раскрывала лёс усёй моладзі беларускай вёскі таго часу з яе рознымі, такімі пакручастымі дарогамі:

Адзін служыць у двары,
Поле панскае арэ;

Другі стражнікам з іх стаў,
Куляй, шабляй засвістаў;

Трэці згінуў у баю
За свабоду і зямлю.

Барацьбу за свабоду і зямлю, такім чынам, ужо без ніякага раешніку дэклараваў малады паэт як сваё жыццёвае крэда. Але як давесці гэтае крэда да ўсіх бацькавых сыноў? З чаго пачынаць іх прасвятленне? А вось з чаго — раіў паэт:

Вучыся, нябожа, вучэнне паможа
Змагацца з нядоляй, з няволяй...

Хто, аднак, ты сам, нябожа, што пачынаеш вучыць нас? На гэтае пытанне адказвалі песні пра беззямельнага, аб мужыцкай долі. Падпісаныя псеўданімам «Янук Купала», ва ўсведамленні чытача «Нашай нівы» яны вырысоўвалі воблік паэта як беззямельнага, сярмяжнага, шматпакутнага мужыка. Тон песень гэтага мужыка быў маркотны, сумотны ад адчаю, бо ці ж плачы-нараканні, калі яны, як камарыны піск, у змозе ўзяць за душу чалавека, падняць яго з сацыяльнай інертнасці — на барацьбу? Янук Купала разумеў гэта, і ён плакаў над народнай нядоляй, стагнаў дактылічнымі строфамі, як нядаўна над ўсёй сялянскаю Руссю стагналі дактылі вялікага Някрасава:

І чаго ж, непагода слязлівая,
Непрасветна вісіш над зямлёй?..

І не хочаш ты гору мужычаму
Спагадаць, непагода, ані...

Гору мужычаму спагадала ліра маладога Купалы, «слёз не стрымаць» не магла, яму спагадаючы. Але ўжо і самымі першымі вершамі нашаніўскай публікацыі Купала як бы пярэчыў сваім будучым «гудзіцелям», якія аб'явяць паэта «інтэлігентам у пастуховай скуры» — наўмысным плачкаю-галашэннікам, якому ўдаваныя слёзы засцяць красу свету. Наадварот! Якраз з апявання красы свету пачаў свой зварот да мужыка са старонак «Нашай нівы» Янук Купала, друкуючы адным з першых верш «Лета» — гімн хараству жытняе нівы:

У збожжа ўсякае ніва прыбралася —
Хараства там якога няма!..

Паэт-музыка, Купала ішоў у паэзію якраз поўны ўсведамлення красы жыцця, глыбока захоплены ёю. Але акцэнт быў пастаўлены паэтам адразу ж не на песнях услаўлення красы жыцця, а на маркоце. Бо Янук Купала ішоў ад таго, што яго маркоціла,— ад нядольнай долі сваёй, мужыка, народа. І калі ён у вершы «Лета» і ўзнёс гімн красе роднай жытняй нівы, то

ўзнёс найперш дзеля таго, каб, прычасціўшыся ёю, набрацца ад яе сілы-веры. Таму заключнай страфой верша «Лета» і была гэтая:

Дай жа, лета, мне веру магучую,
Што калісь сваю долю знайду,
Дай мне песні пець сілу жывучую,
Дай працівіцца крыўдзе і злу!

Паэтам з шырокімі думкамі, тэмамі, інтанацыямі ішоў у родную літаратуру Купала! Заключнымі радкамі верша «Вучыся» ён, у прыватнасці, ушчуваў свайго брата-беларуса, што той «цямней... ад ночкі асенняй» і шчасце такое ж мае, а ў вершы «Нашто?», прысвечаным Якубу Коласу, ужо нібы і зусім аб другім баяў:

Нашто хлеб, нашто багацце,
Калі нам мякіны хваце?
Нашто боты, чаравікі,
Калі ёсць лаза і лыкі?..
Нашто знаці ўсяго многа?
І так трапім да астрога!..

З выхадам «Жалейкі», са з'яўленнем на старонках «Нашай нівы» такіх вершаў, як «За праўду, за шчасце, за лепшую долю», «Ворагам Беларушчыны», «Лявон», Купала станавіўся ў цэнтры беларускай паэзіі, станавіўся самай першай яе фігурай. Словы прызнання пачалі складваць яму паэты як старэйшыя, так і маладзейшыя ад яго: першым — стары мінчанін, мастак і бухгалтар Альберт Паўловіч, друкуючы ў сакавіку 1908 года ў «Нашай ніве» верш «Каліва праўды»; затым — Алесь Гарун, прыслаўшы верш Янку Купалу з катаргі — з Сібіры, куды гэты ўдзельнік рэвалюцыі, сталяр, паэт, эсэр-максімаліст быў сасланы. Верш «Бяздольны» — адзін з самых першых сваіх вершаў — прысвяціў Купалу ўжо тады сацыял-дэмакрат Цішка Гартны — усе яны былі нязнаныя пакуль што Купалу людзі.

Ды не толькі ў цэнтры беларускай паэзіі станавіўся Янка Купала — ён аказваўся і ў эпіцэнтры літаратурна-грамадскага

жыцця, эпіцэнтры барацьбы народа за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Прычым аказваўся ў гэтым цэнтры, сам сваім месцазнаходжаннем будучы далёка ад Вільні, Мінска, Віцебска, Гомеля, Гродні. Бровар у Дольным Снове — вось які быў новы адрас памочніка вінакура Івана Луцэвіча. Недзе на паўдарозе паміж Нясвіжам і зусім малазнанай станцыяй Баранавічы загубіўся ў раўнінных тамашніх абсягах Беларусі дольнасноўскі бровар, а памочнік дольнасноўскага вінакура, мала пра тое ведаючы, набываў па ўсіх абшарах Беларусі не толькі сяброў, але і ворага за ворагам.

...Ужо да канца 1907 г. народная рэвалюцыя па ўсёй былой царскай Расіі выгасала. Пачыналася паласа рэакцыі, і ўсё вышэй падымалі галовы тыя, хто раней так баяўся рэвалюцыі, дрыжаў перад ёю, а цяпер, акрыяўшы чорнай душой, каршуном кідаўся на расправу з перадавымі сіламі рэвалюцыйнай Расіі. Яшчэ ў канцы 1905 г. у Вільні было заснавана чарнасоценнае таварыства «Крестьянин». Яго натхніцелі Кавалюк, Вруцэвіч, Каранкевіч пачалі выпускаць газету, аднайменную з назвай таварыства. Таварыства і газета па сутнасці супрацьстаялі першаму Купалаваму вершу «Мужык». Да канца ж 1907 г. у Купалы быў ужо не адзін верш «Мужык». І тым больш надзімаліся чарнасоценцы. У 1908 г. яны былі ўжо сфарміраваны ў віленскае «Белорусское общество», выпускалі газету «Белорусская жизнь», рэдактарам якой быў супрацоўнік суворынскага «Нового времени» нехта М. Ф. Саланевіч. На пачатку 1907 г. у Вільні ўзнік і «Русский окраинный союз», які цераз год пераўтварыўся ў пецярбургскае «Русское окраинное общество» з уласным органам «Окраины России». Рэдактарам і тут быў махровы рэакцыянер прафесар Кулакоўскі. Неўзабаве «Русское окраинное общество» рэарганізавалася ў «Западно-русское общество» і стала налічваць нешта аж трыста членаў, складаючыся з прадстаўнікоў сталічнай арыстакратыі, вышэйшага духавенства, чыноўнікаў, генералаў, прафесуры. Частка членаў гэтага трохсоценнага таварыства, вядома ж,

была сваім паходжаннем звязана і з Беларуссю, мела беларускія прозвішчы, але на саму Беларусь, як і на Украіну, усё гэтае таварыства глядзела толькі як на акраіны «адзінай, непадзельнай» і з наступленнем рэакцыі з усіх званіц пачало няславіць «беларусінства», «мазапінства». Махровае чарнасоценства шукала ў нацыянальна-вызваленчым руху палітычнага крыміналу, падштурхоўвала царызм да таго, каб растаптаць ці то на Украіне, ці то ў Беларусі ўсіх новаз'яўленых «прарокаў», каб зноў забраць у народаў-суседзяў тыя правы, якія цар, спалоханы рэвалюцыяй, вымушаны быў у 1905 г. даць. Больш за ўсё, вядома, шавіністам рупіла існаванне імяннога ўказа Мікалая II ад 25 снежня 1904 г. аб адмене ўсялякіх абмежаванняў адносна ўжывання мясцовых моваў у дзевяці губернях — Віленскай, Ковенскай, Мінскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Віцебскай, Валынскай, Кіеўскай, Падольскай. Іменна на падставе гэтага ўказа была прынята ўрадавая пастанова, зацверджаная царом 14 мая 1905 г.,— пастанова аб свабодзе друку на мясцовых мовах у дзевяці вышэй пералічаных губернях. Рэакцыянеры ўпарціліся: пастанова ж была зацверджана 14 мая 1905 г., а цяпер які час? Пачатак 1908-га! Пасля трэццечэрвеньскага перавароту прайшло больш за паўгода! Што ж цар не закрывае гэтае тарабарскае «Нашае нівы»?.. Што ж ён дае мажлівасць пладзіцца гэтым розным Купалам?!

У атмасферы рэакцыі гаспадарамі сітуацыі пачулі сябе таксама і паны-памешчыкі з нацыяналістычнага польскага «Kurjera Wileńskiego», з «Виленского Вестніка». Ім таксама бяльмом на воку была мова мужыкоў і ўсё тое, што на ёй пісалася і друкавалася, накіраванае супраць сацыяльнага прыгнёту, супраць прэтэнзій польскіх паноў на палітычнае валадаранне над мужыкамі, якое яны аспрэчвалі ў рускага царызму. Як ні дзіўным здаецца гэта сёння, але польскім абшарнікам сапраўды тады здавалася, што ажыўленне культурна-грамадскага, літаратурна-грамадскага, грамадска-палітычнага руху на Беларусі — гэта падкопы агентаў цара, каб адарваць беларусаў ад

«прамацеры» Польшчы, і што нібы ледзь не чарнасоценцы беларусяць на Беларусі «спрадвечных палякаў»!..

З наступленнем рэакцыі адной з першых задач «Нашай нівы» стала выяўленне сваіх сапраўдных пазіцый, абарона іх перад нападкамі манархістаў, чарнасоценцаў, польскіх нацыяналістаў, клерыкалаў. Якраз таму ў дзевятым нумары «Нашай нівы» за 23 красавіка 1908 г. і з'явіўся безназоўны перадавы артыкул, напісаны рэдактарам газеты Аляксандрам Уласавым. «Беларусь,— пісаў у гэтым артыкуле рэдактар,— як ведама, ляжыць між Польшчаю і Вялікарасіяй. І з палякамі і з рускімі беларускаму народу прыходзілася стыкацца з даўніх часоў, ды гэта ёсць і цяпер. Са стараны Расіі да нас прыходзіць нямала добрага: вялікарусы маюць сваю вялікую культуру; думкі лепшых рускіх людзей аб свабодзе, аб правах чалавека, як свет сонца, шмат памаглі прабудзіцца нашаму краю і мужыку-беларусу ад векавечнага сну, і наш мужык папраўдзе збудзіўся таксама, як мужык рускі, польскі, літоўскі. Ад рускай культуры мы бярэм навуку, знанне абема рукамі... Ізноў жа Польшча таксама мае вялікую культуру, і беларусам вельмі добра скарыстаць з гэтага колькі можна...» Такім чынам, даўшы агульную зарысоўку стану адносін паміж суседнімі рускім, беларускім, польскім, літоўскім народамі, аўтар пераходзіў далей да надзённых праблем дня.

З чаго ён пачынаў тут?

«...Многа шчырых, справядлівых і мудрых людзей з-паміж рускіх і палякаў,— пачынаў тут гаворку Аляксандр Уласаў,— вельмі спагадаюць беларусам...» І гэта была праўда: «Наша ніва» не магла не аддаць даніны павагі тым, каму Беларусь была ўжо навекі абавязана: Пушкіну, Някрасаву, Дабралюбаву, Рэпіну, Мысаўскому. Пушкіну — з яго раешнікавымі, але такімі ласкавымі словамі пра Беларусь: «Литва ли, Русь ли, что гудок, что гусли», Пушкіну — са словамі пра «тихие сетования народа, издревле нам родного». Які ўвогуле быў дакладны

вялікі Пушкін у кожным сваім слове, і асабліва ў гэтым, калі спрадвечныя нараканні беларусаў на свой лёс называў *ціхім*!..

Някрасаў жа першым з рускіх паэтаў стварыў вобраз мужыка-беларуса ў сваім славутым вершы «Чыгунка». А Дабралюбаў, слаўны Дабралюбаў! Ён жа на чатыры гады раней за Някрасава напісаў дарагія сэрцу кожнага беларуса словы. «Адносна беларускага селяніна,— пісаў вялікі рускі крытык у 1860-м,— справа даўно вырашана: забіты канчаткова, так, што нават не мае чалавечых здольнасцей». Дабралюбаў іранізаваў, Дабралюбаў кіраваў стрэлы сваёй іроніі па сутнасці ў духоўных папярэднікаў цемрашалаў і пачатку XX ст. Як жа, аднак, сам Дабралюбаў разумеў справу «адносна беларускага селяніна»? «Не ведаем,— пісаў крытык,— у якой ступені лжывае гэта меркаванне (аб забітасці беларускага селяніна.— *А. Л.*), ...але паверыць у яго, зразумела, не можам. Цэлы край так вось узялі ды забілі,— каб жа не так!.. Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы». І беларусы, удзячныя падтрымцы рускага народа, сталі гаварыць самі, сталі перш за ўсё выказваць словы прызнання, ды толькі не ўсерасійскаму царызму, не тым, хто ва ўмовах рэакцыі зноў распярэзваўся. Царызму і рэакцыі адказ быў адзіны, і яго, вядома ж, наймагутней, найярчэй выказаў у слове Янка Купала.

Не! Свой верш, напісаны пры кантрольным апараце ў Яхімоўшчыне, сам паэт не прыўрочыў да выхаду нумара «Нашай нівы» з перадавым артыкулам Аляксандра Уласава. Прыўрочылі гэты верш да выхаду дзевятага нумара «Нашай нівы» ў самой рэдакцыі. І верш прагрымеў, як выбух. Не называючы імён, ён біў па ўсёй плойме рэакцыянераў, што, як вужачае племя, заварушыліся на выгрэве ў рэакцыі. Біў па «Крестьянине», «Русском окраинном обществе», «Kurjery Wileńskim», «Виленском Вестнике». Тады, калі верш «Чаго вам хочацца, панове?» пісаўся ў бровары, паэт меў на ўвазе мала каго больш, чым пана Любанскага і заштатных правінцыяльных даносчыкаў. Цяпер жа, калі гэты верш закрасаваўся са старонак «На-

шай нівы», ён біў ужо і па панах-ягамосцях і даносчыках абедзвюх сталіц і ўсіх правінцый, біў напавал, без агаворак. І цяпер ворагамі не толькі беларушчыны, але і асабістымі ворагамі Купалы станавіліся лідэр «Крестьянина» Кавалюк з Вільні, лідэр «Русского окраинного общества» прафесар Кулакоўскі з Пецярбурга, станавіліся ўсе тыя трыста і падобныя да іх душыцелі правоў народа з накрухмаленай сталічнай арыстакратыі, чорнасутаннага духавенства, лізаблюднага чыноўніцтва, служылага генеральства і правай прафесуры. Ненавіснымі вачыма зырылі цяпер усе яны на Купалу. Купала ў Дольным Снове тым часам і не падазраваў, колькі ворагаў ужо мае і што ён стаў ужо адной з самых цэнтральных фігур беларускага Адраджэння, як тады называлі грамадска-палітычны і літаратурна-культурны рух на Беларусі, і што не ўсе яго віленскія сябры, што адсюль, з Дольнага Снова, здаваліся яму сябрамі, сябры на самой справе.

А ў Бараўцах здохлі каровы. У Бараўцах на арэндзе Бянігны Луцэвіч — здохлі, ці то залішне з'еўшы зрошанай канюшыны, ці то ўбіўшыся ў нейкі атрутны чартапалох-чэмер. Каровы леглі ўсе покатам — Вішня, Кветка, Люта: жываты іх уздуліся высока — вышэй клубоў. Спачатку кароўкі мычалі — жалосна, потым хрыпелі — гартанна, потым змоўклі. Даходзілі. Калелі — Вішня, у якое былі вяночкам рожкі, цёлка-пярэзімак з доўгімі светла-залацістымі расніцамі, якімі так любіла любавацца Луцэвічыха. Кветка — пярэстая, старая ўжо, рахманая, з адзіным рогам, загнутым уніз (другі, зашчаміўшы ў плоце, яна яшчэ пазалетась зламала). Люта — наравістая, самая краса з кароў арандатаршы Луцэўчыхі, высокая, зграбная. Люту, хоць яна ніколі не давалася спакойна падаіцца, вельмі паважалі маці і сёстры Купалы, бо па вядру надойвалі за адзін прысест з яе растапыраных на агромністым вымені доек. Ды кароўкі ляжалі на аселіцы з уздутымі жыватамі. Нават не прырэзалі іх: не паспелі. А калі б і прырэзалі, то лета ж: дзе мяса

падзець? Маці стаяла над тушамі і плакала. Слёзы — буйныя, як град,— каціліся па яе шчоках. Плакала маці моўчкі, камяк падступаў пад горла ад найвялікшай крыўды, ад таго, што такое няшчасце звалілася не на Мачаны, Казіміроўку, а на яе Бараўцы, не на кагосьці за морам, а на яе дзяцей, на яе самую. Арэнда ж вялікая, ледзь вырабілі яе два леты запар. А як будзе цяпер?.. За што цяпер прыкупляць кароў? А калі прыкупіш, чым сплачваць пані Стжалковай?..

Ясь таксама стаяў над каровамі моўчкі. Ён ведаў, разумеў, пра што думала маці, што выкаціла на яе ўчарнелыя ад загару шчокі ціхія, маўклівыя слёзы. Гора было сапраўды вялікім. Зямлю называюць сяляне маці-карміцелькай, і акрамя яе, зямлі, толькі адну істоту ў свеце завуць яны яшчэ гэтым словам — кароўку.

Недагледзелі! Але як было дагледзець, калі ўсё было, як з лета ў лета, з раніцы ў раніцу. Выгналі на раніцу, як звычайна, падаліся каровы ў бок узлеску, як звычайна. І — на табе! Сэрца Ясева балела. Усё лета тут, у Бараўцах, ён сядзеў, як на раздарожжы, поўны няпэўнасці, бо ўсё, што таілася недзе наперадзе, было неакрэсленым,— жыццё заставалася неўладкаваным, апрыкралым. Асабліва бровар. Але вось цяпер, над гэтымі каровамі, што ляжалі нерухома, перад ціхімі горкімі матчынымі слязінкамі ўсё Ясева гора нібы здрабнела, аказалася не такім важным, як здавалася Ясю да гэтага выпадку...

Дольны Споў, ці развітаўся ён з ім? Ці зноў збірацца восенню яму туды адсюль, з Бараўцоў, вяртацца да ранейшага, каб круціцца вавёркаю ў коле паміж суслам і соладам, перагонна-кантрольным апаратам Сіменса і бардой? У Дольным Снове Ясь быў ужо не толькі памочнікам вінакура: тут ён быў ужо і паэтам Янукам Купалам. Памешчык Гартынг — уладальнік бровара ў Дольным Снове — быў аднаго поля ягадка з панам Любанскім, але іншым чалавекам быў вінакур Сярніцкі: ён відавочна сімпатызаваў маладому аўтару беларускіх вершаў, як і яго жонка, пані Міраслава. Ясь недзе адразу ж пасля прыезду

ў Дольны Сноў быў запрошаны Сярніцкімі ў іх дом і стаў бываць там часта. Больш таго: пані Міраслава — жанчына вельмі сімпатычная, адукаваная, з тонкім жаноцкім адчуваннем людзей і з уменнем увайсці ў душу чалавека — аказалася проста добрым анёлам для Яся, да якога тут, у Дольным Снове, прыйшлі пачуцці, што сталі не радасцю, а бядою. Мы не ведаем, як звалася дольнасноўская паненка, якая прымусіла горача забіцца сэрца паэта, які ў вершы «На адвітанне» пісаў ёй: «Цябе першую я так любіў». Як *так* любіў, пра гэта можна здагадвацца з іншага верша, напісанага раней, чым на адвітанне. Асаблівыя каментарыі да гэтага верша не патрэбныя, бо ў ім, як на далоні, увесь закаханы паэт, які, стаўшы паэтам, застаецца ў штодзённых клопатах памочнікам вінакура, які, пакахаўшы дзяўчыну, мучыцца, бо сваёй абранніцы — не раўня, бо асуджаны сваім каханнем на пакуты. Пані Сярніцкая адразу ж заўважыла магутны парыў, які нарадзіў верш Купалы «Не глядзі...». Яна — глядзела, і Купала не стаў таіцца ад пані Міраславы. Не самой дольнасноўскай прыгажуні, якой быў прысвечаны верш «Не глядзі...», а пані Міраславе прачытаў ён гэты верш. Зрэшты, радкі гучалі нібы і па адрасу: мала старэйшая ад Яся, выдадзеная бацькамі гвалтам замуж за пажылога, хворага на падучку пана вінакура, сама пані Міраслава да сустрэчы з беларускім паэтам аб каханні ведала толькі тое, што вычытала з кніг. І яна слухала Івана Дамінікавіча, усхваляваная, вочы яе гарэлі. А паэт глухаватым голасам чытаў:

Не глядзі на мяне, не глядзі, адыдзі,
Не чаруй так сабой і наяве і ў сне!
Ты смяешся з мяне... Дык ідзі ж, не глядзі,
Бо замучыш, загубіш навекі мяне!

Пані Міраслава не смяялася — смяялася з няўдольнага кахання паэта іншая — тая. Яна, пані Міраслава, не смяялася б, не замучвала б, не губіла б. А Купала роўным голасам прадаўжаў чытаць, бо ён жа проста знаёміў мілую пані Міраславу з творам. Радкі былі зноў пра вочы і муку:

Погляд вочай тваіх душу змучыў маю —
Праз яго я сябе не змагу аніяк:
То [redacted] рвуся к табе, то, як слуп той, стаю,
То жалею цябе, то кляну горка так.

Пані Міраславе здавалася, што гэта ажыў перад ёю ці не сам Адам Міцкевіч. Іван Дамінікавіч чытаў цяпер ужо не пра вочы:

Ты ж не любіш мяне, ты шукаеш другіх,
Туды пнешся, дзе звоняць дукаты, рублі...
А што ж я табе дам? Я ж бядней ад усіх,
У бадзянні цяжкім жывучы на зямлі.

Пані Міраслава ведала па імені тую, якая шукае другіх, якая пнецца туды, «дзе звоняць дукаты, рублі...». О, калі б пані Міраслава сама была на месцы тае, яна не паўтарыла б памылкі Марылі Верашчакі. Яна б не пайшла за панылага графа Путкамера — пайшла б за гэтага — «у бадзянні цяжкім», за гэтага, што вось скардзіцца, што ў адчаі гоніць сваё неразздзеленае каханне ад сябе прэч. Купалаў голас задрыжаў:

А я буду цярпець і свой дзень праклінаць,
Праклінаць і цябе, і твой гэты паглёд.
Дык ідзі, не глядзі! Я баюся цябе:
Не мая ты цяпер і не будзеш маей.
Дык ідзі, бо загубіш мяне і сябе,
Бо кіпіць мая кроў, сэрца рвецца з грудзей!

— О, каб вы так што-небудзь і мне напісалі, пане Яне! — прашаптала пані Міраслава.

Ясь пачырванеў. Падняў вочы на пані Міраславу, і, каб не паказаць, як нязвыкла зарумянеліся шчокі і ў яе, пані Міраслава таропка адвярнулася да акна.

Верш, прысвечаны ёй, Купала прынёс назаўтра. Верш называўся «З песень нядолі». У ім было пра канвой, які «брыдзе, шаблі бліскаюць, людзі бедныя звоняць путамі», пра сіротаньку, што «пад варотамі плача з голаду, стыне з холаду», і пра самога паэта, пра тое, як тут, у Дольным Снове, «пад працаю бескарыснаю сілы губяцца неакрэпшыя» — яго сілы, паэтавы.

А над канвоем арыштантаў вялі — гэта і пані Міраслава бачыла, і паэт — шляхам, міма бровара — на Нясвіж, Мінск ледзь не штодня. І штодня пад варотамі бровара — яны абодва таксама гэта бачылі — плакалі сіротанькі. Верш канчаўся страфой:

Эх, і як тут жыць
Сэрцу чуткаму,
Не панятаму,
Адзінокаму!

Пра чыё «сэрца чуткае» былі гэтыя радкі? Пра сэрца пані Міраславы? Пра паэтава сэрца?.. Ахвяруючы верш пані Міраславе, Ясь думаў пра паніну далікатнасць. Бо гэта ж яе, пані Міраславы, сэрца, як здавалася Ясю, не вельмі разумеў муж пані Міраславы — пан вінакур. І па гэтай жа прычыне сэрца пані Міраславы здавалася паэту адзінокім. Але пані Міраслава ўспрыняла апошнюю страфу не як пра сябе, а пра яго, маладога паэта. І яна засмуцілася.

— Дарагі мой пане Яне,— пачала яна,— добра, я згодна, што вы — адзінокі. Але няўжо я вас не разумею?..

— Разумееце, пані Міраслава, пэўне, што разумееце,— адказваў Ясь, і ён тут жа ў апошняй страфе выкрасліў слова «непанятаму», надпісаўшы над ім «адчуранаму».

Пані Міраслава ўсміхнулася.

— Будзьма ж сябрамі!..— сказала яна.

На пачатку 1908 г. у Львове на ўкраінскай мове была надрукавана брашура Іларыёна Свянціцкага «Адраджэнне беларускага пісьменства». У дадатку да яе Іларыён Сямёнавіч надрукаваў два вершы Купалы — «Што ты спіш?..» і «Там», вершы, напісаныя і чытаныя Купалам рабочым у Яхімоўшчыне. Іх якраз Ясь і перадаў летась Іларыёну Сямёнавічу, пазнаёмлены з ім у рэдакцыі газеты «Минский курьер» Самойлам. І было так, што ледзь брашура Свянціцкага ў Львове выйшла, яна тут жа трапіла на стол пецярбургскага цэнзара Васянцо-

віча-Макарэвіча. Цэнзар прачытаў творы Маркі Бяздольнага (так быў падпісан верш «Што ты спіш?..) і Янкі Купалы (гэты подпіс стаяў пад вершам «Там») і знайшоў іх змест крамольным, перадаўшы брашуру графу Мураўёву «для забароны... з нявыдачай прасіцелям». Мураўёў налажыў рэзалюцыю: «Забараніць згодна ■ дакладам і не выдаваць». Рэзалюцыя была накладзена 5 сакавіка 1908 г., за некалькі дзён да выхаду ў Пецярбурзе ў выдавецтве «Загляне сонца і ў наша аконца» зборніка «Жалейка». І гэта было шчасцем Купалы, што на гэты раз бюракратычная машына не аказалася такой аператыўнай, як у выпадку з брашурай Свянціцкага. «Жалейка» трапіла на разгляд у Санкт-Пецярбургскі камітэт па справах друку пры Міністэрстве ўнутраных спраў толькі 14 кастрычніка 1908 г. Пастанова паследавала жорсткая: налажыць арышт і прыцягнуць да адказнасці асоб, вінаватых у надрукаванні. А 4 лістапада той жа самы камітэт звярнуўся да пракурора Пецярбургскай судовай палаты з адносінай, у якой прасіў распачаць судовае следства супраць Купалы і асоб, якія мелі дачыненне да выдання «Жалейкі». Ды Купала, не ведаючы таго, летаваў у Бараўцах. Маці «Жалейцы» дала іншую атэстацыю:

— Гэтая — не расклеіцца, не за тры рублі картонка, што выпрасіў некалі ты ў бацькі купіць табе... Але — што яшчэ будзе, сынок,— такія ж ліхія часы!..

«Як быццам прадчувала,— стоячы над здохлымі каровамі, думаў Ясь.— Ды ці толькі гэта?..»

...Якраз учора дзядзька з суседніх Мачанаў перадаў Ясю газету «Минское эхо» за 9 ліпеня.

— Тут і пра цябе,— казаў сусед.

Ясю было ўвогуле прыемна, што дзядзька Амброжык ведае, што ён — Янук Купала. Знайшоўшы напісанае пра яго, Ясь таксама адчуў, як нешта радаснае варухнулася пад сэрцам. Зірнуў на подпіс: «Ядвігін Ш.». Зацікаўленне да надрукаванага пабольшала.

Ядвігіна Ш. Ясь ведаў даўно. Пад такім псеўданімам выступаў Антон Іванавіч Лявіцкі. Яшчэ ці не з Радашковіч, з пары сваёй пісарскай кар'еры ў следчага, чуў ён пра Антона Іванавіча. Бо госці следчага не аднаго разу ўспаміналі мужыцкую п'есу, якую гадоў з дзесяць таму назад быў напісаў тадышні радашковіцкі аптэкар пан Лявіцкі. Можа, таму, што пан акцызнік вельмі рагатаў з мужыцкага тэатра пана Лявіцкага, юнаку Ясю і запомнілася прозвішча «хлапамана», як акцызнік называў аптэкара з Карпілаўкі.

А ў Карпілаўку Ясь Луцэвіч прыйшоў упершыню з Селішчаў — зноў жа па кнігі, ды яшчэ з цікавасці, што гэта за пан, які адважыўся мужыцкі тэатр ствараць. Гаспадар Карпілаўкі аказаўся чалавекам цікавым, энергічным, і, нягледзячы на тое, што дзядзька Антон быў на чатырнаццаць год старэй, яны пасябравалі. Ясь пісаў ужо вершы, і Антон Іванавіч стаў другім чалавекам, які заахвочваў Яся пісаць. Гасцінны, кампанейскі, дзядзька Антон усаджваў маладога хлопца на верандзе, а потым і ў салоне, і пасля чаркі-другое бяседа ў іх цякла ракою.

Паважаў Ясь Антона Іванавіча надзвычай: той быў для яго бывалым літаратарам, што ўжо друкаваўся ў Мінску і Вільні, чалавекам, які вучыўся ва універсітэце. Хлопца, прагнага звычайнай кнігі, тут, у Карпілаўцы, прымаў, з ім размаўляў чалавек, які вучыўся ў самім універсітэце, у самой Маскве! Што толькі адзін год у тым універсітэце вучыўся Лявіцкі, арэолу не развейвала, бо Ясь Луцэвіч аб універсітэце нават марыць баяўся. А Ядвігін Ш. быў яшчэ і ўдзельнікам студэнцкіх хваляванняў, якому прыйшлося адседжваць за гэта ў славутых тады на ўсю Расію Бутырках. Словам, Антон Іванавіч быў у вачах юнака з Селішчаў самым сапраўдным рэвалюцыянерам.

Дзядзька Антон не рабіў сакрэту з таго, што і ён нешта піша, а пісаў ён рэчы гумарыстычныя, якія ў час першых наведванняў Ясем Карпілаўкі былі ўсе ва ўрыўках, накідах. Дзядзька Антон першым чынам павучаў юнака ніколі не спяшацца з напісаным, даваць напісанаму адлежвацца, бо толькі

*Як на свет радзіўся Янка,*
*Як заплакаў многа-мала,—*
*Пела маці над калыскай,*
*А зязюлька кукавала...*

пасля гэтага, казаў ён, бачацца слабыя мясціны, недаробкі. З гэтай парады Ясь пакуль што нічога не скарыстоўваў. «А ці не паўторыцца яна і ў заметцы Антона Іванавіча?» — мільганула думка, перш чым Ясь пачаў чытаць «Минское эхо».

З першых жа радкоў пра сябе Ясь пазнаваў свайго старога прыяцеля: па тону, па жартаўліваму выслоўю — «лепш быць першым у вёсцы, чым другім у Рыме». Ясь прыняў гэтае выслоўе, не заўважаючы, што ў кантэксце заметкі супрацьпастаўленне вёскі і Рыма ставіла вёску загодзь на ніжэйшую ступень. Але затым гуллівасць тону здалася ўжо Ясю ўніжальнай, развязнай: «Томік беларускіх вершаў Янкі Купалы» — «новаспечаны»... Самойла — «беларусаман», мова беларусаў — «паміраючы дыялект... тапорная». Што з таго, што за словам «тапорная» ў дужках стаяла: «Няхай даруюць мне беларусы!» Што з таго, што двойчы аўтар назваў Янку Купалу паэтам народным і даравітым,— Купала быў закрануты напісаным Ядвігіным Ш. за жывое. Купала не верыў, што так мог напісаць Ядвігін Ш.— Антон Лявіцкі з Карпілаўкі, сам таксама ўжо аўтар цудоўных апавяданняў на цудоўнай, як здавалася Ясю, беларускай мове.

«Нешта не тое»,— думаў Ясь і пачаў чытаць яшчэ раз. «І калі,— удумваўся ён у тэкст нанова,— марам беларусаманаў — уваскрасіць і даць літаратурную абалонку паміраючаму беларускаму дыялекту суджана здзейсніцца,— то паміж піянерамі гэтай ідэі адно з першых месцаў займе, бясспрэчна, Янка Купала». «Займе, бясспрэчна»,— вылучыў для сябе гэтыя словы Ясь. «Нібы і пахвала, і прароцтва,— думаў ён,— але няўжо і сябе да беларусаманаў залічвае Антон Іванавіч?» Карабаціла асабліва другая частка слова, асацыіруючыся з «маной» — падманам, махлярствам. «Англаман, французаман — зразумела. Але калі людзей, якія называюць сябе адраджэнцамі, назваць «манамі», ці ж гэта не блюзнерства?!» — не мірыўся Ясь.

У трэцім абзацы Ясь выразна адчуў водгалас ягоных з панам Антосем колішніх у Карпілаўцы спрэчак. «Мы ўстрыма-

емся пакуль,— перачытваў тэкст Ясь,— ад дэтальнай ацэнкі па сутнасці і тэндэнцыйнасці большасці вершаў «Жалейкі». «Чаму ўстрымаемся?» — падняў вочы Ясь. Тлумачылася цьмяна: устрымаемся, бо вершы пісаліся падчас рэвалюцыі, «што не магло не адбіцца ні на чуйнасці, ні на ўспрыняцці з'яў паэтам наогул...». У зносцы да заметкі адзначалася, што паэт падрыхтаваў яшчэ адзін зборнік, і выказвалася спадзяванне, што «ў ім даравітасць і погляды паэта выступяць больш акрэслена, больш рэльефна». «А што,— не без раздражнёнасці падумаў Купала,— у «Жалейцы» погляды не акрэсленыя, не рэльефныя?! Акрэслена рэвалюцыйныя! Рэльефна мужыцка-рэвалюцыйныя! Што, вы, Антон Іванавіч, хочаце ад мяне іншых поглядаў, іншай акрэсленасці і рэльефнасці, якіх самі трымаецеся, якія адстойвалі ў спрэчках са мною, калі ўсё паўтаралі: бойцеся мужыка, бойцеся яго нянавісці, не расцугліва йце яе!.. Непрыняцце Вамі, Антон Іванавіч, тэндэнцыйнасці «Жалейкі» — ніякая мне не навіна!..»

Заўвагі аб мастацкасці «Жалейкі» былі таксама «извинительными». Заметка была па-руску, пагэтаму Ясь і акрэсліў крытычныя заўвагі па «Жалейцы» менавіта гэтым рускім словам. Абзац аналізу мастацкіх вартасцей пачынаўся гэтак: «Жыццё беларуса завельмі манатоннае,— пісаў Ядвігін Ш.,— і мы не павінны пагэтаму быць асабліва патрабавальныя ў разнаколернасці сюжэтаў...» Карацей, гэтым сцвярджалася, што «Жалейка» — аднакалёрная. «Добра яшчэ, што шэрай не абазваў»,— падумаў Ясь.

Спачатку нейкай нестасоўнай здалася Ясю і тая частка артыкульчыка, дзе Ядвігін Ш. дазваляў сабе «выказацца за захаванне чысціні асаблівасцей беларускага говару і тым больш у паэзіі». Паўторнае чытанне справу нібы праясняла: Ядвігін Ш. у «Жалейцы», аказваецца, чысціні мовы не знаходзіў. Ён знаходзіў яе не больш, як у вершы «Саха», які ён назваў класічным узорам, заўважаючы, праўда, што «такіх вершаў у «Жалейцы» чытач знойдзе нямала», бо сам паэт — народны,

даравіты. Даравіты, бо на тапорнай мове змог стварыць не адзін «упаўне лірычны верш»? І трэба ж так, Антон Іванавіч?!

Пасля гэткай першай рэцэнзіі Ясь адчуваў сябе не надта.

Якімі ўвогуле павінны быць рэцэнзіі, не ведаў, і чаго было больш у рэцэнзіі Ядвігіна Ш.— ухвалы ці сумніцельных пахвал — Ясь таксама дайсці да канчатковага вываду не мог. «На чужы раток не накінеш платок»,— адмахнуўся ён нарэшце. Шчыры яго сябра пан Антось Лявіцкі ці не шчыры, пакажа час...

Пакідаючы Дольны Сноў вясною, Ясь не ведаў, вернецца ён сюды назад на працу ў бровар ці не вернецца. Сярніцкі казаў, ведаючы настрой, жаданні, цяжкасці пана Яна Луцэвіча, што калі яго намерам не суджана будзе здзейсніцца, то і ў новым сезоне ён, пан Сярніцкі, рады будзе вітаць яго ў Дольным Снове. Ясь, аднак, гэтай радасці менш за ўсё прагнуў. Ён пакідаў Дольны Сноў з намерам не вяртацца, не пачынаць чацвёрты год усё нанова; пакідаў ■ намерам вырвацца з зачаравансга кола, у якім ён — восень, зіма, вясна, лета — круціцца.

А ў развітальным вершы, напісаным для дольнасноўскай дзяўчыны, Купала пісаў:

Яшчэ раз будзь шчаслівa, дзяўчынка,
Хоць не лёгка нам шчасце спаткаць!
Я ж адзін, як над рэчкай вярбінка,
Буду жыць і цябе ўспамінаць.

І на памяць, што ў сэрцы мне ўскрэсне,
Чым я жыў так і мучыўся чым,
Злажу самую лепшую песню
Аб табе і каханні тваім.

Самая лепшая песня, яна заўсёды ў паэта наперадзе. Мару аб самай лепшай песні ў Купалы нарадзіла каханне. Купала, які гаварыў Андрэю Посаху, што для яго ўсе яго вершы — роўныя, гэты Купала раптам думае аб самым сваім лепшым вершы, абяцае каханай і сабе самую лепшую сваю песню стварыць недзе пасля. Што гэта? Прадчуванне таго, што самыя

лепшыя творы будуць навеяны жанчынай? Разуменне таго, што каханне — выток самых высокіх песняў?..

Свайго абяцання дольнасноўскай паненцы Купала, аднак, не споўніў. Відаць, дольнасноўскае каханне — гэта было яшчэ не тое каханне. Не тое, калі яго заглушылі іншыя пачуцці, якія выліліся ў вершах «Развейся, туман...», «З песень жыцця», «Хмары і думы», «Дзе вы?». Усё гэта былі творы надзвычай горкія, непрасветлыя, поўныя адчаю, вельмі асабістыя — дакладная выява перажыванняў, якія мучылі Купалу ў Бараўцах летам 1908 г.— Купалу на раздарожжы, Купалу ў няпэўнасці, з якой ён чакаў запросін з Вільні, дзе другі год друкаваўся.

Яно вельмі лёгка — убачыць маладога Купалу каля пахілай хаты арандатаркі-маці ў Бараўцах, калі ўчытацца ў заклінальныя радкі паэта:

Развейся, туман, расплывіцеся, хмары,
Над хатай пахілай маей!
Хай сонца прагляне, хай цяжкія мары
Не мучаць душы і грудзей.

У Бараўцах сапраўды паэт жыў, як у тумане, не бачачы, што ў яго наперадзе. Мары пра вучобу, пра Вільню, пранесеныя з юнацтва праз службу ў броварах, сапраўды былі цяжкімі, мучылі душу.

Штось клікала рваццa і вышай, і далей,
На лепшае звала жыццё.

Гэтае «штось» Ясь не мог вырваць са сваіх грудзей, яно было поклічам яго лёсу; яно «клікала... і вышай, і далей», і, зразумела, Ясь думаў, што толькі «на лепшае звала жыццё».

Але малюнак, які вымалёўваў паэт у Бараўцах, ставячы сябе ў яго цэнтры, аказваўся не толькі ландшафтам Бараўцоў. Ясь пісаў:

Стаю і гляджу я на хату крывую,
На ніву пустую сваю —
І слёз не стрымаю, і ціха бядую,
І вудную песню пяю;

I к небу малюся, ў жыццё заглядаю,
Ці моц скуль якая не йдзе?
I цёмна, і нема ад краю да краю,
Ні свету, ні следу нідзе...

Ніякай моцы ніадкуль не ішло: у краіне панавала рэакцыя,— усебеларускай карцінай рэакцыі станавіліся вершы асабістага Ясевага болю, адчаю:

Ні свету, ні следу... марнуюцца сілы,
Дух праўды і волі прыгас,
Нядоля і гора, навокал — магілы —
Вось роднага шчасця абраз...

Магілы — каго? Тых, каго Ясь у сваіх песнях называў «хлопцамі непакорнымі» «з песняй удалою» і тых, што «на поле на прасторнае» «хадзілі грамадою» — «на поле не прасторнае», вядома ж, рэвалюцыі. Якім жа цяпер, пасля рэвалюцыі, стала жыццё? У Бараўцах Ясь асабліва думаў пра гэта і свае думы параўноўваў з хмарамі:

Чорныя хмары па небе плывуць,—
Чорныя думы заснуць не даюць...

«Чорныя думы» ўзнікалі ў Яся перш за ўсё ад усведамлення бясконцасці гора чалавека на зямлі, таго бедака-чалавека, што марна пакуль што «ваюе... з хмарамі, з думамі цэлы свой век...». Бо што ж становіцца песняй жыцця гэтага чалавека? Нядольная вясна ў курнай хаце, дзе ён нараджаецца; нядольнае лета без шчасця і пацехі; хіжая восень з нязжатым коласам на ніве, да якога Ясь упадабняе сябе, адзінокага, збедаванага; лютая зіма — чацвёртая і апошняя квадра года, як чацвёртая і апошняя квадра жыцця чалавека. Колас нязжаты ў гурбе снегу знаходзіць свой начлег. Ці не на вечны начлег пара выбірацца і яму, Ясю, што засядзеўся ў Бараўцах так позна, адзінока да восені?..

Пішучы ў Бараўцах свае нядольныя вершы, Ясь, канешне, не ведаў таго, што ён як паэт стаіць на парозе стварэння аднаго са сваіх першых наймагутнейшых твораў — паэмы «Ад-

вечная песня», якую вылучыць і пахваліць сам Максім Горкі і пра якую скажа: «Вось бы перакласці яе на велікарускую мову!»

«Адвечная песня» была не песняй аб каханні, абяцанай дольнасноўскай дзяўчыне. Яна была зноў жа песняй пра мужыка, пра яго жыццё-гора — адвечнай песняй гора мужычага, чалавечага, Ясевага: гора Ясевай маці — старой Луцэвічыхі, гора Ясевага бацькі — заўчасна памёршага.

...Кароў закапалі там, дзе яны палі, здзёршы толькі шкуры для гарбароў. Здавалася б, закапалі і скончылі з гэтай бядой. Ды — не! Бо як было той жа маці ўвайсці ў пусты хлеў?! А якім пустым здаваўся маці вечар без звонкага цурчэння порсткіх струменьчыкаў малака ў белую даёнку! Пустымі, недарэчнымі забаўкамі сушыліся ўжо каторы дзень на штыкетах плота чорныя гладышы. Лепш бы яны былі паліваныя, сонечна глінянага колеру,— а то вешкамі жалобы здаваліся Ясю крывыя парканіны з насунутымі на іх чорнымі стаўбурамі збаноў.

«Здохлі б каровы ў пані Чаховіч,— думаў, панурыста праходзячы паўз паркан, Ясь,— дык у пані іх як бы і не ўбыло. Ды не сама ж пані іх доіць». Глядзець жа на маці, як яна перажывае, было балюча. Хата была, нібы ў трауры. «І вечна ж, вечна так: як не адно, то другое»,— разводзіла рукамі маці.

«Вечна, вечна так»,— рэхам адбівалася ў Ясевым сэрцы. І як скончыць з гэтым вечным, адвечным? Як перарваць пупавіну ў мачыхі-гора, што не адпускае ад сябе ні Ясевай маці, ні яго, Яся, як раней не адпускала Ясевага бацьку?

Няўжо гэта само гора нараджае чалавека?.. Не! З гэтым Ясь згадзіцца не мог. Не горам і не на гора нараджаецца чалавек — ён нараджаецца для шчасця. Як гэта ў Караленкі? Для шчасця, як птушка для палёту! І яго, чалавека, нараджае ўсемагутнае жыццё. Дык я і дам слова,— думае Купала,— спачатку ўсемагутнасці жыцця. Хай гаворыць яго вялікасць Усемагутнасць жыцця пра чалавека ўвогуле, што

Ён будзе ўсіх чыста дужэй,
Ён будзе ўсіх чыста мудрэй...
Так будзе ён царам прыроды,
Сам найдасканальнага роду,
І будзе цар гэты навек
Названне насіць — чалавек.

Але ён не ўвогуле жыццё чалавека будзе апісваць. Ясю нападабаецца п'еса Леаніда Андрэева «Жыццё чалавека», ён нават захапляўся ёю, калі чытаў у Дольным Снове. Але ці ён, паэт Купала, ведае ўвогуле, што такое чалавек. Ясь ведае, хто такі мужык, ведае ўсе абставіны яго жыцця, — ад калыскі і да труны,— і Ясь будзе паказваць тое, што ведае. Значыць, не адвечная песня жыцця чалавека ўвогуле будзе ў яго, у паэта Янука Купалы,— у яго будзе адвечная песня мужыка, і Ясь назаве свайго героя паэмы — чалавека — Мужыком, напісаўшы слова «мужык» з вялікай літары.

Агульны план новай, зусім нечаканай для Яся паэмы, бо да гэтага Ясь пісаў толькі паэмы апісальныя, склаўся ў момант. Гэтая паэма будзе з шэрага праяў: першаю праявай будзе нараджэнне Мужыка ў ліповых начоўках, апошняй — смерць Мужыка, хаўтуры. «Вы, Антон Іванавіч, Ядвігін Ш.,— Ясь не мог забыцца пра рэцэнзію з «Минского эха»,— кажаце, што «жыццё беларуса завельмі манатоннае». Няма «рознакалёрнасці сюжэтаў»! Дарма, Антон Іванавіч! Ніякое не манатоннае ні жыццё ўвогуле, ні жыццё беларуса-мужыка! Яно — усе сем колераў вясёлкі! Так, усе сем! І таму я выпішу вяселле Мужыкова, выпішу як самы высокі момант яго жыцця:

Вось дзе, братцы, разгулянца!
Вось пацешыцца калі!..

І я зраблю так,— думае Ясь,— што Малады да Маладой будзе ў мяне гаварыць:

Зажывём мы па-сваёму,
Як ніколі, як ніхто.

І будзе ў мяне пастушок супакойваць сваю маці, што паслала яго на службу да пана:

Не плач, маці, і не злуйся
　　На жыццё,
Як я ў сілачку ўбяруся,
　　Змагу ўсё.

А гэта ці ж не мае словы да маці Боні,— спахапіўся раптам Ясь,— словы, што я ў душы сваёй гаварыў ёй ці не раз: «у сілу ўбяруся, усё змагу, усё табе, мама, зраблю, каб толькі ты не мучылася...»

Паэму «Адвечная песня», як і ўсё, зрэшты, Ясь пісаў хутка, апантана! Ён пісаў і пра само рэальнае жыццё мужыка, як той арэ, сее, косіць, жне, пісаў і ўвогуле пра мужычы лёс, пачынаючы ад паншчыны да вось гэтых, цяперашніх дзён — пасля рэвалюцыі. Ясь імкнуўся зрабіць свайго героя Мужыка мудрым вопытам гісторыі, а таму ўкладваў у ягоныя вусны словы:

Вынімала мне паншчына дух,
Зжыў яе — думаў, воля дасць хлеб,
І ці звёў, ці не звёў той ланцуг,
Як за паншчынай, бедзен і слеп.

Адвечная песня беднасці і слепаты!

Ясь задаволены — яму ўдаецца растлумачыць, паказаць у паэме, што з'яўляецца прычынай смерці Мужыка. Але сам-то Мужык — герой Ясевай паэмы — прычын сваёй адвечнай песні гора і асуджанасці не ведае: нараджаецца — не ведае, паміpae — не ведае. І тут Яся асяняе думка: Мужык павінен дазнацца аб гэтым, дазнацца хоць пасля смерці, што ёсць прычыны яго пагібелі, крыўдаў. «Дык я вазьму і падыму Мужыка з магілы — хай мой Мужык ценем з'явіцца на сваёй магіле, і хай гэты Цень Мужыковы і дапытваецца ў жывых прычын сваёй заўчаснай пагібелі, прычын свайго адвечнага гора».

Ясь задаволены. Ён дапісвае заключную, XII-ю праяву сваёй «Адвечнай песні» і называе яе «На могілках». «Здорава

ж гэта атрымліваецца,— думае ён,— нават з «таго свету» паўстае Мужык, каб даведацца, ці ёсць шчасце на зямлі, ці няма? Вось які шчасцялюбны, шчасцяпрагны мой чалавек, мой Мужык!»

Паэма атрымлівалася не толькі пра неразарваны ланцуг адвечнай песні народнага гора — яна станавілася адначасова і гімнам мужычай празе шчасця, прарочым клічам зрваць адвечныя путы жыцця, заснаванага на нялюдскіх законах.

Паэму «Адвечная песня» Купала скончыў 22 жніўня. Паставіў дату. Падпісаў: «У Бараўцах».

...Дзядзьку Амброжыка Ясь Луцэвіч заўважыў, як толькі той выйшаў з лесу. Дзядзька ішоў борзда. «Ці не да мяне? Ці не зноў што вычытаў?» — ведаючы дзядзьку Амброжыка як грамацея на ўсю аколіцу, які ледзь не ўсе мінскія і віленскія газеты чытаў, падумаў Ясь. Дзядзька Амброжык сапраўды ішоў да Луцэвічаў, і было нешта ўрачыста-святочнае ў яго самавітай паставе, у тым, як ён здароўкаўся з Ясем, як, нібы ўпершыню, разглядаў яго.

— Што новенькага ў свеце? — запрасіўшы ў хату, тым часам азваўся Ясь да госця.

— Ёсць, ёсць... А ці, васпан, «Нашу ніву» не выпісваеш? — пытаў Амброжык.

Калі ўжо дзядзька Амброжык павярнуў гаворку на «Нашу ніву», то Ясь здагадаўся, чаму сёння дзядзька Амброжык не такі, як той раз, калі перадаваў яму «Минское эхо», перадаваў, нібы адчуваючы нейкую перад Ясем вінаватасць. Ясь «Нашу ніву» атрымліваў, і ўжо ўчора ён прачытаў у ёй вялікую рэцэнзію на «Жалейку».

— Як жа, выпісвае,— адказваў Ясь і не мог схаваць усмешкі, бачачы, як сусед з Мачанаў на момант разгубіўся і як менш стала ў ім святочнасці і ўпэўненасці. Але дзядзька тут жа схамянуўся, даючы выхад сваім пачуццям:

— А мой дарагі суседзе, вось дзе наша газета, добра ж напісана, як добра! — і дзядзька Амброжык узмахнуў рукамі перад сваімі грудзьмі так, нібы пачынаў дырыжыраваць хорам.— А я думаў, не выспіваеце,— з «ты» на «вы» перайшоў госць з Мачанаў,— то і выбраўся во...

— Дзякуй, дзякуй, што прыйшлі, што не забываеце Яся,— уваходзячы з кухні ў святліцу, азвалася маці Боня і дадала: — Яно і пачаставаць госця не лішне было б. Запрашай, сынку, бо пара палуднаваць.

За сталом, узяўшы чарачку і другую, дзядзька Амброжык ніяк не хацеў налягаць на закусь, хоць прымусу хапала як ад Ясевай маці, так і ад Яся. Амброжык быў з тых, каго хлебам не кармі, а пачытаць дай. Ён чытаў бы і чытаў: няма каму слухаць, дык Амброжык нават сам сабе пачынаў чытаць і цешыцца тым, што чытае.

— А сын жа, напэўна, вам, пані Боня, не прачытаў таго, што тут пра яго пішуць,— ці не так я кажу? — пытаўся дзядзька Амброжык і, не чакаючы на адказ, прапанаваў: — То я вам,васпані, прачытаю, бо, далібог, спраўна нехта напісаў, далібог!

Луцэвічыха была згодна, Ясь не пярэчыў, і госць з Мачанаў пачаў чытаць, вымаўляючы кожнае слова выразна, не спяшаючыся:

— «Беларуская паэзія. «Жалейка», песні Янука Купалы». Гэта, пані Боня, загаловак,— тлумачыў Амброжык Бянігне Іванаўне,— во, бачыце, якімі вялікімі літарамі надрукавана. А во што пішуць: «Да нядаўняга часу за беларускаю моваю ніхто ў нас не прызнаваў права на сваё асобнае жыццё: яе высмейвалі, называлі «дубоваю», «хамскаю», ёй адводзілася самае незавіднае месца: далей мужыцкага задворка, далей убогіх мужыцкіх палёў не смела праходзіць мужыцкае простае слова».— Або няпраўда? — перабіваў чытанне дзядзька Амброжык і дадаваў: — Чыстая праўда, пані Боня, далібог, чыстая праўда!.. «У школе і ў жыцці,— чытаў далей дзядзька Амброжык,—

усё было зроблена так, што і сам мужык-беларус стаў цурацца і роднай мовы сваёй, і свайго народа».— Або няпраўда? — зноў перабіваў чытанне дзядзька і пацвярджаў: — Праўда, пані Боня, ісціная праўда!.. «Народныя песні тапталіся ў гразі». Праўда, пані Боня, самюткая праўда! «І васьмімільённы беларускі народ, прыдушаны векавым уціскам, забыты богам і людзьмі, рассеяны сярод непрытульных балот, лясоў, гор і пяскоў, не меў нават песняроў-«печальников» і заступнікаў...» — Ці бо няпраўда?! — зноў з клічам адарваўся ад газеты дзядзька Амброжык.— Божачка, божачка! Нас нямножачка, а і тым няма дзе дзецца!..— Амброжык папераменна паварочваўся то ў бок маці, то Яся і зноў сам свае словы пацвярджаў: — Праўда, пані Боня, праўда! «Печальники», пані Боня, то гэта па-руску «печаль», а па-нашаму, па-простаму — «смутак», толькі, відаць, «смутнікі» — няма такога слова, то напісана «печальники», бо мы ўсе панімаем па-руску...

Далей дзядзька Амброжык чытаў аб тым, што Беларусь дачакалася нарэшце сваіх «печальников», што да іх перш-наперш належыць малады пясняр Янук Купала.

— Паглядзіце, будзьце ласкавыя, пані Боня,— запрашаў дзядзька Амброжык,— бо тут не проста як усе іншыя словы, выдрукована «Янук Купала», тут выпісана,— каб кожны звярнуў увагу, каб запомніў. Вялікая павага, пані Боня, выказана тут.

«А сапраўды някепска напісана»,— думаў Ясь, абапёршы падбародак на складзеныя пад барадой адна на адну рукі, упёртыя локцямі ў стол. Дзядзька ж Амброжык аж устаў. «Песні Купалы,— нібы з амбону, вяшчаў ён,— гэта люстра, у каторым свеціцца душа беларуса, яго жыццё, яго родны край; гэта праўдзівы, непадроблены голас, што выходзіць з самай глыбі народнай душы, гэта — «крык, што жыве Беларусь!». І хто раней не верыў, каб беларускі народ мог прачнуцца і пайсці сваёй уласнай дарогай, той цяпер мусіць прызнаць, што беларусы яшчэ не ўмёрлі, яшчэ маюць сілу жыць і развівацца, што ўжо самі

яны «нясуць сваю крыўду на свет цэлы», захацелі «людзьмі звацца».

Як гэта ўсё непадобна было да рэцэнзіі Ядвігіна Ш.! «Умирающее наречие...» Не ўмірала і ўміраць не думае!..— маланкава думае Ясь.— Першы ў дзярэўні?.. Не дзярэўня мы, панове шляхта, не дзярэўня!..»

Дзядзька ж Амброжык працягваў чытаць, ды апанаваны думкамі Ясь выразна лавіў цяпер толькі асобныя сказы: «Думкі і погляды «Жалейкі» — гэта тыя ж думкі і погляды, што жывуць у народзе... Да вялікай працы будавання краю кліча пясняр наш свой люд... У «Жалейцы»... вобразы жыцця мужыцкага, роднай старонкі... і ўсюды поўна глыбокай жаласлівасці, цеплаты, любві да беднага, забітага краю...» Пакуль Ясь апанаваўся і зноў засяродзіўся, каб слухаць дзядзьку Амброжыка слова ў слова, той быў ужо блізка апошніх радкоў: — «Мы шчыра падтрымоўваем... песняра»,— чытаў дзядзька, і чытаў з такой інтанацыяй, быццам «мы» гучала не ад імя кагосьці, але ад асобы самога дзядзькі Амброжыка, толькі што ён, дзядзька Амброжык, не лічыў патрэбным пры гэтым пальцам у грудзі сабе тыкаць. Апошнія пажадальныя сказы дзядзька Амброжык таксама чытаў, нібы гэта ён сам жадаў Ясю: — «Няхай яго думкі... знойдуць сабе дарогу ў кожную хату вясковага беларуса. Няхай «Жалейка» будзіць народнае самапачуццё, няхай памагае беларусам прачнуцца ад векавога сну, жыць з новым жыццём, расці і развівацца ў добрай згодзе і разам з братнімі суседнімі народамі!»

Як сват на вяселлі, агалошваючы ўсе гэтыя пажаданні, стаяў у покуці купальскай святліцы добры сусед з Мачанаў дзядзька Амброжык.

— Уладак з Казіміроўкі,— прачытаў яшчэ дзядзька Амброжык подпіс пад допісам і, хітра прымружыўшыся, зірнуў на Яся.— А не з нашай гэта Казіміроўкі?

Купала лёгкім кіўком пацвердзіў.

— Ото сябра! Золата — не чалавек!..— выгукнуў дзядзька Амброжык.— Гэты кілішак давай, Ясь, вып'ем за Уладака з Казіміроўкі!

Дзядзька Амброжык з Мачанаў ладна заседзеўся ў Луцэвічаў, а газеткі з рук не выпускаў. Ён ужо прачытаў маці і пра з'езд таварыства «Крестьянин» у Вільні, і пра вызваленне з турмы дэпутатаў першай Думы, і пра школьную справу ў Турцыі.

— А гэта вось, пані Боня, ці не заспяваць нам? — гукаў дзядзька Амброжык, паказваючы на верш «Як выйду за хату...», надрукаваны ніжэй рэцэнзіі Уладака з Казіміроўкі. Маці моўчкі пасміхалася.

— Ну, калі пані Боня спяваць не хоча,— схмялеўшы, казаў госць з Мачанаў,— то хай сын пані скажа, ці пра вашу хату ў Бараўцах напісаны гэты верш, ці пра маю ў Мачанах? Бо і каля маёй хаты,— не сціхаў дзядзька,— «сівец, аер, куп'ё, вот і ўсё, вот і ўсё», «лаза, корчык, гніллё — вот і ўсё, вот і ўсё», і каля маёй «дарога йдзе».

Голас у дзядзькі Амброжыка быў танклявы, нечакана, нібы ў жанчыны, высокі, і нейкую мелодыю дзядзька Амброжык тут жа дастасаваў да слоў вершыка, пачаўшы, злёгку пахіствоючыся, спяваць:

Як выйду за хату,
Дарога йдзе,
А куды ж, кудою
Мяне павядзе?..

«Сапраўды,— думаў Ясь,— куды ж цяпер завядзе мяне дарога з Бараўцоў?..»

Дзядзька ж Амброжык, яшчэ раз зацягнуўшы «Ой, лю-лі, лю-лі, куды ж завядзе?», прадаўжаў спяваць:

Туды-сюды, сям-там —
Смех казаці людзям:
У астрог, у карчму,
Вот і ўсё ўсяму!..

— Крый божа, дзеткі! — азвалася маці Боня.— Пашто астрог, якая карчма?

— Ды гэта толькі ў песні так, пані Боня, божачка, божачка, у песні нямножачка...— запэўніваў дзядзька Амброжык.

«У песні, як у жыцці»,— думаў Ясь, але, убачыўшы сполах маці, пацвердзіў словы дзядзькі Амброжыка: — Гэта ў песні, мама, так, у песні...

На пачатку верасня Ясь Луцэвіч атрымаў доўгачаканае запрашэнне з Вільні. Яму прапаноўвалі месца бібліятэкара ў бібліятэцы «Веды» Даніловіча і супрацоўніцтва ў газеце «Наша ніва». Радасць Яся Луцэвіча была невымоўнаю. Мары жыцця яго здзяйсняліся.

# У ВІЛЬНІ,
# АБО ЗАЧАРАВАНАЯ КВЕТКА

Чакала Янку Купалу Вільня перадавая, шматнацыянальная, дэмакратычная — адзін са значных цэнтраў грамадска-палітычнага і культурна-нацыянальнага жыцця Расіі, Польшчы, Літвы, Беларусі пачатку XX ст. Чакала перадавая і асцярожліва маўчала ці адкрыта варожа паблісквала пенснэ Вільня афіцыйная — з пампезным каля кафедральнага касцёла помнікам Кацярыне II і не менш аграмадным — каля дома губернатара — Мураўёву-вешальніку. Цалкам жа абыякавай да якогасьці там Купалы была, вядома, Вільня клерыкальная, Вільня расфранчанага Георгіеўскага праспекта, заканадаўцаў апошніх паэтычных мод, што вольна адчувалі сябе пад крылом губернскага афіцыёзу — «Виленского Вестника», прапольскага «Kurjera Wileńskiego», чарнасоценнай газеткі «Крестьянин». Вільня, аднак, ведала Купалу куды больш, чым ведаў яе ён...

Такім ужо быў жыццёвы шлях паэта Янкі Купалы, што ён з самога пачатку пралягаў міма легендаў, курганоў. Нарадзіўся ў Вязынцы — ля Курганішча-Замэчка; вучыўся ў Бяларучах — школка стаяла насупраць Курганішча; цяпер ехаў у Вільню — да падножжа гары Гедыміна — кургана непакорнага Каліноўскага, нібыта пахаванага пад ёй.

Вільня, ты ўжо стала Купалу радаснай весткай, ты вось-вось станеш здзяйснёнаю яго запаветнай марай: ён, бібліятэкар, апынецца ў царстве кніг, ён, супрацоўнік рэдакцыі, будзе ведаць толькі адно: пісаць. Як гэта слаўна! Якое шчасце!

— Я люблю цябе, Вільня! — здаецца, чую я голас самога Купалы, які не мог не палюбіць, не любіць цябе, горада сваёй першай літаратурнай славы, сваёй маладосці, сваіх душэўных драм, пра якія мы ведаем дасюль так недаравальна мала.

...Як на крыллях радасці, ляцеў у 1908 г. у Вільню Купала, але было ў яго свядомасці і ў падсвядомасці і тое, што насуперак уздымнаму, святочнаму трывожыла, непакоіла, як заўсёды непакоіць неразгаданае, новае. Ехаў Купала ўсё-такі ў горад незнаёмы, да людзей яму нязнаных, да падзей, прадчуць якія не ў моцы нават наймагутнейшыя паэты. Вядома ж, прыехаў Купала ў Вільню на вакзал і, як усе, хто прыехаў той раніцай, выходзіў у горад тунелем, але, падняўшыся па сходках з тунеля, куды накіраваўся ён, хто сёння ведае? Мог ён пайсці па даўно вядомаму яму адрасу «Нашай нівы» — на Віленскую вуліцу № 20, мог пайсці і ў бібліятэку Барыса Даніловіча «Веды», якая знаходзілася на галоўным праспекце горада і ў якую ён прыехаў працаваць памочнікам бібліятэкара. А з кім яму найперш рупіла сустрэцца? З Лапкевічамі, якія арганізавалі яго запросіны — фактычнымі выдаўцамі і рэдактарамі «Нашай нівы»? З намінальным яе рэдактарам-выдаўцом Аляксандрам Уласавым ці яшчэ з кім?.. Ваш сённяшні біёграф, дарагі Іване Дамінікавічу, менш за ўсё хацеў бы выдумляць сёння Вам ад сябе дарогі, сустрэчы, субяседнікаў, менш за ўсё хацеў бы здагадак.

...На другі дзень Вашага прыезду, Іване Дамінікавічу, Вас сустрэла тады зусім маладзенькая Паўлінка Мядзёлка — прыгожая, цянюткая, як быліначка, з тонкімі рысамі твару, тонкімі вусначкамі, задуменнымі шэрымі вачанятамі пад чарнявымі броўцамі і светлым лобікам, аблямаваным хвалістымі — каштанавага колеру — валасамі. Праз гады яна ўспомніць:

«...Аднаго разу, раніцай, зайшла я да знаёмых. Мне адчыніў дзверы малады мужчына. Ён быў у камізэльцы, рукавы белай кашулі закасаны, высокі цвёрды каўнерык ад манішкі падпі-

раў падбародак, светлыя валасы, яшчэ мокрыя, гладка прычэсаны. Упусціўшы мяне, ён застаўся ў кухні.

— Хто гэта такі? — пытаю ў гаспадыні.

— Янка Купала,— адказвае.— Учора прыехаў.

— Ку-па-ла?..— здзівілася я.— Я ж зусім інакшым сабе яго ўяўляла.

— А што, не спадабаўся? — смяецца яна.

Я змоўкла, бо ўжо ўвайшоў Купала, прыадзеты. Светлыя невялікія вусікі тырчалі ўверх востра закручанымі канцамі. Пазнаёміліся. Пачалася гутарка. Купала жартаваў, пытаўся ў мяне, ці шмат у Вільні прыгожых дзяўчат, ці весела яны праводзяць час. Наогул, гаварыў са мной, як з дзяўчынай, гатовай пажартаваць з маладым хлопцам. Насупіўшыся, я ўвесь час маўчала, незадаволеная жартаўлівым паваротам гутаркі. Я ўяўляла сабе яго значна старэйшым, паважным. Гэта ж чалавек, якому прадракалі вялікую будучыню, паэт, вершы якога так глыбока пранікалі ў душу, захаплялі. А тут раптам — звычайны хлопец, які вядзе такую несур'ёзную гутарку».

Дамо тут заадно слова і яшчэ аднаму відавочцу — беларускаму пісьменніку Максіму Гарэцкаму, які бачыў Вас у Беларускім клубе ў Вільні на Віленскай вуліцы, 29, бачыў, праўда, праз пяць гадоў пасля першай Вашай сустрэчы з Паўлінай Мядзёлкай. Вы сарамліва і ціхавата, грудным голасам прачыталі тады некалькі сваіх вершаў. Здаецца, паскакалі і полечку з нейкаю дзяўчынаю. Выпілі шклянку гарбаты ў буфеце і ціхенька пайшлі з клуба. Былі Вы тады яшчэ «малады, гадоў 30, і бландзін, дык выдавалі яшчэ маладзей. Хадзілі ў скромненькім шэрым гарнітурчыку і ў старых, зношаных бацінačках». Герой, які апавядае пра гэта ў Гарэцкага, падумаў: «Такі непрыкметны чалавечак і так складна піша вершы!»

Так не падумала, відаць, гаспадыня, у кватэры якой спыніліся Вы і дзе назаўтра ўпершыню спаткала Вас Мядзёлка. Але хто была яна, тая гаспадыня? Чаму і на схілку гадоў Паўліна Вінцэнтаўна імя яе не назвала?.. Хто з рэдакцыі прывёў

Вас, Купалу, да той гаспадыні? Бо, думаецца, найперш у рэдакцыю «Нашай нівы» пайшлі Вы, прыехаўшы ў Вільню; Вам не магло не карцець сустрэцца з аднадумцамі, паплечнікамі па ідэі, людзьмі, якія здалёку здаваліся Вам ідэальнымі, волатамі духу, абаронцамі ўсяго для Вас святога, светлага, прыгожага. Тым больш што ў адносінах да Вас яны былі яшчэ і дабрачынцамі: запрасілі Вас у Вільню, знайшлі работу, што дазваляла Вам і працаваць у рэдакцыі і мець, хоць збольшага, забяспечанае жыццё. Вы проста не маглі не пайсці ў рэдакцыю — месца сваёй будучай працы, не маглі не выказаць слоў падзякі людзям, якія рабілі Вам дабро...

З пышнымі чорнымі вусамі, плячысты, высачэзны рэдактар-выдавец Аляксандр Мікітавіч Уласаў быў сапраўды знешне падобны на волата. Імпазантны і разам з тым панібрацкі — са сваім басавітым смехам, бясконцым паўторам у гаворцы з субяседнікамі звароту «пане мой» і абрывам ледзь не кожнага свайго сказа пытальным «што?».

Браты Іван і Антон Лапкевічы былі зусім не падобныя адзін да аднаго. Малодшы — Антон — сапраўдны тады рэдактар «Нашай нівы», быў малады, бо аднагодак Купалы, невысокі дзяцюк з прыгожым белым тварам, з цёмна-шэрымі вачамі. Старэйшы брат — Іван Лапкевіч — быў на цэлую галаву вышэйшы ад брата — з прадаўгаватым, хударлявым тварам. Яны былі сыны чыгуначнага чыноўніка з Мінска. Абодва скончылі універсітэт (Антон вучыўся аж у двух — Пецярбургскім і Дэрпцкім) і былі людзьмі таленавітымі — адзін, старэйшы, захапляўся старасветчынай, другі, малодшы, выяўляў немалыя літаратурныя здольнасці — у публіцыстыцы і літаратурнай крытыцы. З абодвума братамі Ясь Луцэвіч пазнаёміўся яшчэ ў Мінску. Праз гады Антон Лапкевіч успомніць, што «ў 1905 годзе давялося яму і першы раз спаткацца з гэтым скромным, вельмі нясмелым і няпэўным сябе дзецюком у Мінску». У тых жа ўспамінах Антон Лапкевіч пісаў: «Рэдакцыя адразу ацаніла здольнасці паэта і пачала на пачэсным месцы змяшчаць яго

творы — побач з творамі Якуба Коласа. Урэшце рэдакцыя «Нашай нівы» выклікае Купалу з вёскі ў Вільню, расстараўшыся для яго працу... Папрацаваўшы год у Вільні і выкарыстаўшы для сябе — з аднаго боку — кніжныя скарбы бібліятэкі, а з другога — бліжэйшае знаёмства з нашаніўцамі, Купала ўвосень 1909 года перабіраецца ў Пецярбург...»

Бліжэйшае знаёмства з нашаніўцамі... Так, яно пачалося з прыездам Купалы ў Вільню, з працай яго ў «Нашай ніве», ды далёка не такім гладкім і ружовым яно было, як спрабаваў гэта праз гады — у Вільні і 1929 г.— выдаць былы рэдактар «Нашай нівы». Успаміны другога нашаніўца — Вацлава Ласоўскага — у пэўным сэнсе былі бліжэй да праўды, калі В. Ласоўскі таксама ў 1929 г. у сваіх успамінах для Інбелкульта пісаў пра купалаўскія «некаторыя сур'ёзныя і непрыемныя перажыванні перад выездам з Вільні ў Пецярбург у 1909 годзе...». Перажыванні Купалы былі тады сапраўды «сур'ёзныя і непрыемныя»: для Купалы, можа, больш сур'ёзныя, для Ласоўскага — непрыемныя...

У аўтабіяграфічным лісце да свайго першага біёграфа 21 верасня 1928 г. Купала пісаў: «...У 1904—1905 гг. я пазнаёміўся з беларускімі рэвалюцыйнымі дзеячамі (здаецца, членамі Грамады) У. І. Самойлам, быўшым маім рэпетытарам, Бурбісам, у будучым камісарам земляробства БССР, Сконрыкавым і братамі Лапкевічамі. Яны давалі мне нелегальную літаратуру для распаўсюджання і г. д. Бліжэй з імі я тады не сышоўся, бо па прыродзе сваёй быў я больш індывідуалістам і не мог бы выносіць партыйнага ці іншага падпарадкавання». Іншымі словамі, малады Ясь Луцэвіч на самым пачатку адмежаваўся ад Лапкевічаў як арганізатараў палітычнага руху. Выбар быў зроблены: пачалася канфрантацыя «Лапкевічы — Луцэвіч», якая будзе ой якая доўгая, ой якая складаная!..

У тым жа аўтабіяграфічным лісце ад 1928 г. Купала пісаў і відавочна супрацьлеглае ўспамінам Антона Лапкевіча, пісаў

так: «Знаходжанне ў Вільні і сустрэчы з віленскімі літаратарамі і грамадскімі дзеячамі асабліва на мне не адбіліся». Але гляньце, які Купала адкрыты, праўдзівы, як не хоча звальваць віны за гэта на каго-небудзь іншага, а бярэ на сябе. «Віной таго я сам,— у тым жа лісце тлумачыць ён,— захапляўся завельмі кампаніяй другога гатунку, на жаль». Крыху далей у Купалы — аб жыцці ў Пецярбурзе: «Знаходжанне маё ў Пецярбурзе ў сэнсе сустрэч з рускімі літаратарамі мала чым адрознівалася ад Вільні. Таксама захапляўся вясёлай кампаніяй, якая ў сэнсе духоўным мала чаго магла даць...» Прычынай таго,— сцвярджаў паэт,— была «мая тадышняя сарамяжлівасць, а можа быць, і маленькая гордасць, не хацелася ісці на паклон».

Запомнім жа купалаўскую «маленькую гордасць». Запомнім! Яна шмат у чым растлумачыць нам Купалу ў жыцці, ва ўзаемаадносінах з людзьмі, Купалу як асобу. Сам ён аб сваёй гордасці напісаў «маленькая», а Уладзіслава Францаўна, жонка паэта, якая 26 гадоў будзе ў жыцці поплеч з ім, першым словам у сваіх успамінах пра мужа напіша, што ён «быў вельмі горды, ніколі не любіў скардзіцца на свой лёс». «Быў вельмі горды», хоць здаўся Паўліне Мядзёлцы пры першай сустрэчы ўсяго толькі жэўжыкам-кавалерам, Антону Лапкевічу — «скромным, вельмі нясмелым і няпэўным сябе дзецюком», Максіму Гарэцкаму — з сарамлівым і ціхаватым грудным голасам «непрыкметным чалавечкам». Якімі падманнымі былі першыя ўражанні ад сустрэч з Купалам! Якім інакшым ён выдаваўся, чым быў!

Купалу глыбока не зразумелі ні пры першай сустрэчы, ні на працягу першага года жыцця ў Вільні ні Паўліна Мядзёлка, ні браты Лапкевічы, ні Уласаў, ні Ласоўскі, які стаў працаваць сакратаром «Нашай нівы» з сакавіка 1909 г., пераехаўшы ў Вільню з Рыгі. Найглыбей яго ў 1909 г. разумеў адзін Уладзімір Іванавіч Самойла. Але і той разумеў паэта вельмі па-свойму. Здарылася ж у Вільні тое, чаго Самойла Купалу ніяк не

накаоўваў. Вясёлая кампанія, багемаўшчына? Не, не так з-за гэтага занепакоіўся Уладзімір Іванавіч, хоць, вядома, яго непакоіла і кампанія не лепшага гатунку. Але першым чынам Самойлу занепакоіла іншае — Жанчына, якая магла забраць, паланіць усяго Купалу. Ды яна ўжо і забірала яго, і паланіла — несла паэту вялікую радасць, несла і неспазнаныя ім яшчэ да гэтага боль, перажыванні.

Мы памятаем, як даўно ўжо чакала гордая душа Купалы прышэсця Яе, як сэрца Купалы не падпускала Яе да сябе, баючыся Яе як перашкоды на шляху да кнігі, да паэзіі. Купала баяўся Прышэсця Яе, і той жа Купала, як матылёк на агонь, раз-пораз ляцеў на агонь кахання. Дасюль, аднак, калі Купала і ляцеў на гэты агонь, ён да яго не далятаў, бо дасюль Купала не знаходзіў узаемнасці. Горкай у свеце сірацінай даўно ўжо ў гэтай сувязі лічыў сябе Купала, а тут, у Вільні, Яна раптам узяла ды прыйшла: прыйшла нават раней, чым ён паспеў прысвяціць ёй верш, назваўшы яе «даўгажданай»:

Ты прыйшла ка мне тады,
Як звінелі халады,
Як стагнаў яловы плот,
Хохлік бегаў ля варот...

Стогн яловага плота тут невыпадковы, як і хохлік — д'яблік, нешта не самае лепшае, што перабягала дарогу каханню, што было ценем ад сонца ў небе. А можа, і чым іншым?..

І сагрэла ты мяне
Ў палуцьме, у палусне:
Паня ты была, я — пан...

Імя «пані» ведала маладзенькая Паўлінка Мядзёлка. Ці не імя гэта было той якраз гаспадыні, якой не назвала Паўліна Вінцэнтаўна, успамінаючы пра першую сустрэчу з паэтам? Яе імя ведаў Уладзімір Іванавіч Самойла, калі пісаў у лісце да Бранісслава Ігнатавіча Эпімах-Шыпілы: «Любоў жанчыны — любоў сляпая, якая распыляе душу, творыць цуды, але гэтая

любоў адно будзіць «цуд», які закладзены ў паэце; любоў мужскога духу, відушчая, асвечаная, збірае душу паэта чысцейшым пачуццём дружбы, падзякі, робіць з яго сапраўднага рыцара духу без страху і дакору,— героя не на хвілю, а на ўсё жыццё».

Але чаму раптам з'явілася ў Самойлы супастаўленне любові жаночай і мужчынскай? Што сталася? Чаму ў тым жа лісце ад 2 снежня 1909 г., у якім дадзена гэтае супастаўленне, ёсць словы «па поваду нашага беднага Янука» і нават такія: «баюся за яго вельмі»?..

Такое звычайна спадае на чалавека як гром з яснага неба. Яшчэ гэта называюць каханнем з першага погляду. Нам цяжка сказаць, ці гэтае каханне паэта было дакладна з першага погляду, а што началося ўсё з першай сустрэчы, гэта несумненна. Тая першая сустрэча была сапраўды тады, як яшчэ «звінелі халады», бо гэта было недзе ў сакавіку 1909-га — не ў першых числах, але недзе блізка каля іх, бо ва ўспамінах Вацлава Ласоўскага азначана, што ён у Вільню з Пецярбурга пераехаў менавіта «ў першых датах сакавіка» і, вядома ж, недзе ўслед за гэтым святкаваў наваселле, на якім Купала ўпершыню і сустрэўся з ёю. Ласоўскі наняў кватэру на Аляксандраўскім бульвары, дом № 18. Гэта была малюсенькая, танная кватэрка-аднапакаёўка, чатыры аршыны на восем ды яшчэ — Ласоўскі радаваўся — з сенцамі паўаршына на чатыры, якія аказваліся дармовымі, а добра пашыралі жыллё, якое разам з сенцамі здавалася зусім і не шасцірублёвым у месяц. На наваселлі за сталом з рэдакцыі былі Антон Лявіцкі і Янка Купала. Рэдактар і выдаўцы палічылі не за гонар для сябе ісці на наваселле сакратара рэдакцыі. З дамашніх новага сакратара рэдакцыі былі жонка і яе сястра. У сваіх успамінах В. Ласоўскі то абедзвюх сясцёр называе Пяледамі, то толькі сястру сваёй жонкі — Софію Іванаўскайтэ. У гэтым ужо выказваліся адносіны пана Вацлава да сваёй жонкі, пана Вацлава, які нібы забываўся, што і яго жонка — Лаздзіну Пяледа, і яго жонка — пісьменніца.

Пад псеўданімам Лаздзіну Пяледа сёстры ■ Каўнаса Марыя і Софія Іванаўскайтэ выступілі ў літоўскай літаратуры яшчэ ў 1898 г. У дзень першай сустрэчы з сёстрамі Пяледамі на наваселлі ў Ласоўскага ў сясцёр былі ўжо выдадзены кнігі «Тулач», «Счэзла, як сон», «Матуля паклікала». І была яшчэ іх кніжка — аднагодак купалаўскай «Жалейкі» — «Цудоўная жалейка». Як гэта цудоўна супадала: ён, Купала,— проста жалейка, яны, Лаздзіны,— цудоўныя, чароўныя жалейкі! Сёстры пісалі ў сваіх кнігах пра туляцтва, вандроўкі сялян па пакутах, пра сіроцкае адзіноцтва, пра ўціск над сялянамі памешчыкаў і горкую долю літоўскай жанчыны, а таксама спустошанасць, дэградацыю шляхты. Усяго гэтага з-пад іх пяра яшчэ не чытаў, не ведаў Купала, пераступаючы парог навасёлаў. Але дух сясцёр, багацце іх унутранага свету ён адразу ж адчуў, як толькі ўсчалася пасля першых маўклівых тостаў бяседа.

Дзякуючы Ласоўскаму мы ведаем, пра што яны, спаткаўшыся ўпершыню, гаварылі. Ласоўскі запісаў: «Янка Купала хваліў Блока і Славацкага. Асаблівай паклонніцай апошняга была мая жонка... Значную частку вечара заняло параўнанне Метэрлінка і Славацкага («Król-Duch»). Лявіцкі быў супраць усякіх мадэрнаў, і з ім салідарызавалася Пяледа (Сафія)».

Як, аднак, часта выдаюць незнарок сябе, свае прытоеныя пачуцці нават разумнейшыя людзі! Ужо праз дваццаць год, пішучы свае ўспаміны пра год 1909, Вацлаў Ласоўскі зрабіў у машынапісным арыгінале ўласнай рукой вельмі, як яму здавалася, важную для захавання ягонага гонару праўку. У машынапісным тэксце было: «Купала хваліў Блока і Славацкага. Асаблівай паклонніцай апошняга была мая жонка...» І вось што Купала хваліў Славацкага, апускаецца. Славацкім — па папраўленаму тэксту — пачынае захапляцца толькі жонка пана Вацлава: каб, крый божа, не засталося ў чытача ніякага падазрэння, што нешта ў Купалы і пані Марыі было агульнае!..

Ці не з наваселля ў Ласоўскіх зарадзілася ў Купалы жаданне напісаць і свой сон: не Метэрлінкаву «Сінюю птушку»,

а сон у купальскую ноч — на кургане, сон пра кветку шчасця, якую шукаюць не дзеці, як у Метэрлінка, а ні то ён сам, Купала, ні то хто іншы, але абавязкова дарослы герой. Аб гэтай сваёй задуме Купала адразу ж скажа пецярбургскаму прафесару Браніславу Ігнатавічу Эпімах-Шыпіле, як толькі першы раз у Вільні недзе на зломе лета і восені 1909 г. з ім сустрэнецца. А тады, на самім наваселлі, Купала не толькі параўноўваў Метэрлінка са Славацкім. Ён пачаў з заўваг, што вельмі ж ужо нейкая кніжная сімволіка ў Метэрлінка — зусім не тое, што ў Славацкага. Пані Марыя не згаджалася:

— А Вялікая Радасць Быць Справядлівым, Радасць Быць Добрым, Радасць Завершанай Працы, Радасць Мысліць, Радасць Разумець, Радасць Сузіраць Прыгожае?..

— Зашмат радасці,— гаварыў Купала,— і ад Працы ў Метэрлінка не пахне потам. Абстракцыя! Мяне гэта не кранае. Найбольш уразіла пра царства будучага — пра дзяцей, што рвуцца ў свет,— нараджацца, жыць, стварыць Усеагульную Канфедэрацыю Планет Сонечнай Сістэмы, агонь, які будзе грэць Зямлю, калі астыне Сонца, знішчаць несправядлівасць... А памятаеце, пані Марыя, як гэта там? Час шукае сумленнага чалавека. «Яшчэ патрэбны сумленны чалавек, хаця б адзін, у якасці незвычайна рэдкай з'явы...»

— Час шукае яго і да гэтага часу,— смяецца пані Марыя, і вочы яе — іскрыстыя, ажыўленыя — здаюцца Купалу, як у маленькага героя Метэрлінка, поўнымі зор. А як яна, пані Марыя, хараша, захоплена гаворыць аб натхнёным узвелічэнні ў Метэрлінка сапраўдных радасцей жыцця, яго каштоўнасцей — Шчасце Блакітнага Неба, Шчасце Лесу, Сонечных Дзён, Шчасце Бачыць Зоры, Якія Запальваюцца, Шчасце Бегчы Па Расе Басанож...

— А будучы галодным усім гэтым ці вельмі станеш захапляцца? — пытае Купала.

— Дык Метэрлінк свет уласніцтва асуджае,— перабівае пані Марыя,— і ці толькі яго: успомніце Азызлыя ў Зямным

Шчасці! Га?.. Шчасце Есці, Калі Ужо Не Адчуваеш Голаду, Шчасце Нічога Не Разумець — сляпое, як крот, Шчасце Нічога Не Рабіць і Шчасце Спаць Больш, Чым Трэба, рукі ў якіх як хлебны мякіш, вочы як жэле з персікаў...

Купала здзіўляецца, як гэта пані Марыя так помніць дэталі Метэрлінкавага твора, гаворыць ёй камплімент, але тут жа выражае і сваю нязгоду, каб рукі гультая параўноўваць з хлебам.— Увасабленне Хлеба ў Метэрлінка,— прадаўжае ён,— мне ўвогуле здаецца нейкім нялюдскім, як і вады, і агню. Ну чаму той жа Хлеб у Метэрлінка павінен насіць раскошнае ўбранне, здаецца, пашы, высокі цюрбан, ятаган? Навошта прыдаваць відму Хлеба аграмадны жывот, тоўстыя чырвоныя шчокі? Наша беларуская казка ніколі б так хлеба не патрактавала, хлеб для нас — не экзотыка. Вось тут я Метэрлінка не разумею.

— Беларускі паэт сапраўды не можа гэтага зразумець, калі ён — народны,— падхопліваецца пані Марыя. Яна — высокая. Вочы — агністыя. Яна здаецца Купалу незвычайнаю.

— І агонь для вас, пане Яну, іншае, і вада... У Метэрлінка ён толькі паліць, у вас жа ён перш за ўсё купальскі — ачышчае, і вечны, як зніч...

— Зніч — ваш, літоўскі,— заўважае Купала.

— Калі наш, то і ваш: я яго вам дару,— усміхаецца пані Марыя.

Купалу з усмешкай пані Марыі чамусьці вельмі лёгка, сонечна.

Piękność... Córka Słowa,
Pani Któregoś z ludów na północy,—[1]

успамінае ён словы Славацкага, гаворыць іх уголас, жартуе:

— Калі вы, пані Марыя, уладарка якогасьці з народаў Поўначы, то як вам і не быць такой шчодрай: прымаю ад вас зніч, дзякую.

---

[1] Пекната... Дачка Слова,
Уладарка якогасьці з паўночных народаў...

Купала, устаўшы, імітуе грацыёзны паклон. За сталом — весела. Цытуе Славацкага і гаспадар новай кватэры, не ведаючы, што цытуе вельмі ўпапад, адрасуючы двухрадкоўе так ажыўленай сёння сваёй жонцы і такому галантнаму сёння Купале:

A mnie jej postać, wprzód senna,
Zaczęła jaśnieć jako słońce w głowie... [1]

— А я нездарма вам дару агонь, пане Яну,— з пявучым літоўскім акцэнтам, расцягваючы імя Купалы, гаворыць пані Марыя і дадае — на свеце толькі так і ёсць, як аб'явіў Славацкі:

Wieszcze się jawią w ogniu i guślarze
Przepowiadają przyszły świat nieznany... [2]

«Wieszcze»-пpapoкі нешта не вельмі падабаюцца гаспадару кватэры. Ён спрабуе пераключыць гаворку на іншае, але пані Марыя і Купала ўжо захоплены другой праблемай. Яны ўвогуле, як дзеці, гулліва пераскокваюць з аднаго пытання на іншае.

Абое як памешаныя на Славацкім.

Яна:

— ...Otwierać ran usta purpurowe... [3]
W jedną girlandę męki me uwiążę
Jak człowiek, który za tysiące czuje... [4]

Гэта ж так пекна, пане Яну! Не?..

---

[1] А мне яе постаць, раней санлівая,
Пачала сонцам яснець наяве.
[2] Прарокі ўзнікаюць у агні, і гусляры
Прадказваюць будучы свет таямнічы.
[3] Раскрываць ранаў вусны пурпуровыя...
[4] У адну гірлянду пакуты свае упляту
Як чалавек, які за тысячы адчувае...

Ён:

— А гэта ж пякней:

Słońce lecące trzymała nad czołem,
A miesiąc srebny nogami gniotła... [1]

Або:

W koniu do krwi ostrogi umocze,
I będę pędził, aż drugą tak Cudną
Jak ty, pokaza mi ziemskie narody.
Choć by królową ognia albo wody.[2]

І як на саму каралеву агню і вады глядзіць на пані Марыю Купала, звычайна такі маўклівы, а тут такі незвычайна гаваркі.

Характару Купалы Ласоўскі яшчэ не ведае, а таму на ўзбуджаную гаварлівасць паэта асаблівай увагі не звяртае. Але вось пані Марыя і Купала пачалі гаварыць аб любові — не, не ўвогуле аб любові, ■ зноў жа аб той, пра якую ў «Króli-Ducha» Славацкага.

Марыя жахаецца Каралём-Духам:

— Не, нельга палюбіць, трымцець перад чалавекам за тое, што ён моцны, што наводзіць на іншых страх, што асуджае каго-небудзь на пакуты!

— Ды якраз гэта і здзіўляе ў Славацкага самога Караля-Духа,— гаворыць Купала,— Кароль-Дух здзіўляецца, што яго палюбілі-ўзвялічылі за яго сілу, за страх, які ён на людзей нагнаў, за мукі, на якія народ асудзіў.

— Такога ў жыцці не можа быць,— кажа пані Марыя,— ведаць, што нехта — кат, і — любіць... ка́та.

---

[1] Сонца ў палёце трымала над чалом,
А срэбны месяц пад нагамі зацiскала...

[2] Змачу да крыві ў баках каня шпоры
І буду гнацца, аж другую такую пекную,
Як ты, пакажуць мне зямныя народы,
Хоць бы каралевай агню або вады.

— Ёсць псіхалогія асобы, і ёсць калектыўная псіхалогія грамады. Любоў як каханне, як інтымная справа, любоў мужчыны і жанчыны — гэта адно. Па іншых законах фармуецца любоў грамады да якогась куміра...

Гэта ўсё непаспешна пачаў выкладаць Ласоўскі, не гледзячы ні на пані Марыю, ні на Купалу, ні на Лявіцкага, ні на швагерку. Сілай яго логікі аж завельмі захапілася Марыя: захапілася ў Пецярбургу, у Імператарскай публічнай бібліятэцы, дзе пазнаёміліся, дзе столькі разам напачатку чыталі, чытанае — перажывалі. Але цяпер — і даўнавата ўжо — тон у размовах пана Вацлава ці то з Марыяй, ці то з кім іншым толькі акадэмічна спакойны: пан Вацлаў ведае сабе цану, ведае, што ён — разумны, і,— думае Марыя,— кепска, што паказвае тое, што пра сябе ведае. Марыя так думае пра свайго мужа даўнавата ўжо.

— Так што,— заключае холадна Ласоўскі,— гэта абсалютна верагоднае, што сцвярджае Кароль-Дух: народ можна купіць крывёй, любоў народа — пралітаю таго ж народа крывёй. І Славацкі лепш вашага брата — позірк на Купалу — ведаў псіхалогію масы, калі пісаў:

Niejeden sobie wieśniak wieczór długi
Umili pieśnią — i tym się rozhardzi,
Że będzie o swych ojcach przypominał,
Jak śmiało na śmierć szli — gdy Król wyrzynał. [1]

Во, бачыце, песня зробіць нават заслугай рабскую пакору сцінаных, аб'явіць смеласцю ўвогуле бяздзейнасць, згодніцтва з каралём-узурпатарам. А караля-забойцу не асудзіць. Ці не так, нашыя прарокі? — зноў пазіраючы ў бок Купалы і Лявіцкага, скончыў Ласоўскі.— Ці яшчэ вы не будзеце ўмільвацца

[1] Не адзін вясковец доўгі вечар
Развесяліць сябе песняй — і тым пагапарыцца,
Што будзе ўспамінаць аб сваіх бацьках,
Як тыя смела на смерць ішлі, калі сцінаў
(народ.— *А. Л.*) Кароль.

песняй перад кім-небудзь, можа, яшчэ больш крыважэрным, чым Кароль-Дух?..

Вочы Купалы палалі. Ён у гэты момант проста ненавідзеў спакойны ментарскі тон гаспадара кватэры. А чаго быў варты адзін намёк на нейкае камусьці магчымае прыслужніцтва ліраў, ды яшчэ прыслужніцтва куміру, што гатоў купіць любоў крывёй?!

Вочы Ласоўскага — халодныя, чорныя. «Як у хохліка»,— старонячыся іх душой, падумаў Купала.

— Вы яго не ведаеце,— імкнучыся зладзіць уражанне ад слоў мужа, гаворыць пані Марыя, гаворыць, бачачы, як Купала раптам нібы зашпіліўся на ўсе гузікі. Але тосты на разыходную былі зноў вясёлыя і бесклапотныя, нібы ніякая чорная котка не перабягала паміж гасцьмі і гаспадаром. Купала, цалуючы руку ветлівай гаспадыні, можа, толькі даўжэй, чым трэба па этыкету, затрымаў яе ў сваёй, адчуваючы вузкасць далоні, халаднаватасць доўгіх пальцаў.

— Няўжо гэтымі пальцамі вы дарылі мне зніч? — пажартаваў.

— Не толькі зніч. Але ці вы заўважылі?..

Пані Марыя праводзіць гасцей не пайшла. Іх праводзіў гаспадар. На парозе заставалася пані Марыя, і Купала ніяк не мог забыцца ні ў той вечар, ні назаўтра, ні на паслязаўтра ціхага запрашэння:

— Заходзьце...

Рыцарства духу, рамантызм У. І. Самойла разумеў па-свойму: ён быў арыгінальны крытык, эстэтык, філосаф. Самойла любіў Аляксандра Блока. Яго любоў да паэзіі Блока была менавіта любоўю арыгінальнага крытыка і філосафа, і таму артыкул Самойлы, які быў надрукаваны ў Мінску ў зборніку «Туманы» [1], Блок вылучыў, імя крытыка запомніў, яго заўвагі

[1] «Александр Блок. Основные мотивы поэзии...». «Туманы», Минск, 1909.

палічыў «нешматлікімі выключэннямі», якія яго чамусьці вучылі, паставіўшы іх у сваіх матэрыялах «З першай аўтабіяграфіі» ў адзін рад з заўвагамі аб сваёй творчасці В. Брусава, Вяч. Іванова, Д. В. Філосафава. Больш таго, паміж А. Блокам і У. Самойлам узнікла перапіска, з якой сёння вядомы чатыры лісты Самойлы да Блока.

Блока ў сваім артыкуле Самойла параўноўваў з Дастаеўскім. Абодва пісьменнікі ўражвалі Самойлу прарочымі празарэннямі; уражвалі таксама адносіны Блока да традыцыі. «З рускай традыцыяй,— пісаў крытык,— звязваюць яго У. Салаўёў і Цютчаў, а вобраз Мадонны ставіць яго ў самую інтымную сувязь з эпохай Адраджэння, а адсюль — з усім наступным развіццём чалавецтва, на якое гэты вобраз меў такі аграмадны ўплыў...» І яшчэ: «Першай і галоўнай прыкметай таго, што дадзены пісьменнік не ёсць велічыня выпадковая і часовая,— з'яўляецца пачуццё шляху... Ад Багамацеры каталіцызму праз Багамацер Уладзіміра Салаўёва да жывой сапраўднай жанчыны-маці, жонкі, сястры — вось каротка эвалюцыя Блока». У першым са сваіх лістоў да Блока аб жанчыне ў Самойлы ёсць словы вельмі адкрытыя. «Я хачу,— піша Самойла Блоку,— аддаць Вам і Вашай паэзіі асабліва шмат увагі дзеля Вашай блізкасці да ідэі і вобраза Мадонны, каторымі я асабліва зацікаўлены асабіста». І ў трэцім лісце падавалася само канкрэтнае разуменне Самойлам вобраза Жанчыны ў Блока. «Вы ўводзіце,— пісаў ён паэту,— у наш свет жанчыну так, як яна яшчэ не ўводзілася ў нашай паэзіі (намёкі, настроі толькі ў Пушкіна): рэлігійна, але цалкам жывой... І гэтай Вашай заслугі не забудзе наша паэзія. Гэта — Ваша ўласнае, за гэта Вас палюбяць... І, канечне, гэта — Ваша інтымная пакута...» Як бачым, Самойла быў настолькі глыбокі, што ўгадаў нават інтымную, рэальную драму жыцця Блока — яго ўзаемаадносіны з ідэалізаванай ім першай сваёю жонкай, рэлігійнае абагатварэнне Блокам, якое ні на хвіліну не дапускала нават дотыку да рэальнай красы нарачонай. З рэлігійным трымценнем

Блок апяваў сваю Прыгожую Даму — жывую, але не для зямных якіх-небудзь уцех у дом паэта лёсам дараваную. І яшчэ ў тым жа трэцім лісце да Блока Самойла пісаў пра дзве праўды, якія для яго былі «не этычная або філасофская дактрына, а натуральна гістарычны факт». «Бо,— разважаў Самойла,— гэтыя дзве праўды дадзены прыродай гатовымі, падзеленымі ўжо, але ўнутрана, глыбока адзінымі. Мужчына і жанчына, грыб і грыбніца, крыклівы сысун і матчыныя грудзі, «я» і «не я» — ніцшаўскае «я хачу» і «ён хоча»... «Наша праўда» — праўда «жаночая»... «Мая» — заўсёды «мужчынская». Ён, Самойла-крытык, аддаваў перавагу праўдзе мужчынскай, патрабаваў ад паэта, калі ён мужчына, ды яшчэ рамантык, каб была ў яго свая ідэя. Бо інакш,— разважаў ён,— «сапраўдных» рамантыкаў у нас, быць можа, ніколі не будзе, а ў Блоку Самойла знаходзіў менавіта сапраўднага неарамантыка, больш «чыстага», чым тыя, якіх ён бачыў на ўскраіне Расіі, у Беларусі, маючы, пэўна, перш за ўсё на ўвазе мясцовых, ускраінных рускіх паэтаў. Але не выключаў з іх шэрага, мабыць, і Купалы, і, такім чынам, і да Купалы адносілася пэўная раздражнёнасць крытыка ў гаворцы пра «якіясь-то «чыстыя» прынцыпы палітычнага або хрысціянскага рамантызму, каторы нельга тут нават прыблізна нацыянальна канкрэтызаваць». Купалаўскі рамантызм быў, канечне, паводле тэрміналогіі Самойлы, найбольш рамантызмам «чыстых» палітычных прынцыпаў, і таму, Самойлу здавалася, траціў нацыянальнае аблічча. Рамантызм Самойла разумеў сапраўды шырока, як празарэнне мінулага і будучага. Але як быць сучасным рамантыкам,— жахаўся ён,— калі наогул «нашы ўспаміны не далей учарашняга дня» (Чаадаеў), а ў нас тут нават учарашні дзень гідка ўспомніць. Дзе ўжо тут «радавацца цудоўнаму мінуламу»... Гэтая адсутнасць сваёй «нацыянальнай памяці», учарашняга дня (яе зусім заглушылі і скампраметавалі яўрэйскія «галоўныя плыні») — і робіць такім бледным, брыдотным і бяссільным наш рамантызм, нашу «душу», наш «Gemüth». У Блока Самойла якраз і знахо-

дзіў пераадоленне слепаты «бледнага, брыдотнага і бяссільнага» псеўдарамантызму, бачыў у ім набліжэнне да «сапраўдных рамантыкаў», вылучаючы ў паэзіі Блока найбольш дарагі для яго матыў, пры гэтым разважаючы: «Пра тое, што было — соладка ўспомніць, хоць і перад «смерцю» (рамантызм заўсёды пахне смерцю), але ўспомніць пра тое, чаго не было, і верыць, што будзе не заслужаная нічым «узнагарода» — і «соладка» і горка... Так памірае маладосць...»

Вельмі ж ужо асабіста самойлаўскае бачыцца ў апошнім вывадзе крытыка. На чатыры гады старэйшы ад Купалы, у 1909 г. ён меў ужо больш за 30 год, быў ідэалістам, шукаў у жыцці Мадонну, шукаў «чыстага» рамантызму, а маладосць ужо адыходзіла. Ён знайшоў любоў мужчынскую — Блока, ён усім сэрцам палюбіў Янку Купалу. «Мне ён вельмі дарагі» — гэта словы таксама з ліста Самойлы да Эпімах-Шыпілы. «Дарагі», а тут на шляху паэта становіцца жанчына, ды не Мадонна, а палкая, закаханая, самааддданая. Яго, Купалава, мужчынская праўда, здавалася Самойлу, можа абярнуцца, а то ўжо ці не абярнулася нашай, іх праўдай — жаночай. А гэта значыць, ці не церпіць крах у Купале рамантык, узгадоўваць якога ў ім пачаў Самойла, ці не церпіць фіяска яго, Самойлы, мужчынская любоў да Купалы, тая любоў, якая «не патрабуе, яна адгадвае». Любоў, каханне Купалы да Жанчыны патрабавала для сябе ўсяго Купалы. «Бедны Купала! Я трачу яго любоў»,— адчайваўся Самойла і ўсклікваў: — «О, шаноўны прафесар, памажыце яму Вашымі цудоўнымі выпрабаванымі намаганнямі, што не згубілі, аднак, усёй свежасці юначай чысціні і веры ў чалавека сэрцам. У Ваш уплыў я глыбока веру... Купала Вас палюбіць, дапамажыце яму...»

Але не толькі ад «жаночай» праўды, ад кахання ратаваў рамантык Самойла рамантыка Купалу. Ліст Самойлы са слёзнай просьбай да Эпімах-Шыпілы пайшоў з Мінска ў Пецярбург на 10 дзён пазней, чым з Вільні да таго ж прафесара пайшоў ліст самога Купалы. Гэта быў ужо нават не слёзны, а про-

ста ліст адчаю, безвыходнасці, ліст 21 лістапада 1909 г. «Вельмі паважаны паночку! — пісаў у ім Купала.— Даруйце, што асмельваюся так часта Вам дакучаць, але што я, гаротны, зраблю, калі маё паганае палажэнне да гэтага змушае. Я хацеў бы запытацца Вашай ласкі, што добрага чутно аб маёй справе? Я ў Вільні доўга не магу трымацца, а так шчыра хацелася б не загінуць і пажыць дзе-небудзь у культурным месцы, каб сябе загартаваць і ашліфаваць на службу беларушчыне і беларускаму грамадзянству. Пан Антоні Л., прыехаўшы з Пецярбурга, нічога пацяшаючага не прывёз для мяне. Мне надта хацелася б зубіцца ў Пецярбурзе ў якую-колечы бібліятэку; так гэта занянце неяк страшна люблю! Калі б што-небудзь падвярнулася, то тэлеграфуйце мне — я каждай секундай магу да Вас з'явіцца.

Калі нічога зноснага не прыдумаеце, то тым папраўдзе са мной кепска будзе.

Просячы яшчэ раз даражэнькага паночка і ўсіх супольнікаў не забывацца на мяне, астаюся з паважаннем і шчырам жычэннем усяго добрага. І. Луцэвіч».

...Што напраўдзе з Янкам Купалам магло кепска быць, аб гэтым ведаў Самойла, калі пісаў ліст да Эпімах-Шыпілы. Ведаў ён і ад чаго Купалу кепска, ад чаго той доўга ў Вільні трымацца не можа і можа загінуць: была Жанчына. Але гэта, можа, была найменшая бяда, і не яна на краі пагібелі трымала Купалу, хоць напэўна ўскладняла яго становішча, не яна была першапрычынай такой трагічнай, амаль безвыходнай сітуацыі, у якую трапіў Купала, яшчэ і поўнага года не пражыўшы ў Вільні.

У лісце Самойлы да Эпімах-Шыпілы першапрычыны драмы Купалы 1909 года выкладаюцца так: «Паміж намі кажучы,— пераходзіў Самойла на даверлівы тон,— Купала, як сапраўдны паэт,— лянівы і больш верыць у натхненне, чым у працу. Гэтую веру ў ім трэба аздаравіць — якраз настолькі, каб не забіць натхнення. І я думаю, што знаходжанне ў Вас, хоць і часовае,

акажа на яго менавіта гэты дабрачынны ўплыў. У Вільні, на жаль, гэтых умоў — не забі, не патушы духу, любові — не было, і часта ў іх з рэдакцыяй было не зусім да ладу і складу. Ён, здаецца, паленьваўся, яго недаацэньвалі».

Відаць, тэзіс аб тым, што сапраўдны паэт абавязкова лянівы (рудымент заблуджэнняў многіх крытыкаў!), разважаць асаблівай патрэбы няма. Але ўвогуле нас не можа ўражваць, што Самойла не робіць з Купалы куміра, не баіцца гаварыць пра яго гультайства, хоць, думаецца, і легенда аб ляноце Купалы пайшла не з ягоных вуснаў — Самойла толькі паўтарыў яе. За кім? За тымі, хто пусціў гэтую легенду ў свет, бо мы ўбачым яшчэ, як заложна працаваў Янка Купала ў газеце, калі працаваў, калі нішто не выбівала яго з каляіны служэння, як ён любіў тады гаварыць, беларушчыне, нішто не забівала ў ім, не патушвала духу, любові. Вось тут якраз сотні разоў і меў рацыю Самойла, калі пісаў: «У Вільні, на жаль, гэтых умоў — не забі, не патушы духу, любові — не было, і часта ў іх з рэдакцыяй было не зусім да ладу і складу». Не было ж «да ладу і складу» менавіта, з-за неразумення рэдакцыяй Купалы, недаацэнкі яго, а галоўнае — з-за рэзкага разыходжання Купалы з тым, чаго ён у прынцыпе ніколі не мог прыняць, з чым ён у прынцыпе ніколі не мог пагадзіцца.

З чаго ўсё пачалося, што Вільня, куды так рваўся Купала, стала не да стрывання, стала як заклятая кветка, тая і не тая, калі яе, чароўную, сарваў той, хто да яе ўсёй душой імкнуўся? Можа, з таго, як пасля першай сустрэчы ў рэдакцыі дабрадушны дзядзька Аляксандр Уласаў — рэдактар-выдавец — нібы беручы Янку Купалу і пад сваё апякунства, паспрабаваў уручыць яму грыўню — на абед, ды яшчэ прапанаваў, што за тры крокі ад рэдакцыі ёсць сталоўка-чайная, адчыненая «Союзом истинно русских людей», дзе можна за пяць капеек і баршчу і кашы з'есці. Купала ад грыўні рэзка адмовіўся: яна яго абразіла, як ялмужна, падачка! «А за стол з чарнасоценцамі і блізка не сяду»,— адрэзаў ён.

Уласаў дабрадушна смяяўся, прыжмурваючы свае касаватыя вочы. Заўважыўшы з самага пачатку сустрэчы касіну рэдактара, Купала быў не асабліва гэтым рады — яго не пакідала адчуванне скосу ці перакосу. Рэдактар, Купала быў упэўнены, павінен быць прамы.

— Дык вы, як і я, пане мой, хутаранін,— гудзеў, смеючыся басам, Уласаў,— не будзеце сёрбаць чарнасоценнага баршчу, што?

— Люблю капусту, а калі боршч, то ўкраінскі,— адбіўся Купала,— а хутары ці не тыя дактары, што камара звялі ў магілу да пары?..

Браты Лапкевічы былі менш з хутара, больш выкшталцоныя. Але як яны ні імкнуліся прытаіць сапраўдныя пружыны, што прыводзілі іх у дзеянне, іх ад Купалы ўтаіць было цяжка. Жыццёвыя з'явы і падзеі,— кажучы словамі Якуба Коласа,— Купала «ўспрымаў востра і ўмеў адразу бачыць іх сутнасць і сэнс». Не стала Якуба Коласа, пасадзілі Коласа ў турму, вызвалілася месца, дык можна было дабрачынцамі стаць: «Вось вам, дарагі Купала, найсардэчнейшыя запросіны ў рэдакцыю, а каб мець на боршч, вось Вам дабрачынная дамова, што вы будзеце працаваць яшчэ і ў бібліятэцы. У нас жа ганарару няма: мы — бедная беларуская газета, мы працуем толькі дзеля ідэі, дзеля пакрыўджанага народа, дзеля яго асветы, нацыянальнага самаўсведамлення, самазацвярджання чалавечай годнасці мужыка, беларуса, народа». І Купала рады быў, ахвотны быў дзеля гэтага працаваць. Ён прыехаў у Вільню энтузіястам, ён застаў там яшчэ не аднаго такога энтузіяста, як сам, і яшчэ адкрываў такіх жа энтузіястаў, сам іх прыцягваў да газеты, да «Нашай нівы».

Але што Купала яшчэ застаў у «Нашай ніве»? Застаў паласу размежавання ў ёй правых і левых тэндэнцый — размежавання пад адзінай шыльдай, якое давала сябе знаць ужо нават у тым, як дзе што размяшчалася ў рэдакцыі: пакой ад вуліцы быў прытулкам адных, святліца вокнамі на панадворак —

другіх. У пакоі ад вуліцы рабілася ўся фактычная работа: яе рабіў і Купала. «Даводзілася,— успамінаў ён пасля,— усё рабіць. Выпраўляць рукапісы, асабліва вершы, перакладаць з польскай, рускай і ўкраінскай моваў, рабіць карэктуру, дапамагаць у экспедыцыі газеты і г. д. ...Гэта ў 1908—1909 гг.». Што ж тады не рабіў Купала ў газеце, калі аб ім пайшоў погалас як аб лянівым? І адкуль пайшоў ён? Здагадацца няцяжка — са святліцы з вокнамі на панадворак, з-за дзвярэй, зачыненых ад Купалы на ключ і занавешаных цяжкой драпіроўкай. Але не будзем пакуль што адзанавешваць цяжкой драпіроўкі, не будзем адмыкаць дзвярэй у святліцу. Зірнём, як у сутунках перадпакоя ідуць дні і труды супрацоўніка «Нашай нівы» Янкі Купалы.

Няхай шакіраваў яго грыўняй рэдактар-выдавец, няхай ён адчуў ужо затоеную прыроду душ братоў Лапкевічаў, дні ідуць, і Купала ўпэўнены, што ён на сваім месцы, што ён працуе, як трэба, дзеля чаго трэба, дзеля каго трэба. І так яно было папраўдзе. Вершы Купалы ішлі з нумара ў нумар. У 1909 г. «Наша ніва» стала выходзіць у два разы часцей (у 1908 г. выйшла 26 нумароў, у 1909 г.— 52). Гэта значыла, што ў 1909г. удвая цяжэй стала працаваць у рэдакцыі. Цяжка было ўсочваць за ўсімі газетамі, каб застацца газетаю неправінцыяльнаю. Бо толькі ў Вільні ў гэты час выходзіла 20 газет — літоўскія, польскія, рускія; «Наша ніва» рэгулярна сачыла ў гэты час не толькі за рускай цэнтральнай прэсай — газетамі «Речь», «Русское Слово», «Новое Время», але і за такімі, як «Волжский Листок», «Окраины России». Цяжэй стала і з допісамі з месцаў, асабліва зімой ці ў бездараж, калі з рэдакцыі практычна ніхто не адлучаўся, і садзіўся тады сам Купала за пяро ўспамінаць, які быў мінулы год у Вялікіх Бясядах, у Баярах і Харужанцах і якія непралазныя дарогі каля Карпілаўкі, Жукаўкі, Лускава — дарогі, знаныя яму з маленства. 26 чэрвеня адлучыўся, напрыклад, Купала ў Бараўцы, да маці, ды ці не толькі пад умовай, што прывязе допісаў, бо тут жа па прыездзе пайшлі

ў чарговыя нумары допіс з вёскі Бараўцы пра пані Стшалкову ю, вялікая карэспандэнцыя з Астрашыцкага гарадка, допісы з іншых мясцін, якія мы сёння называем купалаўскімі — з Бяларучаў, Харужанцаў, з Сёмкава-Гарадка, Лускава. Пад допісамі стаялі розныя псеўданімы — Сусед, Здарэнец, Лускавец, Мікалай Цівунчык, Мікіта Чужаземец — усе, думаецца, з-пад рукі Купалы. Не пакінуў «Нашу ніву» Янка Купала без допісаў і тады, калі адправіўся ў Любчу, у маёнтак Бенін Уселюбскай воласці — у кастрычніку 1909 г. пасланы туды Даніловічам у якасці ўпраўляючага. Гэты факт якраз і замоўчваў пан Антоні Лапкевіч, сцвярджаючы, што непасрэдна з Вільні «Купала ўвосень 1909 года перабіраецца ў Пецярбург... А пярэбары, аказваецца, былі з перасадкай у Беніне, перасадкай, якая, паводле Купалы, працягвалася «каля двух месяцаў»...

Што Купала цягавіты — гэта Уласаў і Лапкевічы бачылі, што незацугляны імі — таксама бачылі. Бачылі яны і іншае, каб, вядома, патрактаваць толькі на свой лад. Яны — на свой, Купала — на свой; і ўсё гэта ў рэдакцыйнай мітусні, у перасудах і ўзаеманагаворах. Іх, дарэчы, было траіх, Купала — найчасцей адзін, адзін у сваім рамантычным служэнні ідэі, адзін у сваёй гордасці, сваім сіроцтве, сваіх блуканнях па пакутах, па жыццёвых універсітэтах, якія пасля пекла бровараў не скончыліся, якія прадаўжаліся на новым, вышэйшым вітку. І ўсё часцей у Вільні пачало прыходзіць да Купалы адчуванне, што ён па свеце туляецца, як цыган. І гэта было невыноснае адчуванне. Купала пачаў шукаць выратавання ад гэтага наслання. Фешэнебельны рэстаран «Шуман» не мог стаць прытулкам безганарарнага супрацоўніка «Нашай нівы». Але на Георгіеўскім праспекце былі яшчэ іншыя гасподы — цукерні «Зялёны Штраль», «Чырвоны Штраль». Яго пачалі часцяком бачыць у «Зялёным Штралі», ён увогуле пачаў знікаць з рэдакцыі — спачатку на дзень, два, а потым і на болей. І ў «Зялёным Штралі» яго не заўсёды знаходзілі.

Чым больш пазнаваў Купала рэдакцыйную кухню «Нашай нівы», тым больш яму было невыносна. Водгалас унутраных канфрантацый, ён не мог не выплыць цераз гады ва ўспамінах іх удзельнікаў. Дык паслухайма ж гэты водгалас.

Вацлаў Юстынавіч Ласоўскі, 1926 год. Ён успамінае: «За зачыненымі дзвярыма свяцёлкі з вокнамі на панадворак вяршыліся «высокія» палітычныя матэрыі. Адгалоскі шырокіх планаў даходзілі ў пакой ад вуліцы з трэціх і пятых рук, часта ў хаатычнай форме. Адно толькі было пэўным, што там ішла буйная ігра са значнымі стаўкамі з боку уніяцкай іерархіі і некаторых другіх, сільных у тыя часы, палітычных краёвых чыннікаў. Ад вуліцы ж — ішла публіка «чорная» і «шэрая». Думалі па-рознаму, жылі рознымі ідэаламі, насілі ў сабе зародкі розных кірункаў нацыянальнай мыслі».

Антон Лапкевіч. 1928 год. Успамінае: «...Ласоўскі, які, на жаль, адыграў не вельмі прыгожую ролю ў нашым адраджэнскім руху праз сваю хвараблівую «амбіцыю» ды імкненне да славы... Ласоўскі не быў ані сацыялістам, ані рэвалюцыянерам... і марнаваў свае сілы й бясспрэчныя здольнасці на няўдзячную ролю тварца клерыкальна-кансерватыўнае партыі (разам з баронам Шафнагелем, князем Святаполк-Мірскім і некаторымі ксяндзамі)...»

Ласоўскі абвінавачваў Лапкевічаў у сувязях з уніятамі, намякаў ледзь не на сувязі іх з чарнасоценцамі, бо хто ж быў з «сільных у тыя часы»? Антон Лапкевіч абвінавачваў Ласоўскага ў сувязях з ксяндзамі, баронамі, князямі. Што Лапкевічы таксама не чураліся сувязей з князямі, відаць, напрыклад, з таго, што ў 1914 годзе Іван Лапкевіч угаворваў Паўліну Мядзёлку стаць пакаёўкай княгіні Радзівіл, каб паўздзейнічаць на яе, выклікаць сімпатыі дзеля ссуджэння ёю грошай «Нашай ніве». Дарэчы, з той жа прапановай звяртаўся тады ж да Мядзёлкі і адзін з лідэраў беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў Франук Будзька, толькі што з просьбай павярнуць княгіню ў бок каталіцка-клерыкальнай газеты «Беларус», бо «там гэты

прайдзісвет Лапкевіч круціцца каля княгіні. Трэба паспяшацца, каб яго апярэдзіць». Мядзёлка не пайшла на ўгаворы ні Лапкевіча, ні Будзькі. Згадзілася, праўда, пайсці да Магдалены Радзівіл на карысць «Нашай нівы» Уладзіслава Станкевічанка, але толькі два тыдні яна вытрымала ў замку ў яснавяльможнай прыдурлівай пані. Ці паспела за гэты час князёўна штось ахвяраваць на «Нашу ніву», невядома, але вядома, напрыклад, што нейкімі іншымі шляхамі Іван Лапкевіч вывудзваў усё ж у яе грошы, і таму на першай старонцы зборніка «Вянок» Максіма Багдановіча па ініцыятыве Івана Лапкевіча быў змешчаны знак лебедзя — герб Завішаў, з роду якіх была княгіня Магдалена Радзівіл.

Янка Купала ўвогуле з пачаткам працы ў «Нашай ніве» хутка заўважыў, што Іван Лапкевіч больш апанаваны справамі камерцыйнымі, чым «Нашай нівай», што, дастаючы рознымі шляхамі грошы на выданне газеты, на ідэю, ён матэрыялізуе гэтыя ж грошы і ў экспанатах старасветчыны — вядома, беларускай, нацыянальнай, вядома — таксама ж дзеля ідэі, дзеля паказу слаўнага багатага мінулага Беларусі, дзеля стварэння будучага нацыянальнага музея — славы народнай. Аб гэтым толькі і вядзецца з дня ў дзень бясконцая гаворка, ідзе рэклама, прапаганда. Але збіральніцтва музея, гандаль навакол нацыянальнай спадчыны, паціранне рук ад набытага, выцыганенага, выманенага, вельмі ж яно нагадвала Купалу малабясядскага крамніка Бромку з яго паціраннем рук ад хоць маленькага гешэфту.

А вечная сварка Івана Лапкевіча з Рамуальдам Зямкевічам? Менавіта з-за экспанатаў, з-за дзялёжкі іх. Вечныя абвінавачванні адзін аднаго ў ашуканстве... Пасля гэтых сварак Купалу малапрыемна было чытаць артыкулы Зямкевіча, хоць яны былі змястоўнымі, выяўлялі чалавека здольнага, адукаванага, неардынарнага.

У кафэшантанах на Георгіеўскай з грамафонных раструбаў толькі і чулася:

Всюду деньги, деньги, деньги,
Всюду деньги без конца,
А без денег жизнь плохая,
Не годится никуда!

Але як слаўна, што на той жа Георгіеўскай ёсць бібліятэка Даніловіча. У ёй Купала адыходзіў душой. Ціша бібліятэкі. Спаважная ціша кніг — мудрых, шматтомных унукаў і праправнукаў Скарыны. Тут можна паволі дасхочу гартаць старонкі. Няма спешкі. Душа-чалавек — сам Даніловіч, інтэлігент сапраўдны, кніжнік; адкрыты пагляд — вочы не бегаюць, не круцяцца, як у гандляроў. Ён іх жмурыць, блізарукі. Дастае акуляры. У акулярах ён выглядае яшчэ старэйшым. І памаўчаць каля яго хораша. Ці не ўпершыню Купала тут, у бібліятэцы, поруч з гэтым таксама маларазмоўным чалавекам вядзе гаворку моўчкі, залечвае раны свае моўчкі — каля добрага чалавека з кнігай у руках.

Тут, у бібліятэцы, ціша. Тут ніхто не азавецца з-за зачыненых на ключ дзвярэй: «А што там у клетцы Купалы?» У прадпакоі рэдакцыі, дзе выседжвае свае раніцы Купала, за спіной у яго — паліца на рукапісы, паліца з квадратнымі клеткамі; на кожнага аўтара. Клетка яго, Купалы, заўсёды не пустая. Але тут, у Вільні, Купала піша вершаў ці не ўдвая менш. Ён іх піша, ці, лепш сказаць, запісвае, складзеныя ўжо ў памяці, абдуманыя пры хадзьбе, перад засынаннем ці ў час сняданку, адзінокага абеду,— запісвае пераважна ў бібліятэцы.

А ў рэдакцыі, калі чуецца са святліцы з вокнамі на панадворак: «а што там у клетцы Купалы?», калі ён бярэ свае вершы з клеткі і праз шчыліну пад замкнёнымі на ключ дзвярыма прасоўвае іх у святліцу, ён ужо колькі разоў сябе ўвогуле адчувае, як у сапраўднай клетцы. Таму мо і не спяваецца яму тут так, як раней спявалася. Вольная птушка — у турме. І чаго ляцела гэтая птушка сюды? Каб праз шчыліну перапіхаць паперы, праз шчыліну — свае звонкія песні?!

Ідзе Купала з бібліятэкі ў рэдакцыю, і — хоць затыкай вушы ад хрыпу грамафона:

Всюду деньги, деньги, деньги...

Канчаючы вычытваць чарговую карэктуру газеты, у адбіўцы «Ад рэдакцыі» ледзь не ў кожным нумары Купала чытаў: «Аб'яўленні прымаюцца на паследняй страніцы па 40 кап. за лінейку малымі літарамі». Колькі плацілі заказчыкі за вялікія літары, таго Купала не знаў. У першай палове 1909 г. «Наша ніва» афішыравала падпіску на «Таврического народного учителя», на «Западный Буг», на саму «Нашу ніву», апавяшчала пра продаж гаспадарскіх машын і прылад Зыгмунта Нагродскага, кішанковых гадзіннікаў з вечным календаром першага гатунку, пра штомесячны грамадска-палітычны часопіс «Союз женщин», пра вялікі склад «машын, струментаў і насёнаў гаспадарскіх» акцыйнага таварыства «Тадэвуш Кавальскі і А. Трыльскі», пра ілюстраваны штомесячны часопіс «Наша птицеводная жизнь», пра выхад новай штотыднёвай газеты на польскай мове «Przegląd krajowy» у Кіеве, якая апавясціла сваёй мэтай «разбіраць і бараніць справы Украіны» і завяла асобны аддзел «З Беларусі і Літвы». Платных заказаў для газеты шукаў Іван Лапкевіч — гэта быў яго абавязак, «кемлівасць, матэрыяльная падтрымка «Нашай ніве». «40 кап. за лінейку малымі літарамі»; колькі «кап.» за вялікія літары, Купала не ведаў. Але Купалу было ўжо ўразіла тое, што ў канцы 1908 г. «Наша ніва» ўзяла ды стала афішыраваць падпіску на... «Виленский Вестник» і «Kurjer Litewski». Як гэта — на той «Вестник», на той «Kurjer», што цярпець не могуць «Нашай нівы»?! Хай ужо «Вестник», ён — афіцыёз. Але падтрымліваць шавініста Яна Обста — рэдактара «Kurjera»?! Купала палічыў «лінейкі малымі літарамі», перамножыў на 40 кап., і каб за гэткую крыху заломваць шапкі перад непрыяцелямі? Што?.. «40 кап.», гандаль вышэй таго, што раздзяляе «Нашу ніву» з «Вестникам» і «Kurjeram»?! Купала быў узбудаража-

ны, Купала хваляваўся, але выбуху яшчэ не адбылося. Да жніўня 1909 г. абуджаны ў грудзях Купалы вулкан толькі дыміўся, і якое будзе яго вывяржэнне, бадай, ніхто ў рэдакцыі не здагадваўся, як не ведаў таго і сам Купала. А тым часам накопліваўся выбуховы матэрыял не толькі з-за бедалажных «40 кап.».

Яна сама прыйшла да Купалы. Мы ўжо гаварылі: ён і верша не паспеў Ёй прысвяціць, не паспеў агледзецца. Яна была на дзесяць гадоў старэй за яго. Яна была замужняй і ад мужа свайго была таксама старэй на дзевяць год. Жанчына вялікай душы, вялікага гарэння. Лаздзіну Пяледа!

Пісьменнікі, як сыны да бацькі, падобныя да свайго народа, і ёсць у іх выразах твару, у іх вачах і ўсмешках, у іх паставах і рухах, у задуменнасці і выявах сваіх перажыванняў заўсёды абавязкова тое, што ўласціва тварам, усмешкам, задуменнасці — абліччу самога народа. Пісьменнікі, як сыны да маці, падобныя таксама заўсёды да прыроды сваіх краін — маюць нешта агульнае ці з пушчамі, ці стэпамі, ці дубамі, ці пальмай, ці снягамі, ці джунглямі. У адпаведным сэнсе і Лаздзіну Пяледа [1] — як Софія, так і Марыя, былі падобныя і да свайго народа-бацькі, і да маці-прыроды сваёй роднай Літвы. Наследуючы мудрасць народа, яго ўявы аб мудрасці і казачнасці, псеўданім сабе яны ўзялі ад мудрае казачнае птушкі Савы. Яны сталі мудрымі апавядальніцамі, асветніцамі, будзіцелькамі народа — між літоўскіх пералескаў, між арэшнікаў у ярах і арэшнікавага падлеску ў барах. І яны самі ўвогуле — маладыя яшчэ — былі як ляшчыначкі ў яры,— былі тады, як пачыналі пісаць, як шукалі сабе псеўданіма. Арэшнікавыя соўкі — добрыя духі арэшнікаў, заступніцы бедных і пакрыўджаных. І было дзве Лаздзіны Пяледы — Софія і Марыя. Для Купалы была адна Лаздзіну Пяледа — Марыя.

---

[1] Lazdyną Peleda — арэшнікавая сава *(літоўск.)*.

Яна была для яго плачкай над народнай нядоляй, як і ён сам; яна была для яго гордым рыцарам у бітве за ідэю абнаўлення свету, як і ён сам; яна была і незразуметая, як і ён сам, і адзінокая, і пілігрымніца.

Аб гэтай адзіноце пісала яе дачка: не старэйшая — Ганка, а малодшая — Станіслава. І ў Стасютэ гэта было, пэўна ж, пераказам слоў роднай маці, калі яна пісала, што бацька маці не разумеў, не ўводзіў у кола сваіх інтарэсаў, лічыў хатняй гаспадыняй, і толькі, і што маці была ад яго няпчаснай, загнанай, непрызнаванай. І толькі адзін чалавек зразумеў душу і сэрца Станіславінай маці — малады беларускі паэт Янка Купала. Іх размовам, душэўнай еднасці, узаемаразуменню не было канца. Купала нанова акрыліў маці на пісанне. Купала чытаў ёй уголас свае вершы. У іх было супадзенне палітычных кірункаў. Прадаўжалася гэта год, два, а пасля гэтага нарадзілася я, Стасютэ,— так свае ўспаміны пра маці канчала Станіслава.

І зусім іншыя ўспаміны пра Вацлава Ласоўскага выдрукавала старэйшая дачка Марыі Пяледы Ганка: бацька для яе — і таленавіты, і працавіты, і абыходлівы, і ўважлівы да сям'і, да маці...

— Ганка — старэйшая — дачка свайго бацькі; Стасютэ — малодшая — дачка сваёй маці — той адзіна шчаслівай, адзіна разуметай, калі яна была поплеч з Янкам Купалам...

Марыя! Тваё імя было яму святое, як імя божай мацеры. Навошта замоўчваюць яго? Чаму ж так доўга, як заклятае, ты не вымаўляешся? Бо ці ж каханне — грэх, а не дар, і гэта толькі сярэдневяковае хавала галаў ад цябе, як страус ад небяспекі хавае галаў у пер'е хваста. А чаго нам ад цябе, каханне, хавацца, цябе саромецца? Пушкіна не было б без яго кахання і каханняў.

Імя яе не назвала Мядзёлка, і мы яшчэ скажам аб прычынах, чаму не назвала. Імя яе не назваў Самойла, а ведаў. Імя яе, цалуючы, абдымаючы, паўтараў Купала «Ave Maria!».

Ён не мог не пайсці ў яе раскрытыя абдымкі: кнігамі ён ужо валодаў...

— Заходзьце! — запрашала ў вечар іх першага знаёмства Яна, а ён быў такі рыцар, што ўсё адкладваў свае заходзіны, а цяпер ужо каяўся, што адкладваў. Як ён мог такое адкладваць?!.

— Ты зноў, Яносе, смутны?..

Яна зазірае кожны вечар яму ў вочы. Яна любіць бяздонне яго вачэй.

— Усміхніся! — просіць, бо яго вочы, яны ж павінны ззяць сонцам, калі гэта праўда, што ён яе кахае, што яна для яго — усё.

— Ave Maria,— усміхаецца ён, але толькі вуснамі, і яна гэта бачыць і міла прыкідваецца, што крыўдзіцца: — Які ты неслух, Янас!.. Зноў што-небудзь у рэдакцыі?..

Яе голас добры, спагадлівы. І якая яна вынаходлівая, каб развеяць яго пахмурасць, каб ён заўсміхаўся, быў толькі шчаслівы.

— Не хочаш, Яносе, паслухаць казачку — аб смутных вачах? — пытаецца.

— Чаму б не,— згаджаецца ён.

І яна пачынае ціха, таямніча:

— За пушчамі, за Нёманам, за алешнікавымі гаямі, за арэшнікавымі ярамі жыло-было хлапчанё — белы абдуванчык — харошае, харошае, вясёлае, вясёлае хлапчанё. І ўсё бегала яно па лузе, па полі і ўсё слухала птушак, спевы вятроў і цішыню, а яшчэ больш любіла слухаць дудароў і лірнікаў... Арандатар! — раптам звонка выгуквае Марыя.— Шмаруй колы шмаравідлам, а пераезды далёкія: зарыпяць, заплачуць восі за дзесятай гарой, але і за адзінаццатаю пан — не лепшы, ураджай, як бог дасць! — І зноў голас сцішаны, таямнічы: — Арандатарам жа быў бацька хлопчыка-абдуванчыка. Хлопчык-абдуванчык усё сядзеў на возе — на саламяным пасадзе: колы ўсё рыпелі, а ён, як панічык...

— Так ужо як панічык?! — перабівае Купала.

— Сам жа казаў: я к п а н і ч ы к,— вядзе казку далей Марыя,— я-ак па-анічык е-здзе, е-здзе...

— Прыехаў! — Купала хіліцца да яе пляча галавой.

— Не прыехаў, а сяа-дзіць, е-эдзе, сяа-дзіць, чытае. Бацька з рук яго кнігу вырывае, а ён — кнігу запазуху ці пад саламяны пасад ха-авае... І што толькі не пачынае тут у сэрцы хлопчыка-абдуванчыка рабіцца, таго ні ў казцы сказаць ні пяром апісаць! — ускліквае Марыя.— Пякельны разлад!

— Адкуль ты ўсё ведаеш?!.— здзіўляецца Купала.

— Арэшнікавая совачка ўсё ведае,— з удаваным звышгонарам кажа Марыя.— Як жа разумнай совачцы ўсяго не ведаць? — і жаласліва прадаўжае: — О беднае сэрца хлопчыка-абдуванчыка! У сэрцы тым усё, што ў кнізе, а ў вачах усё, што ён бачыць з воза. «Чаму ў вачах не тое, што ў сэрцы?!» — мучылася сэрца хлопчыка-абдуванчыка. І ведаеш, Яносе, што тут сталася з вачамі хлопчыка-абдуванчыка?! Яны зрабіліся смутныя, смутныя, ну... як у цябе!.. Ну... не чытаў бы ты, Яне, карэктуры хоць сёння! Ну, не пісаў бы хоць сёння!..

Паўтара месяца — з 1 мая па 16 чэрвеня 1909 года — Янка Купала не піша. У 1907—1908 гг. не было ў «Нашай ніве» спараных нумароў, а 1909-м — з'явіліся, пяць: 6 і 7 (прастрэл з 29 студзеня да 12 лютага), 13 і 14 (прастрэл з 26 сакавіка да 9 красавіка: рэдакцыя, відаць, не бачыла гатовага чарговага нумара наперадзе, а таму спарыла гатовы апошні сакавіцкі нумар з нумаром першага тыдня красавіка). Спараныя нумары былі і ў другой палове года: 28 і 29 (прастрэл у часе ад 2 да 16 ліпеня); 31—32 (прастрэл ад 21 ліпеня да 6 жніўня). Стоп... Бо тут мы набліжаемся да дня выбуху вулкана.

Верш «Заклятая кветка» быў на недалёкіх подступах да яго — верш пра купальскую ноч, пра «мільённыя... рукі», што цягнуцца туды, «дзе дрэмле купальскі курган»:

...Тых радасцю вочы смяюцца,
Тым зрэнкі крывёй заліло;
Ніхаюцца, корчацца, б'юцца,
Мяшаецца праўда і зло.

Мяшаліся «праўда і зло» ў «рэдакцыі «Нашай нівы». Дакоры сыпаліся: «Не піша!», «Разгультаіўся», «А мы ж для яго зрабілі ўсё: выцягнулі з правінцыі, далі работу, друкуем! Ён жа — толькі па «Штралях» цягаецца»!.. «Давай яму вясёлую кампанію!.. Кабеты ў галаве»... «З-за яго спарваем нумары!.. Ідуць страты!»

Страты!.. Самы лепшы паэт Беларусі ўсіх часоў упрыгожваў «Нашу ніву». Вершы паэта прадаўжалі ляжаць стосам у яго клетцы і рэгулярна з'яўляцца на старонках газеты, ці паэт зачытваўся да позняга ў бібліятэцы Даніловіча, ці шукаў сустрэч з Марыяй, ці сапраўды праводзіў час у вясёлай кампаніі і зусім не пажадаў скрыць таго ад нашчадкаў, чорным па беламу пакінуўшы ў аўтабіяграфічных лістах тыя мясціны аб гэтым, якія мы ўжо цытавалі. Самы лепшы паэт Беларусі ўсіх часоў — самы багаты набытак газеты, «Нашай нівы». Купала гэта ўжо разумеў.

Неразуменне ж Купалы імі яго раздражняла. У іх жа было адно: «Ваш самы лепшы паэт?!. А ён жа вунь: у кавярні, у цукерні, у рэстаране».

Так, у рэстаране, каб напісаць:

Там сабой таргуюць дзеўкі,
Бацька, сын купляе іх;
Там хватаныя капейкі
Пераводзяцца ўміг.
«Шуман» — Вільні кроў і косць,
Быў і будзе, як і ёсць.

Цешся, горад! Што там знача
Вёска з голадам, з бядой?
Хтось там стогне, хтось там плача —
Плюй, махай на ўсё рукой!
«Шуман» — Вільні кроў і косць,
Быў і будзе, як і ёсць.

Хто ў казіны рог не з'ехаў,
Хто з сумленнем — справу знай:
Гэй, да «Шумана» на ўцеху —
Ўтапіць долю, славу, край!..

«Долі, славы, краю» Янка Купала ў «Шумане» не тапіў, як і вясёлая кампанія ў Вільні была ў яго вясёлаю не толькі ад келіха, але і ад злых сатыраў на таго ж самага пана Кавалюка ці на чарнасоценнага дэпутата Думы Налівайку, ці на «ісцінна чорнае трыо» — прыслужнікаў цара, верхаводаў чарнасоценцаў Дубровіна, Пурышкевіча, Іліядора. Хацеў бы я быць у той вясёлай віленскай кампаніі Янкі Купалы, дзе ён, хаваючы ўсмешку пад калюча-тонкімі вусікамі, выводзіў голасам пана Кавалюка:

Я хрысціянін, не паганін,
Стварыў вобчаства «Крестьянин».
Сам Дубровінка-нябожа
Пахваліцца гэткім можа...

Думаў, вёску з хамскім людам
На такую злаўлю вуду,
Дый газетка чуць жывая,
Толькі сам яе чытаю.

Але, вядома ж, вясёлая кампанія Купалы была і проста вясёлай, хмяльной кампаніяй, і Янка Купала напісаў нам пра гэта, каб мы не выгароджвалі ў чымсьці яго, не апраўдвалі, а можа, у першую чаргу, каб пашукалі прычын, што адбівалі яго ад рук,— тых, што, прыцягнуўшы яго ў «Нашу ніву», думалі, што падграблі пад сябе. А ён заставаўся сам сабой — часта самотны, адзінокі. Самы ж найлягчэйшы паратунак ад самоты быў, вядома, на староніх людзях ці каля грудзей той, што вабіла. Доўга, аднак, так прадаўжацца не магло. У адзін, як кажуць, прыгожы дзень усё гэта павінна было грымнуць перуном.

У тым нумары аб'яў было як ніколі. Іван Лапкевіч пастараўся. Спараны 31—32 нумары, і аж дзевяць старонак аб'яў.

Купала адразу заўважыў гэта. Спачатку ішла рэклама «Современной библиотеки для всех» у 24 кнігах, «под редакцией известнейших русских и иностранных современных ученых сил», і Купала мог толькі зайздросціць таму, хто можа выпісаць такія прывабныя самімі сваімі назвамі кнігі — «Народы Вселенной», «Тайны Мироздания», «Великое Прошлое», «Литература. Полная история всемирной литературы. Образцовые произведения наших дней, современных писателей», «Изящные Искусства. Музыка (ён так любіць музыку!). Живопись. Ваяние. Скульптура. История изящных искусств. Образцовые произведения наших дней», «Наш внутренний мир»... Гэтая рэклама заняла разварот у дзве старонкі. Купала перагарнуў старонку, пачаў вычытваць: «В книжном складе «Обновление» С.-Петербург, ул. Жуковского, дом № 15. Поступили в продажу новые книги «Мир половых страстей. Картины половой жизни. Женщины и мужчины. Брачные и безбрачные наслаждения». «Картины»... «Наслаждения»... Каму патрэбны гэтыя «картины», «наслаждения» ў Бараўцах, Харужанцах, Малых ці Вялікіх Бясядах?.. «Чумберто Нотари. Эти дамы. Сцены современной жизни (Дневник Падшей). Перевод с 138-й тысячи итальянского издания». «Только напишите!! и вы получите немедленно совершенно бесплатно прейскурант резиновых парижских изделий, необходимых каждому Мужчине, каждой Женщине, как холостым, так и женатым!!» «Каму пісаць?.. Мужыку з Налібок? Каго бясплатным прэйскурантам спакушаць?.. Цётку з-пад Лагойска ці Магілёва ці прышчаватага хлюста з праспекта? Вось дык пойдуць допісы ў «Нашу ніву»! Толькі напішыце ў «Нашу ніву», і вы атрымаеце дзівосы парыжскай распусты!» А цераз старонку ізноў у цэнтры самым буйным наборам «Только напишите!!! и вы получите...». Колькі вы палучылі, пане Іване, за такім буйным наборам набраныя словы, якія Купала саромеецца голасна вымавіць?! Колькі, калі «40 кап. за лінейку мелымі літарамі»?!

Не, Купала не рынуўся калаціць кулакамі ў замкнёныя на ключ дзверы ў свяцёлку ад панадворка, не кінуўся ■ крыкам, лаянкай, ушчуваннямі. І не таму, што яны былі гаспадары, а ён — падзёншчык, клерк, хоць не наняты, але ўпрэжаны ў адну калясніцу, нямая сошка, і толькі. Ён увогуле ніколі не ўзрываўся, не раздражаўся вонкі, нават не выяўляў свайго раздражнення, а толькі вочы яго смутнелі — светлатвары, ён хмурнеў, здавалася, чарнеў хмарай, негаваркі ўвогуле, зацінаўся, уваходзіў у сябе, і лава распаленай горычы так апякала душу і сэрца, што вусны перасыхалі, у горле смягла. У нумары з дзевяццю старонкамі аб'яў быў і верш Купалы «Зажынкі». «Каб маімі вершамі,— думаў Купала, прыкрываць такое?! Каб справу, паэзію, ідэю змешваць з такім? Рамантык? Любыя сродкі ідуць дзеля дасягнення мэты?.. Wszystko jedno? Не! Не wszystko jedno! Не любыя сродкі, панове! Так, панове, рамантык і заплямляць святое справы не дам! Плямце без мяне!..»

Настрой Купалы ўсё ж у святліцы быў вычуты: больш парыжскіх вырабаў «Наша ніва» мужыку не прапагандавала. Але там, у святліцы, Купалу глыбока сапраўды ніколі не разумелі ці мо часам удавалі, што не разумеюць, свядома закрывалі вочы на розныя штучкі Купалы, як там маглі называць яго знікненні з рэдакцыі, яго зацінанне, унурыстае маўчанне: «Ці не з пахмелля маўчыць?.. Ці не пахмяляцца зноў рынуўся, не паспеўшы вычытаць карэктуру?..»

Пахмелле — заўсёды горкае. Рваўся Купала ў Вільню, у «Нашу ніву», як на пір, а вось табе, як у вір гаркоты:

Зоркі не ўбачыш, імгла непрыхільная
Свет спавіла непрагляднаю сеткай;
Вецер не мрэ і, як зданне магільнае,
Носіцца грозна па пушчах, палетках...

Злыбедаў стогны і цьмы неспажытыя
Жудаснай дзікасці поўны без меры.
Як жа салодзіце думкі разбітыя,
Сэрца з разбітай надзеяй і верай!

Бунт Купалы-рамантыка ніколі не быў скандальны, публічны, з «сиеминутной» спрэчкай, філіпікай, выпадам. Зацяўшыся ў сабе, Купала выношваў свой бунт, «як носіць маці пяясны воблік той дзіцяці», пакуль той бунт не станавіўся вершам. Мы пачалі цытаваць верш, які цяпер называецца «Вісельнік», а ў «Нашай ніве» ён друкаваўся без назвы — першы Купалам напісаны верш пасля няшчаснага нумара з паганымі аб'явамі, верш вельмі балючы, пякучы, бо гэта ж пра свае «думкі разбітыя» пісаў тут паэт, пра сваё «сэрца з разбітай надзеяй і верай» — надзеяй і на «Нашу ніву», і на людзей, да якіх імкнуўся Купала, ды вось не можа сябе ніяк супакоіць:

Годзе, душа маладая, пакутаваць,
Шляхам заломным снаваць бескарысна,—
Страшна загадкі усябыту расплутываць,
Выхад з туманаў знаходзіць разблісны:

К сонцу і зорам жыццё тваё рвалася,
Віхры і ночы на бой выклікала...
Згасла ўсё лепшае, згасла, зламалася,—
Далей змагацца сілы не стала.

Змагацца далей сілы не стала самагубцу, ад імя якога Купала пісаў свой верш «Вісельнік». Гэты самагубца, «пакутнік аплучаны», які «так сабе ўрэзаў трацініну века», ён жа сам, Купала. Мяне забілі вы, людзі са святліцы з вокнамі на панадворак! Я — труп, я — ваша ахвяра! Але гэта я памёр той, ранейшы, які верыў у вас. Гэта мая, Купалава, эпітафія па мне ранейшым, а ўвесь я яшчэ не ўмёр. Божа, мне ж толькі

Страшна загадкі усябыту расплутываць,
Выхад з туманаў знаходзіць разблісны.

Але Купала не можа іх не разблытваць. Яго вершы «Палац», «Чорны бог», напісаныя ў верасні — кастрычніку 1909 года ўслед за жнівеньскім «Вісельнікам»,— паэтавы пошукі гэтых разгадак, гнеўнае асуджэнне душ, што «да славы ўсябратняй не здатны, вокліка суму не знаюць», як і чорнага бога, што «тушыць новыя мглавіцы, тушыць новы з'яў».

Паланейся, развугляйся,
Змейны чорны бог,—
Ты йшчэ з белым не зраўняўся,
Ты яго не змог!..

Гэта быў ужо выхад з крызісу душы — Купала, як птушка-фенікс, узраджаўся з чорнага попелу. Паланеў, развугляўся змейны чорны бог у святліцы, замкнёнай ад Купалы на ключ, але ці ж яму зраўняцца было з белым богам, што быў у перадпакоі з выхадам на вуліцу — на народ, а не на парыжскія задворкі.

Канчатковы выхад Купалы з душэўнага крызісу быў, аднак, сапраўды толькі ў выхадзе на вуліцу. Але ў той час «выхад на вуліцу» было для яго тым жа самым, што і «выкінуты на вуліцу». «Пайшоў Купала? Пайшоў. Хай ідзе! — абыякава думалі ў святліцы.— У яго ж клетачцы засталося яшчэ вунь колькі вершаў, друкавацьмем сабе, а чытач і не заўважыць, што гэты багемшчык недзе сноўдаецца, а потым ва ўспамінах і напішам яшчэ, што мы адразу ж з рэдакцыі паслалі яго вучыцца ў Пецярбург...»

Зноў жа Барыс Даніловіч! Купала не скардзіўся яму. Купала быў горды. Купала маўчаў. Але Даніловіч разумеў рознае маўчанне Купалы. З гэтым — трэба было нешта рабіць, прыдумваць тэрмінова. Што? Даніловіч прапануе ехаць упраўляючым у Бенін — у ягоны маёнтак. Купала едзе. Купала, як мы ўжо ведаем, шле ў «Нашу ніву» адтуль — з Уселюбскай валасці, з Любчы — допісы, бо справы «Нашай нівы» для яго найвышэй — «Нашай нівы» — такой папулярнай, для народа патрэбнай,— для народа, які цяпер ці потым ці будзе ведаць пра гэтыя ўнутраныя ў газеце разнагалоссі. Але да вершаў Купалу ў Беніне пацягнула толькі цераз два-тры тыдні. І — цікава — за каго прасіў лірычны герой Купалы памаліцца жабрака ў вершы «Памаліся...» — прасіў памаліцца «за дабро, за збожжа», «за жывёлку-статак», «за край свой родны» і... «за людзей, за нелюдзь!». Памаліся і за нелюдзь дзеля краю, дзеля

справы, за якую і яна ж змагаецца! Прымірэнне? Не, часовы кампраміс!

Змаганне ідзе, прадаўжаецца:

Сонца з цемрамі змагаецца;
Мох злятае з хат і пунь;
Даль за даляй ажыўляецца;
Ўсходзе ядраная рунь.

З гэткімі настроямі вяртаўся Купала ў Вільню з Беніна ў золкім лістападзе 1909 г., абсалютна не ведаючы, да каго галавой там прытуліцца.

З Сяргеем Палуянам Купала пазнаёміўся асабіста ў жніўні 1909 г. Гэты юнак яму спадабаўся,— больш таго, улюбёнымі вачыма глядзеў на яго паэт, бачачы ў ім будучага беларускага Бялінскага, проста цешачыся яго тэмпераментам, жыццялюбствам, высокай паставай, гаварлівасцю. І які настойлівы, упарты, як умее адстойваць свае густы, свае перакананні! Ён жа, Купала, таксама адчуў у Максіму Багдановічу сапраўдны талент. Але вельмі ж па-рознаму яны пішуць, каб і ён, Купала, так энтузіястычна падтрымаў Багдановіча, як гэты юнак. Ён, праўда, выцягнуў з архіва, адваяваў перад Чыжом і панам Антонам і сапраўды цікавыя вершы Максіма Багдановіча пра лесуна, пра яго хрэсьбіны, і тыя з'явіліся ўжо ў газеце. Ці яны, маладзейшыя, Сяргей і Максім, лягчэй разумеюць адзін аднаго? Зрэшты, здаецца, дарма на адзіноту скардзіўся Палуян, дарма сум адзінокага лесуна паэтызуе Багдановіч. Адзінокія яны ўсе, Купала, Палуян, Багдановіч, паасобку, але не разам узятыя!

Як было не палюбіць Купалу Палуяна! Чыстая, дзіцячая душа, сінія-сінія вочы, такі захоплены юнак, такі ў свае 19 год адданы справе, адраджэнню Беларусі, народу! Каб кропля выгоды, разліку, спекуляцыі — ні кроплі! Як і яго, Купалу, Палуяна павяла ў свет адна сцежка: беларушчына. А магла не

павесці: бацька Епіфаній Іванавіч хоць з сялян, але спрытны,— мешчанін, купец, які стаў багатым землеўласнікам: валодае больш як 500 дзесяцінамі зямлі — маёнткам Крышычы каля Калінкавіч. Епіфаній Іванавіч — сапраўдны член «Мінскага таварыства сельскай гаспадаркі», ганаровымі членамі якога з'яўляюцца сам мінскі губернатар Гірс, сам губернскі прадвадзіцель дваранства Доўгава-Сабураў. Ён жа, бацька Сяргея, гласны Рэчыцкага павятовага земскага сходу. Фігура! А тут сын пакідае бацькаў маёнтак, пакідае такую перспектыву — самому стаць гласным, стаць членам усялякіх найвядомейшых таварystваў!.. У Купалы не было ўжо бацькі, у Палуяна — быў бацька і не было яго. Ды ў абодвух было адно — вялікая вера, вялікі клопат аб тым, што разбудзіла абодвух да актыўнага грамадскага жыцця.

...Яны сядзелі ў «Зялёным Штралі» — за асобным столікам. Купала любіў гэтую цукерню з-за інтэр'еру, дзе ўсё было вытрымана ў зялёным колеры: мэбля, шторы і фіранкі, сурвэты і сурвэткі. Колер травы, колер лісця,ігліцы — колер, на якім адпачывала вока Купалы і душа па якім сумавала ў каменнай, вузкавулачнай Вільні, рвучыся на лагойскія прасторы.

— Тыдзень ужо, Сяргейка, як паслаў я гэты ліст. Прасіў тэлеграфаваць. Ні ліста ў адказ, ні тэлеграмы...

Купала гаварыў з вялікімі пярэрвамі, голасам глухаватым, з вачыма амаль нерухомымі. Сінія вочы Палуяна (і што яму рабіць з імі?!) нібы смяяліся. Ён, Палуян, як не пазнаваў Купалы: «Той і не той!» — хоць мінулы раз, тады, у жніўні, ён бачыў Купалу мала вясельшага. Тады Купала ўвогуле не гаварыў, а тут вось як давяральна глядзіць сумнымі вачыма — вочы ў вочы.

— Купалле ты маё, Купалле!..— падкрэслена аптымістычна сваім звонкім фальцэтам, мо і залішне звонка, як на «Зялёны Штраль», ускліквае Сяргейка.— То ж да Пецярбурга — не на Малую ці Вялікую Пагулянку: пакуль туды, пакуль назад. А прафесар — чалавек вялікай душы...

— Вялікай, ведаю. Тое, што ён ужо зрабіў для мяне, для нашай літаратуры... Адкуль ты, аднак, ведаеш?

Сяргей не ведае. Чуў.

— Я таксама не ведаю,— выдушвае Купала і доўга маўчыць.

— А хто што з нас увогуле ведае? — адстаўляючы філіжанку з кавай, пытаецца ўжо не ў Палуяна, а ўвогуле ў кагосьці, у чагосьці — у мітуслівых кельнераў, у гэтай зялёнай абіўкі на крэслах,— Купала.— Каб я ведаў,— прадаўжае ён.— Немагчыма, Сяргейка, немагчыма. Я не ўмею скардзіцца. Я — не скарджуся, але ўсё — як супроць мяне.

— Я ж — не супроць,— чырванее Сяргей.

— Усё — супроць,— упарціцца Купала.

Абодва — бландзіны, абодва — маладжавыя; толькі адзін такі сумны-сумны, другі — аж саромеецца, што ён не такі сумны.

— Не магу,— гаворыць Купала,— увогуле не магу цяпер не тое што сядзець у рэдакцыі — зайсці не магу. Ён...

«Ён» — Вацлаў Ласоўскі, муж Марыі,— Палуян гэта ведае. Ён сядзіць насупраць яго ў рэдакцыі — сталы насупраць. А яна...

Купала вымае запісную кніжачку, з яе — фатаграфію Марыі.

Гэта была і Купалава любімая поза ці, лепш сказаць, манера сядзець — у паўпрофіль да субяседніка, які перад табою. Яна сядзіць на лавачцы. За спіною яе — магутны, у тры абхваты, дуб. Пад дубам — у засені яго разгалінаванай магутнай кроны — яна здавалася яму заўсёды маленькай, мініяцюрнай: і шчуплелі яе плечыкі пад фасоністым — з напускам — рукавом у элеганцкім палітончыку з вялікімі, як шэсць бурштыновых сонцаў, гузікамі, і завастраўся тварык, асабліва падбародак, які патанаў у калматым з доўгавалосай аўчыны каўняры. На галоўцы — модны цёмны капялюшык — як пялёстак, увагнуты пасярэдзіне і прыспушчаны пад дугой-брыльком ледзь

не да самага міжброўя. Чыстага, высокага, заўсёды задуменнага яе лба на фатаграфіі не відно. Відны задуменныя, пільныя вочы (зусім не падумаеш, што яны могуць усміхацца, мілаваць, гарэць запалам). І вусны сцяты: ад таго, што ў нешта невясёлае, неразгаданае паглыблены вочы? Калі яна ўсміхалася, на шчоках праступалі ямачкі. А тут вусны выпучыліся, здаюцца вузей звычайнага,— нібы выпучаліся для нямога развітальнага пацалунка. І зусім як дзіцячая торбачка ў яе руках — вышываная, самаробная. Ён любіў гэтую торбачку ў яе руках, гэты на торбачцы стылізаваны немаведама пад што квет.

А левая рука — ледзь паўсагнутыя пальцы — ледзь кранае левай шчакі: рука ляжыць па парэнчы лавачкі, на якой яны любілі сядзець.

Купала кажа Палуяну:

— Мудрая мая совачка: не з арэшнікавага маленства, а пад зялёным дубочкам маёй да веку памяці...

Сяргей не верыць, што гэта гаворыць яму ён, Купала, яму, юнаку. Сапраўды, чаму гэта ён, Купала, яму такое гаворыць? Купала сам не ведае.

Ці ўвогуле ведаюць людзі, калі што каму яны павінны сказаць ці не сказаць, падзяліцца з кімсьці чымсьці, што па душы, ці не падзяліцца?..

— Я — не выракся яе,— прадаўжае Купала.— Думаю пра яе. Чуеш? Бачыш?

Сяргей чуў, бачыў.

— А ты пра каго думаеш?..

Пытанне для Сяргея было неўспадзеўкі, і ён зачырванеўся яшчэ больш. Глядзеў у вочы Купалы, якія, яму здалося, ці не заіскрыліся смяшынкай.

— Думаю пра святога Уладзіміра,— усміхнуўся Палуян.

— У манахі сабраўся,— падтрымаў жарт Купала.

— О то ж — ва універсітэт святога Уладзіміра,— развёў рукамі Сяргей.

— У-ні-вер-сі-тэт,— паўтарыў Купала, расцягваючы слова па складах.— Доўгая гісторыя. Хутчэй у Падую зайшоў Скарына, чым цяпер паравозамі да якога з іх даехаць.

У «Зялёным Штралі», як заўсёды, было элегантна, у меру весела, квартэт Тхужа выконваў папулярную песню «Mów do mnie jeszcze!» [1]. Можа, падумаў Палуян, Купала так ахвоча і гаворыць з ім якраз пад запросіны гэтай элегічна-душэўнай песні. Але ўвогуле яны то маўчалі, то гаварылі. Тым не менш такім, як бачыў Палуян у гэты вечар Купалу, ён яго яшчэ ніколі не бачыў. І Купала, можа, першы раз у жыцці, а што ў Вільні, дык сапраўды першы раз, вось так гаварыў, так адкрываўся і ў сваёй гордасці, і ў сваёй зацятасці, і ў сваіх патаемных пачуццях.

— Толькі ва універсітэт, Сяргейка, толькі ва універсітэт. О, як яны ўвесь час выстаўляюцца: Дэрпцкі, Пецярбургскі...

— Асла колькі ні вучы, будзе аслом...

— Не, дарагі. Яны — не aслы. Навошта так?

— Але ж калі выстаўляюцца?..

— А ім і ёсць чым выстаўляцца. Ты думаеш, не?

— Верхняя палата! Тойаны!

— Верхняя, Сяргейка, верхняя! Ну, як цябе не любіць?! Верхняя і мы — ніжняя. Але каго ты там пасадзіў наверху? Што за шаманскае слова ўжыў?

— Якуты так сваіх багацеяў называюць. Я пра гэта якраз напісаў для газеты — і пра якутаў і пра чувашоў. «Недзяржаўныя народы». А хто ж іх зрабіў такімі? Хто зрабіў нас такімі, якімі мы ёсць? Хто зрабіў нам жыццё такім, якім мы яго маем? Я люблю жыццё, свет, красу, але ці на нашу долю ўсё гэта выпала?! Мы — толькі сейбіты. Мо і кепская доля спаткае нас, мо і зніштожыцца тое, што сеем, нягодай ды сцюдзёным сіверам, але не сяўцам думаць аб гэтым.

— Не сяўцам...— пацвярджае Купала.

---

[1] «Пяі ты йшчэ мне!..»

— Ідзе спешная сяўба,— прадаўжае Сяргей.

«Чаму спешная? — хоча разважыць Купала.— І спяшлівы ж гэты юнак,— тут за год, два, ды і за дзесяцігоддзі ці што паспееш: столькі ж страчана, столькі ўпушчана, усё трэба пачынаць нанова — ад мужыка, ад інтэлігенцыі, ад мовы, ад яднання ўсіх пакрыўджаных царызмам... Зрэшты, Сяргей усё гэта разумее, ён аб усім гэтым ужо напісаў,— вось толькі год, як пачаў пісаць, а ўжо столькі магутнага напісаў...»

Купала глядзіць на русявага, такога прыстойнага, высокага юнака: «Беларус!..»

«Mów do mnie jeszcze!» — другі ўжо ці трэці раз спявае модную песню па заказу квартэт Тхужа. А яму, Купалу, і яму, Палуяну, сапраўды ёсць яшчэ столькі рознага сказаць адзін аднаму.

— Тыдзень таму назад я паслаў тое пісьмо,— кажа Купала.— Пісьмо пайшло, а верш, што я ў той жа дзень напісаў, хочаш паслухаць?..

Polały się łzy me,
Czyste, rzęsiste...[1]

Міцкевіч. Адам. Калі палюбіў я гэты верш, і сам не памятаю. Па-польску разумееш? Слаба?.. Ну, не было маё маленства анельскім, хоць было сельскім. Век юначы? Вось ён, яшчэ не скончыўся. У вялікага Адама век мужчынскі — век паражэння. Няўжо ўжо мой век юначы — век паражэння? А я думаў, што ўжо ўсе слёзы адплакаў.

Палуян чытаў разгорнуты аскравак паперы:

Паліліся мае слёзы
На жывыя вербалозы,
На сухія ачароты,
На глухоты, на сляпоты...

---

[1] Паліліся мае слёзы,
Чыстыя, краплістыя...

Паліліся мае слёзы
На заломы, на дзярмёзы,
На надломленыя грудзі,
На ўсё, што было, ёсць, будзе.

Паліліся мае слёзы
На напасці, на пагрозы.
З цяжкай думкай — пакарыся! —
Паліліся, паліліся.

— Ты не пакорышся, Янка,— сказаў Палуян. Купала маўчаў. І нечакана заўсміхаўся:

— Не ведаеш польскай, а французскую?

Палуян зажартаваў:

— Улляна лён трэ, а Лявон кароў пасэ.

— Вось табе і пасэ,— Купала вымаў з партманэ-складанчыка фатаграфію.— Падпішу,— казаў і падпісваў: «На добрую памятку... ад шчырага сэрца... Вільня. 29.XI.09».— А паглядзі, якая Вільня парыжская,— гаварыў Купала.— Rue de Vilna, № 36, logement 11. Les cliches sont conserves[1]. А фатограф жа поруч з «Нашай нівай» — на Віленскай. А глянь яшчэ— прадаўжаў Купала,— як здорава выпісана: Ghodźko. Толькі не зразумець, як па-беларуску: ці Годзька — ад угодлівасці — ці Гадзько?.. Французскай мовы хоць я і не ведаю,— усміхаўся Купала,— ды — было нядаўна — праводзіў адну дзяўчыначку — маці ў яе француджанка. Не паленаваўшыся, яшчэ, чаго добрага, загавару па-французску.

Сяргей утураваў Купалу:

— Не паспеў нарадавацца літоўскай, а збіраешся вучыць іншую.

Купала не заставаўся ў даўгу:

— Ну то ўжо ўкраінскую некаторую вывучылі — не раўня нашаму.

---

[1] Віленская вуліца, № 36, кватэра 11. Клішэ захоўваюцца *(франц.)*.

Палуян пачырванеў. І яны прадаўжалі жартаваць, хоць у «Зялёным Штралі» аб'явіўся Кавалюк. У белай манішцы. Чорная бабачка. Каго гэта ён Купалу нагадваў?..

У «Зялёным Штралі» сапраўды можна было і пажурыцца, і пажартаваць.

— Годзьку і я пастараюся дагадзіць, вось толькі пабагацею,— гаварыў Сяргей Купалу,— і падпішу табе тады свой партрэт моваю Шаўчэнкі. Гарно будэ?..

— Будэ гарно,— згаджаўся Купала, хоць думка, чаму нічога не чутно ад Эпімах-Шыпілы, так і не перастала ныць у ім, як балючы зуб.

# БЕЛЫЯ НОЧЫ КУПАЛЫ

## 1910

Да каго Новы год прыходзіць раней, чым да іншых людзей? Відаць, перш за ўсё да выдаўцоў кніг, часопісаў, альманахаў, на падрыхтоўку якіх, вычытку карэктур, лістоў, сігнальных экземпляраў ідзе вунь колькі часу! Так было і пры падрыхтоўцы «Альманаха-календаря для всех на 1910 год», выдаўцы якога ўжо ў 1909 г. жылі 1910-м і які ў продажы з'явіўся недзе на пачатку снежня 1909 г. Выходзіла нават так, што альманах з'явіўся ў Пецярбурзе ледзь не спецыяльна да прыезду Янкі Купалы,— з'явіўся нібы і не без добрых намераў з боку выдаўцоў, якія, напэўна ж, і не ведалі, што іх альманах-каляндар стане адной з першых кніг, раскрытых Купалам у Пецярбурзе. Мала радасці, аднак, прынёс альманах-каляндар паэту. Пэўную ўжо абыякавасць да сябе, да сваёй творчасці Купала адчуў з таго, як былі перакладзены яго вершы — нядбала, недакладна. Але што было самым сумным і нават раздражніла паэта пры заўсёднай яго ўраўнаважанасці, гэта фатаграфія, якая была пры яго вершах і выдавалася выдаўцамі за яго падабізну. Да гэтага ў рускай прэсе фотаздымак Купалы нідзе яшчэ не друкаваўся, і атрымлівалася пэўная містыфікацыя забытага богам і людзьмі паэта — самотніка-беларуса. Апошняе асабліва лягло каменем на душы. І што з таго, што Купала ведаў, чыё аблічча было наперад яго вершаў: самога Францішка Багушэвіча, яго, Купалы, вялікага папярэдніка, мужыцкага адваката, магутнага будзіцеля нацыянальнай свядомасці беларусаў, рэ-

валюцыйна-сацыяльнага пратэсту працоўнага парэформеннага сялянства Беларусі ды яшчэ і паўстанца 1863 г. У іншых абставінах Купала мог бы нават ганарыцца, што так атрымалася, што яго зблыталі з такім чалавекам, з такой аграмаднай фігурай беларускай літаратуры канца XIX ст. Але навічку ў Пецярбурзе, чалавеку, які прыехаў шукаць у паўночнай сталіцы ідэальнага, светлага, справядлівага, крыўда, якая вынікала з абыякавасці выдаўцоў, была горкай. Таму Купала ў сваім адкрытым лісце да выдаўцоў «Альманаха-календаря для всех на 1910 год» пісаў: «Да краіны, у якой ідзе цяжкая непамерная барацьба за сваю нацыянальную і культурную незалежнасць, а таксама і да яе прадстаўнікоў, якія працуюць толькі для ідэі, а не для якіх-небудзь афер, павінны б людзі, у якіх яшчэ не пагасла пачуццё чалавечай вартасці, адносіцца больш карэктна і з больш высакароднай павагай». Радкі адкрытага ліста Купалы з'явіліся ў газеце «Новая Русь» 18 снежня 1909 г., з'явіліся дзякуючы падтрымцы як рускіх, так і новых беларускіх сяброў маладога госця Пецярбурга. Якраз з «Новой Русью» быў блізка звязаны Яўген Хлябцэвіч. Ён дапамог Купалу супакоіцца, прыйсці да раўнавагі пасля няўдалага прадстаўніцтва яго ў альманаху.

Увогуле 1910 год дасць прыклады такой карэктнасці адносін да Купалы, да беларускага слова, такой высакароднай да іх павагі, што цяпер, ведаючы гэтыя прыклады, непаразуменне з альманахам успрымаецца як фарсавы мімалётны эпізод. Бо сапраўды — гэта ж у 1910 г., праўда, у канцы яго, бо ў лістападзе месяцы ў двух аж лістах з Капры Максім Горкі, азнаёміўшыся са зборнікамі «Жалейка Янука Купалы» і «Песні-жальбы» Якуба Коласа, пісаў пра іх словы, ад якіх — ведай іх Купала ў 1910 г.— радасці ў яго было б поўнае сэрца. Не ведаў таксама Купала ў 1910 г., што яго кнігу пераслаў Максіму Горкаму Андрэй Посах.

Што, аднак, пісаў у 1910 г. М. Горкі пра Купалу і Коласа? У лісце ад 7 лістапада да вядомага ўкраінскага свайго сяб-

ра-пісьменніка Міхайлы Кацюбінскага Горкі пісаў: «У Беларусі ёсць два паэты: Якуб Колас і Янка Купала — вельмі цікавыя хлопцы! Так прымітыўна-проста пішуць, так ласкава, сумна, шчыра. Нашым бы трошкі такіх якасцей. О божа! Вось бы добра было!» 21 лістапада Горкі пісаў падобнае ж да А. С. Чарамнова: «Ці ведаеце вы беларускіх паэтаў Якуба Коласа і Янку Купалу? Я нядаўна пазнаёміўся з імі — падабаюцца! Проста, задушэўна і, відаць, сапраўды — народна».

Успамінаецца не без усмешкі. Даволі доўгі час беларускія крытыкі, цытуючы М. Горкага, апускалі паасобныя словы. «Прымітыўна-проста пішуць...» Божа! Ці ж не абразліва? Ці не кідае ценю? Няўцям было «абаронцам» нацыянальнага гонару, што словы «прымітыўна-проста» былі ў М. Горкага пахвальбой, якая вынікала з супастаўлення Купалы і Коласа з рускай мадэрнісцкай паэзіяй. Тая, вядома ж, не была ні прымітыўнай, ні простай, а — наадварот — настолькі ўскладнёнай, што якраз паэтычнай прастаты пачаў жадаць ёй Горкі. «Проста, задушэўна і, відаць, сапраўды — народна» — вось формула горкаўскага разумення Купалы жалейкаўскага, а не ўсяго Купалы, якому — чытай М. Горкі яго ўсяго пасля «Жалейкі» — ён мог бы ўжо таксама пажадаць «трошкі такіх якасцей».

Але настрой, выкліканы «Альманахам-календарем для всех на 1910 год», у пецярбуржца Купалы не быў працяглым. Паэта ў Пецярбурзе вельмі радасна вітаў прафесар Браніслаў Ігнатавіч Эпімах-Шыпіла, які, аднойчы гасцінна расчыніўшы перад Купалам дзверы, з кватэры сваёй нікуды яго ўжо не выпусціў: прыняў як іншы бацька і сыноў сваіх не прымае. І ўсе людзі, блізкія да Эпімах-Шыпілы, сталі блізкія Купалу. А было іх нямала, і гуртавала іх не толькі выдавецкая справа, суполка «Загляне сонца і ў наша аконца», але і зямляцтва, і ідэя культурнага адраджэння Беларусі, далучэння простага люду да асветы, культуры, і проста шчырасць, сардэчнасць, бескарыслівасць — першыя з рысаў, якія ў прафесары і яго сябрах вылучыў Купала. Гэта было не тое, што ў рэдакцыі «Нашай нівы».

Прафесар Браніслаў Ігнатавіч Эпімах-Шыпіла па ўзросту мог сапраўды быць бацькам Купалы. Ён быў з 1859 года нараджэння, а гэта значыць, што, калі Купала прыехаў у Пецярбург, яму было 50 гадоў. «Сівенькі, невялічкага росту, тоўсценькі, кругленькі, з выпуклымі сінімі вачыма на румяным твары» — гэта партрэт прафесара вачыма маладзенькай Паўліны Мядзёлкі, партрэт, так сказаць, дзявочай памяці. Вачам жа тагачаснага Купалы прафесар, пэўна, здаваўся такім, якім ён здаваўся студэнтам. Усе яны, «якія жадалі займацца ва універсітэцкай бібліятэцы, перш за ўсё траплялі да яго: ён сядзеў за сталом ля самага ўваходу, і яго абавязкам было выпісваць імённыя картачкі на права атрымання кніг». Студэнты,— як успамінаў потым акадэмік І. Ю. Крачкоўскі — вядомы арабіст,— «заўсёды прыходзілі ў здранцвенне ад павольнасці і акуратнасці, з якой ён гэта рабіў, праўда, з непераймальным каліграфічным мастацтвам, асабліва ў хітрамудрых росчырках подпісу яго незвычайнага прозвішча». Асоба, пастава Браніслава Ігнатавіча, напэўна, прыводзілі ў здранцвенне і Янку Купалу, асабліва калі ён упершыню ўваходзіў у яго шасціпакаёвую кватэру на 4 лініі Васільеўскага вострава, упершыню садзіўся за яго хлебадайны стол, сервіраваны з густам гаспадыняй Пясецкай, упершыню зайшоў у пакой, адведзены Браніславам Ігнатавічам яму і ў якім Купала жыў з пляменнікам прафесара Антонам Гагалінскім. Купала, які рваўся ў паўночную сталіцу, не мог не ніякавець перад прафесарам ужо і ад таго, што той ведаў аж дваццаць моў, выкладаў лацінскай мовай грэчаскую мову, а саму лаціну — на агульнаадукацыйных курсах Чарняева, студэнтам якіх ён жа і ўладкаваў паэта. Але дзіва з дзіваў было ў тым, што прафесар класічных моў быў поўны замілавання да мовы простай, хлопскай, беларускай. Мілаваўся ў ёй шляхціц, які скончыў поўны курс гімназіі польскай, ды яшчэ ў Рызе. Каторы ўжо год, пачаўшы яшчэ з 1889-га, калі Купале было ўсенькіх толькі сем, Шыпіле — цэлых 30, твор да твора збіраў ён «Беларускую хрэстаматыю».

Каліграфічным сваім почыркам знаток санскрыту перапісваў у сваю хрэстаматыю беларускія народныя песні, вершы на смерць Багушэвіча, творы нейкіх Феліксаў Тапчэўскіх, Іяхімаў Тамашэвічаў, Цёткі. Купала, напэўна, трымаў у руках «Беларускую хрэстаматыю» Эпімах-Шыпілы і, напэўна, не мог не заўважыць, што арганізатар друку, нягласны кіраўнік выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца» прафесар — выходца з полацкай зямлі, як і беларускі першадрукар Францыск Скарына, сын Лукі з Полацка, быў таксама ўлюбёны менавіта ў сонца: у Скарыны сонца было ў гербе, у Эпімах-Шыпілы — у назве выдавецтва: «Загляне сонца...». Не малітоўнікі і соннікі выдаваў Эпімах-Шыпіла, як тое рабілі генерал-губернатарскія выдавецтвы ў Вільні. 39 назваў выдала яго выдавецтва да 1914 г.— тыражом звыш 100 тысяч. І душой і казной гэтага выдавецтва быў ён — Браніслаў Ігнатавіч Эпімах-Шыпіла, які таму і быў адначасова: 1) памочнікам дырэктара бібліятэкі Пецярбургскага універсітэта, 2) выкладчыкам грэчаскай мовы лацінаю ў Рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі, 3) выкладчыкам грэчаскай мовы ў многіх гімназіях Пецярбурга. І лятаў прафесар з аўдыторыі ў аўдыторыю, адкуль сілы браліся, бо грошы патрэбны былі на суполку, на кнігі для народа, на выданне Купалы — у цэлым, на справу, да якой душой прыкіпеў прафесар класічных моў.

Фактычна кантора выдавецтва была ў кватэры прафесара; кватэра прафесара была ўвогуле месцам, дзе збіралася ў гады жыцця Купалы ў Пецярбурзе ўся творчая, родам з Беларусі моладзь, якая жыла, вучылася, працавала ў сталіцы. Збіраліся ў Эпімах-Шыпілы па суботах, і першыя пецярбургскія знаёмствы Купалы — якраз з гэтых субот — і з Яўгенам Хлябцэвічам, і са збіральнікам беларускіх народных песень Антонам Грыневічам; з польскім кампазітарам родам з Віленшчыны Станіславам Казурам, з гарбаром і паэтам з беларускага мястэчка Капыль Змітраком Жылуновічам — Цішкам Гартным; з тадышнім студэнтам гісторыка-філалагічнага факультэта Пе-

цярбургскага універсітэта Браніславам Тарашкевічам. Браніслава Ігнатавіча Эпімах-Шыпілу ўсе яны любілі. Але мы пакуль уваходзім у кватэру прафесара толькі з адным Янкам Купалам, які толькі што прыехаў у Пецярбург, толькі што атрымаў па новаму адрасу ліст ад Льва Максімавіча Клейнбарта, каторы стане першым біёграфам паэта. Клейнбарт просіць паэта даслаць яму аўтабіграфію. Купалу першы раз просяць аб гэтым, яго ўвогуле здзіўляе кніжнасць слова «аўтабіяграфія», але раз яго просяць, то, калі ласка, ён піша. І гэты першы купалаўскі аўтабіяграфічны ліст — лепшы паказчык агульнага настрою, з якім у дом Эпімах-Шыпілы ўвайшоў Купала, пазбыўшыся ўсяго прыкрага, што было ў Вільні, усяго невядомага, што навісала там над ім ад жніўня 1909 г. Ліст аднячасова быў поўны гарэзлівасцю гаротніка, які тым і жывы, што ўмее сам з сябе пасмяяцца, умее горка смяяцца ў вочы лёсу, які яго не песціць. Ты яшчэ поўны духоўных сіл! У цябе, як у маладосці, усё яшчэ наперадзе, хоць і не даюць табе абставіны здзейсніць тое, на што ты наважыўся! Ад наважанага ты, аднак, не адступішся, не,— насуперак абставінам — здзейсніш, здзяйсняеш тое, на што наважаны!..

Я люблю гэты першы біяграфічны ліст Купалы 1910 года, люблю найперш кола-бруньёнаўскі матыў «Жывы, курылка!», люблю жыццялюбства Купалы, перамаганосны яго дух, юначую гуллівую гарэзнасць чалавека са смутнымі вачамі. Пасміхаючыся імі, Купала канчаў свой першы біяграфічны ліст так:

«У Пецярбург прыехаў я без капейкі за душой і толькі дзякуючы выключна чулліваму сэрцу прафесара Б. І. Эпімах-Шыпілы неяк уладкаваўся і існую ў халоднай і суровай сталіцы... Безумоўна, шмат што даводзіцца замоўчваць, бо ў наш вясёлы час не скрозь і не аб усім зручна разважаць уголас. У заключэнне, парадыруючы верш рускага паэта, скажу:

Суждены нам благие порывы,
Да свершить ничего не дают».

Купала не згаджаецца з някрасаўскім акцэнтам «Да свершить ничего не дано». Дано! Дадзена! Ён жа гэта ведае: ён — можа! Іншая справа, што не даюць чалавеку здзейсніць яму наканаванае. Але мы яшчэ паглядзім, падужаемся! — пры ўсім пры тым думае, усміхаецца, сцвярджае Купала ці не ў прадчуванні сваіх першых белых пецярбургскіх начэй...

Віншавальны з новым 1910 годам Купалаў верш, звернуты да Б. І. Эпімах Шыпілы, быў не сказаць каб спрэс аптымістычны. «Што прынясе: ці калоссе, ці благое зелле нам? — пытаўся ў ім паэт і прызнаваўся: — Сіл не маю, не згадаю...» Ніякі я не прарок, ніякі не яснавідца, а вось пажадаць «між сваімі ці чужымі жыць ды шчасця нажываць», калі ласка. Спарочыць вам, дарагі прафесар, магу хіба што адно:

За ўсю ж працу ні палацаў,
Ані скарбаў не чакай;
Толькі будзе слава ў людзе,
Славіць будзе родны край!

А хтось гікне, дзіка рыкне
На бліск сонцавы жывы,—
Гэта стогны гадзін чорных,
На світанні крык савы.

Так, вы, дарагі прафесар, чалавек-сонца, «Стогны гадзін чорных» — гэта стогны якіхсьці там чарнасоценных Лукі Іпалітавіча ці ісцінна чорнага трыо — Дубровіна, Пурышкевіча, Іліядора... А ўвогуле:

Дружным ходам, год за годам
Чараду затопе дзён,
З імі зводы, непагоды,
З імі ўсё міне, як сон.

«Ўсё міне, як сон». Жыццё — сон. Не, гэта не Кальдэрон, не рэмінісцэнцыя з вычытанага, кніжнага. Навагодні верш пісаўся Купалам у снежні 1909-га, пісаўся пасля Вільні, з якое паэт прывёз задуму асобнай вялікай паэмы. Зноў жа трэба дзякаваць Клейнбарту, бо ён звярнуўся з просьбай расказаць пра

Купалу не толькі да яго самога, але і да Эпімах-Шыпілы, які ўжо 2 снежня 1909 г. пісаў вучонаму-капыляніну: «Будучы... у Вільні, я асабіста пазнаёміўся з маладзенькім паэтам... Ён паведаміў мне, што носіцца з тэмай драматычнай паэмы «Сон на кургане», якую пачаў пісаць. Я сказаў, што трэба толькі яму прыехаць калі-небудзь у Піцер, і калі ён гэта зробіць, то дзверы маёй кватэры, як яна сама, заўсёды для яго адчынены». Браніслаў Ігнатавіч адчыняў гэтым самым дзверы сваёй кватэры і для «Сну на кургане» Купалы — самай буйной яго рэчы 1910 г., за якую паэт засеў, пэўна, адразу ж пасля прыезду на берагі Нявы. І ці не толькі над адною ёю сядзеў ён усе першыя чатыры месяцы, бо першая вядомая нам пецярбургская дата пад вершам Купалы — 26 красавіка. Але, несумненна, раней гэтай даты былі напісаны, па крайняй меры, два вершы...

Такія весткі заўсёды нечаканыя, і ўтрапенне ад іх — неразвейнае. Што згарэў дом у маёнтку прафесара на Полаччыне ў Залессі, у Пецярбурзе даведаліся недзе ў тыдзень пасля пажару. Ад гэтага, аднак, лягчэй прафесару не было: дом быў яго надзеяй на блізкую ўжо старасць, там прафесар збіраўся дажываць свой век — дзе нарадзіўся, дзе хрысціўся. І гэты пажар сярод зімы быў як гром з зімовага неба. Прафесар быў шчодры душой, але ён раздорваў не наследаванае ў спадчыну — раздорваў запрацаванае самім, тое, што тады называлася «жалаваннем». Менш за ўсё, аднак, яму «жаловалось»: ён адпрацоўваў свой заробак з поўнай аддачай разумовых і фізічных сіл. Прафесара не маёнтак трымаў, а прафесар трымаў свой маёнтак той жа самай заложнай беганінай з аўдыторыі ў аўдыторыю — грашыма, якімі праца прафесара аплачвалася. З гэтых розных прычын скруха, жаль прафесара былі цяжкія, невымоўныя. Ён пазмрачнеў, сваімі піўнымі, трохі навыкаце вачыма не ўсміхаўся; раніцамі, паспешна глытнуўшы шклянку гарбаты, не выпрамляўся маладжава перад люстрам у прыхожай, пільна не разгладжваў шырокіх вусоў, не прылізваў на скронях сівізну, надзеўшы на свой адкрыты высокі лоб капя-

люш перад адыходам. I вечарамі цяпер у прасторнай зале кватэры прафесара мяккія фатэлі сталі мулкімі, мэбля, абабітая чырвоным плюшам, не ўзбуджала настрой, а прыгашвала, бо напамінала пажар, на сценах нібы толькі чорнымі сталі пейзажы-літаграфіі.

З прафесарам перажывалі ўсе — і такая заўсёды вясёлая, прыветлівая, з бясконцым запасам анекдотаў, народных баек, легендаў гаспадыня Пясецкая, і таварыскі, дружалюбны пляменнік прафесара Гагалінскі, і Купала. Але, відаць, пасля чытання сваіх вершаў у бровары ў Яхімоўшчыне Купала зноў толькі тут, у кватэры прафесара, відавочна ўбачыў сілу свайго паэтычнага слова, моц яго ўздзеяння. Здавалася, нічога такога асаблівага і не сказаў Купала дарагому прафесару — адно што «не смуціся, панок, што няшчасце прыйшло», «няшчасней ёсць ад нас людзі ў гэтым жыцці», «Вы — з навукай,— з ёй к шчасцю лягчэй»,— а сэрца прафесара супакоілася, яму палягчэла. Пэўна ж, не так ад таго, што ў канцы вершыка паэт успамінаў бога, які «больш мае... як раздаў нам, людзям» і «не забудзе Вам ласкай сваей. Светлым зробіць, як сонца, усё Ваша жыццё». Больш, відаць, уразіла прафесара якраз гэта сонца — слова ў радку, якое сапраўды як сонца прасвятліла хмурасць твару, прывяло да згоды з паэтам, што няшчасце «як прыйшло, так і сыдзе ад Вас». Купала ўмеў заспакойваць, умеў быць удзячным. Ён заспакоіў ужо тым прафесара, што вось не мог не напісаць яму з такой зусім непаэтычнай нагоды; ён заспакойваў яго сваёй маладосцю, сваёй упэўненасцю, будучыняй, якая ў яго, маладзенькага, маладзенькага — а такім жа здаваўся Купала прафесару,— была. Была! Гэта прафесар ведаў. Дык што там які-небудзь пажар у маёнтку, хоць гэта і ўласны прафесараў маёнтак!

Пажар быў, вядома, стратай. Але не з незваротных. Рэзала чырвань абіўкі ў зале прафесара, але адкрытаю, незалечанаю ранай не здавалася. Здалася 8 красавіка, калі ў Кіеве пакончыў з сабой, павесіўся Сяргей Палуян!

Куды ідзём?.. Куды пракляцце нас вядзе? — зашчымела думка Купалы, закрычала, запытала.

Дзе гарт, надзея, вера ў будучыню — дзе?..
Няшчасны край! Чым быў, чым стаў, чым
будзеш ты
З сваім век стогнучым народам?
За што, чуць-чуць прабуды з'ява к нам сышла,
А ўжо сляды крыжамі знача?

Пытанні білі ў самае сэрца паэта, і не было ў гэтым сэрцы адказу на іх. У вачах паўставаў мілы, дзяцінны, усмешлівы твар Сяргея — здавалася, беларуса з беларусаў, сінявокага, высокага, такога танклява зграбнага. «Ці не з табой, Сяргейка, гаварылі мы аб гэтым народным няшчасці — гаварылі, пісалі ў «Нашай ніве»? Ці не твая была думка перакласці, даць у «Ніве» па-беларуску «Агеньчыкі» Караленкі,— усё дзеля таго ж, каб дадаць атухі, уліць веры ў спакутаваныя, поўныя адчаю грудзі: «Наперадзе ўсё ж агеньчыкі, агеньчыкі! Агеньчыкі?!»

Наперад Купалу глядзець не хацелася.

Шырок гасцінец вечна толькі чыст, адкрыт
К шынку, астрогу і магіле.

Шынок, Купала ўжо зведаў дарогу ў яго і тут, у Пецярбургу. Ён і гэты верш, прысвечаны Сяргею Палуяну, піша ў казе, як ён цяпер называе шынок. На Фантанцы, ён ужо ведае, вышэйшы літаратурны свет: там бываюць сам Блок, Ахматава, Андрэй Белы, Зінаіда Гіпіус, Мяражкоўскі, Бальмонт, усе, звязаныя з Літаратурным таварыствам; Купала пакуль што не звязаны і не будзе звязаны. «Прычынай,— напомнім ужо раз цытаванае яго прызнанне,— мае тадышняя сарамяжлівасць, а можа быць, і маленькая гордасць, не хацелася ісці на паклон». Зайсці, можа, у больш фешэнебельны рэстаран — у «Вену», дзе таксама збіраліся літаратары? Але адкуль узяць на гэта грошай? Яго ўдзелам заставаліся народныя чайныя. І вось ён сядзіць у чайной адзін, адзінокі, нікому не бачны,

не вядомы, за пустым столікам, талерачкай таннай закусі. Прафесар ссуджае яго, студэнта, грашмі і на кішэнныя расходы, дык вось усе яны сёння і пойдуць на тры нямыя кілішкі — на трызну па Сяргею.

Для беларускіх грамадзян байцом, слугой
Так шчырым быў, а грамадзяне —
Эх! ніткаю к пятлі плацілі не адной...

Якія гэта грамадзяне, што «ніткаю к пятлі плацілі не адной», Купала ведаў, мы не ведаем. Здагадкі чыніць, калі канкрэтна не ведаеш, нельга, бо тут аб смерці чалавека гаворка, аб прычынах. А Купала сядзіць — адзінокі, нікому не вядомы — за столікам — якой, хто сёння скажа? — пецярбургскай кавярні, і горкія-гарчэнныя яго тры памінальныя па Сяргею чаркі:

На радасць недругам, на жаль нямы сваім
Прыбыў курган, курган напрасны...

«Напрасны... Няўжо я асуджаю Сяргея?..— думаў нервова Купала.— Так, асуджаю. Навошта зрабіў ён гэта? Так рана, так мала зрабіўшы ў жыцці, так могучы рабіць?!» Купала бачыць адухоўлены, ружовашчокі твар Сяргея: «Здзівіць! Здзівіць свет духоўнасцю, гэтым звярнуць на сябе ўвагу — гэтым перамагаць». Аб духоўнасці літаратуры гаварыў тады Сяргей, аб літаратуры як мірным баявым сродку. Але Купала цяпер вылучае чамусьці дзеясловы: «Здзівіць... Звярнуць увагу... Ці не смерцю здзіўляць задумаў? І ці гэта сапраўды толькі напрасна?!. Напрасна! Напрасна! — крычыць упутраны голас.— Але калі яго ўжо няма, то няўжо нельга нешта зрабіць, каб смерць яго была ненапраснай; каб яго смерць не напраснасці служыла; каб памяць аб ім ваявала, змагалася?.. Напішу! Аб ім напішу!..» Што напіша, Купала яшчэ не ведае, але што напіша, ведае напэўна...

У кватэру на 4-й лініі Васільеўскага вострава ў той вечар Купала стукаўся позна. Аб смерці Палуяна прафесар яшчэ не ведаў і незадаволена спытаўся, калі Янка ўвайшоў у залу:

— Нешта васпана не было сёння на лацїне?

«Васпанам» — адчужаным, халодным «васпанам», а не Янкам, Яначкай прафесар назваў Купалу ўпершыню.

— Даруйце, паночку,— ціхенька адказаў Купала.— Даруйце, калі можаце...

Нялёгка было Купалу. Але ён быў упэўнены: быў бы Сяргей у Пецярбурзе, магло б тое і не здарыцца. Ну, хоць бы ў студзені гэтага года ён сюды завітаў, хоць бы адну рэпетыцыю беларускага хору тут пачуў, беларускі драматычны гурток пабачыў!..

А ў студзені ў драматычным гуртку было вось што (з успамінаў Язэпа Сушынскага): «Пабачыўшы Купалу, усе кінуліся да яго. Хлопцы хутка схапілі на рукі Купалу і пачалі падкідаць угару, пакуль не насыцілі сваю радасць і захапленне». Гэтую іх радасць, захапленне Купала во як адчуваў, во як дужэў ад іх у Пецярбурзе — раслі яго сіла, упэўненасць, вера, надзея. Хоць бы краечкам вока бачыў Сяргей Палуян гэтых хлопцаў і дзяўчат, якія падкідалі «на ўра» Купалу,— хоць бы краечкам!..

Але з сіл, што гартавалі купалаўскі дух, была яшчэ адна — можа, самая найпершая, успаміну аб якой у Купалы няма, ды і даследчыкі жыцця і творчасці Купалы аб ёй дасюль не гаварылі. А яна была — гэтая сіла, канкрэтная, як сам горад над Нявой.

Мікалай II не за паўзімы, як Купала, скончыў вызначаную яму прыдворнымі ментарамі адукацыю: на гэту адукацыю ментарам прыйшлося прадоўжваць тэрмін будучаму венцаносцу аж на цэлы год. Абмежаваны, як і няраслы, цар і свайму нашчадку перадаў невылечную хваробу — нязгортванне крыві. І дрыжэлі-баяліся кожнай драпіны на целе наследніка цар і царыца, баючыся, што выцеча з наследнікавых жылаў блакітная царская кроў; і не толькі ў шэльмаў-лекараў, закупленых у Еўропе, але і ў знахароў і ведзьмакоў шукалі цар і царыца паратунку царэвічу. Пецярбург Эпімах-Шыпілы адкрываў дзве-

ры Янку Купалу, Зімовы палац — Распуціну, Сталыпіну, Дубровіну, Пурышкевічу. Усе яны, як і Купала, хадзілі па вуліцах Пецярбурга, лічачы яго, канечне, не Купалавым, а сваім. А Пецярбург быў Купалаў, бо Купала з першага дня адчуў яго як горад Пушкіна і прамаўляў да яго, як Пушкін, бо словамі самога Пушкіна. І было тое як свята, як урачыстасць, якая напаўняла сілай, подыхам прыгожага, ад якога і дужэеш, і прыгажэеш:

На берегу пустынных волн
Стоял он, дум великих полн,
И вдаль глядел. Пред ним широко
Река неслася...

Рака няслася, Нява цякла і перад Купалам. І Купала заварожана падымаў позірк на іглу Адміралцейства, спыняўся перад уздыбленымі коньмі Анічкавага моста, перад дзяржаўным Медным коннікам. Ён колькі раз ужо хадзіў на Мойку, усё пазіраючы на тыя вокны, праз якія калісь пазіраў сам Пушкін: з пакояў, сюды, на Набярэжную, на вуліцу, на просты люд...

У гэтым горадзе жыў тады Блок — такі высокі, непрыступнай паставы, з вачамі яшчэ больш сумнымі, чым у Купалы; Купалаў ледзь не аднагодак: ідэал у паэзіі першага Купалавага апекуна Самойлы. Ведаў Купала пра перапіску з Блокам Самойлы ці не ведаў? Цяжка сказаць. Відаць, не ведаў. Ці парываўся ісці да Блока? Відаць, не. Бо ён быў не Клюеў, не прыбіраўся ў мужычую світку, як той, не адпускаў à la paysanne барады, як той. Якая світка?! Элегантны касцюмчык, хоць і не дарагі, але адпрасаваны, на плечыках дапасаваны, і чысты, белы каўнерык, элегантна перахоплены модным гальштукам, падпірае падбародак. Не дрымучая барада — інтэлігенцкія вусікі,— не здзіўляць сваім пейзанствам прыехаў Купала ў Пецярбург, не бравіраваць тым, што піша пра мужыка, што мужык і з філасофіі, легендаў, казак мужыка ведае, можа, больш, чым Пушкін. У розныя часы яны жылі, розны сэнс укладвалі ў паняцце народнасці. Але Купала заставаўся народным, як

Пушкін — апранутым па-еўрапейску. Здзіўляць пецярбургскія літаратурныя салоны экзотыкай кажуха ці світкі ён не жадаў. У Пецярбург ён прыехаў вучыцца, далучацца да Пушкіна, Блока, яшчэ глыбей адкрываючы вобраз свайго народа, краю, мужыка, свой духоўны свет.

Пішу, чытаю без лампады...

З маем пачаліся белыя ночы паўночнай сталіцы, пачалася пушкінская асалода пісаць, чытаць у фасфарычным святле поўначы, далёка за поўнач, калі так відно, як ніколі ўночы, як быццам ні тых начэй, ні той цемры на свеце не бывала.

Увогуле нават дзіўна, як гэта чаргаваліся сонца і цені, святло і змрок, узнёсласць і сум у вершах Купалы, калі ён пачаў іх пісаць у Пецярбурзе. 26 красавіка 1910 г. Купала стварае «Песню сонцу»: «Клічам сонца, цябе, як адзін... Аднаві славу нашай старонцы, аднаві яе сумны народ!»; 28-га — верш «Воўк», пра драпежніка, які «выў сярод дрэмлючых ніў, як бы на суд каго зваў». Выў гэты воўк ці ўсё яшчэ не па Сяргею Палуяну, ці не на суд за яго зваў цёмныя сілы. «Ноч — ён на вырай, на жыр». Вольна чорнай воўчай сіле ў разгуле рэакцыі — палітычнай, дэкадэнцкай,— ахвяра гэтага разгулу, ваўкоў ахвяра — дарагі Сяргей Палуян. 6 мая 1910 г. Купала піша цудоўнейшы верш «Явар і каліна»:

Песняй вясны лебядзінаю,
Скінуўшы зімнія чары,
Шэпчуцца явар з калінаю
Ў сумнай даліне над ярам;

а 17-га таго ж месяца — поўны смутку па далёкіх ад Пецярбурга родных гонях Міншчыны верш «Брату ў чужыне». Лебядзіная светлата песенных «Явара і каліны» і светацені суму верша «Брату ў чужыне» — паміж імі як бы адыходзіць душой Купала, страціўшы Сяргея Палуяна, яшчэ не пазбыўшыся жалю па ім і яшчэ не паставіўшы кропкі ў канцы паэмы «Кур-

ган», якую — паэт ужо вырашыў — ён прысвяціць памяці Сяргея Палуяна. Але вось з якім новым, шырокім, усезямным адчуваннем свайго дому, сябе ў белым свеце піша цяпер аб усім белым свеце, аб сваім доме ў ім Янка Купала, ствараючы 20 мая 1910 г. верш «Мой дом». Твор гэты — сведчанне новага паэтычнага ўзлёту Купалы, абумоўленага Пецярбургам, новым станам душы паэта, новай, вышэйшай раўнавагай душы, якая ўявіла сябе на скрыжалях зораў, арліных вышыняў, вятроў, што «бітвы точаць» між сабой і пушчаў, дзе і смех вясёлых русалак, і адзінокі, палахлівы смех адчужанага лесуна. «Пакута сцюжы і спякот» — вось пакута паэта. І яшчэ, яшчэ там, «дзе ў скібах лад вядуць нарогі, аздобай цвет — чырвоны пот». Яркія, незвычайныя рамантычныя фарбы; экспрэсія асацыятыўнага мыслення, спалучэння неспалучальнага: пот, ды чырвоны! Гэта ж не кроў?! Кроў! Крывавы пот! О, якая аздоба! Які цвет — колер, кветка, упрыгожанне крывёю! — роднай зямлі!..

Апошняй страфой у вершы «Мой дом» клалася страфа пра «з сухой асінаю курган», з асінай, праклятым дрэвам (на асіне Юда павесіўся): паэт ніяк не мог забыцца пра пятлю Палуяна. Але канкрэтна ў вершы паэт пісаў аб кургане, «дзе тлеюць прадзедавы косці, дзе плача ночка ды туман». Праклятая асіна. Дрыжыць лісце — дрыжыць, і ўсё: чары, закляцце, накапаванасць? Дрыжыць на курганішчы ў Бяларучах, супраць школкі, у якой Купала вучыўся? Дрыжыць на гары Гедыміна ў Вільні, на гары з трыма крыжамі — што насупраць гары Гедыміна, у якой астанкі Каліноўскага?..

З Пецярбурга ўсе курганы свайго жыцця, усе курганы Беларусі мысленна азіраў Купала ў адно вокамгненне, азіраў і адчуваў — душою — усе іх, як адзін, успамінаў усё, што чуў пра іх, што ведаў, усё, як адчуваў іх, калі хваляваўся, узбягаючы на іх у Бяларучах, у Яхімоўшчыне, у Дольным Снове, пад Мінскам ці ў Вільні. Усё гэта ў ім абудзілася і катлавалася ў грудзях з неймавернай сілай, напружваючы фантазію, рас-

шыраючы і зрэнкі і нутраны зрок — зрок душы, глыбокай памяці сэрца...

Тады, калі ўджаліла вестка пра смерць Палуяна, як туманам, як чорнай імглой заплылі літаграфіі-краявіды зямлі роднай, беларускай у шырокай зале кватэры прафесара Эпімах-Шыпілы. Але час, ён — лекар усяго, асабліва час напружанага роздуму, час уваходжання ў новы свет, якім для Купалы быў Пецярбург, час пазнання сонца і цемры, час гімнаў сонцу, будучыні, прыгажосці, каханню і час возіркаў назад — на светацені, на тое, што засталося за спіною. Калі Купала збіраўся душою пісаць «Курган», ён не быў у будучым — ён быў у мінулым. У будучыню, наперад яму глядзець не хацелася. Ён азіраўся ў мінулае, спыняючы погляд і на краявідах зямлі беларускай, што глядзелі на яго са сцен шырокай залы прафесара Эпімах-Шыпілы. І быў момант, калі ў гэтай зале туман з вачэй Купалы пачаў сплываць. Белыя ночы Пецярбурга — яны без тумаnoў. Гэта не жнівеньскія ночы Беларусі, гэта ночы яснавідства. Яснавідства прыйшло, і вось адзін з краявідаў убачыўся Купалам, як курган,— велічна, манументальна, курган курганоў. Купала аж працёр вочы: няўжо ён да гэтага бачыў гэты краявід на сцяне ў зале прафесара — бачыў і не бачыў?! Не, гэта было не да стрывання. З залы Купалы бег як мог у свой пакой. Як добра, што няма Гагалінскага. Ёсць стол, папера, ручка і белая ноч за акном. Не адна — ноч за ноччу і гэтая — 23 мая. Блізка поўначы Купала ставіць дату напісання пад паэмай «Курган», прысвечанай Палуяну.

Нічога асаблівага няма ў сюжэце гэтай паэмы. Багаты князь. Раскошны палац. Князь выдае замуж дачку і шукае нябачанай уцехі вясельнаму застоллю — панам-магнатам. Усе ўжо ўцехі вычарпаны, нічым не здзівіш паноў-магнатаў, але ёсць на гэтай зямлі, дзе княжыць князь, гусляр — стары, як свет, славуты, як сонца. Каго ж, як не яго, падаць на ўцеху гасцям. Песня гусляра цячэ, як вада, песня яго апраменьвае, як сонца, песня яго і спапяляе, як агонь. Але пра тое, што яна

спапяляе, князь не ведае — ён ведае аб славе песні гусляра, аб яе вечнаплыннасці, а значыць, векавечнасці, а значыць, найбольшай славе, што можа стаць і славай князевай і радасцю князёўны, якую ён выдае замуж, і зайздрасцю гэтых паноў-магнатаў, што п'юць-гуляюць за князевым сталом. «Падаць сюды гусляра!» — загадвае князь. Падаць, як падаюць да стала заморскія віны, тутэйшую закусь, парцаляну, кветкі. Гусляра «падаюць». Князь загадвае гусляру спяваць пад яго густ, усцешваць гасцей. «Гуслям, княжа, не пішуць законаў!» — горда заяўляе князю гусляр, заяўляе, як волхв у Пушкіна — вешчаму Алегу!

Волхвы не боятся могучих владык,
А княжеский дар им не нужен;
Правдив и свободен их вещий язык
И с волей небесною дружен.

Гусляр у Купалы не прарок — ён не гаворыць:

Грядущего годы таятся во мгле;
Но вижу твой жребий на светлом челе.

Гусляр у Купалы не так «с волей небесною дружен», як з крыўдай, горам народа, сярод якога нарадзіўся, жыве, славу ў якога займеў, славай якога горды, і таму пярэчыць князю: «Скурганіў бы душу чырванцом тваім я, гуслям, княжа, не пішуць законаў: небу справу здае сэрца, думка мая, сонцу, зорам, арлам толькі роўна». Такой непакорнай водпаведзі ад гусляра князь не чакаў. Ён усё зрабіў, каб яе не было, бо паабяцаў песняру «канапляную заплату», калі той не пад густ запяе,— паабяцаў пятлю. І як цяпер знесці князю насмешкі паноў-магнатаў, што нейкі мужычы гусляр не паслухаўся яго, яснавяльможнага князя, запярэчыў яму. Князь у гневе. О, гневацца князі ўмеюць, умеюць даць адплату непакорным: жывым — загадвае князь — закапаць гусляра, жывым — разам з яго гуслямі-самаграямі. І закопваюць верныя слугі князя жы-

вым гусляра, і закопваюць яны з ім яго жывыя гуслі-самаграі, але памяць пра гусляра застаецца ў народзе жывою. І пяе гэтую славу гусляра Купала — пяе ў Пецярбурзе, пяе над магілай Палуяна, пяе, перабіўшы свой «Сон на кургане», які пачаў пісаць яшчэ ў Вільні...

Гэта — як парадокс: строга-класічны сваёй архітэктурай Пецярбург нараджаў Купалу-рамантыка. Дакладней, Купала-рамантык, можа, упершыню так магутна раскрыў сябе ў паэме «Курган», якая па форме — як сястра Дварцовай плошчы і набярэжнай Нявы з іх класічнай сіметрычнасцю, выверанасцю галоўнага і прыватнага, агульнага і частак, перспектывы і панарамы. Усе даследчыкі паэмы «Курган» сёння аднадушна захапляюцца класічнай суразмернасцю дванаццаці частак паэмы, развіццю тэмы ў ёй па частках, насіленню ў іх пафасу, давядзенню яго да апагею і растварэння ў заключнай страфе, заключным радку. У паэме — класічная строгасць кампазіцыі, класічнае гучанне радкоў, экспазіцыі, маналогаў князя, гусляра, кульмінацыі дзеяння, пасляспеву — заключнай страфы. Гэта песня, гэта сага, гэта сімфонія. І яшчэ гэта твор, поўны святла, як аркады рэнесансных палацаў — дванаццаць праёмаў у анфіладзе арак, дванаццаць праёмаў святла пецярбургскіх белых начэй Купалы, што ўводзяць сёння наш зрок у драматызм мінулага — драматызм роднага Купалу краю, роднай Купалу песні, песняроўскага жыцця ў гэтым нашым спакон вякоў родным краі!..

Задума паехаць на вадаспад Іматру — у Фінляндыю — узнікла ў прафесара нечакана, як і любая яго прапанова Купалу: паглядзі, вось Літоўскія Статуты, вось «Паэтычны свет славян» Афанасьева, вось «Махабхарата».

Які гэта цуд — белыя ночы Пецярбурга! Іх хапала на ўсе фаліянты, якія залатымі карашкамі пераплётаў красаваліся ў высокіх стэлажах у кабінеце прафесара, якія стаялі кучна ля ўсіх сценак кабінета, пакідаючы незакрытымі толькі высокія

вокны. Ціша эпімахаўскага кабінета, ціша белых начэй. Яе сваім звонкаспеўным шумам, як незвычайнае інтэрмецца, і перабіла Іматра — краса Фінляндыі-Суомі, суровай поўначы, што ўвайшла, зноў жа дзякуючы прафесару Эпімах-Шыпілу, і ў песню Купалы-беларуса.

Ён быў — не прыпыніць — у пытаннях, успамінах, заўвагах. «Ну, адкуль жа ты, Янка»,— пачынаў прафесар часта са зваротаў да Купалы, заўсёды за гонар маючы тое, што ён, прафесар, перахрысціў «Янука» ў «Янку» Купалу. Бо — было — «Жалейка Янука Купалы» паправіў на «Жалейка Янкі Купалы». Атрымлівалася, што «Жалейка» жанчыны Янкі, бо Янкамі ў Беларусі датуль звалі толькі жанчын. Але вельмі ж ужо складна, ласкава стала гэтая жаночая форма імя ад славянскага «Іван», што Купала не толькі што не пакрыўдзіўся, а прыняў памылку нават са здавальненнем — як знаходку. Бо Купала быў жа паэтам, бо ён на слых адразу ж улавіў, адчуў розніцу формы «Янук» і «Янка»: «Янка» гучала «шырэй», «свабодней», ва унісон з песенна-адкрытым, паўнагучным «Купала».

Прафесар — неспадзяваны хросны Купалы ці, дакладней сказаць, карэктар яго псеўданіма, не губляючы ніколі гумару, не раз звяртаўся да Купалы і так:

— Ну, як, пярэхрысць?..

«Пярэхрысць» не вельмі гаваркім заставаўся і ў сталіцы, ды ад шыпілаўскага «як» вочы Купалы заўсёды ярка загараліся:

— Што «як»?

— Адкуль ёсць пайшла зямля беларуская? — пытаў прафесар і прадаўжаў: — Блаславёны Інд! Ды не міні, маё блаславенства, Дону, апетага «Словам», і Дняпра, і Днястра, і Дунаю, бо дна няма ў іх,— ці Паэт чуе? Дна няма, але ёсць адзіны пашпарт: дн. У ножкі пакланіцеся санскрыту, бо дн — гэта ад таго слова, што азначала «вада». Дон — вада, Дняпро — вада і Дунай — тое ж.

Ой, ляцелі гусі
З Белае Русі.
Селі яны, палі
На сінім Дунаі.

Голас у прафесара быў нязвонкі, але слых ён меў тонкі, і Купала здзіўляўся не толькі ведам прафесара, але і мадуляцыям яго ціхага голасу. І хто яму, гэтаму прафесару, наспяваў увогуле гэтулькі народных песняў: не маці ж шляхцянка?

— Не ведаеш, адкуль прыляцелі гусі, то я табе скажу, куды заўтра паляцім мы. Едзем на Іматру,— заключыў прафесар.

І яны паехалі — утрох: прафесар, Купала, Антон Грыневіч. Калі вам цікава, якія думкі вывез з гэтага падарожжа Купала, пачытайце Купалаў допіс у «Нашу ніву» № 29 за 1910 г., а калі зацікавіцеся яго ўражаннямі, пачуццямі, што абудзіліся ў ім, калі ён азіраў Іматру, ёсць і іншая парада — прачытайце верш Купалы «Над Іматрай». Напісаў ён яго 20 чэрвеня 1910 г., а ўжо 24-га быў гатоў і пераклад урыўкаў з «Махабхараты» «Паляўнічы і пара галубкоў», прысвечаны прафесару Б. Эпімах-Шыпіле. Купала перакладаў з санскрыту, авалодваў формай шлёкаў. Ці мог ён нават сніць пра такое ў Яхімоўшчыне, Дольным Снове, Бараўцах?!

Уладкаваў Браніслаў Ігнатавіч свайго маладзенькага Янку на курсы Чарняева, і ўсё пайшло аднойчы заведзенай чаргой: удзень ён не адрываўся ад бібліятэкі прафесара, увечар спяшаўся на курсы, якія яму, як ён потым сам скажа ў аўтабіяграфічных лістах, «далі... вельмі многа» і дзе «склад выкладчыкаў быў добры»: прафесар Аляксандр Карнільевіч Бараздзін, аўтар славутых на той час «Литературных характеристик» 19 века»; выдатны заолаг і даследчык мора прафесар Мікалай Міхайлавіч Кніповіч. Сам Браніслаў Ігнатавіч...

Ночы, белыя ночы Купалы! Прафесар не ўшчуваў паэта за тое, што ён не спіць, што ўсё піша ці чытае: газы не трэба было паліць, светла як днём. А — галоўнае — прафесар, парадаваўшыся паэме «Курган», ведаў, што Купала «дамучвае» «Сон на

кургане», «Сон», які зацягнуўся, які здаваўся Купалу апагеем ягонага выкрыцця чорных сіл рэакцыі, бо свой гэты «Сон» Купала сніў-ствараў менавіта як сон на магілах рэвалюцыі, на пажарышчы рэвалюцыі 1905 г., дзе пануе Чорны — бог цемры, дзе са сваімі марамі аб светлым будучым б'ецца як рыба на лёдзе ён сам — Купала. Сам — так у Купалы і называецца галоўны герой паэмы «Сон на кургане», той Сам, які сам, адзін, нягледзячы ні на што, ідзе ў пушчу ў ноч пад Яна Купалу — шукаць кветку шчасця, скарб сабе, свайму народу, усім людзям.

Напісанне «Сну на кургане» зацягвалі сумненні. Хто думае, што Купала рос, як на дражджах, поўны ўпэўненасці ў свае сілы, прасталінейнай веры ў будучыню, той глыбока памыляецца. Купала быў талент і ў горадзе Пушкіна адчуваў сябе найперш, як Пушкін. Успомніце верш «Рэха» Пушкіна: усё наўкол у прыродзе знаходзіць сабе водгук, а дзе водгук табе, паэце? Тое ж і ў Купалы ў вершы «Жніво»: усе, што сеюць, жнуць, а ты, паэт, «сееш... а дзе тваё жніва?» Жніва ў 1910 г. было мала відаць.

Зацягваў напісанне «Сну на кургане» і сум па Беларусі, проста настальгічны сум па беларускім леце, які з найвялікшай сілай прарваўся ў вершы 17 ліпеня «Я ад вас далёка...» наймагутнейшымі, класічнымі радкамі патрыятычнай лірыкі Купалы:

Я ад вас далёка... Божа ты мой мілы!
Неразлучны з вамі да самой магілы,
    Не пакіну думаць світам і ўпацёмку,
    Як там жывіцё вы, як жыве старонка?
А хоць дасць мне доля ў дамавіне месца,—
Ўстане цень з зямлі мой, на крыж абапрэцца,
    І ў той бок глядзеці будзе век нязводна,
    Дзе ляжаць загоны Беларусі роднай!

І што нечаканым было для самога Купалы, дык гэта тое, што сам вобраз Чорнага, якога маляваў ён у «Сне на кургане», перабіваў паэта, адцягваў напісанне «Сну». Бо гэты Чорны раптам з'явіўся ў адну з белых начэй Купалы да творцы «Сну на

кургане» ўвогуле як вобраз Грабара ўсяго Жыцця! Гэта было страшна. Пра Леаніда Андрэева Талстой пісаў, што той палохае, а яму не страшна. Грабар Жыцця спалохаў Купалу па-сапраўднаму. Ды зноў жа не перамог, не ўступіў яму Купала. У вершы «Грабар» Купала паказаў, што той, хто рые-капае дол-магілу Жыццю, сам гіне ў гэтай магіле. Жыццё — неперераможнае, Грабары — часовыя!

Чорны — сіла ў «Сне на кургане» пануючая. Цар гэта? Не будзем шукаць адназначнасці ў алегарычным вобразе. Сем нячыстых відмаў Чорнаму служаць,— не будзем зноў жа катэгарычнымі ў вызначэнні, якія чарнасоценныя сілы, што падтрымліваюць Чорнага, нячыстыя відмы ўвасабляюць. Але ясна адно: белыя ночы Купалы, калі ён ствараў паэму пра Чорнага, былі яго начамі барацьбы з Чорным — белыя ночы спрыялі гэтай барацьбе, спрыялі, як дочкі векавечнага сонца, як цуд-краса паўночнай сталіцы, любіміцы Пушкіна.

Сам — герой паэмы «Сон на кургане», як і Купала, не адступіцца ад пошукаў скарбу-шчасця. Але як нялёгка яму ў задусе рэакцыі сярод восені, ночы, лесу. «Глуха шумяць калыханыя ветрам елкі і сосны; скрыпяць асіны і бярозы; з шэлестам валіцца на зямлю трупя-жоўтае лісце. Паміж трох адвечных дубоў — мохам і галлём усланы ўзгорак-курган; над ім, зачапіўшыся валасамі за галіны дубоў, вісяць тры русалкі і калышуцца. З усёй мясціны вее бязлюддзем, чарам і жудою. Набліжаецца з аднаго боку воўк, а з другога — ліс і аподаль на задніх лапах садзяцца; паміж імі падымаецца да палавіны гадзіна і глядзіць у бок спячага; з-пад лазовага куста высоўваецца заяц і разглядаецца...» Піша пра гэта Купала і ўздыхае: «Бедны Сам! Але ці мне лягчэй?» Слова, аднак, Купала дае Саму:

Дома ўжо нельга мне далей так жыць,—
Дом мой магілай халодна;
Каменем поле сцюдзёным ляжыць,
Плёны змёў вецер халодны.

Людзі!.. Што людзі? Ці ёсць дзе між іх
Годны адзін хоць у людзі:
Мутнасцю, трупам нясе ад усіх,
Пошасцей поўныя грудзі.

Вось і тапор мой. К рабоце жывей!
Скарб дастаць мушу я гэты:
Ласкай павее тады ад людзей,
Неба і цэлага свету.

Не павее!..

О, Чорны! Чорны «шэпча пацеры», Чорны «свішча; з'яўляецца чалавек у лёкайскім уборы і, падаўшы жалезны саганок, знікае. Чорны запускае ў сярэдзіну саганка руку і, падымаючы адтуль жменю золата, падтрасае яго на далоні; грошы са звонам — як путаў жалезных — валяцца зноў у гаршчочак; Чорны зноў іх адтуль бярэ і так усё перасыпае. Сярод ночнай цемры золата блішчыць чырвона-смольным жудкім полымем і, як сыплецца, выдае, быццам плыве нейкая крывавая поліўка... Вецер усільваецца. Словы Чорнага зліваюцца ў нейкую дзікую музыку з бразганнем грошай, шэлестам зараслей і скрыпам аддошчак забітых вакон і дзвярэй замчышча. З'яўляюцца... адмы; Чорны кідае кожнаму з іх па колькі чырвонцаў на зямлю,— касцятрупы хціва іх падбіраюць...»

Піша гэта Янка Купала, і сярод касцятрупаў першымі бачацца яму вешальнік Сталыпін, ачмуральнік Дубровін, служкі «боскія» Іліядор і Распуцін, а за іх спінамі капошацца меншыя касцятрупчыкі з Вільні — Кавалюк і Налівайка. А вунь і стары знаёмы — Лука Іпалітавіч: ці то кланяецца Чорнаму, ці то раз за разам «клюе» носам у бліскучыя пятачкі з рыжабародкавым профілем яго царскага вялічаства Мікалая II?!

Але на гэтым дзівы «Сну на кургане» не канчаюцца. Сам не скараецца перад Чорным, але скараецца перад судом неразумных аднасяльчан, як незразуметы імі спраўца пажару-рэвалюцыі. І хто, і што не трапляе на гэты пажар! Вясельная дружына: маладая ў вянку, малады з кветкай на грудзях, сват, пера-

паясаны праз плячо белым ручніком, музыка са скрыпкай, закоснік, маршалак, дзяўчаты-дружкі; стары, старая і іх нявестка з грудным дзіцем, якія нясуць стол, начоўкі і калыску — сімволіку ежы, амавення, роду чалавечага; і нейкі дурнаваты, што вядзе сляпую бабу, каторая, баючыся, ступае; і кабета-вар'ятка ў зрэбнай спадніцы і кашулі: на левай руцэ ў яе замест дзіцяняці абкручаная анучамі галавешка, а ў правай — заціснуты нож. Суда патрабуе яна над Самам, але да каго звяртаецца? Да сляпой бабы, каб тая мела Сама на воку. Суд сляпых! Зрэшты, і сам Сам, хоць відушчы, сляпы, бо ён не ўбачыў, што абставіны і людзі супраць яго. Адкуль жа сапраўды чакаць яму разумення? Не ад такога ж, вядома, вяселля вар'ятаў!..

Ёсць у паэме груша, ёсць сук на ёй, ёсць пояс Сама, на якім Сам спрабуе павесіцца. Як Сяргей Палуян! Але ці ж на людзях павесішся, хоць гэтыя людзі і вар'яты? Вар'ятка якраз замахваецца тапаром, каб даць па горле Саму, а сама перасякае пояс, які не паспеў задушыць Сама. Сляпая ж, чуючы навакольны вэрхал, пытаецца: «Што тут творацца за дзівы... Стогнуць, плачуць і рагочуць... Што ім трэба? Чаго хочуць?» Каля тае ж грушы, сук якое не стаў Саму апошнім, з'яўляецца Старац, увесь абвешаны па-жабрачаму торбамі. Загаварыў глуха, панура: «З грудзей вырві сваё сэрца... падпалі яго лучынкай; і ідзі ў свет, як з паходняй: праўды йдзі так з ім шукаці...» Праўды хочуць людзі на пажарышчы рэвалюцыі 1905 г., праўдашукальнікі паміж іх не звяліся, і патрэбны ім новыя Данка з палаючымі сэрцамі, з самаахвярнасцю грамадзе. Ды яшчэ каб было разуменне гэтых Данкаў грамадою — разуменне! Гэта Купала і сабе выпрошвае ў белых начэй горада на Няве разумення: бо ён цямніў, пішучы сон-алегорыю, напаўняючы яе сімваламі, каб скрыць накіраванасць твора супраць рэакцыі, супраць цара, і баяўся, што, як Сам, акажацца незразуметы, што яго «Сон на кургане» акажацца толькі крыкам адчаю ў пустыні белых начэй. Белыя ночы былі, аднак, такія

светлыя! Так! З іх выплываў вобраз Чорнага, бачыўся Купале ў акне яго кабінета на 4-й лініі Васільеўскага вострава рагатаў у вочы паэту, крыўляўся, пагражаў. Шыбы, перакрэсленыя белым крыжам аконнае рамы. На гэтым крыжы распінаў Купала Чорнага, але смяротны час Чорнага яшчэ не настаў. Распінала Чорнага фантазія паэта, а ў жыцці пакуль што распіналі паэтаў Чорныя.

Яшчэ не была скончана паэма «Сон на кургане», а 8 ліпеня, за месяц да гэтага, асобнай кнігай выйшла ў Пецярбурзе паэма Купалы «Адвечная песня». Да канца кастрычніка 1910 г. выйшаў і другі арыгінальны зборнік паэта «Гусляр». Увогуле насычаны вучобай, творчай працай, падзеямі, знаёмствамі быў для Купалы пецярбургскі 1910 год. І, пэўна, у гэтым годзе найшчыльней Купала сышоўся ў Пецярбурзе з Яўгенам Хлябцэвічам — «Халімонам з-пад пушчы», як той падпісваў тады свае допісы і артыкулы.

Уласна быў ён не «з-пад пушчы», а з-пад Слоніма, з Жырава, як там звычайна называюць мястэчка Жыровічы. Бацька Яўгена быў выкладчыкам Жыровіцкага духоўнага вучылішча, якое Яўген скончыў, паступіўшы затым у Віленскую духоўную семінарыю. Папом, аднак, як хацеў таго бацька, Яўген не стаў і падаўся на вучобу ў Юр'еўскі універсітэт — на фізіка-матэматычны факультэт. У 1906 г. ён пераведся ва універсітэт Пецярбургскі і стаў адным з тых студэнтаў, якіх называлі вечнымі. Каб вучыцца, Яўгену трэба было падзарабляць, і гэта перарывала вучобу, якую, як і грамадскую справу, Яўген ставіў на першы план.

— Ныне и пристно и вовеки веков да святится имя твое, Иване,— вітаў звычайна Купалу Яўген, і яны маглі неўпрыкмет крок за крокам перамераць усе лініі Васільеўскага вострава — Яўген — бясконцы ў сваіх гаворках, Купала — больш моўчкі, поўны павагі да нядошлага пастара авечак праваслаўных. Купалу ўвогуле заўсёды здзіўляла, як людзі свядома называюць сябе чарнасоценцамі, ганарацца гэтым і з чорным

колерам звязваюць сваё вернападданства, праваслаўе, службу «царю и отечеству»?

— Праваслаўе не толькі ў чорным колеры,— разважаў больш начытаны ў рэлігійна-вызначных тонкасцях Яўген.— Царскі колер у яго — жоўты, колер золата. Чырвоны — радасці ўваскрэсення Хрыста, таму яйкі на чырвонае малююць на вялікдзень.

— Чырвоны як знак радасці, прыгажосці — гэта яны ўзялі ў нас,— кажа Купала.

— У каго, у нас? — перапытвае Яўген.

— Мо і ў беларусаў. У славян,— кажа Купала.— Чырвоны ж колер — гэта ўлюбёны колер і нашай песні, і вышываных кашуль, ручнікоў.

— Зялёны таксама,— кажа Яўген,— хоць у царкоўнікаў ён колер адзіноты, пячорных адшэльцаў...

— Нашых Халімонаў з-пад пушчы,— жартуе Купала.

— Ухажораў з «Зялёнага Штраля»,— у тон яму ўтуруе Яўген, таямніцы Купалы для якога — не таямніцы.

— Мой дык чырвоны,— заключае Купала,— колер крыві, рэвалюцыі, хоць — як нам, хлопцам з Белае Русі, без белых сокалаў, белых ручанек?

— Белых ножанек...— жартуе Яўген, і яны нейкі час ідуць поруч моўчкі.

— А ведаеш,— пытаецца Яўген,— Ісакій нічуць не большы, чым у маім Жыраве Успенскі сабор.

— Можа быць,— згаджаецца Купала,— не быў, не бачыў.

— Я ж табе кажу!

— Лепш раз убачыць, чым сто — пачуць...

Яўген лічыць, што ўсё ведае пра сваё Жырава: і як будавалі трыццаць гадоў вялізны Успенскі сабор, як Богаяўленскую царкву, як драўляную, на могільнікавым узгорку, і дзе жыў Сямашка — будучы мітрапаліт, які дванаццаць гадоў рыхтаваў адмену уніі. Не хацелі папы-уніяты заводзіць барадаў, дык ён іх не прымушаў, а проста на кожны павет вызначыў

на кожны год па чатыры ці пяць барадаў прэміяльных. Біцца пачалі уніяты за бароды, каб хутчэй удастоіцца. А супраціўляліся папы-уніяты супраць імшы па праваслаўных трэбніках, Сямашка выбіў медаль — тым, каторыя не супраціўляліся,— і пацягнуліся папы-уніяты і да праваслаўных трэбнікаў і да медаляў. А як сабраў мітрапаліт Сямашка папоў-уніятаў у Вільню, каб канчаткова дагаварыцца аб адмене уніі,— большасць з барадамі, медалямі была ўжо «за», супраць заставалася драбяза — два, тры дзесяткі. Закавалі тых у кайданы ды ў Сібір. А ўзнагароджаныя барадамі і медалямі пачалі вяртаць заблудшых авечак у праваслаўе. А калі дзе заблудшыя не згаджаліся з абародзелымі попікамі, тадышні генерал-губернатар Паўночна-Заходняга краю князь Хаванскі спяшыў да попікаў з казацкаю соценькай і бізунамі — дахрышчаваў! Вось гэтак, Яначка! Иже еси на небеси, да святится имя твое, да приидет царствие твое, да будет воля твоя...

Пра унію, каталіцызм, праваслаўе сябры ўсчыналі гаворку не раз, бо праклятае мінулае рабіла праклятым для іх і дзень існы. Купала-католік даўно ўжо звёў квіты з касцёлам; і былы католік крочыў поплеч з былым кандыдатам на папа ўсё больш у адчаі ад «двойчы-літарнага пракляцця», як яны абазвалі з'яву двухалфавітнасці ў Беларусі. Абодва члены суполкі «Загляне сонца ў наша аконца», абодва яны ведалі, як цяжка выблытвацца было з грашамі суполцы, каб дайсці кнігай да кожнага беларуса. Каталіку дай кнігу лацініцай, праваслаўнаму — кірыліцай. А гэта — удвая даражэй, удвая менш кніг, удвая менш сонца ў акне мужыка-беларуса і праваслаўнага і католіка!..

«Адвечная песня» ў Купалы асобным выданнем была надрукавана толькі кірыліцай. Купала перажываў. Зборнік жа «Гусляр» быў надрукаваны толькі лацінкай. Купала зноў перажываў. Ён трымаў у руках прадаўгаватую кніжачку «Сон на кургане» і проста візуальна бачыў, як яе чытае толькі палова народа; трымаў жа невялічкую, у мяккай, шэрашамрыстай во-

кладачцы кніжачку «Гусляра», зноў жа таксама, як жывую з'яву, бачыў: чытае яе толькі палова. А Купалавай жа прагай было «з цэлым народам гутарку весці...». І ён кляў у душы ўсе сілы, што распалавіньвалі народ,— і ксяндзоў, і папоў, праваслаўных ці уніятаў — якая розніца?!

З Яўгенам жа Хлябцэвічам у Пецярбурзе 1910 г. Купала перажыў яшчэ і гэта.

...Быў позні лістапад 1910-га. Пецярбургская судовая палата судзіла Багушэвіча як аўтара «Дудкі» і «Смыка». Старшынстваваў сенатар Крашаніннікаў. Пыжыліся ў камергерскіх мундзірах пракурор, суддзя. Абараняў Багушэвіча адвакат Гальдштэйн. Багушэвіч ужо дзесяць гадоў як не жыў, ды жылі, змагаліся, натхнялі людзей на барацьбу «Дудка беларуская» і «Смык беларускі». Сярод публікі на хорах побач з Яўгенам Хлябцэвічам стаяў Янка Купала — бляднейшы звычайнага, маўклівейшы звычайнага. Суд быў самы сапраўдны — па ўсёй форме. Бо былі абражаны мундзір і чэсць самога князя Хаванскага, так, таго самага князя Хаванскага, пра якога Купалу расказваў Хлябцэвіч. У Багушэвіча сто лозаў выдае гэты самы князь Хаванскі нязгодліваму беларускаму мужыку Мацею, які аказаўся такі няўдзячны князю, бо не стаў вяртацца ў лона праваслаўнай царквы. І царква ў Багушэвіча абражана. І памяць аб генерал-губернатары Мураўёве абражана. Але абаронца Гальдштэйн — не лыкам шыты. Вось у яго ў руках кніга прата-прэсвітэра вайсковага і марскога духавенства, царскага духоўніка Шавельскага пад назвай «О воссоединении униатов с православной церковью». А з кнігі адвакат чытае, што нетактоўнасць князя Хаванскага шкодзіла справе праваслаўя ў Паўночна-Заходнім краі. Дык ці не аб тым жа ў Багушэвіча?..

Лёгка ўдаецца адвакату даказаць і тое, што верш «Ахвяра» Багушэвіча — не антыўрадавы, не антыпамешчыцкі твор, а зарыфмаваныя евангельскія запаведзі. Суд збянтэжаны, суд «удаляется на совещание» і аказваецца не такім грозным, як надзь-

муты сенатар Крашанінікаў і галасісты, як ерыхонская труба, пракурор.

— Напісанае — застаецца,— кажа Яўген Хлябцэвіч, калі сябры, спусціўшыся з хораў, апынуліся на вуліцы.

— Калі мяне пачнуць судзіць,— у задуме разважаў Купала,— цяжка будзе бараніць мяне любым Гальдштэйнам. Зрэшты, ці паэт не сам сабе суддзя?..

— Ты чысты рамантык, Янка,— ускрыкнуў Яўген.

— А што, рамантыкі могуць быць брудныя?..— здзівіўся Купала.

— Як і брудны суд,— адказаў Яўген.

— Суд, калі ён не суд,— судзілішча,— падагульняў Купала і думаў, што хоць яно не будзе вісець цяпер хмарай над суполкай, бо ўсё-такі і «Дудка беларуская» і «Смык беларускі» цяпер свабодна пойдуць у продаж, а гэта нямала значыць для фінансавых спраў выдавецтва...

Але было яшчэ адно ў 1910 годзе, што было наканавана Купалу перажыць у адзіночку,— прачытаць аповесць Івана Буніна «Вёска». Назваць усю Расію — «Дурновкой», а пра рэвалюцыю сказаць, што «поорали мужички, побезобразничали... Так скотина линяет...»?! Божа мой, божа! Чуў! Колькі разоў чуў Купала пра дурнога мужыка ў сябе дома, у Беларусі. «Дурны мужык, як варона!..» — ганьбілі яго панкі — засцянковая шляхта, ганьбіла спаконвечная крыўдная традыцыя. А тут?! Тут — такі тонкі мастак, такі чуллівы пясняр сумоты дваранскіх гнёздаў, сапраўднай красы гэтых гнёздаў, што ад красы Расіі ўвогуле, ад рускай прыроды ўвогуле, ад створанага вялікім рускім народам-працаўніком,— і гэты цудоўны мастак — раптам — на табе! «Вся, вся она — Дурновка!..» Як жа растлумачыць белай касці, што — не ўся! Што і ў мужычай Русі, і ў Беларусі гэта — толькі знешняе. «Як растлумачыць?» — Купала зноў і зноў задае сабе гэтае пытанне, а гатовага адказу не мае. Трэба думаць, шукаць адказу; шукаць, вядома, у сябе, а не ў каго-небудзь іншага; у Беларусі, а не

дзе-небудзь інш. У сябе, бо ён пясняр мужычага народа, бо ён і павінен думаць аб гэтым народзе — за гэты народ, за ўсіх мужыкоў на свеце!.. І не ў адным толькі 1910 годзе!..

1913

Як палюднеў Пецярбург для Купалы за гэтыя тры гады, што паэт пражыў у ім, як цалкам, увесь увайшоў у яго душу сваім класічным харaством праспектаў, палацаў, асабнякоў, аздобных мастоў і брукаў! Як увайшла тут за гэтыя ж тры гады ў сілу Маладая Беларусь — з-пад крыла прафесара Эпімах-Шыпілы, у сценах Пецярбургскага універсітэта, у сваіх сувязях з перадавымі рэвалюцыйнымі сіламі паўночнай сталіцы! Як пашырыўся кругагляд Купалы-паэта — студэнта Чарняеўскіх курсаў, любімца Эпімах-Шыпілы ды і ўсёй дружнай калоніі беларусаў на берагах стаўшай роднай і для іх паўнаводнай Нявы!

Азіраючыся цяпер на тры мінулыя гады, Купала часам проста і не верыў, што столькі паспеў зрабіць і што лёс павяртаўся тут да яго так часта нечакана спрыяльна. З 1911 г. ён стаў знаёмы з Уладзімірам Галакціёнавічам Караленкам, 7 студзеня падпісаў яму «Жалейку» «ў знак шчырай пашаны да яго працы на полі грамадзянскім». Вітанне аднаго з сумленнейшых пісьменнікаў Расіі ў «яго працы на полі грамадзянскім» вывела ў канцы 1911 г. і Купалу на гэтае сапраўды шырокае поле, калі ён 30 лістапада разам з У. Караленкам, М. Горкім, Л. Андрэевым, А. Талстым, С. Сяргеевым-Цэнскім, А. Блокам, А. Серафімовічам і іншымі падпісваў зварот «К русскому обществу», у якім выкрываўся паклёп чарнасоценцаў, іх інкрымінацыя М. Бейлісу забойства рускага хлопчыка ў рытуальных мэтах. А яшчэ ў лютым таго ж года ў часопісе «Современный мир» (№ 2) Купала чытаў артыкул М. Горкага «О писателях-самоучках» з горкаўскім перакладам ягонага «А хто там ідзе?..»,

з прыпіскай М. Горкага: «Прашу Янку Купалу даравадь мне дрэнны пераклад яго красамоўнай і суровай песні». Горкі, які ўвогуле за ўсё жыццё пераклаў толькі двух паэтаў — фіна і беларуса, пераклаў з беларусаў іменна яго, Купалу,— як было тут не ганарыцца! Змяшчаючы пераклад Купалы ў часопісе «Современный мир», М. Горкі як бы ўвогуле маштабамі сусветнай літаратуры вымяраў беларускага паэта, сцвярджаючы, што сучасны свет — не па-за Купалам, што сусветнае літаратуры з гэтага часу няма і не будзе без Купалы. Сваім аўтарытэтам М. Горкі, такім чынам, пацвярджаў і аўтарытэт народнага літоўскага паэта Людаса Гіры, які за паўгода да гэтага пісаў, што верш «А хто там ідзе?..» «па сваёй сіле і адначасова мастацкай прастаце з'яўляецца сапраўднай жамчужынай у сусветнай паэзіі, адным з выдатнейшых гімнаў адраджаючагася чалавецтва», пацвярджаў і рускага прафесара А. Пагодзіна з прыхільнымі словамі пра Купалу ў «Вестнику Европы» за студзень 1911 г., як і прафесара з Прагі А. Чэрнага з яго перакладамі на чэшскую мову вершаў «А хто там ідзе?..», «Песня і сіла», з артыкулам «Беларускі нацыянальны і літаратурны рух у 1909—1910 гг.» у часопісе «Slovanský prehled». «Slovanský prehled», «Вестник Европы», «Современный мир» — гэта ўжо быў форум не вузканацыянальны, і на гэты форум Купала ўздымаўся менавіта з Пецярбурга. Сэрца яго не магло не заміраць — ад высокага гонару і адказнасці, ад таго, што справы Маладой Беларусі знаходзяць столькі прыхільнікаў, такую магутную падтрымку, такі ўсё шырэйшы разварот.

30 снежня 1912 г. быў зацверджаны статут «Беларускага літаратурна-навуковага гуртка студэнтаў С.-Пецярбургскага універсітэта». Усё больш людным станавіўся гэты гурток, а — галоўнае — усё сур'ёзнейшыя тэмы бралі яго ўдзельнікі для распрацоўкі, усё грунтоўнейшыя даклады гучалі на яго пасяджэннях: Б. Тарашкевіча «Беларускі народ і яго мова», Земюка — «Стасунак беларусаў да іх суседзяў», Я. Хлябцэвіча —

«Адраджэнне беларускай народніцкай літаратуры», А. Грыневіча — «Беларуская народная музыка», К. Душэўскага — «Вывучэнне старажытных гістарычных помнікаў і ахова старыны», Р. Зямкевіча — «Беларуская бібліяграфія».

Стары прафесар радаваўся:

— Адраджэння няма, не можа быць без шырыні, без шматграннасці, без адкрыцця сябе ў свеце, сябе ў гісторыі...

Іншым разам ён Купалу гаварыў:

— Не таму, што я — Браніслаў і ён — Браніслаў, а таму, што ён, Браніслаў Тарашкевіч, а Купала — Купала, вы сапраўды дастойныя ўнукі Скарыны: і дух вас цікавіць, і турбуюць таямніцы цела, радуюць кветкі, і травы, і дрэвы, як Скарыну — каралеўскага садоўніка на Пражскіх Градчанах, доктара вызваленых навук, доктара медыцыны. Калі ж зноў Беларусь займее сваіх дактароў, сваіх артыстаў, хімікаў, фізікаў?

— А Вы ці ж не прафесар Беларусі? — перапыняў Купала, ці мастак Язэп Драздовіч, ці студэнты Лявон Заяц, Язэп Сушынскі, Марыя Галубянка...

Моладзі ўсёй у твар Янка Купала добра ўжо не ведаў, калі яго запрашалі ці ён сам па сабе з'яўляўся на пасяджэнні гуртроўцаў, чытаў ім свае вершы, адзін з іх увогуле прысвяціў гуртку. Верш называўся «Прарок» і быў на вельмі хвалюючую для тагачаснага Купалы тэму: аб песняры-бессярэбраніку і карыслівым, хцівым, беспардонным натоўпе, які пытае ў песняра-прарока: «А колькі нам дасі чырвонцаў, калі мы пойдзем за табой?» Не на звон чырвонца ішла ў пецябургскі навуковы гурток беларуская моладзь, і гэта цешыла Купалу. Калі ж не ўсю яе ў твар ён запамінаў, то, можа, таму, што першай прычынай таго быў адзін з тварыкаў, які ў апошні час паэт стаў вылучаць вельмі і вельмі.

Паўліна Мядзёлка — лёс зноў зводзіў паэта з гэтай дзяўчыначкай, а лепш сказаць, зводзіў яе пакуль што не з ім, а з яго творчасцю, з яго першай п'есай. Недзе якраз адразу пасля пова́га 1913 года маладыя беларусы-пецярбуржцы надумалі па-

ставіць купалаўскую «Паўлінку». Усяго толькі на тыдзень адсталі яны ў гэтай справе ад калег з Вільні, і як у Вільні, так і ў пецярбургскай зале рабочага клуба «Пальма» пастаноўка «Паўлінкі» стала святам усёй Маладой Беларусі. Святам яна стала і для аўтара п'есы, бо таго, што адбылося на сцэне пасля сканчэння п'есы, ён і ў снах спадзявацца не мог...

Тут, аднак, мы дамо слова відавочцу — самой Паўліне Мядзёлцы: «За арганізацыю спектакля,— успомніць яна,— узяўся брат прафесара Уладзіслаў Эпімах-Шыпіла, вялікі энтузіяст тэатральнага мастацтва. Размеркавалі ролі: Сцяпан Крыніцкі — Душэўскі, Альжбета — Вікторыя Кліковіч, Паўлінка — Паўліна Мядзёлка, Пранцысь Пустарэвіч — Уладзіслаў Эпімах-Шыпіла, Агата — яго дачка Клара, Адольф Быкоўскі — Леанід Адамовіч, Якім Сарока — Лявон Заяц. Гасцей, музыкаў ігралі студэнты Сушынскі, Каспяровіч з жонкай, Бычкоўскі, Гагалінскі і інш. У якасці рэжысёра быў запрошаны акцёр Александрыйскага тэатра Бэкін-Драздоў. Пачаліся рэпетыцыі, на якіх заўсёды прысутнічаў аўтар п'есы. Мне доўга не ўдаваліся сцэны з Якімам. Як ні мучыў мяне Бэкін-Драздоў, але калі трэ было горача сказаць «...і на векі вечныя любіць буду» або выканаць аўтарскую рэмарку: «Якім мацней прыціскае яе к сабе і хоча пацалаваць; яна нібы бароніцца, а пасля хватае яго за шыю, і доўга горача цалуюцца» — у мяне гэта выходзіла ненатуральна, холадна. Пасля адной з чарговых няўдач Бэкін-Драздоў адазваў мяне ўбок і пытае:

— Скажыце, у сваім жыцці вы перажывалі падобныя моманты?

Агнём запалалі мае шчокі, вушы...

— Не...

— Я так і думаў,— шырока ўсміхнуўся ён. Затым накіраваўся да Купалы, і яны, паглядаючы на мяне, шапталіся і ўсміхаліся.

Мне ледзь не да слёз стала крыўдна. Настрой упаў, працяг рэпетыцый правяла без ігры, мармычучы пад нос свае словы.

Урэшце заявіла, што я не здолею сыграць гэтай ролі, псаваць п'есу не хачу, а таму трэба шукаць другую Паўлінку. Усе загаманілі:

— А хто ж будзе іграць? Сама ведаеш, што сярод нас, апрача цябе, нікога няма, хто б падыходзіў да гэтай ролі.

Спахмурнеў і Янка.

— Кінь глупства гаварыць! Калі захочаш, дык і сыграеш.

Усю ноч і наступны дзень мутарна было на душы. Сама ведала, што цяжка знайсці замену, нельга падводзіць таварышаў. Я ўжо шкадавала, што закапрызіла.

Увечары прыйшоў да мяне Янка, паўшчуваў мяне за капрызы і заседзеўся да позняга. З таго дня ён часценька пачаў прыходзіць да мяне і зноў быў са мной звычайным хлопцам, які сваімі гутаркамі і паводзінамі насцярожваў мяне і напамінаў першае з ім спатканне. А калі памкнуўся стаць у ролі Якіма, я абурылася:

— Ты што, прыходзіш рэпетыцыю праводзіць са мной, вучыць мяне цалавацца? Абыдуся без тваіх урокаў!

У наступную рэпетыцыю са злосці на яго і на рэжысёра я так правяла гэту злашчасную сцэну, што ўсе запляскалі ў далоні.

— Бачыў? На табе! — пераможна пазірала на Янку, а ён задаволена ўхмыляўся...»

Са злосці на Янку, як бачым, маладзенькая актрыса пачынае натуральна граць любоўныя сцэны — са злосці на таго, хто яе вылучае, ці не заляцаецца да яе, ці не кахае. Цікавая сітуацыя, ці ж няпраўда? Дзіўная рэакцыя: на заляцанні хлопца, ды не абы-якога, а самога Купалы, пра якога тая ж Паўліна Мядзёлка праз гады напіша: «Калі чытаў «Прарока», дык мне здавалася, бачу нейкі арэол вакол яго галавы»,— дык вось, на заляцанні такога юнака ды — злосць. Ён заседжваецца ў яе да позняга вечара, ён шукае дарог да яе сэрца, спрабуе абняць, пацалаваць. Яна ж — настойліва ўспамінае «першае з ім спатканне», памятаеце, мы ўжо цытавалі: «Жартаваў, пытаўся ў

мяне, ці шмат у Вільні прыгожых дзяўчат» (вядома ж, такіх, як яна), «ці весела яны праводзяць час?..» («вядзе такую несур'ёзную гутарку»!).

Чаму ж, аднак, гэтая маладзенькая дзяўчынанька ды такая сур'ёзная і толькі сур'ёзнасці ад Купалы патрабуе? Чаму, аднак, яна такая капрызненькая і што творыцца ў яе душы, якімі супярэчлівымі пачуццямі яна поўніцца і чым усё гэта абернецца для студэнта Чарняеўскіх курсаў, для паэта Купалы?

Не будзем спяшацца з адказамі, не будзем забягаць наперад — білеты на «Паўлінку» за некалькі дзён да спектакля ўжо распрададзены, зала паўнюсенькая, але заслона яшчэ не паднята. Яшчэ пры закрытай заслоне пачынае гучаць песня — голас Паўліны Мядзёлкі — сцэнічнай Паўлінкі — такі мілагучны Купалу, такі — за заслонай — далёкі і такі блізкі, знаёмы, родны:

Ой, пайду я лугам, лугам,
Ой, пайду я лугам, лугам,
Дзе мой мілы арэ плугам,
Дзе мой мілы арэ плугам...

Заслоны часу, вашыя шаты і цяжкія і лёгкія! Паспрабуйце адкрыць заслону часу будучага — як цяжка! А шаты часу мінулага, калі гэты час — мілы, любы, святочны?

Заслона над сцэнай пецярбургскага рабочага клуба «Пальма» яшчэ не паднята, на сцэне яшчэ не святкуе свайго свята прыход вялікага кахання да найпрыгожшай, найдалікатнейшай жартаўніцы і пяюнні Паўлінкі, і не намагаюцца яшчэ пазбавіць яе гэтага свята жыцця і маладосці закасцянелыя ў беларускае засцянковай шляхецкай дамастроеўшчыне бацькі Паўлінкі, не ўрываецца ў яе жыццё яшчэ Адольф Быкоўскі — недарэка з нямецкім імем — няхай не воўк, але не без прэтэнзій на шляхетнасць[1] і які пагэтаму і здаецца бацьку Паўлінкі «блінам,

---

[1] Адольф — ад нямецкага adel Wolf — шляхетны воўк.

ды яшчэ маслам мазаным». Не даведваецца яшчэ Паўлінка і пра тое, што яе любы Якімка за афішкі арыштаваны. Якімку ў п'есе арыштоўваюць па даносу бацькі Паўлінкі; ідэя даносу ўзнікла як бы ў выніку зговару сіл старой Беларусі: бацька для Паўлінкі — не бацька; сусед, які здаецца на сцэне такім смешным, хоць за жывот хапайся,— не сусед, бо яны губяць дарагога Паўлінцы Якімку. З дзікім крыкам адчаю: «Ха-ха-ха! Звяры сляпыя!!!», трацячы прытомнасць, як сноп, валіцца яна на зямлю, даведваючыся пра арышт Якімкі. Не вельмі смешнай напісалася ў Купалы першая яго камедыя: смеху-то ў ёй хапае — гуллівага, дасціпнага, знішчальнага: над старым светам, над звыроднасцю беларускай шляхты, але «не шлюб-вянец» — камедыі канец, як у француза Бамаршэ, дзе пад шлюб ходзіць у фінале па шэсць пар, а стогн душы, драма любоўная і палітычная — вось фінал п'есы «Паўлінка». Сімвалічны фінал: праз церні — да зор, праз пакуты, драмы ідзе Маладая Беларусь у сваю будучыню.

Але — даруйце. Заслона ў пецярбургскім рабочым клубе «Пальма» яшчэ не ўзнята, а я ўжо расказаў змест п'есы. Лічыце, што вы пазнаёміліся з ім па праграмцы спектакля, адтуль вычыталі таксама прозвішчы выканаўцаў ролей, а самі сядзіце ў першым радзе глядзельнай залы рабочага клуба «Пальма», сядзіце поруч з Купалам. Заслона над сцэнай сапраўды яшчэ не ўзнята, і вы, як і Купала, не бачыце яшчэ тварыку яе, што за няўзнятай заслонай спявае,— вы-то — не бачыце, але Купала, ледзь пачуў «Ой, пайду я лугам, лугам...» — бачыць...

Гэтую ж песню яна спявала летась, спявала поруч з ім — у купальскіх агнях, у іх водсветах, што пераліваліся на звычайных хвалях Віліі і на іх тварах, а яны стаялі на адной з дзвюх велічэзных барак, плывучы Віліяй — з Антокаля праз усю, здавалася, Вільню — аж да лесу «Закрэт». Баркі, чоўны былі ўсе ўбраны ў зеляніну і абвешаны рознакалёрнымі ліхтарчыкамі. Музыка іграла і «Хвалі Дуная», і «Казкі Венскага лесу»,

і «Амурскія хвалі», але найбольш — мелодыі беларускіх народных песень:

Ой, пайду я лугам, лугам...

Не пайду — палячу! Думка ляцела, сэрца ляцела — вярталася да вянкоў, што калыхаліся на хвалях Віліі,— вянкоў з запаленымі на іх свечкамі. Купалле! Беларусы святкавалі ў Вільні Купалле — свята вады і агню. Уся рака ад Антокаля да лесу «Закрэт» выглядала нейкім зачараваным, як з арабскай казкі, усеяным рознакалёрнымі агнямі месцам, па каторым плывуць у пазалочаных чаўнах казачныя рыцары-волаты. У «Закрэце» над ракой абшырная палянка гэтаксама была абвешана рознакалёрнымі ліхтарыкамі. Пасярод палянкі шугалі полымем бочкі са смалой... І тут прадаўжаліся і беларускія песні, і беларускія народныя танцы ў беларускіх народных апратках, і скокі праз агонь, і г. д., і г. д. І была з ім — яна! Але пра яе ён не пісаў для «Нашай нівы», ён пісаў у газеце увогуле пра дзяўчат: «Вельмі прыгожа выглядалі дзяўчаты ў беларускіх нацыянальных апратках, ды і самі дзяўчынкі былі ўсе прыгожыя і цвілі ў сваіх яркіх шнуровачках, у вянках з кветак і жытніх каласоў, як майскія кветачкі... Гульня... працягнулася да самага белага дня, калі ўжо замест штучнага агню зайграла на небе яснае купальскае сонца сваімі агністымі праменнямі».

Купала ў сваім допісе ў «Нашу ніву» аб свяце Купалля ў Вільні ў ноч з 23 на 24 чэрвеня 1912 г., натуральна ж, не мог пісаць пра сябе. Пра яго, а больш дакладней, пра яго песню,— у запісках аб тым жа свяце Мядзёлкі:

«Падплываючы да Замкавай гары, хор,— успамінала яна праз гады,— спявае «А хто там ідзе?..». Песня гучыць так урачыста, так сімвалічна, што нельга стрымаць слёз. З берагоў даносяцца гучныя воплескі.

— Ура-а-а! Слава беларусам! — такімі воклічамі з берагоў праводзіць нас ледзь не ўся Вільня.

Уражанне было надзвычайнае! Дух займала, грудзі разрываліся ад паўнаты пачуццяў, і толькі ў песні вылівалася тое, што не мясцілася ў сэрцы...»

Ой, пайду я лугам, лугам,
Дзе мой мілы...—

спявала за заслонай клуба «Рута» Мядзёлка — спявала, як і тады, калі на палянцы ў Закрэце пачуўся кліч:

— Ідзём на бераг сонца вітаць!

— Паглядзім, як яно сёння іграць будзе...

Як тады асляпляла сонца! Купалу здаецца, што і цяпер яго асляпляе не рампа, а тое ж сонца, тая ж зіхатлівая Паўлінка, што іграе Паўлінку...

«Канчаецца п'еса,— успомніць яшчэ і гэта цераз гады Паўлінка,— я ляжу самлелая на зямлі.

«Каханенькія, родненькія, дзве дзюркі ў носе, і ўсё скончылося...»

На сцэну ўбягае Купала, абдымае мяне і горача цалуе. А воплескі з залы грымяць і грымяць.

— Паўлінка! Досыць цалавацца! Даю заслону,— крычыць Сцяпан Крыніцкі — Шыпіла. Янка ўцякае са сцэны. Мы кланяемся публіцы.

— Аўтара! Аўтара! — грыміць зала.

З-за куліс выводзяць Купалу. Ён бярэ мяне за руку, падводзіць да рампы, і мы разам кланяемся. Студэнты ўрачыста падаюць яму гадзіннік з выгравіраваным «Бацьку «Паўлінкі» ад беларускіх студэнтаў». А Купала падносіць мне два яшчэ зусім новенькія, толькі што з-пад машыны экземпляры «Паўлінкі».

Цытаты з Паўліны Мядзёлкі, якія выпісваліся вышэй,— гэта з апошняй рэдакцыі яе ўспамінаў — з кнігі «Сцежкамі жыцця» 1974 г. Крыху інакш гучалі асобныя іх мясціны з-пад пяра той жа Паўліны Вікенцьеўны ў 1958 г., дзе Паўліна Вікенцьеўна нібы мелася на заляцанні Купалы пасля злашчаснай заўвагі Бэкіна-Драздова рэагаваць так:

«— Ты што! — з гневам спытала я.— Прыйшоў рэпетыцыі са мной праводзіць? Вучыць мяне цалавацца? Каб на месцы Якіма быў той, каго я кахаю, дык без рэпетыцыі абышлося б. Не патрэбна мне твая навука!» Аб «гневе» ў апошняй рэдакцыі ўспамінаў Паўлінкі куды больш мякка!..

Інакш ва ўспамінах 1958 г. было і пра пацалункі на сцэне. У 1958 г. было: «Асабліва доўга выклікалі аўтара. Разоў з дзесяць Янка, узяўшы за руку мяне, выходзіў на сцэну. І тут жа на сцэне падараваў два экземпляры «Паўлінкі», яшчэ цёпленькія, толькі што атрыманыя з літаграфіі, пры гэтым абняў мяне і перад усёй публікай пацалаваў. На гэты раз я не пратэставала і не саромелася, а сама яго горача пацалавала як аўтара «Паўлінкі».

Паверым канчатковай рэдакцыі: «На сцэну ўбягае Купала, абдымае мяне і горача цалуе» — не яна горача цалуе, а ён, і ўжо няма ў апошняй рэдакцыі непрыняцця ёю гарачага пацалунку ці прыняцця яго як пацалунку аўтара «Паўлінкі». Словы пра гэта зняты, як і апошнім абзацам успамінаў Паўлінкі пра векапомны для абаіх спектакль стала ў 1974 г. не халодная, абыякавая дзелавітасць паведамлення: «На другі дзень пасля спектакля Купала выехаў у Вільню, дзе таксама рыхтавалася пастаноўка «Паўлінкі», а вунь якое непрыкрыта намёкавае: «Пасля танцаў Купала праводзіў мяне на кватэру, і мы доўга яшчэ дзяліліся сваімі перажываннямі».

Перажыванняў у іх сапраўды было шмат — было і яшчэ будзе. Але вяртаўся тады, у тую слотную, непраглядна чорную лютаўскую ноч, Купала ад Паўлінкі закаханы. І не без надзеі праводзіла яна яго тады са свайго парога. І Купалу здавалася, што зусім ніякая не слотная, не змрочна лютаўская ноч стаіць над познім Піцерам. Яму здавалася, што гэта белая ноч яго кахання, яго шчасця плыве на яго з Фінскага заліва, з-над Нявы — у бок Васільеўскага вострава.

## АКОПЫ, АБО Ў ПРАДЧУВАННІ РЭВАЛЮЦЫІ

Ён ехаў сюды з радасцю і з пэўнай засцярожлівасцю. Гэта было яго трэцяе лета ў Акопах — лета 1913-га. Першае было ледзь не суцэльным святам — пасля таго як цэлыя паўтара года ён не быў дома. Уласна кажучы, гэта зноў жа не быў дом ні яго, ні ягонай маці. У 1909 годзе, усё шукаючы лягчэйшай арэнды, маці Купалы пакінула Бараўцы і рушыла сюды, у Акопы. Вельмі ж не вялося ёй у Бараўцах з самага пачатку. Мы памятаем, як там былі падохлі каровы і колькі гэта нерваў каштавала маці і Ясю. І хоць пані Стшалкова была не з горшых, нават сервітут уступіла сялянам — пасіце вольна, згодна на маіх выпасах жывёлу (Купала пісаў пра гэта ў «Нашай ніве»), закаранелая ў арэндатарах вера, што недзе за марамі, за гарамі — лепш, зрушыла пані Боню і з ужо наседжанага месца ў Бараўцах.

Акопы былі прыгожыя — нічога не скажаш. Гэтая мясціна была як аблюбаваная, як зямля абетаваная: Купала, калі прыехаў сюды першае лета, усё толькі і хадзіў па наваколлі, адкрываючы для сябе яго красу ўрочышча за ўрочышчам, яр за ярам, лужок за лужком. Хата стаяла на прыўзгорку — ганкам у бок захаду, і з вокнаў залі, у якой Купала звычайна любіў або пасядзець, або пабрэмкаць на піяніне (пані Жалігоўская не захацела вывозіць гэтага антыквару адсюль, з-за свету, у свае гарадскія пакоі),— дык вось ужо з вокнаў гэтага пакоя была найвялікшая асалода глядзець, як леваруч — на шырокім

спадзістым схіле поля ў каласістым высокім жыце стаялі адзінцамі метраў сорак — пяцьдзесят адзін ад аднаго раскошныя, разлапістыя дубы. Вялікімі сем'ямі дубы сядзелі тут, у Акопах, ледзь не на кожным з такіх жа спадзістых шырокіх схілаў усіх расцярэбленых палеткаў. Бо палеткі тут сапраўды былі з расцяробаў і скрозь перамяжоўваліся палосамі лесу, якога было больш, чым поля. Лес кучаравіўся па грабянях пагоркаў і абступаў зялёнымі сценамі макраватыя лугавыя нізі, і ўвогуле, калі са сходцаў хаты кідаў Купала погляд на захад, то як трайную сцяну лесу бачыў перад сабою — трэцяя сцяна была на самай высокай у наваколлі Лысай гары.

Дом у Акопах быў прыгожы, вялікі,— куды там халупа ў Бараўцах!.. Чатыры акны глядзелі на захад, столькі ж — на ўсход. Навакол дома — прысады: бэз, яблыні, ліпы, клёны, кусты язміну, брызгаліны, шыпшыны. За хатай, гэта з таго боку, куды выходзілі вокны Купалавай спальні, на спадзістым адхоне пашумліваў гай: алешнік уперамешку з чаромхай, па-над імі, акурат па-над запрудай стаяў высачэзны кроністы дуб. Запруда перапыняла ручай, які ўтвараў у доле яра аваліcтае люстэрка сажалкі. Разнатраўе на адхоне над сажалкай аж буяла, кветкі дурманілі з ранку да вечара. Спадаючы на перамыты да макулінкі бялюткі пясочак, вада на запрудзе аднастайна, лагодна цурчэла. Натхненне Купалы, колькі яно было абавязана гэтаму дубу над запрудай, гэтай духмянаcтай траве, гэтай спакойнай вадзе,— хто сёння скажа?! А яшчэ перайдзі па запрудзе на той бок ручая, падыміся па крыху менш спадзістым схіле яра, і там ты абавязкова прыпынішся перад велізманым валуном, які, як пад крыло, узяла, падымаючы зялёныя паўдугі голля, елка. Відаць, перуны білі ў гэты валун не раз — узорыстыя зігзагі ледзь прыкметных воку трэшчынак зараслі больш выразна бачнымі зялёнымі зігзагінкамі машку. Далей валуна і лявей — на бугры пагорка — іншаземкаю сярод сініх мясцовых сасонак і белых бярозак блакітнела піхта. Яе ў дру-

гое сваё акопаўскае лета пасадзіў сам Янка Купала. Прынёс ён яе сюды з суседняй Карпілаўкі ад пана Антона Лявіцкага.

Акопы з красой іх прыроды і — збоку гледзячы — дастаткам, уладкаванасцю сямейнага побыту ніколі, аднак, не адчужалі Купалы ад шырокага, вялікага свету, які ён ужо спазнаў ад Селішча да Пецярбурга, ад Дольнага Снова да Вільні, ад Амброжыка з Мачанаў да прафесара Эпімах-Шыпілы і ад Лукі Іпалітавіча да Кавалюка, Крашаннікава і Дубровіна.

А ўвогуле — гэта нават і дзіўна, як гэта на фоне аднаго і таго ж ландшафту, пры адных і тых жа людзях, вёсках як адлюстраванне душы аднаго і таго ж чалавека тры такія непадобныя адзін да аднаго купалаўскія леты станавіліся ў шарэнгу адно за адным. Першае — лірычнае, другое — камедыяграфічнае, трэцяе — можна сказаць, эпічнае, драматычнае. Бо ў першае лета 1911-га толькі з дакладна датаваных вершаў таго года трыццаць тры вершы Купалы прыпадае якраз на два месяцы яго жыцця ў Акопах. У другое лета ён напісаў тут камедыю «Паўлінка», у трэцяе — аж тры паэмы, драму «Раскіданае гняздо» і вадэвіль «Прымакі». Першае лета было ў Купалы летам яшчэ далёкіх подступаў да адчування абвостранасці сацыяльных канфліктаў: як перад дэкарацыямі, перад праёмамі святла і цемры адчуваў сябе тут паэт у тое першае лета і «да сонца, да зор» клікаў, аб сонцы мроіў, цемру ўвогуле праклінаў. У другое лета Купала-лірык быў у Акопах большы філосаф, чым раней, і танчэйшы ў выяве перажыванняў. Разам з тым ён стаў больш здзеклівы над старым светам, больш баявіты, чым у першым леце. Хопіць заклінанняў! Героі яго п'есы «Паўлінка» выходзяць у паход па сонца, выходзяць, праўда, як закаханыя, не ўздымаючы яшчэ супраць старога свету сякеры.

Свабодалюбны, санцалюбны Купала ў лірычным першым акопаўскім леце быў увесь у яднанні з сонцам: «Сонца скажа — укарануюю, ночка кажа — укамяную...» Пасля ўкаранавання сонцам хай будзе і ўкаменаванне,— абы з сонцам пабратацца!

Гэй, наперад, покі сэрца
Б'ецца, рвецца на прастор,
Годзе млецi ў напяверцы,
Гэй, да сонца! гэй, да зор!

I ў гэтым жа першым купалаўскім леце ў Акопах з новай сілай азваўся ў яго песнях «вечны голад кветкі-шчасця». Дух пушчы ў вершы «У Купальскую ноч» падобны спачатку да Чорнага са «Сну на кургане». Ён дакляруе лірычнаму герою паэта: «Ты яшчэ не дарасціўся цвет пасцігнуці жаданы». Дух паэта не можа, аднак, больш вязнуць, бы ў нераце, толькі ў думках аб кветцы шчасця. На гэта дух пушчы вось што паэту вяшчуе: «Вырві сэрца... Запалі агнём... Выйдзі з сэрцам, як з паходняй... Так свяці, не бойся мукі... Кветка прыйдзе сама ў рукі...» Падабрэў дух пушчы, бо ён ніякі не Чорны, а дух свой, дух лясоў навакольных, акопаўскіх,— і ён не можа быць неспрыяльны паэту. Ды ўсё ж спрыяе паэту ў жыцці пакуль што хіба толькі казка, хіба толькі пушчанская легенда аб купальскай кветцы. Бо прагаласіў певень,— і «пуста, дзіка» навокал паэта: «Крык адно, як звон разбіты «Дайце кветку! Дайце сонца!» — «Навошта сонца табе, Купала?» — распаліў бы ўсе на свеце путы-ланцугі. ...Неба, сонца, месяц, зоры, людзі, пушча, ўся зямля, ўсё да сэрца штосьгавора, ўсюды бачу моц жыцця,— вось нашто мне сонца!..»

А ўвогуле ў першае лета ў Акопах Купалу натхняла літаральна ўсё. І як пісалася! У два месяцы каля пяцідзесяці вершаў напісаў ён. У дзень пісаў па два, тры творы, па сто, а то і па дзвесце пяцьдзесят радкоў, як 15 чэрвеня, калі нібы самі ляглі на паперу «У Купальскую ноч» і «Песня мая». Так Купала не пісаў даўно. А як клаліся цяпер радкі! Адзін у адзін, гучна, сапраўды прыгожа, класічна. «Гэй, наперад!..», «Песня мая», «Не праспі!», «Грайце, песні», «За свабоду сваю», «Каб я князем быў...», «Зоркі», «Дзве таполі», «Ты прыйдзі...». У тое ж лета паэт напісаў і верш «Над ракою ў спакою», які ў гады Вялікай Айчыннай вайны стаў партызанскай песняй.

Другое акопаўскае лета асабліва запомнілася Купалу «Паўлінкай». Была яшчэ і вельмі памятная адлучка ў тое лета ў Стоўбцы, у вёску Мікалаеўшчына, да Якуба Коласа — пасля адседкі тым трохгадовага тэрміну ў Мінскім астрозе. Коласава маці слала-масціла пасцель у пуні, каб чым мягчэй было госцю, а той жартаваў: «Ды я каласок пад бачок, і мякенька будзе, цётанька!» А Коласу на ўсё жыццё Купала таго лета запомніўся «ў поўным росквіце жыццёвых і творчых сіл», «прыгожым юнаком з мяккімі, крышку насмешлівымі вачыма. У тон яго гаворкі ўвесь час прасочваўся дабрадушны гумар». Купала Коласу надзвычай спадабаўся, і Колас палюбіў яго шчыраю таварыскай любоўю. Першая сустрэча Купалы з Коласам сапраўды паклала пачатак іх дружбе да веку. Яны сапраўды палюбілі адзін аднаго, і ўсё, што з таго 1912 года было ў іх наперадзе, было ўжо як бы іх абодвух — і вельмі многія радасці, і не менш шматлікія нягоды.

...Чытаў Янка Купала Ядвігіну Ш. «Паўлінку» ў Карпілаўцы — у памятным ужо для яго кабінеце Антона Іванавіча з вясёлымі вітражамі, чытаў на другі ж дзень, як толькі скончыў, бо вельмі ж хацелася, чым хутчэй, і самому адчуць, як напісалася, і ўчуць, што людзі скажуць. Жартавала голасам Купалы Паўлінка; сыпалі свае любіменькія слоўцы «каханенькая-родненькая» яе бацька Сцяпан Крыніцкі; «вось-цо-да» — сусед Крыніцкага Пустарэвіч; выдаваў сябе за галантнага багатага кавалера Адольф Быкоўскі; і здавалася, з зухаватым гаспадаром кабінета смяяліся і рознакаляровыя вітражы і нават вітая лесвіца, што вяла з кабінета нагару — у сальку, нібы ад смеху яна ў спіраль закруцілася.

Слухаць п'есу Купалы Ядвігін Ш. паклікаў і пані Луцыю — сваю жонку, і пані Вольку — сваю маці. Яны таксама часта ад душы смяяліся, слухаючы п'есу, але затым разважлівая пані Луцыя затурбавалася:

— То ж, пане Ясю, той-сёй з харужынцаў пазнае сябе ў панскай п'есе,— што тады будзе?

— Будуць смяяцца, як і вы, пані Луцыя,— адказваў Купала.

— А як не будуць? — усумнілася пані.

— Будуць! — выгукнуў элегантны Ядвігін Ш.— Настаўнік — шаноўны Мечыслаў Багдановіч, ён яшчэ пану Ясю за Сароку і кілішак паднясе! Праўда,— прадаўжаў цішэйшым голасам Антон Іванавіч,— праз Харужынцы і Вялікія Бясяды я б цяпер на месцы пана Яся пяшочкам перад ночкай ісці не вельмі б адважваўся. Асабліва міма хаты Францішка Аблачынскага [1]; ды і прататып пана Адольфа Быкоўскага [2] ці не нагнецца вывернуць з падвалінаў ладны камень...

— Дык было не пісаць? — заўсміхаўся вачамі, поўнымі блакіту бялкоў, Купала.

— Пісаць! Пісаць! — у адзін голас азваліся пані Вольга і пані Луцыя.

Купала хітравата ўсміхаўся.

— Панове,— сцішваючы голас і пераходзячы на таямнічы паўшэпт, прадаўжаў Ядвігін Ш.,— а паненка Ядзя [3] была ж на воку не толькі ў настаўніка Багдановіча...

Ядвігін Ш. зірнуў у бок Купалы. Купала злавіў яго позірк на сабе, але ўсмешка яго стала толькі больш загадкавай. Антон Іванавіч абвяшчаў:

— Магу быць нават прарокам: легенды, што і сам аўтар «Паўлінкі» сватаўся да прататыпа Паўлінкі, павандруюць па ўсім свеце!

— Па якім свеце? — зноў усумнілася заўсёды разважлівая, бо, як краўчыха, прывыкшая сем разоў адмерваць — раз адрэзваць, пані Луцыя.

— Ну, хоць бы па Малых Бясядах,— сцішыў пафас Антон Іванавіч,— але самае галоўнае, што я скажу,— прадаўжаў ён,—

---

[1] Прататып Пустарэвіча.
[2] Павэлак Ваяводскі з Калдуноўкі.
[3] Ядвіга Аблачынская — прататып Паўлінкі.

напісана ў цябе, Ясю, уся п'еса дарэчы! Лепшай аказіі, чым адзначыць такую ўдачу, у Карпілаўцы даўно ўжо не было.

З Карпілаўкі ў Акопы ў той вечар Купала вяртаўся вельмі позна...

Найвесялейшы твор беларускай літаратуры напісаў Янка Купала ў сваё другое лета ў Акопах. А што яму самому тады часта было не да смеху, сёння цяжка паверыць, хоць так яно сапраўды было.

Госць, кажа беларуская прыказка, мала бывае, ды шмат бачыць. Купала бываў у Акопах госцем і бачыў шмат, а таму 5 чэрвеня 1912 г. у Пецярбург прафесару Эпімах-Шыпілу пісаў: «...І не думайце, што мне вельмі дома весела і радасна жывецца». Так жылося Купалу не толькі ад таго, што ў яго не было грошай. Былі на тое і іншыя прычыны, перш за ўсё — маральнага складу. Тут, у Акопах, усе фізічна працавалі, акрамя адной хіба пані Жалігоўскай, якая ўдавала з сябе амазонку, гарцавала па ваколіцы на белым кані, а за тое, што яе верхняя губа была густа зарослая чорнымі валасінкамі, навакольныя арандатары і сяляне называлі яе паняй з вусамі. На паню з вусамі працавала маці Купалы, працавалі сёстры Купалы — Лёля, Анця, Манця, працавалі хатковыя, якіх маці наймала, бо мужчынскае сілы ў хаце не было, і жанцы, якіх арандатарка Луцэвічыха наймала, бо і жаночых рук, калі наступала жніво, у хаце не хапала.

Не салодкі быў гэты пасад — арандатаркі: як паміж молатам і кавадлам, была арандатарка паміж паняй і наймітамі. Аканом пры паншчыне і той быў у больш выгадным становішчы, бо ён быў адкрыты слуга пана. А тут арандатар быў сам нібы пан, не будучы панам,— быў пасрэднікам, які тымі, каго гэты пасрэднік наймаў, за пасрэдніка не ўспрымаўся. Нават больш таго, Жалігоўскую з яе выбрыкамі ніхто з сялян асабліва не ненавідзеў, а толькі падсмейваліся над яе вусікамі, а вось калі арандатарка Луцэўчыха возьме табурэтку і сядзе паблізу

жнеяў — тут бабы чаго толькі не выдумлялі, хоць іншая і абрывала таварак: «Пакуль сыты ўсохне, сухі — здохне!..» Ды ці сапраўды была сытая яна, Луцэвічыха? Ці сквапная? Яна ж, калі наймала, мусіла плаціць: менш за дзень жнеі сажнуць — больш дзён будуць жаць і за больш дзён арандатарцы плаціць. А з чаго плаціць, калі капейкі застаюцца пасля выплаты арэнды?!.

Увесь гэты матчын клопат, усё гэтае яе незайздроснае становішча паэт разумеў. А быў жа ён паэтам не арандатараў, а мужыкоў — ратаёў, сейбітаў, жнеяў, касцоў,— тых, каго яго маці наймала. Ад усведамлення гэтага Купалу было страшэнна нязручна, і тым гарчэй было, калі ў другое сваё лета ў Акопах ён учуў, як жнеі з Жукаўкі наракалі, што адну толькі «брушку» ім на стол ставяць — без ніякага навару. А дома маці скардзілася, што жнеі пад стол сабакам «зупу» выліваюць, а ёй усё вары́ ды вары́, налівай ды налівай, як у прорву.

І сабакі ў Акопах былі вельмі злыя: не злагодзіць было іх «зупай» з «брушкі». Яны зацята кідаліся — з ланцугамі на шыі — і на госця з Пецярбурга. Купалу і гэта здавалася нялюдскім. Так што на сваё трэцяе лета ў Акопы Купала сапраўды і не мог не паехаць і разам з тым, чым бліжэй было яму да Акопаў, тым больш прыгнятаў яго ўспамін, што прымусіў летась пісаць у Пецярбург прафесару: «І не думайце, што мне вельмі дома весела і радасна жывецца».

...Трэцяе лета ў Акопах пачалося з дажджоў. Прыехаўшы сюды, Купала адразу ж засеў за ліст да свайго пецярбургскага дабрачынцы Эпімах-Шыпілы. Наперш спаўняў дамоўленасць, пісаў, што сапраўды каштоўнага ёсць у бібліятэцы Чаховічаў у Малых Бясядах. Спіс каштоўных, на думку Купалы, кніг ён прыкладаў прафесару да ліста, зазначаючы ў самім лісце, што «апрача гэтых, ёсць колькі дзесяткаў французскіх, нямецкіх і ангельскіх, але між імі, як разглядаў, няма нічога путнага». Цікавіўся ў прафесара Купала, як справы з альманахам «Маладая Беларусь» і ці разаслаў прафесар па рэдакцыях, як абя-

цаў, кніжкі «Шляхам жыцця» — трэцяга зборніка Купалы, які выйшаў акурат перад ад'ездам яго сюды — у красавіку.

Аб сабе ў лісце Купала пісаў: «У мяне нічога цікавага не чуваць. Сяджу дома, як мыша ў нары, і чакаю ў моры пагоды. На вёсцы цяпер, як самі дагадваецеся, хораша, але трохі пагода падгулівае, апошнія часы — холад і дождж. Здароўе маё не ажэбы, пакашліваю трохі. Сягоння еду ў Мінск і думаю пабываць у доктара, а то ўжо пачынаю баяцца, каб не пайсці да Абрагама на піва». Нечаканы, трэба сказаць, жарт для чалавека ў 32 гады. Але, відаць, не абы-якая прастуда прычапілася да паэта на пачатку таго халоднага — з дажджамі — лета. Аднак тым жа халадам, відаць, і дажджам трэба быць нам і ўдзячнымі, бо, не выпускаючы Купалу асабліва за парог акопаўскай гасцінай, з ранку да вечара ўсаджвалі яны паэта на вузенькай канапцы пры акенцы, і ён чытаў. Пра гэта таксама паэт напісаў прафесару: «Перачытваю беларускія этнаграфічныя зборнікі Шэйна, Смаленскі, апісанне Магілёўскай губерні і др.; пробаваў некаторыя песні напісаць на народны сюжэт, але праца гэтакая не з лёгкіх. Думаю апрацаваць некаторыя паданні, калі ўдадуцца, то прышлю Вам». Так у непагадзі трэцяга акопаўскага лета зараджаліся задумы паэм «Бандароўна», «Магіла льва», «Яна і я».

Непагадзь стаяла на дварэ, непагадзь і іншая наплыла на Купалу ў гэтае непагоднае, але такое творчае для яго лета. Вятры дзьмулі не з Балтыкі, а як бы выйшла з берагоў тое, што нарэшце павінна было выйсці. «Наша ніва» — Купала ж павінен быў пасля лета туды вярнуцца. З Пецярбурга, на белым кані? Не! Такое было не да душы некаторым, і перш за ўсё Ласоўскаму. Ён і ўсчаў знешне нібы цалкам прыстойную літаратурную дыскусію.

Пачалося 5 ліпеня — у «Нашай ніве» з'явіўся артыкул Юркі Верашчакі «Сплачывайце доўг». У Акопах Купала чытаў гэты артыкул на тыдзень пазней, чытаў, ясна бачачы, супраць каго і чаго слаў крытычныя стрэлы аўтар — супраць яго, Ко-

ласа, Багдановіча, супраць матываў грамадзянскага смутку ў іх паэзіі. Цытаваліся яго, Купалавы, радкі:

Невясёлая старонка
Наша Беларусь,
Людзі: Янка ды Сымонка,
Птушкі: дрозд ды гусь,—

а далей ішло: «Супакойцеся, ягамосці, край наш не такі страшны, не такі сумны, брудны і бедны. Жывой красы ў прыродзе нашага краю, у людзях многа, хіба толькі тое сумна, што мы яе падмеціць, падгледзець не ўмеем».

Купала не мог адразу да канца зразумець, навошта гэтае супрацьпастаўленне «жывой красы» і грамадзянскага пафасу — песняў-жальбаў яго, Коласа, Багдановіча. Зрэшты, аўтар «нескладныя плачы» масавай паэзіі дараваў. Ды прэтэнзій не здымаў з Купалы, Коласа, пішучы: «Але, дзякаваць богу, ёсць жа ў нас ужо і імёны, каторыя маюць шырокую славу не толькі ў нашай бязграматнай і безынтэлігентнай бацькаўшчыне, а і далёка па-за межамі яе». Сапраўды, такую ўжо шырокую славу меў Купала: крытык як бы прызнаваў Купалу, высока ставіў яго, каб тут жа...

Чый псеўданім стаяў пад артыкулам «Сплачывайце доўг», Купала ведаў — Вацлава Ласоўскага. Да гэтага чалавека пачуцці ў Купалы не маглі не быць не супярэчлівымі: былы муж Лаздзіны, Марыі,— хохлік, што «бегаў ля варот». Што ж гэты хохлік ад сваёй вучонасці паднясе Купалу?

Купала чытаў артыкул Ласоўскага і шукаў у ім рэакцыі не толькі крытыка, але і проста душы чалавечай на тое, у чым ён сам, Купала, быў менш за ўсё вінаваты. Бо ці ж вінаваты чалавек, калі яго пакахалі ці калі ён сам пакахаў, калі цябе выбралі ці ты сам выбраў, а нехта застаўся трэцім лішнім? Рэакцыя трэцяга лішняга давала аб сабе ў артыкуле знаць...

Купала і Ласоўскі раз'ехаліся ў 1909 г. Сустрэчы іх былі рэдкія — у часы наездаў Купалы з Пецярбурга. Ласоўскі пачаў шмат пісаць, друкавацца: пяром валодаў нязгорш. Але ні ў

жыцці, ні ў літаратуры сябрамі стаць яны не змаглі. Купала адчуваў насцярожанасць Ласоўскага. Лапкевічы аб'яўлялі яго самалюбцам. Самалюбства ў Ласоўскім Купала напачатку не вельмі заўважаў. Але штось Купалу раздражняла — у гэтым былым мужы Пяледы, у чалавеку, які браў на сябе вельмі многа, спрабаваў выдаць сябе ледзь не за ўсю «Нашу ніву», не за ўвесь беларускі рух. Ва ўсякім разе, раздражнёнае пісьмо з Пецярбурга на імя рэдактара «Нашай нівы» вясной гэтага года Купала пісаў, маючы ў вачах аплывісты твар пана Вацлава. Ён жа, Ласоўскі, вёў аддзел беларускай бібліяграфіі. І Купалу тады вельмі раздражніла тое, што аддзел не заўважыў выхаду яго трэцяй кнігі — самай значнай, Купала ведаў гэта. Атрымлівалася сапраўды не па-людску: зборнік «Шляхам жыцця» ўжо выйшаў, а «Наша ніва» пісала: «За студзень і люты нічога новага не выйшла, у маі выйдзе зборнік вершаў Максіма Багдановіча, а можа, і яшчэ што колечы...» Купала спрабаваў іранізаваць. «Што гэта — жарт першаапрэльскі ці што іншае?..» Іронія не ўдавалася, і Купала перайшоў на адкрыты тэкст. «Мне здаецца,— пісаў ён вясною ў «Нашу ніву»,— што за 5 год майго супрацоўніцтва я не заслужыў на тое, каб так беззасценчыва ігнарыраваць маю новавыйшаўшую кнігу, як гэта Вы зрабілі ў паштовай скрынцы сваёй газеты». Купала быў пакрыўджаны. Ён не любіў скардзіцца, выказваць свае крыўды ўголас, а тут выказаў. Праўда, Купала некалькі паспяшаўся: кніга толькі выйшла. З Янкам Купалам у газеце ўсё-такі лічыліся, і гэта відно хоць бы з таго, што ў тыдзень пасля ліста пакрыўджанага Купалы «Наша ніва» пра «Шляхам жыцця» ўжо напісала. Купала пісаў ліст 18 красавіка, а рэцэнзія на «Шляхам жыцця» з'явілася ў «Нашай ніве» 26 красавіка — у наступным пасля няшчаснай паштовай скрынкі нумары. Рэцэнзія, такім чынам, магла быць напісанай і да атрымання рэдакцыяй ліста Купалы. Яе напісаў Антон Лапкевіч. І цяпер, чытаючы ў Акопах артыкул Ласоўскага «Сплачывайце доўг», Купала мімаволі прыпамінаў і рэцэнзію

Лапкевіча на «Шляхам жыцця»: тое месца, дзе Лапкевіч пісаў — «многа гора, многа бед, крыўды. Многа смутку і жалю, што так цяжка, так дрэнна жывецца народу, каторы нічым не заслужыў на гэтую долю». Лапкевіч ухвальваў гэта ў зборніку; Ласоўскі цяпер асуджаў. Артыкул Ласоўскага цяпер як бы біў і па рэцэнзіі Лапкевіча, як і па зборніку «Шляхам жыцця», які нібы не адпавядае тым патрабаванням, якім павінен быў бы ўжо адпавядаць.

Дык вось што вы імкняцеся давесці, пане Вацлаве, што я — не прарок, я — паэт не еўрапейскага маштабу! Вось чым вы мяне ўпікаеце! Вось яно — шыла ў бок, закамуфліраваная рэакцыя вашай душы, вашых прэтэнзій. Прарок, значыць,— не я, і — значыць — ёсць вакансія! Ці не сабе расчышчаеце гэта месца, пане Вацлаве?..

Купала зноў перачытвае месца пра вымогі да сябе. «...Чытаючае і думаючае беларускае грамадзянства ў праве вымагаць чагось для сваёй душы, мерыць іхнюю творчасць меркай еўрапейскай, якую прыкладваюць усе народы на свеце да творчасці сваіх прарокаў. Так, прарокаў, бо паэт павінен быць вучыцелем і прарокам свайго народа, павінен быць суддзёй і цветам душы яго, павінен выяўляць красу свайго народа і краю».

«Канешне, павінен,— думае Купала,— павінен быць цветам душы, цветам папараці, але з красой тут у вас, пане Вацлаве, нешта завельмі. «Маё штодзённае жыццё шэрае, цяжкае,— пішаце вы,— і я хачу з... твораў навучыцца бачыць каля сябе красу...» «Вы,— перачытваў артыкул Купала, успрымаючы як адрасаваны да сябе,— вы, каторыя пачуваецеся на сілах даць красу, даць мысль, паднімаць і весці душы, чаму не выпаўняеце свайго пасланніцтва, чаму маўчыцё, калі забіваюць у душах — незапісаных картах, красу, чаму не вучыце нас любіць і разумець гоман бору, плеск вады ў сонцы, задуму змеркаў, яснату ўсходаў,— чаму не распальваеце душ нашых пажарам любові, не сыпяце чырвонцаў у жар гэты?»

Купала мог не прымаць усяго гэтага па свайму адрасу, бо гэта былі папрокі сляпога ці — дакладней, таго, хто не хацеў бачыць ужо існага, не хацеў разгарнуць Купалавага «Шляхам жыцця», дзе была і краса беларускай прыроды, і задума змяркання, і ясната ўсходаў і дзе Купала ўжо сцвердзіў сябе прарокам свайго народа, быў, як агонь, які не ўтаймаваць, як вада, якой не запыніць. Але чаму ж тады так, а не інакш пісаў Ласоўскі?

Ласоўскага заносіла. Ласоўскаму здавалася, што ён, як райскую птушку за хвост, ухапіў прарочую думку. Ён здаўся сам сабе прарокам красы — таго, чаго яшчэ нібы і не было ў роднай літаратуры. А вось цяпер — пасля ягонага адкрыцця — будзе, і Ласоўскі будзе сам прарокам, бо пасля ягонага слова ўзнікне, здзейсніцца песня красы. Узнікла ж, здзейснілася ж яна ўжо і да гэтага, і без яго, Ласоўскага,— цераз Купалу. Крытык быў лішні. Другі раз у жыцці трэцім лішнім быў Ласоўскі, бо Купала і краса і без Ласоўскага справілі ўжо свае зашлюбіны.

Купала мог асабліва не перажываць: Антон Лапкевіч быў вастрэй слыхам. Ён у рэцэнзіі на «Шляхам жыцця» ў новым Купалавым зборніку ўчуў не толькі плачы, але і тое, што «ў вершах Купалы ўсё часцей і часцей ...звініць нотка бойкая, жывая; відаць, што сіла кіпіць і рвецца да дзела, да вялікай працы народнай. Чуваць радасць жыцця — радасць, каторая абымае здаровага, сільнага чалавека... Пясняр прарочым словам прымушае верыць...»

Радасці жыцця ад прыгожага, светлага, добрага сапраўды было нямала ў лірыцы «Шляхам жыцця», аснову якое склалі вершы першага акопаўскага лета. Але як бы глыбока ні самаўсведамляў сябе Купала, артыкул «Сплачывайце доўг» глыбока раніў яго душу. Балюча было не ад таго, што Ласоўскі недаацаніў яго паэзію, а ад таго, што адмаўляў па той час самае галоўнае ў роднай літаратуры — яе сацыяльны пафас, яе службу канкрэтным, надзённым палітычным, нацыянальным зада-

чам. Заклік пана Вацлава адкрываць красу, стапавіцца прарокамі красы станавіўся адмаўленнем ідэі жыцця Купалы. Хацеў таго Ласоўскі ці не хацеў, ён аказваўся сцвярджальнікам чыстага эстэтызму, прапагандыстам на нацыянальнай глебе мастацтва для мастацтва. Купала мог заўважыць, што Ласоўскі двойчы адмаўляе яго: першы раз, абвінавачваючы ў песнях жальбы; другі раз, не прызнаючы ўзвышэння «Шляхам жыцця» над «Жалейкай». Купала адразу ж вырашыў, што без адказу Юрку Верашчаку пакідаць нельга і што не пра сябе ён будзе пісаць, а пра ўсю літаратуру, ад імя ўсіх, каму выклік кінуўся. Не да пацераў, калі хата гарыць,— браў Купала прыказку, каб сцвердзіць, што не да малітваў красе, калі трэба весці бітвы супраць нядолі. Наша сучасная песня,— разважаў Купала,— не магла не злажыцца трохі, можа, і залішне наракаючая на цяжкую людскую долю, але вечна такой яна не будзе. Якой жа будзе і калі будзе іншай? Купала пісаў: «Астаецца нам толькі адна вера ў тое, што не за гарамі ўжо той час, калі ўзбудзіцца наш беларускі народ, як адзін, к новаму светламу жыццю, а яго паэты-пракокі настрояць струны сваіх думак на іншы лад, будуць пяяць аб вялікім багацці і красе сваёй бацькаўшчыны і аб вялікіх радасцях яе верных сыноў». Прароча пісаў гэтыя словы Купала, нібы свой лёс адчуваючы, пісаў, бо песня яго ў савецкі час будзе якраз «аб вялікіх радасцях», «аб вялікім багацці і красе». І сціпла пра сябе, Цётку, Коласа, Багдановіча зазначаў: «Пракокі яны ці не пракокі — аб гэтым скажа будучына, але што яны косць з косці свайго народа — аб гэтым і рэчы быць не можа». Рытарычнасці стылю Верашчакі, ягонай псеўдаўзнёсласці Купала супрацьпаставіў сваю рамантычную ўзнёсласць душы і слова, калі наступнымі радкамі заканчваў артыкул: «Думка паэта вольная, як вецер, і безгранічная, як даль гэта ўсясветная, сэрца яго напоўнена вечным мілаваннем к бліжняму, як сонца вечным цяплом і святлом, а душа яго глыбокая, як гэтае мора-акіян, у глыбінах каторага крыюцца багатыя, недасціглыя чалавечаму воку скарбы. З гэтага святла

і агню, што палае ў сэрцы, і з гэтых скарбаў, што крыюцца ў глыбіні душы яго,— патрапіць паэта свабоднай думкай дабыць усе хараствы свету і ўсе асалоды жыцця людскога на гэтым свеце і перадаць усё гэта ў бяссмертнай песні свайму народу». Патрапіць паэт. Гэта значыла, што патрапіць і ён, Купала, толькі «вы, празаікі,— засцерагаўся Купала,— устраівайце хутчэй матэрыяльны быт гэтага народа паводле божых і чалавечых праўд і законаў». «Празаікі» — палітыкі, рэвалюцыянеры, эканамісты, сацыёлагі, дзяржаўныя дзеячы — адставалі. Не будзе гэтага адставання, будзе ўсё інакш,— гэтае перакананне было моцным у Купалу, як і абсалютная вера ў сілу мастацкага слова і давер мастацкаму слову, вольнай думцы паэта, яго душы, святлу і агню-сонцу. «Свабоднай думкай дабыць усе хараствы свету і ўсе асалоды жыцця людскога» — гэта была праграма, закроеная па-вялікаму: як ва ўсіх рамантыкаў, абстрактна, неканкрэтна, але — нічога не скажаш — выкладзена зіготка, урачыста, святочна. Як на прысязе. З такой рамантычнай маштабнасцю Купала гаварыў толькі ў Акопах. У каторы раз? Было і да гэтага, але, можа, больш спарадычна; будзе і пасля гэтага, і не раз здзіўляльна. Але цяпер гэтая зорная вышыня рамантызму Купалы была сапраўды асляпляльнаю, і што гэта так, сведчыць яшчэ ў большай ступені верш «Песняй толькі...», што пісаўся таксама ў спрэчцы з Верапічакам: у спрэчцы аб красе — адкрывае яе Купала ці не адкрывае?

Артыкул «Чаму плача песня наша?» з'явіўся ў «Нашай ніве» 26 ліпеня, верш «Песняй толькі...» быў ужо напісаны ў Акопах 20 ліпеня — услед за артыкулам ці ў адначассі з ім. І гэта была вунь якая яркая праграма жыцця і песні Купалырамантыка, сына і песняра сапраўднай красы:

Песняй толькі на свеце жыву я,
Праз яе тапчу толькі расу;
Пасцігаю, як ёй запануе,
Недасціглую быту красу.

Са святламі бязмежна ўсясвету,
Як святло сам, лунае мой дух;
Аглядаю міры, як у сне тым,
І жыццё абымаю ўвакруг.

Над душамі, што шчасця даўно весць
Загубілі ў адвечных нягод,
Я тварыў бы нягадану повесць
Вечных радасцей, вечных яснот.

Перуны залатыя хапаў бы,
Што ў хмарах бушуюць агнём,
І straламі народны дух слабы
Развагняў, патрасаў бы, як гром.

Млечны шлях, што нябесны дзядзінец
Засцілае, я б зняў на зямлю
І масціў бы ім новы гасцінец
Цераз родную ніву сваю.

Сонца ўзяўшы агністае ў рукі,
Што гарыць над бязмерам палёў,
Я па млечным тым шляху без мукі
Чалавека да шчасця бы вёў.

Гэтак песняй мой дух весяліцца,
І на свеце жыву толькі ёй,
Хоць пішу кроўю гэты страніцы,
З свайго сэрца гарачай крывёй.

А вы думалі, што артыкул «Сплачывайце доўг!» не прабіў сэрца паэту навылёт? Прабіў. Удар пана Вацлава быў прыцэльны. «З уласнага сэрца гарачай крывёй» пісаў Купала артыкул «Чаму плача песня наша?», як і верш «Песняй толькі...» — магутны, кроўна купалаўскі.

Ласоўскі лямантаваў: «Не адкрылі красы Беларусі!», а Купала сама яе адкрываў, сама прадаўжаў адкрываць пасля зборніка «Шляхам жыцця» — паэмай «Яна і я» — відавочна ў працяг дыскусіі з Ласоўскім, які палічыў, што еўрапейскімі меркамі няма чаго ў Купалы мерыць. Няма? Пачакайце!..

24 чэрвеня Купала скончыў паэму «Бандароўна», 2 ліпеня — «Магілу льва», 24-га — паэму «Яна і я». Узлёты таленту Купалы: ледзь не ў адзін месяц — тры паэмы, а 31 ліпеня, у тыдзень пасля напісання паэмы «Яна і я», быў гатовы ўжо і вадэвіль «Прымакі». А яшчэ цераз месяц і тры дні — пяціактовая драма «Раскіданае гняздо». Сапраўды блаславёныя ўдачай Акопы, блаславёнае лета купалаўскага генія 1913 года!

З Пецярбурга — пасля прачытання бунінаўскай «Вёскі» — Купала не мог адкаснуцца ў думках ад неспатоленай прагі даць сваё адкрыццё, сваё разуменне вёскі — адкрыццё, якое было б карцінай складаных супярэчнасцей і ні ў якім разе не прынікала б чалавека ў мужыку. Як увогуле мог Купала згладжваць супярэчнасці, калі ён у сваіх Акопах быў на самым вастрыі іх, калі ён, не ў стане асуджаць маці, што яго нарадзіла, гатоў быў выкалваць сабе вочы, бачачы маці на табурэтцы каля жнеяў. Сэрца спіскалася ад крыўды, ад якое не ўцячы: каб яго маці ды была ахвярай такога стану, такой вымушанасці, такога лёсу! Боль за маці абвастраў боль Купалы за мужыка. Няхай маці не мужычка, але быў бы іншым лёс мужыка — быў бы іншым і лёс яго маці. Была б у маці зямля, была б у мужыка, а не ў памешчыкаў і магнатаў і не ў папоў і цара, і ўсё было б на свеце інакш. Думка Купалы часцей і часцей пачала вяртацца да лёсу сваёй сям'і, а значыць, і да дзеда Юркі, бо той першы застаўся без зямлі, яго першым сагналі з яе князі Вітгенштэйны. І вось цяпер прадаўжае зганяць іншых сялян з зямлі малады Чаховіч з Малых Бясядаў, выгнаў нават маладзіцу з дзецьмі, да якой ці не сам заляцаўся...

У гэтае, трэцяе сваё акопаўскае лета Купала не мог не ўзняцца да самага свайго вяршыннага дакастрычніцкага твора. «Адвечную песню», «Курган», «Сон на кургане» ён пісаў у самыя разгульныя для рэакцыі гады. Рэакцыйныя сілы і ў 1913 годзе заставаліся ў моцы, але што «гуляй, Ямеля, твая нядзеля» — цяпер ужо не гаварылася. Новы рэвалюцыйны ўздым, пачынаючы ад Ленскага расстрэлу, адчуваўся ва ўсёй краіне

ўсё больш выразней. Вершы Купалы 1912—1913 гадоў былі ў сваёй рэвалюцыйнай акрыленасці, закліках да сонца, да зор спараджэннем новага рэвалюцыйнага ўздыму. Часам высокіх надзей — вось чым было трэцяе лета Купалы ў Акопах. І яшчэ яно было часам прадчуванняў — усвядомленых і неўсвядомленых: усе канфлікты сацыяльнага жыцця, барацьбы абвастрыліся для Купалы да гранічнага, думка яго выходзіла на іх ліхаманкава, ва ўсвядомленым жа было і неўсвядомленае, бо ўсведамленне заўсёды шырэй самога сябе канкрэтнага, асабліва ў мастака, які стварае свой мастацкі свет, на свой лад мадэліруючы яго і ў марах аб будучым пераўтвараючы.

І яшчэ адно было ў трэцім леце Купалы ў Акопах — мроя пра Яе, летуценні аб Ёй, успаміны. «Для Яе» — так назваў Купала адзін з сямі раздзелаў «Шляхам жыцця», сабраўшы ў ім вершы, прысвечаныя розным жанчынам. Цяпер тут, у Ако пах, Яна была адною — у марах; у буднях жа былі сустрэчы і з іншымі. Так, з лета 1913 года Купала зноў зачасціў у Малыя Бясяды, ды ўжо не па кнігі, а да вінакура Вікенція Францавіча Станкевіча. Віця быў братам знаёмай Купалу яшчэ па першым годзе ў Вільні Уладкі Станкевічанкі. У снежні месяцы 1914 года, у адзін дзень — 13-га — Купала напіша аж два вершы, прысвечаныя Станкевічанцы — «Успомні...» і «Гэй ты, дзяўчына, кветка-лілея». Ці гэта будуць успаміны лета 1913-га ці 1914-га, сёння сказаць цяжка: з успамінаў Уладзіславы Францаўны не зразумець, з якога лета яна ў брата ў Малых Бясядах адпачывала. Але калі мы прымем, што з лета 1913-га, то ўсё адно з вершаў Купалы канца 14-га года не відно, каб ён заклікаў знаёмую госцю з Малых Бясядаў успамінаць нешта асабліва інтымнае. Бо сапраўды, вось што заклікае сваю маладую знаёмую паэт найперш успомніць:

Успомні, не хвілю радасці дзіўнай,—
З іншым раздзеліш радасць сваю,—
І не мяне ты ўспомні, дзяўчына,—
Успомні, от... гэту думку маю!

Калі запрашаюць успомніць толькі «гэту думку маю», калі вяшчаюць «з іншым раздзеліш радасць сваю», то гэтым выражаюць усё ж стрыманасць у адносінах, калі не халаднаватасць. І з другога верша канца 1914 года вынікае, што паэт апявае блізкасць толькі духоўную, толькі ідэйную, а не якую-небудзь іншую:

Дух... вольны вольнага духа
Пойме і так жа ўкрадкам заплача.

Але паглядзіце, які высокі, велічальны зачын у гэтага другога верша, прысвечанага Станкевічанцы:

Гэй ты, дзяўчына, кветка-лілея,
Вольная птушка сумнай зямліцы!

«Сумнай зямліцы» — гэта Беларусі; «вольная птушка» — гэта з гурту сакалінай сям'і птушка, з гурту перадавой моладзі Маладой Беларусі. «Кветка-лілея» — гэта, канешне, вылучэнне прыгажосці паплечніцы па духу, думках, барацьбе, слёзах, але гэта не шуканая папараць-кветка. З Уладзіславай Станкевічанкай як з паплечніцай па барацьбе Купала быў ужо знаёмы ў яе 18 год: неяк быў ён з ёю ў тэатры, праводзіў у Вільні на аддалены Антокаль, дзе яна жыла, а назаўтра пераслаў нават першы прысвечаны ёй верш «Снег». Але ў чатырох гадах знаёмства са Станкевічанкай — да 1913 года — мала што ў адносінах Купалы і Станкевічанкі змянілася. Што яны былі да лета 1913 г. больш дзелавымі, сведчаць і ўспаміны самой Уладзіславы Францаўны. «Мне асабіста,— успамінала яна,— часта прыходзілася развозіць ці разносіць літаратуру. У той час я працавала настаўніцай у Вільні. У нядзелю ці ў іншы дзень прыходзілася пераходзіць з месца на месца, пераносіць беларускія газеты, календары і кніжкі. Часта маім кампаньёнам і памочнікам у гэтай справе быў Янка Купала. Мы з ім наведалі месца, дзе жыў Францішак Багушэвіч: у Ашмянскім павеце, каля мястэчка Жупраны, а таксама ездзілі часта ў Лідскі павет, дзе жыла Цётка». Цётка вярнулася з эміграцыі ў 1911 го-

дзе, значыць, да Цёткі Купала са Станкевічанкай ездзіў пасля свайго другога прыезду ў Вільню, як і на радзіму Багушэвіча. Было гэта і да Акопаў, да лета 1913-га, якое клікала паэта ў Малыя Бясяды і грудным, высокім голасам Уладкі. Уладка так хораша спявала беларускія народныя песні, і Купала ведаў, што гэтыя песні яму падабаюцца, а ці падабаецца сама спявачка, яшчэ аб гэтым не задумваўся. Не задумваўся, бо думаў пра іншую, пра тую, чый вобраз быў у сэрцы і ў вачах Купалы з Пецярбургскіх белых начэй, ды яшчэ і раней! З першай раніцы першага прыезду ў Вільню! З першага купальскага свята ў Вільні 1912 года! Гэтая дзяўчына была Купале лілеяй крыху іншай.

Кветка-лілея з крыніцы —
Шыйка гэтай чараўніцы;
Два букеты з незабудкі —
Маладыя яе грудкі...

Увогуле ж вобраз Яе мроіўся Купалу ў лета 1913-е, нібыта вобраз Славіры са «Сну на кургане»: за павеўнасцю, легкакрыласцю гэтага вобраза ўгадваецца постаць самой Яе — Паўліны Мядзёлкі,— як з таго здымка, дзе Мядзёлка, прысеўшы ў крэселка, злёгка абаперлася падбародкам на правую ручку. Ці ж гэта не сама Славіра, пра якую Купала пісаў: «...Павеўнае стварэнне ў кабечым вобразе, чуткая, як пылінка цвету на ўсякі павеў ветру, прыгажосць не апісаная, не земская, убор яе як тканая з золата паўцінка... на цёмна-залацістых валасах — вечны вянок з незабудак і жытніх каласкоў».

Уладка Станкевічанка танцавала ў Вільні на беларускіх вечарынках на сцэне ў пары са студэнтам хіміка-тэхнічнага вучылішча Юрэвічам, які, як кажуць, свету з-за яе не бачыў. Сама ж Уладка млела па Чэсю Родзевічу, танцоры таксама куды спрытнейшым, чым Купала, які танцаваў толькі польку і то «дробненька». Уладка ў танцы была размашыстай: яна звонка стукала-прыстуквала абцасікамі, шчокі разгараліся ярчэй маку, ярчэй агністага андарака, ярчэй паластай шырокай спад-

ніцы. Ды ўспамінаючы ў Акопах сцэны Пецярбурга і Вільні, не Уладку-танцорку вышукваў вачамі на іх Купала.

Як маліны, яе губкі,
    А твар, як лілея,
Як дзве зоркі, яе вочы,
    Гляне — свет яснее.
Рост высокі, стан павабны,
    Ўся, як цень, павеўна...

І тое ж бачыў, перажываў, адчуваў Купала, калі выпісваў вобраз Натальк і ў «Магіле льва», калі ўвогуле пра беларускіх дзяўчат напісаў:

На беларускую дзяўчыну,
Калі тут праўду ёй аддаць,
Ніхто йшчэ каменем не кінуў
І не паважыцца кідаць.

Купала ствараў у Акопах вобразы трох розных гераінь, сам думаючы пра адну, ёй, Паўлінцы Мядзёлцы, адной, і прысвячаючы першую з трох паэм — «Бандароўну», выпісваючы вобраз гераічна-эпічны: гераіню народных легенд. Непакорная пану-магнату, яна гінула, але не станавілася яго палюбоўніцай-парабчанкай. І за гэта Бандароўна стала песняй у народзе. Увесь народ падняўся, каб помсціць князю за здзек над сваёй дачкою.

Больш складаным ствараўся вобраз Натальк і. Яе пакахаў Машэка. Яны б і вяселле згулялі, ды пагнаў плыты ўніз па Дняпры Машэка, а падарожны пан узяў ды звабіў Натальку, прыўлашчыў сабе. І ўжо як жонку пана ў карэце з самім панам перапыняе Натальку разбойнік Машэка на вялікай дарозе ў лесе. Пана ён забівае, Натальку цягне ў сваю бярлогу. Нацешыўшыся ёю, Машэка засынае, а Наталька яго, Машэку, ягоным жа нажом забівае. Ды не на якой-небудзь здрадзе Натальк і акцэнтуе ўвагу Купала, а на справядлівым судзе, выканаўцай якога воляй лёсу становіцца Наталька. Суд народны асуджае ў Купалы Машэку за тое, што ён супрацьпаставіў сябе грама-

дзе, што вышэй за ўсё паставіў крыўду асабістую, а не грамады, што стаў разбойнікам, а не народным заступнікам.

У 1913 г. Купалу, па-першае, карцела заклікаць свайго чытача да непакоры прыгнятальнікам, і ён напісаў «Бандароўну». Па-другое, ён паставіў сваёй задачай:

Пачнём дакапывацца самі
Разгадкі нашых крыўд і бед,—

і разгадку знайшоў у эгаізме, адшчапенстве, супрацьпастаўленні сябе, адзінкі, нават і магутнай, грамадзе.

А вось нібы і спецыяльна па вашаму заказу, Юры Верашчака, паэтызацыя красы жыцця — «песня зямлі і жыцця», прадпамераная ідэалізацыя вёскі з яе побытам, цыклам сельскагаспадарчых работ, апяваннем кахання, красы ўзаемаадносін Яе і Яго — у згоднай, руплівай працы на скрыжалях быцця. Быт як быццё! Праца як краса! Каханне як краса! Ведалі б вы, Юры Верашчака, якімі эпітэтамі, якой сапраўды еўрапейскай меркай будзе мераць гэтую паэму адзін з вядомейшых рускіх пісьменнікаў сярэдзіны XX стагоддзя Аляксандр Фадзееў! «Яна і я»,— напіша ён,— «паэма выключна своеасаблівая, зямная, язычніцкая і ў той жа час па-беларуску ціхая, акварэльная і зноў, і зноў мужыцкая»!

Гэтая мужыцкая паэма была ў традыцыях «Працы і дзён» Гесіёда, «Германа і Даратэі» Гётэ, пастараль — толькі без пастушкоў; Эльдарада, у якім сама паэзія сялянскай працы, паэзія Вёскі, а не бунінская лінялая Дурноўка. Праклінаючы «толькі скопу хвілі і тыя вечныя па нас крыжы», героі паэмы ў астатнім абое ў шчырым захапленні светам: «Вялікі свет! Не зглядзець тых абшараў...»; «Арыце, сейце, людзі, хто што можа, старым ці новым абычаем! А вашу працу доля ўпрыгожа шчаслівым, буйным ураджаем»; «Прыйшлі мы й дзівімся такому хараству!.. Змяшаліся мы з сонцам, з кветкамі, з травой...»

Паэма «Яна і я» была больш паэтызацыяй прадчуванага, а дакладней — жаданага. Яна была паэтавай візіяй, відзеннем

паэта, залатым яго сном. Паэт так марыў, так прагнуў мець Яе сваёю, што Яна ўжо здавалася яму ягонай. З кім толькі Яе ён не параўноваў — у душы, канешне,— аддаючы ўсе свае словы Яму, свайму герою. Просты сад з Ёю выглядаў яму «раем на зямлі», у якім ён — Адам, яна — Ева; і называў ён Яе гаспадыняй, а сябе — «твой вечна — гаспадар»; называў і па-біблейску ўрачыста «мая палея» і традыцыйна, па-сялянску проста «мая́» («Мая́ не выгнала каровы»). Яна для яго была яшчэ і «сэрца-ткаля», і «мілая», і «галубачка бяскрылая», і «сястрыца», і «сірата». А колькі замілавання ў купалаўскіх памяншальна-ласкальных формах: «На ножкі пырснула і на каленцы вадзіца, як раса наградкі...», «Садзіцца маё сэрца-ткаля... ў кросенькі... кладуцца ўтоку гусценька палосанькі...»

Купала кахаў, Купала насіў у сваім сэрцы найвялікшае пачуццё — гэты маўклівы, засяроджаны ў сваіх думках акопаўскі Купала лета 1913-га, які, выламаўшы ляшчынавы кіёчак, падаваўся ці то ў бок Харужынцаў, ці то дарогай на Карпілаўку, ці то ўвогуле ў грыбныя свае нетры ва ўсе чатыры бакі ад акопаўскага хутара.

Быў ужо жнівень. Жнеі-наймічкі не завіхаліся з сярпамі на постацях, а, як паны, стаялі, надзеўшы сонечна-рыжыя шапкі, мэндлі-дзесяткі,— у шарэнгу па пяць-шэсць, а то і болей мэндляў. Мэндлі-дзесяткі маўчалі, іржышча толькі шэрхала пад нагамі, калі цераз першае, другое і трэцяе поле з пералеску ў пералесак пераходзіў Купала. Ва ўсе бакі ад акопаўскай хаты падаючыся, найчасцей, аднак, браў Купала кірунак у бок Харужынцаў. І не таму, што тут былі высокія белыя бярэзнікі з падлескам зялёных тапырыстых елак, пад якія ў тое лета ахвотна зашываліся белабрысыя баравікі. Не таму, што дзе падлескам ішла лешчына, пачыналі трапляцца чырвонагаловыя падасінавікі, а па больш сухім, маладзейшым бярэзніку ў высокай траве нудзіліся ў той грыбны год, бо іх не бралі, чашчавікі. Купала ў бярэзніках не спыняўся: ён любіў сосны, бор, а ў бор было ісці — ледзь не пад самыя Харужынцы — бор

стары, мнагашумны, з залатабокімі выноснымі соснамі. Бор быў з куп'істым зялёным мохам і шэрым імшаннікам, у далавінах — з дурманістым багуном, а каля выжарын — з лілова ставокім верасам. У маладняках толькі пахруствала пад нагамі сухое голлейка або ігліца. Тут было душнавата ад сонца, смалы і смолкі, пах якіх трымаўся ад ранняга лета. У старым бары грыбоў не было, але былі густыя зараснікі папараці. Папараць Купала любіў, але рваць — не рваў, як ягадніцы на Купалле, абвязваючы ёю збаночкі з суніцаю. Не рваў, бо ведаў: рэжа рукі. А што было больш радасным, ці ўбачыць з-пад зялёнага імху або абымшэлага лаўжа вялізнага лабастага чарнагеля-баравіка ці выкалупваць з шэрай ігліцы карычнева-цёмныя баравічкі-корпанцы,— Купала і сам не сказаў бы. Ён любіў гэтых прыгажуноў — дзетак беларускіх лясоў; ён любіў гэты шматаблічны беларускі лес — любіў, як любяць яго ўсе беларусы! А папараць?.. Любіў, хоць ведаў: рэжа рукі...

Ды калі Купала падаваўся лесам у бок Харужынцаў, яму здавалася, што ён падаваўся не толькі бліжэй да баравікоў,— яму здавалася, што ён падаваўся бліжэй да Яе. Бліжэй, праўда, у гэты бок да Вільні не было — наадварот, было далей, ды ў Купалы было адчуванне, што ў гэты бок — бліжэй. Бліжэй жа ў гэты бок было да Малых Бясядаў, да маёнтка Чаховічаў, да вясёла-тэмпераментнай сястры Віці Станкевіч Уладкі.

Жнівень 1913 г. быў проста вясёлы ў Купалы, і ўсё. 31 ліпеня ён скончыў вадэвіль «Прымакі»; тут смяяцца можна было не толькі цэлы месяц, а да самага канца свету. І собіла ж Купалу агораць гэтакі сюжэт. А ўсё гэта яны, харужынцы, на такія штукі здольныя. Дзе ж тут сам дадумаешся да такога сюжэта: выпіўшы, ды, вядома, добра, мужыкі спрачаюцца, каго жонка горшая, і, каб праверыць, мяняюцца жонкамі, адзін аднаму за сваю колькі лішніх квартаў яшчэ выстаўляючы. Прачынаюцца ж яны назаўтра не ў сваіх хатах, і — пачынаецца пакаянне, вясёлыя перыпетыі, калі Даміцэля хоча тапіцца, ды

перадумвае, бо вада халодная, Максім Кутас хоча вешацца, ды перадумвае, бо яшчэ дзяга парвецца. І крычыць Кутас з адчаю: «Чаму лепей мяне маці малога, у начоўках купаючы, не ўтапіла, чымся я меў дачакацца гэтага сораму? Сам я, дзякуй богу, не маладзёначак... ды свая кабеціна яшчэ не зломак, хоць, не раўнуючы, па́лі забівай, а тут — на табе? Яшчэ гэта з меншалкай, ведзьма кіеўская!» А тут яшчэ ўмешваюцца дзеці: «А я ў мамкі і дзядзькі пытаюся, чаму ў мяне цяпер два таты?» І высвятленне ўсіх гэтых «чаму» ідзе весела, дасціпна, з песнямі, з танцамі, з вяселлем у канцы сына і дачкі самавіта няшчасных мужыкоў, якія адважыліся на пары́, каго ж жонка горшая.

Вясёлым быў жнівень Купалу і таму, што якраз у сярэдзіне месяца, 15-га, яго запрасілі з Акопаў у Радашковічы, там упершыню ставілі яго «Паўлінку». Спектакль быў удалы, вясёлы, але ён лішне запомніўся і тым, што на ім Купала сустрэўся з Уласавым. Аляксандр Мікітавіч быў, як заўсёды, у добрым настроі, хоць тое, што ён паведаміў Купалу, здалося, і не павінна было б яго цешыць. Але такім ужо вельмі рассеяным чалавекам быў Аляксандр Уласаў.

— Пане мой,— гудзеў ён басам,— дык я сапраўды думаю пераязджаць на грамадскую работу ў Мінск, што?

І не чакаючы адказу на сваё «што», пабліскваючы сваім ледзь скошаным вокам і падкручваючы спічастыя вусікі, прадаўжаў:

— Бо ўсё ж Мінск бліжэй майго хутару ля Радашковіч, ды і паны Лапкевічы мне абрыдлі,— хопіць прыкрывацца мною,— што?

Купала разумеў, што гэта яшчэ адзін з крызісных момантаў у «Нашай ніве», думаючы, што ў канфлікце, магчыма, замешаны і Ласоўскі. Няхай і раней ніколі не было адзінства ў рэдакцыі, але ўсё ж Уласаў стаў ужо фігурай — прынятай, вядомай. Публіцыст ён быў дарэчы: не выстаўляючы сябе, пісаў і востра і неабражальна, з тактам, хоць у барацьбе з чарнасо-

цэнцамі — Саланевічам, Кавалюком — лёгка было і перагнуць. Але ён і сам не перагібаў, і Лапкевічам пракламаваў сваю пазіцыю паслядоўна, і Ласоўскага асаджваў. За справы «Нашай нівы» Купала не мог не перажываць. З'яўленне на яе старонках артыкула «Сплачывайце доўг!» сведчыла, што верхаводзіць у газеце фактычна пачаў ледзь не Ласоўскі. Не асабістыя якія-небудзь моманты клапацілі пры гэтым Купалу — з Лапкевічамі яму яшчэ можна было ісці на нейкі кампраміс, з Ласоўскім — па ўсіх прычынах, і асабістых і грамадскіх — не! Купала не прымае ні яго эстэцтва, ні яго мадэрнісцкай «Рожавай кветкі», ні яго ідэалізацыі, міфалагізацыі гісторыі. Шлях Ласоўскага — не шлях «Нашай нівы», а калі пойдзе з «Нашай нівы» памяркоўны Аляксандр Мікітавіч, што тады будзе?

Увогуле доўгім, зацяжным было трэцяе лета Купалы ў Акопах і таму, што Купала не вельмі спяшаўся ў Вільню. З Пецярбургам ён ужо развітаўся, а ўжо таго энтузіязму, з якім ён ехаў першы раз у Вільню, цяпер не было. Зрэшты, Купала не пераставаў думаць пра Вільню, бо думаў пра Яе. Але ён і чакаў сустрэчы з Ёю, і адцягваў з сустрэчай, адкладваў яе, можа, і ад адкладу чакаючы ўзнагародай поўную ўзаемнасць, поўнае шчасце. Яму ж так увесь час не шанцавала на ўзаемнасць! Тую ўзаемнасць, якое ён сам шукаў. Тут жа ён сам яе шукае,— і тут жа можа зноў лёс павярнуцца да яго, сіраціны, спіной: бо што тоіцца ў сэрцы дзявочым, ці ўгадаць, ці прадбачыць? А намеры ў Купалы самыя сур'ёзныя: яму ўжо трыццаць адзін, у яго ўжо будзе пэўная ўладкаванасць, праца. А галоўнае — ён не можа не думаць пра Яе. Вось толькі ён скончыць яшчэ гэта і адразу ж выедзе ў Вільню!

Гэта было драмай — першай і апошняй, якую ён напіша: драмай яго мужыцкага народа, мужыка, пазбаўленага зямлі, сагнанага з яе панам. Сімволіка драмы ўжо даўно ім прадумана: свежавычасаны крыж, які нясе сын на магілу бацькі, крыж жыцця бацькі ўскладаючы на свае плечы; сынава сякера, якою той вычэсвае крыж і якую павінен узняць на пана; торбачкі як

сімвал жабрацтва, якія будзе рыхтаваць усім сваім дзецям маці; скрыпачка як сімвал таленавітасці народа, якую ўвесь час будзе майстраваць на сцэне адно з меншых дзяцей маці; і яшчэ тое, што Пан будзе малочным сынам тае ж самае маці-сялянкі, што і сяляне — маладое пакаленне ў п'есе: паны таксама ўскормлены народам! Драма яго будзе рэвалюцыйнай: «На Вялікі Сход — па Бацькаўшчыну» рушаць маладыя яе героі — Сымон і Зоська ў канцы п'есы. І будзе клікаць іх на Вялікі Сход Незнаёмы, чалавек ідэі, як ён сам, Купала. І ў канцы пойдуць на заклік Незнаёмага Сымон, Зоська — Сымон, падпаліўшы палац Пана, з галавешкай у руцэ. Менавіта агонь блаславіць Купала як спапяляючую стары свет сілу і адмовіць філасофію «дабра добрым шляхам дасягаць». Гэта будзе не толькі рэвалюцыйная, рамантычная, але і філасофская драма.

Самая паэтычная сімволіка будзе ў вобразе Зоські. Яшчэ не стварыўшы яго, Купала ўжо ўсёй душой палюбіў гераіню — экзальтаваную, закаханую русалку з вянком васількоў на галоўцы, з распушчанымі косамі, з любімымі словамі аб зорачцы і месячыку маладзенькім, з такой наіўнасцю, з такой верай у казку. Купала баіцца, каб чагосьці не забыць з ужо прымроенага, прадуманага — асабліва пра Зоську, і ён запісвае:

«...Здаецца, прыйшоў да нас у хату нехта такі незвычайны — на галаве месяц, у руцэ сонца трымае; прыйшоў ён і кажа: «Годзе вам тут сядзець, годзе ж гібець, хадзіце за мной!.. Што б там перад вамі ці за вамі ні рабілася — не аглядайцеся назад, а ідзіце за мной усё наперад, усё наперад!»

Гэта вельмі важна,— зноў паўтарае ў думках Купала,— «што б там перад вамі ці за вамі ні рабілася — не аглядайцеся...».

П'есу «Раскіданае гняздо» Купала скончыў 4 верасня 1913 г. Пачаў перачытваць, як заўсёды, не без хвалявання: «А ці атрымалася і як?» Сапраўды, шмат свайго ўклаў ён у гэту драму. Зоська «любіць яснату і кветкі. Душа ўражлівая, неадгаданая. Не можа пагадзіць акружаючага, будняга і тры-

вожнага жыцця з сваімі думкамі — снамі...» Усё ж гэта і яго, Купалавае!.. Незнаёмы. «З усяго відаць, што чалавек ён поўны ідэі, у якую сам верыць і якой хацеў бы, каб цэлы свет напоўніўся». Зноў жа і ў гэтым ён сам — Купала!.. Сымон. «...Горды і адважны... Калі з паднятай галавешкай ідзе ў свет, кажучы апошнія словы: «Па Бацькаўшчыну!», то здаецца, што гэта волат-асілак узняўся з зямлі, каб цэлым светам здрыгануць». Зноў жа — ён, Купала, ён! Толькі адно што не мог Купала сам сябе ўявіць волатам-асілкам, думаць так сам пра сябе, бачачы ў люстры шафы сваё хударлявае аблічча, будучы прастуджаным яшчэ з першых дажджоў, што так шчодра ліліся з неба ў тое лета 1913 года.

Запыніў Купалу пры перачытванні драмы і дыялог маці Марылі з Сымонам.

«Марыля. Нічога, сынку! Гэта пяройдзе, гэта толькі жаль вялікі праз цябе гаворыць...»

Купала думаў, ці сапраўды пяройдзе гэты бясконцы жаль, што праз яго, паэта, гаворыць, ці не пяройдзе? Ён, Купала, жадаў таго і сабе і ўсім добрым людзям, чаго жадала сыну Марыля, і ён жа, як Сымон, сумняваўся ў тым. А Марыля жадала Сымону: «...Зацвітуць краскі і ў цябе на душы і на сэрцы, светлыя краскі ціхага спакою і журбы святой. Будзеш далей жыць і шукаць шчасця на свеце».

Сымон адказваў:

— Кветкі! Шчасце! Паганыя ногі патопчуць кветкі на бацькавай магіле, як і яго самога ў зямлю затапталі; а шчасце,— каб як глыбока захаваў у сабе,— то табе яго збэсцяць, без ніякае літасці збэсцяць! Нячыстымі рукамі будуць капацца ў душы, пакуль не вырвуць з яе гэтага шчасця і не кінуць яго пад ногі і не раздушаць.

Праўда была ў словах маці Марылі: Купала будзе далей жыць і шукаць шчасця на свеце; праўда была і ў словах Сымона: нячыстыя рукі будуць яшчэ не раз капацца ў душы Купалы.

## У «ЗЯЛЁНЫМ ШТРАЛІ»

Вільня, стаўшы ў міжрэвалюцыйнае дзесяцігоддзе пачатку нашага стагоддзя цэнтральным асяродкам беларускага літаратурна-грамадскага руху, у той жа час была такім жа асяродкам літаратурна-культурнага літоўскага руху, была адным з прыкметных традыцыйных цэнтраў польскай культуры на «крэсах усходніх». Кожні з літаратурна-грамадскіх рухаў быў тут ідэйна неаднародны, з рознай інтэнсіўнасцю кожны развіваўся. Польскі меў укаранелыя традыцыі, беларускі пры ўсёй яго ажыўленасці па інтэнсіўнасці ўступаў літоўскаму. Але яркім момантам ва ўсім літаратурна-грамадскім жыцці Вільні пачатку XX стагоддзя было тое, што перадавыя дзеячы культур усіх трох літаратур тут салідарызаваліся, многія з іх пасябравалі на ўсё жыццё, як Купала і Людас Гіра, Купала і Чурлёніс, Купала і літоўскі кампазітар Стасіс Шымкус. Адзін час Купала жыў у Вільні на Віленскай вуліцы — у адным доме з Чурлёнісам, на адной вуліцы з Людасам Гірам. Як было тут не сысціся, не пасябраваць? З Людасам Гірам Купала ў адзін са сваіх прыездаў у Вільню з Пецярбурга нават хрысціў нованароджаную Стасютэ — другую, малодшую дачку Марыі Пяледы. У католікаў гэта магчыма — браць да малога дзіцяці нават двух хросных бацькоў і маці. Дык вось два народныя паэты стаялі ля купелі такой дарагой сэрцу Марыі Пяледы меншай дачкі.

Былі ў Вільні дзесятых гадоў пачатку стагоддзя і немалыя прадстаўнічыя сілы рускай літаратуры і журналістыкі, у пры-

ватнасці рэдактар віленскай «Вечерней газеты» Андрэеў, з якім Купала вельмі сябраваў. І, што таксама галоўнае, сваіх літаратурных гасцей Вільня пачатку XX стагоддзя таксама сустракала агульнымі сіламі: усе — рускія, беларусы, літоўцы, палякі — сустракалі Валерыя Брусава, калі той наведаў Вільню ў жніўні 1914 г., як раней, у канцы 1913 г., Канстанціна Бальмонта. Брусава дык сустракалі не толькі ў памяшканні літоўскага клуба «Рута», але і сумеснымі сіламі рэдакцый «Нашай нівы» і «Вечерней газеты». Брусаў і асобна наведаў беларускую кнігарню і рэдакцыю газеты «Наша ніва», на чале якой тады ўжо стаяў Купала.

Увогуле не так было шмат у Вільні літаратараў-беларусаў і не так шмат было мясцін, дзе збіраліся на літаратурныя вечары ці проста на вячоркі маладыя людзі (а ўсе беларускія літаратары былі тады маладыя) і ў агульнай бяседзе праводзілі час: канчаліся гутаркі, пачатыя ў рэдакцыях, выдавецтвах, у навучальных установах, канцылярыях і пры варштатах. Прычым на такіх вячорках прысутнічалі не толькі выключна літаратары: тут было шмат энтузіястаў, якіх прываблівала мастацкая самадзейнасць ці ўвогуле грамадская работа. З вядомых жа на той час беларускіх літаратараў да прыезду Купалы ў Вільню ў другі раз тут жылі Цётка, Ядвігін Ш., Змітрок Бядуля. У грамадска-палітычным і літаратурна-грамадскім жыцці Вільні ўдзельнічалі, але напавідку не былі, вядомыя ўжо нам браты Лапкевічы. Не меў дасюль асаблівага прызнання Вацлаў Ласоўскі, хоць да другога прыезду Купалы ў Вільню ён быў ужо актыўнай сілай. З палітычна заангажаванай моладзі ў Вільні асабліва вылучаўся Алесь Бурбіс, і вельмі людная была самадзейнасць пры «Беларускай хатцы», а пасля — пры Беларускім клубе на Віленскай вуліцы, 29. Уладка Станкевічанка выступала ў танцавальнай групе Ігната Буйніцкага, Паўліна Мядзёлка, якая вярнулася ў Вільню з Пецярбурга вясной 1913 г., прадаўжала выступаць як драматычная артыстка. І гэта якраз са ўспамінаў Мядзёлкі мы ведаем, што «Юрэвіч

сох па Уладцы, а Уладка па Чэсю Родзевічу млела, Чэсь да Вікці заляцаўся...». Карацей, усе яны — удзельнікі самадзейнасці, літаратуры — былі маладыя людзі, і не дзіва, што адзін аднаму падабаліся, заляцаліся, кахаліся!

Якім быў Беларускі клуб на Віленскай вуліцы, 29 вясною 1914 г., расказаў Максім Гарэцкі: «Там былі невялічкія канцэрцікі, спевы, а пасля — скокі і розныя гульні. Хадзілі туды ў большасці вучні з настаўніцкага інстытута і хіміка-тэхналагічнага вучылішча, розная служачая моладзь, дзяўчаты — дочкі дробных служачых і рабочых, а таксама дзяўчаты, што былі з вёскі і працавалі ў горадзе — хто хатняю прыслугаю, хто прачкаю, хто чым.

Танцавалі вальсы і мазуркі, полькі і кракавякі, але абавязкова таксама «Лявоніху», «Юрачку», «Мяцеліцу». І ўсе казалі адзін аднаму «ты», хоць бы і зусім яшчэ незнаёмыя,— так там было заведзена на беларускі народны лад. Ну — і танны буфет, і плата за ўваход усяго 10—15 капеек».

Гэта карцінка штодзённай працы клуба — працы дэмакратычнай у асяроддзі вельмі дэмакратычным. Святочнымі ў Беларускім клубе былі сустрэчы з паэтамі. Выхадам Беларускага клуба на ўсю Вільню — намаганнямі клуба і віленскага Беларускага музычальна-драматычнага гуртка — былі імпрэзы, падобныя да святкавання Купалля ў 1912 г. Месцамі ж літаратурных паседзін былі і прыватныя кватэры, у першую чаргу Цёткі, У. І. Самойлы. Але ўлюбёным пунктам агульных паўсядзённых сустрэч саміх беларускіх віленскіх літаратараў была ўсё ж кавярня «Зялёны Штраль»...

Не ў тых настроях і марах, што першы раз, ехаў другі раз на сваё сталае жыхарства і работу ў Вільню Купала. Тут яго чакала пасада сакратара Беларускага выдавецтва, праца ў «Нашай ніве». Наконт апошняй у яго цяпер не было ніякіх ілюзій, а толькі насцярожанасць, заклапочанасць, неспакой ад пачуцця адказнасці за ўсё, што і як ён будзе рабіць. Сталасць — поўная, росквіт таленту — у поўні. Гэта сам ён адчуваў пасля лета

1913 года — пасля напісанага ў Акопах. Упоравень з напісаным павінна ж цяпер ісці і яго грамадская работа. Таго, што было падчас першага прыезду ў Вільню, не будзе! Ні кроку ў бок вясёлых кампаній, багемшчыны! Ён — не маладзён. Ён мог дазволіць сабе гэта яшчэ як студэнт — у Пецярбурзе, але цяпер — толькі дбайлівасць, праца і клопат. І гэты ўнутраны стан кладзе свой адбітак і на знешняе аблічча паэта. Незнаёмым знаёмцам едзе ён у новае жыццё ў Вільню. І ў Вільні гэта першымі заўважаць, канешне, самыя назіральныя, а значыць, дзяўчаты, і ў першую чаргу — Паўліна Мядзёлка, якая праз гады ўспомніць: «Янка Купала моцна змяніўся з таго часу, як прыехаў у Вільню... спахмурнеў, схуднеў, ні разу не бачыла яго цяпер такім гарэзлівым, вясёлым, як у доме прафесара Эпімах-Шыпілы». Бо яму цяпер вечна будзе не ставаць часу («часу вельмі мала»,— пісаў ён з Вільні ў Пецярбург А. А. Карынфскаму 15 красавіка 1914 г.), бо цяпер у ім стане вельмі абвостраным яшчэ адно адчуванне: «Моладасць сыходзіць, ■ зроблена так мала, так мала...» (з ліста да таго ж А. А. Карынфскага ад 16 сакавіка 1914 г.). Настрой жа быў не з вясёлых яшчэ і таму, што жыццё давала паэту куды больш урокаў суму, чым радасці: «У мінулым няма нічога радаснага і светлага,— пісаў Купала Карынфскаму,— будучае таксама ў змрочных фарбах рысуецца. Вось тут і жыві!»

Але Купала жыў — і вельмі інтэнсіўна, загружаны працай па шыю, свядомы ў сваёй працы, ставячы працу даражэй за ўсё на свеце, як гэта ўбачым з яго ліста да Б. І. Эпімах-Шыпілы ад 28 верасня 1914 г.

Лісты пісаць Купала не любіў. Але праца сакратара выдавецтва гэтага патрабавала, і ён пісаў да Б. Тарашкевіча, Г. Леўчыка, К. Буйло. Тарашкевіча ён «падганяў» з напісаннем «Беларускай граматыкі» — «у «назіданіе» маладому беларускаму пакаленню»; Гальяшу Леўчыку пісаў у Варшаву ў сувязі з падрыхтоўкай да перавыдання кірыліцаю яго першага паэтычнага зборніка «Чыжык беларускі»; Канстанцы Буйло —



7 Зак. 2716

у Вішнева на Валожыншчыне, адкрываючы яе талент паэтэсы, ёй, шаснаццацігадовай, рэдагуючы зборнік «Курганная кветка», перажываючы нават за паперу, на якой зборнік меўся быць надрукаваны («...Зрабіў — як умеў. Дрэнная папера, але лепшай не маглі зараз дастаць»,— пісаў ён у лісце да К. Буйло). Праца сакратара выдавецтва была, можна сказаць, з прыемнымі клопатамі — іншаю была ў «Нашай ніве».

Летам 1913 г. рэдакцыя «Нашай нівы» пераехала па новаму адрасу: з Завальнай, 7 на Віленскую, 29. І друкарня Марціна Кухты, у якой друкавалася газета, пераехала з вуліцы Дварцовай, 4 на Татарскую, 20. Хадзіць у друкарню стала бліжэй, але змена адраса рэдакцыі ніякіх змен у працы самой рэдакцыі не выклікала. Па-ранейшаму газета адрасавалася да шырокіх сялянскіх мас і народнай інтэлігенцыі, па-ранейшаму яе забаранялася выпісваць чыноўнікам, настаўнікам, семінарыстам, пісарам, папам, па-ранейшаму адбівалася ад чарнасоценных «Северо-Западной жизни», «Крестьянина», афіцыёзнага «Виленского Вестника», нацыяналістычных «Kurjera Wileńskiego» і «Gazety Codziennej». Матэрыяльныя справы газеты былі цяжкія. Адносіны паміж людзьмі, якія вакол яе групаваліся, працягвалі заставацца складанымі.

Артыкул Верашчакі «Сплачывайце доўг!» з'явіўся на старонках «Нашай нівы», канешне ж, не без апрабацыі Антона Лапкевіча. Наяве была нейкая салідарызацыя абодвух — працяг таго, што раз'ядноўвала Купалу з Лапкевічамі ў 1908—1909 гг. Купала гэта разумеў. У новы свой прыезд ён ужо вёў сябе па-іншаму. Яго нельга было цяпер абвінаваціць у гультайстве, у тым, што ён валочыцца, вядзе сябе неабдумана. Купала ўвогуле адчуваў сябе ўжо раўней Лапкевічаў у тым сэнсе, што і ён не без сваіх універсітэтаў: Пецярбург яго ўзвысіў. Купала цяпер быў повен прагі працаваць і толькі працаваць — у яго заставаліся толькі песня і праца. Перажыўшы разрыў з Марыяй Пяледай, ён ужо ўвогуле не спадзяваўся, што зноў узгарыцца пачуццямі, падобнымі да тых, што абудзіла ў ім Марыя. Пецяр-

бургскія сустрэчы з Мядзёлкай яму памяталіся, з яе вобразам ён жыў усё сваё трэцяе лета ў Акопах. Але Купала разам з тым па-ранейшаму баяўся сустрэчы ■ Ёю, баяўся зноў таго, што было ўжо яго наканаванасцю: сутыкнення ідэальнага і і рэальнага, мары і явы. Баяўся настолькі, што згаджаўся на гордае адзіноцтва, усё часцей думаючы, што ягоны лёс — быць сірацінай.

Лапкевічы, адчуваў Купала, працягвалі быць у адносінах да яго па-ранейшаму недараскрытымі — з нечым недагаворанымі, з гжэчным абыходжаннем, нібы сяброўскай паставай, за якімі ўтойвалася, аднак, нешта, што вымыкала з рук, як вужака. Вось яны, напрыклад, два тыдні таму назад блаславілі ў газеце матэрыял «Ці сапраўды мы ніколі не будзем мець свайго Міцкевіча, Пушкіна, Сянкевіча, Талстога?», у якім праклямавалася, што «хваліцца можам Янкам Купалам, Якубам Коласам і іншымі». А вось сёння Купала захапіў у «Зялёны Штраль» рэцэнзію самога пана Антона на зборнік М. Багдановіча «Вянок» і заўважае пераключэнне на зусім новыя рэгістры, пераарыентацыю — і вельмі ж выразную — з аглядкай на Верашчакаў «Сплачывайце доўг!». Але як гэта тонка і хітра зроблена! Купала чытае: «М. Багдановіч перш за ўсё шукае «чыстай красы». Але вунь які фінт робіць пан Антоні, нібы зусім забыўшыся, як ён сам папярэдне ставіўся да гэтага ж паэта, да тых самых вершаў, у якіх цяпер знаходзіць пошук і выяву «чыстай красы». «Лясун калышацца на танкаствольных соснах, і здаецца, быццам чутно яго гранне... У срэбных праменнях месяца купаюцца русалкі і расплятаюць свае косы; на дне ракі — у ціне, у вечнай цішы — спіць сівавусы, згорблены вадзянік...» Да ўсяго ж гэтага ў Лапкевіча стаяла прэамбулай: «Багдановіч — свядомы паэт: ён не толькі пачувае красу — ён яе разумее». А ці не гэтую ж красу вы, пане Антоні, з Ядвігіным Ш. аб'яўлялі дэкадэншчынай і спісвалі рукой Уласава ў архіў, ■ якога яе выцягнуў нябожчык Сяргей Палуян? Як на 180° па-

варот: дэкадэншчына і раптам — «сапраўднае», «чыстае мастацтва»! А ў каго — «несапраўднае»?! У Купалы, Коласа?!

Хаця — не! Ого! Пан Антоні так проста — «у лоб» — не скажа. Ён увогуле адмаўляецца, бачыце, параўноўваць Багдановіча з кімсьці іншым з паэтаў: «Не затым, што няма лепшых за яго паэтаў (бо такія ёсць!), але затым, што Багдановіч ні да каго не падобны. Яго душа замкнёная ў сабе, жыве ў нейкім іншым, асаблівым свеце — у свеце чыстай красы і шчырай паэзіі...»

— Ну, той якраз красы,— выгуквае Купала,— даўгі якой сплачваць патрабаваў Верашчака!

Купала адсёрбвае кавы з маленькай філіжаначкі, пагля- дае на Паўліну Мядзёлку, думае: «Навошта, аднак, пану Антонему спатрэбілася гэтае супрацьпастаўленне «лепшых за яго паэтаў» і асобнага Багдановіча. Што б гэта значыла?..» Купала сам сабе на такое пытанне адказаць да канца не можа, але ён адчувае, што ідзе далейшае пляценне нейкай павуціны вакол яго, каб паставіць яго ў залежнасць ад іх, каб паказаць, што не ён — галоўны, а яны: хочуць — мілуюць, хочуць — не: і ты ўжо не самы лепшы! Адным словам, Купалу не могуць дараваць яго незалежнай паставы, яго гордасці, што ў ім сваім тонкаінтэлігенцкім нюхам адчуваюць, становяцца насуперак яго мэтаімкнёнасці самому ўзяць справу беларускага адраджэння ў свае рукі, на свае плечы. А яго ж рукі — чыстыя! А яго ж плечы... Купала таго сам не ведае, наколькі яны шырокія!

Але тут жа здзіўляе Купалу і Ласоўскі: ледзь з'явілася рэцэнзія пана Антонега на «Вянок» з арыентацыяй на «Сплачывайце доўг!», як Ласоўскі ў наступным нумары «Нашай нівы» сам пераасэнсоўвае свой лозунг. «Што такое? Чаму? — здзіўляецца Купала.— Дзякуючы свайму «прыроднаму дару крытыцызму», аб якім сам вяшчаў з месяц назад?.. Чытаючы артыкул «Па сваім шляху!», Купала бачыць у ім цалкам новы паварот у запатрабаваннях Ласоўскага, блізкі да развяг Сяргея Палуяна, якія яны — Купала, Ласоўскі — чулі калісь у рэдак-

цыі «Нашай нівы». Ласоўскі цяпер сцвярджае: «Адзін геніяльны твор, напісаны па-беларуску, можа даць славу і пашану нашаму народу! І мы павінны кіравацца да гэтага. Во гэты доўг мы маем перад сваім народам, каторы павінны сплаціць». І з гэтым Купала згаджаецца, як і з запатрабаваннем шукання «новых праўд, новых дарог», з тым, што «нашы пісьменнікі павінны выраблядь талент свой не на дэкадэншчыне, а на ўсясветнай класічнай літаратуры; павінны не толькі раскрываць раны свайго грамадзянства і паказваць яго калецтвы, але і шукаць чалавека будучыны, чалавека сільнага, здаровага, чалавека — цара прыроды». Гэта было ўжо нават вельмі блізка Купалу. «Віншую вас, пане Вацлаве! — думае паэт.— На гэты раз вы сапраўды купілі Лапкевічаў: яны пайшлі за вашым дэкадэнцкім клічам да «чыстай красы», а вы — рубам ад іх адгарадзіліся! Віншую, бо гэта ўжо цвяроза...»

Купала сапраўды быў не супраць узначаліць «Нашу ніву». Сёння цяжка раскрыць усе прычыны, з-за якіх Лапкевічы пайшлі на гэта, але, так ці інакш, з 7 сакавіка 1914 г. Купала значыўся ўжо рэдактарам «Нашай нівы», Аляксандр Уласаў — выдаўцом, а з 16 мая 1914 г. Купала ўвогуле рэдактар-выдавец «Нашай нівы». Аўтарытэт Купалы іграў на Купалу. Лапкевічы, можа, і не вельмі таго хацелі, каб аддаваць «Нашу ніву» Купалу, але ўсё да таго ішло. Купалава «Наша ніва» будзе заставацца і іх трыбунай, у гэтым яны не сумняваліся, бо гаспадарамі газеты заставаліся яны, аплачвалі расходы па яе выданню яны. Ды і з кім Купалу рабіць газету, як не з імі: Антон Лапкевіч, як і Ласоўскі — журналісты спрактыкаваныя, і пра гэта яны самі ведаюць. Можа, Лапкевічы нават пацiралі ў задавальненні рукі, што нарэшце спіхнулі газету на гэтага рамантыка і бяссрэбраніка. Хай паспрабуе сам, а не за іх плячыма!

Змяніць адразу ж, рэзка кірунак газеты, яе пафас Купала, вядома, не мог. Самая першасная ідэя, якая яго вяла ў газету, была адна — толькі чыстымі сродкамі рабіць вялікую справу беларушчыны! Антон Лапкевіч быў, бясспрэчна, у курсе гра-

мадскай пазіцыі Купалы, і ён дыпламатычна тонка, адрасуючыся нібы да мужыка-чытача, у другім жа нумары, які падпісаў Купала як рэдактар, прамаўляў па сутнасці да самога Купалы, угаворваючы Купалу быць шырэй тых перакананняў, якіх ён прытрымліваецца. Артыкул называўся «Пуцяводная ідэя». Антон Лапкевіч у ім пісаў: «У праграмах нашага нацыянальнага адраджэння нацыянальнае вызваленне беларусаў лучылася з самых першых дзён з вызваленнем эканамічна-сацыяльным». Правільна! Лучылася! І перш за ўсё дзякуючы Янку Купалу, яго першаму зборніку «Жалейка»! Сапраўды пагэтаму «беларускі рух зразу ж стаўся рухам дэмакратычным», і — можна сказаць і словамі Антона Лапкевіча — «ён абымаў усё жыццё працоўнага беларускага народа — ва ўсіх яго праявах». «Усё жыццё» пан Антоні даваў курсівам, і ў тым быў свой асобы сэнс: «усё жыццё» — г. зн. паводле яго логікі — усе працаўнікі на народнай ніве, «ці хто працаваў над асветай, ці шырыў палітычную або нацыянальную свядомасць, ці выдаваў кніжкі і газеты, або вершы пісаў, ці, урэшце, вучыў братоў сваіх, як лепей гаспадарыць, як хаўруснай працай змагацца з усялякімі штодзённымі злыбедамі. Усе яны ведалі,— заключаў пан Антоні,— што працуюць дзеля адной справы роўна для ўсіх дарагой і вялікай: для справы ўсестаронняга адраджэння свайго народа». Увогуле сапраўды ўсе аспекты нацыянальнай працы — ад грамадска-культурнай да культурна-гаспадарчай — ахоплівала адраджэнская формула Антона Лапкевіча, і — галоўнае — усе... ураўнівала! І ў гэтым была якраз тэндэнцыя: ураўняць сваю работу — арганізацыйна-палітычную, з работай тых, хто *«або вершы пісаў».* Нават і не ўраўняць: працу над асветай Антон Лапкевіч называў, па-першае, шырэнне палітычнай і нацыянальнай свядомасці, па-другое (бо няёмка ж адкрыта сваю работу ставіць паперадзе, не па-інтэлігенцку!). А хто ж гэта «або вершы пісаў»? Вядома, ты, Купала, і вунь тваё месца: чацвёртае, пятае!.. Га! Не тыч носа не ў сваё проса, ведай, хто тут — першы!..

«Націскаць» на Купалу-рэдактара Антон Лапкевіч не пераставаў і ў далейшым, бо цераз тыдзень зноў жа, нібы адрасуючыся да ўсяго народа, а маючы канкрэтна на ўвазе найперш пазіцыю Купалы, пан Антоні Лапкевіч перадавым даў у «Нашу ніву» артыкул пад назвай «Важныя справы». Сёння зразумець падтэкст гэтага артыкула цяжка якраз па той прычыне, што сам гэты артыкул абсалютна слушны. А. Лапкевіч-палітык меў абсалютную рацыю, калі пісаў што «трэба, каб народ пільна прыслухоўваўся да палітычнага жыцця Расіі, каб добра пазнаў, хто ідзе разам з ім, а хто проці яго». Лапкевіч патрабаваў выхавання сацыяльна-палітычнай свядомасці народа, рэвалюцыянізацыі народа, патрабаваў, каб для кожнага мужыка сталі яго, мужыковымі, усе справы грамадзянскія і палітычныя. На покуць Антон Лапкевіч ставіў «палітычнае жыццё, арганізаванае жыццё вялізнай грамады людской». «Палітыка па-першае, шаноўны паэце Купала, *палітыка*!» — памахваў перад носам Купалы Антон Лапкевіч — перад носам таго Купалы, які насцярожана адносіўся да палітыканства, які, як ён сам потым сказаў, дзе была палітыка, стараўся ў яе не ўмешвацца, не ведаючы, «ці добра гэта, ці кепска». Паводле Лапкевіча, гэта было кепска, бо Лапкевіч хацеў, каб Купала вёў «Нашу ніву» па яго, па Лапкевічу. Палітыканства было для Антона Лапкевіча па-над усім,— Янка ж Купала па-над усім ставіў сябе як паэта. Добра гэта было ці кепска, як калісьці і сам Купала, мы пакуль што не скажам. Але пакуль што, у Вільні 1914 г., цуранне Купалы ад палітыкі ўвогуле, недаацэнка яе не толькі аддзяляла Купалу ад Лапкевічаў,— гэта цуранне шмат у чым абумовіла і адну з найглыбейшых інтымных драм паэта, якую пры канцы 1914 г., на пачатку 1915 года Купалу давялося ў Вільні пераважыць.

Зірнём, аднак, на новы прыезд Купалы ў Вільню і з іншага боку: вачыма тых, хто яго чакаў, сустракаў. Паспрабуем таксама, на колькі гэта можна, убачыць Купалу ў Вільні на лю-

дзях — Купалу як бы па-за яго клопатамі, перыпетыямі душэўных перажыванняў. Бо не ўсё ж Купалу мучыў змрочны настрой, не ўсё ж непагодзіла яго чало хмурая клапатлівасць. І першае слова тут — Уладзіславе Францаўне Станкевіч — будучай жонцы паэта. У час другога прыезду Купалы ў Вільню ёй было дваццаць два гады, і вось якую характарыстыку дала ёй потым Паўліна Вікенцьеўна Мядзёлка: «Сярод усёй нашай моладзі яна выдзялялася сваімі выключнымі арганізатарскімі здольнасцямі. Не было ніводнага мерапрыемства, у якім яна не прымала б самага актыўнага ўдзелу: ці то арганізацыя народнага свята Купалля, спектакля, ці то таварыскай застольнай вечарынкі, пры распаўсюджванні білетаў ці збору сродкаў на выданні — яна была адна з першых. Атрымаўшы ў спадчыну ад маткі-француженкі сваю гарачую, непаседлівую натуру, заўсёды энергічная, рухавая, як жывое срэбра, жартаўлівая, вясёлая, экспансіўная, Уладка была душой нашай маладой грамады. Кожную радасць ці няўдачу ў грамадскім і асабістым жыцці яна моцна перажывала». Прыезд Купалы ў Вільню быў для беларускай моладзі, вядома ж, радасцю, і найперш пра гэта ў сваіх успамінах цераз гады напісала Уладзіслава Францаўна: «Прыезд Я. Купалы ў Вільню,— успамінала яна,— усхваляваў усю беларускую грамадскасць... Ён карыстаўся сімпатыяй усіх нас. Асабліва яго любіла моладзь. Прыезду яго мы чакалі, як свята... Прыезд Я. Купалы ў Вільню ўліў новыя творчыя сілы ў беларускае жыццё».

А вось Купала вачамі Канстанцыі Буйло — сардэчнай сяброўкі Уладзіславы Францаўны з тых жа самых віленскіх дарэвалюцыйных часоў. Уладка і Костка, як называлі Буйлянку, былі неразлучнымі ў Вільні: і жылі на адной кватэры, і ў рэдакцыі, кнігарні, выдавецтвы, і на вечары, і ў кавярні — скрозь з'яўляліся разам. Вось першая сустрэча Буйлянкі з Купалам у рэдакцыі «Нашай нівы»: «Я прыкмеціла,— успамінае яна,— што ўсе ў рэдакцыі адносяцца да яго з выключнай цеплынёй і павагай». Падобная атмасфера выключнай цеплыні і павагі не

магла не ўплываць на душэўную раўнавагу паэта. Асаблівай жа ўвагай прадаўжала Купалу надзяляць Цётка, якая з 1911 г. жыла ў Вільні. Дружба Купалы з Цёткай — гэта ўвогуле вялікая, вельмі светлая старонка жыцця Янкі Купалы. Цётка не паходзіла, як Я. Купала, Я. Колас, з народных нізоў. Яна была, як гаварылі ў XIX ст., «з таго берага»: прывілеі шляхецкага роду маглі стаць яе прывілеямі, сытае, спакойнае жыццё — яе жыццём. І тады б на беларускай зямлі было больш на адну паню і не было б Цёткі, якую сёння ў Беларусі ведаюць усе.

Слова «Цётка» было найперш партыйнай клічкай Алаізы Пашкевіч. Гэта унікальна ў гісторыі літаратуры, каб партыйная клічка стала літаратурным псеўданімам!.. Яшчэ ў канцы 1903 г. у Пецярбурзе Цётка — разам з Лапкевічамі — была сярод заснавальнікаў Беларускай рэвалюцыйнай грамады, якая затым пераўтварылася ў Беларускую сацыялістычную грамаду (БСГ). Цётка ўваходзіла ў левае крыло гэтай партыі, якое ўвайшло ў склад Камуністычнай партыі Беларусі. Да таго часу Цётка, аднак, не дажыла. Цётка была непасрэднай удзельніцай рэвалюцыйных бітваў 1905—1907 гг., аўтарам рэвалюцыйных пракламацый, агітатарам. Яна з самага пачатку свайго свядомага жыцця свядома ўмешвалася ў палітыку. Палітыка — спачатку, песня — праваднік палітыкі! — вось яе крэда, усвядомленае, цвёрдае. І разам з тым Цётка была надзвычай пачуццёвай, экзальтаванай да бяспамяці. Яна магла на калені ўпасці перад талентам, як веруючы падае перад іконаю. І яна падала: у Рыме, на плошчы перад Калізеем, убачыўшы бедалагу ў лахманах — мастака, што змалёўваў старажытныя руіны. Мастак аказаўся земляком, беларусам, і Цётка ў подзіве перад яго мальбертам апаражніла свой і сяброўчын кашалькі, каб матэрыяльна падтрымаць мастака. А гэта былі грошы на дарогу дадому — у Львоў, у Аўстра-Венгрыю,— грошы, якія Цётка з вялікімі клопатамі выпрасіла ў рускім пасольстве ў Рыме. Але — што́ грошы, што́ білеты, калі побач — талент! «Зайцамі», без

білетаў вярталася Цётка з сяброўкай з Рыма ва Львоў, але таленту было аддадзена ўсё магчымае. Гэта была — Цётка!

Незвычайнага чалавека ў Цётцы Купала адчуў завочна — па вершах, па зборніку «Скрыпка беларуская». Яшчэ да Яхімоўшчыны Купала напісаў верш «Аўтарцы «Скрыпкі беларускай». «Ён пасылаў,— як успамінала Уладзіслава Францаўна,— ёй з Пецярбурга ў Львоў амаль усе свае новыя вершы, і Цётка заўсёды адводзіла віднае месца Купалу, знаёмячы львоўскую інтэлігенцыю [redacted] беларускай літаратурай. Цётка,— пісала Уладзіслава Францаўна,— з нейкай сардэчнай цеплынёй і чуласцю адносілася да Янкі Купалы, кожны новы яго верш успрымала як вялікую падзею. Яна не раз казала сваім сябрам: «Не ведаю, чаму [redacted] так люблю гэтага Купалку». Калі ж Янка Купала вярнуўся з Пецярбурга ў Вільню, яны пасябравалі яшчэ мацней». Пра незвычайнасць пачуццёвых адносін Цёткі да Купалы чытаем і ў Мядзёлкі: «Цётка,— пісала яна,— асабліва любіла свайго «Купалку», як ласкава называла Янку... На вечарах у «Беларускай хатцы»... заўсёды была вясёлай, жартаўлівай, але танцавала рэдка і то толькі з Купалам і толькі польку, бо іншых танцаў Янка не ўмеў танцаваць і вучыцца не хацеў».

...І было гэта ў адно з наведванняў мною музея Купалы ў Мінску, калі Уладзіслава Францаўна была яшчэ жывая. Якраз сама Уладзіслава Францаўна ветліва згадзілася правесці групу маіх студэнтаў па залах музея. І ў той зале, у якой са сцяны на нас зірнула з вядомага свайго фота ў беларускай народнай вопратцы [redacted] вяночкам на галаве Цётка, Уладзіслава Францаўна пажартавала:

— А вось і Цётка, якая на бяду сабе пазнаёміла мяне з Купалам...

Колькі рэальнай праўды было ў гэтым жарце, не магу меркаваць, але, як кажуць, у любым жарце ёсць свая доля праўды, і мне ўвогуле чамусьці з той рэплікі Уладзіславы Францаўны пачало здавацца, што Купала жаніўся, калі ўжо Цёткі не стала. Такая была спакуса ў гэта верыць, што я нават не паверыў

датам: Купала жэніцца 16 студзеня 1916 г. Цёткі не стане ў ноч з 4 на 5 лютага 1916 г. Але цяпер я разумею Цётку: яна незвычайна любіла ў Купалу Паэта, Талент!.. Цётка была незвычайнаю сяброўкай Купалы, і яна сама была для Купалы незвычайнай, загадкавай, маланкавай. «Аскравак маланкі», як назваў яе Купала перад маладым Максімам Лужаніным.

Лясное віленскае прадмесце Звярынец. Тут са сваім мужам Стэпанасам Кайрысам жыла Цётка. Вярнуцца афіцыйна з-за мяжы ёй — палітычнай эмігрантцы — дапамагла якраз змена прозвішча. «Не зусім звычайная гэта была пара,— успамінала Мядзёлка.— Казалі, што іх шлюб спачатку быў толькі фіктыўным, на манер Соф'і Кавалеўскай». У Мядзёлкі нават «склалася ўражанне, што Цётка з'яўляецца хутчэй кватаранткай, чымся гаспадыняй у сваім доме. Яна займала асобны пакой, вельмі просценька абсталяваны. На стале, на паліцах — многа кніг. Прымала яна нас толькі ў гэтым пакоі, сюды прыносіла і пачастунак, ніколі не запрашала ў другія пакоі кватэры». І толькі раз, калі Мядзёлка выпадкова сутыкнулася ў калідоры з Кайрысам, Цётка пазнаёміла яе са сваім мужам. Мядзёлцы здавалася, што «Цётка з мужам жылі кожны сваім асобным жыццём, не ўмешваючыся ў справы адзін аднаго». Тое ж магло здавацца і Купалу, які таксама бываў, сядзеў у гэтым вельмі просценька абсталяваным пакойчыку Цёткі з загадкавымі іншымі пакоямі кватэры ў лясным віленскім прадмесці Звярынец.

Але часта бываць тут Купалу не даводзілася: амаль увесь час забірала ў яго рэдакцыя. «...Было работы маса,— успомніць потым сам Купала.— Штат рэдакцыі складаўся з мяне і Бядулі. У наш абавязак уваходзіла напісаць нумар, пракарэкціраваць і выпусціць у свет. Канешне, матэрыялы паступалі і збоку. Успомніць усе эпізоды за час майго знаходжання ў «Нашай ніве»,— заключаў Купала,— я не ў моцы па той простай прычыне, што гэта заняло б цэлы том успамінаў». Больш невясёлых,— дадамо мы,— але ж мы абяцалі на пачатку гэтага

падраздзельчыка напісаць аб усмешцы Купалы-рэдактара «Нашай нівы». Цэлага тома ўсмешак, вядома, не будзе, але давайце зойдзем цяпер у рэдакцыю «Нашай нівы» з маладзенькім тады яе аўтарам-паэтэсай Канстанцыяй Буйло. Яна бачыць: «У рэдакцыі за сталом сядзіць Купала і праглядае рукапісы. Бядуля (невялічкага росту, з вогненна-рыжым стаўбуром кучаравых валасоў на галаве, з вачмі вялікімі, смяшлівымі — добра навыкаце і пульхнымі дабрадушнымі губамі) чытае ўрывак са сваіх імпрэсій. «Не бяжы за кветкай сіненькай, што расце на дрыгве...» — хвалюючыся, дэкларуе Змітрок. Я — уся ўвага — (гэта Канстанцыя Буйло пра сябе). Прыгожыя маркотныя вобразы, надзвычай паэтычная мова ў майстэрскай чытцы Бядулі хвалююць мяне да слёз. Я горача паціскаю яму руку і з захапленнем пытаю: «Слухай, Змітрок, што адчуваў ты, калі пісаў гэтыя цудоўныя абразкі?» Але чулая душа Бядулі ўжо схавала свае рожкі ў шкарлупку, і ён гарэзліва адказвае: «А ў мяне тады балеў жывот!» Гэта ашаламляе мяне. Янка сардэчна смяецца...» Вось вам і першая ўсмешка Купалы, абяцаная намі! Смяецца Купала з Буйлянкі, а Бядуля тут жа садзіцца пісаць прысвячэнне ёй на тытульным лісце сваіх «Абразкоў». Малады Бядуля маладзенькай Буйлянцы пры маладым Купале, вядома ж, падпісваў кніжку жартоўна, у духу той прыпавесці, пра якую, успамінаючы наведванне «Нашай нівы», таксама падала вестку К. Буйло.

Бядуля тады фантазіраваў: «Задумаў бог стварыць беларускіх пісьменнікаў Буйлу і Бядулю. Дзеля гэтага ўзяў ён жменьку зямлі, трошкі крыві звярынай, пасмачку сонечных праменняў і частку свайго вялікага духу. Але, здурнеўшы ад старасці, бог не змяшаў усёй гэтай субстанцыі разам і стварыў Буйлу толькі з праменьчыкаў сонца і свайго вялікага духу, а Бядулю — толькі з зямлі і крыві звярынай. Паглядзеў бог на гэтых цацак і пачухаў патыліцу. «Разам густа, разам пуста»,— мармытаў ён, нездаволены, і не ведаў, што рабіць. Ён са злосцю штурхануў Буйлу. Тая, будучы вельмі лёгкай, адскочыла ўбок,

замахала рукамі і замалола языком. Такой яна засталася і па сённяшні дзень. Штурхануў бог і Бядулю, ды так, што ў таго ажно вочы палезлі на лоб і ад крыўды надуліся губы. Такім ён і застаўся назаўсёды. Паклікаў бог анёлаў на раду: «Што рабіць з гэтымі няўдалымі творамі?» — «Трэба іх пажаніць,— раілі анёлы,— тады ўсё перамяшаецца і будзе добра...» Усміхаўся Купала, слухаючы і гэта. Яны ж, Купала і Бядуля, былі ўвогуле саліднымі супрацоўнікамі саліднай газеты, і яны ж, Купала і Бядуля, абодва нежанатыя, былі, вядома, і вось такімі гарэзлівымі жэўжыкамі — асабліва перад маладзенькімі прыгожымі дзяўчатамі.

Іншым разам Бядуля здзівіў Купалу тым, што прывёў проста з віленскай вуліцы ў іх рэдакцыю не каго-небудзь, а саму родную сястру Купалы — Лёлю, тую, што спаліла першы верш Купалы, як і засунутыя ў застрэшак лістоўкі. Купала адначасова разгубіўся і заўсміхаўся. А Лёлю Бядуля пазнаў на вуліцы, ні разу яе да гэтага ў жыцці не бачыўшы. Сястра была вельмі падобная да Купалы і вельмі прыгожая. Што прыгожая — гэта найперш заўважыў Бядуля, а потым ужо — што Купалава сястра. Высокая, бландзінка — як русалка! У рэдакцыі яна ўсё маўчала, і Бядуля потым хваліў яе, што вельмі разумная. А словаахвотлівая Лёля маўчала толькі таму, што баялася, каб што лішняе не бомкнуць. Яна ж не магла не быць вартай брата — гэта святочнае маладое дзіця Акопаў, што прывезла і словы прывітання ад маці, і ўвогуле, здавалася Купалу, сам водар акопаўскіх пералескаў, вясновых праталін.

Брат у сваім кабінеце рэдактара, на другім паверсе рэдакцыі, частаваў сястру яблыкамі. Усё для яе было тут урачыста, па-гарадскому, па-вучонаму. Вялікі дубовы стол з мармуровым пісьмовым прыладкам, засланы зялёным сукном, вялікая прыгожая лямпа на стале. Лёля сядзела на мяккай шырокай канапе і не магла звесці з брата зачараваных вачэй. Потым ён паказваў ёй Вільню — ад людпага цэнтральнага Георгіеўскага

праспекта да вузенькіх пакручастых вулак, якія то рэзка ўздымаліся ўгару, то гэтак жа рэзка ішлі ўніз.

Ходзячы па бруку Вільні, будучы адна з братам, Лёля стала больш сабою, больш гаваркою.

— А я — шыю, краўчыха,— казала яна Ясю, а ты і не ведаў?

Купала крочыў павольна поруч, пасміхваючыся, маўклівым кіўком галавы згаджаючыся: «не ведаў».

— Каб не пакінуў нейкі Гірш зінгераўскай машынкі, дык і не стала б,— прадаўжала Лёля пра сваё краўцоўства.— Маці, бачыш, ні за якія грошы не хацела браць машынкі, а той, упарты такі, узяў дый пакінуў. «У крэдыт»,— сказаў. Вось тады маці і паслала мяне вучыцца. У Мінск. Баялася, што я — прыгожая. Ёй яшчэ нехта з харужанцаў казаў, папярэджваў, каб не пускала гэткую прыгожую ды ў Мінск, бо прыгожая можа і не быць краўчыхай, а ў Мінску гэткіх адразу зводзяць.

— Зводзяць? — перапытаў брат.

— Калі цябе не звялі, то чаму ж мяне?! — бліснула сінявой вачэй Лёля!

— Ну, я не такі прыгожы,— пачаў ён.

— А чаму не прыгожы,— націснула Лёля на «не».— Яшчэ які! Але я табе яшчэ не сказала, як мама мяне праводзіла. Во такую,— паказала яна рукамі,— бляшанку малака ў дарогу дала, гароху поўны мяшочак насыпала. Толькі што, пакуль я дайшла да Мінску, малако скісла... Я нават плакала...

Ясь ішоў поруч з Лёляй і ўспамінаў, як сыходзіў з дому ён сам. Лёля ж прадаўжала расказваць, як яна кідала па дробнай гарошынцы ў вар, жывучы ў краўчыхі-настаўніцы, і тым жыла, каб стаць краўчыхай, каб цяпер вось пашыць што харужанцам, ды і на білет узбіцца, свету пабачыць...

Вечарам зайшлі ў «Зялёны Штраль», і зялёная драпіроўка кавярні напаміпала Лёлі зялёнае сукно, засланае на стале ў кабінеце брата. Лёлю здзівіла і тое, колькі тут, у кавярні, людзей — маладых і пажылых — ведае яе брата, вітаецца з ім.

І дзяўчаты, братавыя знаёмыя, хоць гаварылі, як і яна, Лёля, па-беларуску, здаваліся ёй нібы зусім з іншага каралеўства — з ручкамі беленькімі, а не закарэлымі, як у яе. Ясь толькі моўчкі сачыў за Лёляй і пасміхаўся. Яму было вельмі, вельмі добра з Лёляй — нібы тады, калі яны, малыя яшчэ, выбіраліся ў лес. А — галоўнае — побач з Лёляй Купала зусім не адчуваў сябе адзінокім. Гэта было дзіва! Пачуццё адзіноты ў апошні час пачало проста заядаць яго тут, у Вільні. І вось аддуха — Лёля! Хоць братавы вочы сумныя — Лёля гэта бачыць,— але ён усё пасміхаецца і нібы ніяк наглядзецца на яе не можа. Як добра, што яна прыехала да яго!..

6 чэрвеня 1914 г. выйшаў трэці нумар «Нашай нівы», падпісаны Янкам Купалам як рэдактарам-выдаўцом. Нумар выклікаў вельмі рэзкую рэакцыю непрыхільнікаў. Афіцыйны «Виленский вестник» заявіў, што пры новым рэдактару газета ўзяла «новы курс», у чарнасоценнай жа «Северо-Западной жизни» яе рэдактар Саланевіч дык дайшоў нават да лаянкі, пішучы літаральна так: «Читая эту галиматью, никак не разберешься, о чем собственно речь, каких новых богов выдумал «рэдактар-выдавец І. Луцэвіч»... Что вы скажете на это, читатель? Разве не просится на уста ваши нецензурное ругательство?» Такія былі ўжо норавы чарнасоценнай вольніцы, што яна, дзе не магла ўзяць логікай, пераходзіла на грубую лаянку!

А ніякіх новых багоў рэдактар-выдавец І. Луцэвіч не выдумваў. І нельга сказаць, што браў ён новы курс,— для Купалы ён быў не новы, для «Нашай нівы», у якой у мастацкіх матэрыялах цэнтральнае месца займаў увесь час Янка Купала, быў таксама не новы, бо гэта быў курс «мілавання свайго роднага слова, сваёй ядынай бацькаўшчыны Беларусі». Што, аднак, за «новыя» багі выклікалі такую нянавісць Саланевіча? У перадавым артыкуле Купалы — першым публіцыстычным, якім ён асабіста браў пад абарону права народа на родную мову, на яго

свабодную будучыню,— у гэтым артыкуле было напісана толькі ўсяго таго, што «старое, струхлеўшае, аджыўшае свой век ідзе проч, на пагібель, а новае, светлае, радаснае занімае сваё пачэснае месца і вядзе народы і аддзельных людзей к добраму, вечнаму. Старыя багі ідуць на злом, у архіў, а новыя засядаюць панаваць у сэрцах чалавечых. Гэтак было ад стварэння свету, гэтак і цяпер ёсць». Саланевіч прызнаваў толькі старых багоў, а ўсё, што думаў і перажываў Купала, было для яго «галиматья». «На злом, у архіў» ішоў ён, чарнасоценец Саланевіч. Зусім слушна па свайму адрасу ён і ўспрыняў адпаведныя радкі. Але хто калі вітаў сваю асуджанасць гісторыяй «на злом, у архіў»? І Саланевіч лаяўся. Купала — цераз нумар — не застаўся ў даўгу. Але шляхетны Купала не лаяўся. Ён адно што слова «господин» узяў перад прозвішчам Саланевіч у двукоссе, працытаваўшы пасаж з галімацьёй і выдумкай пра новых багоў, назваўшы яго крыкам і засведчыўшы, што «крык» гэты дужа шчыры, і мы яму верым. Совы і начніцы сонца не бачаць». Адным словам, «господину» Саланевічу адказваў Паэт. І яшчэ з'едлівы Сатырык, які на пытанне, звернутае Саланевічам да чытача з запросінамі пачаць нецэнзурную лаянку, заўважаў іранічна: «Важна сказана. За словы «падымае старонка наша свае вочы к Сонцу» грозяць нам паскуднай лаянкай. Не будзь губернатараўскіх пастанаўленняў аб хуліганстве і цэнзурнага ўстава, то «нецензурных ругательств» «Северо-Западная жизнь», як відаць, не пажалела б для сваіх чытачоў».

Даваў тут жа Купала адказ і «Виленскому Вестнику», які,— пісаў ён,— «падняў цэлы гвалт». І найболей усё біў на фразу «забраны край», каторай быццам дагэтуль не спатыкалася ў «Нашай ніве» і каторую быццам у рэдакцыі цяпер сфабрыкавалі. Каму тут дасталося па каму, а каму і па два, адразу цяжка сказаць. Асабліва ж гнеўны быў Купала ў адказе Саланевічу. Той абвінавачваў «Нашу ніву» ў хлусні. Купала парываў: «А што да «лганья», якое вы быццам знаходзіце ў «Нашай ніве», то... астаўляем гэты інтэрас тым, каму за «лганьё»

добра плацяць, а мы і з бясплатнай праўдай неяк жылі і будзем жыць. Казённых падачак не шукалі мы і шукаць не збіраемся».

Стаўшы рэдактарам-выдаўцом, Купала не адмовіўся ад пёраў Лапкевіча і Ласоўскага. Першы прадаўжаў сцвярджаць сябе як ідэолаг, другі — як гісторык, літаратурны крытык. Ці меў Купала як рэдактар уплыў на іх? Ці пэўным чынам кантраляваў тое, што ад іх паступала ў рэдакцыю? Было і першае і другое. Адразу ж пасля баталіі з Саланевічам і «Виленским Вестником» з'явіўся чарговы перадавы артыкул Лапкевіча з праграмнай назвай «Кудой ісці?». Артыкул патрабаваў гуртавання вакол дэмакратычнага штандару, сцвярджаў, што «беларускі нацыянальны рух не павінен і не можа не быць дэмакратычным». Але курсівам паперадзе гэтага браліся і такія словы: «*...Галоднага накарміць, цёмнага асвяціць.* Трэба, каб беларус-гаротнік стаў вольным чалавекам». Такіх падкрэсліванняў у тэкстах Лапкевіча да рэдактарства Купалы не было. І ўвогуле не пазнаць стала ў «Нашай ніве» пры Купалу Ласоўскага-крытыка, аналізатара зборнікаў прозы Я. Коласа «Родныя з'явы», Максіма Гарэцкага — «Рунь». Як быццам Ласоўскі не быў Верашчакам — не эстэцтваваў; як быццам раней пана Вацлава хохлік зводзіў, а цяпер — скрозь дакладнае разуменне прозы абодвух празаікаў, іх асаблівасцей, іх месца ў роднай літаратуры, будучыні. А як напісана! З густам, з тактам — і ў стылізацыі, і ў пафасе, і ў аналізе. Адкуль такое перанараджэнне? Пад уплывам памаўклівага Купалы? Бясспрэчна, бо — каго ж? 28 верасня 1914 г. ў лісце да прафесара Эпімах-Шыпілы Купала прызнаваўся: «Усю душу і ўсе сілы цяпер укладаю ў «Нашу ніву», каторую стараюся паставіць па сіле магчымасці на належачую вышыню». Ліст Купалы ад 28 верасня трэба ўвогуле выпісаць цалкам, бо гэта адно з самых непасрэдных купалаўскіх сведчанняў, як Купалу рэдактарствавалася, як нялёгка яму ўсё цяпер давалася, крута жылося: і ў гэтым стане апынуўся ўжо не нявопытны Купала 1908—1909 гг., а Купала сталы, у поўні росквіту свайго таленту, на самым высокім у дакаст-

рычніцкі час грэбені сваёй грамадскай работы. Гэты Купала 28 верасня 1914 г. пісаў прафесару Эпімах-Шыпілу:

«Вельмі паважаны і даражэнькі паночку!

Звяртаюся да Вас са шчырай і пакорнай просьбай, у якой на ўсё чыста Вас прашу, не адкажыце. Кнігарня і Суполка прадалі за гэты час «Шляхам жыцця» каля 700 экземпляраў. З выручаных грошы, правэдлуг умовы, належыцца мне пэвен працэнт. Якую частку я магу атрымаць з гэтых грошы — ёсць у пратаколах Суполкі, сказана. Вось жа, даражэнькі паночку, не адкажыце, зрабіце для мяне ласку і вышліце на маё імя сто рублёў. Я страшэнна находжуся ў крытычным палажэнні, так што хоць вешайся. Атрымліваю тут толькі 30 рублёў, і гэтых мо і хапіла б, каб не іншыя надзвычайныя расходы. Купіў сабе вясной гарнітур за 30 р., а пасля лячыў зубы, што абышлося мне 50 р. Вось дзеля гэтага мусіў залажыць свой загарак і зрабіць так прыватнага доўгу. Загарку ўжо выходзе срок і можа прапасці ў ламбардзе. У дадатку надыходзе срок плаціць за кватэру, за якую плаціць «Наша ніва». Але цяпер яны не маюць грошы, дык мушу я сам хоць частку ўнясці, каб гаспадар не выкінуў на двор рэдакцыі. І што рабіць з усім гэтым — проста з мазгоў сыходжу. Дабаўлю, што гэта кватэра пад рэдакцыю нанята на маё імя. Са стараны я нідзе не магу зарабіць, нават выехаць дамоў не магу, бо сам, адзін рэдагую цяпер «Нашу ніву»... Я звярнуўся да «Выдавецкага таварыства», каб яны мне далі з кнігарні за праданыя «Шляхам жыцця» належачую мне долю. Але выдавецтва адаслала мяне да Суполкі, уласціва да Вас, даражэнькі паночку. Дык не адкажыце і паратуйце, спісаўшы гэтыя грошы з майго рахунку ў Суполцы. Вы ўжо, паночку, не раз мяне ратавалі ў цяжкую мінуту, дык дапамажыце і цяпер. Іначай прыйдзецца згінуць без часу і вырачыся ўсёй беларускай справы, якая мне цяпер стала даражэй жыцця... Апрача працы непамернай каля газеты, маю шмат усялякіх непрыемнасцей, звязаных і з рэдагаваннем, і з выданнем. Яшчэ і цяпер у мяне не топіцца ў печы, і прыходзіцца калець і хварэць, бо

няма за што купіць дроў. У дадатку, каб яго немач, мой кажух саўсім раскідаўся, і не маю ў чым паказацца на вуліцу і злазіць у цэнзуру. Цяперака, калі Вы мне, даражэнькі паночку, дапаможаце, то буду лепей галадаць і абарванцам хадзіць, чымся дакучаць Вам сваёй просьбай, бо шчыра адчуваю, сколькі ўжо дабра Вы мне і так дагэтуль зрабілі. Па праўдзе кажучы, увесь свой даход з кніжак павінен быў я аддаць Вам за тую ласку, што Вы мне дагэтуль рабілі. Але што я, няшчасны, зраблю, калі інача́й нічога не выходзе. А жыць хочацца і шчыра працаваць для сваёй Бацькаўшчыны. Маю надзею, паночку, што Вы не адкажаце ў гэтай просьбе Вашага пакорнага слугі. Гэты ліст пісаць да Вас заставіла мяне, па-праўдзе, безвыходнае маё палажэнне, якое ляда дзень можа выбіць мяне саўсім з жыцця. Чакаючы ад Вас, паночку даражэнькі, адказу, астаюся шчыра Вам адданы і Ваш пакорны слуга Ів. Луцэвіч.

P. S. Як Вам, паночку, падабаюцца апошнія нумары «Нашай нівы»? Я настаяў, і ўзноў выдаецца большым размерам [1]. І. Л.).

«P. S.» як бы здымаў драматычную напружанасць пісьма, купалаўскае «я настаяў» паказвала, што Купала дзейсны, упарты, стаіць на сваім,— што ён увесь у працы, у справе. Але ж усе факты ў лісце — не выдумка, каб раздобрыць багатага дзядка. Лапкевічы палажылі Купалу — рэдактару-выдаўцу 30 рублёў у месяц, кінулі аднаго пераадольваць усе выдавецкія, цэнзурныя, гаспадарчыя клопаты газеты. Купіў Купала касцюм, няма кажуха, няма чым плаціць за памяшканне рэдакцыі, за дровы, няма за што выкупіць з ламбарда гадзінніка. 100 рублёў просіць Купала, але ці яны выручаць? Прычым Купала просіць свае грошы, працэнты ад продажу сваёй кнігі — гэта таксама штрых да характарыстыкі жыццёвага стану беларускіх пісьменнікаў у дакастрычніцкай Беларусі. А грошы Купалу былі па-

[1] Паўтара месяца — з 1 жніўня 1914 г. «Наша ніва» — сем нумароў — выходзіла ў палавінным аб'ёме — адзінарным лістком.

трэбны яшчэ і як проста маладому чалавеку, які недзе якраз у гэтым часе быў рашыўся прызнацца ў пачуццях чалавеку, якога так даўно ўжо, здавалася, ведаў.

Успамінаў аб тым вечары Яна не напісала. Але ён той вечар доўга забыць не мог. Асабліва было нясцерпна адзінокімі познімі вечарамі згадак пра Яе. А да гэтага ён прывык ужо ледзь не штодня ўвечар бачыць Яе ў «Зялёным Штралі». Пра адзін з гэтых вечароў Яна ўсё ж успомніла. Квартэт Тхужа, як і ў вечар Купалавай апошняй сустрэчы з Палуянам (ці даўно гэта было?), спяваў Тэтмаераву песню «Mów do mnie jeszcze!..» [1]. «Я,— успаміпала Паўліна Мядзёлка,— вельмі любіла гэту песню. Купалу яна таксама падабалася.

— Яначка, зрабі ты пераклад гэтай песні,— папрасіла я. І ён тут жа паклаў на столік лісток паперы і праз некалькі хвілін перадаў мне гатовы пераклад».

Ці ж толькі адзін пераклад гатовы ён быў перадаць Ёй тут жа, толькі папрасі Яна. Але Яна таго старалася не прыкмячаць. «Пасля,— успамінала Мядзёлка,— не раз ён прасіў мяне праспяваць гэтую песню на беларускай мове». Ён прасіў спяваць, яна яму спявала. Гэта былі хвіліны яго захаплення Ёю, маўклівага пагляду,— з просьбай, што злівалася з рэфрэнам песні «Пяі ты йшчэ мне».

Яна спявала:

Пяі ты йшчэ мне. За такою песняй
Уздыхаў я доўга, чакаў, як прадвесня.
Голас твой лечыць мне ў душы цярпенне.
        Пяі ты йшчэ мне,
        Пяі ты йшчэ мне!

Пяі ты йшчэ мне, людзі нас не чуюць.
Голас твой дзіўна песціць і галубіць,
Ў душу маю ўносіць прасвятленне.
        Пяі ты йшчэ мне,
        Пяі ты йшчэ мне...

---
[1] «Гавары мне яшчэ!..»

І гэта было праўда, што голас яе лячыў яго душы цярпенне, дзіўна песціў і галубіў, уносіў у яе прасвятленне. Ёй, толькі ёй, Мядзёлцы, другой у свеце пасля Марыі Пяледы, Купала напіша верш са словам «доўгаджданай» у назве. Гэтым словам Купала не раскідваўся: яно выказвала ў яго самае, самае, самае...

А яна?.. Купала сам дасць адказ на пытанне, хто і што яна, калі міне больш чым паўгода пасля вечара высвятлення іх адносін. Але да гэтага высвятлення была не толькі песня «Пяі ты йшчэ мне» — было і тое, што прымушала паэта адкладваць прызнанне, замаруджвала біццё сэрца і так вельмі сарамлівага ў адносінах да дзяўчат паэта.

Паўліна Мядзёлка была характарам, ой, куды не ў Паўлінку з Купалавай аднайменнай п'есы! Ды ў яе былі і прычыны быць у іншых адносінах да Купалы, чым Паўлінка да Якімкі. Бо вось сядзяць яны ў «Зялёным Штралі». Купала пачынае гаварыць пра Уладзіміра Іванавіча Самойлу, пра Блока — пра іх подзіў перад мадоннамі, пра іх рэлігійнае трымценне перад жывой красой жанчыны. Мядзёлка перабівае:

— Ну, ■ ў цябе, Яначка, да святое Марыі зусім няблокаўская пастава...

І, пабліскваючы сінімі маланкамі вачэй, маўчыць. А назаўтра ўтне яшчэ мацней:

— Нешта хросны бацька да хрэсніцы сваёй доўга не выбіраецца...

Купала не ведае, як зразумець, чым назваць усё гэта. Капрызнасцю? Другая даўгажданая не можа даравацъ, што яна — не першая?.. Паспрабаваў Купала пачытаць Паўлінцы ўрыўкі з паэмы «Яна і я»:

— І адазвалася мая палея сумнай песняй,
Такой, якую ў нас пяюць вясенняй днём дзяўчаты...

— Я — не палея,— адрэзала Паўлінка.

— Раем на зямлі выглядываў нам сад,
Я ў ім — Адам, яна ў ім — Ева...

— Я — не Ева, не спакусніца,— што крыўдзіш мяне?!.— Ён не хацеў яе крыўдзіць, ён толькі хацеў сказаць, што ён і яна, як першыя ў свеце людзі, першая па̀ра...

— Ці па́ра? — калюча ўсміхаецца Мядзёлка,— Купалку можна любіць, як любіць яго Цётка, але, як Цётка, у па̀ру трэба браць чалавека дзеяння, нават на фіктыўны шлюб ідучы...

Намёк — празрысты: на тое, што муж Цёткі, як і Цётка, актыўныя члены сацыял-дэмакратычнай партыі. Паўліна Мядзёлка, як Цётка, захопленая, адданая палітычнай актыўнасці, а Купала здаецца Мядзёлцы завузкі, заасцярожны: герой часу — не ён. Мядзёлка чакала героя, Мядзёлка яшчэ, што называецца, перабірала хлопцаў. Яна яшчэ і крытыкавала Купалу:

— Ты сам сябе асудзіў на адзіноцтва: адзінокі ў «Нашай ніве», адзінокі ў вершах:

Адзін іду, а падганяе тайным жахам
Прыяцель верны мой — бяссмертны сум.

І твая сатыра з цыкла «У мутным віры», і твае шарады ў «Нашай ніве» — ад адзіноцтва твайго. А ці не заўважаеш, Яначка, што ты ўжо сам-насам вядзеш дыялог з Айчынай, бацькаўшчынай? Ты настолькі адарваўся ад грамады, што твайго адзіноцтва ніхто не развее. Ты — не сіраціна, ты — індывідуаліст.

— Я ў закліках не індывідуаліст, бо я звяртаюся да грамады, бо я б'ю трывогу:

— Смялей, беларусе-араты!
Смялей уздымай к сонцу вочы!

— Смялей?! Ты — нясмелы...— заключае Мядзёлка.

У які дзень, у які вечар Купала прызнаўся Мядзёлцы ў сваіх пачуццях і намерах, мы не ведаем. Паўлінка ж Вінцэнтаўна ўвогуле скрыла тое, што гэта ёй Купала «прапанаваў падзяліць з ім долю й нядолю ў жыцці». «Адной з нашых дзяўчат,— напісала яна,— прапанаваў паэт гэта, «а калі тая адмовілася,

прызнаўшыся, што кахае другога, на другі дзень ён, сумны, даў ёй прачытаць свой верш, напісаны ў гэтую ж ноч».

«Адмовілася, прызнаўшыся, што кахае другога...» Купалу, значыць, не кахала. А чаму тады напісала ў тых жа ўспамінах: «як жа я здзівілася, калі ў яго кватэры пабачыла і Уладку Станкевічанку!» (Гэта праз два гады, у Полацку.) «Аказваецца, яны... пажаніліся, а я і не ведала пра гэта». Не ведала і не магла адразу ў такое паверыць. І таму здзіўлялася, яна, тая Паўлінка, што чула прызнанне паэта, бачыла яго закаханасць, думала, напэўна, што валодае ім навечна, думала, напэўна, што ў яе з ім яшчэ ўсё наперадзе. Думала, канешне, у сваёй дзявочай гарэзлівасці ці, можа, у той раўнівасці, якое не магла пераадолець, ведаючы пра першую, пра Пяледу, не могучы пазбыцца абражанай гордасці, што бушавала ў ёй: чаму ён у жыцці так вёў сябе, што не яна — першая, яна, каторая толькі адна вартая быць ягонаю першай?! «Скарыцца няўдзячнаму лёсу, змірыцца з непапраўным? Пайсці за ім пасля Пяледы, калі ён — вінаваты?! — бунтарыла кроў гордай красуні.— Дык няхай жа ён у пакаранне памучыцца, няхай пачакае — нідзе дзенецца!.. Мой — бачу, прыйдзе, пакланіцца! А сёння паклону яшчэ не прыму, хоць і кахаю, бо за сваю віну ён павінен адцярпець!» Так яго, па яе думцы, вінаватага, карала сваёй адмовай Мядзёлка, адкладваючы на потым тое, што стала адкладзеным на святое ніколі. Кахала і...

Спасылка на другога ў Мядзёлкі — толькі самаапраўданне за адмову Купалу, прыдуманае ёю самой апраўданне постфактум. Купала падабаўся Паўлінцы ўжо ў Пецярбурзе, калі яна такім жа чынам адхіляла яго ад сябе, думаючы, што Купала прыйшоў навучаць яе цалавацца з Якімкам на сцэне. Трыумф «Паўлінкі» зняў тады насцярожлівасць лясной лані, і Паўлінка ў пецярбургскі вечар пастаноўкі «Паўлінкі» пайшла Купалу насустрач усім адкрытым сэрцам. Але адкрытае пачуццё яе тут, у Вільні, няўмольна, як на рыфы, наткнулася на легенды, плёткі, а яшчэ таму прычынай — уласны яе задзёр, гордасць. Ін-

шыя, можа, і самі б раздзьмухвалі легенду аб каханні да іх Паэта, але не Мядзёлка. Мядзёлка, наадварот, сама затоптвала гэтую легенду, прытушвала жар яе, бо такі ўжо быў яе характар. Гордасць абранніцы Купалы працягвала выяўляць сябе і ў тым, што Мядзёлка затойвала сляды пажару, пэўна, не без думкі, што сама будзе ад таго прыгажэйшай — неамыльнай. А на самой справе яна памылялася і на гэты раз — у другі раз. Купала вунь як пакахаў яе, а яна, не разабраўшыся ў сваіх пачуццях, не прадбачыла мажлівага. Бо — гэта ж паводле яе логікі — немажлівае, дзіўнае ў яе жыцці, ды і ў Купалавым, адбылося. «Дзіўна часам жыццё складаецца! — гэта ж ускліквала яна, Паўліна Вінцэнтаўна.— Мяркуем па-свойму, як жыць, а тут што іншае набяжыць. Яшчэ ж, здаецца, так нядаўна ў Вільні Юрэвіч сох па Уладцы, а Уладка па Чэсю Родзевічу млела, Чэсь да Вікці заляцаўся, а Янка...» Каму Янка Купала прапаноўваў руку, мы ўжо ведаем, як ведаем і тое, чаго і па якіх прычынах не спадзявалася Мядзёлка. Уладку Станкевічанку яна вунь як добра ведала. Але бачыць у ёй саперніцу, відаць, і не падумала, бо Купала ж не даваў для гэтага ніякіх падстаў. Вершы канца 1914 г. «Успомні» і «Гэй ты, дзяўчына, кветкалілея...», прысвечаныя Станкевічанцы, мы ўжо гаварылі, былі не больш як прысвячэнні дзяўчыне-сябру па грамадскай думцы.

Каханай жа, доўгачаканай пісаліся ў два тыдні пасля, у месяц — пасля і, нарэшце, у сем месяцаў і тыдзень, сем месяцаў і два тыдні пасля адмовы гэтай самай каханай — спапяляючай душу паэта адмовы.

Пра адзін толькі верш, прынесены паэтам сваёй доўгачаканай пасля бяссоннай ночы, успамінала П. В. Мядзёлка. А іх было дзесятак. І да гэтае пары ў беларускім літаратуразнаўстве ніхто не паставіў яшчэ ўсяго напісанага разбітым сэрцам паэта ў адзін рад, ніхто не сказаў, што з разбітымі вайной марамі аб працы на карысць Беларусі, з разбітым той жа вайной каханнем Купала ў другі раз пакідаў Вільню. Бо сапраўды, можа б,

яго ўзаемаадносіны з другой даўгажданай скончыліся б інакш, каб неўзабаве пасля фатальнага вечара Купалавага прызнання яна не выехала да бацькоў у Глыбокае. Надзеі пачуць іншыя словы з вуснаў Мядзёлкі ў прыфрантавой Вільні ў Купалы не заставалася...

Цар Мікалай I аб'явіў вайну кайзераўскай Германіі 20 ліпеня. 8 жніўня 1914 г. было поўнае зацьменне сонца, якое найлепш было відно ў Беларусі. Аб гэтым паведамляла «Наша ніва», зазначаючы, што «людзі зазвычай любяць звязваць знакі на небе з забабоннай верай» і што «гэткая вера не мае пад сабой ніякага грунту». Гэта падпісваў у газеце рэдактар-выдавец I. Луцэвіч, як і перасцярогу, што ў зацьменне «глядзець на сонца можна праз чорнае, робленае для гэтага сумысля, або закопчанае сажай шкло». Купалу-паэту, каб глядзець на зацьменне, знарок закопчваць шкло не трэба было, бо ўсё шкло неба закопчана было дымам бясконцых пажараў. У рэдактара-выдаўца I. Луцэвіча была насмешка над забабонамі, у паэта Янкі Купалы — нешта адваротнае. Яго цыкл «Песні вайны», што пісаўся на працягу верасня — снежня месяцаў 1914 г., адкрываўся якраз вершам «Варожбы», а ў ім былі радкі: «Сонца круг свой зацямніла, ночай глянула ў дзень белы на жыццё ўсё, на свет цэлы. I груган аднекуль выплыў, штосьці гыркнуў дзюбай хрыпла... За варожбамі варожбы...» Адным словам, зацьменне сонца Купала-паэт сустракаў, як колішняя дружына князя Ігара са «Слова аб палку Ігаравым». Усходнеславянскі паэт — нашчадак аўтара «Слова», Купала не мог не сустракаць зацьмення іначай як толькі трывожна: «Што то будзе, што то будзе? Штось трывожны свет і людзі!» Болем напоўніліся «Песні вайны» Купалы:

Выйшлі роднай вёскі дзеці
Паміраць на белым свеце,
Рассяваць па свеце косці
Праз кагосьці, за кагосьці...

...І вось жніва, што за жніва!
Бокам, сторчам, проста, крыва —
Труп ля трупа, як калоды...
Што за сон, што за выгоды!
Не на смехі, не на жарт,
Ката — брат, кат брата варт.

Крыжы Смаргоншчыны — ля старажытнага Крэва, крыжы пад Бытэнем — на Шчары і ля Вердэна ў Францыі, а яшчэ і ва Усходняй Прусіі, дзе прайшлі арміі Самсонава, і на Галіччыне, і ў Валыні, дзе прарываўся Брусілаў. А для Купалы:

На крыжах сава якотам
Гаманіць адказ сіротам
Ды пытаннем страшным страша:
«Га! дзе ж Бацькаўшчына ваша?»

Га? Дзе тая Бацькаўшчына, якая ўяўлялася паэту ў вобразе Маладой на вяселлі, сакалінай сям'і, што рвалася ў неба? Зацьменне сонца! Крыжы паўсюль.

Крывавы бог крывавыя ахвяры
Сабраць павінен в свету дачыста...
Ані канца таму пракляццю,
Ані яснотаў тых пачатку...
Калі ж ты, Бацькаўшчына-маці,
Устанеш к новаму парадку?!

Няведанне, боль ад няведання, ад таго, што будзе з Бацькаўшчынай, калі скрозь вайна, скрозь спраўляюць баль варожбы зацьмення. Купала цяпер сапраўды адзін на адзін заставаўся з Бацькаўшчынай. Мядзёлка мела рацыю. Ды гэтае новае адчуванне Бацькаўшчыны дало паэту і новы ўзлёт у яе апяванні — санет «Бацькаўшчына» са словамі:

І калі здзекваецца нада мною хтосьці —
Над Бацькаўшчынай здзекваецца ён маёй.

Гэтыя словы былі такога аграмаднага значэння, што мелі на ўвазе не толькі цара, імперыялістаў, ненавіснікаў «Нашай нівы», але і даўгажданую, што зрабіла Купалу роспачным пес-

няром сноў, адзіноцтва — аўтарам санета «Таварыш мой», страшнага ў сваім увасабленні Адзіноцтва ў вобразе сябе — трупа, адкаснуцца ад якога няшчасны паэт не можа. Драма Купалавага кахання сапраўды спараджала вершы сноў, паўсноў або параўнанняў перажытага са сном: «Быў гэта толькі сумны сон, што вось інакшая яна... Быў гэта толькі сумны сон, што развяду я з ёй бяду...»

І былі яшчэ неспатольныя нараканні паэта на долю, якая не судзіла «хоць далёкай зоркай быці, на якую яна б зірнула мо хоць раз, хоць раз у жыцці...».

З пачаткам 1915 г. пачала асабліва лютаваць цэнзура. Другі нумар газеты за гэты год быў канфіскаваны. Белыя плямы ў газеце ішлі з нумара ў нумар: у трэцім — у артыкуле «Паўгода вайны» і «З цяперашняга жыцця»; у чацвёртым быў зняты перадавы артыкул; белая пляма зеўрала ў рубрыцы «На вайне і каля вайны»; не было перадавога ў шостым нумары; белыя плямы сляпілі ў артыкулах «Чародная задача» — у пятым нумары, у карэспандэнцыях з вайны ў шостым і сёмым, «З Беларусі і Літвы» — у восьмым, дзевятым, дзесятых нумарах. У 16-м увогуле дзве паласы былі знятыя, палавіна першай старонкі аголена, і Купала горка ўсміхаўся: «Калі да гэтага газета была як з бельмамі на ваччу, то цяпер увогуле аслепла,— друк без друку! І за што плаціць слаўнаму Марціну Кухце, які дзесяць гадоў набірае газету, плаціць яму ў тэрмін ці не плаціць?..»

З канфіскацыяй другога нумара было не так проста, як успомніў у лісце да Я. Ф. Карскага сам Купала, пісаўшы, што «справа заглухла...». Арышт на другі нумар «Нашай нівы» быў накладзены 16 студзеня нейкім Чардацкім. Пракурор Віленскай судовай палаты студзеня 23 дня 1915 года пракурору Віленскага акруговага суда «перадаваў на распараджэнне яго высакароддзю» адносіну Часовага камітэта ад 19 студзеня і копію сваёй пастановы з просьбай «аб наступным мне данесці». За пракурора судовай палаты быў распісаны — адкуль толькі браліся гэтыя нямецкія прозвішчы! — нехта Кегель. 27 студзеня

на адносіне красавала ўжо рэзалюцыя: «З-за наяўнасці прыкметаў праступка... перадаць у акруговы суд...» 28-га папера прыйшла ў гэты суд, і ў той жа дзень пракурор Віленскага акружнога суда ў Віленскі акружны суд крамзоліў, што «пераправаджае» «для зацвярджэння арышту»...

Аб хаджэнні ўсіх гэтых папер па інстанцыях сам Купала не ведаў. З-за працы ён увогуле не бачыў, як беглі дні. Вольных амаль не выдавалася. З студзеня як прысеў быў, каб запісаць, што ў душы вынасілася-выпакутавалася, так да 20-га і не прысядаў. Ведаў, што нешта круціцца над ім з арыштам газеты, але 20-га быў вольны вечар — 20-га Купала даў волю душы, 20-га напісаў аж чатыры вершы: два — Ёй і два санеты; адзін ужо вядомы нам пра Адзіноцтва і другі — з назвай «На суд».

Біблейская тэма суднага дня, адрасацыя да нашчадкаў, вера ў іх справядлівы суд, арыентацыя на іх суд — гэтыя тэмы зоймуць надзвычай вялікае месца ў Купалы 20-х, ды і 30-х гадоў. У санеце 1915 г. Купала аддаваў сябе на суд кніжнікам, і нам сёння няцяжка зразумець, каго пад кніжнікамі ён разумеў. У Адэсе 5 мая 1923 г. той самы Даніловіч, бібліятэкарам у якога ў 1908—1909 гг. быў Купала, падпісаў спраўку: «У 1911 годзе ў справу ўступіў кампаньёнам Антон Іванавіч Лапкевіч; бібліятэка была пераведзена ў д. № 33 на Віленскай вуліцы. У 1914 годзе я прадаў сваю частку Антону Іванавічу Лапкевічу, каторы з таго часу і з'яўляецца адзінапраўным уладальнікам бібліятэкі». Вось яно! З 1914 г. пан Антоні — паўнаўладны гаспадар бібліятэкі «Веды», і на гэты ж час такім жа паўнапраўным быў у сваёй «Беларускай кнігарні» на вул. Завальнай, 7 пан Вацлаў Ласоўскі. Кнігары, кніжнікі... Купала аддаваў сябе на іх суд, каб адасобіцца ад іх. Вось яна — фармула паводзін Купалы ў «Нашай ніве»:

Мінаў я вашу фарысейскую сям'ю,
Мяне не збэсціў вашым ідалам паклон,
Калі ж з грудзей і вылятаў пракляцця стогн,
То кляў я сам сябе і мук сваіх змяю.

Нічым грашыць ад вас грашнейшым я не ўмеў,—
Піў чарку крыўды і цярпення — ўсё да дна.
І не спаганіла мяне аблуда ні адна.
Адзін грэх толькі лёг мне на душу, як леў,
Праступак, суддзі, мой: я сэрца, сэрца меў!
Але ці ж гэта так страшэнная віна?!

Пра гэты стан Паэта ў стане Кніжнікаў, асабліва пра «ўзаконены прыгон» у рэдакцыі, пра гордае паэтава — «не даў вам і не дам стаптаць душу сваю», «мінаў... вашу фарысейскую сям'ю» — і пра тое, што яго, Паэта, «не збэсціў іхнім ідалам паклон», «не спаганіла... аблуда ні адна»,— пра ўсё гэта нам трэба запомніць вельмі і вельмі, бо гэта асноўнае, што вызначала асобны Шлях паэта, было ягоным Вялікім Шляхам. Купала, калі пісаў пра ўсё гэта, вядома, не ведаў, што ўсім гэтым ён так забяспечвае сябе перад сваім Будучым, як мог бы забяспечыць сябе толькі яснавідца. Гэтыя радкі пісаліся на любы суд, як адказ любому пракурору, як поўназаконная падстава любому суддзі выносіць паэту толькі апраўдальны прыгавор.

А вы, груганы з Часовага камітэта па друку, як ні віцеся над галавой Купалы, а можа, лепш сказаць — над яго сэрцам, ён думае не пра вас, не пра арышт газеты,— думае пра яе, каторую «чакаў з трывогай» і каторая не прыйшла. І ён склікае — насуперак ёй, нявернай,— верных сваіх служак — «бязмежна гора», якое «не скупіць» яму «сваёй апекі», сваю «беспадобную службу» нядолю — «пацеху дома, у полі», якая не здрадзіла паэту ніколі.

Вось як яны ўсе сыдуцца
Ў маю святліцу — маё сэрца,—
Імглою вочы прыбяруцца,
Душа на жальбу абапрэцца.

Сабраліся! Імглою вочы прыбраны! Душа на жальбу абаперлася! О, як сумуе Купала па табе, дзяўчына! О, як дакладна, балюча выспеўвае ён усю гісторыю свайго парыву да цябе:

Сыду са сцежкі я тваёй,
Як цень [redacted] няведамага краю,
Хоць і не вырву ўжо з грудзей
Таго, з чым жыці сіл не маю.

Судзіла доля мне сустрэць
Цябе, як казку негадану,
Ды не судзіла доля мець
Пацехі [redacted] гэтага жаданай.

Праклянцце нейкае вісіць
Над лёсам марным і сірочым
Ды рве і рве за ніцяй ніць,
Якія [redacted] шчасцем злучыць хочуць.

Нявольнік дум сваіх і сноў,
Сябе самога раб няшчасны,
Я скрозь жыццё адзін сам шоў,
Пуціны не зазнаўшы яснай.

І думаў, што ўжо скаваў лёд
Мне ўсе жаданні і парывы,
Што дажыву я сваіх год
Па-свойму вольны і шчаслівы.

Так думаў... Сталася не так —
Душу збудзіла дзіўна з'ява:
Чагось жадаць пачаў бядак,
Штось згледзеў больш, як смерць і слава.

Інакш забілася ў грудзях
Сляпое, прыспанае сэрца,—
Змяніў на кветкі церні шлях
І думаў: шчасце ка мне рвецца.

Але здалося гэта ўсё,
Быў сон, а ява засталася,
Надзеі зорка ў небыццё,
Як здань жывая, праняслася.

Зноў сам адзін, як блудны цень,
З далёкай вырваны каметы.
Ідзі, брыдзі і ноч, і дзень,
Навек згубіўшы ўсе прасветы.

Каб мог душу ўзяць, паказаць,
Каб мог сабе сам вырваць грудзі,
Тады б мо ты змагла паняць,
Чаго паняць не хочуць людзі.

Тады б мо каменем цяжкім
Маёй душы не надзяліла,
Над сэрцам мела б жаль маім
Ды і ўздыхнула б над... магілай.

Каментарыяў да гэтага верша — не трэба. Тут — усё, што было да сустрэчы з Мядзёлкай і што было надзеяй і што аказалася няспраўджанай марай. Лёс паэта і душа паэта — яны, як нідзе, выказаны тут дакладна, як на духу. Так проста і так няпроста.

...Крымінальнае абвінавачванне было таксама не з простых. Купала ведаў, што яго папярэднік — А. Уласаў — плаціў, дый неаднойчы, штрафы за розныя інкрымінацыі цэнзуры і нават меў задавальненне двухмесячнай адседкі. З грашыма з верасня месяца мінулага года справы ў рэдакцыі не паправіліся, а перспектыва садзіцца ў турму Купалу ўвогуле не ўсміхалася, і ён сеў за вывучэнне артыкула 1213 [10] Устава ўгалоўнага судаводства і З. п. 1034[4] артыкула Улажэння аб пакараннях, перш чым 2 лютага 1915 г. напісаць сваё «Прашэнне». Яно ў яго было расцягнута доўгім і нудным, як і ўсе судовыя паперы, звязаныя са следствам па справе Купалы, але такою ўжо была бюракратычная судовая машына, ад якой Купала абараняўся яе ж бюракратычным стылем, паказваючы, што і ён умее закручваць сафістыку не горш лонданскага клерка, каб знаходзіць лагодзячыя справу адчэпкі і зачэпкі, не падстаўляючы спіны пад грувасткія формулы законаў, якія зусім нібы і не адносяцца да таго, што ён, рэдактар-выдавец, падпісваў, пускаў у свет.

В. а. судовага следчага В. Бацюня асабліва не спяшаўся. На допыт І. Д. Луцэвіча ён выклікаў толькі 20 сакавіка. Рэдактар-выдавец зрабіў на яго добрае ўражанне, і В. Бацюня не спяшаўся слаць сваіх вывадаў пракурору, як бы свядома спрыяючы,

*Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні,—*
*На чужое неба ўжо гляджу сягоння.*
*Але думкай, сэрцам толькі вас я знаю,*
*Як і жыў, жыву я ў сваім родным краю.*

каб справу заглушыць. Толькі 14 красавіка пайшло ад яго да п. пракурора Віленскага акруговага суда прадстаўленне аб справе Купалы як «падлеглай спыненню з-за адсутнасці саставу віны». Пан пракурор быў, аднак, іншай думкі. Яго рэзалюцыя ад 25 мая 1915 г. была катэгарычнай: «Вярнуць для прыцягнення ў якасці абвінавачваемых

1) рэдактара газеты «Наша ніва» і

2) пры ўстанаўленні — сачыніцеля...»

У чэрвені справа была накіравана на перагляд. Але не да перагляду было ў прыфрантавой Вільні, як і не да нагляду над паэтам, над «Нашай нівай».

Купала і таго не знаў, што такі нагляд існаваў. Ён і памятаў пра Луку Іпалітавіча, і забываўся пра яго. Купала-рамантык менш за ўсё аб падобным думаў, а за ім сачылі і ў Пецярбурзе і ў Вільні. Яшчэ 31 ліпеня 1913 г. сталічны дэпартамент пад грыфам «Зусім сакрэтна» пераслаў у Вільню паперыну аб «нацыянальнай групе палякаў ці беларусаў», у пераліку якое значылася і прозвішча пісьменніка Янкі Купалы, што нібы дзейнічае ў Вільні: «тэмаю абмеркавання служыць быт сялян і неабходнасць барацьбы за яго паляпшанне; прамовы носяць крайне антыўрадавы характар... Часам падымаюцца размовы пра неабходнасць тэрору». Сучасныя даследчыкі Купалы слушна бачаць у гэтай паперыне данос, зляпаны на белую нітку, але фактам з'яўляецца і тое, што сам начальнік Віленскага жандарскага ўпраўлення слаў сакрэтную адносіну ў Пецярбург свайму сталічнаму начальству. 7 верасня 1913 г. ён пісаў: «Асобы, пералічаныя ў названай запісцы, а іменна Янка Купала, Эпімах-Шыпіла, Тарашкевіч, Пагодзін, Хлябцэвіч, у г. Вільні не жывуць...» Калі, аднак, Купала стаў жыць у Вільні, мясцовыя жандары ўжо былі папярэджаны аб яго недабранадзейнасці. Даследчыкам «Нашай нівы» вядомы сёння і іншыя дакументы агентурнага характару пра беларускую газету, на якіх ёсць, у прыватнасці, зробленыя ў Вільні прыпіскі: «У сучасны момант прыступлена да пошукаў тайнага супрацоўніка па названай

арганізацыі». Ёсць і адабрэнне-рэзалюцыя нейкага з вышэйшых жандарскіх чыноў. «Тады больш будзе відаць». Купала пра ўсё пра гэта нічога не ведаў, як невядома і нам, ці быў знойдзены жандарамі тайны наглядчык па «Нашай ніве», па Купалу. «Больш... відаць» віленскім жандарам, ва ўсякім разе ў час зацьмення сонца, не стала, а віленскі небакрай усё больш шугаў пажарамі, усё больш набліжаючы фронт да Вільні і ад'езд Купалы з яе.

Люты 1915 года быў лютым у жыцці Купалы, як мо ніводзін з месяцаў яго жыцця ў Вільні да гэтага. Была страшэнная непагадзь. Была нядзеля, 15 лютага. Гэты верш, як дзённікавы запіс. Назва запісу — «На вуліцы». Першым радком у ім: «Блудзіў па вуліцы я той, дзе сустрачаў яе»,— па вуліцы Георгіеўскай, каля кавярні «Зялёны Штраль». «Яе — не ўцямлю — шчасце ці сваё няшчасце». Сапраўды, шчасцем ці няшчасцем было гэтае каханне для Паэта і Яна сама, пра якую, ходзячы па праспекце, зачуўшы «здалёку ад чыгункі... свіст-выццё», успамінаў паэт.

Як бы з тым свістам адлятала шчасце і жыццё
Ці гінуў нехта наймілейшы там — за даллю.

«Нехта наймілейшы», вядома ж, яна — Паўлінка Мядзёлка, якую недзе туды, за даль, звезлі цягнікі, каб Паэт тут чуўся, як «здрадай схопленая ў клетку лань,— такі бяссільны, пазабыты, безуцешны». Забыты Ёю, безуцешны, бо адно думы аб Ёй засталіся, свідруюць галаву: «За што, нашто сябе на часці рву, калі за гэта маю толькі камняў груды?» Так сноўдаўся Паэт па праспекце «і сам згараў у сабе», калі з віру ягоных дум яго вырываў той жа праспект, кавярня «Зялёны Штраль», у якой ён з ёю так часта заседжваўся за столікам. Паэт быў насупраць «Зялёнага Штраля» — на той бок вуліцы. І ён бачыў і ярка асветленыя вокны кавярні, і менш яркія рады вокнаў вышэйшых над «Штралем» паверхаў. Аздобныя барокавыя за-

стрэшкі над «Штралем» здаліся яму цяпер пяццю надгробкамі над «Зялёным Штралем», над яго з ёю ў «Штралі» сустрэчамі. Але... няўжо сапраўды ў іх усё скончана? Ад гэтага пытання ён адмахваецца. Адмахваецца, таму што яму сёння жудасна стала каля «Штраля» — жудасна і сорамна: і за сябе, і за тых, хто ў гэты вечар можа весяліцца, танцаваць. Большае чым асабістая крыўда наплывае на паэта — памяць пра тое, што «там, на акрываўленых палях, крывёй людской нявольнік для нявольніка грабніцу рые». І што там нейкія яго надгробкі над «Зялёным Штралем» перад магільнымі доламі на палях вайны?! Перад усенародным, усезямным горам ягонае гора становіцца горайкам, макулінкай гора.

Стыд спанаваў мяне, што я на вуліцы той быў
І аддаваўся нейкай візьі ўсёй душою,—
Тым горкім думам аб сабе і сэрцу тым, на здзіў
Так заўладаўшым маім сэрцам-сіратою.

Сапраўды, наўздзіў заўладала Мядзёлка сэрцам — сіратой Купалы! І чым паэту было пераадолець гэтую яе сілу прыцяжэння? Паэт пераадольваў яе паэзіяй, разважаючы ў тую ж нядзелю, 15 лютага 1915 г., у вершы «Нашто?» так:

Нашто трывожыць сэрца беднае
Жаданнем ласк, сардэчнага цяпла? —
Усё роўна збэсцяць тваё сэрцайка,
Святое вырвуць з яго ўсё датла...

Ідзі праз свет з вачмі адкрытымі,
Ў грудзях гадуй, як сталь, і моц, і гарт,
Глядзі ўвакруг свабодным сокалам
І крэпка знай, чаго ты ў свеце варт!

У гэтым вершы, аднак, разважаў Розум. Лягчэй было вяшчаць «ідзі!», «не паніжай сам духа вольнага!», «да зор сягай!», ды цяжэй — сэрцу пазбыцца пачуцця, вачам — не бачыць, не ўяўляць яе, вушам — не чуць, не ўспамінаць яе галасу. Ужо мінулі і сакавік, і май, і чэрвень, а Купала ўсё ўспамі-

наў яе, не могучы разгадаць загадкі, чаму ўсё гэта ў ім прадаўжаецца і што гэта яна за яна, што ён так захапіўся ёю, так багатварыць яе. Якраз з гэтых падумкаў і ўзнікла найцудоўнейшая жамчужына з твораў, натхнёных Мядзёлкай, верш «А яна...», верш — адказ на даўняе пытанне: «Хто і што яна?», верш, прачытаўшы які, можна сказаць, што сустрэча з Ёю была для паэта шчасцем, бо гэта шчасце паэта, калі сустрэчы з Ёю нараджаюць такія вершы, як «А яна...»:

Гэткім шчырым каханнем яе атуліў,
З гэткай ласкай глядзеў у яе сумныя вочы,—
Як і сонца не туліць расквечаных ніў,
Як і зоры людзям не ўглядаюцца ўночы!

Так пясціў, так галубіў галубку, яе,
Так цяпліў сваім сэрцам сірочым ёй грудзі,—
Як і маці не песціць дзіцё, як спаўе,
Як і вогнішча ззябнутых грэці не будзе!

Столькі песень над песнямі ёй я напеў,
Столькі думак зглажыў аб ёй важных, таёмных,—
Як і бор гэтак з ветрам шумець не шумеў,
Як і век гэткіх дум не зглажыў для патомных!

Гэткі ў сэрцы сваім збудаваў ёй пасад
І такую ўзлажыў ёй з кахання карону,—
Як і неба з зямлёю на божы загад
Не прыдбаюць такіх ні кароны, ні трону!

Так уславіў яе ў славу сонца і зор,
Так маліўся дзень-ноч к ёй мальбою нябёсаў,—
Як і мудрасць не ўславіць ўсясвету прастор,
Як і каня не моліцца ўлетку да росаў!

Утварыў з яе шчасце з-над шчасцяў сваё,—
Чарадзейную княжну з аповесці дзіўнай,
І пад ногі ёй кінуў жыццё сваё ўсё...

. . . . . . . . . . . . . . .

А яна?.. А яна была толькі... дзяўчына!..

Кожны вобраз у гэтым вершы — выяўленне праўды адносін Паэта да «толькі... дзяўчыны». Кропкі раздзяляюць уявы Паэта пра яе і адказ Паэта для самога сябе, а хто ж такая яна. «Толькі... дзяўчына» не прыняла паэта. Яна аказалася выдумкай яго галавы. А калі ў каго каханне не было выдумкай — і выдумкай і пакутай, калі тваю вялікую выдумку адхіляюць як непатрэбшчыну?!

...У добрым настроі рэдакцыйную кнігу прыходаў і расходаў «Нашай нівы» Купала называў вясёленькай, асабліва калі запісваў у ёй выбіраную сабою пенсію, хоць найчасцей выбіраў яе дробнымі грашыма. 8 ліпеня, напрыклад, ён запісваў: «Купала набраў дробн. 20» (рублёў). Назаўтра запісаў «звозчыку ў цэнзуру 45» (капеек), «маркі на экспедыцыю № 27 — 16» (рублёў). «Кнопкі — 45, свечкі — 8, пераводн. папера 15» (капеек). 9 ліпеня «Ад п. Ів.» паступіла ў рэдакцыю 20 рублёў. 10 ліпеня паступіла ад пяцёх чалавек па падпісцы — ад кожнага па 1 руб. 25 кап. У графе расходаў Купала запісаў: «Прынос газеты з друку 15», «звошчык на пошту 30». 13 ліпеня падпіска паступіла ад двух асоб, растрачана 73 капейкі — «за спірт». Так ужо ўвесь 1915 г. Купала сам вёў кнігу прыходаў і расходаў: маркі на экспедыцыю, звошчык у цэнзуру, звошчык на пошту, карасін, шпагат, прыслузе, п. Кухце, З. Бядулю, «Купала набраў дробнымі», «ад пана Івана» — часцей, і толькі зрэдку «ад п. Антона». Кніга была разграфлена ў блакітненькія і чырвоненькія палоскі. Почырк Купалы — быстры, круглаваты, крэслення ніякага — не тое што ў вершах. Апошнія свае вершы ў Вільні ён напіша 13 ліпеня, кнігу будзе весці да 8 жніўня. Вершы 13 ліпеня якраз і стануць апошнімі ў рамане Купалы і Мядзёлкі. У першым з іх — аб каханні ў былым часе: «Як кахаў я папраўдзе»!, у другім — у цяперашнім:

Мілей мне яна і ад сонейка,
Мілей ад маіх сноў дзяцінных,
Ад красак квяцістага гонейка,
Ад песень вясной салаўіных.

Аб пахаванні свайго кахання пісаў Паэт у першым, ды гэта было такое пахаванне самога сябе, якім Паэт толькі палохаў Яе, якім заклінаў: няхай яна вернецца, прыйдзе «і з грудзей... гарачых няхай выдзярэ сэрца, ды на трох нажах стаячых хай нясе і смяецца».

Як паложыць на магіле,
    Дзе аб шчасці спіць песня,
Само сэрца ў той жа хвілі
    Загарыцца, ўскрэсне.

І гарэці вечна будзе...

Паэт не развітваўся са сваім каханнем. Вечнага агню кахання ён прагнуў: ён кахаў і прагнуў, каб яго пакахала яго абранніца з трыма нажамі ў руках. Чаму гэта аж тры нажы ў яе руках убачыў Паэт увечар 13 ліпеня, ён і сам сабе не мог адказаць, калі назаўтра перачытваў вершы «Пахаванне» і «Ночцы».

# ПАЯЗДЖАНЕ

Фронт быў ад Вільні ўжо блізка, і Вільня эвакуіравалася — Вільня чыноўніцкая, афіцыйная, са сваім мясцовым кодлам чарнасоценцаў, са сваімі ваеннымі штабамі і інтэнданцкімі службамі. На вакзале было людна, завозна, гулка. І наперадзе кусяго афіцыйная Вільня вывозіла на шырокіх платформах кудысьці ў невядомасць, зняўшы з пастаментаў-п'едэсталаў, помнік Кацярыне II — з плошчы каля Кафедральнага сабора, помнік Мураўёву-вешальніку, які да гэтага ў пільнай паставе інквізітара выстойваў дзень і ноч перад Губернатарскім палацам — насупраць Святаянскіх муроў, Віленскага універсітэта. Не брат, не кум і не сват быў гэтай кампаніі рэдактар-выдавец І. Д. Луцэвіч, але і яму давялося пакідаць прыфрантавую Вільню, бо і «Нашу ніву» не ў стане было ўжо выдаваць, і трэба было думаць аб нейкіх сродках існавання. 8 жніўня 1915 г. у кнізе, разграфленай блакітнымі і чырвонымі палоскамі, Купала зрабіў апошні запіс: «Купалу на дарогу ад п. Ів. 5 р.». Вось увесь ягоны капітал, нажыты ў газеце. Купала спяшаўся: чарніла не паспела высахнуць, як ён закрыў з трэскам кнігу прыходаў і расходаў, менш за ўсё сваіх. Вясёленькія блакітныя і чырвоненькія палоскі не здаваліся вясёлымі: ад іх, прывычных, веяла ўжо такім далёкім, неверагодным, што сэрца заныла, а думкі азмрочнелі. Развітанне было вымушанае. Адрывацца было балюча, тым больш што наперадзе — адна невядомасць, пэўных планаў ніякіх. І на колькі летаў, зімаў гэты настрой?

28 верасня 1915 г., ужо з Масквы, Купала напіша Эпімах-Шыпілу: «Настраенне няважнае — найгорш тое, што чалавек не ведае, якое ліха цябе чакае заўтра». 8 жніўня пачалося гэтае ліха, а ім прадвызначалася шмат што ў жыцці і творчасці. 3 лістапада 1918 г., г. зн. больш чым праз тры гады пасля выезду з Вільні, Купала ў адным з лістоў прызнаецца: «Па выездзе з Вільні амаль нічога не напісаў». І гэта было праўдай. Толькі ў канцы кастрычніка 1918 г. узяўся паэт за пяро. Было тое ў Смаленску — на зыходзе года, які быў настолькі цяжкім для Купалы, што ў лісце да Эпімах-Шыпілы ён паведамляў: «Там, у Смаленску, жывучы праз увесь цяжкі і жудкі 1918 г., я папраўдзе быў, як непрытомны». «Быў, як непрытомны» — гэта, бадай, вельмі дакладнае самаакрэсленне душэўнага стану чалавека, вырванага з каранямі з папярэдняга ўстою свайго жыцця, выкінутага ў стыхію бурлівую, як шквальны акіян, зменлівую, як уся былая царская Расія ў рэвалюцыйным кіпенні, пераўтварэннях.

З Вільні Купала паехаў да маці — у Акопы. З Акопаў — у Арол, па запрашэнню свайго знаёмага С. К. Жывапісцава, ветурача і грамадскага дзеяча. Але ў сярэдзіне верасня ён ужо ў Маскве: 23-га «явлен и записан» «Прэсненскай часткай 2-га ўчастка па доме Калініна № 27 па Цішынскай плошчы». Да маці Купала, відаць, ехаў, каб азірнуцца, разабрацца ў сітуацыі, ды больш і не было куды падавацца як да маці. Запрашэнне сябра ўспомнілася дарэчы, але ў цэлым для нас гэта нейкая незразумелая перасадка паэта на шляху з Акопаў у Маскву, бо недакладнай была Уладзіслава Францаўна, калі пісала: «З Вільні пачалі выязджаць. Янка Купала таксама вырашыў выехаць, здзейсніць сваю запаветную думку аб вучобе і ў верасні паехаў у Маскву, дзе паступіў у Народны універсітэт імя Шаняўскага». А куды ж выпаў Арол?..

Ва універсітэт Купала сапраўды паступіў, але наўрад ці ён думаў аб ім, пакідаючы Вільню. На бланку заявы, які Іван Дамінікавіч склаў у праўленне Маскоўскага гарадскога народнага

універсітэта імя А. Л. Шаняўскага з просьбай залічыць яго слухачом гісторыка-філасофскага цыкла, даючы «статыстычныя звесткі» аб сабе, на пытанне: «Чым займаецеся цяпер у Маскве, акрамя навучання ва універсітэце», Купала адказваў: «Нічым». Магчыма, якраз гэтае «нічым» і штурхнула яго пайсці далей вучыцца, сяк-так «устроіцца», як пісаў ён Эпімах-Шыпілу 28 верасня 1915 г., праз пяць дзён пасля прыпіскі ў Маскве.

Сваім адрасам у гэты час Купала называе Уладзіміра-Даўгарукаўскую вуліцу, д. 27, кв. 73. Гэта было месца жыхарства старэйшай сястры Уладзіславы Францаўны — Марыі, бацькам якое быў француз, а не як ва Уладкі беларус Станкевіч. Гэта з ёю малою на руках адзінокая парыжанка — будучая маці Уладкі — і прыехала ў Расію гувернанткай.

І вось сустрэча ў Маскве Янкі і Уладкі ў яе сястры Марыі — пасля даўніх у Вільні, больш блізкіх — у 1913, 1914 гадах — у Малых Бясядах,— сустрэча з тых, пра якія звычайна людзі, ускідваючы з красамоўнымі жэстамі рукі, ускрыкваюць: «Лёс! Такі ўжо лёс!..»

А на гэта быў, вядома, і лёс, ды не толькі ён. Бо быць не магло, каб адна з зорак беларускай віленскай моладзі не ведала пра тое, што адбылося паміж другой зоркай з гэтай жа моладзі і Паэтам у Вільні! Быць не магло, каб Уладка Станкевічанка не ведала і пра тое, што да маці ў Акопы паехаў з Вільні Купала, бо па сутнасці ўслед за ім тут жа выехала ў Малыя Бясяды. Ці сустракаліся яны ў канцы лета 1915 г. у Бясядах? Ці ведала Уладка, што Янка паедзе ў Арол? Ці была ў іх дамоўленасць сустрэцца ў Маскве? Ніхто таго не ведае, і тут можна толькі далейшыя пытанні задаваць сабе. Чаму было Уладцы не ехаць з Бясяд у Маскву разам з Янкам? Бо то ж Янка нібы ўцякаў з Бясяд у Арол і, толькі не ўладкаваўшыся ў Арле, паехаў на адзіны вядомы аганёк у Маскве? А што далей? Цытуем ліст 28 верасня: «Сяк-так устроіўся, і цяжка надта з грашыма», «непакоіць на добрае прызыў ратнікаў II-га разраду». Пра жаніцьбу — ні слова! «Сяк-так», «так-сяк» — што гэта як не вы-

ражэнне пэўнай абыякасці і душэўнай стомленасці, стану, вельмі блізкага да «wszystko jedno!» — толькі што ўжо не бяздумна дзіцячага, а рэзыгнацыйна свядомага: пасля краху вялікага кахання, у ваенным ліхалецці. А можа, мы памыляемся; можа, намер жаніцца выбліснуў у паэта як надзея выйсці з трансу, абыякавасці? Калі топішся, за саломінку хопішся, а тут жа была не саломінка, а чалавек даўно знаны, духоўна блізкі, які ішоў табе насустрач, прычым даўно ўжо, і якога ты блізка ведаў, таксама даўно ўжо, як і брата Уладкі Вікцю, Вікенція Францавіча. І быў яшчэ клопат паэта з прызывам ратнікаў. Купалу абсалютна не было за што ісці ваяваць за цара, за яго струхлелы трон! І было яшчэ прыемнае знаёмства з усёй дружнай сям'ёй Станкевічаў, якая Купалу ўвогуле падабалася... А Уладка? Уладка была для Янкі, вядома, не Паўлінка Мядзёлка, але яна вычула Шлях Купалы, яна сама шукала Паэта, сама паехала за ім, учарнелым, як лес пасля пажару, пакінутым, вымушаным пакідаць мясціны нязвітага гнязда, такім бязрадным, неўладкаваным, беспрытомным. Уладка Янку шкадавала, любіла, кахала, была такою рознай, незвычайнай, то экспансіўнай, то з апалымі крыламі.

Іх сустрэча ў Маскве была вырашальнай. Сяброўцы сваёй па Вільні Костцы Буйлянцы не больш як праз год пасля шлюбу, ужо ў Беларусі — у Полацку,— Уладзіслава Францаўна мелася гаварыць, «як яны, сустрэўшыся ў Маскве з Янкам Купалам, раптам адчулі вялікую блізкасць адно да аднаго, як Янка атуліў яе, адзінокую на чужыне, падмогай і апекай і як, урэшце, яны вырашылі ажаніцца». «Я ніколі не пашкадую, што так здарылася»,— гаварыла маладая жонка Янкі, ці не па-жаноцку забыўшыся, што гэта не ён, а яна атуліла яго падмогай, апекай і г. д.

Шлюб адбываўся 23 студзеня 1916 г. у Маскоўскім Петрапаўлаўскім касцёле. Сама Уладзіслава Францаўна нідзе аб ім пісьмова не ўспаміналя. Не ўспамінаў і Купала, адно што ў лісце да Эпімах-Шыпілы з Полацка ад 26 верасня 1916 г. (г. зн. з

таго ж часу, калі якраз пабывала ў іх у Полацку К. Буйло) пісаў: «Жонка трохі на нервы хварэе... Чыстая бяда, і сама мучаецца, і мне не вялікае шчасце». Купала прасіў прафесара парадзіць яму добрага знаёмага лекара, каб направіць здароўе жонкі. Купала не мог шчыра не клапаціцца пра яе, хоць ужо само пісьмо 26 верасня 1916 г. паказвае, што жаніцьба яго жыццё ўскладніла.

Шлюб Купалы можна назваць нечаканым. За ім паследаваў і нечаканы выезд з Масквы, бо цераз тыдзень пасля шлюбу, 30 студзеня 1916 г., у Мінску Купалу ў пашпарце была ўжо адбіта пячатка: «Начальнік XVI дарожнага атрада... Старшы рабочы». Гэта значыць, Купала з 30 студзеня станавіўся старшым рабочым дарожна-будаўнічага атрада Варшаўскай акругі шляхоў зносін.

Справу з гэткім прызывам Купалы ў войска прадвырашыў брат Уладкі — Вікенцій, які сам адбываў службу ў тым жа дарожным атрадзе...

І вось Купала ў Мінску — з маладой жонкай. Але не паспеў агледзецца, летам наступае каманда пераязджаць у Полацк, восенню 1917-га — у Смаленск. Дарогі! Дарогі!.. Калі Купала ў канцы 1918 г. у Смаленску пачаў пісаць вершы, адным з першых стаў аб пераездах, аб малаўсвядомленым, малаасэнсаваным руху ў прасторы і часе. Твор быў, праўда, дзівосны, як чары, як замова над тым, што навокала дзеецца, як імкненне вырвацца з зачараванага кола, адчараваць зачараванае, узяць след, выскачыць з цемры — на святло, з непрытомнасці — у прытомнасць.

Назву меў твор «Паязджане». Паязджане ў беларускай міфалогіі — гэта вяселле, якое заблудзілася ў дарозе, не вярнулася пад стрэхі хатаў, з якіх выехала, ці то сурочанае нядобрым вокам, ці то кімсьці заклятае, праклятае. І вось скача, прэцца, рынаецца ў розныя бакі гэтае вяселле ў бясконцых завеях-завірухах, і не выносяць яго, гэтага вяселля — Маладога, Маладую — на які-небудзь парог расцугляныя коні. Якраз гэтакса-

ма, як ужо каторы год не вялі да родных парогаў дарогі Купалы і яго маладой жонкі, як яны блыталіся ў віры падзей ваеннага часу, рэвалюцыі, грамадзянскай вайны.

Дарогі! Дарогі!.. Шляхі і тых, што пакінулі Вільню, Беларусь — услед за Купалам,— дарогі ўсёй арміі беларускіх бежанцаў, яны былі нікольki не лягчэйшыя Купалавай, і кудою толькі яны не пралеглі па ўсёй чыста неабдымнай Расіі! То была ў высокай песні Купалы Маладая Беларусь, што падымалася «з нізін... над крыжамі бацькоў, над нягодамі»; былі Паўлінка і Якімка як увасабленне сіл Маладой Беларусі, што паўстала супраць старой; былі Сымон і Зоська з «Раскіданага гнязда», якія таксама ўвасаблялі сілы Маладой Беларусі. Ды вось усе гэтыя маладыя сілы, уся Маладая Беларусь, на якое нечаканае вяселле ўсе яны трапілі! І верш «Паязджане» быў найперш пра гэта:

Распаўзлася па абшары
Сцюжным пухам, сцюжнай марай
Папаўзуха-завіруха —
Злога духа злыбядуха.

Ў полі дымна, ў полі цёмна,
Беспатольна і заломна,
Ні пуціны, ні ўпыння,
Як у вечнай дамавіне.

...Едуць, едуць, ані следу,
Ні праслуху, ні прагледу,
Ні прасвету, ні надзеі,—
Усё ў зацьмішчы, усё ў завеі.

Нялёгка ў гэтай снежнай кругаверці знайсці шлях, не збіцца з яго! Нялёгка Купалавай Маладой Беларусі! Нялёгка ўсім, каго падняла, звабіла, павяла, паклікала ў шлях Маладая Беларусь!..

«Цяжкі і жудкі 1918 г.» Купала дабываў у Смаленску. «Земгусарам» стаў ён тут, бо менавіта такой мянушкай у Смален-

ску і на Смаленшчыне праэвалі тады агентаў па забеспячэнню, якім з ліпеня стаў І. Д. Луцэвіч. Заяву на гэту пасаду ён склаў 1 ліпеня, залічаны — 21-га, прычым у заяве з просьбай прыняць на службу Купала дадаткова сцвярджаў: «Занятак гэты — мая спецыяльнасць». Сёння, вядома, такое Купалава сцвярджэнне выклікае ўсмешку: «земгусар» — яго спецыяльнасць, таго, хто яшчэ зусім нядаўна на заяве Праўленню універсітэта імя Шаняўскага супраць графы «Род сталых заняткаў (пасада або прафесія)» пісаў: «Літаратура. Рэдактар беларускай газеты «Наша ніва». Як далёка было ўсё гэта ад Купалы 1 ліпеня 1918 г., калі на смаленскай біржы працы ён значыўся пад білетам № 403! Сапраўды, у вайну намруцца і налгуцца. Але як было не напісаць, што земгусарства — «мая спецыяльнасць», калі трэба было зарабляць на сябе і на жонку?! І Купала 23 ліпеня ўжо браў аванс у 500 рублей, накіроўваючыся ў Курск і Курскую губ.— па цукар і іншыя прадукты. Першая камандзіроўка была несалодкай: у дарозе Купала цяжка захварэў і 29 ліпеня вярнуўся дадому. Аказалася, што захварэў ён дызентэрыяй, ды ў моцнай форме, і справаздачу аб няшчаснай паездцы Купала здаваў толькі 6 жніўня, прыкладваючы спраўку аб прадпісаным яму ўрачом пасцельным рэжыме. Ды як толькі падняўся Купала з ложка, дарога чакала яго зноў: 31 жніўня ён ехаў у Клімавічы, вяртаўся 9 верасня; 21 верасня зноў ехаў у Курск і Дзмітрыеў — павятовы горад Курскай губ., вяртаўся 12 кастрычніка. Калі вяртаўся ў Смаленск «з поўным», меў, напэўна, гордае пачуццё таго, што працуе на людзей, на іх забеспячэнне — у год такой вялікай гаспадарчай разрухі, якім быў 1918-ы — год ваеннага камунізма. Даставаць тады для рэвалюцыі хлеб, цукар, фураж — гэта было сапраўды годнай справай, блізкай да продразвёрсткі, разлічанай, як і яна, на ўспамогу рэвалюцыі, на вывад народнай гаспадаркі з разрухі. Але ці магло быць у Купалы вялікае задавальненне ад таго, калі ён камандзіраваўся 31 жніўня ў Клімавічы «для здачы 500 пустых мяшкоў Крэнгаўзу», як гэта значыцца ў ад-

носіне ў пададдзел тавараабмену ад 9 верасня 1918 г.? Дарогай у нікуды здавалася Купалу дарога з пустымі мяшкамі, і няцяжка ўявіць, як цяжка перажываў такія дарогі Паэт, бо гэта была не ягоная служба рэвалюцыі. Сваю спецыяльнасць — сапраўдную — ён зноў адчуе ў сваіх руках, калі возьме ў руку абсадку, не браную ім з часоў выезду з Вільні. Але — калі гэта будзе?

...У 1918 г., калі Купала раз'язджаў па Смаленшчыне і неакупіраванай частцы Беларусі з мандатам, у якім значылася: «Российская Социалистическая Федеративная Советская Республика, Исполнительный комитет Совета рабочих, солдатских и крестьянских депутатов Западной области. Отдел снабжения. По части Хлебофураж. 21 июль 1918 г. № 2286/4923. Гор. Смоленск.

Удостоверение

Дано сие от Отдела снабжения Западной области Ивану Доминиковичу Луцевичу в том, что он действительно состоит агентом названного отдела, что подписью и приложением печати удостоверяется»,— дык вось у тым самым 1918 г. у Парыж, у Версаль, дзе падпісваўся Версальскі мір, спяшаўся Антон Лапкевіч — з дыпламатычным пашпартам, выдадзеным марыянетачным урадам БНР. Мандат Купалы быў мандатам Рэвалюцыі, Савецкай улады; мандат Антона Лапкевіча — мандатам контррэвалюцыі, і ён ім размахваў супраць Савецкай улады, супраць Кастрычніцкай рэвалюцыі. Не шмат гадоў прайшло — тры, як раз'ехаліся Луцэвіч і Лапкевічы, Луцэвіч і Ласоўскі, Лапкевічы і Ласоўскі з адзінага гнязда — з «Нашай нівы», а як усё змянілася ў іх жыцці, як перакруцілася, накіравалася на вельмі розныя рэйкі! Адбыліся сапраўды галавакружныя змены, павароты. Выбар шляху ў кожным выпадку вырашаўся кожным асобна — у залежнасці ад самага першаснага, унутранага, што было ў кожным. Рэвалюцыя для ўсіх была як лакмусавая паперка, апушчаная ў грудзі кожнага, вывяраючы іх на чырвоны колер вернасці, на сіні — здрады. Рэвалюцыя

была, нібы раствор, у якім праяўляецца фатаграфія, да канца вырысоўваючы яснае аблічча кожнага — аблічча, якога не разглядзець на туманным негатыве.

І, па сутнасці, усе яны былі паязджане — Купала, які з'ехаў з Вільні, не жадаючы заставацца пад кайзераўскай акупацыяй, і тыя, што засталіся ў ёй пад акупацыяй. Бо засталіся ненадоўга. Бо ўсіх, урэшце, зрушвала з месца вайна і — асноўнае — Рэвалюцыя. Пакуль не было рэвалюцыі, зрушвала вайна, а тады ўжо і рэвалюцыя і контррэвалюцыя, барацьба за Бацькаўшчыну, за Маладую Беларусь. Многія таму і станавіліся паязджанамі, што ехалі шукаць лёсу Бацькаўшчыне не за блізкі свет, як прафесар Эпімах-Шыпіла, дасюль дамасед-пецярбуржац, а цяпер раптам добраахвотны паязджанін у Швейцарыю.

Швейцарыя была нейтральнай. У чэрвені 1916 г. у ёй — у Лазане — збіралася III канферэнцыя народаў. Цераз год на беларускую мову пераклаў і ў Мінску выдрукаваў Мемарыял прадстаўнікоў Беларусі на гэтай канферэнцыі Б. І. Эпімах-Шыпіла. Асобныя сённяшнія даследчыкі лічаць, што сам Эпімах-Шыпіла і напісаў гэты Мемарыял, які канчаўся словамі: «Мы просім у цывілізаваных народаў спагады нам і падтрымання, каб змусіць шанаваць нашы нацыянальныя і культурныя правы. Мы можам мець нарэшце надзею, што, які б сабе ні быў канец вайны, народы еўрапейскія памогуць нам запэўніць Беларусі ўсе палітычныя і культурныя правы, якія дадуць нашаму народу магчымасць вольна развіваць свае інтэлектуальныя, маральныя і эканамічныя сілы і што гэтыя правы дазволяць быць гаспадарамі на нашай уласнай зямельцы». «Цывілізаваным народам» Мемарыял супрацьпастаўляў царызм з яго каланізатарскай палітыкай. Мемарыял разам з тым, бадай, першы дакумент, які вунь як пашырыў праграму беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Пачыналася ж усё з патрабавання пачатковай школы, а тут ужо — «быць гаспадарамі на нашай уласнай зямельцы». Што гэта азначала ў прававых, палітычных, сацыяльных і будаўніча-дзяржаўных адносінах, пакуль

што было няясна, як было няясна канкрэтна і тое, хто пад цывілізаванымі народамі падразумяваўся.

Сапраўды, хто? Хто акажацца сваім, хто чужым Маладой Беларусі? Паязджане, думайце! Нялёгка было думаць паязджанам...

1916—1918 гады ў Беларусі — гады калейдаскапічных змен барваў, нечуванага ажыўлення ўсіх сацыяльна-палітычных сіл, выяўлення гэтымі сіламі свайго сапраўднага класавага, палітычнага аблічча. А сілы гэтыя былі надзвычай шматлікія і разнародныя. Беларусь у гэты час стала арэнай дзейнасці як усіх агульнарасійскіх партый — бальшавікоў, эсэраў, кадэтаў, бундаўцаў, так і мясцовых, прычым і польскіх, і беларускіх, і яўрэйскіх, і часткова літоўскіх, латышскіх — усіх нацыянальнасцей, якія жылі ў Беларусі. Купала ўсёй душой рваўся ў Беларусь, у якой рэвалюцыя бурліла, барацьба ішла не на жарты. Але ні яго, ні Коласа, які быў у дзеючай арміі на Румынскім фронце, тут, у разварушанай, як мурашнік, Беларусі, не забывалі. Ва ўсякім выпадку іх імёны — без згоды абодвух, бо якая магла быць згода, калі абодва былі далёка ад Мінска?! — упісалі ў кандыдаты ад імя сваёй партыі дзеячы БСГ, калі ішлі на выбары ва Устаноўчы сход. Выбары гэтыя адбываліся ў Беларусі пасля перамогі Кастрычніка, і Купала павінен быў чуць, што БСГ на выбарах пацярпела поўнае паражэнне: па Мінскай выбарчай акрузе за кандыдатаў БСГ галасавала толькі каля 3 тыс. чалавек, або 0,3 %. У той жа час спісак бальшавікоў заваяваў 63,2 % галасоў выбаршчыкаў. Што гэта? Так слаба ведалі выбаршчыкі Купалу? Безаўтарытэтнасць яго прозвішча? Паражэнне ідэі Купалавага жыцця? Не будзем спяшацца з адказамі, але, напэўна, Купала не мог не рвацца ў Беларусь, каб усё, што дзеецца на радзіме, пабачыць сваімі вачыма, усё ўзяць на ўласны одум. Лепш раз паглядзець, чым сто разоў чуць,— гэта праўда. Чуткі ж ляцелі і паўзлі да Купалы ў Смаленск плоймаю — самыя розныя. І Купала ўсё ж вырваўся раз паглядзець сваімі вачыма: вырашыў паехаць на з'езд у снежні

1917-га. Быў запрошаны? Выпадкова зайшоў у Белую залу Дваранскага сходу ў Мінску, дзе адбываўся гэты Беларускі з'езд?.. Не ведаем. Але што ён, Купала, у адно з пасяджэнняў з'езда, які працягваўся і 16 і 17 снежня, зайшоў у Белую залу, сеў на падаконнік, прыпёршыся да рамы, і пэўны час — нядоўгі — пасядзеў, паслухаў аратараў і выйшаў з залы, каб больш не вярнуцца ў яе,— пра гэта мы ведаем напэўна са слоў сакратаркі гэтага з'езда Людвікі Антонаўны Сівіцкай — Зоські Верас, якая толькі аднойчы ў жыцці бачыла Купалу, бачыла якраз у той момант, калі ён зайшоў у Белую залу, прысеў на падаконнік і ўважна стаў слухаць.

На з'ездзе прысутнічала Паўліна Мядзёлка. Адну з кіруючых роляў іграў Тамаш Грыб — эсэр, якім захаплялася Мядзёлка. Цяпер, калі спакойнымі вачыма мог глянуць Купала на Мядзёлку, выразную ганарлівасць на тварах і яе і Тамаша мог ён убачыць. У сваёй ганарлівасці яны былі пàра. Яны былі пáра і ў выбары шляхоў барацьбы, ды і ў палітыканскай запальчывасці, ілюзіях, якія адзін наконт другога мелі.

Можа, якраз тады, калі на падаконніку ў Белай зале сядзеў Купала, выступаў і сам Тамаш Грыб. Купалу з прэзідыума не маглі не заўважыць. Тамаш Грыб быў героем дня — ён не ведаў, што быў героем на хвілю, думаў — на вечнасць, ён, які пракламаваў на з'ездзе рэзалюцыю аб незалежнасці Беларусі, ён, які пасля таго, як з'езд за контррэвалюцыйны накірунак быў распушчаны, стаў на чале семнаццаціасабовага выканаўчага камітэта Савета з'езда, які не падначаліўся рашэнню Савецкай улады, які пачаў актыўную дзейнасць па падрыхтоўцы паўстання. Так ці інакш, быў Тамаш Грыб ці не быў тады на трыбуне з'езда, Купала саскочыў з падаконніка і пайшоў. Купала і цяпер не ведаў, добра гэта ці кепска: быць звязаным з такой вось палітыкай, і, недаверлівы, адчуваў, што гэта — нешта не тое, не яго шлях, калі 900 тыс. выбаршчыкаў аддаюць палітыканам толькі 0,3 % галасоў. Ні Беларускі з'езд, ні Тамаш

Грыб, ні Паўліна Мядзёлка ў снежні 1917 г. на вершы Купалу не натхнілі.

А што было ў далёкай Вільні? На Беларускі з'езд у Мінск адтуль не трапілі, бо былі на той бок фронту — пад кайзераўскай акупацыяй. Ды там збіралі сваю канферэнцыю — нешта таксама накшталт з'езда. Лапкевічы былі нестамляльныя — да фанатызму. 25, 26, 27 студзеня 1918 г. ішла іх канферэнцыя. Іван атрымаў з Мінска вестку аб смерці маці, дык не падзяліўся ёю з Антонам, каб гэта не адбілася на працы брата як маршалка канферэнцыі,— той Іван, які ў сваіх прамовах толькі і гаварыў пра Бацькаўшчыну-маці. Няўжо ён сапраўды думаў, што, утойваючы перад братам смерць роднай маці, ён спрыяе Маці-Бацькаўшчыне?

1918 год не толькі асабіста для Купалы — для ўсёй Беларусі быў «увесь цяжкі і жудкі», для ўсёй маладой Краіны Саветаў. Бо гэта быў год Брэсцкага міру, год новага наступу кайзераўскіх войскаў, да якога пад кайзераўскай акупацыяй знаходзілася тэрыторыя Беларусі, адрэзаная па лініі Паставы — Смаргонь — Баранавічы — Пінск. Цяпер гэтая лінія прасунулася больш чым на 250 км на ўсход — нямецкія войскі выйшлі на рубеж Расоны — Полацк — Орша — Жлобін — Новазыбкаў. 19 лютага эвакуіраваўся Мінск. 21-га ўступілі ў Мінск нямецкія войскі. На вакзале іх сустракаў памешчык Раман Скірмунт — прамовай на нямецкай мове. У атэлі «Еўропа» ў гонар паноў нямецкіх афіцэраў быў дадзены абед. Контррэвалюцыя ўсе свае спадзяванні ўсклала на акупантаў. Як ні цяжка было Купалу ў 1918 г. у Смаленску, лёс яго разам з тым нібы мілаваў: ён не бачыў садомы і гаморы — усяе валтузні, грызні, палітычнай спекуляцыі, што, як мутная пена, зашумавінілі жывыя крыніцы народнага жыцця падчас акупацыі. Многія ў гэтай валтузні лічылі сябе абуджанымі ідэяй Маладой Беларусі, паведзенымі ёю ў шлях; лічылі сябе нават сацыялістамі, рэвалюцыянерамі, марксістамі. Кім толькі сябе многія не лічылі, але кім у сапраўднасці былі?!

Беларуская сацыялістычная грамада на працягу 1918 г. раскалолася на Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю і беларускіх сацыялістаў-эсэраў. Да першай прысталі Лапкевічы. У другую ўвайшоў Тамаш Грыб, але ўзначаліў яе, аб'явіўшы ласябе нечакана эсэрам, Вацлаў Ласоўскі. Прага лідэрства! Ласоўскі настолькі абышоў Лапкевічаў, што нават узначаліў марыянетачны ўрад БНР. Праграма? Беларускія эсэры праграмы не выпрацавалі, але першы міністэрскі партфель Ласоўскі забраў сабе, груганом наляцеўшы на яго з Вільні.

Вось тут бы Купала мог увачавідкі пераканацца, што ён не памыляўся, калі вычуваў нячысты дух, правінцыяльны макіявелізм у знешне прыстойных гаспадарах «Нашай нівы». Цяпер — у віры незвычайных падзей — ніводзін з іх не таіўся. З кім толькі на кампраміс — канешне ж, «у імя» ідэі! — не ішоў Іван Лапкевіч,— ішоў нават тады, калі яго паплечнікі здзіўляліся яго непераборлівасці ў сродках і абяцанках. Іван тады цынічна выпальваў: «З паршывай авечкі хоць воўны клок» і рваў гэты шматок пры любой нагодзе: «Wszystko jedno, panowie!..» [1]

Іван Лапкевіч схільнасці да прыгожага пісьменства не меў. Іншая справа — Антон Лапкевіч, тонкі стыліст. Але стыль не змяняў сутнасці, толькі што сентэнцыі старэйшага брата масоўцы выражаў больш «дыпламатычна», як, напрыклад, у выпадку, калі Антон Лапкевіч сцвярджаў, што «Беларусь пойдзе рука ў руку з тым, хто ў найважнейшай хвілі акажа ёй падтрымку». Беларусь пойдзе?.. Лапкевічы! Яны гатовы былі пайсці рука ў руку з кожным, хто акажа ім падтрымку, і гэтай падтрымкі яны шукалі ў 18-м у Вільгельма II — не знайшлі; будуць шукаць у 20-м у Пілсудскага — не знойдуць; у літоўскага дыктатара Сметаны — не знойдуць; у Пятлюры — не знойдуць. І, нарэшце, у 1918 г. Антон Лапкевіч даедзе да Парыжа — стукацца ў версальскія пачакальні — да заправілаў

---

[1] «Усё адно, панове!..»

Антанты, думаючы, што французы, англічане — вось дзе сапраўды цывілізаваныя народы, а не прусак Вільгельм ці вусаты падманшчык Юзаф Пілсудскі! Зрэшты, Пілсудскі сапраўды ў адносінах да А. Лапкевіча вёў сябе беспардонна і двухаблічна. У вочы ён не казаў яму, што не лічыць яго ніякай палітычнай сілай, але за вочы — на ўсю губу, даючы ўказанні сваім чыноўнікам адфутбольваць Лапкевіча, бы ў забіяцкім коле, аж пакуль не інтэрніраваў яго ў Варшаве. Але — трэба сказаць — дыпламатычная служба Пілсудскага ў Парыжы дакладна адчула, што за дзеяч быў А. Лапкевіч, бо паслухайце, што дакладваў «Naczelniku Państwa» [1], як называлі Пілсудскага, адзін з яго парыжскіх дыпламатаў. «Гэта чалавек,— пісаў ён пра А. Лапкевіча,— вельмі хітры, фальшывы, зручны, ціхі, згодніцкі і не дурны... Не ведаю, ці ёсць такая цана гатоўкай або ў пасадах, за якую можна было б здабыць яго станоўчыя адносіны да нас, але, на мой погляд, ён заўсёды ў выніку ашукае і здрадзіць палякам і пойдзе з нашымі ворагамі».

Яны, Лапкевічы, Ласоўскі, Грыб, былі дзеячы, якія, вядома ж, самі былі перакананы, што паступаюць толькі правільна, што яны — адзіныя вялікія ў сваёй службе ідэі, Бацькаўшчыне, што дзеля Бацькаўшчыны гісторыя дазваляе і даруе ўсё. Гісторыя, маўляў, не даруе Купалу, які староніцца іх. Бо хто гэта там думае, што іх барацьба, кажучы па-руску, толькі «драчка»?! Якая «драчка», калі мы і ў Лазане, і ў Кіеве, і ў Празе, і ў Парыжы! Маштабныя, еўрапейскія маршруты ў паязджан! Бо ж, як і ў Купалы, поруч з імі аказваліся і іх спадарожніцы — нявесты, жонкі, каханыя: у Антона Лапкевіча — Софія Абрамовіч, яўрэечка родам з Вільні, якую студэнткай-медычкай ён сустрэў у Парыжы; у Тамаша Грыба ў Мінску — Паўліна Мядзёлка; у Івана Лапкевіча — вільнянка Юлія Мэнкэ, якая ў Закапаным у 1920 г. праводзіць яго, памёршага ад сухотаў, у апошні шлях...

---

[1] Кіраўніку Дзяржавы.

Сапраўды! Рознымі людзьмі і палітыкамі былі беларускія паязджане. Рушыць у шлях было лягчэй. Пакутна — блудзіць. Але хто з іх думаў, што блудзіць? Лапкевічы? Не! Ласоўскі? Не! Грыб? Таксама не! Купала пра гэта думаў-думаў, а таму напісаў гэты свой геніяльны, на пачатку 20-х гадоў вельмі ім любімы верш «Паязджане»:

Як у моры, ў белым снегу,
Без днявання, без начлегу,
Ў бездарожжы, ў беспрыстанне
Едуць, едуць паязджане...

Папаўзуха-завіруха
Шэпча-шэпча штось на вуха
Аб музыцы-дудаграі,
Аб пшанічным караваі.

Снежным надзячы начлегам,
Пасыпае сном і снегам,
Лазам лезе ў сэрца, ў вочы,
Зазірае патарочай.

Маладога к маладусе,
Свата к сваццi-пасядусе,
Да закосніцы закоснiю
Жах прытульна прыкаросніў.

Прытуліліся, як дзеці,
Як галубкі на рассвеце,
Як нішто ні знаць, ні ведаць,
І ўсё едуць, едуць, едуць.

**А над імі збеядуха,**
Папаўзуха-завіруха,
Снежнай хістаючы вехай,
Захліпаецца ад смеху.

Гэты верш — пра тых, хто жахаўся сваёй няпэўнасці, бездарожжа, пагібелі (не фізічнай — духоўнай), жахаўся смеху над сабой бушуючай стыхіі, якая — са снежнай вехай у руцэ — разумная ж, усёўладная, пераможная. Так што і пэўнае вітанне,

пэўнае захапленне рэвалюцыяй было ў купалаўскім вершы «Паязджане», а больш усяго ў ім бурліла жаданне выбрысці з завеі, даехаць да парога, да ўласнай хаты, да пэўнасці, да разумення часу, рэвалюцыі — поўнага, глыбокага.

І было тады такое: хто адчуў сябе ў 1918—1920 гг. у Беларусі паязджанінам, той як займеў чароўны амулет — прадвесце вяртання, звароту ў родны дом, набыцця дарогі. Бо адчуванне бездаражы — гэта ўжо ёсць і сорам бездаражы, а ад сораму за бездараж — крок да выхаду на дарогу. Адзін крок да выхаду на новую, вышэйшую і раздольнейшую дарогу, чым усе іншыя, якія Купала зведаў да рэвалюцыі. Адзін крок у аўтара «Паязджанаў» заставаўся і да вяртання ў Мінск. Але само вяртанне на дарогу з хаосу больш чым трох безгалосых гадоў пачалося крыху раней, чым быў напісаны верш «Паязджане». І на гэтую новую дарогу Купалу клікала якраз сама рэвалюцыя, якая пра яго не забылася, якая, ледзь толькі, як рэчка пасля паводкі, пачала ўваходзіць у берагі, адразу ж успомніла пра песняра, чыё слова клікала яе.

Першае пісьмо Івана Аляксеевіча Белавусава, рускага паэта і перакладчыка, да Янкі Купалы не захавалася. Захаваўся адказ Купалы на гэта пісьмо ад 16 верасня 1918 г. Купала пісаў у ім наконт сваёй першай кнігі на рускай мове, за выданне якой узяўся Белавусаў. Паэт дзякаваў за гэта і паведамляў, хто яго перакладаў ужо на рускую мову (В. Брусаў, А. А. Карынфскі), і ён пры гэтым, вядома, не мог не радавацца, што не забыты, што яго — дарэвалюцыйнага — на шырокую арэну паслярэвалюцыйнай Расіі выводзіць чалавек, якога ён, Купала, асабіста нават не ведае. Ды гэта якраз і было знамянальна: справа была не ў канкрэтным чалавеку, а ў памяці пра Купалу наогул: памяць аб ім Белавусава была сапраўды *памяццю рэвалюцыі.* Рэвалюцыя вяртала Купалу да літаратурнай творчасці.

Белавусаў жа проста штурмаваў Купалу. 6 лістапада 1918 г. Купала зноў пісаў яму ліст-адказ. І — мяркуйце самі — якраз у прамежку паміж датамі напісання лістоў Белавусаву (16 ве-

расня — 6 лістапада) — эпахальныя ў творчасці Купалы дні: 29 кастрычніка Купала піша аж пяць вершаў, 30-га — два, 31-га — адзін. Пасля ліста ад 6 лістапада — зноў актыўныя творчыя намаганні: 7-м числом лістапада датуецца верш «Пчолы», 8-м — «Сон», «Званы», 9-м — «У харомах», «Млечны шлях», 10-м — «Удосвітак», 13-м — «Забытая карчма», 14-м — «Буслы», «Буралом», 19-м — «Спадчына», 20-м — «Сявец», «Рунь», «Першы снег»... «Паязджане» былі напісаны пасля ўсіх гэтых вершаў крыху больш чым цераз месяц — 27 снежня. Але — што ні гаварыце — малайчына Белавусаў! Гэта ён раскатурхаў Купалу, абудзіў у ім нечуваную энергію. Сам Белавусаў таго не ведаў. Можа, і сам Купала здзіўляўся, як гэта яго раптам «прарвала» — пасля такога доўгага маўчання. А цуду не было. Была заканамернасць. Было тое, што абавязкова павінна было адбыцца. Непрытомны павінен быў атрытомнець. Паэт мае права памаўчаць, але не памыляцца. Памыляцца могуць Лапкевічы, Ласоўскія, Грыбы, але не Купалы. Рэвалюцыя памятала пра Купалу, і ён, адчуўшы гэта, зразумеўшы, што рэвалюцыя — дзеля Бацькаўшчыны, зноў бярэцца за пяро.

Пра што вершы Купалы канца кастрычніка — лістапада 1918 г.? Паэт аб'яўляе ў іх, што «зноў заснуўшую было жалейку» ён бярэ ў рукі і пробуе «ў ёй галасоў», каб для «Бацькаўшчыны-маці... іграць». Але ні тону, ні матываў колішняга свайго першага зборніка «Жалейка» ў Купалы цяпер не шукайце. Назвы вершаў цяпер — заклікі: «На сход!», «Час!». На сход — гэта значыць у рэвалюцыю:

На сход, на ўсенародны, грозны, бурны сход
Ідзі, аграблены, закованы народ!

Час склікаці ўжо грамаду
На вялікую параду,
　　На вялікі сход.
Хай рассудзіць, хай разважа,
Слова цвёрдае хай скажа,
　　Скажа сам народ!

Асабліва магутна ляглі 29 кастрычніка 1918 г. словы купалаўскага верша «Сваймy народу»:

Паўстань, народ! Прачніся, беларусе!
Зірні на Бацькаўшчыну, на сябе!
Зірні, як вораг хату і зямлю раструсіў,
Як твой навала злыдняў скарб грабе!

Паўстань і глянь, як ззяюць скрозь вагнішчы,
Як носяцца ўсясветных змен віхры,
Як на старога быту папялішчы
Цвет зацвітае новае зары!

Паўстань, народ! Для будучыны шчасце
Ты строй, каб пут не строіў больш сусед;
Не дайся ў гэты грозны час прапасці,—
Прапашчых не пацешыць шчасцем свет.

Сваю магутнасць пакажы ты свету.—
Свой край, сябе ў пашане мець прымусь,
Паўстань, народ!.. З крыві і слёз кліч гэты...
Цябе чакае маці-Беларусь!

Гэта быў сапраўды магутны кліч Паэта да народа — кліч у сам час, бо сапраўды «вораг хату і зямлю раструсіў», а хто гэты вораг, тады кожнаму было ясна.

Што было ясна, што было няясна для Купалы 1918 г.? Рэвалюцыя пакончыла з сацыяльным прыгнётам: тут было для яго ўсё ясна,— сацыяльнае разняволенне адбылося! Але які лёс чакае яго Бацькаўшчыну, яго народ ва ўмовах сацыяльнага разняволення?! Купала не прымае кайзераўскай акупацыі. Купала працягвае насцярожана адносіцца да ўсіх мясцовых партыйных груціровак — беларускіх буржуазных партый: усе яны для яго такія «свае», якія не свае, і любы акупант для яго чужы.

Сам Ленін пісаў: «Для ўкраінцаў і беларусаў, напрыклад, толькі чалавек, які ў марах жыве на Марсе, мог бы адмаўляць, што тут няма яшчэ завяршэння нацыянальнага руху, што пра-

буджэнне мас да ўладання роднай мовай і яе літаратурай... тут яшчэ адбываецца. «Бацькаўшчына» тут *яшчэ* не адспявала ўсёй сваёй гістарычнай песні... «Абарона бацькаўшчыны» *яшчэ* можа быць тут абаронай дэмакратыі, роднай мовы, палітычнай свабоды супраць прыгнятаючых нацый...»[1]. Гэта пісалася Леніным у 1916 г. У 1918 г.— прыгнятаючых нацый у Расіі больш не было. Але былі яшчэ прэтэндэнты на іх — Дзянікіны, Калчакі, Урангелі, якія марылі аб вяртанні адабраных рэвалюцыяй прывілеяў. Больш палавіны Беларусі ў 1918 г. была пад прыгнётам кайзераўцаў. Абараняць Бацькаўшчыну было ад каго, а тут яшчэ — абласнікі, у саміх творцаў новай явы такое неразуменне сітуацыі! Але на тое і быў беларускі народ у 1918 г. паязджанскім, каб выездзіць сабе долю, каб усё-такі выбіцца з усіх завей — на дарогу, на шлях!

Усяго беларускіх бежанцаў на гэты час — гісторыкі сёння налічваюць — было не 300 тысяч, як гэта пісаў Б. І. Эпімах-Шыпіла ў лазанскім «Мемарыяле» 1916 г., а 3 мільёны 200 тысяч. І вось 17—21 ліпеня 1918 г. па ініцыятыве Белнацкома склікаецца ў Маскве Усерасійскі з'езд беларускіх бежанцаў. Больш 200 дэлегатаў было на ім, а 19 ліпеня з'ездам была выбрана дэлегацыя, якая была прынята самім Старшынёй Савета Народных Камісараў У. І. Леніным. Да Леніна трапілі паязджане — да Леніна! «Таварыш Ленін,— пісалася ў газеце «Дзянніца» 26 ліпеня 1918 г.,— вельмі цікавіўся беларускім пытаннем, час ад часу пытаў кіраўніка дэлегацыі аб розных баках жыцця беларускага народа... Ленін спытаў таксама, на якой мове ідзе з'езд. З'езд ішоў на мове Купалы. Аб усёй Беларусі — аб яе мінуўшчыне і цяперашчыне гаварылі бежанцы Леніну і аб яе культуры, аб літаратуры. І было гэта ў хаце Купалы ў Смаленску па вул. Малая Багаслоўская, 5: сядзяць тыя, хто быў у Леніна — Цішка Гартны, Тодар Кулеша[2]...

---

[1] Ленин В. И. Полн. собр. соч., т. 30, с. 89—90.
[2] Псеўданім беларускага пісьменніка Язэпа Дылы.

Седзячы за самаварам насупраць гасцей, Купала гаворыць: «Занянад страшэнны. Але нічога: народ, пажыўшы без цара і паноў, як спяваецца ў песні, усё набудзе і зажыве добра... Дух у селяніна бадзёры; у яго свярбяць рукі да вольнай працы на зямлі». Нарэшце Купала пытае:

— Якія ж у вас навіны? З чым едзеце на радзіму?

— Едзем будаваць вольную Беларусь! — у адзін голас адказалі госці.

Калі ж Купала даведаўся, што ствараецца Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, што пра гэта днямі будзе апублікаваны маніфест урада рэспублікі, ён дужа ўзрадаваўся.

— Вось гэта радасная навіна! — усклікнуў паэт.— Уладзя! — паклікаў ён жонку, якая завіхалася ў другім пакоі.— Чуеш, якая навіна!

— Чую, чую! І рада ёй, як і ты! — адказала Уладзіслава Францаўна.

Купала не мог сядзець спакойна.

Ён падняўся, пачаў хадзіць па пакоі. Твар яго паружавеў, ажывіўся.

— От да якой радасці дажыў прыгнечаны вякамі наш беларускі народ! Пачакайце, свет здзівіцца, як мы цяпер закрочым наперад... Жыве наша Беларусь! — з захапленнем гаварыў ён.

У той вечар Купала не напісаў бы занепакоеных слоў высцярогі перад усходнім суседам. І ён цяпер ведаў пэўна: плячо Рэвалюцыі — плячо Леніна — плячо волі яго Беларусі.

...Купалу нельга не верыць. «Жудкім» назваў ён 1918 год, і жудаснае не магло не пакласці свайго адбітку на тое, што ў канцы 1918 г. пачаў пісаць Купала. Жудасныя вобразы, сюжэты ў яго вершах гэтага часу былі якраз выяўленнем жудасці 18 года, яе паэтавым асуджэннем. Раней у Купалы рунь была зялёнай радасцю вясны, сімвалам вясновага абнаўлення, а тут у яго над руннёю на грушы вешаецца гаспадар, які не змог перажыць успаміну, што з-за шнура руні забіў уласнага бацьку; раней звон, званіца, званар былі ў Паэта сімвалам вечавога

пачатку, а тут у яго ў мозг залазіць «жах», што «званар — грабар, што косці згортвае па свеце», а «званіца — мерцвяковы вечны схоў»; і не забытую скрыпку пад лавай у карчме ўспамінаў цяпер Паэт, а як у карчме сын забіў бацьку, сам павесіўшыся на горкай асіне. Усе гэтыя жудасныя вобразы і сюжэты былі, аднак, больш фальклорна легендарнымі, а іх пафас — больш агульна маралістычны. Тым не менш яны ўзнікалі меналіта як рэакцыя на большае — на жудасць усяго 18 года, і аб гэтым непасрэдна сведчыць верш «Першы снег» — пра забойства братам брата. У грамадзянскай вайне такое было не навіна. Але Паэта ці ж можа не ўражваць такое?

Са смаленскай зямлі, хоць і блізкай, але ўсё ж з далечы ад радзімы, Купала па сутнасці асуджаў і ўсю тую валтузню, якую на радзіме ўсчаў ужо раскол у БСГ, актывізацыя беларускіх памешчыкаў, інтрыгі кайзераўскіх генералаў, польскіх нацыяналістаў, бундаўцаў. Усё гэта ў Беларусі адбывалася пакуль што не на вачах Купалы, але Купала на тое і быў Купала, што прадчуваў любое ліха ў родным краі і, як птушка, што адбілася ад чарады, сярод белага радна смаленскіх снягоў кволіўся сваёю шматпакутнаю душою.

Але як ні жудасны быў для Купалы 1918 г., былі ў ім і хвілі вялікай прасветласці — гэта калі быццам бы будучае прыходзіла на ціхую смаленскую Малую Багаслоўскую, калі заходзілі ў невялічкі пакой Купалы і Уладкі два рослыя юнакі — родныя браты Максім і Гаўрыла Гарэцкія. Першы быў спачатку паступіў у Смаленскі археалагічны інстытут, але займацца прыйшлося мала, бо агенту жыллёвага аддзела гарсавета па адшуканню ў буржуяў кватэр, а пасля супрацоўніку газеты «Звязда», яму часу на лекцыі не ставала. Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі — сённяшні акадэмік АН БССР, быў тады стэнаграфістам Смаленскага абласнога Саўнаргаса. А часу ў абодвух не хапала яшчэ па той прычыне, што ўжо 31 красавіка яны падрыхтавалі і выдалі ў Смаленску першы «Руска-беларускі слоўнік». Гэтыя га-

варкія, заўсёды ва ўздымным настроі пасланцы будучыні, як іх у душы сам сабе называў Купала, вунь, аднак, як і думкай і стылем удавалі Скарыну, калі ў прадмове да свайго смаленскага выдання 31 красавіка 1918 г. пісалі: «Прыроджаная пашана і любоў да роднае мовы... вымагала, каб кожнае славечка хатняе ўсмакавалі дый уцямілі як мае быць і выпісалі бы на паперы дабрачынна...»

Яны любілі родную мову — Максім і Гаўрыла. Яны, маладзейшыя за Купалу кожны больш чым на дзесятак гадоў, любілі Купалу і Коласа, кожнага цытавалі па памяці, якраз ужо на іх творах выраслі як інтэлігенты, як літаратары.

Максіма Гарэцкага Купала ведаў яшчэ будучы рэдактарам «Нашай нівы» — друкаваў яго апавяданні, адразу ж вылучыў, як толькі ў 1914 г. з'явілася першая кніга яго апавяданняў «Рунь». І не забываў таксама на пачатку вайны. У нумарах, дзе газета давала рубрыку «Беларусы на вайне», была акурат змешчана і фатаграфія Максіма — зусім маладога яшчэ, у студэнцкай тужурцы, з густой капной зачэсаных направа валасоў.

Цяпер Максім ужо стрыгся: гэта пасля акопаў, пасля ранення і шпіталяў, а можа, як ён сам смяяўся: «і ад дум» залысіны павысілі яго лоб — чысты, светлы, удумлівы. Колькі задум было ў Максіма! — ён збіраўся пісаць гісторыю роднай літаратуры — ад Смаленскага Аўраамкі, як жартаваў, да Купалкі, што жыве ў тых жа «расшчэлінах надднепранскіх», што і святы Аўраамій. «І хрэстаматыю трэба выдаць,— абвяшчаў тут жа ён,— ізноў жа ад Аўраамкі...» «Да Максіма Гарэцкага,— перабіваў цяпер маладога няўрымсліўца Купала,— Максіма, які жыве ў тых жа расшчэлінах, што і Купала».

А на стале пагудваў самавар. Іван Дамінікавіч паклаў на стол да гарбаты, як на той час, дык нават і вялікаватую галоўку белага цукру — «Ад прывезенага з камандзіроўкі; за асобыя заслугі»,— жартаваў. Але гарбата саладзела не так ад цукру, хоць ён быў не абрыдлым на той час сахарынам, як ад імпэту Максіма і Гаўрылы.

— Прозы, прозы трэба нам! — паўтараў Максім.— Хай бы такая кніжка, як Ваша «Шляхам жыцця», лягла на стол — і адна і другая! А як нам патрэбен беларускі тэатр!

— І слоўнікі,— дадаваў Купала, ухвальваючы іх работу.— Рук патрэбна, рук!

Смуціліся, бо ў тых жа размовах не маглі не ўспамінаць рук, якіх так забракуе, калі пачнецца вяртанне паязджан да родных гнёздаў. А ў іх ужо не вернуцца ні Цётка, ні Максім Багдановіч, ні Лявон Гмырак.

Купала вельмі любіў, вельмі цаніў Лявона Гмырака — крытыка, публіцыста. Фатаграфію яго ён паспеў змясціць у тым жа нумары «Нашай нівы», дзе была Максімава. А вось Максім кажа, што не мілавала вайна Гмырака. Забіты ў 1915 г., у ліпені. Купала быў яшчэ ў Вільні, як Гмырака не стала,— таго Гмырака, які ўслед за Купалам выступіў калісьці ў спрэчцы з Юркам Верашчакам, які быў такі паслядоўны ў патрабаванні сацыяльнай глыбіні, класічнасці.

— А Максім...

Прозвішча не называюць. Абодва ведаюць, якога Максіма згадваюць — Багдановіча. Яму было 25, як цяпер Максіму Гарэцкаму. Максім І, Максім ІІ — так цяпер беларусы ўзвялічваюць класікаў беларускай літаратуры Максіма Багдановіча і Максіма Гарэцкага. А тады, у 1918 г., на Малой Багаслоўскай у Смаленску, проста Максім Гарэцкі сядзеў перад любімым сваім паэтам — негаваркім, маўклівым — і гаварыў пра народ свой, беларускі, як ён тады яго разумеў, як разумеў яго Максім Багдановіч. «Багдановіч,— гаварыў Гарэцкі,— адкрыў паэзію нашай міфалогіі, адкрыў, што наш Народ — Паэт, Лірнік. Але я думаю,— разважаў Гарэцкі,— што гэта яшчэ няпоўнае адкрыццё народа. Бо народ наш яшчэ і філосаф. І я б напісаў гэта слова з вялікай літары,— падкрэслівае Максім,— Філосаф».

— Як Уладзімір Салаўёў,— ні то жартуе, ні то ўхваляе Купала.

— А тут дарэчы і Уладзімір Салаўёў,— прадаўжае Максім,— бо я чакаю, што выйдуць з нашага народа новыя Дастаеўскія,— з народа-філосафа не могуць не выйсці.

— А ці ёсць які там у нас беларускі Спіноза, Феербах?..

— А ці адны прозвішчы ў гісторыі чалавецтва значаць? — пытаннем на пытанне адказвае Максім.— Наша міфалогія, нашы, урэшце, прымхі, забабоны — што гэта — не доказы? Дзікунства — скажаце Вы,— а мо гэта зусім не дзікунства, а якраз выява працы душы, імкнення да пазнання свету, да асэнсавання! Цэлая сістэма асэнсавання. Не аб хлебе адзіным жыў сярмяжны мужык-беларус спрадвеку — ён жыў казкай, легендай, забабонам, ён на іх стварэнне траціў сілу, энергію, душу. Мог хлеба не мець, а без казкі — не мог. І вось у XX ст. ён выйшаў ці не з найбагацейшым запасам казак, песень — не разгубіў, бо быў неабыякавы да гэтай сваёй спадчыны, да гэтага свайго скарбу. Браму скарбаў душы сваёй адчыняць нам, і мы здзівім свет новымі Дастаеўскімі...

Купала добра ўсміхаецца. І маладая гаспадыня кватэркі Уладка любіць каравокага Максімку, любіць яшчэ вышэйшага ад яго Гаўрылку. Сэрца Купалы не можа не зайздросціць маладому запалу Гарэцкіх. «Не пагарэльцы — гараць Гарэцкія,— думае, радуецца ён.— Расце наша літаратура, расце...»

І калі Купала быў яшчэ паязджанінам, быў у яго, праўда, вельмі кароткі, бо аднадзённы, прыезд на Беларусь — у Оршу. Гэта было ў лістападзе 1918-га, 19 дня. Дзень векапомны для беларускай паэзіі, бо ў гэты дзень Купала напісаў верш «Спадчына», які сёння стаў адной з самых любімых песень у Беларусі. Самому Купалу не суджана было пачуць мелодыі гэтай, як і многіх іншых песень на яго словы, якімі сёння ганарыцца беларуская музыка — але гэты верш прыйшоў сапраўды «ласкай матчынай». Орша была так блізка ад Акопаў, ад маці, што ўсё на свеце для паэта прасвятлела, і ў гэтым ясным святле ён убачыў найпершую каштоўнасць на зямлі, найпершы скарб — спадчыну «ад прадзедаў спакон вякоў». І ён тут жа выпяяў пес-

пяй, музыкай слоў пра тое, як яму «баюць казкі-сны вясеннія пратапіны, і лесу шэлест верасны, і ў полі дуб апалены». І ён тут жа вельмі натуральна прызнаўся, як залежыць яму на гэтым скарбе, і што значыць для яго гэты скарб у жыцці, і чаму ён, паэт, «і ў белы дзень, і ў чорну ноч» усцяж робіць «агледзіны, ці гэты скарб не збрыў дзе проч, ці трутнем ён не з'едзены». «Завецца ж спадчына мая,— прызнаваўся душою паэт,— усяго Старонкай Роднаю»...

Усяго!.. Аднадзённых агледзін яе ў Оршы было да балючага мала. Усведамленне — да канца — свайго паязджанства ўжо на самым пярэдадні новага 1919 г. канчала паязджанчы перыяд жыцця Купалы. 21 студзеня 1919 г. Купала пераехаў на пастаяннае жыхарства ў Мінск.

## «ДЛЯ НАС, ПАЎСТАЎШЫХ, СОНЦА ЎСХОДЗЕ...»

### 1. «НА СЛАВУ І ШЧАСЦЕ У НАРОД І З НАРОДАМ!»

Гэта сапраўды так: рэвалюцыі, Савецкай уладзе ў Беларусі 1919 г. было вельмі мала часу, каб раскрыць усю сваю глыбока народную сутнасць, а Купалу — агледзецца, каб цалкам зразумець, што гэта такое бальшавікі, Савецкая ўлада. 1 студзеня 1919 г. была абвешчана БССР, 21 студзеня Купала прыехаў у Мінск, а ўжо ў жніўні ён вымушаны быў пакідаць Мінск — перад наступам легіянераў Пілсудскага. Бaі за Мінск ішлі ў блізкай ад Бараўцоў Пільніцы, Паперні — на ўзвышшах, між пералескаў Даўгінаўскага тракту. Смаленск зберог Купалу ад кайзераўскай акупацыі. Зберагчыся ад белапольскай Купала спадзяваўся ў мацi, у Акопах. 10 жніўня ён быў ужо там, адлучаючыся хіба толькі на дзень-два да дальніх родзічаў у Гайдукоўку — дзесяць кіламетраў ад Акопаў, ці ў больш дальні Калісберг, дзе ўпраўляючым у маёнтку Сніткі быў тады Юльян Раманоўскі — муж яго сястры Лёлі. Цэлы верасень 1919 г. прабыў Купала толькі ў Акопах, бо вельмі ж не ляжала яго сэрца да новых акупантаў, ды яшчэ хацелася скончыць адну, як яму здавалася, вельмі пільную работу.

Але ўсё ж і да ўцёкаў з Мінска ад акупантаў крышачку часу ў Купалы было, каб адчуць сябе дома, адчуць у цалкам новых абставінах і напісаць свой першы сонечны верш новага часу. Іх — сонечных, з вобразам сонца вершаў — будзе ў Купалы вельмі многа. У 30-я гады гэта будуць вершы, кажучы па-руску, «обретенного» сонца. Тут, на парозе 20-х, як і да рэва-

люцыі, Купала ўсё яшчэ заклікаў да сонца, але да сонца, якое ўжо ўзышло, якое ёсць ужо і над Мінскам, і над малаабжытай кватэркай Луцэвічаў па вуліцы Юр'еўскай, і над Камісарыятам асветы пры Беларускім народным доме, дзе бібліятэкарам уладкаваўся Купала, і над «Беларускай хаткай» паблізу Камароўкі, куды на спеўкі і канцэрты часта ходзіць вечарам Купала з жонкай.

У бібліятэцы Купала зноў можа засяродзіцца сярод лепшых сваіх сяброў — кніг,— гэта ўжо не паязджанства, не слотныя камандзіроўкі па Смаленшчыне, што ад'ядалі сэрца і здароўе! А колькі новых радасных знаёмстваў завязвалася ў Купалы ў гэтыя дні! Колькі надзей пасялілася ў сэрцы, колькі спадзяванняў! І ўсё ж Купала не пакрывіць душой, калі пра Мінск першага свайго года напіша: «Але і тут вялікага мёду не было спачатку. Перамены ўладароў і інш. не давалі прасветласці». Першапрычынай таго, што «вялікага мёду не было», Купала беспамылкова называе акупацыю пілсудчыкаў, бо каб не яна, вядома, усё прасцей і больш зразумела было б для Купалы і для ўсіх, хто пісаў пра Купалу. Што ж, акрамя перамены ўладароў, ускладняла жыццё Купалы, дакладна сказаць сёння цяжка. Відаць, найперш хваробы, якія апанавалі паэта на пачатку 1920 г. Але пакуль хваробаў Купалы не чутно было, пакуль не чутно было і гарматаў Пілсудскага ні з боку Ракава, ні з Даўгінаўскага шляху, у канцы ліпеня Купала спадзяваўся, што, мажліва, «...Мінска так і не ўдасца... пабачыць» белапалякам.

У красавіку Купала з'ездзіў з жонкай на вялікдзень у Акопы — да маці. Гэта была першая паездка да маці пасля паязджанства, і яна была двойчы святочнай для Купалы. Тым больш што на двары была ўжо вясна — яго любімая пара года, і не было ў Янкі тут, у Акопах, клопату пра хлеб. Бо ў Мінску была страшэнная дарагавізна: хлеб — 12—13 руб. за фунт, сала — за фунт 55—60 руб. Але пра тое, што Купала адчуў сябе сапраўдным гаспадаром у Мінску адразу ж пасля прыезду, асабліва выразна сведчыць сёння Купалаў ліст да Эпімах-Шы-

пілы з просьбай не толькі прыязджаць у Мінск на лета, а ўвогуле расстацца з Піцерам: «Кідайце, паночку, Піцер,— прасіў Купала,— і перабірайцеся на пастаяннае жыццё хоць бы ў Мінск. Тут і паветра лепшае, і з прадуктамі лягчэй шмат. Ды тут бы вам нічога не бракавала дзеля таго, што я магу з вёскі ўсё даставаць, хоць і трудна з прывозам — адбіраюць. Дык надумайцеся... Тут цераз Камісарыят можна было б выхлапатаць пазваленне на перавоз усіх Вашых рэчаў і бібліятэкі...» Гэта, вядома, разруха паклала свой адбітак на купалаўскі ліст-запрашэнне прафесару, некалькі забытавіўшы яго стыль. Але і за словамі паэта пра добрае паветра і выжыўленне нельга не ўбачыць, не адчуць таго большага, што ёсць у ім: удзячны выхаванец-вучань кліча свайго Настаўніка да сябе, кліча, адчуўшы сябе гаспадаром, каб аддзякаваць прафесару, каб зазнаў прафесар добрага жыцця і там, дзе яго Радзіма, знойдзеная яго вучнем Бацькаўшчына. Вуснамі Купалы Радзіма вяртала на круті свае таго, каго да рэвалюцыі называлі сэрцам Беларусі, сонцам Беларусі.

Мінск, радзіма вярталі і самога Купалу да сталай, зацятай працы: не рыўкамі — у адзін дзень па некалькі вершаў, хоць без такога Купала не мог. Як заўсёды, ён доўга выношваў задумы ў сабе, каб раптам, як лавіна, абрушвацца, спадаць радкамі вершаў. Тут, у Мінску, вясной 1919 г., як калісьці і ў белых начах Пецярбурга, як і ў акопаўскае лета 1913 г., Купала надоўга, бо больш чым на два гады асудзіў сябе на вельмі нялёгкую працу — на пераклад старажытнага «Слова аб палку Ігаравым». Без папярэдняй падрыхтоўкі пачаць такую працу было немагчыма. І Купала ўзяўся за яе вясной 19-га.

У тым жа лісце да Эпімах-Шыпілы ад 13 красавіка 1919 г. чытаем: «Цяпер я крыху заняўся студ'яваннем славянскай міфалогіі агулам і беларускай у часнасці». І Купала просіць прафесара пераслаць яму кнігу Зяленіна па міфалогіі, Шэйна, Карскага, Раманава. З той жа просьбаю цераз тры тыдні звяр-

нуўся Купала да І. А. Белавусава: «Я цяпер, прызнаюся Вам, штудзірую, ці, інакш, захапляюся славянскай міфалогіяй, у прыватнасці пераходным часам з язычаства ў хрысціянства ў нас у Расіі, і па гэтаму пытанню маю ўсяго адно адну кніжачку Анічкава «Язычество и Древняя Русь». Шукаў у Смаленску і тут, у Мінску, кнігу Афанасьева «Поэтические воззрения славян на природу» і не знаходжу. Вось калі б Вы мне, дарагі Іван Аляксеевіч, дапамаглі ў гэтай справе...» Добрае «крыху заняўся... міфалогіяй»! Запраграмаванасць — ды яшчэ якая! — з'явілася ў Купалы вясной 1919-га ў Мінску, на радзіме. Мысаўской калісьці тут упершыню пра «Слова» спытаўся ў тагачаснага аўтара адзінага толькі вершыка пра мужыка, як бы нацэльваючы паэта на яго як на ўзор, як на адну з вяршынь літаратуры. Цяпер тут, у Мінску, не нехта адзін звярнуў увагу сталага ўжо валадара беларускага слова на старажытнае «Слова», а сама яе вялікасць Рэвалюцыя — з героікай, з той жа любоўю да роднай зямлі, што так велічна апаэтызаваны ў «Слове» і з той жа ненешай сітуацыйнай складанасцю, чым міжусобіцы часоў XII ст. Калі сонца ў небе, можа ж быць і зацьменне. Ды не аб зацьменні нябеснага свяціла была думка Купалы: цёмныя ж сілы маглі зацьміць сонца рэвалюцыі, і таму якраз работа над перакладам і здавалася Купалу ў Акопах вельмі пільнай.

З прыкрых перажыванняў, якія Купала меў, толькі пераехаўшы ў Мінск са Смаленска, было яшчэ адно — страта бібліятэкі, якую Купала ў 1916 г. пакінуў у Мінску на рукі Уласава і Лявіцкага,— «пяць скрынь з кнігамі, рукапісамі і нашымі пісьменнымі матэрыяламі», як сам Купала пісаў Эпімах-Шыпілу, двойчы акцэнтуючы: «Мяне тут у Мінску страшэнна абакралі», «раскралі ўсё... Вельмі шкада рукапісаў і кніжак. Некаторых кніжак цяпер за ніякія грошы не дастану, як напр., Статут Літоўскі». «І следу ад усяго гэтага не знайшоў»,— уздыхаў Купала — вялікі кніжнік, тым больш перажываючы за сваю страту, бо як дарэчы былі б многія з тых кніг пры цяперашняй яго працы...

Над перакладам Купала пачаў працаваць з вясны. А вершы — не пісаліся. 31 мая напісаў «Світае», 7 чэрвеня — «Калі часам табе сэрца ные, баліць» — верш прыватны, альбомны — як бы па-за часам, па-за яго гістарычнымі, сацыяльна-палітычнымі праблемамі. А яны ж акружалі паэта натоўпам! І вось усе яны, галавакружныя, «забалелі» Купалу — разам! — у Акопах, калі ён, уцякаючы ад акупацыі, аказаўся сам-насам з сабой, калі як бы збоку зірнуў на іх, убачыў, уцяміў, адзінокі глядач, перад якім паднялася заслона, раскрылася сцэна, на якой, як за трыснягамі блізкага ад Акопаў ляснога азерца, праглядвалася і далячынь «павяўшай славы» — колішняй — яго Бацькаўшчыны і бясслаўе сённяшніх беларускіх сыноў, што занялі авансцэну акупіраванага легіянерамі Мінска.

Брыдзе чужынец, а з ім побач
Хто?
　　— Беларускія сыны!

Брылі-наступалі легіянеры, Пілсудскі, і ўжо не на Вільгельма II была стаўка «беларускага сына» Антона Лапкевіча ці падобных да яго сыноў. Разуменне ўсяго гэтага рэзала па сэрцы, як рэжа руку папараць, калі неасцярожна спрабуеш сашморгнуць-сарваць яе. Верш Купалы «Беларускія сыны» быў самы гнеўны, з'едлівы, прасякнуты і нянавісцю да неразумных «беларускіх сыноў» і болем за тое, што яны — такія:

...Царыць чужынец, а ў паслугах
Хто?
　　— Беларускія сыны!
...Вісіць чужы сцяг, а трымае
Хто?
　　— Беларускія сыны!
...Крумцяць чужынцы, а іх складам
Хто?
　　— Беларускія сыны!

Купала ў новых абставінах, у новым часе шукаў не чужога крумкачовага складу, а свайго. Ён проста геніяльна адчуў, дзе

трэба шукаць гэтага свайго складу: у «Слове аб палку Ігаравым»! Ля самых вытокаў культуры славяншчыны, у самых спрадвечных яе пластах, першасных, падвалінных. «Дый пачаціся песні той сягачасным ладам, а не складам Баянавым». Ён ужо адчуў сябе Баянам, ён ужо быў ім да рэвалюцыі: якраз з гэтым адчуваннем сябе поўным валадаром беларускага слова ў Калісбергу 29 жніўня — усё ў адным вузле! — Купала і напісаў славутыя радкі свайго верша «Мая навука»:

Мне мудрасці кніжнай не даў бог пазнаці,
Мой бацька не мог даць раскошаў такіх,
Наўчыўся я слоў беларускіх ад маці
І дум беларускіх без школы і кніг.

...Так іншай не знаўшы навукі і школы,
У пацёмках шукаў і знайшоў божы дар;
Цяпер маймі скарбамі — думы-саколы,
Цяпер беларускай я песні ўладар.

Але «думы-саколы» гэтага «беларускай песні ўладара» былі ўжо ў жніўні 1919 г. менавіта над тым, як «пачаціся песні» яго цяпер «сягачасным ладам». Як? «Беларускія сыны» — здраднікі, паслугачы чужынцаў-акупантаў з чужымі сцягамі ў руках, яны песні новага складу не падказвалі. Не героямі новай песні, новага эпасу былі яны — былі ахвярамі гісторыі. Таму трагічным акордам і абарваў Купала свой верш пра беларускіх сыноў:

На беларускім буйным полі
З вясны да новае вясны
Растуць крыжы, а пад крыжамі
Хто?
    — Беларускія сыны!

Паслугачоў акупантаў, здраднікаў чакаюць адны крыжы, будучыні ў іх няма. Але поле, беларускае поле, ты ў Паэта вунь якое эпічнае: буйнае поле! Дык дзе ж твой новы сапраўдны герой, дзе твой новы буй-тур Усевалад?!

...Азіраў Купала цуда-пералескі Акопаў. Са схіла на схіл: ад аднаго разлапістага дуба-адзінца — да другога, ад аднае чарады магутнавежых дубоў да другое праходзіў ён, праносіў свае думы, што абдымалі ўнутраным, мысленным зрокам усе палі Беларусі. Што ён бачыў на іх? Назвы вершаў падказваюць: 23 жніўня — верш «Груган», 24 жніўня — вершы «Восень», «Ваяк», «Князь», 28 жніўня — «На нашым...». На нашым полі, канешне! Груган — «косці пасеяны ліча, ліча людзей і крыжы»; а восені, чаго жаль восені? «Жаль ёй павяўшых дакосін», і яна ў паэта «творыць паціху уночы свету сваю варажбу», «плача нязмераным горам, жаліць душу, як нажом». Ваяк — той «сеў... на каня, у рукі ўзяў востры меч», «налягеў, як пярун», «сцеражыся, народ». Князь — той зусім не са «Слова аб палку Ігаравым» (але ці не заўважылі вы, як ад усіх прымроеных паэтам у акопаўскім полі вобразаў варажбы, груганоў, касцей, пасеяных у полі, перуноў, плачу-тугі па роднай зямлі велічна патыхнула стыхіяй, вядома ж, «Слова аб палку Ігаравым»!). Дык вось князь, той, што зусім не са «Слова» — ён — песенна-народны, нейкі жартаўнік:

Скача конь на паваду...
    Ціха, косю, стой, стой!..
Чэрпе дзеўчына ваду,—
    Як зірнула: ой, ой!

Не герой гэты — князь каля калодзежа! Не герой!.. Купала азірае буйное беларускае поле, і не тое «ой!», «ой!», што з вуснаў дзяўчыны, вылятае з яго грудзей.

Мог жа Купала і зазімаваць у Акопах, маладая жонка заставалася поруч, у печы штораніцы сквірчэла скварка, стос блінцоў рос у ладнай талерцы на прыпеку, малака свежага, кіслага пі да адвалу! (А ён так любіць кіслае, асабліва без вяршка.) І ніхто яго адсюль не гоніць: у зальчыку ціха, сядай за старасвецкае піяніна, у струнах якога павукі панаплятаці павуціння,— сядай і брэмкай хоць увесь дзень! Павуціна ў струнах — малапрывабнае відовішча, але прыемней павук у стру-

нах, чым той, што ў думках Купалы: павук белы — белы, як той арол, што на сцягу легіянераў Пілсудскага. Ад яго ценю Купала ўцякаў з Мінска сюды, у Акопы: думаў, што навала ненадоўга, што за гэтыя яго ўцёкі да маці ні яго ніхто, ні ён сябе не асудзіць. Як пабыў вясною тыдзень на вялікдзень, пабудзе-счакае тыдзень-два цяпер, увосень, і выметуцца, як нячысцікі, пілсудчыкі з Мінска. Але тыдзень-другі сыходзіў, а пілсудчыкі не вымяталіся, і ніхто іх не вымятаў. Няўжо яны такую сілу займелі? Няўжо няма нашых сіл, каб іх выгнаць? Думкі аб усім гэтым нылі ў сэрцы паэта, як раматус на непагоду. І ён усё часцей прыходзіў да вываду, што і ён сам вінаваты, што акупацыя працягваецца, што і ён сам — саўдзельнік нейкага аграмаднага нічоганераблення, соннай апатыі, нікчэмнай абыякавасці. Нацыянальная драма? Нацыянальны характар, у якім вякі прымусу забілі гераізм, паралізавалі дзейсны, актыўны пачатак? Пра такое любяць пагаварыць тыя, хто не ведае беларусаў блізка, хто не ведае, што і Касцюшка — Тадэвуш, у праваслаўі — Андрэй, і Кастусь Каліноўскі былі беларусамі — ваяваць умелі! «Ды ўвогуле мы ж усе,— разважаў Купала,— са «Слова аб палку Ігаравым», мы ўсе ж роўна ад продкаў пушчанскіх і ваяўнічых, роўна ад дружыны князя Ігара, роўна ад любові да Данца і да Дона і ад прагі піць славу шаломамі з Дона вялікага!»

Усё гэта Купала пра свой народ ведаў: душу яго ведаў, гісторыю ведаў. Але ён разам з тым бачыў, адчуваў драматызм моманту, сітуацыі. Якраз і дайшоўшы да ўсведамлення гэтага драматызму сэрцам і розумам, зусім не выпадкова ў выпадковай мясціне, дзе Купала спыніўся на дзень-два, пакінуўшы Акопы, ён і напісаў самы горкі свой жнівеньскі верш, напісаў сапраўды Мукай Паэта, Адчаем, Крыкам Роспачы. Толькі недзе цераз 10 год верш гэты будзе надрукаваны. Ён тады не выбухнуў, як бомба, сярод вялікага нічоганераблення, ад якога пакутаваў паэт. Выбухнуў толькі ў сэрцы Паэта, каб сёння сведчыць, тлумачыць, што не дало спакою Паэту ў Акопах, што прывяло яго

да таго, што на пачатку кастрычніка 1919 г. ён усё-ткі вярнуўся ў акупіраваны Мінск.

Гнала яго сюды не зіма, а гэта:

На нашым полі
Растуць бадылі,—
Ніхто іх не поле,
Не вырве з зямлі.

Над нашай нівай
Крумцяць груганы,—
Ніхто ў іх шчаслівай
Не пусціць стралы...

На нашым шляху
Калдобінаў цьма,—
З нягоды ці страху —
Раўняць сіл няма.

У нашай хаце
Тчэ кросны павук,
А вонкі пагнаці
Не знойдзецца рук...

Напісаўшы гэты верш, Паэт не мог доўга аставацца ў Акопах — на ўзбоччы. Ці ж яго рукі — не рукі?!. Ці ж яны не могуць пусціць шчаслівай стралы ў ворага? Не могуць раўняць калдобіны на шляху?!

Такім вось актыўным, нястомным, самаахвярным, як прыехаўшы ў Мінск, акупіраваны Пілсудскім, Купала да гэтага ніколі, па сутнасці, не быў. І тут, пэўна, першы раз не паверым мы Купалу, які Л. М. Клейнбарту ў 1929 г. пісаў: «У нацыянальным беларускім руху прамога, калі можна так выказацца, дзейснага ўдзелу не прымаў, акрамя рэдактарства ў «Нашай ніве»; у гэтым руху... была, канешне, і палітыка, а дзе была палітыка, я стараўся ў яе не ўмешвацца. Добра гэта ці кепска — не ведаю». Як бачым, рэдаванне «Нашай нівы»

Купала не выключае з палітыкі. Але няўжо ён забыўся пра сваё рэдактарства ў Мінску? А хто згодзіцца з паэтам, што ён не стараўся ўмешвацца ў палітыку, прачытаўшы такія яго публіцыстычныя выступленні ў газеце «Беларусь» у кастрычніку, лістападзе 1919 г., як «Торжышча» ці ў двух студзеньскіх нумарах 1920 г. той жа газеты артыкул пад назвай «Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год»? Сапраўды, ці ж чалавек, на вачах у якога быў увесь 1919 г.— мінскі, з націскам белапалякаў,— чалавек, які з зацікаўленнем падводзіў вынікі развіцця палітычнай сітуацыі ў Мінску, у Беларусі за ўвесь 1919 г., мог быць па-за палітыкай?

Умешваўся, ды яшчэ як умешваўся Купала ў палітыку ў 1919—1920 гг.! І ён не быў бы Купалам, каб не ўмешваўся. І было чаго ўмешвацца, было чаго баяцца за свой народ, за край, за Беларусь!..

Лірыка паэта 1920 г.— лірыка амаль выключна палітычная. На першым плане ў ёй — бічаванне акупантаў («На біблейныя матывы»), палітычная сатыра на іх прыслужнікаў («Пяць сенатараў»), на палітычны гвалт, наглядніцтва («Паэта і цэнзар»). Купала ў гэты час стварае таксама паводле фальклорных матываў і вобразаў цыкл вершаў «Песні на ваяцкі лад». 13 красавіка 1919 г. Купала прасіў у Эпімах-Шыпілы пераслаць адзін з яго дарэвалюцыйных падцэнзурных вершаў «Цару неба й зямлі», і ў студзені 1920 г. ён друкуе гэты вельмі пафасны твор у газеце «Беларусь».

Вярні нам Бацькаўшчыну, божа,
Калі ты цар і неба, і зямлі! —

такім закліненнем-стогнам канчаўся гэты верш. Бацькаўшчына ў Купалы зноў была забрана — на гэты раз белапалякамі. Што тварылася ў Мінску пад іх уладай — пра гэта ў вершах «На біблейныя матывы», «Пяць сенатараў», але з асаблівай знішчальнай саркастычнай сілаю ў камедыі «Тутэйшыя», якую Купала напіша пры канцы 1922 г. А пакуль што палітычная

лірыка паэта вызначалася лозунгамі, якіх найбольш было ў майскім вершы 1920 г. «У вырай»:

Гэй, вольныя птахі, саколія дзеці!
У вырай! Да сонца вясёлкавым шляхам!
. . . . . . . . . . . . .
Час вылецець к славе з пагібельнай плесні
І песняй агністай дзівіці народы.

У чарнавіку гэтага верша былі і іншыя заклікі, варыянты радкоў. «Па славу і шчасце ў народ і з народам!» — гучаў адзін з іх, і гэтае «ў народ і з народам» было вельмі важнае для паэта, які не дазваляў свайму духу ні на імгненне забыцца пра народ. Больш таго, гэты Паэт Народа вось нават як трагічна ўяўляў на гэты момант сваю службу Народу, Бацькаўшчыне: «Час вырвацца к славе з пагібельнай песняй»,— пісаў ён у першапачатковым варыянце верша, а гэта азначала, што ён гатовы быў плаціць за новую славу народа пагібеллю нават сваёй песні ці гатоў быў сам станавіцца пагібельнай ахвярай-песняй, абы толькі справа Народа, Бацькаўшчыны перамагла! Але ў канчатковым варыянце Купала ўсё ж спрасціў трагічны фінал: «Час вылецець к славе з пагібельнай плесні» — стала ў ім, а гэта абазначала — «з пагібельнай плесні» тагачаснай акупацыі, тагачаснага няпэўнага бяздзейснага стану і стану здрадніцтва, адступніцтва, махлярства, палітычнай спекуляцыі. Паэт — сумленне народа, вартаўнік яго. І калі блудныя авечкі народа трапілі ў плесню, то яна, плесня,— толькі пагібельная. Слава, будучыня народа — толькі ў залежнасці ад памкненняў вырвацца з плесені — вось наказ, заклік Паэта.

Прычым «пагібельная плесня» — гэта была найстрашнейшая для паэта сіла, і не толькі з белапольскай акупацыяй яе бросневы вобраз асацыіраваўся ў Купалы. А што гэта так, сведчыць публіцыстыка Купалы канца 1919 г., у прыватнасці артыкулы «Антанта», «Торжышча», «Беларускае войска». У апошнім з іх Купала апеліраваў да акупантаў: «Тыя,— пісаў ён,— што трымаюць сягоння ў сваіх руках уладу над часцінай наша-

га краю, павінны зразумець, якая небяспека набліжаецца з боку паўстаючай рэакцыйнай Расіі. Цяперашнія пабеды Дзянікінаў, Калчакоў, Юдзенічаў над бальшавікамі — гэта васкрашаючы труп расійскага самаўладства». Васкрашаючага трупа расійскага самаўладства — вось чаго найперш баяўся Купала. Пілсудскі недаацэньваў сілы ідэй Кастрычніка. У сваіх захопніцкіх марах аб Польшчы «ад мора да мора» — ад Балтыкі да берагоў Чорнага мора — ён, упэўнены ў сваёй перамозе, адмахнуўся як ад магчымых саюзнікаў і ад Дзянікіна, і ад Пятлюры, не гледзячы ўжо на нейкага там Антона Лапкевіча. Самаўпэўненасці хапала і Дзянікіну, які ў 1919 г. захопліваў Тулу, Арол, а на бронецягніках наскробваў лозунгі: «Даёш Маскву!» І Калчак насядаў не абы-як: насядала з усіх бакоў контррэвалюцыя, выпеставаная Антантай. Перад абліччам усяго гэтага Купала і станавіўся палітычна актыўным і гнеўна кідаў свае пытанні найперш імперыялістычным заправілам першай сусветнай вайны: «І куды ж і к чаму вядзеце вы сягонняшнюю гісторыю, усе антанты, проціантанты і вам падобныя? Вы стварылі ўсясветную вайну за свае кішанёвыя інтарэсы: пасля, каб гэту вайну прадоўжыць для гэтых самых кішанёвых спраў, выкінулі вы лозунг, што ваюеце за вызваленне народаў; ну а далей, калі пачалі трашчэць і падаць вашы крывавыя троны і кароны, што вы сказалі? Вы аплявалі людзей і народы і кінулі сваіх нядаўніх рабоў у анархію, каб далей у мутнай вадзе рыбу лавіць».

Гэтага — антыімперыялістычнага — Купалу мы ведаем вельмі мала, Купалу, сэрца якога шчымела — балела «за тыя мільёны ахвяр, што паляглі за вашы дзяржаўныя фальшывыя фетышы», паны імперыялісты. А вы, імперыялісты, пісаў Купала, «у сваім паходзе імперыялістычным і мілітарным ішлі і сцiралі ўсё і ўсіх на сваёй дарозе, а ўсё для панавання ўсясільнага молаха — золата». У вобразе Чорнага са «Сну на кургане» пецярбургскі Купала калісьці ўжо выкрываў гэтага молаха: асуджаў маральна, асуджаў як сацыяльнае зло. Але ж ці быў у Купалы белых начэй такі ж ваяўнічы выхад на гэтае зло,

як тут,— выхад менавіта палітычны, у глабальным маштабе, як любім гаварыць цяпер мы. Артыкул «Торжышча» быў сапраўды ўварваннем Паэта ў міжнародную палітыку, у абарону не толькі сваёй зямлі, але і іншых «паняволеных народаў», ад акупацыі, ад антынароднай палітыкі Антанты.

«Як і сто лет таму назад,— ганьбуючы Антанту, пісаў Купала,— стогне пад ярмом Беларусь, Украіна, Арменія, Індыя і дзесяткі іншых дзяржаваў і народаў. Вашы словы аб вызваленні другіх — гэта насмешка з нявольнікаў бяссільных, што ніякай сілы ў сабе не маюць. Дык не кідайце ж вялікіх абманных лозунгаў... На фарбаваных лісах даўно ўжо людзі пазналіся».

Купалу, які з усёй галавой акунуўся ў вялікую палітыку ў канцы 1919 г., не магло не карцець пытанне: «Што, калі Дзянікін, Калчак адолеюць бальшавікоў? А калі, зваяваўшы Маскву, Дзянікін рушыць на Беларусь: рушыць узнаўляць манархію «единую, неделимую» манархіст і шавініст да мазга касцей, які ні свайго манархізму, ні свайго шавінізму ні ад каго не скрываў? Хто тады абароніць Беларусь? Легіянеры, калі супраць саміх іх трэба падымаць зброю?»

Яго вялікасць Час уручыў перамогу не Юзафу Пілсудскаму, які рыцарам на час гарцаваў на белым кані і над Прыпяццю ў старажытным беларускім Тураве, і над Дняпром-Славуцічам, не здагадваючыся, што ён зусім не буй-тур Усевалад,— Час уручыў яе Першай будзёнаўскай Коннай, маладому Тухачэўскаму, які аж да Віслы адкіне ненавіснае Купалу белапольскае нашэсце. Але яшчэ перад тым, як партызаны Беларусі, акупіраванай легіянерамі, сталі Чырвонай Арміяй, перад тым, як развеялася пагроза ўваскрашэння трупа расійскага самаўладства, а польскіх уланаў як змыла паводкай з бруку мінскіх вуліц, Купала раптам захварэў, і вельмі цяжка, бо аж на тры месяцы злёг ён у бальніцу — у Мінскі земскі шпіталь.

## 2. НА МЯЖЫ ЖЫЦЦЯ І СМЕРЦІ

20 верасня 1922 г. з Мінска ў Петраград Янка Купала Б. І. Эпімах-Шыпілу пісаў: «На дабітку ўсяго ў 1920 г., у студзені, я захварэў страшнай хваробай: гнойнае запаленне сляпой кішкі (па-вучонаму перытаніт). Пралежаў у бальніцы, змагаючыся з смерцю, тры месяцы і выйшаў з пакрыўленай губой і з надломаным зусім здароўем. Папраўдзе пабываў на тым свеце...»

Захварэў Купала недзе на пачатку другой дэкады студзеня, бо 16 студзеня ў газеце «Беларусь» з'явіўся першы бюлетэнь аб хваробе паэта. Газета пісала: «Я. Купала цяжка занядужаў... Дактары параілі аперацыю, якая і была зроблена ў Мінскім земскім шпіталі і пайшла, як здавалася, добра. Але апошнім часам здароўе яго пагоршала».

Здароўе пагоршала, бо аперацыя на сляпой кішцы прывяла да запалення брушной поласці, што запатрабавала новага аперацыйнага ўмяшання. «Гной з брушыны вычышчаны,— паведамляла «Беларусь» 17 студзеня 1920 г.— Пульс і дзеяльнасць сэрца някепска; самапачуццё таксама, хаця мажлівая небяспека ў працягу 2 дзён яшчэ не мінула. Подлуг вымаганняў хворасці Я. Купала не прымае яды ўжо 6 дзень. Пры ім безадлучна знаходзіцца яго жонка. У ноч з 15-га на 16-е дзяжурыў да раніцы рэктар рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі ксёндз Абрантовіч. Догляд за хворым самы цёплы і шчыры».

Бюлетэнь аб хворасці Купалы за 17 студзеня змяшчаў яшчэ і такую дадатковую інфармацыю: «Ноч з 15-га на 16-е правёў неспакойна. Некалькі разоў рабілі ўспрысківанні. Тэмпература была паніжана, пульс — 96. Раніца 16-га — троху палепшыўся. Тэмпература — 36,1, пульс — 84—84».

Уся грамадскасць Беларусі перажывала за стан здароўя Купалы. Кожнаму ў Беларусі было тады важна, нармальны пульс у Купалы ці не, выдзеліўся гной у яго ўнутранай ране ці не. Штодзень аб здароўі паэта пісалі газеты, штоночы каля яго

ложка дзяжурыла жонка, сёстры, і перш за ўсё Лёля, пра якую газеты не пісалі, але якая таксама замірала сэрцам над цяжкахворым братам. І тут, на грані жыцця і смерці Паэта, аказаўся над ім і той, каго, можа, найменш чакаў Купала ў акупаваным Мінску,— ксёндз Абрантовіч. Імя Купалы, славу яго, вядомасць у народзе — усё гэтае не супроць быў прыўлашчыць сабе і ксёндз. Калі Купала пасля сваіх беспрытомных дзесяці дзён вярнуўся да памяці, ён заўважыў у кутку чорнасутанную фігуру Абрантовіча і рэзка спытаўся:

— Прыйшлі па маю душу?!

У бюлетэні за 18 студзеня ўрач Казубовіч прарочыў Купалу выздараўленне цераз тры дні, «калі працэс хворасці пойдзе і далей так пажадана». Але бюлетэні прадаўжалі з'яўляцца і 21 студзеня, і 22, 23, 24, 25, 27, 28. Перыпетыі хворасці былі вельмі нечаканыя. Бюлетэнь за 22-е паведамляў: «Магчымасць агульнага запалення брушыны мінулася. Праявілася запаленне каля вушной залозы. Сон неспакойны... Пры хворым, як і раней, знаходзяцца ўначы яго жонка і ксёндз Абрантовіч». Бюлетэнь за 23-е апавяшчаў: «22 студзеня тэмпература была павышана — 38°. Запаліцельны працэс вушной залозы яшчэ не прайшоў. Сон у ноч з 21 на 22 студзеня і ўдзень 22 студзеня першы раз за ўвесь час хворасці быў добры і ціхі». Першы раз пасля дзесяцісутачнай непрытомнасці!..

«Ноч правёў неспакойна», «сон неспакойны» — чыталі гэтую інфармацыю чытачы «Беларусі», а ці папраўдзе ведалі, у якім неспакоі быў у тыя ночы Купала, ці здагадваліся? А быў ён на грані жыцця і смерці...

Калі ў яго вачах уставалі двайныя, а то і трайныя паўкружжы вясёлак, то пад імі ён бачыў сябе абавязкова малым ды з яшчэ меншымі сваімі, усімі жывымі яшчэ сястрычкамі і брацікам. Вось ён бачыць самога сябе сам — з кійком у руцэ. А хто белы абдуванчык, ён, ці бялявая прыгажуня сястра яго Лёля, ці мілая шчабятунка, наймяншанькая іхняя Гэля, ці ўпарты Казя, спакойныя Сабінка, Ганя? Якая бясхмарная раніца! Ён,

Ясь, на чале святочнай грамадкі дзяцей крочыць у лес. А вось ужо і лес, сонца ледзь прабіваецца да Ясевых вачэй праз густы падлескавы арэшнік. Мільгнуў на елцы рыжаагністы ветах хваста вавёркі. Асляпіла адлівам сінізны сойка. Казя просіць у яго кіёчка. А кіёчак незвычайны — з ляшчыначкі, і ўзор на ім доўга сваім сцізорыкам выразаў учора на здзіў дзятве ўвесь дзень Ясь. А хто пройдзе з Ясевым кійком, той абавязкова і ў другі раз пойдзе з Ясем у лес. О, гэты Ясеў кіёк! Ён як зачараваны...

Але вось Купалу бачыцца, што дзеці абступаюць не Яся з кіёчкам, а надзвычай яркі агонь. Касцёр гарыць, а дым пахне бульбоўнікам. Скора, скора ён запахне і свежаспечанай бульбай. Ясь падварушвае яе ў прысаку: «Хутчэй бы даходзіла!..»

— Ды — пачакайце! — што гэта?!. Ясь раптам бачыць — у касцёр лятуць белыя птушкі. Белыя-белыя. Аднак зусім не птушкі — лісткі паперы.

— Што ты робіш, Лёля! — намагаецца закрычаць Ясь старэйшай з сястрычак. А яна як не чуе: камечыць лісткі і, ужо бачыцца Купалу, кідае іх не ў касцёр, а ў адкрытыя дзверцы пліты, у чырвоны, гарачы агонь — шпурляе і шпурляе. Ясь усвядомлівае: яго лісткі, яго вершы. Дамашняе аўтадафэ! Лёля, не ведаючы таго, чыніць над ім аўтадафэ! Бо сапраўды, ці ж меў ён права пісаць пра яе гэты свой першы жартоўны верш, ды яшчэ ў дзень яе імянін. Так яму і трэба. У печ! У пліту! У касцёр... Лёля разгневаная, шчокі яе і ад гневу і ад пабліску блізкага агню пунсовыя.

— І лістоўкі туды! І лістоўкі! — камандуе Лёля, але ўжо не імянінніца, не святлісты падлетак. Маці кідаецца даваць ураднікаваму каню аўса, каб той не вельмі дакараў Яся. Бо ўраднік ведае ж пра лістоўкі і пра тое, як з рук суседа іх вырывала Лёля, як іх паліла...

Але чый гэта конь іржыць: ураднікa?..

Купала трызніць. Каторы ўжо дзень Купала трызніць, як жывога, бачачы на гэты раз бацькавага каня Архіпку: не пад

сядлом, не гераічнага каня пад воем-героем. Каня яго бацькі, каня-працаўніка — цягавітага, дужага-дужага. Бацька толькі-толькі купіў яго. Прывёў у Селішчы. Бацька настолькі рады каню, што, зацуглянага, цягне яго ў хату, у святліцу — на покуць: «Паглядзі, Боня! Вось гэта конь дык конь!..»

Але вось ужо маладога ржання Архіпкі Купала не чуе. Маўчанне. Не, не маўчанне. Скрыгіт. Нейкі скрыгіт, ці не бляхі, абарванай ветрам. Усе баяцца таго скрыгіту, а яго Маці не баіцца. «За мною малою!» — гукае яна. То ж яны — у Дольным Снове, то ж гэта асабліва баялася таго скрыгіту адарванай бляхі пані Сарнецкая. А маці якраз прыехала карміць свайго Яся, як мамка. Ён з абвараны́мі рукамі. Ён лыжкі не можа паднесці да губы! Рукі яго белыя, белыя — у бінтах. А лыжка ў руцэ маці чамусьці дрыжыць: «Карміць дарослага сына! І не пушчала ж яго ў гэты чужы, пракляты свет! Не паслухаў жа — і вось — без рук...»

Купала на момант прытомнее, падымае над коўдрай рукі, глядзіць на іх — доўга-доўга: ні Уладка, ні ксёндз, які чарнее за ёю, не разумеюць, чаму ён так доўга глядзіць на свае такія прывідныя ў святле газнічкі над белым прасціірадлам рукі?

А ён зноў непрытомнее, але нібы бачыць чорным па беламу рускія, кірыліцай літары на сваіх белых руках: «Дозволено цензурою». Бачыць гэтае «Дозволено» і з ім схіленую над сабой сваю няньку — Агату Сай. Імя яе Купала не памятае, памятае толькі, як вучыла яго грамаце, па-руску: «Дозволено цензуроіі»...

Ён любіў бацьку, няньку, і адухоўленыя іх воблікі як бы прыдаюць сілаў яго сэрцу: яно б'ецца больш упэўнена, вунь як гулка — яму здаецца, што аж рэха разлягаецца па ўсёй палаце, па ўсім шпіталі. Але — па якіх законах, ён не ведае,— наплываюць і зусім іншыя сны: чорныя. Можа, таму, што каля яго гэты чалавек у чорнай сутане. Купала ясна не ўсведамляе, хто гэта над ім: ці не Лука Іпалітавіч скасавурыў вочы, перамагаючы трубным голасам рычыць: «А Мысаўскої шчаслівы! Ад-

ным дзяньком адбаярыўся! Адзін толькі дзень сядзеў у Архангельску, смею доложить. Рэвалюцыя выручыла! А вас не выручыць,— шэпча ён у твар Купалу,— не, осмелюсь доложить, не!.. Бо я па тваіх залозах ножычкам, ножычкам, ножычкам — і нарошта гільяціна?!. Захрыпіш, губу адверне!..»

Пульс Купалы ўзмацняўся, тэмпература павышалася. Перапалоханы ўрач Казубоўскі ніяк не мог паставіць дыягназ: «Ад чаго?..» Бо што ведаў, напрыклад, Казубоўскі пра Ласоўскага, Пяледу, Сяргея Палуяна?

...Сяргей Палуян аб'явіўся перад Купалам вясёлы, радасны:

— Пан Вацлаў Ласоўскі казаў, што беларусы павінны здзівіць свет, я і здзівіў.

Купала задыхаецца:

— Ці ж уласнаю смерцю, Сяргею, здзіўляюць?..

— А чаму б і не? Ці ж не ты, Яначка, напісаў «Вісельніка», не ведаючы, што не на жыццё, на смерць мне напісаў?

— Я — табе?..

«Няўжо я — яму?!.» — думка Купалы мучыцца да знемажэння. Халодны пот з яго чала белай хустачкай сцірае і сцірае Уладка. Неўпрыкмет Уладка дакранаецца і да Янкавых павек. Яму здаецца, што гэта нехта завязвае яму вочы. Ці не як на вечарынцы ў Прудзішчах, у Бяларучах?..

...Як здорава! Ён — «прарок». Гулянне ў разгары. Вочы ў яго завязаны. На галаву яго кладзецца нейчая рука: спачатку далікатная, потым — цяжкая, грубейшая, то зноў цяплейшая, то зноў халаднаватая. Яму ж трэба ўгадаць, каго гэта рукі, хлопцаў ці дзяўчат: яму трэба ім «прарочыць» — хлопцам ці дзяўчатам. Каго рука, ён не ведае, але вечарынка яму дапамагае. «Адам! Адам!..» — чуе ён галасы. Значыць, рука хлапечая, значыць, «прарочыць» трэба хлопцу. І ён «прарочыць»:

— Пасці табе авечак, мець сто яечак, поўную гару каўбас, а да дзевак не будзь лас!

Галасы — дзявочыя — звонка смяюцца. Хлапечы смех больш стрыманы.

Рука ж ізноў на яго галаве. Ручка. Відаць, зграбненькая.

— Ева! Ева! — крычаць галасы.

Ясь «прарочыць»:

— А табе выйсці замуж багата, мець лысага свата, бычка-пярэзімка з цялушачкаю, куфар вялізны з мякенькай падушачкаю!

Цяпер смяюцца гучней хлопцы, дзяўчаткі сарамяжліва маўчаць, а нехта ўжо развязвае «прароку» вочы і камандуе: «Падушачку! Падушачку!» Нехта «Падушачцы» пярэчыць: «Спачатку «Гнілога гарбуза», а не «Падушачку»!..»

«Гарбуза» ці «Падушачку»?!. «Гарбуза» ці «Падушачку»?!.

І Купала бачыць сябе зноў маладым, маладзенькім — у Селішчы. Яны толькі туды пераехалі, і вось уся дзятва Дамініка, ён, Ясь, з Казяй выходзяць за дзверы, а Лёля, Анця, Гэля застаюцца ў святліцы. Дзяўчаты ў святліцы, і адна з іх павінна выбраць яго як свайго, а ён, Ясь, каб не застацца «гнілым гарбузом», павінен здагадацца, хто ж яго сабе выбраў. Ясь уваходзіць у святліцу, і ён ужо тут не Ясь з Селішчаў, а і памочнік віпакура ў Яхімоўшчыне, і бібліятэкар у бібліятэцы Даніловіча, і студэнт курсаў Чарняева, і паязджанін, а ў святліцы ўжо зусім не яго сястрыцы, а Эмілія з Яхімоўшчыны, пані Сарнецкая з Дольнага Снова, Пяледа, Мядзёлка, дзяўчаты з курсаў Чарняева, Костка Буйлянка, Уладка Станкевічанка. «І хто ж з іх мяне выбраў? — думае Купала.— Каму пакланіцца, каб не памыліцца?!»

І ён кланяецца Паўлінцы Мядзёлцы і ледзь не глухне ад галасоў:

— Гарбуз гнілы! Гарбуз гнілы!

«Не выбрала мяне, не выбрала», — ліхаманкава б'е ў скронь думка. А яна яму кажа:

— Бачыш, на што ты здольны? Папісваць вершыкі! Ай, Здольнік! Ай, Здольнік!

— Здольны нядольны! — цяжка стогне ён. У вачах яго цямнее, ды — раптам — святло, асляпляльнае, аж ён прымружвае

свае сумныя вочы. Бо гэта ж поруч з Мядзёлкай з'явіўся Тамаш Грыб. Такі ж выпрастаны, ганарысты, якім ён яго бачыў у прэзідыуме — у снежні 1917-га. У руках у Тамаша — алебарда. Гэта якраз яна так і адблісквае сонцам, што аж слепіць, што Купала аж мружыцца. Алебарда слепіць, а Паўлінка, стаўшы поруч з Тамашом, таксама, як ён, выпрасталася, вяшчае:

— Во, бачыш, сонца! Во чым сатнем галовы ўсім ворагам — вернем Беларусь, вернем славу.

— Якое сонца?! — ускліквае зажмураны Купала.— Зайшло сонца, узышоў месяц,— чуе ён даўнішні, Андрушаў голас. Ды бачыць, што месяц не залаты і не залаценькі, а — ценькі, а з яго, як з ляза сярпа, сплывае кроў. Купала заплюшчвае вочы, каб не бачыць. Ды голас Мядзёлкі настырны:

— Глядзі, што будзе; глядзі, што будзе — ён, а не хто-небудзь іншы, Тамаш Грыб перамагае,— ён, каго я кахаю, каго я выбрала, бо ён — моцны, смелы, пераможны... А ты?

Сапраўды, хто ён? Поруч з Грыбам, поруч яшчэ з нейкім, хто махае дзвюма газетамі,— галавасты, лысы, вусаты, і як жа спявае:

Япки посвист соловьиный
Превратился в шип змеиный,
Да! — змеиный,
Да! — змеиный...

У руках у спевака газета з артыкулам «Торжышча».

Ды хто гэта захіляе і спевака і Грыба, захіляе Мядзёлку. Голас спакойны. Сам — у світцы. Белай-бялюткай, але світка зусім не слепіць, вачэй не рэжа — азарае іх прыемна. І голас у гэтага нейкага без ніякай грымотлівасці — ціхі, спакойны.

— Нешта будзе, бо яшчэ ніколі не бывала, каб чагосьці не было,— кажа гэты голас.

Купала пазнае яго — гэта ж голас дзядзькі Амброжыка з Мачанаў.

— Не ведаюць, чаго хочуць! А мой ты сыночак,— дзядзька Амброжык глядзіць у вочы Купалу,— а калі ты ведаеш, чаго

хочаш, а хочаш таго, што ведаеш, і ведаеш, што можаш, тады ты...

Хто ж тады ты? — думае ў напрузе Купала.

— ... Мудры чалавек,— канчае дзядзька Амброжык.

— Мудры? — здзіўляецца ўголас Купала.— Мудры! — хоча ён крыкнуць услед Паўлінцы.— Я — мудры, я — таксама збіраю беларускае войска! Не, мой голас — не шып змяіны! Для цябе, паэце, голас беднага Янкі толькі салаўіны! Так!.. Салаўіны... Так! — Змяіны — для нашых агульных ворагаў. Так! — агульных... Так! — агу... Але голас Купалы нешта заломваецца. А Паўлінка і слухаць не хоча, запявае:

— Ой, пайду я лугам, лугам,
Дзе мой мілы арэ плугам...

Але што мілы арэ «плугам», Купала ўжо не чуе, бо яму здаецца ні то «з другам», ні то «кругам» пяе Паўлінка, і яму ўвогуле горка-горка, што **так** атрымліваецца з Паўлінкай, што такія ў яе вочы, рухі, пастава,— не яго, не ягоныя.

Але ці ж гэта не дзіўна: мелодыя адышла ўжо ўдаль і тая ж мелодыя вяртаецца. Тая ж мелодыя, ды не той голас, не тыя інтанацыі:

Што ж ты, мілы мой, думаеш?
На мяне не паглядаеш?

На каго гэта ён не паглядае? Каго гэта мінуў вачыма? Хто гэта так пакрыўдзіўся, бо ён выбраў кагосьці іншага? А чаго крыўдзіцца? Гэта ж ён толькі сніць — пераконвае сам сябе ў сне Купала,— сніць і вось нават у сне, як ніколі ў жыцці, дасціпна адспеўвае:

— А я сяджу ды думаю,
Што благую жонку маю.

І Купала пры гэтым думае, што вось зараз, як і ў дзень іхняга шлюбу ў Маскве, яна раптам зазлуе, усходзіцца, сарве са

свайго пальчыка шлюбны пярсцёнак і як шпурляне яго ў кут, што той пярсцёнак пакоціцца, пакоціцца і немаведама куды закоціцца! Так яны яго і не знойдуць, як не знайшлі тады — у свой першы вечар у Маскве. І будзе тупацець, тупацець Уладка, як у Вільні, на сцэне, у танцавальнай трупе Буйніцкага. Але — не: Уладка зусім не крыўдзіцца, не тупае чобатамі, нічога яму не выдумляе, а вунь як добра заўсміхалася, вунь якім гарэзлівым званочкам узвіўся яе голас:

— Браў мяне ж ты ўдзень, не ўночы,
Дзе ж тады свае меў вочы?..

І — смяецца, весела смяецца яго Уладка, а навакол яе — быстры карагод, у карагодзе поўна знаёмых і незнаёмых яму твараў, і нібы і сам ён у тым карагодзе, падаў свае рукі суседкам і лёгка пагойдваецца, ледзь рухаючыся, бы ў паветры, бы яго ногі зусім не на зямлі. А карагод малады, вясёлы, дружны:

Падушачкі, падушачкі, ды ўсё пухавыя,
Малодачкі, малодачкі, ды ўсе маладыя.
Каго люблю, каго люблю, таго пацалую,
Пуховую падушачку таму падарую.

Уладка, любая Уладка ў цэнтры кола. Яна кланяецца яму, Янку,— кланяецца, у руках трымаючы падушку. Ён прымае падушку. Яна ў яго пад галавой. Але чаму гэтая падушка такая мулкая?..

І тады пачынаецца сон *чорны*. Шынкар — чорныя бліскучыя вочы, у чорнай ярмолцы, з-пад якой — ля вушэй — доўгія, чамусьці бела-сівыя пэйсы. Шынкар усё нізка перад Купалам у пояс кланяецца і ўсё кажа: «Просім да Абрагама на піва! Просім да Абрагама на піва!»

«Які гасцінны шынкар,— думаецца Купалу,— нібы ў яго ці Абрагама піва бясплатнае... А можа, і схадзіць да Абрагама на піва ці — піва з Абрагамам не зварыш?.. Ісці? Не ісці?..» Купала намерваецца доўга. Не рашаецца: бо ці шчырыя шын-

каровыя запросіны? Чаму так падазрона бліпчаць вочы ў шынкара — чорныя, а свецяцца?..

— Кінь! Паадрываю пэйсы! — выгуквае, трызнячы, Купала. І тут, нібы спалохаўшыся голаса Купалы, вочы ў шынкара скасавурыліся, праваліліся ў вачніцы, з незнаёмых сталі знаёмымі. Лукі Іпалітавіча!..

Абуджаючыся ў буйным поце, Купала доўга цёр, праціраў збалелыя вочы...

Апошні бюлетэнь аб стане здароўя Купалы ў газеце «Беларусь» друкаваўся 23 сакавіка 1920 г. У ім паведамлялася: «Янка Купала выпісаўся са шпіталя і прыехаў на сваю кватэру 20 сакавіка.

Але здароўе яго пакуль што вельмі слабае, і ён яшчэ не можа прыступіць да свае літаратурнай працы».

## 3. «...ПАЧАЦІСЯ ПЕСНІ ТОЙ СЯГАЧАСНЫМ ЛАДАМ...»

Любы пачатак, любое пачынанне — справа цяжкая, нават і тады, калі ўжо ўзышло сонца. «К славе з пагібельнай плесні» рваўся Купала, і шукаючы пачатак новай сваёй песні, і ўключаючыся адразу ж пасля свайго прыезду ў Мінск у вялікую руплівую працу па культурнаму будаўніцтву, становячыся палітычным дзеячам, пісьменнікам новага складу — савецкім пісьменнікам...

Успомнім, што Купала, прыехаўшы ў Мінск, стаў працаваць напачатку на пасадзе бібліятэкара ў створаным камісарыятам асветы Народным доме. З 1921 г. Купала ўжо ў беларускай навукова-тэрміналагічнай камісіі, а таксама на пасадзе загадчыка літаратурна-мастацкай секцыі літаратурна-навуковага аддзела Наркамасветы. Як загадчык секцыі займаецца і выдавецкімі справамі, становіцца членам навукова-літаратурнай калегіі Наркамасветы. Калі гэтая калегія была перайменавана ў наву-

кова-рэдакцыйную камісію, старшынёй яе быў назначаны Купала. У студзені 1921 г. адбыўся сход работнікаў асветы і культуры дзеля абгаварэння праблемы стварэння Інстытута беларускай культуры. Сход абраў камісію па яго стварэнню, у якую ўвайшоў Купала, становячыся адным са стваральнікаў Інбелкульта, а гэта значыць, і Акадэміі навук БССР, у якую Інбелкульт потым перарос.

Што абазначала праца ў навукова-тэрміналагічнай камісіі? Яна абазначала, што ў выніку яе па-беларуску загаварылі Карл Маркс, Фрыдрых Энгельс, Ленін, загаварыла палітэканомія, фізіка, хімія, матэматыка. З Купалам раіліся, Купалу слухалі. Ён быў — аўтарытэт. Пасяджэнні тэрміналагічнай камісіі, ледзь не кожнае, зацягваліся да позняй ночы, бо выверыць усе тэрміны, каб іх арганічна ўспрыняў народ, было нялёгка, бо спрэчак навакол тэрміналогіі хапала, розныя меркаванні перакрыжоўваліся, розныя думкі сутыкаліся: часам узаемавыключныя, вострыя, не да прымірэння. Адзін прапаноўваў адно, іншы — іншае, а іншы — яшчэ іншае: пурытанізму спадарожнічаў просты правінцыялізм, хапала самаўпэўненага лявацтва, апломбу, адстойвання той самабытнасці, якая была эстэтычнай глухатой да слова, прафанацыяй народнага духу. Парасон ці парасолька раптам аб'яўляліся растапырнікам, галёшы — макраступамі. Або ішла прапанова перпендыкуляр лічыць старчаком. Або конус аб'яўляўся стажком. Ой, як па-сялянску, па-беларуску!

І дайшло нават да таго, што слова «рэвалюцыя» прапанаваў нехта з зацятых наватараў, беларусаманаў замяніць словам «пярэздры». Ад такіх навацый, ад такога беларусаманства Купалу муціла: Ну, дык якія там яшчэ ў нас пярэздры?! Вось гэта дык пярэздры!..

А што абазначала праца ў Інбелкульце? Паслухаем самога Купалу: «Працуючы ў Інстытуце беларускай культуры некалькі год,— пісаў ён у газеце «Савецкая Беларусь» 4 лістапада 1924 г.,— я пераканаўся, што гэта такая навукова-грамадская

ўстанова, без якой нармальнае развіццё беларускай культуры ва ўсіх яе галінах немагчыма. Інбелькульт з'яўляецца тым асяродкам, каля якога згуртаваны амаль не ўсе выдатнейшыя беларускія навуковыя і літаратурныя працаўнікі, якія прыносілі і асабліва цяпер — у звязку з беларусізацыяй — прыносяць незаменную карысць для праводу ў шырокія беларускія масы культурна-асветных заданняў Савецкай улады».

«Беларусізацыя» было таксама новым словам, спароджаным рэвалюцыяй, правядзеннем на Беларусі ленінскай нацыянальнай палітыкі. Як і ўсё ў краіне, яна накіроўвалася Партыяй, ёю кіравалі органы Савецкай улады, але яе душою, яе аўтарытэтам, адным з самых прызнаных, быў, вядома ж, Янка Купала — у руплівых сувязях з усімі, хто ў працы, хоць і не без рознагалоссяў, не без спрэчак, не без нязгодаў і згодаў...

І вось калі яшчэ раз успомніў Купала Мысаўскога, што, язычнік, ён, Купала, павінен пісаць як язычнік, як аўтар «Слова аб палку Ігаравым»! І Купала паглыбляецца ў «Слова...». Яму імпануе яго ідэя — заклік да яднання, апафеоз палітычнаму, маральнаму адзінству перад знешнімі пагрозамі, апафеоз любові да рускай зямлі, да Радзімы. Празаічны пераклад Купалу не задавальняе, і ён амаль два гады — з 30 кастрычніка 1919-га па 5 верасня 1921-га працуе над вершаваным перакладам. «Я так зжыўся з творам,— гаварыў ён пасля,— што, зрабіўшы пераклад, як бы адчуў сябе сааўтарам «Слова...».

Але ў тым жа часе Купала імкнуўся душой зжыцца не толькі са «Словам...». Раней паэтычнага перакладу «Слова...» ён надрукаваў пераклад «Інтэрнацыянала» Эжэна Пацье. Напачатку газета «Звязда» паведаміла: «Вядомы беларускі паэт Янка Купала пераклаў на беларускую мову «Інтэрнацыянал». Пераклад не будзе надрукаваны, пакуль перакладчык не зверыць яго з французскім арыгіналам». Веданне Уладзіславай Францаўнай французскай мовы вунь як было тут дарэчы. І нарэшце «Інтэрнацыянал» быў надрукаваны 20 ліпеня 1921 г. у газеце «Савец-

кая Беларусь». Прычасце паэтычнасцю, роднасцю «Слова аб палку Ігаравым», прычасце рэвалюцыйным духам «Інтэрнацыянала»,— вось з чаго суджана было пачаціся песням Купалы сягочаснага ладу, і яны пачаліся тут жа, бо ўжо 14 жніўня 1921 г. у «Савецкай Беларусі» Купала надрукаваў славуты верш «На смерць Сцяпана Булата» — на заўчасную смерць камуніста:

Ты хапаў за косы сонца,
Думаў думку аб пяруне,
Што дух збудзе ўсёй старонцы...
— Сні, таварыш, аб Камуне!..

Забуяе ў славе буйнай,
Зазвініць залатаструнне
Родны Край адной камунай...
— Сні, таварыш, аб Камуне!

Вобразы перуна, буйнай славы — вобразы «Слова аб палку Ігаравым», як і водгалас «Інтэрнацыянала», выразна праслухваюцца ў гэтым вершы ў інтанацыях сцвярджэння перамогі, трыумфу Камуны, ва ўпэўненасці, з якой гаворыць Паэт аб усёразнявольваючай сутнасці пралетарскай рэвалюцыі і пра абнаўленне ёю чалавецтва. Славянскае і пралетарска-рэвалюцыйнае заплечча — вось што нарэшце дало імпульсы дзеля новых народзін Купалы, якія, вядома ж, адбываліся на грунце новага жыцця, новага позірку паэта на спаконвечнае беларускае поле.

Бо гэта сапраўды знамянальна: верш «На смерць Сцяпана Булата» быў напісаны не дзе-небудзь, а ў Акопах — 9 жніўня 1921 г., на тых жа сцяжынах, дзе год таму назад Купала пачаў шукаць новага героя. І вось ён знайшоў яго — не жывога — мёртвага, у вечным сне. Дзе так лёгка згінуць, як не на полі бітвы? О, гэта буйное беларускае поле бітвы! Хто ж у табе быў сапраўдным буй-турам Усеваладам? Год таму назад гэтага буй-тура Усевалада не мог убачыць з Акопаў Купала — не мог, бо гэты буй-тур Усевалад — юнак з сялян вёскі Слабада-Пыра-

шава Ігуменскага павета, які сапраўды быў ужо тады героем новага дня, ён быў тады ў мінскім падполлі. Былы настаўнік народнай школы, былы салдат, бальшавік-падпольшчык, рэдактар газеты «Савецкая Беларусь», арганізатар газеты «Беларуская вёска», сакратар ЦБ КП(б)Б, загадчык аддзела агітацыі і прапаганды. Заўчасная смерць 27-гадовага юнака глыбока ўразіла Купалу. Колькі разоў твар у твар яны сустракаліся ва ўжо вызваленым Мінску — у рэдакцыях, Цэнтральным бюро, на лесвіцах і вуліцах. І трэба ж гэтак! Тое, што гэты юнак — герой дня, Купала выразна ўбачыў ужо толькі пасля яго смерці, адсюль — з акопаўскіх узгоркаў, убачыў праз два тыдні пасля развітання з ім, каб скласці векавечную песню-рэквіем барацьбіту-камуністу:

Сні, таварыш, аб Камуне!..

Песня-рэквіем, аднак, як бы паядноўвала Купалу са снамі і жывых камуністаў. Але смерць, якая яна каварная! Смерць на гэты раз стала як бы пячаткай, што пацвярджала сапраўдную веліч постаці Сцяпана Булата. На акопаўскім полі, на родным беларускім полі Паэт убачыў свайго Новага Героя — убачыў!

У 1920 г. у Мінску Купала змяніў сваё месцажыхарства, і новым яго адрасам стала: вуліца Захар'еўская, 135. Так, дом 135, былы дом чыгуначніка Румянцава, у якім у 1898 г. адбываўся ў Мінску І з'езд РСДРП. Дома і сцены памагаюць,— спаконвеку гаварылі на Беларусі,— дапамагалі яны і Купалу, гэтыя гістарычныя сцены І з'езда партыі, у якіх ён якраз жыў, калі перакладаў на беларускую мову гімн камуністаў — «Інтэрнацыянал».

Месца красіла Купалу! Месца ўсяляла ў яго душу новы дух, новае светаразуменне, новыя словы-вобразы!..

Але ва ўсім гэтым — у перасячэнні жыццёвага шляху Купалы з велічным шляхам Партыі, можа, не так збег акалічнасцей месца ўражвае, як іншае: партыя бальшавікоў, якая пача-

ла сваю радаслоўную з сядзібы, што стала нарэшце ўтульным прытулкам для Янкі Купалы,— гэтая партыя стала для паэта, пачынаючы з асталявання Савецкай улады ў Мінску, сапраўды клапатліваю Маці — ахоўніцай яго вачэй, яго сардэчнага цяпла, святла яго хаты. Так, так, цяпла і святла! Бо ў 1920—1921 гадах Мінск заставаўся яшчэ халодным і цёмным начным горадам паслярэвалюцыйнай разрухі, горадам курадымных буржуек і газнічак. І сёння нельга без сантыментаў перагортваць пасведчанняў, выдадзеных Купалу ўрадавымі ўстановамі, напрыклад, «на прадмет ільготнага карыстання электрычным святлом», ды аж «трыма электрычнымі лямпачкамі па 25 свячэй кожная», даведак у сацбес, у якіх абвяшчалася: «Гэтым Наркамасветы просіць выдаць адны новыя боты вядомаму беларускаму пісьменніку Янку Купалу (Івану Луцэвічу)». Пры гэтым Наркамасветы дадае, што «Купала ў ботах вельмі нуждаецца». І, як мы цяпер гаворым, і аб прадметах раскошы для Купалы дбаў той жа Наркамасветы, просячы ў іншай паперцы «аб водпуску з Цэнтрабелсаюза вядомаму беларускаму пісьменніку Янку Купалу, знаходзяшчамуся цяпер у навуковай камандзіроўцы ў Мінскім павеце, 3000 штук I сорта папірос і 2 фунта табакі». Купала ж, вядома, не мог у дзіравых, стаптаных ботах хадзіць па ваколіцах Акопаў і запісваць народныя песні. А без фацэтнай папяросы ў руках, без задуменнага дымлення над новым рукапісам хто мог уявіць сабе Купалу? І з апошніх запасаў і новыя боты падбіраліся Купалу, і тысячы папярос адпускаліся, і звышэканомленая ў тыя гады электрыка падключалася ў купалаўскі дом. Якая раскоша! — падключаліся аж дзве лішнія на 25 свячэй лямпачкі!

А якую ўвагу і павагу аказвалі паэту газеты і выдаўцы! «Савецкая Беларусь» 27 студзеня 1921 г., паведамляючы, напрыклад, аб пастанове Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі пра выданне выбраных твораў Купалы, пісала аб ёй як аб «самай цікавай», бо яна была, паводле слоў газеты, не аб чым-небудзь, а менавіта аб выданні выбраных твораў вядомага бела-

рускага паэта Янкі Купалы, які карыстаецца славай «беларускага Пушкіна». «Слава беларускага Пушкіна» — вось да якой славы вырваўся Купала, вось што сваім аўтарытэтам пацвярджала Белроста. І Купала, напэўна, ведаў (не мог не сказаць яму пра гэта Цішка Гартны, якому выдавецтва даручала ўвайсці з паэтам у перагаворы), што ў рашэнні было запісана: выдаць яго творы ў самым тэрміновым парадку ў вытворнай («изящной») форме, на добрай паперы і ў мастацкай вокладцы ў колькасці 10000 экз. Гэта быў сапраўды рэальны, зацікаўлены клопат новай улады пра Паэта, пра лёс яго песні, пра яго самога.

Гэтага Купала не мог не адчуць і не перажыць усім сваім вялікім сэрцам, якое адначасова разумела і кошт і цану такіх вялікіх і шчырых клопатаў аб ім.

Ды ці толькі аб ім! Па справах службы Купала на пачатку 1923 г. складваў акт аб колькасці выдрукаваных у Беларусі за 1922 г. кніг на беларускай мове. Сэрца яго поўнілася радасцю, калі ён падсумоўваў вынікі, калі пісаў уласнаю рукою: «Агулам надрукавана 268050 кніг у ліку 2036527 друкаваных аркушы...— каля трох вагонаў беларускіх выданняў». Астранамічная лічба ўсё ж была б для тагачаснага радавога чытача абстрактнаю. Яе гэты чытач мог бы і не ўспрыняць так, як таго хацелася б паэту. І таму паэт пераходзіў на мову канкрэтных уяўленняў: каля трох вагонаў беларускіх выданняў выдадзена — цэлых тры пульманы! Во гэта — аб'ёмна, нечакана, здорава! «І вось гэтыя сотні тысяч кніг,— разважаў далей паэт,— рассыпяцца па ўсёй Беларусі, каб навучаць там і будзіць беларускую прыспаную думку да светлага, радаснага беларускага і агульначалавечага жыцця». Перапоўнены радаснымі пачуццямі, Купала рабіў вывад, імкнучыся ўсвядоміць кожнага на Беларусі вось у чым: «І трэба нам помніць тое, што гэта вялікая культурная і творчая беларуская праца, якую мы змаглі зрабіць за мінулы год, зроблена ў Беларусі Савецкай і пры дапамозе ўлады Савецкай». Гэта былі сэрцам вынашаныя, глыбокія словы па-

дзякі уладзе Саветаў, якая ж толькі-толькі ўсталявалася ў роднай паэту Беларусі!..

Аднак думаць, што радасць Купалы была хоць калі без смутку, дарма, тым больш калі думаць пра Купалу 1921 г.— года Рыжскага дагавора, які распалавініў Беларусь. Дзяржаўная мяжа, яна як бы распалавіньвала само сэрца Купалы, саму яго калыску. Хата Купалы ў Вязынцы — хата яго нараджэння, яна засталася на той бок. Кантрольная ж паласа дзяржаўнай мяжы прайшла па самюткім Замэчку — па першым Купалавым кургане, па першабытнай стаянцы далёкіх Купалавых продкаў другога стагоддзя да нашай эры.

І яшчэ было адно — горкае да гідлівага, брыдотнае, што, засеўшы ў сэрцы Купалы з часоў белапольскай акупацыі, не пакідала яго, прадаўжала гнявіць яго. Ён, паэт, паспрабаваў ужо пачаць сваю Песню сягачасным ладам, ды ў сэрца яго стукала таксама думка пачаць і Драму новым ладам, а дакладней не драму, [redacted] камедыю.

Так у жыцці не бывае — бывае толькі ў раманах — можа падумаць тут чытач, калі стане чытаць, што будзе зараз напісана. Але якраз так папраўдзе было. Камедыя «Тутэйшыя» была напісана Купалам у Акопах — скончана ім 31 жніўня 1922 г. Два гады таму назад — у жніўні — Купала пачаў тут шукаць, пазіраючы ў родныя далечы з акопаўскіх узгоркаў, новага героя, год таму назад — у жніўні — напісаў тут векапомны верш пра Сцяпана Булата, судакрануўся, адчуў, апаэтызаваў яго як новага героя часу. І вось зноў у жніўні — цераз год — Купалу-паэта і драматурга абступаюць у Акопах выхадцы са старога свету, абломкі яго — Пан, Спраўнік, Поп, Дама, Абарванец. Яны — асобы безыменныя, кожны з іх — гратэскнае выяўленне сацыяльнай сутнасці свайго стану. Але шэраг герояў — з імёнамі: са станоўчых — Янка Здольнік, селянін Лявон Гарошка, яго дачка Аленка, з адмоўных — Мікіта Зносак (ён жа — Нікіцій Зносілов, Нікіцівуш Знасілоўскі), Генрых Мотавіч Спічыні, Наста Пабягунская, Усходні Вучоны і Заходні Ву-

чоны. Усё дзеецца ў Мінску. Першая дзея адбываецца ў лютым, другая — у снежні 1918 г., трэцяя — у ліпені 1919 г. і чацвёртая — у чэрвені 1920 г. Падзеі ліпеня 1919 г., чэрвеня 1920 г., яны адбываліся на вачах Купалы. Але Купалу лёгка было ўяўляць, які быў стары, мяшчанскі Мінск і ў лютым, снежні 1918 г.— з надыходам кайзераўскай акупацыі, [illegible] канцом яе. Другую дзею драматург разгортвае у самым сэрцы дарэвалюцыйнага горада — на Кафедральным пляцы, куды ён калісьці прыбягаў з Аляксандраўскага завулка хлапчуком і які ў завірухах пераходнага часу атрымаў красамоўную мянушку «Брахалка». Інакш кажучы, на фоне ўсіх шасці сабораў і касцёлаў Сабориай плошчы, ды яшчэ з яе домам губернатара,— на фоне старога Мінска адбываецца дзівачлівае дзеянне п'есы Купалы — ствараецца відовішча, разлічанае на шырокі натоўп, на новага плошчавага гледача, відовішча, дзе прывіды былога мараць вярнуць сваё былое, зноў займець былую сілу, уладу, прывілеі. Пан, Спраўнік, Поп, Дама Шпацэрзон, Мікіта Зносак, Генрых Мотавіч Спічыні, Усходні і Заходні Вучоныя,— Купала як бы засцерагае рэвалюцыю ад іх, як і ад бюракратычнага валакіцтва, псеўдарэвалюцыйнага фразёрства, празмернага захаплення пасяджэннямі.

О, гэтыя сатырыкі — іх хлебам не кармі, а дай толькі волю, яны размахнуцца! І Купала сапраўды размахнуўся — на Зносака, на Усходняга і Заходняга Вучоных, на Спічыні. Але аўтар не супрацьпаставіў ім выразна акрэслена новага, актыўна дзейснага героя. Той у яго не тое каб зусім рэзанёр, але і не грамадска дзейсны. З ім у Купалы было найбольш клопату. Купала ўсведамляў, што гэты герой можа ў вачах публікі атаясамліваецца з ім самім, аўтарам. Купала разумеў, што ён мусіць яму даць праграму дзеяння, узвысіць яго, зрабіць калі не ідэальным, то ва ўсякім разе ўзорам для пераймання. Якім Сарока, Паўлінка з яго дарэвалюцыйнай камедыі «Паўлінка» такімі героямі для дарэвалюцыйнага гледача сталі ж, а як быць тут? Купала пачынаў успамінаць, як ён сам уцякаў ад легіянераў, бо проста

не мог уявіць, як гэта ён можа аказацца пад імі! Але ж у Мінск вярнуўся, бо не вытрымаў — не вытрымаў без адкрытага змагання за Беларусь, будучыні якой пагражалі і Пілсудскі, і Дзянікін, і Калчак. Ён тады гэта і прыйшоў да ідэі беларускага войска, да ідэі чужым сілам супрацьпаставіць свае.

Гэтая ідэя не столькі праграма, колькі адлюстраванне тагачасных падзей: у пачатку 1919 года супраць белапольскіх акупантаў дзейнічалі нацыянальныя вайсковыя фарміраванні — Беларуска-Літоўская армія і армія Савецкай Латвіі.

Дык даць і Янку Здольніку гэтую яго ідэю канца 1919 г., тым больш што менавіта ў гэты ж час дзейнічае ў п'есе і Янка Здольнік? «Дам яму гэтую ідэю,— рашае Купала,— і мой Здольнік стане цвёрдым, магутным, пры зброі, як... Як хто?» Купала не хоча называць прозвішча чалавека, пра якога падумаў, бо ён падумаў пра Тамаша Грыба. І гэта яго збянтэжыла. Не! Не Грыб Тамаш — герой, хоць і браў ён у рукі зброю! Сам Купала не браў. Хоць і кінуў некалі кліч гуртаваць беларускае войска, ды тут жа адчуў, што гэта — пусты гук. Адчуў, калі зразумеў, што ёсць сіла, якая бароніць ад Пілсудскага, ад Дзянікіна, ад Калчака. А калі няма пагрозы рэстаўрацыі і ёсць сіла, што на варце рэвалюцыі і на варце Бацькаўшчыны, лозунг асобнага войска сам цераз сябе здымаецца. Янка Здольнік — не салдат, не камандзір. Хто ж ён? Палітык? Купала помніў пра сваё колішняе няўмешванне ў палітыку, якое асуджала Паўлінка Мядзёлка. Ён і палітычным важаком не робіць Здольніка і дае яму ад сябе толькі любоў да кнігі, да беларускага слова — дае найперш культурніцкую праграму дзеяння, на ні на якую палітычную партыю не сарыентаваўшы.

Але гэта не значыла, што Купала не даваў свайму герою перспектывы. «Градзе бальшавік!» — у страху перад рэвалюцыяй, як ерыхонская труба, раве ў Купалы Поп. Поп — не бог, не богаў гэта голас. Але гэты поп станавіўся, не ведаючы сам таго, якраз голасам самой гісторыі, самога няўмольнага будучага. «Градзе бальшавік!» — градзе, надыходзіць; будучае —

за ім, і бальшавіка не баяцца ні Янка Здольнік, ні яго вучаніца Аленка, ні селянін Гарошка. Бальшавік — іх сіла, ён — за іх.

І ўсё ж Здольнік, ведаючы, што градзе бальшавік, займае крыху дзіўную пазіцыю: сам «бальшавіцкім духам пахне», а заступіцца за Чырвонаармейца, на якога накідваюцца былыя,— не заступаецца. Чаму?

Купала прагнуў аднаго — застацца верным жыццёвай праўдзе. Раз Здольнік — ледзь не ён сам, то і нельга навязваць яму больш таго, што і як у жыцці ён, Купала, сам разумеў, што было перыпетыямі самога жыцця ва ўсіх яго супярэчнасцях, складанасці. Ці стане бальшавік аднадумцам Янкі Здольніка, ці раздзеліць з ім яго клопаты, ці свой ён яму ці чужы? Адказу вось на якое пытанне не мае ў душы яго Здольнік, як не меў у свой час і сам Купала. Так было ў жыцці, такое пераносіць Купала і ў сваю п'есу.

За што найбольш перажывае Здольнік? За Беларусь, за яе будучае, якое яму не зусім яснае. У гэтым будучым ён, Купала, не дае месца старому — усяму тутэйшаму зброду Паноў, Папоў, Спраўнікаў, Дам Шпацэрзонаў, Настаў Пабягунскіх, шавіністаў-вучоных, Зносакаў, Спічыні! Гэтыя тутэйшыя — чужыя ідэальнай Беларусі, якая ў думках у Янкі Здольніка, як чужыя ёй кайзераўскія акупанты, пілсудчыкі — усе гэтыя «абскубанты», як называе іх у п'есе просты беларускі селянін Гарошка. Беларусі? Беларусам.

Купала піша не навуковы трактат, а камедыю, прычым вельмі надзённую, палітычную, дзе ён мусіць не толькі знішчальна высмеяць асколкі манархіі, але выразна абазначыць і лозунгі часу, свае патрабаванні — патрабаванні вось гэтага гістарычнага нацыянальна-вызваленчага руху, якому суджана аказалася трапіць у перыпетыі зменлівых акупацый, несці свае сцягі ў пажарах і громе Вялікай Рэвалюцыі.

«Так, я пішу палітычную камедыю,— думаў Купала.— Што ж самае надзённае было і ёсць у яго барацьбе за вольную

Беларусь на скрыжалях часу, які крэмзае карту свету, крэмзае карту Беларусі? Адзін толькі Рыжскі дагавор — які ён балючы! Як я магу тут не крыкнуць, што Беларусь — для беларусаў, а не для Пілсудскага, не для польскіх легіянераў?!»

У Купалы заўсёды ўсё зразумела, калі толькі ўбачыць Купалу ва ўсіх повязях з жыццёвымі, канкрэтнымі фактамі, падзеямі.

Не шавіністам Аляксандрам III быў Янка Здольнік, калі патрабаваў здзяйснення толькі справядлівасці, і не імперыялістычным Сталыпіным,— ён быў толькі патрыётам, які на вялізным форуме рэвалюцыі апеліраваў да яе, звяртаў яе ўвагу на тое, што яна неўзабаве сапраўды здзейсніць, нараджаючы ўсенародную радасць, узбуйняючы да гранічнага перш за ўсё і найвялікшую радасць першых вялікіх паэтаў Беларусі — Купалы і Коласа.

П'еса «Тутэйшыя» была, можа, самым балючым творам Купалы — самым генеральным у яго баявым клопаце за будучыню Бацькаўшчыны і таму самым балючым. У ім Купалу адначасова балела за ўсё, і таму водгулле амаль усіх вядучых да гэтага ў Купалы вобразаў і матываў ёсць у гэтай п'есе, як то матываў вяселля, паязджанства, нацыянальнай цемнаты, у чорных вірах якое прывольна бросняю выспявае чалавечая нікчэмнасць. Пра сваё вяселле з Аленкай Янка Здольнік кажа, што яго яны «адлажылі пакуль што да таго часу, калі апошні акупант ад нас выйдзе, бо пры іх нявесела на вяселлі». Паязджанінам увесь час у сябе дома застаецца бацька Аленкі Гарошка, якога, па словах Аленкі, у розныя абозы «перш адны гналі, пасля другія, потым — зноў тыя самыя, потым зноў другія, а там далей і няведама, хто гоніць і куды гоніць». Ад гэтага няведання было балюча на душы і Янку Здольніку, і Аленцы, і Гарошку, і самому Янку Купалу, бо ўсё-такі быў ужо 1922 год, пяты год рэвалюцыі, а няяснага заставалася так нямала. Большым аптымістам быў Мікіта Зносак, які так ці інакш выплываў з самых розных палітычных сітуацый і якому ўпэўненасці прыдавала разуменне вось чаго:

Беларусь, мая старонка,
Куток цемнаты,
Жыве Шыла, Грыб, Мамонька,—
Будзеш жыць і ты, меджду протчым.

«Меджду протчым»! Для Мікіты Зносака сапраўды ўсе жыццёвыя перыпетыі, Беларусь, цар, Савецкая ўлада ці кайзераўская акупацыя — усё «меджду протчым»! Хто Грыб, мы ведаем. А Мамонька — «притча во языцех» у тагачасным Мінску, непісьменны салдафон, у якога, аднак, апломбу і кар'ерысцкага зуду было не менш, чым у самога Вацлава Ласоўскага, які залучыў і гэтую выпадковую мізэрнасць у свой кабінет міністраў БНР міністрам. О, гэтая песенька не на новы лад: «Куток цемнаты», «будзеш жыць і ты»!.. Здавалася, песенька гэтая была спета, але многае з яе на самой справе яшчэ не было адспявана!..

Мікіта Зносак, як высвятляецца ў фінале, не толькі вышкалены рэнегат, не проста «розноситель» папер пры «Комисарыяце паліцыі мяста Мінска», а сапраўдны даносчык пры тым самым камісарыяце.

Матывам вясёлай, не новай і абноўленай рэвалюцыяй песняй канчаецца кар'ера Зносака:

Ой ты, яблочко,
Куды коціцся?
Не туда попадзёш —
Не вороцішся...

Гэта спявала сама рэвалюцыя, весела спявала. На генеральнай рэпетыцыі Купала ўсё-такі пераканаўся, што п'есу ён напісаў добрую. У яго вушах прадаўжаў гучаць дружны смех прысутных, у вачах — прымружаных — не толькі фантастычна пад гукі дарэвалюцыйнай шарманкі прадаўжалі танцаваць цені, але і было чырвона ад сцягоў, што, паходна калышучыся, занялі сабой усю сцэну і сваёй чырванню засцілі след ценяў мінуўшчыны.

## 4. ПЯСНЯР РЭВАЛЮЦЫЙНАЙ РАДАСЦІ

«...Як хораша яны ідуць у літаратуру! — радаваўся за маладых Янка Купала.— Як хораша!..» І гэта псіхалагічна вельмі праўдзіва, што радасць новага, савецкага Купалы пачалася з радасці за моладзь, за змену, за тых, у руках каго — будучыня, у якіх усё яшчэ наперадзе. І ў Купалы шмат чаго было яшчэ наперадзе, але і шмат чаго за спіной. Усё ж толькі наперадзе мела моладзь, і аб ёй ён склаў першую сваю песню радасці — радасці за яе, за перамогу рэвалюцыі, за абноўлены рэвалюцыяй родны край. Моладзь, увасобленая ў вобразе арлянят, стала першым станоўчым героем савецкага Купалы. У «беларускім буйным полі» віцязямі палеглі Сцяпаны Булаты, каб сонца рэвалюцыі ўзышло. Гора — заўсёды чорнае. Патрэбен быў час, каб яго пазбыцца, каб песня зноў ускрыліла весела. Можа, таму і была пярэрва аж у два гады: ад надмагільнага рэквіема Сцяпану Булату да звонкапесеннага, гімнавага слова пра арлянят?..

Чалавек, які любіў зару, у заранкавыя 20-я гады Купала быў у іх стыхіі як рыба ў вадзе. Дух яго маладзіўся: дзе была песня, там быў Купала, дзе было беларускае слова, там быў Купала, дзе была моладзь, там быў Купала. Мінск быў яго Мінскам — гэты Мінск, у які вярталася моладзь з грамадзянскай вайны — Міхась Чарот, Уладзімір Дубоўка, Міхась Зарэцкі, Кандрат Крапіва, моладзь, якую клікаў новы пралетарскі горад — вясковая, учарашняя пастушковая, падпаскавая, сёння — рабфакаўская, універсітэцкая. Ёй не відно было канца-краю: Алесь Дудар, Язэп Пушча, Анатоль Вольны, Паўлюк Трус, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Алесь Якімовіч, Сяргей Серада, Максім Лужанін, Платон Галавач, Сымон Баранавых, Уладзімір Хадыка. Новая моладзь выходзіла і з былых гарадскіх, мястэчковых сутарэнняў, забалочаных, небрукаваных ускраін. «Я іх усіх люблю»,— напіша ў адным з лістоў канца 20-х гадоў Янка Купала, і гэта будзе праўда, бо прыход маладых у літаратуру быў для яго заўсёды святам, і чым больш Купала будзе

старэць, тым большым святам гэты прыход будзе станавіцца для яго, тым пільней ён будзе ўзірацца ў твар кожнага з маладых, як бы прагнучы вычытаць як будучае самога неафіта, так і будучае ўсёй беларускай літаратуры.

Самы першы асяродак беларускай культуры, песні, літаратуры ўзнік у Мінску на пачатку 20-х гадоў не дзе-небудзь у цэнтры — на былой Падгорнай з яе Дваранскім Сходам ці Захар'еўскай з Юбілейным домам, а каля былога конскага рынку, паблізу ўскраіннай Камароўкі, называючыся проста, дэмакратычна — «Беларуская хатка».

Першым госцем «Хаткі» быў Купала. Тут ён палюбіў улюбёнага да бяспамяці ў родную песню музыканта, кампазітара, кіраўніка хору Уладзіміра Васільевіча Тэраўскага; тут, пачуўшы, як дэкламуе вершы танклявае звонкагалосае хлапчанё, прыгалубіў гэтае хлапчанё, пагладзіў яго па русявым чубе, запрасіў да сябе дадому. Хлапчанё было Андрэйкам Александровічам, сынам шаўца са Старажоўкі. Спяваў у хоры Тэраўскага і крыху фарсісты кучаравы Міхась Чарот — родам з Рудзенска, мінскі падпольшчык, удзельнік грамадзянскай вайны. Гэта якраз для артыстаў «Беларускай хаткі» Міхась Чарот напісаў лібрэта сцэнічнага твора «На Купалле», а музыку на словы лібрэта склаў Уладзімір Васільевіч Тэраўскі. І ўжо не ў цеснай хатцы, а на вясновым прыволлі, дзе рака Свіслач уплывае ў Мінск, паміж сённяшняй Весялоўкай і Драздамі, на зялёным улонні сенажаці, пад соснамі, што весела кучаравіліся, як аўтар лібрэта «На Купалле», ішло ў 1921 г. першае вялікае прадстаўленне — усенароднае, маніфестацыйнае, карнавальнае — з танцамі, купальскімі песнямі аб пошуку кветкі-папараці. Сапраўды, ці і не ў гонар самога Янкі Купалы склалі Чарот і Тэраўскі сваё «На Купалле» — Купалы праменнага, захопленага энтузіязмам маладых артыстаў; Купалы, які звычайна прымастакольваўся ў «Беларускай хатцы» дзе-небудзь скрай лавы, бо толькі доўгія лавы стаялі ў гэтым баракавым будынку. Седзячы

на лаве, Купала абапіраўся на свой неадлучны кіёк — падбароддзе на бугры пакладзеных адна на адну рук — і слухаў:

Ой, рана — на Йвана-а-а...
Ой, рана — на Йвана-а-а...

Вочы Купалы гарэлі. Нешматслоўны, ён паўтараў: «Будуць у нас свае і кампазітары, і артысты...»

Для маладых энтузіястаў «Беларускай хаткі» Янка Купала быў «стары». А які ён стары, калі яму толькі сорак? Сорак-то сорак, але Купала быў з па-за той мяжы, за якой застаўся іншы свет. Купала Купалам быў ужо і да рэвалюцыі, ён быў старэй маладзенькіх хаткоўцаў на цэлую рэвалюцыю, ды не адну. Рэвалюцыя 1905 г. для моладзі пачатку 20-х гадоў была ўжо далёкай гісторыяй — ледзь не перадгісторыяй (Купала — чалавек перадгісторыі!..). Сам жа Купала прымаў адносіны маладых да сябе як «старога» за нармальныя. Моладзь называла яго «дзядзькам Янкам», як было прынята тады, а лічыла яго сваім бацькам. Шчасце гэта ці няшчасце, быць у сорак год Нестарам літаратуры? Відаць, шчасце. На пачатку заранкавых 20-х гадоў для Купалы ва ўсякім разе гэта было вялікім шчасцем. Маладых ён любіў, вітаў, яны былі яго захапленнем, запалам, хоць публічна атэстацыі іх талентам, кнігам, выступленням Купала, як правіла, не даваў. Ды не любіць маладых Купала не мог, як не мог не любіць, не вітаць рэвалюцыі, як не мог не любіць, не вітаць Беларусі, сонца, раніцы...

Сваю вельмі кароценькую аўтабіяграфію 1926 г. Міхась Чарот канчаў так: «У творах сваіх ніколі не сумую. Маладняковец». За гэтае «ніколі не сумую» Купала вельмі любіў Чарота. Міхаську, як ён называў Чарота, дзе б ён яго ні павітаў — на вуліцы, у скверы, у цесным пакоі штаба «Маладняка» на той жа Рэвалюцыйнай вуліцы № 2, у тым жа доме, дзе пачынаў сваю работу і Інбелкульт, Купала заўсёды абдымаў, цалаваў.

Не аднаму Міхасю Чароту шырока распасціраў свае абдымкі Купала. Не менш ён любіў і другога Міхаську — Зарэцкага —

высокага, вышэй Купалы на паўгалавы, бялявага, як Сяргей Палуян, але і стрункага, з выпраўкай учарашняга камандзіра Чырвонай Арміі, рамантычнага па складу натуры, напорыстага. Быў і трэці Міхал, якога ў добрым настроі Купала вітаў з-за парога: «А Гром-Грамыка! Гжым-Гжымайла» — Міхайла Грамыка, які быў выкладчыкам універсітэта. Першыя вершы Грамыка напісаў яшчэ да імперыялістычнай вайны — у Жэневе, дзе вучыўся, каб стаць адным з першых беларускіх вучоных-крышталографаў і тых, што адкрыюць на Палессі нафту — гарываду, як яе называюць на Рэчыцкім Палессі, адкуль родам быў Міхайла Грамыка. У 1923 г. гэты вучоны быў вядомы сваёй нашумелай тады паэмай «Гвалт над формай», вядомы быў як драматург, што лішні раз збліжала Купалу з ім.

Блізкасць Купалы з новай генерацыяй пісьменнікаў вынікала і ўзмацнялася, аднак, не толькі тым, што Купала ўсіх чыста з іх запрашаў да сябе ў дом, абвясціўшы ■ няўрымслівай Уладкай прынцып адкрытых дзвярэй. Купала быў такі, што яго не маглі не клікаць да сябе і маладыя. У незвычайнейшы клопат увёў сваю маці маладзенькі Уладзімір Жылка, калі галоднай вясною 1919 г. прывёў Купалу госцем у сутарэнне каля Саборнай плошчы, дзе ён жыў тады пры бацьку, які прадаваў свечкі ў саборы. Купала быў такі, што не мог адмовіць зачараванаму ў ім юнаку, як не адмаўляў і на запросіны старэйшых. Маці Жылкі паставіла на стол блінцы з макухі. «Нічога, час цяпер такі»,— казаў Купала збянтэжанай маці і падхвальваў, што блінцы вельмі смачныя.

А вось Купала на вяселлі ў выкладчыка Грамыкі: «Яначка паклаў на стол дванаццаць вялізных яблыкаў і пры гэтым даў сваім прыемна басавітым голасам «бацькоўскі» наказ: «Каб столькі дзетак!» Дзетак, арлянятаў роднай літаратуры вычэкваў Купала, вітаў Купала.

Рэвалюцыйную радасць, што выяўляў Купала ў першай палове 20-х гадоў, можна назваць насамперад дзяржаўнай радасцю паэта, бо гэта была радасць, можа, перш за ўсё якраз за

беларускую савецкую дзяржаву, радасць яе высокага грамадзяніна, які і мысліў дзяржаўна і пачуцці якога былі дзяржаўнымі. Радасць жа за маладых прыдавала дзяржаўнай, рэвалюцыйнай радасці паэта вельмі красамоўную цеплыню, мяккасць. На гэтае купалаўскае мілаванне, свячэнне душы не маглі не ляцець, як светаянскія светлячкі, маладыя паэты.

Рэвалюцыйная радасць Купалы была і гордасцю паэта за рэвалюцыю, Беларусь, новую моладзь. Гэтая гордасць дастаткова выявіла сябе ўжо ў вершы «Арлянятам», але куды больш было яе ў вершы «Пазвалі вас...», напісаным з нагоды запрашэння Краіны Саветаў за круглы стол перагавораў у Жэневу. Сімволіка гэтага верша — чыста купалаўская. Верш — праўдзівы ў сваёй рамантычна вобразнай нязвыкласці: ён — пра вялікую перамогу рэвалюцыі, ад найвялікшай гордасці за гэту перамогу, і разам з тым з асцярожлівым роздумам пра светлыя і цёмныя праявы жыцця, што абудзіў нэп, з жорсткім асуджэннем цямрычных сіл, што паспрабавалі ўзняць галаў, думаючы, што час іх яшчэ не адышоў.

Поўнай купалаўская рэвалюцыйная радасць была якраз таму, што Купала ўсім сэрцам паверыў, што ўсё змрочнае і ліхое сплыло з яго зямлі з дымам апошніх пажарышчаў грамадзянскай вайны, у сувязі з тым, што «надзелі чырвоныя кветкі нашы палеткі». Адбылося першае ўзбуйненне Беларусі, адбываўся дасюль нябачаны на Беларусі ўздым гаспадарчага, агульнакультурнага будаўніцтва. Бачачы, разумеючы, што гэта ўсё — дары рэвалюцыі, плён палітыкі бальшавікоў, перспектыва, ад якой аж займае дух, Купала і пісаў адзін са сваіх наймузычнейшых твораў савецкага часу — паэму «Безназоўнае»:

Беларусь на куце
У хаце сваёй села,—
Чарка мёду ў руцэ,
Пазірае смела.

Сядзіць важна, сама
Сабе гаспадыня...

Нарэшце! Беларусь — не паязджанка, не на горкім вяселлі, якое заблудзілася ў завеях куль.

— То ж яна в мужыкоў,
А як выйшла ў людзі!

Рэвалюцыя вывела «ў людзі» Маладую Беларусь, і гэтаму радаваўся Купала. Рэвалюцыя вывела Беларусь сярмяжную, гаротную, для якой Рэвалюцыя спачатку была безназоўнаю, «вясёлым жаніхом», якога сапраўды не вельмі разумела гэтая сонная прыгажуня. Бо сапраўды быццам спрасонку ўспрымала яна ў Янкі Купалы рэвалюцыю: не як яго, жаніха, а як нешта неакрэслена асабовае. Яно! І гэтае неакрэслена асабовае спачатку для яе «шалясцела вельмі нясмела, а потым лізнула аконца ціха, як сонца», а потым «узняло галасочак, нібы званочак», а потым стала як «гоман... вольны, дасціпны, к сэрцу прыліпны»...

«Безназоўнае» як гімн Купалы ў гонар рэвалюцыі перадольвала погляд на яе як на сілу толькі руйнуючую. Купала сцвярджаў:

Масты старыя спалены —
Старыя ланцугі;
Паложаны падваліны
Пад новыя сцягі.

Узводзіцца будыніна
На іншы склад і лад...

Хоць, праўда, у паэме Купалы ёсць вобраз буралому, і Купала быў нават здзіўляў:

Во як пачалося ў нас ціха
Тое ўсё ліха,
Што нат беларускія межы
Усталі з залежы.

Ліха? Гэта пра што — пра рэвалюцыю? Не! Ціхі беларус, ціхая Беларусь, ціха ў ёй, паводле Купалы, пачаліся і рэвалю-

цыя, і грамадзянская вайна, і ліха акупацыі. Ды ці толькі паводле Купалы ціха? Успомнім яшчэ раз словы А. Фадзеева пра паэму Купалы «Яна і я» як пра «па-беларуску ціхую». Сапраўды па-беларуску ціха ўспрымаў народ Беларусі рэвалюцыю: ціха, але глыбока — як сваю, кроўную. Беларус — не экспансіўны італьянец ці іспанец. Кожнаму — сваё. Ціха ішло на Беларусь і ліха — «тое ўсё», што падняло «з залежы» нарэшце «беларускія межы». Ліха «паязджанства», бежанства, драм і трагедый грамадзянскай вайны, класавых бітваў, ненавісных — аж дзвюх — акупацый.

Ой, была ж бяседка, была
    Вельмі гучная бяседа! —
Не адходзіла ад стала
    Плойма-чарада суседаў...

Дый прыйшлося плаціць чарадзе
    Той за гэта баляванне...
Хто ў рукі папаў — заплаціў,
    Іншы ўцёк за многа міляў.
А найболей — кожны скруціў...

Плацілі ворагі жыццём. І процьма ж іх была: «На нас ляцела смецце, бязладдзе, беспрасвецце, пятлю віло сіло», «пакуль жыццё ласкавай усмешкай і забавай не асвяціла шлях», пакуль не прыйшоў *вястун*: «І ўзняўся нехта дужы, і кінуў кліч дасужы». Гэты «нехта дужы» ў Купалы, відаць, не проста рэвалюцыйны пралетарыят, гэта, відаць, сам правадыр яго, той прарок, якога народ чакаў — сяляне і сялянкі. «Ад вокліч прарока схіснулася пампрока», «мы ўсталі песняй-казкаю пад жудаснай павязкаю мінулых чорных дзён і ў даль ідзём, хоць ляскае звяр'ё ў кутах няласкаю — на дальшы кліча сон». Як тут усё па-купалаўску рамантычна-песенна, незвычайна, і як зразумела, пра што гаворыць паэт, што апявае, ад чаго радуецца, і чым смуціцца, і ў чым упэўнены. Упэўнены ён, што звяр'ё «не выламе ні клыкамі, ні віламі таго, што ажыло, што ўскрэсла над ма-

гіламі, над хатамі пахілымі — мінуламу назло». Рэвалюцыя — полымя, агняцвет, полымя жывое. Сам — гарэнне, паэт радуецца, што «не ўзяць рукамі голымі таго жывога полымя», што «нібы агняцвет, вясёлымі саколамі над горамі, над доламі разносіць іскры ў свет...». Ну, канешне ж, «вясёлымі саколамі». З ленінскай іскры разгарэлася «жывое полымя», сам Купала тут — нібы вясёлы сокал-іскраносец — полымя яго радасці вышугвае пад неба, «разносіць іскры ў свет...».

Радасць Купалы ў паэме «Безназоўнае» як бы нарастае, і вось яе апагей:

Селі макам усе тыя,
　　Што нас, вольны люд,
Не шкадуючы памыяў,
　　Аблівалі тут...

А мы самі, сабе самі
　　Ўжо гаспадары,
Молатамі і сярпамі
　　Звонім да зары.

Ды ёсць у паэме і 8—10 часткі — роздумнага азірання застолля Маладой Савецкай Беларусі. Паэт уздымаецца за гэтым застоллем з чатырма прамовамі. Першая: «Хто спазніўся — прыйсці клічам!» Другая: «Трэба далей славу... светазарнымі агнямі вышыць, каб не шчэзла ў векаў пыле». Бо цікуе злосны вораг тых, што «спыняцца не ў часе ў сваім паходзе ў зорах...» Трэцяя прамова — таксама патрабавальная: «Яшчэ не ўся работа зроблена», і — галоўнае — яшчэ «стогнуць, мучацца... браты» — на той бок кардона. «І будуць гінуць там патрэбныя і непатрэбныя ахвяры». Гэта — балюча. Але, як заўсёды, праз церні — да зор! І чацвёртая прамова за высокім вясельным сталом радасці паэта поўная ўпэўненасці ад усведамлення моцы, праваты і таго, што «патомак... наш... не будзе піць з недапітых чаш», што мы, рэвалюцыя, паэты, ім, нашчадкам, «кінем бітыя шляхі да шчасця, абы ўмець ісці», «кінем межы без ашуканскіх

крас», «пакінем песню вызвалення і вольны бацькаў кут». Павінны пакінуць, бо іначай не будзем вартыя высокай радасці, якую лёс нам наканаваў!.. У гэтым Купала быў упэўнены.

У маі — чэрвені 1925 г. адзначаліся аж тры купалаўскія даты: 28 мая — 20-я гадавіна ■ дня надрукавання верша «Мужык»; 10 чэрвеня — дзень з'яўлення Пастановы Савета Народных Камісараў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб наданні Янку Купалу ганаровага звання Беларускага народнага паэта, 25 чэрвеня — дзень народзін паэта. «Савецкая Беларусь» задоўга да першай даты пачала друкаваць віншаванні ў адрас юбіляра. Ужо 19 мая паэт вымаў са сваёй паштовай скрынкі на вуліцы Кастрычніцкай, 36-а нумар «Савецкай Беларусі» з віншаваннем рэдакцый часопісаў «Асвета» і «Беларускі піянер». 22, 23, 24-га газеты аж стракацелі ад тэлеграм. 23-га вітаў Купалу Старшыня ЦВК БССР і СССР А. Р. Чарвякоў; 24-га ■ Масквы слалі вітанне камандзіраваныя ў сталіцу Цішка Гартны, Міхась Чарот, з Ленінграда — Б. І. Эпімах-Шыпіла, з Кіславодска — паэты Анатоль Вольны і Алесь Гурло. Тэлеграмы ішлі і ад розных устаноў: з Масквы — ад імя Беларускай тэатральнай студыі, з Харкава — тады сталіцы Украіны — ад часопісаў «Нова книга», «Селянські Будинок», «Червоний шлях», з Горы-Горак — ад Навуковага Таварыства пры Горацкім сельскагаспадарчым інстытуце, з Барысава — ад калектыву Белпедтэхнікума.

Перапынак быў у тэлеграмах недзе ад 24 да 30 мая, але затое ў гэтым прамежку — 28-га — адбылося ўрачыстае пасяджэнне літаратурнай секцыі Інбелкульта. «Урачыстасць,— як паведаміла 1 чэрвеня «Савецкая Беларусь»,— наогул насіла характар шчырай таварыскай цеплыні і ветлівасці».

...Гэта было 28 мая. На трыбуне прафесара БДУ Міхаіла Мікалаевіча Піятуховіча змяніў прафесар Маркаў, а затым Максім Гарэцкі. Даклады былі фундаментальныя. Але Купалу ўразіла не толькі іх акадэмічная грунтоўнасць. Удумліва лабасты, з

карымі вачыма празаік і даследчык літаратуры Максім Гарэцкі, памятны Купалу яшчэ са Смаленска, унёс зпячэўку ў чыста акадэмічнае, здавалася б, пасяджэнне надзвычай шчымліва радасны лірызм, пад знакам якога прайшла ўся імпрэза.

Купала быў, вядома, у прэзідыуме. Але Максім Іванавіч, аб'явіўшы, што ў зале прысутнічаюць маці паэта і жонка, стаў запрашаць іх у прэзідыум. Маці ўстала, Уладка ўстала і — разгубленыя, кланяючыся, усміхаючыся, адно што з задняга рада, дзе яны намерваліся перасядзець моўчкі ўрачыстасць, перабраліся ў пярэдні рад залы. Не Купала, а Уладка настояла, каб маці прыйшла на ўрачыстасць. Але каб маці ведала, што ёй трэба будзе прайсці пад поглядамі ўсёй залы з задняга рада ў пярэдні, яна нізавошта не згадзілася б ісці ў гэты так мала зразумелы ёй Інбелкульт. А Купала з прэзідыумнага падвышэння толькі моўчкі ўсміхаўся, гледзячы на маці. Уладка — баявая, да воплескаў ёй ужо не прывыкаць. А Маці Паэта?! Яна больш ніколі ўжо не будзе адначасова на гэтулькіх людскіх вачах! Шчыра ж, ветліва, лірычна ў зале пасяджэнняў Інбелкульта 25 мая 1925 г. найперш было ад таго, што была ў гэтай зале Маці. І што было тут яшчэ шчырае паэтычнае слова. Верш, прысвечаны Купалу, чытаў Міхайла Грамыка, прыгожую казку «Ноч, калі папараць цвіце» сваім працяжна дрыготкім, задуменным голасам — Якуб Колас. Героем яго казкі быў Юнак.

Колас непаспешліва ўводзіў залу ў казку, у лёс свайго героя. «Як вядома,— вяшчаў ён,— героі казак вельмі часта з'яўляюцца на свет у выніку тых ці іншых надзвычайных праяў або маюць на сабе які-небудзь надзвычайны знак. І ўжо адна гэта надзвычайнасць робіць іх адразу героямі. Нічога такога не было з нашым героем. Бо,— прадаўжаў Колас,— і бацькі яго былі звычайныя тутэйшыя людзі». Зала вось толькі што бачыла Маці Паэта, і зала згаджалася з Коласам. А той забіраў увагу залы яшчэ большую сваім таямніча сцішаным голасам. «Хіба, можа,— прадаўжаў ён,— надзвычайным было толькі тое, што хлопчык радзіўся нейк летам, у той час ці блізка таго, калі за-

цвітае папараць. Ён нават і імя даў сабе сам: імя тае ночы, калі цвіце папараць». Купала, слухаючы Коласа, ціха ўсміхаўся. А Колас вёў развагу сваю далей, у сэнсе, што «гэтая маленькая рысачка ў жыцці нашага героя» — нараджэнне на Яна Купалу — «здавалася, сама па сабе не мела вялікага значэння. Але гэта не так»,— не згаджаўся Колас, бо,— рабіў ён вывад,— «часамі самае маленькае знаходзіцца ў блізкай і цеснай сувязі з самым вялікім. Трэба толькі ўмець знайсці месца іх стыку». Лепш сказаць аб велічы Купалы — песняра простага мужыка, відаць, цяжка было ў гэтай зале. Песню аб звычайным «маленькім» мужыку Купала сапраўды скантактаваў з вялікім. Але цераз што, пры дапамозе чаго? Як усё-такі гэта сталася? — інтрыгаваў залу нявыказанымі ўголас пытаннямі Якуб Колас. Сталася ўсё-такі не без дзіву, не без роднай зямлі, не без казак-фантазій, складзеных на ёй тутэйшымі людзьмі. Сам мастак на казкі, Колас прадаўжаў сваё апавяданне цяпер ужо пра сходку, што сабралася над нованароджаным юнаком. Прыйшлі на яе русалкі, лясун, ваўкалак, вадзянік, дамавік, здані і чараўнікі розных гатункаў. Пра Юнака была ў іх гутарка. Спадабаўся ён ім, што даў сабе імя ночы, калі цвіце папараць.

«— Дык хто чым хоча парадаваць Юнака? — спытаў лясун.

Русалкі сказалі:

— Мы навучым яго спяваць прыгожыя песні, бо песні ва ўсіх выпадках жыцця патрэбны чалавеку. З песнямі лягчэй на свеце жыць. «Адвечная песня».

— І аб нас ён песню зложыць,— дадала адна русалка».

Калі Колас чытаў гэтую рэпліку, ён затрымаўся даўжэй позіркам на Уладзіславе Францаўне, і зала зразумела, заўсміхалася.

«— А я пайду з ім «Шляхам жыцця»,— казаў месячык,— буду асвятляць дарогу, каб яму лягчэй было прабівацца. У дарозе ж ён спаткаецца з мілаю «Паўлінкаю»...

У залу — заднімі дзвярыма — у гэты час якраз уваходзіла Паўліна Мядзёлка, але яе ўваходу ні прэзідыум, ні заслуханая

зала не заўважылі. Толькі добрых усходаў сонца прадаўжала зычыць Купалу ў зале Інбелкульта казкавае Коласавае Сонца, і нават пануры Ваўкалак у Коласа даваў Юнаку «словы гневу і абурэння, каб молатам білі яны па струнах сэрца таго, хто прадае сваю айчыну». Хораша абдорваў Юнака і чараўнік. Добры ці злы, невядома, чараўнік вяшчаў: «Я дам яму голас вечавога звона»; а зоркі абяцалі: «А мы саўём вянкі яго песням з ранішніх рос і сямiколерных вясёлак», і Лясун быў шчодры: «Я дам гарт і цвёрдасць граба, каб да канца Юнак быў верным свайму народу». Але аб гэтай цвёрдасці граба гаварылася ў яго як бы паміж іншым. «Я авею,— вяшчаў Лясун,— яго песні шумам бароў. Іх украсаю будзе мудрасць векавечных дубоў. І ён пакіне народу вялікую «Спадчыну»!..»

Мімаходзь пра гарт і цвёрдасць граба ўспамінала Коласава казка жыцця, бо ніхто 28 мая 1925 г. у зале Інбелкульта не здагадваўся, што ў недалёкім будучым паэту вельмі спатрэбяцца і гарт і цвёрдасць...

Паўліну Мядзёлку Купала не пазнаў. Ён яшчэ не ведаў, што яна ў Мінску, што 20 мая якраз перасекла мяжу Латвія — БССР, што, як і ён, усю яго юбілейную прэсу чытае. На пасяджэнне ў Інбелкульт Мядзёлка крыху спазнілася, і што гэта яна зайшла ў залу, падобна, як некалі ён заходзіў — са спазненнем — у Белую залу, з прэзідыума заўважыць было немагчыма. А калі пасля пасяджэння ў шумным, шматлюдным калідоры Паўлінка падышла да Уладзіславы Францаўны і маці, якіх не пераставалі знаёмыя і незнаёмыя людзі віншаваць, першай пазнала Мядзёлку Уладка.

— То ж Паўліньця! — выгукнула яна.— Глядзі, Янычка,— Паўлінка!..

Яны не бачыліся дзевяць гадоў — з Полацка, з 1916 г., калі не лічыць мімалётнай сустрэчы вачамі на з'ездзе. Але ў памяці Купалы глыбока сядзеў воблік не полацкай залішне гаваркой, падкрэслена занятай справамі Паўліны Вінцэнтаўны, а іншы,— Паўлінкі пецярбургскай, Паўлінкі віленскай — з «Зялё-

нага Штраля»: павеўнай, як былінaчка, палахлівай, як сарна, з горда ўзнятаю прыгожаю галоўкай, якая здавалася яму прыгажэй усяго на свеце і недаступней усяго на свеце. Цяпер не нявіннае дзіця прыроды, пушчанскіх нетраў стаяла перад ім. Твар Паўлінкі пашарэў, цёмныя вочы акругліліся, пабольшалі. З'явіліся маршчынкі — асабліва заўважныя, калі Мядзёлка заўсміхалася.

— Да нас, пойдзем толькі да нас! — сказаў Янка.

Уладка абдымала Паўлінку, яны цалаваліся:

— Да нас, да нас!..

Навін у Мядзёлкі было не на адзін вечар. Купалу цяжка было нават паверыць, што ўсё гэта, пра што расказвала Паўлінка, яна перажыла, такая ўсё-такі маленькая, шчуплая — адныя вочы ды яшчэ дымлівая папяроска ў тонкіх даўгаватых пальцах. У Мінску яе ■ Тамашом арыштавалі легіянеры. Знайшлі ў іх шмат грошай — партыйных. Іх ледзь не расстралялі ў Ванькоўскім лесе. Вывезлі з Мінска апошнім эшалонам. Сябры Тума — двое — уцяклі з вагона недзе каля Стоўбцаў, а Тум — збаяўся. «Журавінку сваю,— казала Паўлінка,— гэта мяне ён так называў, баяўся пакінуць». Іх у Польшчы разлучылі — у Варшаве. Яе павезлі цераз Познань у канцлагер Вронкі. Пасля выхаду з турмы Паўлінка пабывала ў Лодзі, Кракаве, Вільні. Перабралася затым у Літву, у Каўнас, з Літвы — у Латвію, дзе стала настаўніцай у беларускай гімназіі ў Даўгаўпілсе.

Купалу асабліва цікавіла Вільня.

— То ж Уладзімір Іванавіч Самойла,— казала Паўлінка,— разгарнуў такую дзейнасць, што не пазнаць «ммаммачкі». «А ммаммачка!» — удала тут голас Уладзіміра Іванавіча Паўлінка.— Не паверыш, Янaчка,— Уладзімір Іванавіч, які называў сябе агульнарускім чалавекам, сам піша цяпер выдатна па-беларуску, а як палемічна! Гады два таму назад ён выдаў брашуру супраць «Wyzwolenia» — адной з польскіх буржуазных партый, што імкнецца прадстаўляць інтарэсы сялянства Польшчы, у тым ліку і беларускага. Польскі міністр Скульскі, які

быў заявіў, што цераз 50 год на «крэсах усходніх» беларусамі і не запахне, за галаву хапіўся,— так яго адчыхвосціў Самойла.

І яшчэ вельмі цікавіўся Купала Тарашкевічам, дзейнасцю беларускага пасольскага клуба ў польскім сейме. З Браніславам Тарашкевічам сустрэча ў Мядзёлкі была вельмі кароткая — на канспіратыўнай кватэры, засакрэчанай. І што да яго прыйшла Мядзёлка, Тарас (так называлі Тарашкевіча сябры) быў не вельмі задаволены.

Упершыню чуў цяпер Купала ад Мядзёлкі і больш падрабязна пра смерць Івана Лапкевіча. Таксама памёр, як паязджанін, у Закапаным. Апошні тыдзень пры ім была Юлія Мэнкэ — не пакінула, прыехала ўслед за сястрой (Купала памятаў вільнянку Юлю Мэнкэ — каравокую, памаўклівую). Яшчэ за год да смерці Іван у Вільні адказаў увесь свой музей грамадскасці. Калі Паўлінка сказала пра гэта, Купала ўзняў незвычайна голаў і неяк уважна, уважна стаў глядзець на Мядзёлку: ён цяпер у душы каяўся, што некалі столькі разоў хаяў «латругу-заграбальшчыка». Дарма, выходзіць, абражаў...

— Антон Лапкевіч, як і раней, вялікі кніжнік,— прадаўжала Паўлінка,— у яго ўсё знойдзеш, што друкуецца ў БССР. Бачыла і твае, і Коласавы кнігі — з вашымі аўтографамі. У Вільні хараша, Янка, выдалі твой «Шляхам жыцця» — у выданні Клецкіна. Увогуле беларускі друк ажыўлены, палітычная думка — ажыўленая. Да чаго гэта дойдзе, сёння цяжка сказаць,— гаварыла Паўлінка, але што трэба чакаць у Заходняй Беларусі выбуховых падзей, у гэтым яна не сумнявалася...

— Хутчэй бы,— вымавіў Янка.

Пра Грыба Купала ў Паўлінкі не пытаў: з унутранага такту («Муж, аднак жа, абраннік!»...). Паўлінка сама ў другі вечар не змаўчала. З Грыбам яна парвала, ён аказаўся не тым, за каго яна яго спачатку прыняла. Баязлівец! Гэта яна заўважыла ў ім ужо ў эшалоне, калі Тум гаварыў высокія словы пра тое, што ён неабходны народу, рэвалюцыі, а таму не можа рызыкаваць, як тыя двое, што проста сiганулі з цягніка — можа, пад яго колы,

можа, пад кулі варты, бо хто ведае, ці дрэмлюць ці не дрэмлюць на тамбурах легіянеры? Журавінка Тамашу ўжо тады не паверыла. Ад Журавінкі Тамаш увогуле стаў крывіцца, калі яна ўзгарэлася думкай вяртання ў Мінск, у Савецкую Беларусь. Тут яны разышліся канчаткова. Паўлінка шкадавала, што не можа паказаць Купалу газету, у якой яна ў Вільні летась аб'явіла аб сваім разрыве з Тамашом і партыяй эсэраў.

Як бы павінаваўча гаварыла Мядзёлка, а Купала не ўсміхаўся, не ківаў на згоду моўчкі галавой, а толькі курыў. Дым над яго высокім чыстым чалом віўся фантастычна млявымі сінімі кругамі. Рука з папяросай у пальцах — крыху ўзнятая, нерухома застылая. Да вуснаў ён падносіў папяросу запаволена роздумным рухам, і зноў прыўзнятая рука маўкліва застывала на ўзроўні пляча.

Ад гэтага Купалавага маўчання Паўлінцы было не па сабе. І яна заспявала. Нечакана. Сумна-сумна. Купала зірнуў на яе і ўбачыў, як у яе цёмных пакруглелых прыгожых вачах кружацца слёзы. Мелодыі Купала не ведаў, не ведаў і слоў. Паўлінка спявала:

Пад гоман вясёлы, пад звон чары поўнай
Пры зборы ўсіх нас тут ў бяседзе такой
Успомнім мы, брацце, аб долі няроўнай
Усіх тых, што церпяць за край родны свой.

З гарачай душою ўсе лепшыя сілы,
Што выйшлі з народа, з сялянскай сям'і,—
Адных ужо крыюць курганы-магілы,
Другія у муках за кратай турмы.

У Познань і Кракаў ў далёку чужыну
Сасланы ў няволю, як быццам навек...
Бацькоў старых кінуў і мілу дзяўчыну,
А сам церпіць голад, і холад, і здзек...

Словы песні былі не вельмі каб, але Купала слухаў уважна. Здагадваўся, што гэта песня, відаць, яе, Паўлінкі, што гэта аб «мілай дзяўчыне» — аб ёй і аб ім «у Познані і Кракаве» — аб

Тамашы. Яна яго кінула, і яна яго, відаць, прадаўжае кахаць. Ці хоча і тут, як калісьці ў Пецябурзе, лішні раз паказаць Купалу, што ў яе да яго — ніякіх прэтэнзій. Якія могуць быць прэтэнзіі, калі ў яе — другі?..

1925 год быў для Купалы ледзь не ўвесь юбілейны, бо юбілейныя ўрачыстасці скончыліся аж 28 снежня, прычым скончыліся ў чэшскай Златай Празе — літаратурным вечарам, які быў арганізаваны ў чэшскай сталіцы Саюзам студэнтаў-грамадзян БССР у Чэхаславакіі. Даклад пра яго творчасць зрабіў Уладзімір Жылка — так, так, той экзальтаваны юнак, што шэсць гадоў таму назад вадзіў Купалу ў сутарэнне аднаго з манастыроў на Саборнай плошчы ў Мінску. Цяпер ён у Празе вучыцца, рэдактар пражскага беларускага часопіса «Прамень». Жылка радаваўся новай сустрэчы з Купалам, як дзіця. Потым у рэляцыі аб гэтым вечары будзе напісана, як у чаканні ў Прагу пасланцоў Савецкай Беларусі — Купалы і Чарота — тут, у Празе, «усе заварушыліся, асабліва ж беларуская антысавецкая эміграцыя», і што ўступ на вечар быў вольны і «прыйшла амаль уся беларуская эміграцыя ўсіх палітычных кірункаў. Спадзявалася, што пачуе ад прыехаўшых з Мінска словы прымірэння...»

Купала ў 1925 г. выязджаў за мяжу першы раз. У Празе быў першы раз. І ўжо той першы раз ён заўважыў, што ў яго лёсе ёсць нешта, што цягне яго ўслед за Скарынай, што прыводзіць яго да паўтарэння шляхоў-дарог Скарыны. Той быў сын Адраджэння, і яны ў «Нашай ніве» любілі паўтараць гэтае слова, ім называючы вялікае абуджэнне свайго народа пасля рэвалюцыі 1905 г. Скарыну цягнула ў Вільню, і Купала не забыўся, як яго колісь цягнула ў Вільню. Што — цягнула?! Прадаўжае цягнуць, ды яшчэ як! Ён жа вунь як прасіў польскія ўлады даць яму дазвол хоць на дзянёк завітаць у Вільню — не далі! Скарыну,— далей разважаў Купала,— лёс звёў з Прагай, зрабіўшы яго не толькі першадрукаром, але і каралеўскім садоўнікам на Градчанах. У Празе вось і ён: быў, хадзіў пад векавымі дрэвамі Градчан, няхай не каралеўскі садоўнік, але ўсё ж

прызнаны ў Мінску ў доме сваім пад таполяй як садоўнік самы важнецкі. Яму, Купалу, і ў Падуі хацелася б пабываць, але сёння там гаспадараць фашысты. Мусаліні ад дня свайго прыходу да ўлады і новае летазлічэнне чалавецтва пачаў — вунь на што прэтэндуе!..

Купала не ведаў, на што прэтэндавалі многія, што сабраліся ў зале, але напружанасць адчувалася. Тут не магло не быць Тамаша Грыба. Нібы не пазнаў, як стаяў, так і адвярнуўся да акна ў калідоры, калі праходзілі міма яго Купала і Чарот, Вацлаў Ласоўскі. Ён стаяў з чорным партфелем у руцэ. І Купала заўсміхаўся, падумаўшы, што гэта і ёсць яго, Ласоўскага, партфель прэм'ер-міністра эсэраўскага ўрада.

Але Купала бачыў, што не адзін Валодзя Жылка быў як на сёмым небе ад сустрэчы з ім і Чаротам. Такіх жа, як ён, хлапцоў супраdаджала іх усё больш і больш. І ўсё ж, калі пачаўся вечар, цішыні было не разгадаць.

Пра антысавецкую эміграцыю Купала канкрэтна мала што ведаў. Ведаў, што яна прыйшла сюды, бо бачыў Ласоўскага, бо думаў пра Грыба, але калі не ведаеш людзей у твар, то чый гэта твар, як тут адразу акрэсліш? Купала глядзеў у залу, не вырашыўшы яшчэ што ён будзе чытаць. Чарот быў вясёлы, жыццярадасны, гаварыў, дэкламаваў з запалам:

Запалала сонца — вір агню!..
Дні прыйшлі, ажно не верыцца,
Хто адвагі знойдзе, смеласці
З сілай моладзі памерацца!

Добра было і пра сонца і пра сілу моладзі. Усё гэта гучала як пра сонца Савецкай улады, рэвалюцыі, як пра абуджаныя рэвалюцыяй сілы, як пра сілу Савецкай Беларусі. Сінявокі бландзін, кучаравы, экспрэсіўны, Чарот захапіў усіх. Купала так выступаць, так валодаць голасам, інтанацыяй, жэстам не ўмеў. Але сіла Купалавага слова адразу дала сябе знаць, хоць не было ў Купалы чаротаўскай сілы голасу і артыстызму. Купала ўзвышаўся як Купала. Як легенда. Як пясняр Бацькаўшчыны,

маладой Беларусі. Яму верылі. Слова яго чакалі. І Купала спачатку прачытаў «Арлянятам», але тут жа падумаў, што гэтага мала. Бачыў твары знепакоеныя, змучаныя, здарожаныя. Паязджанства, паязджанства для іх яшчэ не скончылася. І Купала пачаў: «Хто спазніўся — прыйсці клічам!..», «Патомак... наш... не будзе піць з недапітых чаш!», «Кінем бітыя шляхі да шчасця, абы ўмець ісці!..», «Пакінем песню вызвалення і вольны бацькаў кут!» — гучалі ў зале, як лозунгі, радкі з «Безназоўнага». І ці не таго ж праглі ледзь не ўсе прысутныя ў гэтай зале? Ці не горкая іронія лёсу адлучыла многіх з іх ад бацькаўшчыны, ці не баламутнае няведанне асляпіла, брахня чужынцаў пра БССР аглушыла іх? Слухайце ж свайго паэта, свайго прарока: ён вам гаворыць праўду аб рэвалюцыі, аб Савецкай уладзе, аб Савецкай Беларусі!

Хто спазніўся — прыйсці клічам!..
Вярнуцца!..

Рэляцыя пра літаратурны вечар у Празе канчалася словамі: антысавецкая эміграцыя «спадзявалася, што пачуе ад прыехаўшых з Мінска словы прымірэння. Але яна абманулася ў сваіх надзеях. Вуснамі Чарота і Купалы прамовіла работніцка-сялянская Беларусь, а не ідэолагі супольнага нацыянальнага фронту з эміграцыяй, як гэта яна спадзявалася. Пасля гэтага вечара эмігранты пачувалі сябе, як будта б іх выкупалі ў лядовай ванне»...

Наступны, 1926 г. быў не за гарамі. У наступным, 1926 г. Ласоўскі ў Празе аб'явіў аб ліквідацыі ўрада, у 1919 г. ім узначаленага. Самаліквідацыю апратэставала толькі два члены марыянетачнай улады — Тамаш Грыб і яшчэ адзін. Ласоўскі павёў перагаворы аб магчымасці вяртання ў БССР.

Купала быў акураціст. Калі б не яго цяга з малых год да бібліятэкарства, яму б працаваць у музеі: такі ён быў акуратны ў падборы кніг, экспанатаў, выразак, у захоўванні сваіх рука-

пісаў, аўтографаў, сувеніраў. Чытаў ён надрукаванае ці напісанае ў лістах да яго звычайна моўчкі, не выдаючы асабліва сваіх пачуццяў ні жонцы, ні каму іншаму, хто аказваўся пры гэтым. Але вочы яго ў такі момант зазвычай ажыўлена блішчалі: калі радасць пачынала крынічыць у яго душы, яна абавязкова запальвала вочы паэта радасным бляскам, і яны нават пачыналі здавацца блакітнымі.

1925 год пакінуў у адной з самых запаветных шуфлядак паэта самыя найважнейшыя, як Купалу здавалася, тэлеграмы, віншаванні. Купала іх у канцы 1925 года не перачытваў, як, пэўна, не перачытваў ён іх і цераз сем гадоў. У чалавека праз сем гадоў, кажуць, характар мяняецца. Ці змяніўся ён у Купалы? Відаць, не вельмі. Але што ж змянілася, калі ў 1925 г. Купала атрымаў аж 30 віншавальных тэлеграм, а ў 1932 г. у прэсе было іх толькі 8. Да таго ж у 1932 г. сваё выступленне на юбілейным вечары Купала пачаў радкамі:

Былі недахопы і хібы
На шляху да новай сялібы...

Недахопы, хібы!.. Якія? Калі? Адкуль яны раптам з'явіліся? Хто іх раптам у Купалы ўбачыў?

Яшчэ ў 1930 г. віншаванні былі і ад Старшыні Савета Народных Камісараў БССР, і ад сакратара Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР. У 1932 г. Купалу віншавалі толькі на ўзроўні аргкамітэта Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР і АН БССР. У віншаванні акадэміі трэці абзац пачынаўся словамі: «Нягледзячы на Вашы мінулыя памылкі...» Чаму так катэгарычна гавораць пра іх аўтарытэтныя прадстаўнікі Акадэміі навук, ставячы пад віншаваннем Купалу свае салідныя подпісы: віцэ-прэзідэнт АН Т. Домбаль, неадменны сакратар акадэміі П. Панкевіч? Можа, гэта яны ў сваёй акадэмічнай кампетэнтнасці адкрылі Купалавыя памылкі? Сапраўды, што здарылася? Што?..

# ДОМ
# ПАД ТАПОЛЯЙ

## 1. У ДОМЕ І КАЛЯ ДОМА

Гэтае месца ўкрасіў сам Янка Купала — дом пад таполяй, у якім да 24 чэрвеня 1941 г. жыў. Пражыў у ім — па вуліцы Кастрычніцкай, 36-а,— пятнаццаць гадоў — самых сталых, а з іх і самых-самых светлых, і самых-самых драматычных...

Сёння на месцы купалаўскага дома — двухпавярховы музей. Таполю, што памятала Купалу, разбіла громам у 1966 г., але з яе карэнішча ўзняліся, закусціліся тапырыстыя, падужэлыя з гадамі парасткі новых зеленабокіх гонкіх тапалінак. Купала любіў абнаўленне. Як сімвал гэтай яго любові шумяць сёння тапалінкі — дочкі і ўнучкі разгалістай, магутнай у камлі і кроне колішняй таполі Купалы. У лісце той, колішняй таполі святочна глядзелася сонца, цешачы вочы Купалы; у тую, колішнюю таполю ўразаліся ў крону, шчэрбячыся аб яе магутныя сукі, і маладзікі і ветахі. А весніцы на панадворак былі поруч з таполяй; на весніцах — прыбітая прыржавелымі ад восеньскіх дажджоў цвікамі бляха з профілем сабачай морды — вушы натапыраныя, надпіс на блясе папярэджваў: «У двары злы сабака». Але гэтым злым сабакам у дваццатыя гады па панадворку бегаў невялічкі вёрткі Султан, які лашчыўся каля ног і дзяцей і дарослых, у трыццатыя ж гады пахаджваў па двары вялізны, пясочна-жоўтай поўсці, задуменны ў сваёй непаспешлівасці Журан.

На дах дома схіляла голле чаромха, як нявеста ў вэлюме, у маі, у густым засеве чорных ягадак, павабных для птушкі, зі-

мою. Рухавыя і розныя, яны паважна і ўвішна дзюбалі дары былой маладухі чаромхі. Перад вокнамі на вуліцу і ў сад рос бэз, кусцісты, высокі. Якраз у пройме гэтага бэзу стаяў, нібы спаконвечны, тапчан, на якім з самай ранняй вясны, як толькі пачынала прыграваць сонейка, днямі праседжвала бабуня, як у хаце пад таполяй называлі маці Купалы. Яна заўсёды першаю запрыкмечвала госця, які кранаўся клямкі на весніцах, увахо-дзячы ў двор хаты пад таполяй, і была як бы добрым духам, што сустракаў тут кожнага.

Веранда была зашклёная. Гэта была і веранда і тое, што на вёсцы называлі б сцёпкай, ці каморкай, бо на сценках тут вісе-лі не толькі вялікія вянкі-вязанкі пукатае залацістае цыбулі, меншыя вяночкі дзюбаватага, ружова-малочнага часнаку, але і прыпасы, якім у вясковых хатах раней месца было звычайна на гарышчы ў абвязаных кужалем кошыках. Купала не мог, каб у яго на верандзе не вісела пара кумпякоў, польцаў прарослага сала, вэнджанкі, ружовабокія кольцы свежых каўбас. Бывала, каты дабіраліся да вэнджаных ласункаў, ды каб і шкодная муха не прысела на любівае духмянай шынкі, Купала запрат-ваў вэнджанку ў двайныя прасцінкі марлі ці ў топкія сувоі кужэльнічку. Свойскае, вясковае, не з крамы, а зробленае ў ха-це, вылежалае ў сваім кубельцы, густым расоле, прыпраўленае перцам, часнаком, шалфеем, каляндрай, пасыпанае чорненькімі ядлоўцавымі ягадкамі, насычанае духам дубовага і хрэнавага лісця, мяты, зуброўкі, вішні, смародзіны, пятрушкі,— усё гэта ў гэтай хаце ўсе вельмі любілі. І, акрамя дамашняй каўбасы, любіў гаспадар і гаспадыня ў гэтым доме з-пад прэса хрумст-кую на зубах ад вушыных храшчыкаў руляду-сальцысон; любі-лі разварыстую, ды каб адразу з печы, каб дымела пад столь, насыпаную ў місу з гарбом бульбу; любілі мачанне — і яшчэ ў сквірчэнні на патэльні верашчайку і больш паважнае, маўклівае густое тыцкала: дранік ці блін скручвай трубачкай і цалуй гэту смакату! Але найбольш любілі ў гэтай хаце госця.

І што за беларускае застолле, калі ў ім няма прымусу, калі

ўсё на стале ёсць, а прымусу — няма?! З'яўляўся ў хаце госць, і як бы з усіх кутоў і шчылін гэтага дому адкуль толькі браўся прымус?! Просім да столу бяседу вясёлу! Ешце, абмачайце, а на лепшае — выбачайце! З печы, з полу — усё к столу! Ой, ці з перцам, ці з імберцам, абы са шчырым сэрцам! І госць цешыўся, рады, бо дарагое не вінцо, а слаўцо, і ён ніколі не пакідаў на дне вінца — злосці, бо лепш жыватом стол адапхнуць, чым не ўважыць гасціны гаспадара, сказаўшы нарэшце, што наеўся па самае не хачу, а гаспадар не паверыць:

— Ды што вы елі — глупства елі! Ешце, госцейкі, бо ўсё роўна свінням выліваць! Еш, бо, як памрэш, калом не ўвапрэш!..

І госцікі зноў пацеюць, зноў ядуць: бяруць кавал і шосты, і сёмы, а смех гучыць вясёлы:

— Бярыце хоць восьмы, у нас не лічаць! Хай кішка лепш кішку прыцісне, чым страва скісне! Мы — не панскія духі, не баімося сівухі!

Дык — першая чарачка калом, другая — сакалом, трэцяя — лёгкай пташачкай! Мая душа прамая — усё прымае. Хоць каротка шыя, але добра п'е. Чэрава — не дзерава — раздасца. Ой, баліць мне чэрава, я ж — не павячэрала!..

І хто гэта там, ці не сам Купала ў гасціннай зале абвяшчае: «Каб вам добра жылося, каб вялося, каб хацелася і маглося!..» Ці: «Вып'ем стоячы да дна, каб была ва ўсіх думка адна!» Ці: «Дай, божа, каб усё было гожа, а што нягожа, не давядзі, божа!..»

І пакуль тое яшчэ далёкае, запаўночнае «Дзякуй гэтаму сталу, а мы пойдзема дадому!», пакуль гаспадаровае: «То выбачайце: што кепскага, то не мы!» — усё новыя і новыя слоўцы і жартачкі гучаць над бяседным сталом дома пад таполяй. А хто жартаваць не здатны, таму з аднаго слова тост астатні:

— Будзьма!

— Ну то!..

І чарачка перакульвалася: на такі пір — не ў вір.

Самым першым госцем дома пад таполяй быў Якуб Колас, якога Купала палюбіў усёй душой з самай першай сустрэчы ў Смольні — у Мікалаеўшчыне. «А я каласок пад галоўку,— суцешваў ён тады Коласавую маці, што яму цвёрда не будзе на гаросе ў пуні,— каласочак пад бачочак, і спі сабе да раніцы!»

Лёс іх абодвух у новым савецкім Мінску складваўся і падобна і непадобна: літаратурны, у грамадскай працы — падобна, дамашнімі ж звычкамі — не. Бо не мог жа Колас, да канца 20-х гадоў стаўшы бацькам трох сыноў, аб'явіць у сваёй хаце прынцып адкрытых дзвярэй: дзяцей жа трэба было гадаваць. Тут і калыскі, і пялёнкі, і міскі,— куды станеш запрошваць грамаду? Прытым жа Колас пісаў не вершы, як Купала, а буйныя рэчы. Іх трэба было выседзець. У 1923 г. ён канчаў «Новую зямлю» — 10 954 радкі, у 1925 г.— «Сымона-музыку», трэці варыянт, бо другі — гатовы — ехаў у Кіславодска, на адным з паўстанкаў зазяваўся, і з чамаданам той другі варыянт укралі. Трэці варыянт быў аб'ёмам у 7662 радкі. У 1922, 1926, 1927 гадах выйшла тры аповесці Коласа, дзесяткі апавяданняў, а таму як чорны вол рабочы сядзеў Колас за сталом. «Гэта не вершыкі табе, Яначка, цыркаць, памахваючы кіёчкам ці ў спальні валяючыся!» — уздыхаў звычайна Якуб і сядаў з ранняга ранку за стол, ёрзаў незадаволена, аж да нецярпячкі, калі прыходзіў нечаканы госць удзень, ёрзаўся на крэсле і ўвечар, калі госць заседжваўся пасля 9-ці, бо рэжым у дзядзькі Якуба быў суровы: у дзевяць — спаць. Уставаў ён рана, як селянін — разам з сонцам.

У Купалы з Уладкаю дзяцей не было. Гэта яны напачатку вельмі балюча абое пераржывалі. Дзяцей любілі абое — неймаверна. Уладзіслава Францаўна таму і пайшла ў настаўніцы, і ў Мінску адразу ж усталявалася працаваць у дзіцячым доме. Адным словам, ласкай да дзяцей, асабліва да сірот, поўніліся іх сэрцы. І таму гэта на пачатку першых сваіх аседлых у Мінску год Купала вельмі многа напісаў для дзяцей, ледзь не толькі ў дзіцячым часопісе «Зоркі» друкуючыся. У 30-я гады ён напіша

толькі свайго славутага «Хлопчыка і лётчыка», а тут напісаў «Песню і казку», і «Бая», і «Мароза», і «Караля», і «Ад мінскіх дзяцей». Гэта пісала пра дзяцай, для дзяцей Купалава прага дзіцяці — свайго, уласнага, Уладкі, каб ён мог пасадзіць яго на калені, як звычайна саджае ў тым жа дзіцячым садзе, дзе працуе Уладка, іншых, каб пагойдаць яго на назе, напяваючы:

Едзе, едзе пан, пан,
На коніку сам, сам;

і настаўляць яму рожкі, як ён настаўляе іх трохгадовай дачушцы Міхайлы Грамыкі, палохаючы яе «казою»:

Ідзе каза рагатая,
Бадзе дзіця пузатае!..

Але год за годам сходзіў у доме пад таполяй, а садзіць на калені Купалу ўсё не было каго, настаўляць рожкі не было каму. Пустку запаўняла іншае. Прынцып адкрытых дзвярэй і склаўся з таго, што жыццё патрабавала чагосьці не менш асаблівага, чым дзеці.

Якуб Колас вельмі хораша разумеў гэта, разумеў як адну з першых прычын таго, што Купала не можа, каб быць без кагосьці, не можа, каб сумавала Уладка, каб ёй было горка. А ва Уладзіславы Францаўны, як і ў кожнай у такім выпадку жанчыны, была засцярога, страх перад кампаніяй, у якую па-за домам можа трапіць Янка, кампаніяй, якая можа звезці яе Янку з пуціны, адлучыць яго ад яе, такую вінаватую, што пры ўсёй сваёй гарачай французскай крыві яна не можа стаць маці... Няхай лепш застолле шуміць дома, а не дзе-небудзь, каб за чужым застоллем шукаць Янку,— вырашыла для сябе раз і назаўсёды Уладзіслава Францаўна. І раз і назаўсёды ёю была вызначана гадзіна абеду: чацвёртая гадзіна. І аб'яўляўся аўрал, незвычайная падзея, калі чатыры, а Янкі няма. Пошук пачынаўся самы аператыўны, не без бязлітасных ушчуванняў саджанаму нарэшце за стол Янку.

А дзень часта пачынаўся [redacted] таго, што Янка Уладку прасіў:

— А ці не схадзіла б ты, не прайшлася па вуліцы, можа, дзе якая сіраціна бядуе?..

Калі не знаходзіла сіраціны Уладка, знаходзіў яе Янка, і ў іх доме пад таполяй і днямі, і месяцамі, і гадамі мелі прытулак і ласку вельмі і вельмі многія.

Купала разводзіў ружы. А мы яшчэ не сказалі, што перад верандай купалаўскага дома пад таполяй была адмысловая клумба — нібы сонца, ад якога промнямі «адсвечвала» роўнастароннімі спічастымі трохкутнікамі пяць клумбачак. У цэнтры клумбы каралевай стаяла блакітная елка. За клумбай жывапло-там ішлі кусты барбарысу, снежніку — уперамешку. Ад вясны і да восені цвіла купалаўская клумба, ад першых нарцысаў і цюльпанаў да апошняга бабінага лета. Вельмі любіў Купала пах цімафееўкі, якая зырчэла дробненькімі аранжавымі вочкамі з наступленнем летняга прыцемку і пахла на ўсю вуліцу Кастрычніка. Але асаблівымі любімцамі Купалы былі ружы. Па ружах у яго былі свае прафесіянальныя, так сказаць, знаёмцы: нехта Фрэй, эстонец, што жыў у тадышнім прыгарадзе Мінска Козырава. Саджанцы ружаў Купала вёз і з Крыма, і [redacted] Каўказа, і яму яго сябры і знаёмыя не раз прыносілі і прывозілі іх зблізку і здалёку. У разарыі Купалы нават красавала чорная ружа, асаблівы гонар Купалы — белая варона сярод руж, нешта сапраўды з надзвычайнага надзвычайнае!

Колас сек размашыста дровы, складваў іх «стажком» — сын лесніка, ён любіў не дурманны водар пястункаў аранжарэяў, а моцны смольны пах карчоў, толькі што расколатае чуркі, дрывотніка ўвогуле. Убачыўшы Купалу каля яго пястункаў-ружаў, Колас звычайна пачынаў словамі вядомай беларускай народнай песні «Янкі»:

— Янка стаіць на гары...

— Лесавік, а што пры даліне? — пытаўся Купала.

— Янка сее кавуны,— вёў Якуб Колас.

— А хто журавіны? — дапытваўся Купала.

— Ну, вядома ж, не аматар ружаў! — выгукваў Колас і прадаўжаў: — Вядома ж, не туры-туры-растатуры, я — шляхецкае натуры!

— Сціхні,— нібы злаваўся Янка,— а то Бэндэ раптам пачуе.

Колас, аднак, вёў сваё:

У суботу ем бліны,
А ў нядзелю кавуны...

Купала не заставаўся ў даўгу.

— Не посным жа абыходзімся, як некаторыя з уніятаў,— гаварыў, намякаючы і на непралетарскае паходжанне Коласа, на тое, што яго дзед Казімір быў уніятам. Жарты з сацпаходжаннем былі тады ў духу часу, былі сапраўды вясёлыя. Да часу!

Губернатарскі, мяшчанскі, рэнегацкі Кафедральны пляц Купала высмеяў у «Тутэйшых» як Брахалку. Да Камароўкі, яе славутага рынку, славутых трох корчмаў, што прадаўжалі стаяць на развілцы Лагойскага, Барысаўскага шляхоў і ў 20-я гады, да лернікаў, якія круцілі тут свае леры і ў 20-я гады, да гандлярак зёлкамі, увогуле да ўсяго вясковага люду, што сюды прывозіў жыўнасць, бульбу, садавіну, гародніну,— да ўсяго гэтага ў Купалы сантымент быў самы глыбокі. Ён мог і раніцу, і дзень, моўчкі пасміхваючыся, праснoўдацца з кійком, павешаным на руцэ, між усяго кірмашовага стракатага люду, хітраватага, бо на рынку, языкастага, бо на рынку, і святочнага, бо на рынку, бо кірмаш — не кожны дзень.

...Сполах быў у доме пад таполяй немалы: Янка вярнуўся з рынку рана, вярнуўся не адзін, вярнуўся з пакупкай: парасём. Не мела баба клопату, купіла парася — хто не ведае гэтае прыказкі ў Беларусі?! Ведаюць яе ўсе, але купіла парася не баба, а Янка, і ва Уладкі не хапала слоў ушчування. Больш сярдзітаю, праўда, у хаце лічылася Зося. З 1927 да 1930 г. яна

была больш паўнаўладнаю гаспадыняй у хаце пад таполяй, чым Уладка. Уладка гаспадарыла на кухні, калі з'яўляліся высокія госці: яна тады асабіста тут рыхтавала стол. Звычайна ж гэта быў клопат Зосі: Зося ўсё пякла, смажыла, падавала і прыбірала. І дзядзька Янка больш любіў дранікі, што пякла Зося, і заўсёды заказваў іх, калі паяўляўся ў хаце Якуб Колас.

Не домработніцай была ў хаце пад таполяй Зося Хадасевіч. Да яе ў такіх жа правах і абавязках была Аня. Калі Аню дзядзька Янка выдаў замуж за настаўніка, у хату прыйшла Зося. Аню ж дзядзька Янка і цёця Уладзя замуж выдавалі, як сваю дачку, як потым і Зосю.

Зося была з ваколіц Акопаў. Бацькі яна не памятала. Маці ў яе памерла. Чатырнаццацігадовая, трапіла яна ў адну з мінскіх бальніц, кароплівая, згаладнелая. Было гэта ў 1922 г. Як даведаўся пра Зоську Янка, засталося таямніцай і Уладцы і Зосьцы, але ў разрухлівым яшчэ 1922 г. на тумбачцы замучанай экземай дзяўчынкі пачалі раптам кожную раніцу з'яўляцца то акрайчык свежага хлеба, то духмяны кавалачак сальца. А даведаўся дзядзька Янка, што паправы не дачакацца, пакуль сіротка не пап'е рыбінага тлушчу, і вялікая зялёна-бурая бутэлька ад віна з густым рыбіным тлушчам неўзабаве з'явілася на шпітальнай тумбачцы Зоські. Цераз пяць гадоў пасля таго ўвайшла ў хату пад таполяй Зоська, цераз тры выйшла з яе замуж, як папярэдне Ганка. Але і пасля 1930 г. прадаўжала прыбягаць сюды, як да бацькі і маці...

У дзень вялікай пакупкі дзядзькам Янкам парасяці лёс няшчаснага парасяці прадвырашыла Зоська. Яна аказалася на баку дзядзькі Янкі. Яна не без урачыстасці запэўніла цёцю Уладзю, што згодна карміць такое пярэсценькае рухавае парася, якое купіў дзядзька Янка. І тады ўжо сапраўднае свята прыйшло ў дом пад таполяй.

Справа ў тым, што дзядзька Янка не адпусціў з дому гаспадара, у якога купіў парася. Бо гаспадаром тым быў ні хто іншы, а дзядзька Амброжык з Мачанаў; і, можа, якраз гэта і

было першапрычынай пакупкі парасяці Янкам Купалам, ■ што першапрычынай рашэння дзядзькі Янкі не выпускаць гаспадара парасяці з хаты, дык гэта ўжо без ніякіх сумненняў.

Як шкада, што размовы за круглым сталом, якія вяліся дзядзькам Янкам і дзядзькам Амброжыкам у той гістарычны дзень пакупкі парасяці, не былі нікім не запратакаліраваныя ці застэнаграфаваныя! Вельмі мала з іх запамятала Зоська, бо была больш на кухні, чым пры стале, ■ цёця Уладзя таму, што ледзь не да канца, не могучы даравацъ купецкіх замашак Янкі, застолле ў той дзень ігнаравала. Сёння вядома адно, што спачатку гаворка кніжніка з Мачанаў, Льва Талстога, як яго там называлі, вялася наконт парасяці, якое павінна быць і вельмі сальнае, і ўдаленькае, бо лапавухае, бо лыч куртаты і задзёрты, ■ шчаціна доўгая і вунь на костачках задніх ножак мякката, як падушачкі, прашчупваецца.

Колькі часу пайшло на абгаварэнне ўдаласці парасяці, зноў жа і гэта дакладна невядома, як і тое, дзве ці тры чаркі пры гэтым было прапушчана, але ў дзядзькі Амброжыка размова не магла не пераключыцца на больш істотныя матывы. Пра сельсавецкае начальства дзядзька Амброжык гаварыў даволі мала: «Панаваць — не гараваць, лёгка навучыцца!» Але найцікавейшая, да самога вечара, размова знайшлася пра літаратуру.

— Глаголом жечь сердца людей! — дэкламаваў дзядзька Амброжык, бо не мог не паказаць сваёй начытанасці і павагі да літаратуры цяпер ужо не ў хаце пані Боні ў Бараўцах, а ў хаце самога Янкі Купалы.

Купала ўсміхаўся, пытаўся:

— А можа, паэту трэба быць не толькі перуном, але і пажарнікам? Пярун жа б'е, паліць,— каб не вада,— бяда.

— Чыстая праўда, дарагі суседзе,— гаварыў дзядзька Амброжык,— далібог, чыстая праўда! Але як гэта, каб і пярун, і пажарнік, і агонь, і вада? Чуў, кум, сонца? Бачыў, кум, гром? Чуць не чуў, бачыць не бачыў!..

— Не бачыў? — усміхаецца Купала.

— Калі агонь, то не зальеш вадою, а ваду нічым не супакоіш,— разважае дзядзька Амброжык.— Гэта як снег саломаю тушыць, агонь і вада! — зноў наступае дзядзька Амброжык на Купалу.

— Га! — смяецца Купала.— Агонь заўсёды пячэ.

— А што? Ляпей гэта: хоць запалі, не трэсне? — не здаецца дзядзька Амброжык.

— Не лепш,— згаджаецца Купала,— але ж не вельмі добра і тады, калі — во, як Уладка,— з печы полымем, з хаты — дымам, з двара — віхрам...

— А ты што думаў? — смяецца дзядзька Амброжык.— Паляваў куню, упаляваў красуню...

— Ну, скажу табе, дарагі суседзе,— суседам дзядзьку Амброжыка пачынае называць і Купала,— жонка — во! — і як агонь і хоць з агню, а вырве.

— З прысаку ў агонь? — рэжа зноў дзядзька Амброжык.

Купала ўздыхае, кліча да стала Уладку:

— Глянь, паглядзі: без нажа рэжа, без агню смаліць!

— А табе толькі і шукаць сонца днём з агнём,— са спальні адгукваецца палагаднелая ўжо Уладка і выходзіць у залу.

— Ну і не казаў я,— звяртаецца Купала да дзядзькі Амброжыка,— што вада заўсёды цішэй чалавека?

— Ідзе, як вада! На тое вада,— кажа дзядзька Амброжык, а Уладзіслава Францаўна парыруе пытанне Купалы і сама:

— Лепш бы і ты паўтарыў тут услед за дзядзькам Амброжыкам, што агонь не зальеш вадою, а ваду нічым не супакоіш. О, тады б я дала згоду быць вадой, а цябе б мела за агонь...

Было позна, калі дзядзька Амброжык развітваўся з Купалам і Купаліхай, развітваўся і зноў жа не без прыказкі, бо такі ўжо быў чалавек дзядзька Амброжык, што без прыказкі не мог пераступіць парог, уваходзячы ў хаты, і гэтаксама, калі выходзіў з яе.

— А што ні кажы, Яначка,— гаварыў дзядзька Амброжык ужо на «ты» і без ніякага ўспамінання пра суседства.— А што ні кажы, Яначка, госцю двойчы рады: калі ён прыязджае і калі ён ад'язджае. Ну то я і паеду. Далібог, існіная праўда!..

Сваё жыццё ў Мінску прафесар Б. І. Эпімах-Шыпіла таксама пачаў з першай начоўкі ў хаце пад таполяй. Пасля першых запросін у лісце яшчэ 1919 г. Купала пры кожнай аказіі прадаўжаў запрашаць прафесара на сталае жыццё ў Мінск, і мара вучня прафесара нарэшце здзейснілася, калі ў 1925 г. Браніслаў Ігнатавіч рашыўся ў свае старэчыя гады пакінуць былую паўночную сталіцу, пераехаць у сталіцу БССР. Прафесар стаў працаваць у Інбелкульце, а з 1928 г., з дня, калі ўтварылася Акадэмія навук БССР і прэса вітала гэта радасным Vivat Academia!— у акадэміі. Ён ахвяраваў акадэміі свой багаты рукапісны архіў, у тым ліку славутую «Беларускую хрэстаматыю», якую збіраў, пачаўшы са студэнцкай лавы, аж трыццаць гадоў. Багатая частка бібліятэкі прафесара заставалася, аднак, яшчэ і на 4-й лініі Васільеўскага вострава, і яе час ад часу ездзіў прафесар парадкаваць. Падзея, аб якой зараз пойдзе гаворка, амаль супала ў часе з выбарам Купалы ў акадэмікі 26 снежня 1928 г. Купала быў выбраны акадэмікам, а цераз дзень да яго не адно віншаваць свайго Янку з такой нагоды пастукаў у дзверы на Кастрычніцкай 36-а заўсёды карэктны прафесар. Справа ў тым, што прафесар трымаў пад пахай з асабліва важнецкім выглядам папку, у якой была радасная неспадзяванка для гаспадара хаты пад таполяй. У папцы былі вершы, аж 65 вершаў — дарэвалюцыйных, тады падцэнзурных. Іх знайшоў надоечы, у свой чарговы наезд у Ленінград, парадкуючы бібліятэку, сённяшні ўласнік пукатай папкі. Аб гэтай падзеі «Савецкая Беларусь» паведаміла 20 студзеня, а частка знойдзеных вершаў трапіла ўжо ў лютаўскі і сакавіцкі нумары «Полымя» таго ж года. У зносцы да публікацыі ў лютаўскім нумары Янка Купала захоўваў дзелавы тон: «Паданыя тутака мае творы... былі згублены і выпадкова

знайшліся цяпер у вядомага апекуна беларускіх пісьменнікаў дарэвалюцыйнае эпохі... Адначасна выказваю тут шчырую падзяку праф. Эпімах-Шыпілу за яго мілую для мяне неспадзеўку». Выказванне гэтай падзякі ў той зімовы вечар, калі Браніслаў Ігнатавіч асцярожна пастукаўся з папкай у дзверы дома пад таполяй, было, зразумела, куды гучнейшым. Засядзеліся за поўнач. Купала як бы адкрываў Купалу — сабе самога сябе. І ён не прасіў, як звыкла, чытаць свае творы каго [redacted] гасцей. Дый не было ў каго прасіць, бо, акрамя Уладкі, за круглым сталом было дваіх — прафесар і паэт, а ў кабінеце дык былі ўжо яны толькі двое — стары прафесар і Янка Купала.

Браніслаў Ігнатавіч любіў гэты кабінет больш, чым прасторны пакой круглага стала — «стала рыцара Янкі, а не Артура», як любіў паўтараць ён. Прафесар любіў гэты кабінет паэта, можа, перш за ўсё за тое, што ён чымсьці нагадваў пакой Янкі ў яго, прафесаравай, пецярбургскай кватэры на Васільеўскім востраве: тут, яму здавалася, той жа дух, той жа стыль, хоць так шмат новага, непадобнага ў рэаліях, сабраных у кабінеце цалкам новым часам. Пакой — невялікі; пісьмовы стол, кніжная шафа. На стале — нож для разразання кніжных лістоў, прэс-пап'е, чарніліца, попельніца. Але над рабочым сталом на сцяне — чырваназыркая грамата «Ганаровага металіста» (уручылі металісты завода «Камунар» у час 20-годдзя), сярод абсадак на стале — пяро ў выглядзе мініяцюрнай вінтоўкі (дарунак рабочых Мінскага машынабудаўнічага завода), на сцяне паміж беларускімі пейзажамі, падобнымі да тых, што віселі ў гасцінай прафесара ў Пецярбурзе, кінжал — похва з чарнёнага серабра, узорыстая рукаяць.

— Отделкой золотой блистает мой кинжал,— звычайна пачынаў дэкламаваць прафесар, глянуўшы на гэты кінжал, прывезены Купалам у сваю самую першую паездку на Каўказ. З часам жа ўсё больш і больш яднаўся з далёкім поўднем кабінет Купалы, бо з кожнае сустрэчы з Чорным морам паэт прывозіў поўныя чамаданы рознавясёлкавай марской галькі.

— Чым не поўдзень, прафесар? — спытаўся Купала, калі прафесар, нахіліўшыся, стаў перабіраць высыпаную проста ўздоўж сцяны шматколерную гальку. Купала і сам нагнуўся, узяў жменю каменьчыкаў, стаў перасыпаць іх у далонях, прыслухоўваючыся да ціхага шорхату.

— Здаецца, марская хваля з табой размаўляе,— сказаў.

— Галька кветку-папараць заварожвае,— нібы згадзіўся з паэтам прафесар, усміхаючыся.

А вершы, што, раскрыўшы папку прафесара, стаў перагортваць Купала, сапраўды былі як вехі жыцця Купалы: «Водклік з 29 кастрычніка 1905 г. у Мінску», «Я не для вас...», «Не кляніце мяне», «Перад вісельняй», «Слугам алтарным», «Перад бурай», «Мая малітва». Цяпер для нас ледзь не кожны з гэтых вершаў — як візітныя карткі Купалы-паэта, як тое, што сёння любяць называць пашпартам паэта.

Купала чытаў вершы нізкім, крыху глухаватым ужо, ды валявым, упарцістым, нескароным голасам:

...Я не для вас, паны, о не,
Падняць скібіну слова рвуся
На запусцелым дзірване
Сваёй старонкі Беларусі,
Я не для вас, паны, о не!

...Я не для вас, паны, о не,
А я для бедных і загнаных,
Я з імі мучуся ўраўне,
Ў адных закут з імі кайданах...
Я не для вас, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не!!!
Я — для тых цёмных, нешчаслівых,
Ад іх і водгаласак мне
Прымчыцца па лясах, па нівах,
А не ад вас, паны, о не!

І гэтакіх вершаў мы маглі б не ведаць! Бо сапраўды яны ж былі і іх як бы не было.

Шчаслівы выпадак вярнуў, не даў згінуць? Шчаслівы, вядома. Але — каб не прафесар, каб не яго пецярбургская кватэра, бібліятэка... Страшна падумаць, што падобных узораў паэзіі магло б не быць на свеце!..

...Купала, праводзячы гасцей, кожнага, без выключэння, расцалоўваў. Цалаваў моцна, па-мужчынску, душу сваю ўкладваючы ў поціск рукі, у абдымак. У той позні зімовы вечар Купала доўга-доўга не выпускаў са сваіх абдымкаў на парозе хаты пад таполяй расчуленага і радаснага прафесара Эпімах-Шыпілу.

Цёця Уладзя не раз дакарала свайго гаспадара: «Ты ўсё з людзьмі і з людзьмі, а я... На дваіх вару дваццаць пяць абедаў, і ўсё мала. Вось кіну цябе і ў манастыр пайду!»

Але хаты пад таполяй Уладзіслава Францаўна не пакідала, хоць здаралася ёй шмат разоў куды больш, чым дваццаць пяць абедаў за раз варыць...

Каму першаму прыйшла ў галаву тая ідэя, сёння за даўнасцю часу забыта, але што ў той вечар гасцей назбіралася столькі, што крэсел за круглым сталом гасцёўні відочна забракла, гэта сёння дакладна вядома. І таму ў гасцёўню з дзіцячага сада, дзе працавала Уладзіслава Францаўна, былі панапрыношваны нізенькія столікі і малюсенькія крэселкі. Столікі ўжо накрыты, а госці збіраюцца, і хто ўваходзіць, адразу ж усмешка на твары, але кожны, захоўваючы паважнасць, сядае ў прапанаванае яму гаспадаром крэселка, ці гэта ў паважным пенснэ на носе Прэзідэнт Акадэміі навук ці гвардзейскага росту Міхась Зарэцкі, ці каржакаваты Міхасёк Чарот.

— А мае вы Міхаські! А мой ты Сымонка!.. Кандратка!.. Валодзейка!.. Максімка... Мірошка... Пятруські... Кузёмка!.. Міколка!..— гэта Купала вітаў двух Міхасёў — Зарэцкага і Чарота, двух Петрусёў — Глебку і Броўку, Сымона Баранавых, Кандрата Крапіву, Уладзіміра Дубоўку, Максіма Лужаніна, Еўсцігнея Міровіча, Кузьму Чорнага, Міколу Хведаровіча. А ў

гасцінную ўсё заходзілі — з акадэміі, універсітэта прафесары Замоцін і Вазнясенскі, Піятуховіч і Барычэўскі (ледзь не ўвесь аўтарскі склад кнігі 1928 г. «Янка Купала ў літаратурнай крытыцы»), Міхайла Грамыка, Вацлаў Ласоўскі (ён вярнуўся з Прагі і цяпер — вучоны сакратар акадэміі), Цішка Гартны... Лягчэй пералічыць, каго не было ■ літаратараў Мінска другой паловы 20-х гадоў у той імправізаваны літаратурны вечар у доме пад таполяй, чым усіх тых, хто на ім быў. І сядзеў тады і вялікі Купала за нізенькім столікам у маленькім крэселку, і Якуб Колас — худзенькая бародка, прасветлая лысінка і белы, як Саваоф, Эпімах-Шыпіла. А над усімі — Уладзіслава Францаўна. Яна ў гэты вечар сапраўды царавала ў сваёй хаце над усімі, як над тымі ж столікамі і крэселкамі да гэтага ўдзень царавала ў дзіцячым садзе над дзецьмі.

Але чаму сядзяць у малюсенькіх крэселках і не крыўдзяцца на свой лёс ні ўсё яшчэ маладыя вясёлыя ўчарашнія маладнякоўцы, а сённяшнія ўзвышанцы, палымянцы, белапаўцы, і тыя, якія лічацца папутчыкамі ■ сялян і з інтэлігенцыі, і ўся руская шаноўная прафесура, якую паклікаў Мінск, універсітэт, Беларусь пачынаць беларускае літаратуразнаўства і крытыку, і тыя адзіночкі, што, зведаўшы страту Радзімы, выблагалі яе сабе нанова адрачэннем ад свайго неразумнага былога? Ёсць прычына! Прычына вельмі важная — кіёк Купалы. Свята сотай манаграмы на ім. Так сказаць, юбілей Кійка паэта. У 20-я гады гэта было модна — кій з манаграмамі. Але не так ад моды трапіў кій у рукі Купалы, як з маленства — з Селішчаў, з юнацтва — з грыбных паходаў у Акопах. І яшчэ — з бальніцы, з 1920 г., з сакавіка месяца, які быў занадта кволы, каб не абаперціся на ўспаможны кій.

Хто першы з сяброў Купалы прыбіваў на гэты кіёк сваю срэбную памятку-манаграму, ужо і ў гэты імправізаваны літаратурны вечар у хаце Янкі Купалы за даўнасцю часу таксама ніхто не ведаў. Але ўсе ведалі, што сёння будзе прыбіта да кійка сотая манаграма. І ў хаце пад таполяй быў шум і гоман.

Заставалася толькі ў сакрэце, хто той шчасліўчык, што будзь соты? Дзядзька Янка загадкава ўсміхаўся. Ужо загучалі тосты, прамовы, а імя сотага заставалася ў таямніцы, і адно месца за столікам Купалы, Коласа і Прэзідэнта АН заставалася пустым. Купала аб'явіў, што саленізант спазняецца, а чаркі прасіў налі-ваць.

Тост Коласа быў кароткі. Ім аб'яўлялася, што з гэтым днём Купала вяртаецца ў сваю найрадаснейшую стыхію, калі на па-мяць ён ведаў адзін толькі вершык:

Дожджык, дожджык, секані,
Я паеду на кані.

— Карацей, Купала мае цяпер свайго вельмі надзейнага ка-ня,— працягваў Колас,— каня, які пераўзышоў усе аўтамабілі, і хай цяпер у гэтай хаце кожную раніцу гучыць звонкі голас гаспадара: «Падайце каня!»

Цішка Гартны — таўставатыя губы, круглыя, у чорных абад-ках акуляры, белы каўнерык, замест гальштука — чорным ма-тылёчкам банцік,— гаварыў павольна, няспешна, трошкі ў нос, нібы з французскім праноисам:

— Файны кіёк. Хвацкі кіёк. І — галоўнае — ні па чыіх спі-нах не ходзіць.

Прэзідэнт Акадэміі навук аказаўся не толькі самы доўгі ў прамове, але і самы красамоўны, прычым «не толькі як на гі-сторыка — нашага летапісца»,— зазначыў Купала. А Прэзі-дэнт гаварыў:

— Усё пачалося з кійка. Ён жа дапамагае прайсці далей, чым могуць ногі. А потым ён змог дастаць далей, чым могуць рукі, бо, стаўшы страло́ю, паляцеў. Але страла паляцела такса-ма з кійка, які выгнуўся ў лук. Ды гнуцца толькі ў лук кіёк палічыў за малую для сябе чэсць і, сагнуўшыся, што абодва яго канцы сустрэліся, стаў колам. А кола пакацілася, закруцілася, дзе суша, дзе дарога, потым падставіла свае лопасці вадзе і ста-ла вадзяным млынам, закруцілася ў вадзе, падграбаючы пад

сябе хвалі, і стала катэрам. Але штó яму суша, што вада?! У паветра захацела ўзняцца кола — да зор! І выпісаў кіёк у паветры бачнае чалавечаму воку кола, стаўшы... прапелерам. І да зор узносіць нашага Янку арэшкавы кіёк...

— Гісторыя цывілізацыі!..

— Беларускія лясы і казкі!..

— Акадэмікі і прафесары!..— паляцелі адно за адным удакладненні да тоста прэзідэнта, ды ў гэты час на парозе гасцінай аб'явіўся дзядзька ў ярка-рыжым кажуху з чорнай поўсцю натапыранага па вушы каўняра. Купала ўсміхаўся. Гэта быў дзядзька Амброжык з Мачанаў. Гэта яго месца пуставала за столікам Купалы, Коласа, Ігнатоўскага: гэта ён быў соты.

— Быў кій, ды не такій,— сказаў дзядзька Амброжык, прыбіваючы да Купалавага кіёчка манаграму са сваім прозвішчам. І цяпер ужо ў хаце пад таполяй быў кій што трэба. Дзядзька Амброжык пачаў спяваць тут сваім высокім, нібы жаноцкім галаском, якім быў задзівіў Купалу яшчэ калісьці ў Бараўцах, калі чытаў маці Боні рэцэнзію Самойлы. Спачатку застоллю было незразумела, пра што песня. «Дзядзька Ікім,— зацягнуў Амброжык,— а-а-а памёр з кі-і-ем вя-а-лікім. А дзядзьку Янку з кіёчкам гэтым — многія лета, многія лета, многія лета!» «Многія лета» падхапілі ўсе.

Купала і Уладзіслава Францаўна былі вельмі рады і кію і ўсёй гэтай прыгодзе, што сапраўды слаўна і весела была задумана імі яшчэ ў дзень, калі Купала купіў у дзядзькі Амброжыка парася.

Але было б няправільным думаць, што дом пад таполяй быў толькі вясёлым домам, што нішто ў ім не хмурыла чолаў іх гаспадароў, што 20-я, іх такія яшчэ маладыя гады, былі спрэс вулканічна радаснымі. Не забудземся, што Уладзіслава Францаўна мела ўвогуле няважныя, бо хворыя, нервы, лячыць якія Купала шукаў урача ўжо ў паўгода пасля іх вяселля. І таму бывала, што наплывалі бела-пёрыстыя воблакі на блакіт Уладчыных ва-

чэй, бывала, што прыгожая лебядзіная белізна яе чыстага ласкавага тварыку з той ці іншай прычыны раптам ды пачынала густа чырванець, а ножкі яе пачыналі ў зале ці на кухні звонка тупацець, ■ памаўклівы Купала ў тую ці іншую паўзу ў наступе жончыных басаножак звычайна першаю рэплікай устаўляў:

— Нашэсце на Маскву французаў...

Уладка рэагавала бурна:

— Гэта маё нашэсце? А хто хадзіў на Антокаль?! Можа, я?! Хто набіваўся ў кампаньёны і памочнікі, калі я выбіралася ў Кушляны, Ашмяны, Астрыно?

— На Антокаль — не на Паклонную,— усміхаўся Купала.— Антокаль не ідзе да гары, гара ідзе да Антокаля... Багушэвіч вінаваты... Цётка вінавата...

— Маўчаў бы! — узгаралася яшчэ больш Уладка.— А не Магамет садзіў дрэўца на Полацкай вулічцы ў Вільні — на чэсць вялікага кахання? Дурыў мяне, лёстачкамі ўлешчваў...

— Можа, пара̀ і праведаць тое дрэўца,— ціха ўсміхаўся Купала.— Напалеон згодны?

— Кавалерчык, і ўсё! — выгуквала Уладка.— Яшчэ пытае згоды?!

Купала змоўніцкі ўсміхаўся. Уладка «адыходзіла». Ключы ад Масквы нёс на Паклонную гару — колькі разоў Уладка дзівілася гэтым! — горды, светлы, высокі чалавек.

Яна, Уладзіслава Францаўна, была, Купала ведаў гэта, аднак, вялікай, глыбокай душы чалавек. Яна была ўжо глыбокі чалавек тым, што першая з жанчын вычула, зразумела шлях Купалы, рынулася ў яго абдымкі, не зважаючы ні на што. «Што там якіясьці плёткі, наговоры пра Пяледу?! Што там якіясьці легенды пра цярновыя вянкі, без якіх нібыта не бывае лаўровых?! Усё — дарма! Яна — мужны, валявы, аддадзены свайму Яначку чалавек!»

Яна ведала ўсе яго радасці душы, яна ведала ўсе яго раны душы. Ведала, калі на яго, пераважна «начніцу», «саву», «находзіў» верш, і ведала, калі яго забірала крыўда на кагосьці ці за

штосьці, ведала, чаму гэта раптам ён зноў рашыў «павандраваць па свеце» (гэта азначала пакруціць радыёпрыёмнік). Вельмі далёка ён не вандраваў: звычайна лавіў голас Вільні, Варшавы. Маці дык па доўгіх зімовых вечарах лавіла голас Варшавы, каб паслухаць самое польскай мовы, якая для яе на ўсё жыццё — з часоў засцянковай, рубяжэвіцкай яе маладосці — так і засталася мовай святочнай. Сын жа па польскім радыё прагнуў пачуць голас самой Заходняй Беларусі, народа, адрэзанага ад Радзімы, ад БССР. Мінск у 20—30-я гады быў па сутнасці горадам прыгранічным: 18—19 км было да граніцы ў напрамку на Крыжоўку, Зялёнае — сённяшнія зоны адпачынку Мінска, дзе з таго яшчэ часу можна сустрэць і сёння ўрослыя глыбока ў зямлю цэментныя аграмадзіны бункераў. У прыгранічнай зоне былі Акопы. Вязынка, хата ў ёй, у якой нарадзіўся Купала, была на той бок. У хаце, дзе вісела калыска Купалы, віселі карабіны з багнэтамі і біноклі пагранічнікаў-легіянераў. Па самым Замэчку — курганішчы ля Вязынкі, ішла гранічна-кантрольная паласа. Мы ўжо гаварылі, ішла яна як па самім сэрцы паэта. Гэтая рана на сэрцы Купалы была самая невыносная.

Паэт успрымаў дзяльбу — гора яго зямлі, як дзяльбу жывой, любімай ім істоты. І вось палавіняцца на яго вачах вочы — адно вока тут, другое — там, палавіняцца шчокі, да якіх ён туліўся, як да шчок каханай, і матчыныя грудзі — напал! Які сын мог бы стрываць гэта?! Які — даравацъ?! За што? Чаму? Верш «Каб...», які зрадзіўся з усіх гэтых уяў і пытанняў, быў жорсткі, быў, як ніколі ў Купалы, без агляднкі на тое, што можа быць магчымае на свеце дараванне, прабачэнне. Праклён, толькі праклён!..

А тым часам навіны з Заходняй Беларусі радыё прыносіла хвалюючыя і драматычныя. Беларускі пасольскі клуб у сейме даў пачатак Беларускай сялянска-работніцкай грамадзе. 100-тысячнай Грамадзе! Грамада — пад уплывам КПЗБ. Яе ўзначальвае Браніслаў Тарашкевіч. Вось гэта Тарас! Але грамадоўскі рух — усё часцей Купала чуе па радыё, чытае ў газетах —

пілсудчыкі рэпрэсіруюць. 25 мая 1928 г. Купала як старшыня Камітэта навуковых працаўнікоў і пісьменнікаў БССР па абароне Беларускай сялянска-работніцкай грамады падпісвае зварот да працоўных і дзеячаў культуры свету ў сувязі з працэсам над гэтай арганізацыяй. Грамада, трыумфальны яе выбух у Заходняй Беларусі — радасць Купалы за свой нескароны народ, надзея на магчымае блізкае ўз'яднанне, на пераадоленне самім народам усіх былых і новых гістарычных крыўдаў. Гісторыя, яна — толькі справядлівая! — у гэтым Купала ўпэўнены. І — раптам — зноў расправа, ці ж гэта справядліва?

Весткі з суда ў Вільні — самыя розныя: Браніслаў Тарашкевіч — сапраўдны герой новай беларускай нацыянальна-вызваленчай эпапеі. Але як недастойна паводзіць сябе Антон Лапкевіч: ён таксама арыштаваны, восьмы ўжо месяц сядзіць у панскай турме, але на допытах цалкам адмаўляецца ад свайго ўдзелу ў Грамадзе. Ніякіх фармальных адносін ■ ёй не меў, членства не меў, білета не меў, не ўплываў палітычна, бо лічыць сябе толькі культурна-грамадскім дзеячам. На судзе ўсе грамадоўцы аб'яўляюць Лапкевіча здрайцам Грамады, рэнегатам. Уладзімір Іванавіч Самойла публікуе заяву, якой таксама парывае любыя сувязі з беларускім рухам. «Што сталася, дарагі Уладзімір Іванавіч? Няўжо вы прынялі здраду Антона Лапкевіча за ўвесь беларускі рух? Як бы мне зноў хацелася вас бачыць, Уладзімір Іванавіч!» (У 1927 г., па дарозе ў Карлавы Вары, Купала зноў праязджаў праз Польшчу, і зноў яму было адмоўлена ў візе хоць на дзень спыніцца, хоць на гадзінку заехаць у Вільню). Судовая расправа над кіраўнікамі Грамады вельмі суровая: чатыры паслы — Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Валошын — былі асуджаны на дванаццаць год цяжкага рэжыму. У зале суда, у якім быў прачытаны прыгавор грамадаўцам, нібы апошні раз прагучаў іх гімн «Ад веку мы спалі». І стражнікі, паліцыянты выцягнуліся ў струнку — «на бачнасць»,— такая была натхнёная сіла гэтага спеву, і кветкі ляцелі пад ногі асуджаных, калі іх выводзіла з суда паліцыя. Ку-

пала прыпадаў шчыльна вухам, як глухі, да галасістага, зрэшматы, свайго радыёпрыёмніка, калі слухаў пра ўсё гэта, і ўжо тады ў яго зараілася думка пра ўсё гэта напісаць. Але калі? Тады, калі ўсё скончыцца...

Антон Лапкевіч у той жа год аўдавеў. Не паспеў ён выйсці, як здавалася яму, абеленым з турмы, як прывезеная ім калісьці з Парыжа сарбонская студэнтка — сама родам вільнянка — Софія Абрамовіч пакончыла з сабой: павесілася, пакінуўшы на рукі ўтрапёнага мужа двух малых яшчэ сынкоў. Падкае да сенсацый буржуазнае радыё пускала ў эфір звесткі і пра такое. «Няўжо маладая жонка асуджала ганьбу мужа?» — падумаў Купала, але чужая трагедыя за кардонам на доўгі яшчэ час будзе заставацца для Купалы таямніцай, як і раптоўнае, экспансіўнае адрачэнне ад беларускага руху Самойлы...

Увогуле як гэта так: адрачыся ад самога сябе, адхрысціцца ад таго, з чым ты быў звязаны?! — гэтага Купала не разумеў. Адхрышчваннем ад самой сябе яму здаўся спачатку разрыў Мядзёлкі з Грыбам. А тут адрачэнні Лапкевіча, Самойлы? Мядзёлку, Ласоўскага ён разумее: сваім адрачэннем ад свайго былога яны вярталі сабе Бацькаўшчыну. Мядзёлку можна сапраўды назваць мужнай, бо яна дзеля Бацькаўшчыны пайшла на разрыў з мужам, якога, відаць жа, кахае. Без мужнасці перакрэсліць самога сябе, усе свае апломбы, каб перанарадзіцца, не мог бы і Ласоўскі. Адрачэннем ад міністэрскага партфеля ён таксама зноў знаходзіў Бацькаўшчыну. Іх адносіны, аднак, у акадэміі сухія, афіцыйныя. Часам сустракаюцца яны ў гасцях у сваіх агульных знаёмых. У дзядзькі Вацлава цяпер другая жонка, ад яе ў яго таксама дзве дачкі, і пры іх жыве старэйшая дачка Марыі — Лаздзіны Пяледы — Ганка. Яна вельмі падобная да маці, але Купалы староніцца. Староніцца ўвогуле ўсіх: маладая, яна ўжо замужняя, а малады яе муж у Літве асуджаны на 15 год. Камуніст? Можна здагадвацца, што напэўна камуніст, як напэўна здагадваюцца і Ласоўскі і Ганка, чаго Купала вось ужо каторы раз рвецца, праязджаючы праз Польшчу, у

Вільню. Купалу, канечне ж, хочацца пабачыць малодшую дачку Пяледы — Стасю. Да каго Стася падобная? Ганка, дык — момантамі здаецца Купалу — вылітая Марыя: і сваёй зграбнатой, і бледнатварасцю, і прывычкай да чорнай сукеначкі з вышытай на грудцы стылізаванай кветкай.

Уладзіслава Францаўна ведае пра Лаздзіну. Яна заўсёды нейкая насцярожаная, калі ў кампаніі Ласоўскі і — асабліва — калі ён разам з дачкою ад першай жонкі. Але гэтага ў душы Купалы Уладка стараецца не зачапаць. Робіць выгляд, быццам нічога не ведае, быццам нічога не было. Купала, хоць і заўважае пудлівую насцярожанасць жонкі, за яе маўчанне душой удзячны. Малайчына яго Уладка!..

Дом пад таполяй спачатку быў адкуплены Купаламі ў яго былога ўласніка напалавіну. Толькі на пачатку 30-х гадоў Купала адкупіў і другую палову, і не таму, што Купалы жылі з суседзямі не ў добрай згодзе, а Журан чамусьці не мог адвыкнуць ад прывычкі брахаць на родзічаў — дачасных уладароў другой паловы, калі тыя на панадворак хаты пад таполяй заяўляліся. Купала мог бы і надалей журыць Журана за тое, што ён такі нявыхаваны і абзываць яго шавіністам, так як ён брэша толькі на гасцей яго суседа Ліфшыца, а на прыход гасцей у палавіну Купалы ніяк не рэагуе,— але ў паэтавай палавіне стала цесна: пераехала на сталае жыхарства бабуня — маці Бянігна Іванаўна, трэба было памагаць жыллём сёстрам, у якіх падняліся пляменнікі і пляменніцы, у адной толькі сястры Лёлі — Дзюня, Ніна, Уладак, Янак, Ядзя, і, як заўсёды, быў нехта ўвогуле прытулены ў Купалаў з сірацін, нехта ўвогуле заўсёды начаваў. Так што прычын стаць поўным гаспадаром усяго дома ў Купалы было шмат, і ён расстараўся асобную кватэру свайму добраму суседу, каб жыллёвую праблему сваёй сям'і гэткім чынам вырашыць.

Не сказаць каб дом пад таполяй адразу стаў прытулкам натхнёных музаў паэта, хутчэй — наадварот. Летам 1926 г.,

акурат як куплялі першую палову дома пад таполяй, Купала напісаў каля дваццаці вершаў. Гэта ў год пасля свайго юбілею, у лета, якое можна назваць чацвёртым і апошнім акопаўскім. Вершы гэтага чацвёртага акопаўскага лета былі шмат у чым нечаканымі. Упаўне зразумелым быў адзін з першых іх, напісаны 5 чэрвеня. Верш названы быў «Акоў паломаных жандар» і выяўляў зразумелы імпульсіўны пратэст Купалы — народнага паэта супраць нейкага «Беларуса», які пад такім якраз псеўданімам выступіў у «Савецкай Беларусі» з артыкулам «Вражда из-за языка», выказваючыся супраць ужывання беларускай мовы ў дзяржаўным і грамадскім жыцці і яе вывучэння ў школе. Аргументацыя гэтага нейкага «Беларуса» была, як колішняя Саланевіча з дарэвалюцыйнай мінскай газеты «Белорусская жизнь». А яшчэ больш гнеў патрос усю істоту паэта, калі ён даведаўся, што адзін з аўтараў гэтага артыкула — Аляксандр Пшчолка, той, што колісь сведчыў царскаму суду на яго расправе з «Нашай доляй», той, што сам пісваў пры цару рэакцыйнейшыя пасквілі на беларускае сялянства. І як гэта нехта, як зусім неадумны, мог даць слова гэтаму адроддзю з кодла пурышкевічаў, радзянкаў, саланевічаў? Верш Купалы быў гнеўны ў найвялікшай ступені, нібы землятрус прайшоў па душы Купалы пасля вывіжнага выпаўзання на белы свет старой пачвары варожых яго любай беларушчыне сіл — выпаўзання пасля другой ужо хвалі так званай беларусізацыі краю, пасля другога ўзбуйнення БССР?!

Нечаканым, бянтэжлівым было іншае ў вершах Купалы чацвёртага акопаўскага лета. Летась, на юбілеі, яму столькі было назычана доўгіх гадоў і ад савецка-партыйных работнікаў рэспублікі, і ад мудрых кніжнаю мудрасцю акадэмікаў, і ад сардэчнай любоўю да чалавека мудрых паэтаў і пісьменнікаў, і ад сівых дзядоў, і ад шчабяткой школьнай дзятвы, і г. д., і г. д., а тут паэт узяў ды пачаў лічыць у бары зязюльчыныя «ку-ку», пачаў лічыць, «ці доўга павякуе?», «Замоўкла... Мала налічыў». Адкуль ты, такая нечаканая пасля «рэвалюцыйнай радасці» па-

гудка? Тым больш калі як аб нямрушчым гаворыш ты, паэт, аб беларусе ў вершы «Царскія дары» і ўвогуле сцвярджаеш у вершы «Улетку», што «музыка зычная ў свеце,— моўкнуць нягоды напасці... Хочацца думаць, як дзеці, верыць, як дзеці, у шчасце»? Або адкуль вось гэтая заява ветру: «Без тваёй музыкі дзікай патраплю злажыць свае косці»? «Зычная музыка» і разам, тут жа «музыка дзікая» ветру, якога «нялёгкая гоніць, прыгнала», як бы яму, ветру, людзей, свету без свету яго, паэта, яшчэ мала?!

Верш «Маладая ачуняла» таксама быў як бы выяўленнем пахмелля пасля хмелю радасці, бо кожны ж з чытачоў помніў ужо вобраз у паэта маладой, што «на куце ў хаце сваёй села, чарка мёду ў руцэ, пазірае смела». А тут маладой суседзі рыхтуюць дамавіну, суседкі — кашулю на смерць, і матыў далакопства, так памятны ў Купалы дарэвалюцыйнага, развіты зноў пакупалаўску ярка, з жорсткім, аднак, сарказмам, якога, бадай, не было да гэтага ў паэта. Бо людзі ў яго «надта ж верныя не ў меру» ў сваёй веры ў байкі пра смерць маладой; і што маладая «усё йшчэ жыва, аж суседзям неяк дзіва» — найперш над гэтым здзекліва іранізуе паэт. «Грабар — сусед замежны» — гэта ясна хто: Пілсудскі «дол ёй выкапаў належны, і дамоўка ўжо гатова, і кашуля... адным словам!». Адным словам, адрас замежнага грабара ясны, але каго чакае Маладая — якога Маладога, каханага свайго, хто ёй тут, не за кардонам, гатоў і дамоўку справіць і кашулю на смерць? Аляксандра Пшчолку? Рэдактара, які даў Пшчолку публічнае слова? Ці не раздзьмухвае паэт з мухі слана? І гэтыя ўяўныя хаўтуры Маладой асабліва прыкра ўражвалі пасля фанфарнай песні паэта Маладой на дзяржаўным пасадзе, не ў чаканні чорнага катафалка.

«А суд гісторыі цяжкі!» — выгуквае пасуровелы паэт у вершы чацвёртага акопаўскага лета «І прыйдзе». Гэты верш быў адным з самых першых у савецкі час у выхадзе паэта на размову з нашчадкамі. Клопат паэта тут вялікі, і найперш пра тое, каб «мы па-даўняму нясмела» не «жылі не ў лад і неўпапад».

Грамадзянскай, высокай мужнасці патрабуе паэт ад сваіх сучаснікаў, патрабуе яе ў вырашэнні праблем, канфліктаў, якія час выпісвае на парадак дня.

Кожны паэт заўсёды крыху донкіхот: кожны з іх можа прыняць ветракі за разбойнікаў з вялікай дарогі. Але калі донкіхоты змагаюцца з ветракамі, яны змагаюцца не толькі з імі: яны, рыцары Сумнага Вобраза, змагаюцца гэтым і ўвогуле за ісціну, справядлівасць, прыгажосць, дабрыню. Нібы з ветракамі, змагаўся ў акопаўскім полі ў лета 1926-е Янка Купала, клянучы вецер, размахваючы лістком з вершам пра зязюлю перад прывідам сваёй нібыта блізкай смерці ды і бачачы ў сваіх сучасніках такіх ужо неймаверна здрабнелых нязломкаў, якім, быццам дзецям, трэба напамінаць і што «суд гісторыі цяжкі», і што трэба быць ні сляпымі, ні глухімі, ні баязліўцамі, ні лакеямі і г. д. Сучаснікі маглі б на Купалу і пакрыўдзіцца. Сучаснікам Купалы нават і ў галаву не магло прыйсці, што турбота паэтава пра захаванне наогул вышыні чалавечай годнасці «отныне, и пристно, и вовеки веков», яна была больш, чым да часу, яна была напярэдадні часу, які наступаў. Верш Купалы «І прыйдзе» быў ад геніяльнага прадчування, угадвання, нібы прадбачання таго, што за заслонай часу, хоць быў, можа, і выкліканы — рэальна — усяго толькі адзінкавым шавіністычным наскокам Аляксандра Пшчолкі. У цэлым, аднак, вершы чацвёртага акопаўскага лета, надрукаваныя ў шостым нумары «Полымя» за 1926 г., пакінулі і чытача ва ўрадавых гмахах на тагачасным пляцы Волі, і чытача ці з Калінкавіч ці з Оршы ў нейкай разгубленасці, неўразуменні...

Шчырасць, адкрытасць Купалы-паэта была бязмежная. Без адкрытасці душы ўвогуле няма паэта, геніяльны ж паэт сапраўды пачынаецца заўсёды там, дзе ёсць бязмежжа яго шчырай адкрытасці. Якраз адным з прыкладаў такой адкрытасці Купалы нам застаўся яго верш 1924 г. «...О так! Я — пралетар!..», упершыню надрукаваны цераз год пасля напісання — у зборні-

ку «Безназоўнае». Год на роздум перад публікацыяй для Купалы наогул — гэта доўга. Але можна зразумець і сумненні паэта — публікаваць ці не? — і тое, што гэты верш быў для яго, можа, з самых інтымных, з пачуццямі, пра якія ўслых і выказвацца неяк сорамна, нясціпла. Што Купала быў сарамяжлівы, пра гэта мы ведаем, але ў дадзеным выпадку была яшчэ менавіта і тая адкрытасць, якая не магла затаіць у душы таго, што ў ёй было, таго, што — Купала ведаў — гаварыць уголас, якісці на плошчу з прызнаннем, што ты — за рэвалюцыю, але... ты і не зусім за яе, бо абранніца твайго сэрца — іншая. Ты, праўда, прыняў сэрцам рэвалюцыю, але ты вінаваты, бо з сэрца свайго тае іншае абранніцы не выкінуў, не можаш выкінуць, хоць абавязаны выкінуць, каб быць рыцарам рэвалюцыі, быць толькі адзінае яе адданым слугой. З пачуццём крыміналу, праступку перад рэвалюцыяй гаворыць Купала пра свае сны аб Беларусі, і ў гэтым была праўда паэтавага пачуцця, хоць не было праўды аб рэвалюцыі. Поўнай жа праўды аб рэвалюцыі не было вось чаму.

Верш «...О так! Я — пралетар!..» Купала пісаў як бы пакутуючы ад таго, што не мог паяднаць у сабе, зліць гарманічна ў адно тое, што было ў яго свядомасці разарвана на дзве асобныя часткі, разарвана ў сувязі з распаўсюджанымі на той час уяўамі, догмамі, запатрабаваннямі. Купала называе сябе пралетарам, і гэта знак яго поўнай салідарнасці з Кастрычнікам, поўнага прыняцця яго. Але з якім разуменнем сябе як пралетара? У Маркса было аднойчы сказана, што пралетарыят не мае радзімы, сказана ў пэўным кантэксце,— завод капіталіста — не радзіма для рабочага, заводы капіталістаў пазбаўляюць пралетарыят радзімы, прымушаюць вандраваць па свеце, прадаючы сваю рабочую сілу, адрываючы рабочых ад радзімы. У такім менавіта сэнсе ў Маркса было аб тым, што пралетарыят не мае радзімы, але ў дагматычным тлумачэнні інтэрнацыяналізму выслоўе Маркса стала козырам на карысць таго, што будучае інтэрнацыянальнае яднанне народаў будзе ўвогуле без розных

сантыментаў, розных там інтэлігенцкіх уздыханняў па перажытkавых радзімах, айчынах, бацькаўшчынах. І Купала і ўспрыняў як сапраўды марксісцкае гэтае адвольна дагматычнае тлумачэнне радзімы. Вялікую цану давялося Купалу плаціць, каб стаць пралетарам — сваёй любоўю да Бацькаўшчыны, адрачэннем ад яе. І ён адрокся ад яе, бо не мог не прыняць рэвалюцыі, новага свету, як сваіх. Але што рабіць, калі розумам Купала прымае, не ведаючы, што яно вульгарнае, вульгарнае разуменне пралетарскасці, а вось сэрцам — не можа! Сэрца Купалы наразумнейшае, яно — сэрца паэта і скажонасці прыняць не можа. Сэрца не можа забыць бацькаўшчыны! Сэрцу «сняцца сны аб Беларусі»! «Гэта ж, відаць, так кепска, такі несапраўдны я пралетар,— мучыцца Купала і просіцца: — Даруйце мне, людзі, даруй, рэвалюцыя! Але што мне з гэтым сэрцам рабіць?!»

Ці няпраўда, які шчыры гэты Купала, як адкрыта ён выяўляе сваю духоўную драму, унутраны разлад, які яму баліць? А ведаў бы Купала, што Маркс дыялектычна вырашаў пытанне аб адзінстве нацыянальнага і інтэрнацыянальнага, на нацыянальнае глядзеў як на форму інтэрнацыянальнага, а на інтэрнацыянальнае як змясцілішча лепшых нацыянальных традыцый, матэрыяльных і культурных здабыткаў, і не балела б сэрца Купалы, не было б яго драмы. Праўда, не было б і цудоўнага верша Купалы, а так — ёсць!

Ёсць верш, які паказвае, наколькі любіў, прымаў Купала сэрцам рэвалюцыю і новы свет. Любіў, прымаў так, што на алтар ім нёс, клаў старонку родную, сабе толькі сны аб ёй пакідаючы. Больш гіпербалічнай выявы сваёй пралетарскасці, савецкасці ў Купалы не будзе нідзе, акрамя хіба што ў вершы «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...».

У 1935 г. Купала гаварыў чэшскаму пісьменніку Францішку Кубку: «Я — паэт новай беларускай вёскі. Ясенін і Клюеў доўга ньші па старой вёсцы. Я ж не шкадаваў аб ёй ні хвіліны». Не верыць Купалу нельга, ды і як мог шкадаваць яе той,

які з яе, як мог, вырываўся, арандатар з якога не выйшаў, а пясняр, які з яго выйшаў, паказаў, наколькі цяжкое гэта, нечалавечае жыццё старой вёскі. Але ломку старой вёскі Купала не мог не ўспрымаць без болю, хоць не шкадаваў яе, і гэта хоць бы з той прычыны, што ў старой той вёсцы прадаўжалі жыць яго маці, яго сёстры. І яшчэ было адно ў Купалы: свет стары — свет новы, старую, так сказаць, шкалу каштоўнасцей перад новымі суджэннямі пра свет і людзей Купала ніколі не перакручваў шыварат-навыварат і, так проста, як у вершы «Сыходзіш, вёска, [redacted] яснай явы...», вобразы жыцця старой вёскі і новай, маралі старой і новай вёскі не супастаўляў. І каб гэтую рысу Купалы выявіць, вернемся яшчэ раз у Акопы. Але не толькі [redacted] ім.

Калі Купала жыў яшчэ па вуліцы Захар'еўскай у доме № 135, з ім у адным доме жыў тады і паэт Ісідар Самойла-Тулягер, які звычайна чытаў свае вершы ўголас так, нібы яны былі напісаны без знакаў прыпынку, і ў якога, нібы рытуальным, да канца 20-х гадоў стала абавязковае падкрэсліванне пры знаёмстве з кімсьці, што ён — не *той* Самойла, не замежны. Не пасябраваць з суседам Купала не мог, бо ён быў яшчэ і паклоннік прынцыпу, што нельга любіць чалавецтва, не любячы суседа. Тым больш сусед быў паэт — з новых, абяцаючы. Вось і стаў запрошваць яго Купала ў госці да свае маці і швагра ў Акопы. Запросіны сталі традыцыйнымі, і ўдвух яны, бывала, і летам і зімой, блукалі па ўзгорках і пералесках Акопаў, хоць Купала жыць стаў ужо на Правіянцкай, а потым і ў доме пад таполяй. Але не толькі па ўзгорках блукалі сябры. Яны акуратна ў кожны прыезд па тры-чатыры разы садзіліся і за стол. Мачаў госць у тлусты тук тоўстую аладку, а намачаўшыся ў тук, пераходзіў на мачанне ў смятану ці верашчайку і прыгаворваў: «Уй, уй, цымэс!» — па звычцы балаголаў Даўгінаўскага шляху (бо сам госць быў якраз з сям'і балагола). І госцю гэтаму ні тук, ні аладкі, ні смятана не ставалі ўпапярок горла, і ніколі ён не думаў, што жарэ кулацкі тук, кулацкую верашчаку і хваліць

кулацкую гасціннасць. Але што сталася з візгляватым, здавалася, вечным ухваліцелем гасціннасці маці Купалы і швагра Купалы Юльяна Раманоўскага, калі час павярнуў вёску на новыя рэйкі, калі аказалася, што грэх было весці хаўрус, на які Тулягер так неабдумна пайшоў, які так стаў яго непажадана «пляміць», «кампраметаваць». Тулягер сеў тады за раман. Напісаў першую кнігу, да канца 20-х гадоў — і другую. Назва відавочна паказвала, ад каго, ад чаго ён адхрышчваўся: раман называўся «Юльян Акопаўскі». А каб сумненняў аніякіх не было, што гэта раман пра хутар, да якога Тулягер меў дачыненне, ім быў уведзены ў раман і знакаміты паэт з Мінска — родзіч махровага кулака Юльяна Акопаўскага. Прозвішчам, вядома, герой Тулягера — паэт не выдаваў былога яго суседа па вуліцы Захар'еўскай, але ж, як былы найбліжэйшы друг па вандроўках у Акопах, Тулягер — для непасвечаных — выварочваў менавіта скрытае кулацкае нутро свайго паэта — былога суседа, родзіча Юльяна Акопаўскага. Антон Брэшка — называўся паэт у рамане Тулягера, і аўтар рамана пра кулака Акопаўскага выдаваў сябе толькі за праўдалюбца, нічога скрытага нібы за сваёй душой не пакідаў. І ў сваёй гэтай «адкрытасці» вунь як дэталёва паказваў ён, як гэта «закамуфліраваліся» падпявалы кулака Акопаўскага — ці не сам Купала!..

У адзін і той жа год з'явілася дылогія Тулягера і верш Янкі Купалы «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...» — некалькі элегічны па гучанню радкоў, бо ўсё-такі паэт пісаў аб тым, што сыходзіць, аджывае, гіне, і ўнутранае, шостае чуццё падказвала паэту, што нельга гэта апяваць бравурна-маршава, барабанна. Але ўрачысты разварот вобразаў, апафеоз, захапленне новым вобразам вёскі былі ў вершы сапраўды такія, што выражалі таксама глыбокаўнутранае пачуццё нешкадавання старой вёскі ні на хвіліну, аб якім потым і будзе гаварыць Купала чэшскаму пісьменніку. Поступ гісторыі, прагрэс паэт прымаў як заканамернае — прымаў, вітаў, запрашаў да вітання. Але гэта не значыла, што ён не бачыў, не разумеў драм перабудовы вёскі на новы

лад. Паэт бачыў агульную перспектыву, веліч агульных зрухаў — агульнанародных, агульнасавецкіх. І ён бачыў разам з тым драмы асобных людзей. Паэт сялянства, ён быў да рэвалюцыі песняром таго, што Ленін называў «рассяляньваннем сялянства», «пакутлівым працэсам вымірання сялянства як класа». Пакутлівы працэс адмірання старой вёскі, нараджэння новай і ў 1929 г. быў на вачах у Купалы. Драмы адмірання, пакуты народзін новага. Пакуты, якія прайшлі зноў жа праз самое сэрца паэта, праз яго сям'ю, родзічаў.

...Рыжага Тулягера Купала пасля з'яўлення яго рамана «Юльян Акопаўскі» даволі доўгі час не сустракаў. Сустрэў, калі аднойчы выпала ехаць у Кіеў. Да яго ў купэ адначасова сунуліся, каб разам з ім уладкавацца, даўнішні сябар Купалы Змітрок Бядуля і Тулягер. Купала быў нешматслоўны.

— Пясняр пяці лыжак зацiркі, прошу,— сказаў ён Бядулю, маючы на ўвазе яго славутае дарэвалюцыйнае апавяданне «Пяць лыжак зацiркі».— А з вамі,— зірнуў у бок Тулягера,— мы, здаецца, не галадалі...

Рыжае полымя стаўбураватай чупрыны Тулягера злілося з чырванню твару, што заліла Тулягеру нават вочы.

«Агонь, ты не той...» — падумаў Купала, а ўголас, гледзячы ў акно на паравоз, які набіраў пару, прамовіў:

— Смуродны дым. Воліў бы дыхаць пахам зацiркі.

Уся пастава Купалы была такая, што Тулягер новых рэплік па свайму адрасу чакаць не стаў і выйшаў з Купалавага купэ.

## 2. ГОД 1930-ты

Першы нумар часопіса «Маладняк» за 1930 год быў як для БелАППа звычайны. БелАПП увогуле ўваходзіў у 30-я гады вунь які акрэплы, безапеляцыйны, самаўпэўнены, нібы — дзе там усе 30-я гады, уся вечнасць, што наперадзе — яго пара-

фія, прэрэгатыва, суд і ўлада! Гаварылася, што «поспехі беларускай пралетарскай літаратуры за апошнія часы суправаджаюцца ростам буржуазна-капіталістычнае рэакцыі ў беларускай мастацкай літаратуры», і пра «ўсё больш утончаныя формы» яе змагання; услаўляўся БелАПП, які «правёў вялікую работу па змаганню з буржуазнымі і нацыянал-дэмакратычнымі выступленнямі ў беларускай мастацкай літаратуры», і дадзены БелАППам «бязлітасны бой»; сцвярджалася, што белаппаўцы «ні на хвіліну не павінны заспакойвацца, забывацца на змаганне з вылазкамі...».

На той раз БелАПП даваў бой Міхасю Зарэцкаму і Максіму Лужаніну. Зарэцкі абвінавачваўся ў прапагандзе рамантызму. Падводзілася ў гэтым звязку і тэарэтычная база: «Барацьба навокал рэалізму і рамантызму ў яго канкрэтных праявах і тэарэтычных абагульненнях — такі на сёння тэарэтычны эквівалент класавай барацьбы ў літаратуры». Той, хто за рамантызм, хто адстойвае яго стылёвыя асаблівасці, сцвярджаючы, што стылем масавай пралетарскай літаратуры можа быць ці павінен быць і рамантызм, той вядзе прапаганду буржуазнай, бюргерскай, кулацкай ідэалогіі, бо, напрыклад, у Зарэцкага-рамантыка «ўсе характэрныя адзнакі дробнабуржуазнага рамантызму вельмі лёгка дапасоўваюцца да творчасці...».

Купала не мог чытаць спакойна. У артыкуле пра Зарэцкага ўсё ставілася з ног на галаву. І ў не каго-небудзь іншага, а ў Зарэцкага аўтар знаходзіў «ключ ад нацыянал-дэмакратызму, як брата заходняга фашызму...». Над раскрытым першым нумарам «Маладняка» Купала як бы замёр у глыбокім одуме. Як гэта сапраўды здарылася, што літаратурная барацьба перарасла ў наклейванне палітычных ярлыкоў, у такое абвінавачванне, што хоць адразу стаў таварыша пад сценку і расстрэльвай? Зарэцкі — вораг? І дзе ён, Купала, быў да гэтага, пры гэтым, калі ўсе гэтыя спрэчкі ўсчыналіся, калі ўсё гэта, нібы лавіна, накочвалася? Ці ж ён зломак? Ці не прадчуваў, не папярэджваў? Ці сам ён — не рамантык, не духоўны бацька Зарэц-

кага, Дубоўкі, Жылкі, Хадыкі, Лужаніна? Біць так — адным махам, «хто за рамантызм, хто адстойвае яго стылёвыя асаблівасці, той вядзе прапаганду буржуазнай, бюргерскай, кулацкай ідэалогіі...»? Няшчасныя Шылер, Байран! І гэта так зразумець лозунг «Далоў Шылера»?! Далоў і Купалу?!.

Але Купала пра сябе не думае, ён думае пра Зарэцкага, пра ўсіх, пра каго якраз роўна год таму назад пісаў Клейнбарту: «Усіх іх я вельмі люблю і цаню». Усіх? — пытае ў сябе цяпер Купала.— А Глыбоцкага, Гародню, вось гэтага Іларыёна Барашку, які аб'яўляе сумленнага, баявога Міхася Зарэцкага фашыстам?

Калі, аднак, пачалося гэта? — карціць пытанне Купалу.— З крызісаў «Маладняка», з вылучэннем «Узвышша», з узвышэннем БелАППа? Само па сабе творчае спаборніцтва літаратурных арганізацый даць такога ніяк не магло! Сутычка самалюбстваў? Прага лідэрства? Права тых, хто быў нічым, стаць усім?.. Самалюбства — пагібель мастаку. Гэта сказаў Леў Талстой. Але як маладосці быць не самалюбнай, не самаўпэўненай, не няўрымслівай! Ёй жа даравана святое права і шукаць і памыляцца: у маладосці ёсць час, каб увайсці ў берагі непаспешлівай мудрай сталасці, каб усміхнуцца потым над самой сабою: «Памылкі маладосці!» Але тут зусім нешта іншае! — разважае Купала.— Былая адзіная кагорта маладых вунь як раз'ядналася. А ён іх жа ўсіх увесь час прыбліжаў да сябе і не вельмі заўважваў, каб шалёная злосць нарастала ў іх душах адзін супраць аднаго. У жыцці — сябры, аднакурснікі, адну чарку бяруць, з адных і тых жа сядзіб ледзь не ўсе,— а як даходзіць да выступленняў на старонках друку, кім, чым толькі адзін аднаго цяпер не выстаўляюць.

«Абы ўмець ісці» — гэта ж ён сказаў ім. О, як не ўмеюць ісці!

Якія катэгарычныя, блізарука самаўпэўненыя ў праваце толькі сваёй арганізацыі, толькі свайго часопіса, толькі сваіх выкладак! Чаму ж, аднак, такія зацятыя, напаслівыя, нібы не

беларусы — тэмпераменты, як у Атэлы. Бачыць кожны толькі свой агарод, любіць кожны толькі сваё — да раўнівай зацятасці. Самаўлюбёнасць, эгаізм, кар'ерызм? Але адкуль такому выбухаць ва ўчарашніх свінапасаў, шчырых сялянскіх хлапчанят? Ён іх жа і любіць за сялянскую шчырасць, сарамяжлівасць, цнатлівасць — усіх: і Чарота, і Зарэцкага, і Хадыку, і Дубоўку. Ці гэта запал дыскусіі круціць, хмяліць ім галовы, дыктуе свае законы? Законы ж гэтыя лёгка скеміць: першы закон абароны — нападзенне; цябе не ашчаджаюць, ты не ашчаджай; першым нападзеш, больш шансаў на перамогу; не паспееш першым, паспее першым іншы,— дык — апярэдзіць іншага! Заступіцца за таварыша перад нападкамі іншага, значыць, прыняць нападкі іншага і на сябе,— дык — можа, лепш не заступацца, бо, можа, цябе той іншы і не закране? Хлопчыкі! Але ж гэта ўжо — дыпламатыя подласці!

Вам сярпы і косы ў рукі...
Далі буры, завірухі...

Сярпы і косы ў вашых руках. Калі вы не пад божым сярпом, то не акажыцеся, хлопчыкі, пад сярпамі адзін у аднаго! Сярпы ж вострыя! Трымаючы востры серп у адной руцэ, майце ў другой серп мудрасці — маладзік Скарыны, вы, нашчадкі Скарыны!

...Сапраўды на пачатку 1930 г. шмат пытанняў узнікала ў заклапочаным сэрцы Купалы, і шмат якія з іх заставаліся, як кажуць, адкрытымі, без Купалавага, канкрэтнага адказу самому сабе, без канчатковага разумення ім самім таго, што робіцца, чаму так робіцца, куды ўсё гэта ідзе і да чаго давядзе. Было яшчэ ў Купалы і Коласа і такое адно меркаванне: усё ў бясконцых крытычных баталіях адбываецца яшчэ так няладна і таму, што крытыка ўвогуле ў Беларусі — справа новая. А яна сапраўды была справай новай...

Беларуская літаратурная крытыка ў 20-я гады толькі пачыналася, хоць і мела сваё дарэвалюцыйнае заплечча — крытыку

Максіма Багдановіча, Лявона Гмырака, Сяргея Палуяна, Максіма Гарэцкага. Сярод першых яе прадстаўнікоў сталі Цішка Гартны, Максім Гарэцкі, з маладнякоўцаў вылучыўся Адам Бабарэка, свой вопыт літаратуразнаўцаў і крытыкаў прывезлі ў Беларусь прадстаўнікі рускай філалогіі — прафесары Замоцін, Вазнясенскі, Піятуховіч, Барычэўскі, крытыку якіх — у адрозненне ад маладнякоўскай, узвышэнскай — называлі то акадэмічнай, то універсітэцкай. Акадэмічныя кірункі ў беларускай крытыцы, да якіх прымыкала крытыка старэйшых пісьменнікаў — Цішкі Гартнага, Максіма Гарэцкага, амаль да канца 20-х гадоў былі саліднымі, з рознымі канцэпцыямі і нецярпімасці адзін да аднаго не праяўлялі. Дыскусійнай амаль з самога яе пачатку стала крытыка маладнякоўская, і яна стала ўвогуле разгарачанай, як і ўзвышанская, як і на старонках часопіса «Полымя», калі «Узвышша» стала новым, асобным ад «Маладняка» літаб'яднаннем. Пайшло гэта з канца 1926 г., і Купала меў рацыю, калі абвастрэнне літаратурнай палемікі звязваў з першым крызісам «Маладняка», з выхадам з яго «Узвышша». 1930 год быў далёка ўжо і ад першага крызісу, і ад другога, калі «Маладняк» увайшоў у БелАПП і калі літаратурныя баталіі не толькі не сцішыліся, а вось даходзяць да такіх абвінавачванняў.

Купала мог бы і не папракаць сябе, што ён вінаваты ў чымсьці, што стала дзеецца ў літаратуры, але ён сябе тым не менш папракае. Добра, не ён адзін бачыў, разумеў, што разгул групаўшчыны — бяда. Але што асаблівага зрабілі ён, Колас, Гартны, Зарэцкі, Грамыка, Чарот, калі ў канцы 1927 г. злучыліся ў новае літаб'яднанне — трэцяе? Злучыліся, і толькі, запісаўшы першай задачай арганізацыі аб'яднанне літаратурных сіл. Думалі, само іх злучэнне — «старых», маладых — падасць прыклад паяднання. Не падало ж! Відаць, бяда ў тым, што яны, як ён сам, былі больш памаўклівыя, чым белапаўцы. Алімпійскім узвышэннем свайго «Полымя» (так яны назвалі сваё, трэцяе ў Беларусі літаб'яднанне), алімпійскім маўчаннем што́ сапраўды

можна было ўзяць перад напорам БелАППа? Яны, палымняниы, проста не займелі нават і часу, каб як-небудзь прымірыць, паяднаць «Маладняк» і «Узвышша», бо не паспелі арганізавацца, як цераз год — у лістападзе было створана БелАПП, і «Маладняк», можна сказаць, стаў яе ахвярай: худая карова з'ела тоўстую і стала злавеснай дзікай турыцай. «Полымем» хацелі яны, Купала і Колас, патушыць полымя групавай хлосты, а цяпер вось Бэндэ само «Полымя» топча.

Задоўга, аднак, не верыў Купала ў сілу Бэндэ, бо яшчэ паўгода таму назад — да злавеснага артыкула пра Міхася Зарэцкага, шаноўнаму свайму біёграфу Клейнбарту пісаў: «Дарэмна Вы звярнулі калі не сур'ёзную, то ўвогуле ўвагу на водклікі недавучак-пісак пра Вашу кнігу». Кнігай была «Маладая Беларусь», а крытыкаваў яе Бэндэ. У тым жа лісце Купала пісаў: «Кнігу пра мяне, Леў Максімавіч, канчайце, і яна (я ўпэўнены) будзе надрукавана... Калі Дзяржаўнае выдавецтва БССР будзе ў чымнебудзь не згаджацца, то над ім яшчэ ёсць таксама начальства, з якім пакуль што я ў добрых адносінах». Не ў добрых — у самых найлепшых адносінах з высокім начальствам быў тады Янка Купала, і адно што сціпласць яго не дазваляла яму абвяшчаць пра гэта інакш, чым ён абвяшчаў. Ды сваёй упэўненасцю цешыў сябе і свайго біёграфа паэт дарма, як дарма паэт думаў, што Бэндэ — не сіла, якая перашкодзіць. Перашкодзіць! Яшчэ як перашкодзіць! Кніга Клейнбарта пра Купалу так і не ўбачыць свету, затое ў 1932 г. выйдзе пасквільная кніга пра Купалу Бэндэ, у якой Клейнбарт будзе абзывацца не інакш, як... меншавіцкім крытыкам! Га!.. Ён, Бэндэ, недавучка-пісака?!. Ён вам пакажа «недавучку»! Універсітэтаў не канчаў і Бялінскі! Вы яшчэ не ведаеце Лукаша Апанасавіча!..

Купала на пачатку 1930 г. сапраўды яшчэ не ведаў, што такое «галоўны крытык». Гэта была прэтэнзія, сама ваяўнічасць, напор без ніякіх аглядак ні на што, акрамя на догму, адной-чы засвоеную — дзеля зацвярджэння праваты гэтай догмы. Мерай жа прынцыповасці «галоўнага» была мера ваяўнічасці ў

зацвярджэнні вульгарызатарскай схемы. Якой жа была гэтая схема?

Крытык Бэндэ быў вульгарызатарам у літаратуразнаўстве, які выдаваў сябе за крытыка сапраўды марксісцкага. Ён не быў стваральнікам якой-небудзь уласнай літаратуразнаўчай канцэпцыі і гэтага не скрываў. З тае ж канцэпцыі, што ён, сыходзіла ўвогуле крытыканства дзеячаў ВАППа на чале з Авербахам, Лялевічам і інш. Ён быў як бы падгалоскам Авербаха, заклінаным і ў Беларусі звесці літаратурна-крытычную думку пад адзін знамянальнік — пад схему вульгарнага сацыялагізму. Сама гэтая схема была сфармуліравана ў працах ідэолага ВАППа. У. Фрычэ, з навязвання якое маладому беларускаму савецкаму літаратуразнаўству Бэндэ і пачаў у сваіх «Уводзінах» з «Матэрыялаў да нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры» («Маладняк», 1931, № 5). Рэкамендацыі, як вызначаць ідэйную сутнасць твора, тут вельмі простыя. Бэндэ цытуе Фрычэ, які павучаў: «Па «надбудовах» клас можа, канешне, пазнаць тыя або іншыя бакі свайго класавага «я», як ён па іх можа пазнаць класавае «я» іншых класаў. Але гэта толькі выніковы момант — класы, якія дзейнічаюць у грамадстве, перш за ўсё змагаюцца за сваё існаванне і ўладу, а не займаюцца тым, што застаюцца ў стане сузіральнага пазнання». Вось і ўсё «рацыянальнае зерне» фрычаўскага вульгарызму, з якога вырасла буйное бадыллё далейшых разваг паслядоўніка Фрычэ ў Беларусі, які заяўляў: «Мы падалі досыць доўгую вынятку з працы У. Фрычэ, апублікаванай пасля яго смерці, таму што яна не толькі выяўляе генезіс мастацтва-літаратуры, яго класавую абумоўленасць, але яна адначасова ясна фармулюе сацыяльную функцыю літаратуры. Гэтае асноўнае метадалагічнае палажэнне дапаможа нам выкрыць класавую абумоўленасць, класавую сутнасць і функцыю ў працэсе класавага змагання кожнага літаратурнага стылю ў беларускай літаратуры, а таксама і асобна ўзятага пісьменніка». І так, па «надбудове», г. зн. па літаратуры пазнаваць класавае «я» аўтара, выкрываць класавую абумоўленасць літаратурнага

твора, у якім праяўляецца «я», праяўляецца клас, да якога «я» належыць, бо само гэтае «я» можа функцыяніраваць толькі як прадстаўнік класа, якім яно спароджана. Я — нараджэнне класа, і яно цераз само гэта не можа нікуды дзецца, каб не абараняць інтарэсы свайго класа, быць выражэннем класавых інтарэсаў толькі гэтага класа. Усё вельмі проста, лагічна, ясна. Бэндэ гатоў рабіць татальны перагляд усяе беларускае літаратуры, і ён пачне яго, вядома ж, з правафланговых — з Купалы, Коласа...

Купала, аднак, студзеньскі нумар «Маладняка» за 1930 г. да канца яшчэ не прачытаў. Купала чытае ў ім якраз артыкул Бэндэ — тэарэтычны, аб адносінах да буржуазных спецаў. «Што за праблему спецаў уздумаў ставіць гэты чалавек у 1930 г.? — здзіўляецца Купала.— Цяпер жа не 1917-ты і не 18-ты год?!» Бэндэ ж прадстаўляе сітуацыю ў беларускай савецкай літаратуры, нібы ўсе гэтыя ў ёй дарэвалюцыйныя старыя пісьменнікі, розныя «папутчыкі» (сялянскія і несялянскія) і не думалі прымаць сацыялістычнай рэвалюцыі, усё чакаюць, хто каго, і ўсё ігнаруюць пралетарскую літаратуру, так, як буржуазныя спецы ігнаравалі малады савецкі лад, які ў Кастрычніку нараджаўся. Сядзяць, маўчаць. Чаго маўчаць? Чаму маўчаць? І чаму гэта так доўга верацъ ім?!. Вывад Бэндэ грозны: «Адсякаць!..»

О, тут Купала ўжо адчуў халоднае лязо сякеры, прыстаўленае да ягонага горла, убачыў, што з Бэндэ — не жарты. Гэта не выпад дамарошчанага вульгарызатара — якога-небудзь Гародні, які не так даўно падкусваў Купалу заадно з Уладзімірам Жылкам вельмі празрыстым намёкам, што Жылка як «неабуржуазны» паэт, які знаходзіць для сябе магчымасць выконваць сацыяльны заказ нэпманаў, папоў, кулакоў і карчмароў», пры гэтым адштурхоўваецца ад Купалы, бярэ сабе ў эпіграфы радкі з купалаўскіх «Паяздджан». У Гародні была інсінуацыя, і толькі, тут — у Бэндэ — тэорыя: Купала — «спец», які замоўк і ў 1927 г.— год цэлы не было ніводнага верша, 1928 год — зноў

да снежня — ніводнага. У снежні напісаў два і два пры канцы 29-га. Неахвотна кліча Купала музаў у дом пад таполяй! Ён, Бэндэ, разбярэцца, якія класавыя карані маўчання ў гэтай таполі над хатай маўчуна?! Не разабраліся іншыя, ён — разбярэцца!..

Не трэба думаць, што Купала быў настолькі мудры, каб не падзяляць некаторых ідэй, якія параджаў яго час. Купалам ты быў ці не Купалам, ты іх прымаў, як з малаком мацеры.

І было тое так: прынятае на веру не выклікала сумнення, да пары да часу было бар'ерам, які называюць псіхалагічным і пераадолець які з ходу чалавек не ў моцы.

Што пагражае перш за ўсё чалавечым суджэнням? Прасталінейнасць, меркаванні пра якіясьці з'явы па аналогіі, цераз прыпадабненне аднаго шэрага з'яў да другіх. У выніку зараджаецца схематызм, дагматызм. Рэвалюцыя, што адбылася ў краіне, была вялікай пралетарскай. Адсюль вынікалі прасталінейныя вывады: толькі пралетарскае ёсць вялікае, толькі пралетарскае — рэвалюцыйнае, а новая літаратура, якую нараджае новы час, павінна быць толькі пралетарскай,— літаратурай перадавога класа, пралетарыяту, аб пралетарыяце, для пралетарыяту. Хто першы пралетарскі пісьменнік? Аляксей Максімавіч Горкі. А ў Беларусі? Той, хто піша пра пралетарыят, хто сам выйшаў з пралетарыяту. І першым пралетарскім беларускім пісьменнікам аб'яўляўся Цішка Гартны, бо ён быў гарбаром і грабаром у сваім родным мястэчку Капылі, гарбаром у Смаргоні, рабочым у Рызе і на пецярбургскім заводзе «Вулкан». Цішка Гартны — беларускі Горкі! А першы беларускі пралетарскі паэт, вядома ж, аўтар паэмы «Босыя на вогнішчы» — Міхась Чарот, і пра Чарота буйным шрыфтам пішуць у 20-я гады, як пра Шэкспіра,— дзесяткі артыкулаў, а пра Купалу да 1928 г. была ў «Маладняку» № 9 за 1925 г. толькі адна рэцэнзійка ў 23 радкі петыту. Таксама першым пралетарскім паэтам стаў значыцца Андрэй Александровіч, бо быў сын шаўца, бо свой зборнік на-

зваў «На беларускім бруку». Калі Гартны, Чарот, Александровіч былі першыя, то хто другія? — Купала, Колас?.. Дзяржаўная мудрасць рэспублікі, Партыя і урад Савецкай Беларусі разумелі, што Купала і Колас — першыя, і таму ў 1925 г. Купалу, у 1926 г. Коласу былі нададзены высокія ганаровыя званні народных паэтаў Беларусі. Тым не менш на комплекс «пралетарскасці» хварэлі нават яны, Купала і Колас, бо інакш Купала не напісаў бы ў 1924 г. свайго верша «О так! Я — пралетар...», дзе гэты комплекс найярчэй выказаў сябе. Уласна кажучы, гэта быў комплекс не кагосьці аднаго, а ўсіх, і не са знакам «мінус» быў ён, а са знакам «плюс». Ты — пралетарскі, ты — безагаворачна верны рэвалюцыі, ты — яе, яна — твая — вось што абазначала тады для ўсіх пісьменнікаў слова «пралетарскі», і каб не пачалася спекуляцыя на ім, усчатая літаб'яднаннем РАПП, ВАПП, не было б тае пераацэнкі каштоўнасцей, якая наступіла, якая адсунула Купалу, Коласа як сялянскіх песняроў на другі план, а вылучыла Александровіча як песняра беларускага бруку — на першы. «Пралетарскасць» стала казырной картай у руках ВАПП, а з дня заснавання БелАППа і ў руках БелАППа.

Вялікі Ленін адразу ж адчуў пагрозу псіхалагічнага перараджэння слабых жыццёвым вопытам пераможцаў і на ўвесь голас загаварыў аб камчванстве. Партыя заўважыла праявы яго і ў літаратурным жыцці, і ўжо ў 1925 г. ЦК ВКП(б) прыняў пастанову аб літаратуры. Гэтай пастановай партыя не давала ніякіх выключных паўнамоцтваў ні тым пісьменнікам, якія сталі кваліфікавацца па разраду пралетарскіх, ні тым, якія лічыліся сялянскімі ці інтэлігентамі-папутчыкамі. Гэта было вельмі мудрае рашэнне партыі, асабліва ў тым, што яно пазбаўляла права пісьменнікаў таго ці іншага сацыяльнага паходжання гаварыць ад імя партыі. Галоўным аб'яўлялася прынядце платформы Савецкай улады і даваўся поўны прастор развіццю ўсіх творчых стыляў і індывідуальнасцей, аб'яўлялася поўная падтрымка з боку партыі і сялянскім пісьменнікам, і папутчыкам,

калі яны сталі ўжо на шлях стварэння новай літаратуры новага грамадства. Калі ж яны яшчэ не сталі на новы шлях, гаварылася аб іх перабудове, аб неабходнасці дапамагчы ім перабудавацца.

У першай палове 20-х гадоў не было яшчэ традыцыі, каб літаратурныя часопісы друкавалі пастановы ЦК на першым месцы,— і,— як звычайныя рабочыя,— тыя друкаваліся ў раздзеле «Хроніка». Так друкавалася ў беларускіх літаратурных часопісах і пастанова 1925 г. Ды каб нават і на першым месцы самымі буйнымі літарамі была выдрукавана яна, з'явіліся ўжо на той час сярод пісьменнікаў, якія называлі сябе пралетарскімі, такія зацятыя раўніўцы свайго разумення «пралетарскай чысціні», што і тады б яны не зважалі на сапраўдны сэнс пастановы. Ім жа здавалася, што пастанова ад іх імя, яны чыталі яе толькі ў сваю карысць як нібы *пад іх*, бо як жа партыя можа адмовіцца ад іх, ад «самых пралетарскіх» і самых, самых «рэвалюцыйных», якія павінны зрабіць пралетарскімі і ўсіх гэтых «нячыстых» сялянскіх, інтэлігенцкіх і самых, самых розных іншых папутчыкаў. Так справа перабудовы на рэйкі сацыялістычнай літаратуры манапалізіравалася адной з груп. Ваяўнічыя, грубыя, развязныя да нахабства, вульгарызатары пачалі ствараць у літаратурным жыцці атмасферу жорсткай нецярпімасці да «инакомыслящих», літаратурнае жыццё краіны пераўтварылі ў бедлам, дзе са сваімі літаратурнымі апанентамі распраўляліся як з палітычнымі ворагамі, распінаючы іх на крыжы сваіх вульгарна-сацыялагічных догмаў. І распінанне гэта было, бадай, ці не першай праявай парушэнняў савецкай дэмакратыі. Вульгарны сацыялагізм аказваўся на ўслузе ў гэтых парушэнняў.

Што Бэндэ дзейнічае, парушаючы сацыялістычную законнасць, гэтага не ведалі ні Купала, ні Колас. Гэта ведаем цяпер мы. Бэндэ дзейнічаў ад імя сіл, якія парушалі ленінскія нормы жыцця новага грамадства і якія наш час асудзіў. Але ў тым часе судзіў Бэндэ, судзіў як нібыта былы чопавец, размахваючы перад абліччамі Купалы і Коласа не толькі рукамі. Уся

складанасць пазіцыі Купалы і Коласа была ў тым, што Бэндэ выдаваў сябе і за партыю, і за Савецкую ўладу — за іх права і сілу. Ні Купала, ні Колас ніколі не былі супраць Савецкай улады, супраць партыі, і яны не маглі напачатку проста і падумаць, каб быць супраць Бэндэ, бо гэта ж для іх азначала пайсці супраць Савецкай улады, а як яны маглі пайсці супраць свае ўлады і супраць усяго таго новага, што яны прынялі ўсім сэрцам, што віталі, апявалі і ўва што свята верылі?! Пакуль гэта народныя паэты ачомаліся, пакуль гэта яны зразумелі, хто і што Бэндэ, іх становішча было самае незайздроснае. Амаль над усімі 30-мі гадамі, над усёй беларускай савецкай літаратурай навісаў, як чорная хмара, Бэндэ, і самі народныя паэты спачатку здзіўляліся, адкуль Бэндэ ўзяўся, пасля — каму патрэбен і калі ўсё гэта скончыцца?!

А жыццё бегла сваім ладам. Не адзін толькі Бэндэ ў ім быў. Няхай ён і навісаў над Купалам груганом, ды крыл яго не хапала, каб закрыць сабой усё сіняе неба, і сонца ў ім, і зоры. Люты, сакавік, красавік 1930 года — у рэспубліцы трохмесячнік беларускай нацыянальнай культуры. Купала ездзіць па рэспубліцы: ён выступае з вершамі ў Бабруйску, Віцебску, Хойніках, Мазыры. Асабліва любіць чытаць «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...». Маці не можа прывыкнуць да мінскай хаты пад таполяй, сумуе па Акопах. А сын вітае канец хутаранскіх Акопаў, прагне злагодзіць журбу не толькі сваёй маці сваім апяваннем абавязковых, ды на шчасце чалавечае, на дабро перамен.

Купала чытае ў «Правде» артыкул Сталіна «Галавакружэнне ад поспехаў» і шчыра прымае гэты артыкул як дзейсны, сапраўдны клопат галавы дзяржавы пра сялянства, як сведчанне беражлівых адносін бальшавікоў да людзей. «Савецкая ўлада — мудрая, святая, толькі што людзі, як лес, няроўныя,— думае Купала.— Не ўсе яшчэ людзі аднолькава дараслі да вышыні Савецкай улады, дадзенай усім як бы навырост. Вось і калектывізацыя — навырост: трэба дацягнуцца да яе розумам і сэрцам,

парываючы са звычкамі старога вясковага ўкладу, старой дробнаўласніцкай мараллю, хутаранствам...»

У вандроўках па рэспубліцы забываецца Бэндэ, забываецца артыкул пра «спецаў». Але 14 красавіка ўразіла вестка пра смерць Маякоўскага. Сам на сябе падняў руку?.. На душы ў Купалы было горка.

Май прыйшоў да Купалы зноў юбілейным. 15-га разгарнуў Купала «Известия» і ўбачыў артыкул пра сябе Луначарскага, а 9 чэрвеня ён учуў і голас самога народнага камісара. Было гэта ў Маскве, у Камакадэміі. А. В. Луначарскі — у пенснэ, з бародкай, падобнай да ленінскай, са славай найпершага прамоўцы — гаварыў, што «новая беларуская літаратура не бедная», што «яна налічвае ў сваіх радах нямала буйных паэтаў. Але ўсё ж,— падкрэсліваў прамоўца,— бацькам беларускай паэзіі, якога беларусы нездарма параўноўваюць з Шаўчэнкам і па сутнасці яго паэзіі і па ролі, якую ён адыгрывае ў іх роднай літаратуры, з'яўляецца, безумоўна, Янка Купала». Далей нарком гаварыў пра «асобнае месца» Купалы, які «прынёс свой слоўнік, свае вобразы, сваю паэтычную музыку проста з сялянскіх глыбінь, з цаліны народнай моватворчасці», аб тым, што «многія яго песні пяюцца ў народзе» і што «з імі разам распаўсюджваецца энтузіязм Купалы да адроджанай радзімы». Кончыў нарком сваю прамову словамі, што юбіляр у гэты дзень акружаны «любоўю свайго народа, да якога мы далучаемся ў гарачым ушанаванні літаратурнага і грамадскага служэння паэта».

Ушанаванне было поўнае. Купала чытаў свае вершы, чыталі іх і Міхаіл Галодны, Сяргей Гарадзецкі і ўкраінскі паэт Грыгор Каляда. Калі вяртаўся Купала ў Мінск, артыкулы Бэндэ зусім не ўспаміналіся яму. Была поўная ўпэўненасць: яго разумеюць. Тое, што было дома — малое непаразуменне. Розум павінен перамагчы. Але ў доме пад таполяй чакалі Купалу нечаканыя навіны.

Інстытут літаратуры АН БССР з першых дзён яго заснавання ўзначальваў акадэмік Іван Іванавіч Замоцін. Сын былога прыгоннага цвярскога селяніна, ён стаў літаратуразнаўцам з сусветным іменем: да рэвалюцыі выбіраўся нават рэктарам Варшаўскага універсітэта. Не вельмі рослы, ён быў волатам сваёй справы; добры душою, можа, да празмернага, ён пагэтаму, можа, і быў адміністратарам не лепшага варыянта: пры яго дырэктарстве строгай явачнай дысцыпліны ў інстытуце не было. Даверлівы, ён аддаваў перавагу самадысцыпліне кожнага навуковага працаўніка, верыў у кожнага і давяраў кожнаму. І не выключэнне быў Лука Апанасавіч Бэндэ, які стаў пры Замоціну першым навуковым сакратаром Інстытута літаратуры: стары прафесар паверыў у літаратурную зорку чалавека, які, як і ён, прыехаў збоку, прыехаў — вядома ж! — цэментаваць падмурак маладога беларускага савецкага літаратуразнаўства. Вочы ў Лукі Апанасавіча гарэлі запалам. «Гарэнне — пачатак усяго»,— рашыў прафесар і прыгрэў на сваіх даверлівых грудзях, не ведаючы што.

Не Замоцін фарміраваў канцэпцыі свайго навуковага сакратара: ён іх прывёз гатовымі, нескладаныя ідэі шэфа ВАППа і «иже с ними», як любіў паўтараць вучоны сакратар. Зірнуў вучоны сакратар на поле крытычных баталій — на беларускае поле, і за галаву схапіўся: дрымотная цаліна! Ніхто не прасвятліў яшчэ галоў гэтым правінцыялам ідэямі Фрычэ і Авербаха! Поле, шырокае поле дзейнасці!.. Беларускае буйное, горкае поле: красаваў у табе Сцяпан Булат, таптаць цябе выходзіць Лука Бэндэ!..

Купала, прыехаўшы з Масквы, дадому вярнуўся надвячоркам. Ішоў дадому павальней звычайнага. Маці сядзела на тапчане між бэзу. Падышоў, пацалаваў. Уладкі дома не было. Вярнулася нарэшце аднекуль з Марыяй Канстанцінаўнай. «Адкуль?» — Купала пытацца не стаў. Кветачкі, як ён звычайна ў добрым гуморы называў Уладку і Марыю Канстанцінаўку Хайноўскую — сяброўку Уладкі — былі ўзбуджаны.

*Хай сонца след табе карчуе*
*Да новых песень каласістых...*

— Бяда з Зарэцкім,— сказала Марыя Канстанцінаўна.

Купала моўчкі сеў у фатэль-качалку, якую звычайна займаў Баніслаў Ігнатавіч Эпімах-Шыпіла, называючы качалку «на хвалях Леты». Кабеты селі пры круглым стале. Усе маўчалі. Жанчыны пераглядаліся і то адна, то другая, то абедзве разам, каб пашаптацца, выходзілі на кухню.

Купала нерухома сядзеў у крэсле і маўчаў. Вачэй не падымаў. Гадзіну, дзве, тры. Калі нарэшце ўстаў з фатэля, сказаў:

— Пап'ём гарбаты.

«Что делать будем? — Пить чай!» — успомніла Марыя Канстанцінаўна словы чэхаўскага героя-прафесара. Глядзела на Купалу: было балюча за яго, за любоў яго да Зарэцкага, за пабраных, каго ён любіў. І што ён — з акамянелымі вачыма — думае тры, чатыры гадзіны?!

Уладзіслава Францаўна, прыбіраючы са стала самавар, шклянкі, сподкі, недарэчна брынчала срэбнымі чайнымі лыжачкамі.

...У Лукі ж Апанасавіча ў той вечар настрой быў самы ўзнёслы. Купала не мог таго ведаць, што Лука Апанасавіч сядзеў увесь вечар у акадэмічнай бібліятэцы і падбіраў матэрыялы для чарговага даклада. Вочы яго гарэлі. «Справаздача літаратурна-навуковага гуртка студэнтаў С.-Пецябургскага універсітэта» за 1912 г. Тое, што трэба. «Паглядзім!»... «Як сэрцу Беларусі, сваю ўдзячнасць». Ага! Хто ж гэта, «як сэрца Беларусі», хто «сваю ўдзячнасць»?! Далёка хадзіць не трэба. Часопісы ў стэлажах, падшыўкі газет, «Савецкая Беларусь» за 21 снежня 1924 г.: «Увесь час вядзецца арганізацыйна-агітацыйная праца (во, калі пачалі!). Дзе збірацца, дзе сходзіцца дзеля нарадаў, канферэнцыяў?— у праф. Б. І. Эпімах-Шыпілы... Кватэра старога прафесара — беларускі штаб». Са штаба і пачнём! Двурушнікі! Усе, і гэты, што піша пра штаб. Ды як ні хаваецца ён за сваё рабочае паходжанне, за карэспандэнта «Праўды», за пер-

шае саўнаркомства,— зларадна ўсміхаецца Лука Апанасавіч,— а вось выдае сябе з нутром, як хлопчык. Пільнасць і пільнасць! — патрабуе ад сябе Лука Апанасавіч.— На тое і БелАПП, каб авечкі не драмалі. Не так гарадь гэтыя палымяняны! Ён, Бэндэ, бачыць іх наскрозь — эпігонаў адраджэнства, адраджэнцаў і перараджэнцаў. Знайшлі агульную мову па лініі нацыяналістычнай ідэалогіі. Добрыя ўсе — Купала, Колас, Гартны! (Словы Гартнага выпісваў якраз Бэндэ з «Савецкай Беларусі».) І Зарэцкі добранькі, і Александровіч. Ад іх усе ініцыятывы, яны — галоўныя ўдзельнікі і кіна- і тэадыскусій, і «Ліста сямёх», і «Ліста трох». Вайну са «старымі», калі маладнякоўцы ўзялі апошніх «у рожкі», акулярыстая кобра Жылуновіч (якое нахабства!) называе недарэчнасцю. Адкрываць класавую іх сутнасць час даўно не церпіць. Але хай пачакае Гартны. Сёння чарга ў Бэндэ на Эпімах-Шыпілу. Бэндэ ведае, за які шнурочак пацягнуць, каб як міленькі тут жа раскрыўся маўчун Купала!..

...Папіўшы моўчкі гарбаты, не сказаўшы ні слова на развітанне з жанчынамі, Купала пайшоў у кабінет. Рука і яго пацягнулася да кніг. Знайшоў малесенькага фармату «Падарожжа на Новую Зямлю» Міхася Зарэцкага, выдадзеную летась. Купала мусіць праверыць сябе, мусіць упэўніцца ў тым, што ён не мог памыляцца ў Міхасю. Калі сядзеў у плеценай качалцы, думкі рваліся, як старая кінастужка ў неспрактыкаванага кінамеханіка. Прыпамінаў любімыя з Зарэцкім пасядзёнкі ў Вінгжэцкага — за бутэлечкай віна, на тых століках, што звычайна выносілі на вулічны тратуар з рэстаранчыка паміж Савецкай і плячам Волі. Прыпамінаў Міхаську дома, такога зацятага ў працы за нізкаватым для яго, высокага, столікам. «Горбіцца, як араты над баразной»,— звычайна думаў, заходзячы да Зарэцкага, і радаваўся лірычнай, як называў у душы, згодай, што панавала ў цеснаватым пакоіку Зарэцкіх. Па̀ра сінявокіх! Жонка Зарэцкага была настолькі прыгожай, што пра закаханых у яе сталі хадзіць нават легенды.

А ў трохмесячнік культуры Купала ездзіў з Зарэцкім, ці то ў Хойнікі і Мазыр, ці то ў Віцебск. А мог бы ён з ім паехаць і на Новую Зямлю. Нават з ахвотай паехаў бы, бо выгаворваў жа неяк Міхаську, чаму не паклікаў.

Нарыс,— зноў пераконваўся Купала,— напісаны быў з журналісцкім бляскам, напісаны з клопатам пра Новую Зямлю, пра абнаўленне Палесся. Купала чытае: «...Каб тут разоў у колькі ўзняць культуру гаспадаркі, каб правесці ўва ўсе бакі сошы ды абсадзіць іх фруктовымі дрэвамі, каб пабудаваць новыя вёскі — з каменнымі будынкамі, [redacted] чырвонымі стрэхамі, з электрычнасцю (якраз такія Купала бачыў з Міхаськам, калі яны ездзілі ў Германію),— дык бы гэтая мясцовасць,— заключае свой клопат пра новую беларускую вёску Міхась Зарэцкі,— была падобна на Нямеччыну...» На гэтым вось якраз пра Нямеччыну ўсё. З-за чаго ж тады Міхаська аб'яўлены фашыстам? З-за таго адно, што ён успомніў пра чырвоныя стрэхі, пра сошы, пра фруктовыя дрэвы ля іх? Успомніў Нямеччыну — успомніў фашызм,— вось куды гне абвінаваўца? Але чаму не ўспомніў найперш Гётэ, Шылера, [redacted] фашызм? Па якой гэта логіцы, па якіх гэта асацыяцыях чырвоныя стрэхі і яблыні ля сошаў сталі сімваламі фашызму? Бо фашыстам хоча зрабіць свайго таварыша па пяру крытык?..

Падарожжа ў Новую Зямлю... «Так,— прадаўжае чытаць Купала,— гэта сапраўды Новая Зямля, якую мы адкрываем крок за крокам, якую мы адваёўваем ад Прыроды, гэта сапраўды Новая Зямля, якая дасць нам новыя, яшчэ поўнасцю неацэнныя перспектывы, якая выведзе нас на новыя гаспадарчыя пуцявіны». «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...» крок за крокам: так, гэта сапраўды Новая Зямля, аб якой і не марылі героі «Новай зямлі» Якуба Коласа. Зарэцкі — пясняр паходу ў гэтую Новую Зямлю. Але ўжо за тое, што ён напоўніў сімвалічную назву найлепшай з паэм Якуба Коласа новым зместам, ужо за тое верне носам Бэндэ, абвінавачваючы, што Зарэцкі толькі на словах пра перспектывы, а на справе ж ён нібыта ўсё пра тую ж

мілую яго сэрцу хутаранскую палітыку, мілую паэтызацыю кулацкай гаспадаркі ў Коласа. Логіку Бэндэ Купалу няцяжка ўявіць, але яму ад таго не лягчэй, яму ад таго толькі гарчэй сціскаецца сэрца. «Як робіцца хараство» — вось і пра гэта высокі клопат Міхася. А як апаэтызавана ў яго вада, Арэса, люстраное ўлонне яе разліваў, пошум чароту! Купала сам павінен гэта ўбачыць. Купала сам павінен выбрацца хоць калі ў гэтую Любаншчыну, на берагі красуні Арэсы. Калі Любань, то не любіць яе напэўна ж немагчыма. Я палюбіў ужо цябе, Арэса, цераз Міхася, і я, як Міхась, павінен услухацца ў пошапт тваіх чаратоў, Палессе!.. Але — калі?..

Міхась Зарэцкі пісаў і пра Міхася Чарота. Чарота ён не мог не ўспомніць між зялёнай паводкі палескага чароту, называючы паэта, нібы разам з дзядзькам Купалам, нашым, любым, слаўным і думаючы, «які ён шчаслівы, што сваю звонкую буяную творчасць здолеў звязаць адзіным магутным, поўным нацыянальнае самабытнасці, вобразам шумлівага чароту!» «Шчаслівы? — пытаў сам у сябе Купала.— Буяная творчасць?..» Зварот Міхася да Міхася — Купала разумеў,— быў як поціск рукі сябра, як лішняя ўвага, якая вунь як патрэбная цяпер Чароту. Усе яны на вачах Купалы — у шчасці і ў горы. Былы, заўсёды вясёлы Чарот ужо не першы год стаў шукаць весялосці ў чарцы. Лепш бы не пісаў ён свайго «Грышку Свінапаса», лепш бы не было і «Лясной былі», фільма, які быў пастаўлены па сюжэту гэтай яго надзвычай папулярнай, партызанскай прыгодніцкай аповесці. Жонка Чарота іграла галоўную гераіню «Былі». Пасля гэтага яна перастала быць жонкай паэта, стала жонкай рэжысёра. А забыць яе Міхась не мог, забыцця пачаўшы шукаць у чарцы і, відаць, дасюль не знаходзячы.

Лёс і самаго яго, Купалу, кідае, як шчэпку на хвалях. Вось ён ужо і без Марыі Канстанцінаўны не можа. Ягоныя адносіны з Уладкай уступілі ў такую пару, калі ўжо не абысціся без трэцяга няліпняга. Марыя Канстанцінаўна паміж імі і нібыта масток, і нібыта громаадвод — масток, на якім яны з Уладкай па-

даюць адно аднаму руку згоды, громаадвод, які зазямляе праз сябе раздражненне таго ці іншага боку — і раздражненне, і крыўды, і маланкі.

Былі б, можа, у іх з Уладкай дзеці, было б у іх тое, на чым сыходзіліся б іх агульныя інтарэсы. А калі дзяцей няма? Прырода не любіць пустаты. І Купала ўпаўне разумее, чаму Марыя Канстанцінаўна патрэбна і Уладцы і яму. Уладцы яна патрэбная, каб аберагаць яго ад кампаній, бо Марыя ж Канстанцінаўна Хайноўская працуе ў літфондаўскай паліклініцы, на яе вачах усе пісьменнікі, а Янка ж з палiклінікі, з Дома літаратара можа завіхрыцца любы дзень бог ведае куды, а тут яму руку і падае Марыя Канстанцінаўна, якой толькі што пазваніла цёця Уладзя, і ўжо роўна а чацвёртай гадзіне Янка напэўна будзе дома. А яму, Янку, таксама няліпшая пàра воч — маладзейшых, зырчэйшых ад яго воч. Пад іх праніклівым позіркам Уладачка яшчэ павінна падумаць, рашацца ці не на што-кольвечы. Што, Купала Уладку раўнуе? Раўнуе не раўнуе — не скажам, але што ён не хацеў бы мець падстаў да чагосьці падобнага і лічыць, што перш чым упасці, лепш падкласці саломкі,— пра гэта скажам...

Было ўжо далёка-далёка за поўнач, калі Купала канчаў перачытваць «Падарожжа на Новую Зямлю». Дбаючы пра новы на вёсцы побыт, журналіст Зарэцкі востра ставіў таксама праблему новай яе духоўнай культуры. Пісьменніка зачаравала прыгажосць Палесся, але якія песні ён пачуў на абноўленых ужо меліярацыяй прасторах? Зарэцкі, канешне, завастраў праблему, згушчаў фарбы, каб завастрыць яе. Але ці ж праблема духоўнасці не патрабуе ў любы час самага рэзкага завастрэння?

Зарэцкі мог і напраўдзе чуць гэта, мог і дабавіць ад сябе. Пісьменнікі добра ведаюць, як гэта робіцца, калі завастраюць праблему. Зарэцкі прыпамінаў чутыя ім на Палессі радкі «жорсткіх» дарэвалюцыйных рамансаў.

Гэта быў натуральны бунт мастака супраць пошлага ў духоўным жыцці свайго народа, натуральны клопат пра ўзвы-

шэнне яго духоўнасці, пра развіццё лепшых нацыянальных культурных традыцый.

Апошні абзац раздзела быў як бы рэзюме Зарэцкага і па кіна- і па тэадыскусіі. «Яшчэ я падумаў,— пісаў Зарэцкі,— як часта і цяпер у наша мастацтва — у літаратуру, у тэатр, у кіно — пападае замест праўдзівых дасягненняў братняй культуры пустое бруднае пазаддзе, і мы з рабскай пакорай («нязломак, нязломак»! — думае пра Зарэцкага Купала), з рабскай пакорай прымаем яго, мы яго ўзвышаем, мы кідаем пад ногі яму праўдзівыя перлы сваіх уласных дасягненняў (хіба можа быць што-небудзь добрае з Назарэта!). І знаходзяцца яшчэ ішакі (аслы), якія, вульгарызуючы і прафануючы праўдзівыя думкі правадыроў, у тупой абмежаванасці сваёй заяўляюць, што гэта ёсць наша правільная арыентацыя!»

У наш, сённяшні час тое, за што змагаўся — адкрыта, страсна, бясстрашна — Зарэцкі, гісторыкам літаратуры абсалютна ясна. Не толькі таленавіты мастак слова, але і проста цвярозы, глыбокі розум, Зарэцкі вульгарызацыю называў вульгарызацыяй, прафанацыю — прафанацыяй, намякаючы дастаткова выразна разам з тым на пагрозу засілля кан'юнктуры, дэмагагічнага размахвання вымпелам ідэйнасці, пад якім, нібы шэдэўры новага мастацтва, вунь як могуць шугнуць на сцэну, і ў кіно, і ў літаратуру творы мастацкі бездапаможныя і халтурныя. Мастак Зарэцкі адчуваў, бачыў, разумеў, дзе мастацтва, а дзе падробка, бачыў, што, чым у каго менш мастацкага дару, большага ўдару чакай ад таго. Але Зарэцкі не зважаў ні на якія ўдары, ён гаварыў усё да канца: ставіў кропкі над «і». «Такі вытрыманы,— думае Купала,— мог бы ты, Міхасёк, абысціся без «ішакоў» і «аслоў» і без «тупой абмежаванасці». «Не мог! — выгуквае, нібы ў Вінгжэцкага за столікам, вышэйшы ад Купалы на паўгалавы Міхась Зарэцкі.— Рэ-эчы,— расцягваючы словы больш звычайнага,— трэ-эба называць іх назвамі,— заключае Міхась,— інакш, хто калі даведаецца, якімі мы сапраўды былі і што і як мы на свеце сваімі галовамі разумелі?.. А што

праўдзівыя думкі правадыроў — у гэтым я не меў ніколі ніякага сумнення!»

Як і ў першую хвіліну пасля весткі аб Зарэцкім, так і цяпер Купала думае адно і тое ж: «Непаразуменне! Якое вялікае непаразуменне!.. Але...— і гэта ўпершыню над кніжкай Зарэцкага «Падарожжа на Новую Зямлю» Купала самому сабе гаворыць: — Пяройдзе! Папалепшае!» — гаворыць не ў суцяшэнне сабе, не ў згодзе з тым, што здарылася, не ў прымірэнне з тым, што адбываецца, але з той жа высокай верай, што і ў Міхася Зарэцкага, у праўдзівыя думкі правадыроў, у справядлівасць Савецкай улады, у немажлівасць пры ёй, каб несправядлівасць займела сабе ўладу неабмежаваную. А калі несправядлівасць дзе калі на які момант і вытыркае хітрую галаў, яна самім савецкім ладам наперад асуджана. «Яшчэ ніколі такога не было, каб нічога наперадзе не было,— перафразіроўвае Купала словы дзядзькі Амброжыка,— яшчэ ніколі такога не было, каб у канцы не справядлівасць, а ліха перамагала... Але навошта, пашто ўсё гэта?!»

Думаць, што Купала ўсё чыста разумеў, што і чаму і дзеля чаго ў яго жыцці, ва ўздыбленай да новага незвычайнага жыцця ўсёй краіне адбываецца так, а не іначай, было б, канешне, наіўна.

Але яшчэ больш наіўна было б думаць, што Купала не кідаўся ў сваіх думках у розныя бакі, прагна, нястомна шукаючы адказаў на ўсе «чаму?», «навошта?!».

Сюрпрызам для Купалы гэта не было. Яшчэ ўчора Андрэй Александровіч быў з Купалам у літаб'яднанні «Полымя», сёння — у БелАППе. Учора ён падпісваў з Зарэцкім «Ліст трох», размашыста, без асаблівых на тое падстаў, папракаючы універсітэт, у якім вучыўся, у ігнараванні беларускай мовы (во які ён волат-змагар супраць шавіністаў, дзе б яны толькі ні аб'явіліся), а сёння, каб залагодзіць Бэндэ, ён ужо ў хаўрусе з ім. Пагадненне вунь якое: «Я — ваш, белаппавец, вы — забываецe-

ся пра мой «Ліст трох»!» А не сюрпрызам для Купалы было вось што: шосты нумар «Полымя» гэтага года, які адкрываўся «Паэмай імя вызвалення» Андрэя Александровіча і ў якой Купала чытаў:

...Беларусь у Янкі Купалы
Безназоўнаю векавала,
А ў Якуба Коласа
І пазбаўленаю права голаса.
У Бядулі — бядой бедавала,
У Гартнага — ледзь бунтавала,
А выйшла — безназоўная і безгалосая,
Па Чароту, на вогнішча босая,
Па Александровічу ж Андрэю
Ахрысцілася ў завеях
 і цяпер завецца
 Беларуссю Савецкай.

«Яшчэ адзін прэтэндэнт, які ўсё перакрэслівае»,— думае Купала і кліча Уладку:

— Пачытай!..

Цётка Уладзя пацiснула плячамі:

— Юнгштурмаўка наросхліст...

...Купала быў ужо Купалам, ён — Андрэйкам са Старажоўкі, а калі Купала ў «Беларускай хатцы» гладзіў па бялявай галоўцы яго, дэкламатара Купалавага верша, быў яшчэ гэты Андрэйка і харыстам Тэраўскага. Быць у хоры ды не стаць салістам, тым больш у такі час, які можа вунь як падхапіць, узнесці цябе, хлопца з беларускага бруку, з вуліц і плошчаў, дзе ўрачыста грыміць, кліча, натхняе: «Хто быў нічым, той стане ўсім!..».

О благаславёная шчодрасць рэвалюцыі, ты сапраўды благаславёная, ты ўзняла з гібення краіны і народы, узнесла чалавека працы на нябачныя вышыні ўвагі і павагі! Гэты чалавек працы сапраўды стаў усім у краіне молата і сярпа — упершыню ў гісторыі! Ды ці заўважыла ты, шчодрасць рэвалюцыі, як у тваю атмасферу адкрытых мажлівасцей прарвалася, нібы кантрабанда, і прага стаць усім, не зважаючы ні на што: стаць першым

дэкламатарам, хоць у цябе няма голасу; стаць усім, хоць ёсць ужо нехта і ты ніяк не вышэй яго, ты вышэй сваёй галавы не скочыш. Ды дэкламатар пачынае думаць, што становіцца ў паэзіі ўсім, хоць ён усяго толькі добры дэкламатар вершаў кагосьці. І ад таго, што ён тым жа добрым голасам дэкламуе потым свае вершы, вершы яго не становяцца ад гэтага лепшымі. Але ён, дэкламатар, ужо заняў месца, да яго ўжо прывыклі, прывыклі да таго, што ён — першы дэкламатар. І хоць ён толькі дэкламатар, што ён — дэкламатар, ужо не заўважаецца, забываецца, выпадае з памяці, і застаецца на вуснах у маладасведчаных *лепшы, першы.* І так думае пра сябе сам гэты лепшы, першы, зусім не зважаючы на тое, што ён жа першым будзе і забыты!..

Браніслава Ігнатавіча было не пазнаць. Дрыжалі рукі, дрыжалі губы. Увесь ён быў як аплёваны. Не было ні вясёлага яго «Янaчка, як жывеш?!», «Уладачка, як жывяце?!» Сказаў толькі: «Да вас, даруйце, да вас», грузна сеў у фатэль «на хвалях Леты» ў кутку гасцёўні. Пачаў гаварыць, нешта забываючыся, цераз нешта пераскокваючы. Дзе дзелася прафесарская строгасць, прытоеная ў пышных вусах, уласцівая Браніславу Ігнатавічу ўсмешка:

— Бэндэ... Стары ліс... Нацдэмаўскі штаб...

Атрымлівалася, што Бэндэ — стары ліс, нацдэмаўскі штаб, але для Купалы і для Уладзіславы Францаўны было ўжо ясна, што́ прывяло ў такі непазнавальны стан прафесара.

— Я — высакародны...— гаварыў далей прафесар.— Не шакал, як думае твой...

Купала быў падумаў, што пра сваё высакародства нечакана павёў гутарку Браніслаў Ігнатавіч, але тут жа зразумеў, што ён гаворыць пра высакародства шакала, а прафесар прадаўжаў:

— Але выбірайся сам... Сам! Адкуль прыйшоў... Савецкая ўлада добрая... Павесіць мала! Павук; сонца не відно; заткаў

усё сваёй... як там тое слова?.. павуцінай... Выбірайся ў 24 гадзіны!

— Якое ён мае права?! — абурылася Уладзіслава Францаўна.

— Шакал праў не пытае!

Купала быў бледны. Сказаў, не пазнаўшы свайго голасу:

— Пабудзьце ў нас. Пасядзіце! Уладка!.. Пасядзіце! Гэтага нельга пакінуць...

Купала шукае свайго кійка: «Дзе мой конь?.. Я іду... Я — зараз...»

...Бэндэ ў сваім кабінеце вучонага сакратара сядзеў адзін. Пастукаўшы ў дзверы і не чакаючы запрашэння, увайшоў Купала:

— Дабрыдзень!

— Здрасце! — сказаў Бэндэ, робячы выгляд, што ўсміхаецца, што рад такому паважанаму госцю.— Чаго так рана? — каб нешта спытаць, спытаўся ў Купалы.

— Не рана,— адказаў Купала.

— Дык позна,— у тон Купалу прадоўжыў Бэндэ,— хоць,— бліснуў вачыма,— лепш позна, чым ніколі.

Купала яшчэ ніколі не быў у кабінеце вучонага сакратара.

— Лепш бы ніколі,— зводзіць гаворку на жарты Іван Дамінікавіч не збіраўся і, паказаўшы гэта, пачаў афіцыйна:

— Лука Іпалітавіч!

Твар Бэндэ перакасіла:

— Які я вам Лука Іпалітавіч?!.

— Даруйце,— сам не ведаючы, як гэта ў яго вырвалася, ружавеючы, уставіў Купала,— было ў мяне адно такое прыемнае знаёмства,— тлумачыў.

— Ведаю вашы знаёмствы! — павысіў голас Бэндэ.— Я вам і не ніякі Лукаш Апанасавіч з вашай нацдэмаўскай беларусізацыяй! Годзе! Я — Лука Афанасьевіч!..

— Усё роўна...

— Што ўсё роўна?!

— Лука Афанасьевіч, я прыйшоў афіцыйна сказаць вам, што вы не маеце ніякога права так паводзіць сябе ў адносінах з паважаным усімі прафесарам Браніславам Ігнатавічам Эпімах-Шыпілам, як вы паводзіце...

Купала ніколі не гаварыў такіх доўгіх фраз і, давёўшы яе да канца з відавочным ад непрывычкі намаганнем, змоўк. Бачыў, Бэндавы рукі ляжаць нерухома на вялікім канцылярскім стале. Белыя. Незвычайна белыя. «Ён музіцыруе»,— успомніў, што гаварылі пра яго ў акадэміі. Пальцы, нібы ў піяніста, доўгія. Без кальца. Але чаму такія панскі-белыя? Ён жа кажа, з парабкаў, з пастухоў. Пастух і раяль. У іх у Акопах, праўда, таксама ў зальчыку стаяў раяль. Але ён, Купала, санаты Бетховена не сыграе. Загадка рук? Каб толькі рук?! Сам нібы з Чэхіі, але не Пічэта, нібы з Латвіі,— а не Кнорын. Хто ты, Бэндэ?!.

Думкі праляцелі, як жыганула маланка. Ціша-пярэрва паміж тым, што сказаў ужо Купала, і тым, што яшчэ меўся сказаць больш мяккім, неафіцыйным, тонам, была амаль няўлоўнай.

— Да таго,— дадаваў Купала,— ён стары чалавек.

— Нацдэм,— адрэзаў Бэндэ.

— Дайце памерці на радзіме,— ледзь ужо не просьбітам дадаваў Купала.

— Класавы элемент,— бліснчаў вачамі Бэндэ.

— Я за яго заступаюся,— цвёрда сказаў і ўстаў з крэсла — рэзка, на ўвесь рост — Купала.

Ускочыў на той бок стала і карлікаваты супраць Купалы Бэндэ.

— Вы такі самы, як ён,— проста ў нейкай радасці, як пераможац, як той, хто даказаў тое, што трэба было даказаць, крычаў Бэндэ. Купала сказаў:

— Калі я нацдэм, уся беларуская літаратура нацдэмаўская.

— Пад нацдэмаўскім уплывам. Уся. Але ёсць і здаровыя элементы,— голасам пракурора вёў Бэндэ.

— Хворыя... адсякаць? — пытае Купала.

— Нацдэм! Нацдэм! Нацдэм! — крычыць вучоны сакратар, і вочы яго блішчаць чорным агнём.

Купала сеў. Сам не ведаў чаму, але сеў. Бэндэ ж прадаўжаў стаяць. Ён гаварыў, гаварыў. Купала сядзеў, нібы на лаве падсудных. Адбывалася тое, што Купала звычайна называў «Энеідай навыварат», калі той ці іншы радок у яго ці ў кагосьці іншага ў вершы здаваўся яму дрэнным. Ішла «Энеіда навыварат». Нейкая містыфікацыя, ці што. Выдатным прамоўцам быў Анатоль Васільевіч Луначарскі. Што за прамоўца быў Бэндэ, у ягоным кабінеце Купала мог пераканацца на ўсё жыццё. 9 чэрвеня Купала слухаў першага камісара культуры СССР, 29 чэрвеня ён слухаў Бэндэ. Першы камісар гаварыў пра яго тое, што дагэтуль гаварылі Чарвякоў, Адамовіч, Галадзед, Замоцін, Ігнатоўскі, усе, хто выступаў і пісаў пра яго на ўрачыстасцях 20-годдзя, 25-годдзя (трыццаць выступленняў, дваццаць шэсць выступленняў). Усе гэтыя выступленні перакрываліся цяпер адным — Бэндавым. Той — супраць Луначарскага, Чарвякова, Галадзеда, Замоціна, Ігнатоўскага. Ён пачаў, і ён будзе біць ва ўсе звоны аж сем, восем гадоў. Луначарскі сказаў раз, і хоць яго трыбуна была самая высокая — усесаюзная, маскоўская, і хоць яго слова было словам аднаго з першых камісараў рэвалюцыі, якому сам Ленін наперад сябе аддаваў на разгляд справы літаратуры і культуры,— наперад Луначарскага забягаў Бэндэ і тварыў, тварыў сваю «Энеіду навыварат». Напалеончык ад літаратуры, ён прыўлашчыў сабе гэта права сам — ад імя БелАППа як пасланец ВАППа перакроіць літаратурнае жыццё ў БССР па рэцэптах ВАППа. І былі яшчэ грубасць і жорсткасць, якіх крытыку было не пазычаць, упартасць да фанатызму, задаволенасць ад займетай улады, ад таго, што яго баяцца.

...Бачыла б Уладзіслава Францаўна твар Янкі цяпер! «Галоўны» быў у разгары свайго цемрашальскага красамоўства.

— Нацдэм, Іван Дамінікавіч, нацдэм, і гэта я скажу кожнаму, з кожнай малой і вялікай трыбуны, я скажу, калі Вы самі не скажаце. І Ваш Шыпіла, і Вы,— мы ўсё ведаем. Дайшлі ўжо

да таго, што ў сваю банду запісваеце працоўнае беларускае сялянства. Вунь самі Вы трымаеце ў руках рэчавы доказ Вашай падпольнай контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай дзейнасці. Не адмаўляйцеся! Вы не зможаце адмовіцца! Калі не пасведчыць Амброжык, пасведчыць Ваш кій. Дык колькі налічвала ваша арганізацыя? Палічым, выявім! Маладая Беларусь? Каму Вы гаворыце?! СВБ! Не чулі?! Саюз Вольнай Беларусі! «Маладняк», «Узвышша», «Полымя» — ячэйкі... Прагарэлі, паны нацдэмы!..

«Энеіда навыварат» прадаўжалася. Купалу пачало здавацца, што перад ім зусім не крытык, а даўні вобраз ягонага Чорнага, ён жа, Купала, зусім не ў кабінеце вучонага сакратара, а ў даўнішнім — самога прафесара Шыпілы, на чацвёртай лініі Васільеўскага вострава. Купала бачыць перад сабой белы крыж аконнай рамы, на ім — раскрытая пашча Чорнага. Чорны энергічна жэстыкуліруе, сычыць:

Ўправа, ўлева, ўлева, ўправа
Аплятаці шчыльна, жвава

(чым аплятаці? Павуцінай вульгарнага сацыялагізму! Павуцінай вульгарнага сацыялагізму!..)

Абручамі ў знак, не ў знакі,
Як гадзюкі, як вужакі.

О, і ў знак, і не ў знакі ўмее плясці сваю забойчую сетку Бэндэ! О, умее тварыць сваю нерукатворную «Энеіду навыварат»!

— А вы не думайце,— чуе Купала голас Бэндэ,— што тут нехта штосьці навыварат пляце. Не дазволім!

«Ён чытае думкі, ці што?» — жахаецца Купала.

— А сувязі ўсе выкрыем,— прадаўжае Бэндэ.— У вас — папкі, і ў нас — папкі. І вось выразачкі на вашага Коласіка, на вашага Цішачку, Міхасечку, Валодзечку, Сымонку. Вось фатаграф'ечкі! Не пазнаяце? Тут ужо вас нямала. 1926 г. Змітрок

Бядуля, Крапіва, Пушча, Бабарэка, Дубоўка, Глебка, Чорны. Кампанія porządna[1], і ў цэнтры першы — вы, другі — ведаем гэтага міністра культуры буржуазнай Латвіі. Што, у 26-м годзе ўжо заводзілі сувязі? Тулягер — малайчына! Ён і пра гэтага Райніса напісаў, і пра Іларыёна[2], і пра Антона... Нацдэмчыкі, галубчыкі! — любуецца фатаграфіяй Бэндэ.

— Я вам раю,— настаўніцкім тонам пачынае Бэндэ,— адкінуць усе гэтыя нацдэмаўскія замашкі,— адмовіцца, публічна, а то...

Не падаўшы Бэндэ рукі, Іван Дамінікавіч выйшаў з кабінета бледны, абураны і толькі цяпер з усведамленнем таго, што сюды яму не было чаго заходзіць, што трэба было яму зайсці да Замоціна, і што яго дарма сюды прывяло слова Браніслава Ігнатавіча — тое, што прафесар першым чынам сказаў пра загады Бэндэ, пачаў з яго асобы. Асоба?! Здзек! Але што сапраўды рабіць Браніславу Ігнатавічу? Купала зайшоў да Івана Іванавіча Замоціна. Той разгублены. Відаць, лепш на час прафесару з'ехаць у Ленінград. Пайшоў Купала да Прэзідэнта. Абстаноўка, аказваецца, сапраўды завіхраецца не найлепшая. Пакуль у акадэміі ўсё ўлагодзіцца, няхай лепш Браніслаў Ігнатавіч спакойна з'едзе. Дзеля яго спакою, шчаслівай спакойнай старасці...

Праважаў Янка Купала з Уладзіслававай Францаўнай любімага імі, так дарагога ім Браніслава Ігнатавіча Эпімах-Шыпілу сапраўды праз 24 гадзіны. Стары прафесар здаўся ім раптам на сто гадоў старэйшым, чым быў, калі весела завітваў у іх дом пад таполяй на працягу ўсіх апошніх пяці год. Старэнькі-старэнькі, ён ледзь падняўся на падножку вагона, няўклюдна прасунуўся з тамбура ў вагон, але каля акенца не стаў. Купала з Уладкай махалі, сумныя, пустому акенцу вагона, у якім ад'язджаў бязвінны прафесар.

---

[1] Шаноўная.
[2] Маецца на ўвазе Іларыён Свянціцкі.

Усё лета і ўсю тую восень 1930 г. Янка Купала вяртаўся дахаты позна. Позна вяртаўся і не ў гасцінай заставаўся, а зашываўся, як казала Уладзіслава Францаўна, у спальню. Усё маўчаў. Гэта быў час зацятасці і маўчання Купалы. Зразумеўшы гэта, Уладзіслава Францаўна не крыўдзілася на мужа, прымала як належнае, разумела, што так мужу лягчэй, што гэта яго злечвае — адзіны яго паратунак, ягоны сродак пераадолення гора, якое абвалілася на галовы гэтулькіх яго сяброў-прыяцеляў, на ягоную Купалаву галаву. Ружы ў садзе не радавалі, марская галька ў кабінеце перастала шумець морам. Але руж няма без шыпоў — хто гэтага на свеце не ведае? Таму і шыпы прымаліся як належнае, думалася: «Часовае!.. Папалепшае!..» Але ж пачуццё віны не адступала — віны бацькі перад арлянятамі. Ён жа іх нарадзіў! Нарадзіў, каб на іх галовы раптам спадалі такія пакуты?! Ці не з яго, значыць,— пачатак іх пакут? Ці не яго першая віна, што яны пакутуюць, яго сыны і дочкі, яго белыя сокалы і арляняты? Пра гэта цяпер вельмі часта думаў Купала, гэта былі мукі сумлення вінаватага і невінаватага Купалы, бо ён гэтаксама ясна разумеў, што не праспявай песню Маладой Беларусі ён, яе праспяваў бы любы іншы Іван, Ян, Ясь, які не мог жа не нарадзіцца ў народзе, калі гэты народ быў, аказаўся на гэтым свеце, ёсць. Але Маладую Беларусь Бэндэ выдае за варожую Савецкай уладзе Беларусь, сыноў Маладой Беларусі, яго, Купалы, сыноў, аб'яўляе нацдэмаўскім адроддзем, контррэвалюцыяй.

Савецкая ўлада, яна самая найлепшая на свеце, але вунь колькі віжоў і смаўжоў аказалася ніжэй яе, не дарослымі да яе: вужамі пад ёю. «Вверх взлетает Сокол, жмется уж к земле». Вужам не суджана лятаць і пры Савецкай уладзе! Але яны хочуць быць Сокаламі. Вужы хочуць быць Сокаламі. Зрэшты, вуж добры, вуж не кусаецца, не джаліць. Джаліць змяя.

Што ён ёсць ён, Купала ведае і не сумняваецца ў гэтым. Але што нехта мог быць не тым, якім яго ён, Купала, успрымаў, можа быць такое ці не? Канешне, можа. Дык, можа, і сапраўды

гэтыя шалёныя галовы маладых што ўчынілі? Маглі ж учыніць, што і ён не ведаў,— шавеліцца ў думках змяя падазронасці, джаліць сэрца. «Не! — адмахваецца Купала.— Я ж іх ведаў, ведаю, як сябе. Але ж...»

Калі пачынаецца сумненне — гэта страшна... А можа, і я — сапраўды не я: збоку ж, кажуць, заўсёды лепш відно. Але з боку сябе Купала бачыць Луначарскага, Карскага, Чарвякова, Коласа, Замоціна. Няўжо ўсе яны памыляліся ў тым, хто Янка Купала, а адзін Бэндэ не памыляецца?!

Бэндэ патрабуе надзвычайнага: каб ён адрокся ад самога сябе; каб ён сказаў, што ён быў у «Нашай ніве» не Купалам, не самім сабою, а Лапкевічамі, Ласоўскім, Уласавым — усімі імі разам узятымі; каб ён сам сябе абазваў нацдэмам, контрай, авечкай, якая дасюль блудзіла, а з Бэндэ стала відушчай. Сляпое кацянё, якое расплюшчыла вочы (кацянём хоча яго зрабіць!..).

Купала курыць. Курыць дзень і ноч. У папяросным дыме бы ў тумане. Папяросы купляе вялікімі пачкамі: па сто штук у пачку. Курыць казбечыну за казбечынай, пудэлкі застаюцца ў кабінеце на рабочым стале — пустыя, дзесяткамі. Ляжаць пудэлкі: сілуэты чорнага конніка ў каўказскай бурцы на чорным кані. Коннік-джыгіт нібыта кагосьці ўсё даганяе і даганяе, а дагнаць не можа,— скача гэты джыгіт па стале паэта, а цокату падкоў не чутно. Выкідае з кабінета пудэлкі з чорным профілем конніка Зоська, а Купала яе за гэта зусім не лае, як раней: «Сонька, залатая ручка, ты зноў казбечыну выкінула?! А ў мяне ж там радкі запісаныя былі! Варона!..» Ні «вароны», ні «залатой ручкі». Адзін дым!..

Быў позні вечар позняга лістапада. Цёмна. Самая Пілінаўка. Таполя стаяла без ніводнага лісціка, мокрая, азалелая. Таполя нічога не прадчувала, нічога не ведала. «Мой верны вартавы» — называў таполю Купала, і гэты вартавы гнуўся, нязломны, пад злоснымі парывамі ветру. Ні месяца, ні зор над ёй. Адна цемната.

Купала зноў у шпіталі. Бюлетэняў аб яго здароўі няма. У доме пад таполяй маці бядуе: «Не жылец ён, не жылец!..» Каля яго ложка адна Уладка. Але для Бэндэ ўваход свабодны. Купала не хоча і блізка бачыць яго, тэмпература ў Купалы скача, нібы шалёная. 14 снежня 1930 года ў бальніцы ён прачытае ў газеце «Звязда» «Адкрыты ліст Я. Купалы».

## 3. «ПРЫЙДЗЕ НОВЫ, А МУДРЫ ГІСТОРЫК...»

Перачытваць гэты ліст Купалу было найвялікшай пакутай: паўтараліся тыя ж ідэі, якія ён чытаў калісь у перадавым артыкуле студзеньскага нумара «Маладняка» за 1930 г.

У Купалу жывой балючай памяццю было ўсё тое, што ён перажыў у «Нашай ніве» ў 1908 г.— і святліца Лапкевічаў, якія мелі яго за парабка, і Лаздзіну Пяледа, і яго ўцёкі з Вільні ў Бенін — першы крах яго юнацкага рамантызму, яго невымоўны адчай ад таго, што ветразі яго рамантычных мар пашкуматаў прагматызм гаспадароў «Нашай нівы»... А ў адкрытым лісце аб усім гэтым гаварылася так, што Купала не верыў сваім вачам.

Рукапісу адкрытага ліста Купалы не захавалася, і сёння ні ў які цвярозы розум не ўкладваецца, што сам Купала мог аб'яўляць сябе контррэвалюцыянерам, сам лёгкай рукой падпісваць усё гэта, што было ў апошнім абзацы ліста, дзе Купала гаварыў аб гэтым нібыта сваім катэгарычным і беспаваротным, ідэйным і арганізацыйным разрыве з беларускім нацыянал-дэмакратызмам. Ну, няхай бы аб'яўляўся ім ідэйны разрыў! Але арганізацыйны — які мог быць арганізацыйны разрыў, калі арганізацыі не было, калі быў у Бэндэ адзіны толькі рэчавы доказ якойсьці арганізацыі — Купалаў кіёк з манаграмамі?!

Калі не захаваўся купалаўскім арыгінал ліста, то захавалася, на шчасце, яго газетная карэктура — у архіве Бэндэ, з праўкамі карэктуры рукой Бэндэ. Дык вось аб сваім нібыта нацыянал-дэмакратызме «Купала» абсадкай Бэндэ пісаў, як аб нейкай «хваравітай здані», якая паланіла яго «на працягу доўгіх год яго свядомага жыцця». Паланіла, значыць, калі пісаў «Курган» і «Адвечную песню», «Бандароўну» і «Яна і я», «Раскіданае гняздо» і «Паўлінку», «На смерць Сцяпана Булата» і «Арлянятам», «Безназоўнае» і «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...»?! Цікава, што ўжо цяпер напіша Купала, калі Бэндэ пазбавіў яго хваравітай здані «доўгіх год яго свядомага жыцця»,— што напіша і ці напіша?

...Зіма канца 1930 — пачатку 1931 года была снежная, суровая. Уладзіслава Францаўна не паспявала расчышчаць дарожку ад тапалі паўз веранду да ганка, як яе зноў закідвала пульхным снегам. Калі марознае сонца зазірала на панадворак з чыстага сіняга неба, снег пад вокнамі ляжаў валам высокім, як Карпаты, зіхацеў, бела-блакітны, прасіў прайсціся міма яго, але гаспадар з хаты яшчэ не выходзіў. Уладзіслава Францаўна чым хутчэй старалася ачысціць дарожку бліжэй да тапалі, каб хутчэй аказацца не напавідоку з вуліцы, каб чым менш чуць пытанняў, роспытаў суседзяў, знаёмых, што з дзядзькам Янкам, як яго здароўе? Уладзіслава Францаўна расчышчала снег вельмі рэгулярна, акуратна, як бы прадчуваючы, што ў хаце будуць высокія госці, а першымі да хворага Янкі Купалы сапраўды з'явіліся госці самыя высокія.

У тыя дні, можа, найбольш у цэлай Беларусі перажываў за Купалу, за ўсё, што так недарэчна здарылася ў доме пад таполяй, Мікалай Фёдаравіч Гікала. Ці ж Купала паверыць, што ён, Мікалай Фёдаравіч, нічога не ведаў аб яго лёсе? Быў бы толькі гэты выпадак, было б для яго лягчэй: дапамог жа ён маці паэта, сёстрам,— умяшаўся б і ў лёс паэта. Хто не памыляецца? Так што ўсё было б куды прасцей.

І Мікалай Фёдаравіч вырашае: ехаць да Купалы! І фатографа ўзяць! Па-першае,— разумеў Мікалай Фёдаравіч,— Купалу трэба супакоіць, яго прыезд не зможа Купалу не супакоіць ужо тым, што будуць адкінуты любыя сумненні наконт характару, сутнасці адносін першых дзяржаўных асоб рэспублікі да яго, першага народнага паэта. Па-другое, будуць абарваны ўсе магчымыя непажаданыя чуткі аб тым, што адбылося ў доме пад таполяй. Раз дом гэты, як не абходзілі ўвагай, не перастаюць абходзіць і цяпер таварышы з ЦК, то, значыць, у доме пад таполяй усё ў парадку, і любы хваравіты інтарэс да яго будзе гэтым наперад зняты. Па-трэцяе, фатаграфія аб наведанні урадам паэтавага дома трапіць у друк, і гэта пакажа розным аглабельным крытыкам, што паэт у даверы ва ўрада, пад абаронай урада, што самай найвышэйшай думкі аб ім партыя, ЦК КП(б)Б. А ўвогуле, відаць, на літаратурным фронце ў рэспубліцы не ўсё ў парадку, калі першы яе народны пясняр пайшоў на такое. «Трэба паглядзець, што робіцца ў іншых рэспубліках? — робіць для сябе вывады Мікалай Фёдаравіч.— Трэба ўзняць пытанне аб формах літаратурнага жыцця ў сябе ў ЦК і папытаць, што думаюць аб гэтым у Маскве. Горкая мне навучка,— думае Мікалай Фёдаравіч,— гэты парыў адчаю Купалы. Але Купала напэўна ўсё зразумее. Ён павінен зразумець. Ехаць да Купалы!»... На другі дзень пасля наведання Купалы Мікалаем Фёдаравічам у рэспубліканскім друку і з'явілася вельмі вядомая цяпер фатаграфія «Члены ўрада БССР у гасцях у Янкі Купалы».

У хаце Купалы Бэндэ не быў ні разу. Але званіць Купалу ён званіў, і пачуўшы ў трубцы яго грубы голас, Купала адразу ведаў, што нічога добрага не чакай. На гэты раз Бэндэ сказаў, што Купалу неабходна пазнаёміцца з капіталістычнай прэсай і што адпаведныя газеты яго чакаюць у бібліятэцы Акадэміі навук. Газеты былі «Kurjer Wileński», «Шлях моладзі», «Беларускі звон» («Па кім?» — адразу ж падумаў Купала), «Беларуская крыніца». А звон быў не па кім-небудзь, а па ім самім, па Купалу. «Беларускі звон» ад 26 лютага 1931 г. змяшчаў партрэ-

ты Купалы і былога Прэзідэнта АН, у чорных жалобных рамках абодва. У «Беларускім звоне» дык і некралог па Купалу надрукаваны. Чытаць самому па сабе некралог каму даводзілася? А вось Купала сядзіць, чытае. У чытальнай зале народу мала, і яму вусцішна, як на могілках. І, можа, цяпер, як ніколі, ён разумее, што такое палітыка, што ворагі БССР, СССР сапраўды каварныя, жорсткія. Купалу да гэтага шмат калі здавалася, што Бэндэ рэальнага ворага, з якім ваюе, як бы не бачыць. Імперыялізм, капіталізм, нацыянал-дэмакратызм, нацыянал-фашызм! Бэндэ палохае, наганяе страху, раздзьмухвае вялікі агонь, пры тушэнні якога ён самы і найбольшы пажарнік, найбольшы герой. А тут Купалу хаваюць людзі, якіх ён нават ведае ў твар. Ім Купала — толькі зачэпка. Яны — сапраўды ўсім сваім класавым контррэвалюцыйным нутром ненавідзяць Саветы, рэвалюцыю, бальшавікоў. Бальшавікі арыштавалі Купалу! Купала пакончыў жыццё самагубствам! Бальшавікі прымушалі пісаць Купалу, як пісаў ён у апошні час, і Купала, маўляў, гэтага і не вытрымаў! Смерці Купалы нельга даравацъ!

Радаслаў Астроўскі. Акінчыц. Гэтых Купала не ведае, але Антона Лапкевіча ён ведае, і яму іх трыумвірат — гідкі, подлы, чорны. І ці ж сапраўды гэты, у сённяшняй сябрыне з адкрытымі фашыстамі Антон Лапкевіч не пляміць яго, Купалу, не дае лішнія падставы крычаць Бэндэ, што як ён казаў, так яно і ёсць: яблык ад яблыні далёка не коціцца?! І, можа, усе непаразуменні з тутэйшымі хлопцамі — былымі маладнякоўцамі — якраз з-за іх, з-за гэтых замежных драпежнікаў, антысаветчыкаў?!. Беларусь, якая ты розная! Адна беларуская мова, але на розных беларусаў! Хай бы розныя беларусы па-рознаму і гаварылі, а то: брат па мове — Астроўскі?!

Водпаведзь «Звону» і «Крыніцы» ў Купалы будзе самая гнеўная, бо толькі так катэгарычна можа гаварыць з ворагам, бо тут не будзеш рабіць на палях нейкія агаворачкі, што, маўляў, было, ледзь не пайшоў раз да Абрагама на піва,— каб не Казу-

бовіч, каб не Уладка; не будзеш жа ўспамінаць, што яшчэ ў часы «Беларускай хаткі» ты разам з Тэраўскім меў нешта дзесяць дзён дамашняга арышту, пакуль не высветлілася, што з красуняй лазутчыцай легіянераў, якая запісалася ў артысткі «Хаткі», вы з Тэраўскім ніякіх спраў не мелі, акрамя таго што жартавалі з ёй, удаючы з сябе супернікаў. А ўвогуле, якое ваша дзела, панове, варожыя мне сілы, 36,6° у мяне тэмпература ці павышаная? «З боку Камуністычнай партыі і Савецкай улады як карыстаўся, так і карыстаюся самымі прыхільнымі і ўважлівымі адносінамі». Сціпла і канкрэтна піша Купала. І гэта была шчырая, існая праўда. І яшчэ рэжа, як нажом, Купала: «Я [redacted] абурэннем адкідаю гэтую фашыстоўскую хлусню і ўсякія плёткі аб тым, што я калі-небудзь быў праціўнікам Камуністычнае партыі і Савецкай улады».

Купалаў адпор замежным ворагам — ён як [redacted] двух бакоў вострая сякера. Не з ненаканавання Бэндэ, не па загаду кагосьці быў ён напісаны, а па загаду сэрца паэта, ад сэрца. І быў ён, па сутнасці, з двума прыцэламі: біў і за мяжу, біў і па Бэндэ — учыніцелю «Адкрытага ліста Купалы», плётак пра Купалу-нацдэма. Так! Ужо з самага пачатку 30-х гадоў Купала імкнецца адбіцца ад Бэндэ! Адсюль і яго націскі на «гэтую», што ў замежных крыніцах, фашыстоўскую хлусню і *ўсякія* плёткі, што пушчаны, завіты наўкол яго, Купалы, *тут*, у самой Савецкай Беларусі, плёткі аб тым, што ён нібы быў праціўнікам Камуністычнай партыі і Савецкай улады. Купала катэгарычны: «Адкідаю, што я *калі-небудзь* быў!.. *Не быў*!» Нязгода Купалы, рэзкі адпор нібы свайму «Адкрытаму лісту» — фальшыўцы Бэндэ ў Купалы тут вельмі відавочныя. Але на пачатку 30-х гадоў ёсць і іншыя доказы ўсё таго ж імкнення Купалы адбіцца ад Бэндэ: ад фальшу, што над Купалам завіс, як пятля. Першую сваю песню будаўніцтву Купала напісаў ужо 22 лістапада 1931 г., менш чым у год пасля з'яўлення зневажальна-правакацыйнага нібыта адкрытага ягонага ліста. І наколькі рэзкая нязгода Купалы з Бэндэ як крытыкам, гісторыкам беларускай лі-

таратуры, які перакройваў яе карту на свой вульгарна-сацыялагізатарскі лад, відаць ужо ў гэтым вершы з першага яго радка. Верш называўся «Песня будаўніцтву», ды першым яго радком Купала адчаканіў «Прыйдзе новы, а мудры гісторык». Сапраўды, ці не нечаканы, як на песню пра будаўніцтва, радок, ці не рэзка нестасоўны з тэмай, з вобразамі будаўніцтва?! Затое — стасоўны са станам душы паэта, з тым, што ёсць яго ўнутраная тэма як фанатычнае наканаванне, што робіць паэта паэтам.

Прага новага, мудрага гісторыка — вось што пераўзыходзіла ўсё ў душы Купалы на працягу ўсіх 30-х год. Прага ачышчэння ад бэндаўскага наслання, паклёпу, грубага, жорсткага з'іначання праўды шляху паэта. Прага, як смага ў пустыні, пакутная, бо ад несправядлівасці, і тым больш пакутная, бо Купала — чалавек горды. Але песняй Купалы гэтая душэўная пакутная смага не стала — стала адным толькі вось гэтым радком, што «прыйдзе новы, а мудры гісторык», каб падмацавацца другім радком — з верай, што гэты гісторык «прыйдзе, ужо ён ідзе», ідзе дзеля таго, «каб сказ новы, праўдзівы ад зорак і да зорак аб нашых прасторах, аб падзеях, людзях» павесці. Аб людзях, г. зн., і аб ім, аб Купалу, сказ *новы*, *праўдзівы*, а не Бэндаў.

Кожны час чакае свайго гісторыка, кожны чалавек чакае яго, але Купала і Колас чакалі яго ў 30-я гады асабліва прагна...

Вясна 1931 года была ранняя, дружная, і Свіслач выйшла з берагоў. У адну ноч вада паднялася ў ёй так, што ў доме пад таполяй дастала аж па самыя вокны. Чарот наладзіў выратоўчую экспедыцыю. Ратавалі бібліятэку, рукапісы, цягаючы іх на гарышча.

— Як быццам увесь бруд з зямлі змыць рашыла вада,— гаварыла Уладзіслава Францаўна.

— Ёсць што змываць і ёсць што даганяць,— згаджаўся Купала...

— Вада мяне і тут даганяе,— жартаваў ён позна ў той вечар у Чарота, калі пачуў, як зацурчаў на кухні кран,— і як ні ўгаварваў яго Чарот, пайшоў, а дакладней — паехаў у лодцы ў хату пад таполяй, паехаў на гарышча — да кніг. «Дзіўна,— думаў Купала, не могучы заснуць на халаднавым прадвеснім гарышчы,— з вады — жыццё, у ёй яно, кажуць, зарадзілася і вось можа праглынуць яго, можа пацягнуць на дно, загубіць, калі ты дыхаеш не жабрамі. А на Нямізе якое дзіва, які бунт!.. Вадабунтаўніца, летапісная Няміга зноў нібы ў сваёй летапіснай буйнасці: вырвалася з каналізацыйных труб, куды марна заганяў яе горад і наша абыякавасць да гісторыі,— вырвалася, рве берагі — Нямігі крывавыя берагі... Можа, і вырвалася, каб змыць і яго, Купалаву, кроў з берагоў, з вострага ляза месячыка... Нешта змыць ці зноў жа ачысціць,— дзеля ачышчэння бушуе?» — так і не знаходзячы канчатковага адказу на пытанне — Купала не помніць ужо, з якіх разваг узніклага,— Купала на гарышчы засынае...

...Паводка бушавала, а Бэндэ пісаў. 1931 г.— год Бэндэ. «Маладняк» № 5. Л. Бэндэ «Матэрыялы да нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры (Уводзіны)». «Маладняк № 9, Л. Бэндэ. «Творчыя задачы пралетарскай літаратуры». «Уводзіны» Бэндэ былі ўводзінамі ў вульгарна-сацыялагізатарскае разуменне Купалы і Коласа. І калі хто мае яшчэ хоць якія самыя найменшыя наконт Бэндэ сумненні, няхай учытаецца ў гэтыя тырады: «Мы,— пісаў белапавец Бэндэ,— далі ім (Купалу, Коласу і г. д.) адкрыты бой, мы ў асноўным разграмілі іх у адкрытым баі... Нашым змаганнем мы прымусілі частку буржуазных, нацдэмаўскіх баянаў і лірыкаў замоўкнуць, а другую частку сур'ёзна задумацца над далейшым сваім лёсам. У выніку мы маем магчымасць чытаць лісты і заявы, дэкларацыі аб парыве з буржуазным нацыянал-дэмакратызмам, аб перабудове і г. д. Але пакуль што гэтая частка былых папутнікаў далей дэкларацый не ідзе і не хоча выявіць свайго творчага твару, а выгляд учарашняга твару на сённяшні дзень не зусім прыемны, ён з глыбокімі

рубцамі і шрамамі, памяты і пакрыўлены ад нашых удараў,— і такім чынам знаходзіцца яшчэ ў стане буржуазнай ідэалогіі...» Твар у стане... ідэалогіі — перлы стылю, ды каб толькі, а рубцы, шрамы, памяты, пакрыўлены твар?! І гэта піша творца расправы аб расправе сам, ні на гран не адчуваючы, што гэта ненармальна, адыёзна. Але чытайма далей: «Пакуль што,— ківае пальцам Купалу і Коласу Бэндэ,— акрамя дэкларацый, мы не маем твораў, якія б сведчылі, што гэтыя былыя папутнікі сапраўды перабудоўваюцца, сапраўды становяцца на шлях саюзнікаў пралетарыяту ў літаратуры. І таму мы сёння павінны (Бэндэ трасе ўжо кулакамі) прама і адкрыта сказаць ім: нуль цана тым дэкларацыям, якія не замацоўваюцца рэальнай творчасцю. Пралетарыят (ну, як жа Бэндэ — не пралетарыят, калі ён белаппавец?!) патрабуе ад былых папутнікаў, пішучых дэкларацыі, не дэкларацый, не абяцанак, а твораў, якія б сведчылі, што яны сапраўды перабудоўваюцца... Так стаіць пытанне, і не інакш. Выбірай: або з пралетарыятам (па Бэндэ, гэта з БелАППам), і тады табе забяспечаны рост, запал і імпэт для творчасці (як проста!), або з класавым ворагам...»

Ставіць Бэндэ задачы і асобна Купалу, які «больш павольна перабудоўваецца», чым Колас. «За апошні год-паўтара наша савецкая пралетарская грамадскасць мела магчымасць прачытаць толькі адзін верш Купалы «А ў Вісле плавае тапелец». Гэтага безумоўна мала,— заключае Бэндэ,— Купала можа і павінен даць больш, гэтага патрабуем не толькі мы тут з вамі, але гэтага патрабуюць працоўныя масы і Савецкай і Заходняй Беларусі...»

Уплывалі гэтыя запатрабаванні Бэндэ на Купалу і Коласа ці не ўплывалі? Яшчэ як уплывалі! Але — адмоўна. Купала ў 30-я гады сапраўды напісаў рад вершаў — залацінак беларускай савецкай лірыкі: «Сонцу», «Сосны», «Алеся», «Вечарынка», «Лён», «Генацвале». Зрэшты, не імі будзе ганарыцца Бэндэ. Вынікам свайго «выхавання» Купалы ён будзе лічыць паэму «Над ракою Арэсай», будзе верашчаць, што гэта ён «выцягнуў» Ку-

палу з нацдэмаўшчыны і, як на сподачку з залатым абадочкам, паднёс пралетарыяту шэдэўр. Але пакуль што грымяць філіпікі Бэндэ, і Купала і Колас часам проста не ведаюць, як і чым ад іх адбівацца. Колас бярэцца спешна пісаць аповесць пра калектывізацыю «Адшчапенец», і яна яму абсалютна не ўдаецца. Купала піша «А ў Вісле плавае тапелец», «Суд ідзе» — верш у абарону ад санацыйнага суда ў Польшчы дарагога яму Тараса — Браніслава Тарашкевіча, завяраючы другі пленум аргкамітэта ССП СССР, што пісаў іх, «насычаючы свае вершы нянавісцю да класавага ворага» (ці ж у Купалы тут не стыль Бэндэ?!).

Бэндэ ні разу не ступіў у хату пад таполяй, але ён усё ж ачмурыў на некаторы час Купалу, на некаторы час быў і ў яго душы, і ў яго развагах, нават у стылі ўжо ўласных, сапраўды ад імя Купалы напісаных некаторых дэкларацый. Белаппаўцы, вульгарныя сацыёлагі найбольшую шкоду тым і прычынілі беларускай савецкай літаратуры, што, з аднаго боку, ваюючы нібы за беларускую пралетарскую літаратуру, увогуле абяскровілі саму беларускую літаратуру, а па-другое, тым, што дэзарыентавалі нават Купалу і Коласа. Таму і радасць Купалы і Коласа ў сувязі з паяўленнем Пастановы ЦК ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый» была неймаверная, бо гэта азначала для іх найперш канец Бэндэ, канец групаўшчыны, БелАППа. Да гэтага, гуляючы ў конікі, як называў партыю ў шахматы Купала, пра Бэндэ Купала звычайна пачынаў:

— На адно вуха слепаваты...

Колас дадаваў:

— На адно вока глухаваты...

А 15 мая 1932 г. у доме пад таполяй нават пачуўся лірычна задуменны, ціхі барытон гаспадара хаты:

Зайшло сонца,
Узышоў месяц,
А нашага Бэндэ...

Колас падхапіў:

Вядуць вешаць!..

— Э-э! добра брэша, шкада вешаць,— абарваў песню Купала.— Але таго не будзе, што было!..

1932 год сапраўды быў ужо годам не Бэндэ. Але Бэндэ заставаўся, заставаліся навязаныя белаппаўцамі беларускаму савецкаму літаратуразнаўству вульгарна-сацыялагічныя схемы. Па іх сталі пісаць нават Замоцін, Піятуховіч, цытуючы, нібы евангелле ад Лукі, Бэндэ. Бэндэ не здаецца, БелАПП не здаецца, і ў іх поўная надзея, што асноўная апора будзе толькі на іх — ідэолагаў белаппаўскай пралетарскасці, якія разбілі нацыяналістычную самабытнасць.

Першы Усебеларускі з'езд пісьменнікаў 14 чэрвеня 1934 г. вылучае аргкамітэт СП БССР на чале з новым Міхасём — Клімковічам, у камітэт уваходзяць Андрэй Александровіч, Кандрат Крапіва, Кузьма Чорны, Янка Нёманскі. Ні Янкі Купалы, ні Якуба Коласа ў ім няма.

У Мінск, аднак, прыязджае вядомы рускі крытык Кірпоцін як прадстаўнік аргкамітэта ССП СССР, і першым пытаннем да Александровіча было:

— А дзе Кірыла і Мяфодзій?

Яшчэ з 20-х гадоў, калі ў Маскву ўпершыню прыехалі ўдвух Купала і Колас, пісьменнікі-масквічы назвалі іх так, вельмі здзіўляючыся з іх брацкай блізкасці, з іх аднолькава вогненна-рыжых кажухоў, з чорных валёнак на іх нагах — у галёшах, мяккіх валёнак, бо разлічаных на мяккую беларускую зіму з адлігамі, а не на маскоўскія хрышчэнскія маразы.

Кірылу і Мяфодзія прыйшлося ў аргкамітэт СП БССР уключаць, і хоць у Доме літаратара Александровіч прадаўжаў паказваць сваю юнг-штурмаўскую акрыленасць, што ён — першае начальства, і ўсё яшчэ чытаў з трыбуны «Беларусь у Янкі Купалы безназоўнаю векавала, а ў Якуба Коласа і пазбаўленаю права голасу»,— пазбаўленымі права голасу Кірыла і Мяфодзій ужо не былі.

І ўжо загучала новая формула — за літаратуру сацыялістычную па зместу, нацыянальную па форме. Самабытнасць з

гэтага часу не была ўжо наддзмаўшчынай. Пралетарскім паэтам Купала станавіўся як паэт нацыянальны, беларускі, мужычы. Але ўсе часопісы, зборнікі, падручнікі — усё яшчэ прадаўжала паўтараць схему Бэндэ. Лексіка Бэндэ, праўда, пэўным чынам абнаўлялася. Але гэта было ўжо больш матлянне языка. І яго ніхто не чуў асабліва на арэне ўсесаюзнай. Пастанова Партыі 1932 года прадвызначыла марнасць гэтага матляння, і чым далей было ў глыб 30-х гадоў, тым больш урачысты быў выхад Янкі Купалы да чытача ўсесаюзнага, выхад Паэта, якім ён быў,— паэта народнага, песеннага. Ашмоткамі паперы заставалася злаўмысна напісанае нікому не вядомым ва ўсёй агромністай краіне Бэндэ, а вершы Купалы, якія ўсё прадаўжалі з'яўляцца ў «Праўдзе», узбуйнялі і ўзбуйнялі яго фігуру, яго асобу.

Так з пабудовай у краіне сацыялізма ішло і адкрыццё імя, песняў Янкі Купалы, сапраўды ўсенароднае, сапраўды незвычайнае.

Купала станавіўся вялікім песняром сацыялістычнай бацькаўшчыны, новага свету сацыялізма.

О, гэтыя агні! Агонь Праметэя; язычаскія знічы ў святых дубровах над Нёманам, Прыпяццю, Дняпром; агні Купалля... Паэт — заўсёды Праметэй. Ён заўсёды, вечна, да веку людства краў, крадзе і будзе красці агонь у нябёсаў і зямлі, у сушы і мора, у сэрцаў людскіх і розумаў. Крадзеж не без кары. Суровы гнеўны Зеўс: груган глюгай клюе вантробу Праметэя, клюе і насыціцца давеку не можа.

Але хто Зеўс! Лука Іпалітавіч, палацам якога агонь Купалля пагражаў? Бэндэ?.. Аказваецца, вантробу Праметэяў могуць кляваць груганы не толькі за ўкрадзены агонь, але і за нездабыты імі агонь. Ты аб'явіўся Праметэем і не здабываеш новага агню?.. Вунь колькі агнёў будаўніцтва, чаму не гарыш?! Гары, а то!..»

Не таму сэрца Купалы павандравала на агні, што не адных дэкларацый патрабаваў ад Купалы Бэндэ. Усё было куды больш

складана, чым уяўляў Бэндэ, чым нават думаў сам Купала. Чалавек — у часе. У адным часе былі і Бэндэ і Купала. Час быў суровы, патрабавальны, стваральны — 30-я гады.

І было, што, як відавочны знешні знак гэтага часу, тады на кожнай газетнай паласе, кожны дзень з'яўляліся словы «першы», «усебеларускі». Гонар, гордасць грамадства, якое будавала новы сацыялістычны лад, выяўлялася імі. Першая Усебеларуская выстаўка. Яна адкрылася 11 ліпеня 1930 г. У тым жа 1930 г. 10 жніўня адкрылася першая Усебеларуская сельскагаспадарчая выстаўка і ў той жа дзень — першая Усебеларуская выстаўка карцін, скульптуры, графікі і архітэктуры. Шырокім фронтам ішла дэманстрацыя і агляд дасягненняў як народнай гаспадаркі, так і мастацтва. У тым жа 1930 г. у розных месяцах былі яшчэ і Першая Усебеларуская канферэнцыя рэдактараў фабрычна-заводскіх газет і рабкораў; адкрыццё першай Усебеларускай фабрыкі-школы швейнікаў; адкрыццё Усебеларускага стадыёна імя 10-годдзя вызвалення Беларусі ад белапалякаў; першы Усебеларускі з'езд гарнякоў; адкрыццё першага ў БССР Інстытута фізічных метадаў лячэння; прыбыццё ў Мінск калоны І Усебеларускага аўтапрабегу; адпраўка першай партыі камсамольцаў для ліквідацыі прарываў у шахтах Данбаса; прывоз на Усебеларускую выстаўку першага ў Беларусі трактара Сталінградскага трактарнага завода.

30-я гады — гэты і першыя пяцігодкі, і першая Канстытуцыя сацыялістычнага грамадства, і першыя выбары ў Вярхоўны Савет СССР і ў Вярхоўны Савет БССР. І так на працягу ўсіх 30-х гадоў. Не было года, які б не прыносіў нешта ўпершыню. 1934-ты — Першы з'езд пісьменнікаў Беларусі. 1935-ты. 25 чэрвеня. У летнім тэатры саду «Прафінтэрн» адбываецца заключны вечар І Усебеларускай алімпіяды самадзейнага мастацтва. 11 ліпеня. На юбілейнай сесіі ЦВК БССР М. І. Калінін уручае Беларускай ССР ордэн Леніна. Першы яе ордэн Леніна! 26 верасня. У галоўным корпусе БДУ адкрываецца першая ў БССР пастаянная выстаўка экспартнай прадукцыі БССР. Цераз тры гады

тут жа будзе праходзіць першая Усебеларуская нарада работнікаў вышэйшай школы. І яшчэ прыпомнім тры даты: у лютым 1939-га ў Мінску на стадыёне «Дынама» будзе пабудаваны новы трамплін для скачкоў — першы ў СССР трамплін, пабудаваны ў цэнтры горада; 10 сакавіка 1939 года пастаноўкай першай беларускай оперы Яўгена Цікоцкага «Міхась Падгорны» адбудзецца ўрачыстае адкрыццё Вялікага — першага, канешне,— дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР; у сакавіку таго ж года ў Мінск пераехала з Ленінграда кінастудыя «Савецкая Беларусь», таксама першая ў Беларусі кінастудыя.

Купала кожны дзень раскрывае свежыя нумары газет. Купала пад аблогай інфармацыі, Купала і сам наведвальнік Першай усебеларускай выстаўкі сельскай гаспадаркі і прамысловасці, усяго першага, што становіцца явай не толькі сталіцы, але ўсёй рэспублікі, усёй Краіны Саветаў. І ў яго з'яўляюцца вершы з нагоды — прысвечаны Першай усебеларускай выстаўцы, з нагоды наведання калгаса «Чырвоны баец» на Барысаўшчыне, з нагоды адкрыцця Першага з'езда пісьменнікаў, гадавіны вызвалення БССР ад белапалякаў, вялікіх чырвоных дат календара — Кастрычніцкага свята, 1 Мая — каскад святочных вершаў і вершаў з нагоды.

У канцы 30-х гадоў гэты каскад у Купалы асабліва стане гулкім. Але мы пакуль што на іх пачатку.

Спеўная сіла Купалы-лірыка і ў святочных і ў нагодных вершах застаецца часта вельмі і вельмі звонкая, моцная. Што ні радок — энтузіязм і лірыка, лозунг і песня:

Абвілася краіна
　　У кветкі,
Кліча сонца і месяц
　　У сведкі...

Мы ідзем у сонца з сонцам
Маладым паходам.
Слава бацькаўшчыне нашай
І яе народам.

Святочныя, нагодавыя вершы паэта былі і не без абагульняючых малюнкаў, думак, асабліва красамоўных, калі верш станавіўся ў рад Купалавых вобразаў і матываў, аднойчы ўжо развіваных паэтам, як у новым вершы 1934 г., аднайменным з вершамі пра буйное беларускае поле 1919 г. Сапраўды абагульняючая карціна новага, радаснага жыцця народа ўставала з верша «На нашым полі»:

Дружна працуем
Мы грамадою,
Знацца не знаем
З горам, з бядою...

Сонейка ўзыдзе,
Сонейка зайдзе,
Сеем і полем
Шчыра, папраўдзе.

І вобраз сонейка вельмі ж выразна для кожнага беларуса асацыіраваўся з іншым сонцам: з тым, што колісь узыходзіла над прыгонным беларусам, застаючы яго ўжо, нядольнага, на абрыдзелай панскай ніве, і, заходзячы, пакідала яго яшчэ жаць на пана на той жа ніве. Песняром лёсу народнага, яго новай слаўнай долі станавіўся Купала падобнымі святочнымі песнямі. Але Купала не мог не адчуваць пагрозы, якая заўсёды навісае над вершам з нагоды, над вершам святочным: застацца аднадзёнкай, стаць ідылічнай одай, спразаізіравацца, ідучы за рэпартажным пералікам безаблічных імёнаў «калгаснікаў нашых»: Букаў, Рахінсонаў, Дар'яў, Пусташылаў, Рэутаў, Алёнаў, Костусяў, Данілаў, як у вершы «Калгасу «Чырвоны баец». Бэндэ, дык той радаваўся, паціраючы рукі: «Во — служба часу! А каб мы не патрабавалі яе, скіс бы ў нацдэмаўшчыне!..» Купала ж не мог не адчуваць, што ён зачаста ідзе не за часам, а за календаром, не за чалавекам, а за падзеяй, мясцінай, якую наведаў. Не тое выражэнне энтузіязму часу — павярхоўна, усё адно і тое ж! А як, каб глыбей? Як гэты новы час прапусціць

праз сябе, каб сагрэць уласнай душой, сэрцам і выдаць вершы аб ім ад уласнага сэрца?

Гэтыя пытанні маглі б астацца не да вырашэння, каб яны ўзніклі не ў часе, які сам і дапамагаў пастаўленыя сабой пытанні вырашаць, бо час — гэта заўсёды людзі: і тыя, якія кіраўнікі сярод іх, якім з высокіх вокан ЦК і СНК было ясна, што лепш адзін раз пабачыць, чым сем разоў па радыё пачуць, у прэсе прачытаць, што паэт не зможа прапусціць праз сваё сэрца тое, чаго яго вочы не пабачаць, вушы не пачуюць. Афіцыйна ў Доме літаратара падбіваліся пячаткі пад камандзіроўкамі Купалы, а неафіцыйна — гэта і цераз камандзіроўкі праводзілася ў жыццё палітыка партыі ў вобласці літаратуры. Вульгарна-сацыялагізатарская крытыка была ні пры чым у той вялікай душэўнай рабоце, на якую траціў усю сваю энергію, талент Купала, становячыся чалавекам вышэйшага абавязку, вышэйшай адказнасці — дзяржаўным чалавекам. Ён адчуваў кліч часу, задачы часу. Адчуваючы, уясняў іх, усведамляў. Яго клікалі не якія-небудзь проста экзотыка, турысцкая зацікаўленасць. Клікала ўся Беларусь, краіна — ад Негарэлага да Камчаткі, ад Кушкі да Ямала. Бо ён быў ужо ўвесь у ёй, увесь яе,— цераз яе слаўны славаю ўсесаюзнаю, цераз яе вялікі. Краіна клікала, эпоха клікала.

І павандравала сэрца Купалы на агні. Май 1932 г., ён у Барысаве, сустрэча з рабочымі Нова-Барысава, з моладдзю. Кастрычнік, ён у Запарожжы. Ліпень 1933 г.— у Ленінградзе, на заводзе «Чырвоны пуцілавец», у жніўні — на адкрыцці Беламорска-Балтыйскага канала, праплывае ўсе 227 кіламетраў канала ад Павянца да Анежскага возера. А да гэтага былі май, чэрвень і Купала на Палессі: у камуне Беларускай ваеннай акругі і саўгасе імя Дзесяцігоддзя БССР. Што, аднак, з сэрцам Купалы дзеелася? Агні нова-барысаўскіх цэхаў адбіваліся ў люстраным блакіце Бярэзіны, якая памятала бясслаўны канец Напалеона, і ў шырока адкрытых вачах Купалы, стукаючыся ў яго сэрца. Грэбенем усіх 49 беламармуровых пляцін расчэсваў

Днепрагэс пенны чуб Дняпра-Славуціча, які памятаў слёзы Яраслаўны. Вада выкрасала сонца, і гэта здзіўляла сэрца Купалы; і вада злучала моры, паэта сляпілі марскія маякі, дзівоснае мігценне плывучых бакенаў. Сапраўды — нібы вандроўкі ў казку.

Ды разам з тым у гэтых бясконцых вандроўках Янка Купала не раз лавіў сябе на адчуванні, што ён, нібы герой матчынай казкі, той, які едзе ў свет, не ведаючы, што пакінуў дома і па што едзе.

Купала адразу не ведаў, чаго ехаў і на Палессе. Карэспандэнту газеты «Литературный Ленинград» у год пасля гэтага прызнаваўся: «Калі я ехаў у гэты калгас, я не думаў пісаць». Што, аднак, цягнула сюды паэта? Мукі творчасці? Пошук чагосьці, што задаволіла б? Ці тое, што засталося ў падсвядомасці, калі чытаў «Падарожжа на Новую Зямлю» Зарэцкага? Увогуле матыў, тэма новай зямлі, суперніцтва з Коласавай «Новай зямлёй»? Вядома ж, не ў пошуках класавага ворага ехаў ён на Палессе! Не спецыяліст жа крымінальнага вышуку, хоць патрэба класавай пільнасці і ў яго свядомасці сядзела трывала. Інфармацыя ж аб выкрыцці класавага ворага, аб неабходнасці класавай пільнасці ішла ж і ішла ж у газетах. А можа, ехаў ён на Палессе і ад святочных вершаў, званкоў з рэдакцый, якія будзілі ж, было, і сярод ночы: «Дайце для чарговага нумара!» І — даваў, і — не абы-якія рэчы: «Песню будаўніцтву», напрыклад!

Сацыяльны заказ часу Купалу быў вядомы. Сам час не падганяў, але ўсё ж на карку ў паэта сядзеў Бэндэ, і была прага паэта чым хутчэй скінуць Бэндэ са свайго карку. Адпісацца ад Бэндэ! Гэта найлягчэй, хоць бы і вершыкамі на нагоду. Але быў і ўнутраны покліч — на Палессе, і толькі! Магутны Днепрагэс, слаўны Беламорска-Балтыйскі канал! Бальшавікі паказалі ўсяму свету, што яны могуць! Але тое, што творыць бальшавік над забытай да гэтага светам Арэсай, ці ж апець тое — не сама наканаванасць народнага песняра не толькі Міншчыны, Барысаў-

шчыны, Лагойшчыны, але ж і спаконвечна беларускага паўночнага Палесся?! А тут яшчэ, калі прыехаў на Арэсу, пытанні, пытанні, пытанні: куды ні пойдзе, у якую вёску ні завітае, дарослыя, як дзеці, дзеці, як дарослыя,— запытальныя позіркі.

У Лісценцы падбег замурзаны Адамік:

— Што вы напішаце пра палешукоў?

— Нешта напішу,— адказвае Купала.

— Многа? — дапытваецца з імем першага чалавека дапытлівы і наіўны, як усе дзеці, маленькі паляшук.

— Многа! — адказвае Купала.

У землякопаў, саміх меліяратараў пытанні іншыя. Для іх усё прадвырашана наперад: раз Купала тут, напіша! На тое ўвогуле пісьменнікі хлеб ядуць, каб пісаць. Няяснасці ў іх на гэты конт няма. Ёсць з іншага поваду.

— Усю праўду напішаце? — пытаюць.

— Адну праўду напішу,— адказвае Купала.

Купалу абавязваюць і наіўныя пытанні хлапчака, і гаспадарскія, ■ клопатам аб праўдзе — меліяратараў. Вось ён — у рэальнасці — сацыяльны заказ, заказ рэальных будаўнікоў сацыялізма, палешукоў, самых непрасветлых пасынкаў драматычнай гісторыі ўсёй яго, Купалавай, Беларусі. А што пасынкаў нават у былой сярмяжнай Беларусі, Купала гэта бачыць: сляды дзён учарашніх яшчэ тут вельмі прыкметныя. Ды тым больш прыкметныя на іх фоне і поспехі новага Палесся. «Паэма склалася нечакана для мяне самога, калі я ўбачыў незвычайныя кантрасты»,— прызнаваўся ленінградскаму карэспандэнту Купала, і ў гэтым была шчырая праўда: кантрасты для рамантыка — агонь і лёд, першы ўзбуджальнік іх фантазіі, задум, песняспеваў. Я, аднак, і ўявіць не магу, якой была б паэма «Над ракою Арэсай», калі б Купала прыехаў сюды ну хоць бы яшчэ тады, калі прыязджаў сюды Зарэцкі, а не ў той час, калі сам прыехаў?! «Чаму?» — спытаеце. А таму, што ў стыхію рамантычнага на Палессе 1933 г. прыехаў не Купала-рамантык, а ўся-

го адно Купала-рэпарцёр, які не ўзяў з сабой сваёй самай асноўнай палітры фарбаў — рамантычнай, не ўзяў, бо ў яго выбілі яе з рук Бэндэ і яго памагатыя на вульгарызацыі літаратуры. Купала чытаў ужо пра гэта ў «Маладняку» № 1 за 1930 г. «Той, хто за рамантызм, хто адстойвае яго стылёвыя асаблівасці, сцвярджаючы, што стылем масавай пралетарскай літаратуры можа быць ці павінен быць і рамантызм, той вядзе прапаганду буржуазнай, кулацкай ідэалогіі». За нібы вядзенне такой прапаганды і быў адлучаны ўжо ад літаратуры рамантык Міхась Зарэцкі. І такой прапаганды, канешне, зусім не збіраўся весці Купала. Але як было яму, рамантыку, без рамантычных фарбаў? Фарбаў заставалася мала — рэаліі прыроды ды побыту: «груган глюгу звесіў» на гнілое балота, «стары човен, як карыта» ў плесені тоняў і вясёлая маторка на люстры каналаў. Купала заставаўся без Купалы. І як было яму датрымаць высокага тону, гучнасці, маляўнічасці?! Паэт іх і не датрымаў, але поспех паэма займела гучны. І то па дзвюх прычынах. Рэдактарам першага выдання паэмы 1933 г. быў сам Л. Бэндэ. Гэта была, здавалася Бэндэ, поўная яго перамога над былым Купалам. Ён гэтай перамогай ганарыўся, сваім прозвішчам пацвярджаў свае заслугі па аднаўленню Купалы і як крытык тут жа выдаў паэму за шэдэўр новай паэзіі новага метаду. Ого! Яго, Бэндэ, крытычная школа, яго метад у літаратуры стварылі шэдэўр літаратуры! Шэдэўр — доказ велічы і дзейнасці школы Бэндэ — Бэндэ і яго метадаў, якія нейкія там недабіткі не-не і спрабуюць узяць пад сумненне. Лаўры Купалы — аўтара «Над ракою Арэсай» — пажынаў і Бэндэ.

Але была і другая прычына шырокага розгаласу паэмы. Хоць твор быў з праваламі — паветранымі ямамі, якія так адчуваюцца, калі ляціш на «кукурузніку»,— паэма была, аднак жа, і творам, дзе Купала заставаўся Купалам. Асабліва сабой Купала заставаўся ў раздзеле «Аб мінулым», у радках пафаснага, афарыстычнага сцвярджэння:

Балота, забалаць балот,
Як там ні называй,
Але ступіў тут бальшавік —
Ён зменіць гэты край;

у радках не рэгістратарскага апісальніцтва падзей, а сапраўды захопленага іх апявання сэрцам:

А на рэчцы на Арэсе
Тэмп узяты шпаркі:
Камунары, камунаркі
Глядзяць гаспадаркі...
Новы човен сілы повен
Гордасцю лялее...
Паланеецца Арэса
Чырвонай лілеяй.

Гэтыя радкі хочацца спяваць, яны падмываюць душу і сэрца да спеву і сапраўды давалі ўласна эстэтычны эквівалент велічы зрухаў у сацыялістычным будаўніцтве. За гэта ўсё і хвалілі з высокіх трыбун паэму высокія партыйныя дзеячы Беларусі — за пазіцыю Купалы, за спробу шырокага эпічнага адкрыцця тэмы, за пафас і радкі, якія адразу запаміналіся. Быў Купала і перамагаў Купала — быў ужо для ўсіх і кожнага ў Краіне Саветаў — у краіне будаўнікоў новага грамадства, перамагаў як паэт, як стваральнік вялікага, незабыўнага. І ўсе ведалі, што ёсць Купала, а не нейкія там з прэтэнзіямі да Купалы крытыкі, якія лічылі свае схемы, сваю безапеляцыйнасць вышэй за ўсё.

Бэндэ паставіў сваё прозвішча на першапублікацыі паэмы, але аказалася, што нават яго прозвішча — не талісман ад вульгарызатарскай напасці. Вучні мэтра былі ўжо і наперадзе бацькі. 18 верасня 1933 г. Купала чытаў у газеце «Літаратура і мастацтва»: «Асноўным палітычным недахопам паэмы «Над ракою Арэсай» з'яўляецца тое, што рост камуны і саўгаса не паказаны ў ёй у сувязі са змаганнем супраць капіталістычных элементаў вёскі. Кулацкая актывізацыя ў змаганні супраць новага сацыялістычнага ладу ў паэме не адлюстравана, не паказана, як камуна і саўгас знішчалі ў баі гэту кулацкую актывізацыю».

Словам, палітычны недахоп паэмы крытык, а быў ім Алесь Кучар, бачыў у тым, чаго ў ёй не было. Трэба было, па крытыку, паказаць, як «знішчалі ў баі» кулацкую актывізацыю. Зноў пагудка на стары лад: Купала адварочваецца ад выкрыцця кулацкіх элементаў, не знішчае ў баі, не паліць агнём класавай нянавісці...

Паэма ж «Над ракою Арэсай» была напісана Купалам усё-такі ў спешцы. Купала не хацеў прызнавацца ў гэтым сам сабе, заставаўся як бы вельмі задаволены паэмай. Чытаў яе часта і скрозь. І было тое ў Капылі — у гарадку Цішкі Гартнага і маладога тады паэта Міколы Хведаровіча, у якога Купала гасцяваў лета 33-га. Купала пачынаў чытаць Міколу тыя ці іншыя радкі з паэмы, а малады паэт усё хваліў іх. «Кепскі ты крытык, Міколка, калі ўсё хваліш,— нібы не згаджаўся з атэстацыяй Міколы Купала.— Галавешачка твая,— прадаўжаў,— мусіць, большы крытык!» Галавешачкай Купала называў маладую жонку Міколы — чарней вугалю чарняўку. Але большым крытыкам была не яна — Якуб Колас.

Колас роўна супрацьстаяў Бэндэ, як і Купала, і калі Купала толькі марыў, што прыйдзе новы гісторык, Колас аказваўся больш нецярплівым: у 1934 г. ён ужо выступаў у «Литературной газете» з патрабаваннем, каб самі пісьменнікі і паэты больш актыўна займаліся пытаннямі літаратурнай крытыкі. Тым нумарам газеты ад 8 чэрвеня Колас вунь як казырыўся перад Купалам: «Гэты на адно вока глухаваты, на адно вуха слепаваты страціць сваю манаполію!» Купала сумняваўся. «Не адступімо! — упарціўся Колас.— Не цяпер, дык у чацвер». «Літаратура і мастацтва», праўда, выходзіла па пятніцах, і ледзь не два гады чакаў Колас пятніцы, калі нарэшце сказаў пра Бэндэ адкрыта. Гэта было 31 сакавіка 1936 г. Колас пісаў у газеце пра сваю няўдачу з аповесцю «Адшчапенец», адзначаў, што «не апошнюю ролю адмоўнага парадку адыграла тут і наша крытыка, якая глядзела на мяне строгімі вачамі Бэндэ і патрабавала хутчэй адгукнуцца на такія важныя падзеі, як калектывізацыя, мастац-

кім творам». Вывад са сваёй няўдачы з «Адшчапенцам» Якуб Колас рабіў адзін: «Не заўсёды разумна робіць пісьменнік, калі ён пужаецца крытыка і слухае яго». Бэндэ як пудзіла на пісьменнікаў артыкулам Коласа публічна ганьбаваўся. Сваё грамадзянскае ганьбаванне выказваў гэтым Колас-мастак і прад'яўленням кан'юнктурных запатрабаванняў да літаратуры, упадабненням літаратара да ілюстратара, ігнараванню мастацкай спецыфікі мастацтва, спецыфікі псіхалогіі творчасці. Але трэба сказаць, што 31 сакавіка 1936 г. Колас выступіў супраць Бэндэ не без папярэдніх доўгіх абгаварэнняў свайго выступлення з Купалам. Абгаварэнні вяліся і ў Доме літаратара, і дома, і ў дарозе. І было аднойчы нават такое:

Колас. Думаю, што трэба спаслацца і на тваю няўдачу з Арэсай.

Купала. Якую няўдачу? На рускую, украінскую, польскую, літоўскую перакладзена...

Колас. Як яе толькі пераклалі?! Свіснуў раз, свіснуў два шустры паравозік, і павёз, і павёз за возікам возік. Гэта ўдача?

Купала маўчыць.

Колас. А гэта?

Яны знаюць; што ўжо так
Не́ быць, як калісьці,
Што пакінуць я́ны знак
Вя́лікай карысці.

Што гэта за Я́ны? Не́ быць? Вя́лікай? Гэта па-беларуску?

Купала. Націскі стаў як трэба.

Колас. Песеннік?!.. Сухар! Я даўно ўжо гаварыў, што ў цябе гэта (стукнуў рукой па лбе) прэваліруе над гэтым (стукнуў кулаком па грудзях, дзе сэрца).

Купала. Я — сухар?! Дык, можа, і твой «Шаўрале» лепшы, чым мой?

А тут мы павінны сказаць, што прыведзеная размова паэтаў адбывалася менавіта ў дарозе, калі яны на легкавым аўтамабілі пад'язджалі па Лагойскім тракце да Камароўкі. Летась урад

БССР і Купалу і Коласу падарыў навюткія «Шаўрале» — за заслугі абодвух перад літаратурай і дзеля іх, так сказаць, большай мабільнасці на паэтычных дарогах. Пытанне Купалы застала Коласа знячэўку.

— І лепшы,— адрэзаў ён.

— Грыша, спыні,— сказаў шафёру Купала, калі чорна бліскучы «Шаўрале» ўехаў якраз у шырокую і доўгую лужыну, якімі тады мінская Камароўка славілася. Купала, адкрыўшы з боку Коласа дзверцы аўтамабіля, сказаў:

— Калі лепшая, то вылазь, геній з Камароўкі!..

Але пісаць лепш трэба было — гэта Купалу было ясна. Толькі што зрабіць, куды кінуцца, каб пісаць лепш?..

Усё было першым у першай краіне сацыялізма, усё было лепшым, бо новым, сацыялістычным, і лепшай у свеце павінна была стаць і новая савецкая літаратура. З гэтым першым клопатам і збіраўся Першы з'езд пісьменнікаў СССР, на якім Беларусь прадстаўлялі Купала, Колас, Клімковіч, Александровіч, Бранштэйн і які як бы акрылялі словы: «Савецкаму пісьменніку дадзены ўсе правы, акрамя права пісаць кепска». Слухалі даклад М. Горкага. Пасля яго мізэрна выглядала выступленне тагачаснага старшыні СП Беларусі Міхася Клімковіча, які, як і Бэндэ, вульгарызаваў родную літаратуру, ды яшчэ як бы спаборнічаючы з Бэндэ, і то з такой высокай трыбуны, як Першы з'езд савецкіх пісьменнікаў. Даклад Клімковіча быў выразна антыкупалаўскі і антыколасаўскі. «Характэрнай асаблівасцю дакастрычніцкай беларускай літаратуры,— гаварыў дакладчык,— было нацыяналістычнае апісанне цяжкай долі беларуса-селяніна на фоне дзікай прыроды — найлюбімейшага арнамента нацыяналістычнай літаратуры... з яе рамантызацыяй балот і азёр, русалак і лесуноў». Паспрабаваў бы Купала сапраўды ў паэме «Над ракою Арэсай» не пазбегнуць падобнага «нацыяналістычнага» арнаменту, Клімковіч выдаў бы яму ямчэй Бэндэ! Хаця... Ці ж было мала гэтага — літарганізацыю «Полымя», як

і «Узвышша», Клімковіч, не міргнуўшы сваімі цёмнымі з-пад чорных броваў вачыма, выдаваў агулам за «літаратурныя ячэйкі нацыяналістычнай контррэвалюцыйнай арганізацыі», а настаўніка Лабановіча — героя палескіх аповесцей Якуба Коласа — за нацдэма-інтэлігента, паўтараючы заадно і тэзіс аб буржуазна-рамантычным метадзе М. Зарэцкага і г. д. Слухалі гэта, седзячы ў прэзідыуме з'езда Купала і Горкі, і недасведчаныя людзі маглі толькі плячыма паціскаць, як гэта першы пралетарскі пісьменнік падае руку Купалу, як ён увогуле ў прэзідыум Купалу вылучыў?..

Свае вульгарызатарскія схемы нацыянальных літаратур прывезлі на Першы з'езд і вульгарныя сацыёлагі іншых рэспублік, але ўрэшце не яны задавалі тон у спрэчках па дакладу М. Горкага, не іх вопыт вылучаў, не іх крытычныя думкі, як губка, усмоктваў Янка Купала. «Вялыя ветразі павярхоўнага рамантызму» ў так званай арнаментальнай прозе крытыкаваў Леанід Ляонаў, зусім не абзываючы, аднак, рамантызм д'яблам à la буржуа. «Каб ветразі рамантызму былі толькі напятымі — каб былі!» — вось лозунг Лявонава. «Стварэнне мастацкага твора,— гаварыў Ілья Эрэнбург,— справа індывідуальная, скажу больш дакладна — інтымная». «Ізноў гэта супраць Бэндэ»,— думаў Купала. «Кожны пісьменнік... гаспадар свайго таленту,— падцвярджаў Юрый Алеша.— Кожны мастак можа пісаць толькі тое, што ён у стане пісаць». «Так! Бэндаўскага камандорства ў літаратуры быць не можа!..» — згаджаўся Купала.

А як ён з Коласам у гасцініцы «Масква» радаваўся прамовам Мікалая Ціханава, Уладзіміра Лугаўскога, паўтараючы іх словы: «Майстра! Твой клопат — арганізацыя ў вершы мноства пераходаў ад узвышаных развагад да празаічнай малюнкавасці, выхаванне ў сабе здольнасці гаварыць аб шмат чым, уменне ствараць лірычную шматтэмнасць». «У нас сапраўды, як правіла,— згаджаўся Колас,— паэты аднагалосыя. Ды яшчэ,— дадаваў,— спяваючыя — пошук формы, рытму пазбавілі паэзію духу жывога!..»

Па-свойму аб інтымнасці ў паэзіі гаварыў на з'ездзе Уладзімір Лугаўской. «Я кажу,— пачаў ён,— аб лірыцы, а не аб інтымнасці... У нас сціраецца грань паміж асабістым і агульным. Будучае паэзіі — не замыканне ў сабе, а бачанне свету ў людзях — будаўніках, стваральніках і героях. Наша будучае — гэта размова з людзьмі на сапраўды чалавечай мове, размова са сваёй краінай, з каханай, з дрэвамі і зорамі. Радасць твая робіцца радасцю агульнай, і гора выклікае спачуванне ў тысяч. Я бачу сілу нашай новай лірыкі ў максімальнай чэснасці і шчырасці выказвання...»

Тут было падумаць над чым усім паэтам, тут было падумаць над чым і Купалу...

Сустрэўшыся ў кулуарах з Дзям'янам Бедным, перакінуліся жартам:

— Салаўіны, змяіны?..

— Соловьиный твой посвист, Янка, соловьиный,— звиняй! А Колас — видишь — какой витязь? Хорошо он сказал о живой правде, теплоте и искренности твоего тона!..

Купала не выступаў на з'ездзе. Колас выступаў. Яго прамова была ў працяг таго, што ён пісаў у «Литературной газете» 8 чэрвеня таго ж года. Ён, пісьменнік, сам браўся за лейцы крытыкі, як таго патрабаваў у чэрвені ад іншых сваіх паплечнікаў па пяру. Колас адчуваў, як цяжка адагнуць лук, напяты вульгарызатарамі. Але ж трэба пачынаць яго адгінаць, і на вульгарны паклёп на ўсю беларускую дарэвалюцыйную літаратуру як нібы нацыяналістычную ён адказваў паказам народнасці Купалы, яго праграмнасці, аналізуючы верш, які яшчэ да рэвалюцыі пераклаў Горкі. Праўда,— Колас адчуваў гэта,— пакуль што нельга «адгінаць лук» без агаворак, рэзка, і балдахін суцэльнага нацыяналізму, нацягнуты Клімковічам на дакастрычніцкіх Купалу і Коласа, ён сцягваў ужо часткова тым, што гаварыў пасля свайго агаворачнага «але». «Але нацыянальны гнёт,— гаварыў Колас,— супраць якога пратэставалі беларускія паэты,— з'яўляўся для іх і вялікай небяспекай, ён штурхаў іх

на шлях нацыяналізму». Штурхаць на шлях — не быць на шляху, і гэта ўжо «біла» па Клімковічу. Канчаў сваю развагу Колас так: «Старыя беларускія пісьменнікі — сярод іх нават лепшыя нашы сучаснікі — аддалі яму даніну ў той ці іншай мерцы». «У той ці іншай мерцы» таксама было не тое, што быць нацыяналістамі, і ўсё. Яшчэ хто ведае, якімі былі тыя меркі?! Вось так у чаканні новага мудрага гісторыка верны друг Купалы Колас мудра праясняў зоры над Купалам, зацёмненыя балдахінам вульгарных сацыёлагаў.

Купала праз усё жыццё любіў Максіма Горкага, лічыў яго сваім настаўнікам, прысвячаў яму свае вершы. Ён быў з горкаўскай плеяды дзеячаў культуры XX стагоддзя — і сваімі жыццёвымі універсітэтамі, і сваёй павагай да чалавека-працаўніка, да працы як сілы, што фарміруе чалавечае ў чалавеку і што з'яўляецца крыніцай усіх матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей на зямлі. Аб гэтым казаў у сваім дакладзе Аляксей Максімавіч, нібы маючы на ўвазе саму жыццёвую пазіцыю Янкі Купалы — яе самыя першасныя асновы, самыя глыбокія народныя вытокі. Гэтаксама былі блізкія Янку Купалу і словы Аляксея Максімавіча пра фальклор як апору сусветнай літаратуры, як скарбніцу, з якой яна ўзнесла ледзь не ўсе свае выключныя, манументальныя, глыбока філасофскія вобразы, пачынаючы з Праметэя і Антэя. А ці ж ён, Купала, не ў меншай ступені абавязаны фальклору, не дыхаў ім, нібы ранішняй расой, з першых жа сваіх крокаў у літаратуры, не стаў Купалам дзякуючы яму?!

Максім Горкі асабліва шмат прозвішчаў ні ў дакладзе, ні ў далейшых сваіх выступленнях на з'ездзе не называў. Але само сабой мелася на ўвазе, што гэта і пра лепшых пісьменнікаў рэспублік гаварыў Аляксей Максімавіч, калі сцвярджаў, што «ў нас ужо ёсць салідная група жывапісцаў слова,— група, якую мы можам назваць «вядучай» у працэсе развіцця мастацкай літаратуры». Тым больш што перад гэтым Аляксей Максімавіч спецыяльна вылучаў думку, што «савецкая літаратура не з'яўляецца

літаратурай толькі на рускай мове», што гэта — усесаюзная літаратура,— думку, якую на той час трэба было яшчэ даказваць, асабліва дэлегатам з-за мяжы, а яшчэ ў большай ступені ўсім непрыяцелям у свеце. Бо фенамен савецкай літаратуры быў яшчэ свету нязнаны, варожая прапаганда крычала аб «згвалчванні» і «нівеліроўцы», а значэнне Першага з'езда пісьменнікаў СССР у тым і заключалася, што ён упершыню так шырока вывадзіў пісьменнікаў усіх братніх рэспублік не толькі на ўсесаюзную, але і на сусветную арэну, г. зн. цераз усесаюзную — на сусветную. І гэта было асабліва да душы Купалу.

«Усім, што сказана,— гаварыў А. М. Горкі,— я звяртаўся да літаратараў усяго з'езда, а значыць,— да прадстаўнікоў братніх рэспублік. У мяне няма ніякай прычыны і жадання,— працягваў ён,— вылучаць іх на асобнае месца, бо яны працуюць не толькі кожны на свой лад, але кожны — на ўсе народы Саюза сацыялістычных рэспублік...» «Працуюць менавіта навідавоку, перад аблічам усяго свету ўключаны,— падкрэсліваў А. М. Горкі,— у вялізную справу, справу сусветнага значэння...» «І гісторыя,— сцвярджаў вялікі пралетарскі пісьменнік,— высунула нас уперад як будаўнікоў новай культуры, а гэта абавязвае нас..., каб увесь свет... бачыў і чуў галасы нашы...»

Так! Так яно папраўдзе і адбылося. Бо калі сёння ўвесь свет чуе галасы Янкі Купалы і Якуба Коласа, то гэта толькі таму, што яны сталі пісьменнікамі ўсесаюзнымі, савецкімі, што партыя і савецкая ўлада былі ў клопаце як пра будаўніцтва новага жыцця, так і пра новую літаратуру.

Янка Купала якраз сам пра гэта не раз гаварыў на працягу ўсіх 30-х гадоў у публічных выступленнях, у прэсе, гутарках. А на самім з'ездзе ён усёй душой радаваўся атмасферы добразычлівасці, якая на ім панавала, тым, што, як сказаў у заключным слове А. М. Горкі, з'езд «працаваў на высокіх нотах шчырага захаплення мастацтвам нашым». А гэта значыла — і мастацтвам Купалы і Коласа. «Партыя і народ,— гаварыў любімы імі абодвума Аляксей Максімавіч,— пазбаўляюць вас і права

камандаваць адзін адным... I асабліва трэба вучыцца вам павагі адзін да аднаго» (тут Купала і Колас маглі быць выдатным прыкладам узаемнай павагі і пісьменніцкай дружбы). Аляксей Максімавіч успомніў і пра словы «вучыцеся пісаць у беспартыйных». Для беспартыйных Купалы і Коласа гэта таксама было высокай адкрытай пахвалой.

Вяртаўся Янка Купала з Масквы ў Мінск членам Праўлення ССП СССР (не Клімковіч, а Купала вяртаўся ім, і гэта было вунь як сімвалічна тады!): вяртаўся Купала, успамінаючы як спатканне беларускай дэлегацыі з Горкім на дачы ў вялікага, любімага ім Аляксея Максімавіча, так і людную сустрэчу пад страпіламі велізарнага цэха з рабочымі Масквы, у якой ён удзельнічаў, так і больш ціхую, прафесійную — у «Правде», з яе супрацоўнікамі. Ён не толькі сядзеў у прэзідыуме з'езда поплеч з М. Горкім, А. Фадзеевым, А. Талстым, С. Стальскім, але нават старшынстваваў на адным з ранішніх пасяджэнняў з'езда, і ў яго гэта з яго хрыплаватым нізкім барытонам, як яму здавалася, не вельмі атрымлівалася.

Як заўсёды, ён больш прамаўчаў, праўсміхаўся і на дачы ў Аляксея Максімавіча Горкага. Але ўсхваляваны ён быў тады незвычайна. Ды і ўвесь з'езд быў для яго суцэльным хваляваннем — уздымным, высокім. Ніякіх перажыванняў, здавалася цяпер, быццам бы і не было, і толькі тое, што па-новаму акрыляла, заставалася, жыло ў ім,— гэтым ён дыхаў на поўныя грудзі, гэта павінна было пераўтварыцца ў яго песню — новую, яшчэ нікім не чутую, сапраўды вартую велічы з'езда, таго, што там пачуў, што сэрцам прыняў.

А сапраўды было з чаго і хвалявацца і мацнець духам Купалу. Перспектывы з'езд адкрываў самыя шырокія. А. М. Горкі і на з'ездзе і на дачы гаварыў, паўтараў: мы павінны, мы павінны ўсімі спосабамі ўмацоўваць і пашыраць сувязь з літаратурамі братніх народаў, якая на з'ездзе сябе так сцвердзіла. I, здаецца, ці не на дачы сказаў ён:

— Калі мы не хочам, каб згас агонь, які ўспыхнуў на з'ездзе, мы павінны прыняць усе захады дзеля таго, каб ён разгарэўся яшчэ ярчэй...

Горкі марыў пра новы тэатр, пра штогадовыя зборнікі шматнацыянальнай паэзіі, прозы, пра майстэрскія пераклады вершаў для дзяцей, напісаных у беларускіх хатах, каўказскіх саклях, казахскіх юртах.

«Агонь не пагасне, калі ён у гэткіх руках,— думаў Купала,— абы толькі быў гэты агонь праўдзівы... Але тут ужо клопат уласна твой, паэце. Народ даў табе талент. Як гэта казаў Аляксей Максімавіч: «Шматлікасць народа не ўплывае на якасць талентаў... Няма такой маленькай краіны, якая не давала б вялікіх мастакоў слова». Няхай і не маленькая твая, Купала, краіна, няхай і не табе меркаваць аб якасці твайго таленту, ты, аднак, вунь як цяпер павінен, абавязан!..»

Купала заўсміхаўся. Усміхаўся ж ён сваім думкам, успаміну, які ні з таго ні з сяго нахлынуў, нібы гэта ён сядзіць не на лаве ў купэ, а ў школе Старавойтава над Арэсай і дзеці яго дапытваюць, як стаць пісьменнікам.

— Пішыце і пішыце,— гаворыць ён малодшым.

Дзятва адказвае:

— Мы ж пішам і дыктоўкі, і практыкаванні...

— А вы ў насценгазету пішыце, у раённую газету...

Дзятва засталася незадаволенай адказам. Таму старшакласнікам, сказаўшы спачатку тое ж, што і малодшым школьнікам, ён парэкамендаваў у заключэнне іншае:

— Да дзяўчат пішыце — запіскі — вершамі. Як закахаешся, вось тады і пішацца!..

Сам таго не ведаючы, успамінаючы гэтую жартоўную размову са школьнікамі з-над Арэсы, Купала быў ужо у дарозе да таго, што будзе далейшым абнаўленнем яго паэзіі, яго, Купалавым, адкрыццём часу не па паверхні, а ў самой жывой духоўнай сутнасці часу, у адкрыцці, як казаў Колас, паэзіі духу жывога. «Сам наўрад ці закахаюся,— думаў Купала,— а вось верш

«Для тых, якіх люблю», то напішу ўжо». Тых жа, любоў да якіх неўзабаве стане выяўляць паэт, будзе ў 1935 г. шмат. Поўны не нянавісці па Бэндэ, а звычайнай чалавечай павагі і ўвагі да звычайных будаўнікоў сяла, паэт напіша многія свае незвычайныя вершы, якімі будзе здзяйсняцца ім сацыяльны заказ сацыялістычнага будаўніцтва — быць інжынерам чалавечых душ пры самым шчаслівым творчым самапачуцці, калі кліча «поэта к священной жертве Аполлон».

# НАД КРУЧАМІ

## 1. ЛЯЎКІ

У 1935 г. урад Савецкай Беларусі падарыў Купалу дачу. Купалу папрасілі самому знайсці па душы сабе месца для яе пабудовы, і гэтым месцам ён выбраў Ляўкі — высокую кручу над Дняпром-Славуцічам, што спрадвеку свой разгон да Чорнага мора — на Украіну, Запарожскую Сеч — браў адсюль — з-пад Оршы, Рагачова, Лоева. Ляўкі — паблізу Оршы. Ляўкі сталі новым прыстанкам Купалавай музы, усё больш і больш адваёўваючы Купалу ад дома пад таполяй...

Ад кола да кола — гісторыя як бы паўтаралася: ад рыплівых у чорным шмаравідле восей арандатара Дамініка да — на новым вітку гісторыі — кола «Шаўрале». На падатлівай апоне, з мяккімі рэсорамі-амартызатарамі кола «Шаўрале» стала колам і як бы ўзросту самапавагі Купалы, колам яго славы, яно ж і шмат да чаго вярнула Купалу нанова, стаўшы не толькі сувязным паміж домам пад таполяй і дачай на кручы. Бо яно вярнула Купалу зноў да штодзённых соснаў — векавых, задуменных, што гайдалі свае разложыстыя лапіны ў высокім сінім небе за дачай на кручы, як і да тых, што былі за Весялоўкай і Казіміраўкай пад Мінскам, і каля Бяларуч і Калодзішчаў, і каля Барысава і Мар'інай Горкі. А сосны дарылі Купалу грыбы, ягады і зуброўку — шаўковую, духмяную траву зуброў, якая расце толькі ў Беларусі. І зубры-грыбнікі Купала і Колас прывозілі ў багажніку «Шаўрале» не толькі белыя баравікі ў карычнева-чорных пакарабацелых капелюшах, не толькі вогненна-рыжыя ры-

жыкі, маслатыя маслякі, чырвонагаловыя падасінавікі, але і духмяную каралеву траў, ласунак белавежскіх і налібоцкіх ваўкоў... латаў, а для паэтаў — найлепшую траўку для гасціннай настойкі.

Слава табе, кола «Шаўрале», бо ты гэта адкрыла для Купалы і Ляўкі — можа, самыя запаветныя з запаветных мясцін прыгажосці роднага краю, і зноў паяднала паэта са «Словам аб палку Ігаравым» — з найпершым героем «Слова» — Дняпром-Славуцічам, як і з новымі героямі дня роднай Купалу зямлі — з сялянамі, што цяпер заможнымі калгаснікамі сапраўды княжылі ў сваім Прыдняпроўі. Ты, кола, наноў паяднала паэта з плытамі на дняпроўскай хвалі, з песнямі плытагонаў і зарэчных жней, з водарам белапеннай грэчкі, гудзеннем у ёй працавітых пчол і басавітых, як сам паэт, чмялёў. Цешыла сэрца паэта ў Ляўках і яго новае яднанне з хвалямі жыта, што пераліваліся за хвалямі Дняпра, як іх працяг; цешылі хвалі льноў за Дняпром, якія летам, калышучы пад вятрамі сінія агеньчыкі квету, блакітнелі, а надвосенню — у рыжавата-сонечных галоўках — станавіліся карычнева-залатымі. Дзякуй табе, кола «Шаўрале», што ты давезла сюды паэта, але дзякуй і табе, дняпроўская круча, што ты чакала паэта; дзякуй табе, дамок на кручы, што няцёсаныя смалістыя бярвенні сцен тваіх так лагодзілі яго душу і сэрца; дзякуй сальцы пад спічастай дранкавай страхою, з якое мноства радасна ціхіх усходаў і заходаў сонца віталі Купала, Уладзіслава Францаўна, Якуб Колас.

Але ці скажу я пра Ляўкі і сальку лепш ад тых, якія ў ляўкоўскай сальцы сонца сустракалі, сонца праводзілі?!.

Уладзіслава Францаўна: «Калі я ўспамінаю Ляўкі, дзе была наша дача, перада мной заўсёды ўстае высокі бераг Дняпра, стары сасновы бор, задумны, шумлівы...

Каля Дняпра, зарослыя кустамі чаромхі, арэшыны, у высокай зялёнай траве акопы, бліндажы — памяць першай сусветнай вайны.

Па Дняпры праходзяць плыты, за Дняпром відаць шырокія калгасныя палі, з вясны зеляненючыя рунню, а пасля — залацістыя ў цяжкім наліве калгаснага збожжа...

Плытагоны пелі песні, якія доўга несліся над водамі, рэхам адгукаючыся ў бары. Цэлымі днямі бор напаўняўся птушыным шчэбетам, ноччу і раніцой увесь прастор аж дрыжаў ад салаўінага спеву».

Я к у б  К о л а с:

«Дача... у надзвычай прыгожым кутку, на маляўнічай дняпроўскай кручы, на ўскрайку старадаўняга лесу. Купала дужа любіў гэтую мясціну. Калі я ўпершыню прыехаў да яго на дачу, ён павёў мяне аглядаць яе ваколіцы і першым чынам — у глыб лесу. Лес часта перасякаўся глыбокімі ярамі. Са схілаў яроў прабіваліся крыштальна чыстыя крыніцы. Яны сцякалі на дно яра і ўтваралі невялікія ручайкі, рухлівыя, гаманкія. Некалькі такіх ручайкоў зліваліся ў адзін ручай, шумны і мнагаводны. Ён шпарка імкнуўся ў Дняпро срэбранымі пералівамі дробных хваль. Асабліва прыгожы і шырокі краявід рассцілаўся перад вачыма за Дняпром з акна салькі купалаўскай дачы. Не адну ноч правялі мы ў гэтай сальцы. Мне вельмі добра помняцца летнія раніцы да ўсходу сонца, калі мы, начуючы ў сальцы, прачыналіся і падыходзілі да акна. Нельга было не залюбавацца малюнкам, што ўставаў перад вачыма. Адхонны схіл дняпроўскай кручы, багата заросшы пышнымі кустамі, упіраецца ў бераг Дняпра. Шырокаю бліскучаю істужкаю між паўзбярэжнай зараслі купчастых кустоў павіваецца старадаўні Дняпро. Павольна, паважна плыве баржа з чырвоным ліхтаром. Плямка агністага колеру адбіваецца ў Дняпры, ідзе следам баржы. Ціха праплываюць рыбацкія лодкі. А воддаль, вышэй па Дняпры, цьмяна вырысоўваюцца з ранішняга змроку сілуэты будынкаў Копыся.

— Ну, што — прыгожа? — ціха пытае мяне Купала. У голасе яго чутны ноткі радасці».

Ноткі ціхай радасці,— скажам мы,— і з гэтай ціхай радасці паэта і нарадзіўся ў яго ў Ляўках вялікі лірычны цыкл — Ляўкоўскія вершы — з'ява, прыкметная не толькі ў беларускай, але ва ўсёй шматнацыянальнай савецкай паэзіі гадоў 30-х.

У Ляўкоўскім цыкле чэрвеня 1935 г. Ляўкі бы ў люстры. Спаконвечныя сосны ўскрайку бору, да якіх прытулілася дача, і шумяць і маўчаць, адлюстраваўшыся ў вершы:

Сосны выносныя,
Гордыя сосны!
Шмат вы ўжо носіце
Сонечных вёснаў.

Вас, супакойныя,
Вецер калыша,
Думкі ўзнімаеце
Шумам і цішай...

Вершы «Старыя акопы» — аб бліндажах і акопах, пра якія ўспаміналa ўжо Уладзіслава Францаўна; «Дарогі» — пра шасейную магістраль Мінск — Масква, якою кіраваўся на сваім «Шаўрале» з Мінска ў Ляўкі Купала. «Ехаць доўга, затое бліжэй да Масквы!» — апраўдваўся паэт перад сябрамі за крыху даўгаватую, як на дачу, дарогу з Мінска ў Ляўкі. У вершы «Вечарынка» — субота, калгасны клуб. Па імені называе паэт кожнага, хто прыйшоў у гэты клуб з поля, з гаспадаркі: «прыйшлі Сцёпкі, Пецькі, Васі, прыйшлі Зосі, Стасі, Касі», «Зіна шэпча штось Мальвіне, а Мальвіна шэпча Зіне».

Захапіўшы ў першай пары
Янка Маньку, Юрка Раю,
Даюць дыхту, даюць жару,
«Сербіянку», «Польку» шпарацць.
  А гармонік грае, грае.

«Вечарынка» стане народнай песняй, усім сваім задзёрам выражаючы новае багатае калгаснае жыццё. Усё маладое калгаснае сялянства 30-х гадоў убачыла ў гэтым вершы сябе, а Купала пісаў яго, ведаючы, што на гармоніку іграе не безыменны

музыка, а Васіль Раманцаў, як ведаў ён і прозвішчы ўсіх тых, хто назаўтра, пасля вечарынкі, у нядзелю прыйшоў да яго з хлебам-соллю на дачу на кручы. Паважаны, задумёны старшыня калгаса Шастоўскі, маладзейшы і рухавейшы за яго брыгадзір Сямён Баразноў, свінарка Дзеразоўская, трактарыстка Маша Ахрэмава, звеннявая Вайцяхоўская, конюх Чаркасаў, Міхал Старавойтаў. Хлеб-соль унёс у хату на кручы старэйшы калгаснік сяла Чаркасаў. Звеннявая несла лён, трактарыстка — мёд, свінарка — пірог, а дзеці — кветкі. І сярод іх быў той хлапчук, што ззумячы языком і махам рукі рассякаючы паветра, надоечы ўдаваў, што гэта круціцца ў паветры не яго рука, а сапраўдны прапелер. Хлапчук быў тады безуважны да ўсяго існага па ляўкоўскай пыльнай вуліцы — да курэй і галубоў, да свіней у лапухах і задыханых ад паўдзённай спёкі кароў. Не зважаў ён нават на тое, што сам Купала, абапіраючыся злёгку на кіёк, ішоў па ляўкоўскай вуліцы. Хлапчук шыбаваў па ёй паўпрасткі, відаць, да таго месца каля Дняпра, дзе па адлогім мурожніку нядаўна садзіўся двукрылы, з зоркамі пад крыламі самалёт. Шыбаваў, аднак, гэты хлопчык не толькі на дняпроўскі бераг, але і проста ў верш Купалы «Хлопчык і лётчык». Хлапчаня паэта не заўважала, паэт хлапчаня заўважыў. Песняй — піянерскай, шырока вядомай у 30-я гады — стаў і гэты верш Купалы.

Кветкі неслі ў хату на кручы дзяўчаткі, і сярод іх была і Жэня Новікава, якую Купала больш запомніць потым, калі, як ён любіў казаць потым, знайшоў яе ў лесе, знайшоў, як ягадку, убачыўшы ў глыбокім бары за ярамі, між лапчастага сунічніку. Падлетак-сямікласніца, яна, нібы дарослая, рупна збірала ў свой збаночак барвовы россып духмяных суніц.

Купала і ў шчаслівых Ляўках знайшоў сіротку! Бо ён жа не мог не спытаць у ружовай хусцінаўчкі, якая так па-даросламу заклапочана збірала ягады: «А ты чыя, кветачка?»

— Ляўкоўская,— адказала дзяўчынка, заружовіўшыся, як сунічка. Але Купала быў на тое Купалам, каб дапытацца, чыя

яна, каго, і, даведаўшыся, што ў Яўгеніі памерла маці, што Яўгенцы вельмі хочацца вучыцца, стаць настаўніцай, Купала тут жа пасля сунічнага баравога дня, хоць і нахадзіўся па лесе, увечар выбраўся ў Ляўкі — да бацькі Жэні. Так з лета 1938 г. Яўгенія Новікава стала яшчэ адной студэнтачкай у мінскім Купалавым доме пад таполяй, хоць у ім былі студэнтачкамі дзве дачкі Лёлі Раманоўскай, быў студэнтам і сын Лёлін, таксама Янка, як дзед-паэт.

Ды мы яшчэ не сказалі, што ў Ляўках у лета 1935-е, першае лета паэта ў Ляўках, былі напісаны ім вершы «Беларусі ардэнаноснай», «Алеся», «Здаецца, было гэта ўчора...», «Партызаны», «Сыны», «Як я молада была», «Лён», на рукапісе рускага перакладу якога яшчэ жывы тады А. М. Горкі напісаў адно красамоўнае слова: «Слаўна!» Сапраўды слаўна пісалася Янку Купалу ў чэрвені месяцы 35-га года ў Ляўках. Мы, аднак, знарок не назвалі яшчэ двух вершаў з чэрвеня 35-га года — «Сонцу» і «Маё мне сонца правадыр...». Пра сонца вельмі шмат думаў на дняпроўскай кручы паэт, думаў у сальцы, у якой ён так любіў сустракаць ранішняе сонца, праводзіць вечаровае. Але ён шмат думаў пра сонца і яшчэ па адной прычыне: недзе ў самым канцы мая месяца яму нешта вельмі зарупіла-пацягнула на стары Даўгінаўскі шлях. Акопаў не было, быў «Шаўрале», і збочыў Іван Дамінікавіч у Мачаны: «Як жывяце вы, дзядзька Амброжык?!»

На дзякаваным хлебе аўдавелае нявесткі жыў даўні няўнылы гаспадар, які не з аднае печы хлеб еў: у маладосці пазнаў хлеб сабачы — прымачы, а цяпер, з нямоглымі ўжо плячамі, сядзеў на прызбе і баяў байкі. Купала быў памятлівы на байкі: з маленства не забыўся Песляковых казак. Але сапраўды не на звей вецер баяў і свае байкі дзядзька Амброжык, пачынаючы іх адным і тым жа запевам: «Ні калі было, ні калі будзе, але раскажу табе, Яначка...» Дзядзька Амброжык выціраў раз-пораз вочы, якія ў яго пачалі слязіцца. Ад старасці, ад жаласці?..

— Ты, Яначка, не думай, што барада ў мяне толькі печ вымятаць,— казаў дзядзька,— я і падмясці дарожку добраму госцю магу, і след замясці ёю магу. Далібог, праўда, ісцінная праўда! Але паслухай. Гэта не пра цябе, а можа, і пра цябе, пра тваю таполю, а можа, і не пра тваю таполю чуў я казку нядаўна. Людзі ж пра тваю таполю яшчэ нічога не ведаюць, але бачылі неяк у лесе таполю, якую апляла сваім чорным тулавам змяя. Баліць таполі, а скінуць з сябе змяі не можа: ёй, каб прыдушыць змяю, прыціснуць яе ўсім сваім магутным камлём, праткнуць усімі сваімі вострымі сукамі, трэба паваліцца. А яна ж дужая, магутная, нібы таполя над тваёй хатай. Вось я і думаю, раскажу табе спярша пра таполю, што не можа сваімі сукамі-рукамі падняць каменя, каб прыкатрупіць лаўжыннага звера...

Дзякаваны хлеб нявесткі Амброжыка аказаўся пытляваным, калгасным, няшчасная ўдоўка — гаваркой, як свёкар, ды яшчэ такой, за якой хоць пяшочкам з мяшочкам пойдзеш, а яна цябе ўсадзіць у мех ды яшчэ завяжа.

— Лепш памерці ў мужа ў нагах, чым у дзяцей на руках,— гаварыла маладая ўдавіца Маруся, уздыхаючы: — Мне ўжо не будзе таго шчасця, хоць яшчэ Маруся, калі пастараюся.

Нявестка Амброжыка старалася, і санцавокая яешня на стале запыхцела жарам з вугалю, місу каўбасы, сала нарэзала яна, сыр белы, як снег, на льняную накрухмаленую сурвету з клінка вылузала, пляснула, а хлеб рэзала вялікімі лустамі, па-мужчынску прытуляючы бохан да поўных грудзей.

— На Беларусі ж усе Марусі,— можа, спецыяльна для Янкі Купалы як паэта яна ні з таго ні з сяго раптам і аб'явіла, калі дзядзька Амброжык скончыў сваю казку пра падкалодную змяю.

— Пэўна, мусіць,— у рыфму сказаў Купала.

— Далібог, ісцінная праўда,— пацвердзіў Амброжык,— як і тое, што цяпер ужо, Яначка, інакш спяваецца твая песня. «Зайшло сонца, узышоў месяц»,— пачаў ён рэчытатывам, рас-

цягваючы словы, і прадаўжаў: — «А маладзік дык стаў поўняй, а поўня дык ясным сонейкам абярнуцца ўзгарэлася... Лепш бы сонца не заходзіла!» — абарваў свой рэчытатыў дзядзька Амброжык.

— Што ўзыходзіць, тое і заходзіць,— пачаўшы курыць, сказаў Янка Купала.

— Чысцюсенькая праўда,— пацвердзіў дзед Амброжык,— але без сонца нельга. Пазнаўшы сонца, жыві сонцам і, хоць яно і зайшло, будзь з ім. Па сонцу ідзе свет, а не па бібліі,— сонца — галава!

— Галава — з арэх, а вочы — па яблыку,— падаючы яшчэ адну патэльню з прыпека, выгукнула нявестка Амброжыка.

Купала заўсміхаўся, хоць арэх і яблыкі былі ні пры чым да галавы-сонца, і заадно яшчэ адно вочка яешні ён уважыў, перакінуўшы яго сабе ў белую талерачку з чырвонай ружай на зялёнай галінцы: «Адкуль, аднак, гэтая парцаляна ў нявесткі дзядзькі Амброжыка?..»

— Бяда,— пачаў зноў дзядзька Амброжык,— калі ўзыходзіць тры сонцы.

Гэта было нешта новае, і Купала адарваў погляд ад талеркі з ружай.

— Бяда! — уздыхаў дзядзька Амброжык.— Бо то вось што надоечы расказваў мне якраз на котлішчы Казіміраўкі, каля якой цяпер увосень рыжыкаў не пабраць, нейкі, можа, старэйшы, чым я, дзед, а можа, не старэйшы.

Амброжык пазіраў на Купалу хітра. Ясна было, што Амброжык хітрыць.

— Дык што там тыя тры сонцы? — пытае Купала.

— Тры сонцы — тры роўныя, а навакол іх — зорак, зорак — гаць гаці! І таксама ўсе роўныя, спакойныя, маўклівыя, нібы разумныя, разумныя.

Маўчун Купала ўсміхаецца. Дым ад казбечыны над ім — лагоднымі, фантастычна завітымі кругамі. Правай паднятай рукой з папяросай ён абапёрся аб стол, сядзіць крыху бокам да

стала, каб тварам у твар да дзядзькі Амброжыка, які сядзіць цераз левы рог стала. Амброжык прадаўжае:

— І не ведаюць сонцы, якое з іх — першае, а тым болей два — левае і правае — не ведаюць, што сярэдняе ўзгарэлася думкай быць першым і во — непрыкметна леваму і праваму — адпіхвае іх праменнямі сваімі адно ўправа, другое ўлева, а справа і злева — кручы, да круч іх адпіхвае, а само да зор гукае: «Зірніце, пазірніце, то ж леваруч ад мяне сонца на кручу чагосьці палезла, і праваруч ад мяне сонца на кручу чагосьці палезла. Зірніце, пазірніце!» Зоры глядзелі, разбуджаныя воклічам сярэдняга сонца, на ўсе тры сонцы, глядзелі, а потым пачалі казаць, хто: «І праўда, бачым»; хто: «Нічога не бачым!» І мовіла да іх сярэдняе сонца: «Тыя з вас, што бачаць,— светлыя, тыя, што не бачаць,— цёмныя». І, падзяліўшыся на светлыя і цёмныя, як усчалі зоры калатнечу,— свет такой не бачыў! Цёмныя абвінавачвалі светлых, што яны — махляры, бо не маглі яны бачыць тое, чаго яны, цёмныя, не бачылі. Светлыя абвінавачвалі цёмных, што тыя не схацелі бачыць тое, што яны, светлыя, бачылі, бо не маглі ж не бачыць таго, што бачылася. Адна зорка са светлых аказалася з выкалатым адным вокам, і яна была аб'яўлена паўсветлаю. Адна з цёмных зорак заявіла, што яна бачыла краечкам аднаго вока тое, што бачылі светлыя зоркі, і была аб'яўлена паўцёмнаю. І калатнеча паміж зоркамі яшчэ больш узмацнілася, бо пайшла ўжо і паміж светлымі і цёмнымі, і паміж паўсветлымі і паўцёмнымі, а ўбачылі, што няма міру паміж былымі светлымі зорамі чорныя зоры, якія чорнымі ямінамі таксама спаконвек гняздзяцца ў небе, як і светлыя, то і давай яны, як цмокі, засмоктваць у свае чорныя вантробы зоркі і светлыя і паўсветлыя, і цёмныя і паўцёмныя. А сярэдняе сонца адно маўчыць і вусамі не шавяльне, а потым і прамаўляе: «Гэй, вы, зоры, а ведаеце вы, хто вінаваты, што няма ў вас міру?» — «Хто, хто?!» — закрычалі ў адзін голас усялякія зоры. Павярнула сонца, што ўзгарэлася стаць самым першым на небе, свае хмурыя вочы ўлева, павярнула ўправа: «Яны!..» Левае

сонца было ўжо над безданню левай кручы, а правае сонца было ўжо над безданню правай: падпіхнуць адно, і скоцяцца з неба абыдва. «Яны вінаватыя,— варочаючы, як маруднымі жорнамі, пацямнелымі вачыма то ўлева, то ўправа, ціхім зусім голасам і, як бы яму зусім не да спеху, запаволенай інтанацыяй абвяшчала сярэдняе сонца. Ой, бяда, калі ўзыходзіць тры сонцы, ой, бяда! — ківаў галавой дзядзька Амброжык.— Казка яшчэ гэтая без канца,— адвечная казка — канчаў ён,— ды лепш бы не ведаць яе канца, Яначка, лепш бы не ведаць!..»

У чэрвені месяцы 1935 года ў цішы наддняпранскай кручы, у цішы ўзыходаў і заходаў сонца, мілаваных з салькі, Купала ўспамінаў Амброжыкавыя кручы, сонцы. Казка была пра тры сонцы, а ў яго складвалася песня толькі пра адно: тое, што свяціла ў шчаслівыя шыбы салькі:

Ой ты, маё сонца,
Як жа свеціш ясна!
Дзе ж было раней ты,
Як быў я няшчасны?

Папракаць сонца, можа, і не варта было, бо не сонца ж у небе было вінавата ў тым, чаму няшчасным ці шчаслівым быў даўно ці нядаўна паэт з Беларусі пад небам Беларусі. Паэт гэта зразумеў і другі свой верш пра сонца пачаў у Ляўках з радка: «Маё мне сонца правадыр». «Маё»! Тое, што ў небе, як сімвал светлых сіл на ўсім свеце. «Мне!» Янку Купалу... Але чаму пра тры сонцы гаварыў Амброжык? Гм?! А чаму ў яго самога, у Купалы, чараўніца-дзяўчына, якую ён прасіў калісьці, каб прыходзіла выдзіраць яго сэрца з грудзей, дык прыйшла і выдрала «ды на трох нажах стаячых» панесла яго і смяялася?..

У наддняпровым прыцемку, калі зоры роўна пачыналі ўзгарацца і ў небе, і ў люстры Дняпра, Купала ўспамінаў і пра чорныя зоры дзядзькі Амброжыка. Мільгала думка: «Бэндэ — чорная зорка?.. Не! Нават і не чорная, хоць засмоктвае ў чорную

прорву, як, можа, і тыя чорныя зоры, якія ці існуюць, ці не існуюць, ці толькі ў казцы ажыўляе іх народная фантазія. Ажыўленне. Народная фантазія. Казка. Жывая вада...»

Як пры жывой вадзе, пры Дняпры дні і вечары праседжваў, праходжваў Купала. У сэрцы Купалы бруілася і ціхая радасць, і не-не дый нейкая насцярожанасць перад такой вось, хоць мак сей, цішынёй. Насцярожвала казка, насцярожвалі Амброжыкавыя зачыны: «Калі будзе, калі не; або дожджык, або снег; або будзе або не».

Гэты юбілей Янкі Купалы пачынаўся з 15 лістапада і працягваўся цэлы месяц. Генеральнае ўшанаванне назначалася на 11 снежня. Гэта быў ужо не 1932 год, але і не 1925-ты. Увогуле ж юбілейная хроніка 1935 г. была такая. Першы творчы вечар паэта адбыўся яшчэ ў канцы мая ў Мінску ў Доме пісьменніка. Ад беларускіх пісьменнікаў паэта вітаў тады М. Лынькоў, ад ССП СССР — М. Галодны, ад грузінскіх — Л. Буачыдзе, ад польскіх — С. Стандэ, ад яўрэйскіх — З. Аксельрод. Гэта і ў той жа дзень, 28 мая, СНК БССР прыняў пастанову «Аб 30-гадовым юбілеі літаратурнай дзейнасці народнага паэта рэспублікі Янкі Купалы», якою дэклараваўся ў дар Купалу і легкавы аўтамабіль.

У кастрычніку Прэзідыум ЦВК БССР зацвердзіў камітэт па падрыхтоўцы святкавання 30-гадовага юбілею Купалы, а ўвогуле самі юбілейныя святкаванні ішлі на фоне вельмі вялікай увагі і павагі да паэта з боку кіруючых органаў рэспублікі. У студзені Купала прымаў удзел у рабоце XI Усебеларускага з'езда Саветаў, быў абраны разам з Коласам членам ЦВК БССР і дэлегатам з правам рашаючага голасу на VII Усесаюзны з'езд Саветаў. У канцы студзеня — пачатку лютага ён і ўдзельнічае ў рабоце VII Усесаюзнага з'езда Саветаў. Не паспявае вярнуцца з III Усебеларускага з'езда рабселькораў, як 28 лютага выязджае ў Маскву на II пленум Праўлення ССП СССР. У канцы сакавіка Купала ў Харкаве — на адкрыцці помніка Т. Шаўчэнку. 11 лі-

пеня ў сувязі з 15-й гадавінай вызвалення БССР ад польскай акупацыі і ўручэннем Беларусі ордэна Леніна ўзнагароджваецца Ганаровай граматай БССР. 15 жніўня 1935 г. С. М. Гарадзецкаму Купала піша: «Неяк атрымалася ў мяне з «Праўдой» узаемная любоў — не скупіцца ў друкаванні маіх вершаў». І сапраўды: «Правда» 11 ліпеня ўжо надрукавала верш паэта «Лён», 24 верасня надрукуе «Хлопчыка і лётчыка», паэта друкуюць у Маскве і «Рабочая Москва» і часопіс «Новый мир». Ва ўспомненым ужо лісце да Гарадзецкага, акрамя таго, паэт мімаходзь зазначаў таксама: «Дарэчы, у рэдакцыі «Правда» ляжаць два маіх вершы, якія зрабілі тут», г. зн., у Беларусі, «моцнае ўражанне» і за якія,— ціха прызнаецца паэт,— ён «атрымаў... вялікую пахвалу ад нашага сакратара ЦК», значыць, ад самога Гікалы Мікалая Фёдаравіча.

У 1935 годзе меў яшчэ сілу і вульгарны сацыялагізм. І Купала адчуваў зусім розныя адносіны — высокай афіцыйнай партыйна-ўрадавай думкі і думкі сектанцкай. У тым жа 1935 годзе М. Клімковіч на старонках чэрвеньскага «Полымя» пісаў пра Купалу тое ж, што гаварыў з трыбуны маскоўскага з'езда, Бэндэ ж аж у двух нумарах «Полымя» — за верасень і кастрычнік — перакручваў творчы шлях Купалы ўсё на свой капыл, па-старому. Атрымлівалася: першы сакратар ЦК хваліў, вульгарызатары ж прадаўжалі друкаваць сваё. «Жыццё наша такое вясёлае, што песні самі на вусны просяцца»,— гаварыў 11 снежня на сваім юбілейным вечары Купала, і гэта было праўдай. На гэтым вечары як бы і не было вульгарызатараў Купалы. Затое былі А. Новікаў-Прыбой, І. Мікітэнка, А. Лахуці, М. Рыленкаў. Была зачытана тэлеграма ад М. Горкага: «Сардэчнае прывітанне нястомнаму саратніку, паэту-рэвалюцыянеру» (Бэндэ тройчы перакруціўся ў сваім пракруставым лежбішчы вульгарызму: «Рэвалюцыянер?! Трубадур роспачы, злосці, першабытнага дэмакратызму сялянскай цемнаты, ліберал, нацыяналіст, ідэолаг буржуазнага нацыянал-адраджанізму, аслеплены нянавісцю да пралетарскай літаратуры!..»). 13 снежня Якуб Колас Гара-

дзецкаму паведамляў: «Юбілей Купалы адсвяткавалі вельмі добра, цёпла, сардэчна...»

Банкет быў у фабрыцы-кухні, банкет быў і ў доме пад таполяй. У доме пад таполяй — шумнейшы. Як Зоська ўнесла ў гасцёўню на вялізным падносе гару́ толькі што з печы бульбы, першым Рыленкаў, а за ім усё застолле выгукнула:

— Бульба!

Бульба дымілася да сталі, да той самай, да якое пасля зімы 1930—1931 года даставала паводка, і за сталом віно лілося не паплытчэлаю з тых гадоў Свіслаччу, а паводкаваю — прадвесня 1931 года. Дзесяць кашоў віна прывёз Купала сваім «Шаўрале» з Лошыцы, дзе была тады база-вінярня. Тры пуды сялянскай каўбасы накруцілі Зося, Уладка і Марыя Канстанцінаўна Хайноўская. Сталы і крэслы былі не з дзіцячага сада: стол літарай «Т», крэслы мяккія, абітыя чырвонай абшыўкай. Не мулка нікому, весела, святочна. Купала рады ўсім гасцям, гаваркі, як, можа, быў толькі ў кабінеце без вуглоў у Карпілаўцы Лявіцкага — пасля трэцяй чаркі, калі чытаў упершыню «Паўлінку», ці як на знаёмстве з Марыяй Пяледай, на наваселлі ў Ласоўскага, калі гэта, па словах Ласоўскага, «халоднасць яго таяла, патухшыя вочы загараліся і адкрывалася мройлівая мяккая душа славяніна», а словы яго станавіліся пякучыя, як агонь, іскрыстыя, як шампанскае. Гэта быў не юбілей кійка, які горка кончыўся. Ніякой інсцэніроўкі, ніякога наперад спланаванага смеху! Смяецца той, хто смяецца апошнім. Тут смяяліся так, каб не было гэтага апошняга. А душой застолля быў гаспадар.

— Украіна, цвеце любы, сонцам гадаваны! — раскрываў ён рукі для абдымку ўкраінца Мікітэнкі.

— Сад душы маёй, дыван шматкветны! — цалаваў на лбе начос Лахуці.

А да маладога чарнявага Наіры Зар'яна прамаўляў:

— А ты ж мая чырвоная Зара з-над Арарата, не цераз два тыдні, цераз два месяцы не пусцім цябе дахаты!..

— А Цусіму мы без бою не здамо,— загароджваў ад Уладзіславы Францаўны нізкаватага Новікава-Прыбоя.

— І як жа мне не любіць вашай смаленскай зямлі,— звяртаўся да адухоўленага Рыленкава.— Першы беларускі пісьменнік — ерэтычны манах Аўрамка выратоўваўся ад сваіх ворагаў за сценамі смаленскага манастыра, а я хаваўся ад немцаў за соснамі смаленскай крэпасці.

— Першы ерэтык і апошні! — уставіў Колас.

— Ерэты́к не ўпрытык! — адрэзаў Купала.— Ерэтыкі не любяць кветачак,— і паглядзеў на Марыю Канстанцінаўну.

— Не ведаюць той цудоўнай кветкі,— прадаўжаў Рыленкаў,— якая адкрывае ўсе тайны і дае поўную ўладу над прыродай.

— Поўную ўладу над Уладкай,— заўсміхаўся Колас.

— Малайчына, Каласок, добра сказаў, ліха тваёй галаве,— выгукваў маўчун Купала,— дык няхай жа не скончыцца «спор славян между сабою».

Спор славян і неславян паміж сабою ў хаце пад таполяй не канчаўся ў тую беласнежную снежаньскую ноч вельмі доўга.

## 2. ЗАГАДКІ ЭЛЬБРУСА

Каўказ Купалы пачынаўся, уласна кажучы, не з Кіславодска, а з Есентукоў, куды ён разам з Якубам Коласам прыязджаў лячыцца яшчэ ў жніўні 1926 г. «Мне і Купалу,— пісаў сваёй жонцы Марыі Дзмітраўне Якуб Колас,— прыпісаны тыя ж самыя ванны. У санаторыі публіка 2 часцей: тая, што жыве ў ім і што прыцамавана. Мы з Янкам уваходзім у другую часць». І тут Колас жартаваў: «Першую часць называем мы «буржуазіяй», а другую «пралетарыятам». Далей аб «пралетарах» Купале і Коласе Колас жонцы паведамляў зусім не тое, што характарызавала «пралетарыяў»: «Гуляем, нічога не робім, і рабіць тут няма чаго». Але — чаго патрабаваць ад тых, хто пры-

ехаў адпачываць, падлечвацца? А як яны падлечваюцца, Колас пісаў ужо ў той жа дзень 26 жніўня 1926 г. сыну: «П'ем ваду не проста з кубка, а праз шкляную трубку-цыбучок. Аж смех бярэ, як паглядзіш на людзей. Сядзяць або разважна ідуць з кубкам у руках і цыбучкамі ў зубах смокчуць. Купала таксама купіў сабе цыбук і цягне праз яго сваю ваду № 17. Праз акно я бачу Эльбрус». Купала таксама кожны дзень праз акно бачыў Эльбрус, бо жыў ён жнівень — верасень 1926 г. у Есентуках у адным пакоі з Коласам, жыў на дачы пад гучнай назвай — «Арлінае гняздо». Хаця, даруйце, не ўвесь час, бо пад канец жніўня прыехала да Купалы Уладка. Жыла, праўда, прыватным парадкам, але ўдзень каля сваіх нумароў мінеральных вод іх было ўжо з Беларусі трое — два арлы і арліца, як пасміхаўся Колас. І не толькі каля вод, бо два разы і трэці ездзілі вясёлай кампаніяй у Кіславодск, як пісаў сваёй жонцы Якуб Колас таксама і пра гэта.

Пра Янку Купалу жонцы ён паведамляў: «Вольныя мінуты часта запаўняюцца шахматамі. Але Янка часцей абыграе мяне». Найцікавейшыя ў есентукскіх лістах Коласа да жонкі, можа, якраз заўвагі вялікага сябра Купалы, іх тон, каментарыі аб жонцы Купалы — пані Уладыславе, як называе яе Колас. Ужо ў самім гэтым «пані» была пэўная Коласавая іронія. Але куды больш яе ў паведамленнях аб тым, што «пані Уладыслава — лечыцца ад нерваў, а больш у яе ніякіх хвароб няма. Сама яна кажа, што яе лёгкія — «трубіць» можна. Але,— нават здзекліва Колас дадае,— чаму ж ёй не палячыцца». Сапраўды, чаму ж? Лячэнне, аднак, Купаліху не радавала. Цераз дзень у новым лісце Колас паведамляў: «Купаліха злуецца на пагоду, на маркоту есентукскага жыцця». Паглядаць толькі на Эльбрус ёй, відаць, не хацелася, і што той «Мядовы вадаспад», куды яе ўсё цягне Янка, калі і так за каршэнь лье дождж і лье.

Купала ў 1926 г. і здагадвацца не мог, як увойдзе прыгажун Эльбрус у яго жыццё, як, можа неспадзявана і для самаго таго мастака, які ў 1940 г. стане афармляць Купалаву кнігу «Ад сэр-

ца», ён, двухгаловы, раптам узнікне на яе вокладцы. Вокладка будзе колеру каўказскага самшыту, назва — белымі літарамі, а наўкол яе — авальны вянок. Што гэта будзе за дзіва-вянок! Ён будзе сплецены з чырвоных кветак — ні то лілеяў, ні то макаў, паміж якімі стылізаваныя густа-зялёныя лісцінкі, накшталт ні то ліры, ні то перавернутай лацінскай літары M: «Вось якраз тады ў прамежку паміж «кветкамі» і «лісцінкамі» і ўзнікне ў тым вянку вокладкі ні то профіль двухгаловага Эльбруса, ні то таямнічае ікс: «X» — знак, якім у алгебры азначаюць невядомую велічыню. Вянок, як ураўненне з мноствам іксаў! Эльбрус, Каўказ сапраўды народзяць для даследчыкаў жыцця і творчасці Купалы нямала іксаў!

Але мы яшчэ не ў 40-м і не ў 41-м годзе. Мы — у Кіславодску, у канцы 1937-га. Толькі прыехаўшы сюды, 19 лістапада Купала піша ліст Мазалькову, тады яшчэ ўсяго толькі маладому перакладчыку Купалы: «Дарагі Яўгеній Сямёнавіч! Як бачыце, я ўжо адпачываю і лячуся ў Кіславодску. Пасля ўсялякіх вольных і нявольных перажыванняў знайшоў тут спакой і цудоўнае каўказскае сонца».

Вольныя і нявольныя перажыванні Купалы! Ці так цяжка здагадацца, якія, з-за чаго былі яны ў яго, гэтыя перажыванні?!

Журан пачаў брахаць ля веснiц не толькі на выбраных, з-за якіх ён меў у паэта вядомую ўжо нам клічку Шавініста. Нават Журан стаў падазраваць усіх, перастрахоўваць сябе, не давяраць ні парыпванню тапол. над ім, ні ветрыку, які пагойдваў на клумбах саджанцы маладых руж, што шалясцелі леташнім зжухлым лісцем.

Цвярозы Купалаў розум не мог згадзіцца з тым, што сын папа — абавязкова рэакцыйны поп, а не, скажам, Дабралюбаў, сын дзяка — абавязкова дзяк, а не Чарнышэўскі, што дваранін Пушкін, таму толькі, што ён дваранін,— ледзь не белагвардзеец, а граф Леў Мікалаевіч Талстой — тое ж, што граф Аракчэеў, а не глыбішча-мужык, якім захапляўся Ленін. Купала ўдосталь у свой час наглядзеўся на Мураўёва-вешальніка, але ж былі яшчэ

Мураўёў-Амурскі і Мураўёў-Апостал, былі князі-дзекабрысты Адоеўскі, Трубяцкой, Валконскі...

Маладыя пісьменнікі, яго любыя хлопчыкі,— ці не дзеля таго самага Бэндэ яны бралі сабе жонак не са сваіх вёсак?

Купала, вядома, разумеў, што новыя, міжнацыянальныя шлюбы — таксама праява новага часу, сведчанне разняволення людзей ад старых каставых і рэлігійных прымхаў. Купалу нават і вельмі падабалася Рыва Лыня — Міхася Лынькова і тая ж самая Галавешачка — Сара Майсееўна, артыстка ТЮГа, жонка Міколы Хведаровіча. Красавица, которая нравится! Выбар Кузёмкі — Кузьмы Чорнага Купалу таксама нікольні ні бянтэжыў, ні здзіўляў. Купала толькі пасміхаўся, калі наплывала думка, як ён сам мог бы пасведчыць свой інтэрнацыяналізм па матрыманіяльнай лініі. Яго ж Уладка — паўфранцужанка, і не толькі мастакі былі ў родзе Манэ! Купала аднаго толькі дакладна не ведаў, ці з роду Клода Monet ці Эдуара Manet была маці Уладкі: па-беларуску і тое і другое прозвішча чытаецца Манэ. Але Уладка ўвесь час ганарыцца, што яе бабка — ледзь не гераіня барыкад Парыжскай камуны! Бабцы ж было тады 18 год!..

Уладка! Вольных і нявольных немалых перажыванняў паддала за гэты час Купалу і яна. Бо ці ж не вольная яна паехаць туды ці сюды — у Крым ці на Каўказ! I садзіў Янка супраць сябе ў манастырскай цішы свайго кабінета віславухага рыжуна Журана — сам на канапе, а Журан — морда ў калені, вочы сапраўды зажураны, як і ў гаспадара пустыннага кабінета.

— О Журане, была б у нашых жылах французская кроў! — гэтай звычайна рэплікай заканчваўся доўгі маналог моўчкі Купала — Журан, а то і іншай:

— Хопіць табе, Журане! Як там Амброжык кажа: можа, дожджык, можа, снег, можа, былі, можа, не... Ды і ці ж мы з табой не журыліся па даярцы з Весялоўкі, па вінярцы з Лошыцы дый па Ганцы — дачушцы Пяледы, так падобнай да Марыі?..

Журыцца з Жураном з Кіславодска ў Мінск Купалу, аднак, не цягнула. Дый здароўе не вельмі папраўлялася. Таму Купала

прасіў аб працягу пуцёўкі яшчэ на месяц, а пішучы новы ліст Гарадзецкаму, падахвочваў яго: «...Прыязджай. Бо ты ж сардэчнік, а Кіславодск, бадай (з нарзанам), адно з лепшых месц у Саюзе для хворых сэрцам. Прытым, я думаю, гэты курорт табе асабліва спадабаецца ў гэты час — марозік і сонца, сонца...» Марозікавым сонцам прадаўжаў Купала гаіць сваё сэрца ў Кіславодску да 11 лютага 1938 г. Ды хацелася таго ці не хацелася Купалу, пара было вяртацца і ў Мінск. 23 лютага ў лісце да таго ж Сяргея Гарадзецкага Якуб Колас пісаў: «Янка Купала прыехаў з Каўказа. Паправіўся, але зараз нешта прыхварнуў...» Прыхварваць увогуле Купала пачынаў часцей і часцей, і асабліва немач апанавала яго ў маі. 5 мая 1938 г. Колас Гарадзецкаму пісаў:

«...З Янкам нядобра. Ляжыць сур'ёзна хворы. Напярэдадні мая паехаў за горад, заснуў на зямлі ў лесе. Цяпер у яго сухі плеўрыт і запаленне правага лёгкага. Тэмпература не спадае, даходзіла да 39°... Цяпер трымаецца на 38 з хвастамі. Наведваю яго кожны дзень».

Купала прадаўжаў хварэць і ў канцы мая месяца, ляжаў, урачы і Колас не дазвалялі яму падняцца. 22 мая Колас пісаў Гарадзецкаму: «Становішча яго было гранічна небяспечнае. Урачы моцна хваляваліся за зыход хваробы. Я наведваю яго акуратна кожны дзень, пачынаючы з 1 мая». Становішча Купалы і сапраўды было надзвычай небяспечным...

...Таварышу, які вёў сход у адным з цэхаў Мінскага машынабудаўнічага завода, ганаровым металістам якога лічыўся Купала з 1925 г. і падарунак якога — пяро ў выглядзе мініяцюрнай вінтоўкі — з таго ж часу свята бярог на сваім рабочым стале ў кабінеце,— дык вось таварышу, які вёў сход у цэху металістаў, было не па сабе. Спачатку ён спадзяваўся, што Купала, доўгі час хворы, на гэты сход не прыйдзе,— а Купала ўзяў ды прыйшоў. Тады таварыш, які вёў сход, падумаў, што ўсё як-небудзь уладкуецца, Купала, як звычайна, моўчкі адседзіцца ў прэзідыу-

ме, і ўсё. Але Купала захацеў выступіць. І трэба ж?! — у таварыша, які вёў сход, на лбе выступіў пот. У зале, аднак, неспакою вядучага вечар не заўважалі, як не заўважыў яго й Купала, кіруючыся да трыбуны. Бо аніхто з залы, як і Купала, не быў жа на зусім-зусім вось нядаўнім шырокім сходзе, на якім быў таварыш, каторы вядзе сход і каторы на ўласныя вушы чуў, як яму самому здавалася, шалёныя выступленні наконт вось гэтага самага прамоўцы, які быў ужо на трыбуне. «Польскі шпіён! Здрайца, які адно і марыць, каб стаць мінскім губернатарам! І ўвогуле, пакуль не будзе вырвана, вынішчана, выкарчавана ўсё гэта гікалаўска-чарвякоўскае, купалаўска-коласаўскае асінае гняздо, асцё, пырнік, пагранічны Мінск — у небяспецы, Савецкая ўлада — у небяспецы, сацыялістычнае будаўніцтва — у небяспецы!»

Голас Купалы быў глухаваты. Таварыш, які вёў сход, зірнуў на «губернатара». Нешта не падобны! На шпіёна? Таксама! Але вось жа не мог выкінуць чалавек з памяці таго, што чуў,— што, зрэшты, пакуль што ніхто нідзе ўголас — шырэй, на рэспубліку — не паўтараў, не заяўляў. Таварыш, які вёў сход, ведаў, што ў свой час для Купалы рабілі Чарвякоў, Гікала, Галадзед. «Але калі яны дапамагалі Купалу, дык ці ж Купала іншы, чым яны?» Твар вядучага аж перасмыкнуўся, а Купала прадаўжаў гаварыць.

«Добра яшчэ,— думаў сваё вядучы,— што Купала сам не быў у *тым* зале...» Але тут жа мітус396нулася іншая думка: «Найлепш, аднак, было б, каб ён не выступаў! Што ён *выступае*, гэта ўжо цяпер і яго, вядучага, віна. Ці даруюць яму гэта тыя, што крычалі, трасучы кулакамі: «Шпіён!..», «Губернатар!»? І ці цяпер пра яго самога не скажуць яны: «Памагаты шпіёна, губернатара!»?..

Таварышу, які вёў сход металістаў, было не па сабе. А Купала гаварыў з трыбуны не так і доўга і пра адно: пра сваю веру ў народ, у рэвалюцыю, у бальшавікоў. І дзякаваў металістам яшчэ раз за іх даўнішні падарунак — пяро ў выглядзе мі-

ніяцюрнай вінтоўкі: «Трэба будзе, да вінтоўкі прыраўняем пяро!..»

Але на сходзе не абышлося без эксцэсу. Толькі Купала скончыў, і не паспеў таварыш, які вёў вечар, перавесці духу, як з залы пачулася:

— А сёй-той сцвярджае, што вы вораг, рэнегат...

Купала як стаяў за трыбунай, так за ёю і застаўся. Трошачкі больш як звычайна дрыжала губа, трошачкі глушэй, чым дагэтуль, Купала сказаў:

— Ніколі, ні на якім этапе не адступаўся я ад свайго народа, ад рэвалюцыі, ад Савецкай улады!

Залу страсянулі воплескі.

О, які ён быў, гэты Янка Купала, што нібыта не валодаў сакрэтамі красамоўства! Вунь якім адухоўленым аратарам стаў, як выгукнуў — «Ніколі!». Ён быў сама вера, само перакананне! На ўвесь свой рост стаяў выпрамлены Купала-волат. Таму так доўга і грымелі ў зале воплескі. То быў знак усенароднай павагі да Паэта, якое ён ніколі не траціў дагэтуль, ніколі не страціць пасля і якая ў канцы 30-х гадоў будзе яшчэ шырэйшай — гэта будзе ўжо павага не толькі яго народа, але і ўсёй яго сацыялістычнай бацькаўшчыны.

31 студзеня 1939 г. быў падпісаны Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета аб узнагародзе савецкіх пісьменнікаў за выдатныя поспехі і дасягненні ў развіцці савецкай мастацкай літаратуры. Янка Купала быў узнагароджаны ордэнам Леніна.

А дасягненні Янкі Купалы былі сапраўды выдатныя — дасягненні Таленту і Працы. Няма таленту без працы. Ён усё сваё жыццё быў вялікі працаўнік. Няхай сабе яго мала хто калі і бачыў за пісьмовым сталом — ён жа быў савой-начніцай. Пісаў звычайна ноч навылёт, а ранкам — вясёлы, бадзёры: бо напісаў жа! — клікаў паслухаць напісанае або Уладку, або — часцей — суседзяў, якіх любіў, або чытаў сябрам-літаратарам, якія якраз пастукаліся ў дзверы. Нялёгкая гэта была ўяўная лёгкасць пісання. Дзень праходзіў на людзях. А калі ж усё гэта было абду-

мана, напісана, складзена, перачытана, з-пад машынкі вычытана? За тыя пятнаццаць з малым гадкоў — з 1925 па 1941,— не лічачы двойчы выдадзеных у Беларусі — у трох і чатырох тамах — «Збораў твораў» на беларускай мове, выйшла аж 37 кніг паэзіі! У перакладзе на рускую мову — 16, на беларускай — 18, астатнія — на ўкраінскай, літоўскай, польскай. Ці ж узнікла б без гэтых кніг усесаюзная вядомасць паэта, усесаюзная любоў да яго? Народ палюбіў яго за Талент і за Працу, за адкрытае сэрца і за гэтак часта нябачную іншаму воку душэўную, творчую натуру Паэта, якая не толькі ў тым, каб напісаць, але яшчэ і ў той, такой шматлікай чарнавой — падрыхтоўчай і выдавецкай — рабоце, якая таксама ж патрабуе часу і часу, працы і працы...

10 лютага высокую ўзнагароду Радзімы ў Крамлі паэту ўручаў М. І. Калінін. У той жа дзень Купала напісаў верш «Сэрца і думка мне кажа...». Але перш чым Купала пабываў у Крамлі, тры дні прыёму ў Сталіна недзе ў канцы 1938 г. чакаў іншы чалавек з Беларусі — новы Першы сакратар ЦК КП(б)Б Панцеляймон Кандратавіч Панамарэнка. Першы сакратар дакладваў аб становішчы ў рэспубліцы, даводзіў думку, што гэта ненармальны стан, калі такім людзям, як Купала і Колас, пагражаюць розныя бэндэ. Сталіну было дакладзена, з чым прыехаў П. К. Панамарэнка. Рашэнне Сталіна заставалася невядомым, але час прыёму быў назначаны.

— Так што́, таварыш Панамарэнка, прыехалі абараняць беларускіх пісьменнікаў? — пытаннем, інтанацыя якога не вызначала нічым, ці за беларускіх пісьменнікаў ці супраць іх будзе гаворка, пачаў Генеральны сакратар. Ды не паспеў, аднак, Панцеляймон Кандратавіч сказаць ні «так», ні «не», як заўжды марудлівы Генеральны сакратар на гэты раз прадаўжаў ужо:

— Так вот, Панцеляймон Кандратавіч! Калі хоць адзін валасок спадзе з галавы Купалы ці Коласа, адказваць будзеце сваёй галавой вы!..

Падчас той жа размовы І. В. Сталін папрасіў звязаць яго з А. А. Жданавым, даўшы яму наказ:

— Андрэй Аляксандравіч! Па-мойму, мы даўно не ўзнагароджвалі нашых пісьменнікаў. Вось тут у мяне сядзіць Панцеляймон Кандратавіч. Ён выдатна гаворыць пра Янку Купалу і Якуба Коласа...

Бэндэ звароту П. К. Панамарэнкі з Масквы не чакаў,— ён счэз гэтак жа нечакана і гэтак жа загадкава, як з'явіўся, счэз, праўда, пасля таго, як быў зняты з усіх пасад і выключаны з партыі.

Ці чуў, ці ведаў пра тое сам Купала, што ён, нават калі спіць, сніць сябе мінскім губернатарам, а як шпег толькі і віжуе паміж Мінскам і Ляўкамі і паміж Беламорканалам і Каўказам? Пэўна, чуў...

«Як ні цяжка бывае на душы,— казаў падчас вайны ўжо Купала,— а творчыя думкі і пачуцці мацнейшыя за боль сэрца». У 1937—1938 гадах боль сэрца заглушаўся, творчая задача ставілася на першы план. А творчыя задачы былі адны, вернасць — аднаму: прадаўжаць песню сацыялізму, новаму ладу, людзям, прадаўжаць, і толькі. Як табе ні цяжка, Купала, ты павінен застацца Купалам, паэтам, верным свайму абавязку, як ты яго разумеў, як ты яго выкладаў пасля Першага з'езда пісьменнікаў СССР у вершах і артыкулах і ў сваёй такой нядаўняй і, здавалася цяпер — у 37-м, 38-м гадах,— такой даўняй, бо толькі радаснай, без болю ў сэрцы прамове 11 снежня 1935 г., калі ты абяцаў «выліць у свае песні вясёлкавую радасць, горды і радасны творчы ўздым найшырэйшых народных мас». Абяцанне абавязвала, вернасць пяснярскаму абавязку, сацыяльнаму заказу. Паэту паэтава і яго справа — песня. Сітуацыя зразумелая, творчая задача ясная, творчыя думкі і пачуцці павінны быць мацнейшыя за боль сэрца.

І білася сэрца Купалы сапраўднай радасцю, як у вершах «Шляхі», прысвечанаму XVIII з'езду партыі бальшавікоў, «А мы сабе сеем, сеем» і «Наша моладзь» (сеюць беларусы, сеюць бы-

лыя гаротныя мужыкі! арляняты ж — неўміручыя!); і ў вялікай нізцы вершаў, у якіх поўная да краёў чаша найвялікшай радасці паэта ад уз'яднання ўсходніх і заходніх братоў-беларусаў.

Зборнік «Ад сэрца» пачынаецца раздзелам «Аб Сталіне-сейбіту», назва якога набрана друкарамі чырвонай фарбай, буйным шрыфтам. Усе назвы раздзелаў увогуле былі выдрукаваны гэтак жа: «Чырвонай Арміі паходы», «Святочныя вершы», «На заходне-беларускія матывы». Святочнаю была кніга «Ад сэрца», чырвонаю! І была яна сапраўды ад народа, ад Купалы як народнага паэта, ад ягонага сэрца. Была яна ад народа-сейбіта, ад народа-песенніка, валадаром песні якога быў Купала, ад вялікага паэтычнага дару Купалы і ад яго вялікага сэрца.

Паэту — паэтава. І былі яго вершы аб новым лёсе Беларусі, Краіны Саветаў — ад радасці, ад перамог у сацыялістычным будаўніцтве, ад дасягненняў у культурным росце і яднанні нацый. Зборнік «Ад сэрца» — гэта парадны агляд паэтам усесаюзных дасягненняў і гэта яшчэ кніжка лёсу беларускага народа, за які да 17 верасня 1939 г. не пераставала балець сэрца паэта. Але аб гэтым — у наступным падраздзеле.

Тут жа мы яшчэ дадамо, што ў зборніку «Ад сэрца» Купала стрыжнявымі творамі кнігі паставіў менавіта вершы, напісаныя ім ад зборнага «мы» і ад уласнага «я»: «*Мы* людзі свабодныя», «А *мы* сабе сеем і сеем», «А *я* думаў...», «Сэрца і думка *мне* кажа...» Самімі назвамі гэтых вершаў, іх размяшчэннем у зборніку Купала як бы хацеў прамовіць: «Мы». І пра гэтае «мы» было шмат чаго тут новага сказана, як пра «мы» новае: мы — савецкія, мы — Краіна Саветаў, мы, дзе паэты, аб'яднаныя ў адзіны Саюз пісьменнікаў СССР, вучацца новым песням, высокаму мастацтву і ў Шата Руставелі, і Тараса Шаўчэнкі, Пушкіна, Лермантава, Адама Міцкевіча, юбілеі якіх так шырока ў 30-я гады адзначаліся. І мы — вось гэтакія, якімі, напрыклад, выражаем сябе, сваё «я» ў цудоўным вершы «Генацвале», прысвечаным не сынам Эльбруса, а цудоўнай яго дачушцы Эліко Метэхелі, якую Купала палюбіў усёю душой.

### 3. ЕРЭВАН — МІНСК — БЕЛАСТОК

Літаратурнае жыццё ў Краіне Саветаў напярэдадні і пасля Першага з'езда савецкіх пісьменнікаў было надзвычай інтэнсіўным, шматгранным, упершыню такім усесаюзнаруховым, бо пісьменнікі ўсіх рэспублік як зрушыліся з месца, дык і канца-краю не было іх пленумам, юбілеям, нарадам, дыскусіям. Палітыка партыі красамоўна пераўтваралася ў яву: вялікая савецкая шматнацыянальная літаратура ўвідочнівала сябе ўсяму свету; здабыткі адной нацыі станавіліся здабыткамі ўсіх народаў СССР; на вялікіх класічных традыцыях мінулага, на лепшых дасягненнях жывых творчых майстроў савецкіх нацыянальных літаратур час заклікаў вучыцца новыя пакаленні творчай савецкай моладзі. Разам з усімі сталіцамі саюзных рэспублік Мінск як літаратурны цэнтр становіцца на павідку ва ўсёй краіны. А з ім і Купала і Колас. Канец 1933 года — у Мінску гасцюе дэлегацыя ў складзе У. Бахмецьева, У. Лідзіна, Б. Ясенскага, а таксама дэлегацыя грузінскіх пісьменнікаў. Сакавік 1934 г.— у Мінску прадстаўнікі аргкамітэта ССП Заходняй вобласці — смаленскія паэты А. Твардоўскі, М. Ісакоўскі, М. Рыленкаў; у Маскве — Купала — удзельнік пленума, аргкамітэта ССП СССР, затым ён жа — у Смаленску — гэта ўжо ў канцы красавіка,— прымае ўдзел у рабоце з'езда савецкіх пісьменнікаў Заходняй вобласці разам з А. Александровічам і К. Чорным. Май, 23-га — Купала прымае ўдзел у рабоце Усесаюзнай паэтычнай нарады ў Маскве. Чэрвень — прымае ўдзел у рабоце Першага Усебеларускага з'езда пісьменнікаў. У жніўні ў Маскве — на Першым з'ездзе пісьменнікаў СССР. Студзень, люты 1935 г.— Купала ў Маскве спачатку на VII Усесаюзным з'ездзе Саветаў, пасля — на II пленуме праўлення ССП СССР. У сакавіку 35-га Купала ў Харкаве — на адкрыцці помніка Т. Шаўчэнку. У студзені 36-га прымае ўдзел у нарадзе драмсекцыі ССП БССР, прысвечанай абмеркаванню вынікаў работы драматургаў за 1935 г. і пытанням творчай узаемасувязі з драматургамі братніх рэспублік.

Люты — напярэдадні III пленума праўлення ССП СССР у Мінску, прысвечанага беларускай і башкірскай паэзіі, прымае ўдзел у радыёвечарах паэтаў Масквы, Ленінграда, Грузіі, Башкірыі. Красавік 35-га — у Маскве на пасяджэнні Усесаюзнага пушкінскага камітэта. Чэрвень — у Маскве на пахаванні М. Горкага (Купала піша верш «Памяці Максіма Горкага», Купала ўсёй душой удзячны гэтаму чалавеку: «Народ беларускі, пазбыўшыся путаў, сваіх другаў помніць...»). А ў кастрычніку Купала быў у Маскве ўжо на ўрачыстасцях, прысвечаных 30-годдзю літаратурнай дзейнасці Коласа; лістапад — зноў у Маскве — на VIII надзвычайным з'ездзе Саветаў СССР. 1937 год, люты,— у Маскве на IV пленуме праўлення ССП СССР, прысвечаным 100-годдзю з дня смерці А. С. Пушкіна; снежань — у Тбілісі на святкаванні 750-годдзя з дня нараджэння Шата Руставелі. 1938 год, мы ўжо ведаем, цяжкі для Купалы: да лютага лечыцца на Каўказе, май — чэрвень — прыкаваны плеўрытам да ложка дома. Усё лета ідзе на адпачынак — у Ляўках, Гарадзішчы ля Мінска, у Капылі, і толькі ў кастрычніку прымае ўдзел у нарадзе аб становішчы і далейшым развіцці мастацтва ў БССР, скліканай у Маскве Усесаюзным камітэтам па справах мастацтва. У лістападзе зноў едзе лячыцца ў Цхалтуба (з заездам у Тбілісі), у снежні — у Сухумі, у доме адпачынку «Сіноп». 1939 год ідзе пад знакам падрыхтоўкі да 125-годдзя з дня нараджэння Т. Шаўчэнкі і 1000-гадовага юбілею армянскага народнага эпасу «Давід Сасунскі». Усе дарогі Купалы ідуць зноў у Маскву і праз Маскву: студзень — люты — прымае ўдзел у вечарах беларускай культуры ў Маскве, узнагароджаны ордэнам Леніна, атрымлівае гэту вялікую ўзнагароду зноў жа ў Маскве. А ў сакавіку з Коласам, Лыньковым, Бядулем, Куляшовым у Кіеве — на ўрачыстасцях Шаўчэнкі — і зноў там жа ў маі, каб 7 мая выехаць на магілу Кабзара ў Канеў і на Канеўскай кручы чытаць свой, беларускі пераклад бессмяротнага «Запавіта» любімага Тараса. А ў красавіку да гэтага Купала таго года выступаў яшчэ раз і ў Маскве — на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным

80-годдзю з дня нараджэння класіка яўрэйскай літаратуры Шолам-Алейхема...

Паездкі, паездкі, а за ўсім жа гэтым не толькі прамовы і падрыхтоўка да іх, не толькі такі звыклы для «маўчуна» маўклівы погляд з прэзідыумаў у залы ды прыглушаны гоман кулуараў пасля прэзідыумаў, але і снеданні, абеды, вячэры — прыёмы афіцыйныя і неафіцыйныя, людзі афіцыйныя і неафіцыйныя.

У Маскве Купала як рыба ў вадзе: палова Масквы яму знаёма. Але тут ён найчасцейшы і найлюбімейшы госць на пятым паверсе вялікага шэрага дома ў Грузінах — у даўнішняга свайго сябра Кастуся Елісеева; і яшчэ на Малой Нікіцкай — у Боры Емяльянава; і яшчэ ў доме паміж Ахотным радам і Краснай плошчай, дзе жыў Сяргей Гарадзецкі. Таксама яго пенаты — падмаскоўныя Перадзелкіна і Жэўнева. Таксама вельмі любіць ён спыняцца ў гасцініцы «Масква» — радуе яго камфорт асобнага нумара; і што на любым паверсе ў буфетах яго любяць і мілуюць — паснедаеш і павячэраеш; і што ў рэстаране ён можа рэдкімі глыткамі адпіваць з бакала, не спяшаючыся, церпкае сухое віно, сам з бясконцай папяроскай у руцэ,— абы прыемны субяседнік. Ён закідвае тады субяседніка — асабліва калі гэта Костка Буйлянка, якая ў Маскве, замужам, ці прыехала з Мінска Марыя Канстанцінаўна Хайноўская, ці знячэўку сустрэў паэт Мядзёлку або ўвогуле прыгожая, мілая жанчына аказалася ў імправізаваным літарацкім застоллі,— Купала літаральна закідвае тады сваіх цудоўных геніяў чым мага большымі сонечнааранжавымі апельсінамі, забіраючы ўсе дарэшты з буфета. Закідвае і элегантнымі карабкамі цукерак, ды каб з асабліва прыгожымі кветкамі і пейзажамі былі, патрабуе, бо толькі такія вельмі любіць Буйлянка; ды каб з арэхамі ў шакаладзе былі, бо іх асабліва любіць Марыя Канстанцінаўна. А Наля Елісеева — маладая, другая жонка мастака, дык і меры не ведае, ведаючы шчодрасць Яначкі. Купі ёй тое і гэта, падары тое і гэта! «Ёсць яшчэ рыцары на Украіне!» — пасміхаецца Купала, але нарэшце ад прыставанняў Налі параязджае з Елісейскіх палёў, як ён на-

зывае дом Кастуся ў Грузінах, у защішак Малой Нікіцкай ці дому Гарадзецкага паміж Ахотным радам і Краснай плошчай.

За хаджэннем па рэдакцыях газет і выдавецтвах, за высідкай з рэдактарамі, перакладчыкамі і абгаварэннем планаў на будучае не застаецца Купалу часу на напісанне лістоў ні Коласу, ні Уладцы, і тыя бясконца скардзяцца ў лістах да яго на яго маўчанне, забываючыся, аднак, на ўсе свае скаргі, як толькі маўчун аб'яўляецца на парозе дома пад таполяй.

А тут у яго ў чамадане і ў руках што каму: Уладцы — кара́лі-маністы, самыя бліскучыя і вясёлкавыя, бо — танцорка Ігната Буйніцкага — дасюль Уладка любіць іх пазваньванне на цёплых грудзях; Зосьцы — белую пуховую хусціну, каб не замярзала і пачак з-пад «Казбека» з яго рыфмамі неабачна ў кош са смеццем не выкідала; Марыі Канстанцінаўне на гэты раз шакаладны торт «Мікада», бо яна любіць усё ў шакаладзе. А хай не сустрэнуць Уладка з Марыяй Канстанцінаўнай Янкаў цягнік на вакзале,— маўчун-маўчун, а як пачне ён выгаворваць ім сваю нібы бясконцую крыўду, дык сем дзён запар выгаворвае, як гэта было, напрыклад, калі да наркома аховы здароўя, а не на вакзал аднойчы паспяшалася Марыя Канстанцінаўна. Памаўчыць, памаўчыць Янечка і зноў і зноў Марыі Канстанцінаўне:

— На каго Купалу прамяняла?.. Ку-у-паалу на-а на-аркома?!.

А на вуліцы Кастрычніцкай раптам перастаў сустракаць Купалу Журан.

— Дзе Журан? — пытаўся Янка ва Уладкі недзе ў канцы 1938 года.

— Завязлі да гіцля... Апалеў...

Пусты стаў двор у доме пад таполяй для Купалы без Журана. І, здаецца, скрозь усё тая ж трава буяла, якую і Журан умеў так выбіраць, як Купала ў лесе з разнатраўя зуброўку, а дапамагчы Журану на той раз травы не знайшлося. Бедны Жу-

ран! Купала ўзяў сякеру і падважыў і адарваў на брамцы ў свой двор заржавелую бляху з профілем сабакі і надпісам, што сабака злы.

...Увесь 1939 год быў так загружаны ў Янкі Купалы, што Якуб Колас быў у адчаі: усю зіму, лета, вясну не бачыў Янкі. За ўвесь год бачыў яго толькі ў дзень ад'езду ў Ерэван — 7 верасня, і то на вакзале, і то не больш паўгадзіны. Янка ад'язджаў паўхворы; з двума таварышамі з Беларусі — паэтамі Алесем Якімовічам і Зэлікам Аксельродам, каб у Маскве сустрэцца з маскоўскімі і ленінградскімі пісьменнікамі і вялікай грамадой ехаць на вялікі юбілей армянскага народа. Прыехаў Купала ў Ерэван толькі 14 верасня, спыніўся ў гасцініцы «Севан», на другім паверсе. 16 верасня з трыбуны юбілейнага выязнога пленума ССП СССР гаварыў аб велічы паэмы «Давід Сасунскі», аб тым, што ў скарбніцы сусветнай літаратуры гэты эпас стаіць у адной шарэнзе з «Іліядай» і «Нібелунгамі», «Словам аб палку Ігаравым» і «Віцязем у тыгравай шкуры». І што ў гэтай паэме — вялікая ідэя братэрства народаў, і што ў ёй народ марыць аб шчаслівым жыцці. «У вашу краіну гор і бурных рэк, вінаградных садоў і крыштальных ручаёў,— гаварыў Купала,— мяне паслаў народ краіны дрымучых лясоў і ціхіх рэчак. Па-рознаму цудоўныя нашы старонкі. Але адна і тая ж жыве ў іх савецкая душа». І яшчэ аб непарушнасці рубяжоў паўдзённых і заходніх агульнай вялікай Радзімы сацыялізма гаварыў паэт, аб еднасці народаў, што ахоўваюць рубяжы.

Гэта гаварылася напярэдадні. Купала 16 верасня не ведаў таго, што і заўтра ён узнімецца на трыбуну, каб вітаць мудрае рашэнне Савецкага ўрада ўзяць пад абарону жыццё і маёмасць насельніцтва Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі, каб вітаць вызваленчы паход Чырвонай Арміі. Але было і хваляванне, калі і як паход гэты скончыцца? Купала быў у Арменіі і як бы ўжо не быў. Далікатнасць душы не дазваляла пакрыўдзіць гасціннасці старажытнага, эпічнага народа: «Не можа ж таго быць, каб месца беларуса ў прэзідыумах славы «Давіда Сасунскага» пу-

ставала! Але *што там?! Што там?!.»* — думка білася з ранку да вечара і з вечара да ранку.

А гаспадары былі гасцінныя, гордыя сваёй старажытнай культурай. Яны былі на гэтыя дні радыя і радасцю беларусаў і ўкраінцаў, аднак жа ў іх — праграма, і яны ранкам 18 верасня падганяюць пад гасцініцу «Севан» аўтобусы, каб везці гасцей у Эчмеадзін. Янка Купала здзіўляецца са старажытнай красы эчмеадзінскай царквы і храмаў Гаянэ і Рэпсінэ. А як гэта, каб быць у Арменіі, жыць у гасцініцы «Севан» і не пабываць на высакагорным Севане?! Дом творчасці СП Арменіі — на казачным востраве сярод асляпляльнаблакітнага люстра вады. За колішнюю гасціннасць пад мінскай таполяй «помсцяць» Наіры Зар'ян, Дэрэнік Дэмірчан, Гурген Маары — у Ерэване. Тры дні трымае Купалу сярод хваль Севана Грыгар'ян, а на 21 верасня спланавана яшчэ вялікае спартыўнае свята ў сталіцы Арменіі. Пасля Тбілісі Купала, вярнуўшыся ў Мінск, гаварыў: «Было добра — аж занадта!» Што ўжо ён скажа цяпер?!

А Купала глядзіць на красу каменя, што стаў храмамі Гаянэ і Рэпсінэ, і просіць душой: «Даруйце!» Глядзіць на блакіт Севана: «Даруй, Севан! Даруй, Арарат! Даруй, святочная вясёлкавай ружай арарацкіх далін расцвілая чаша ерэванскага стадыёна! Мяне чакае дома эпас! Эпічны час майго народа там б'е — час векапомнага ўз'яднання, так доўгачаканы і так нечакана раптоўны! Шчаслівы Колас, ён — там! О як будуць доўжыцца пяць сутак дарогі дадому! Чым наблізіць сустрэчу з табой, уз'яднанне?..»

І Купала маўклівейшы звычайнага, але, як ніколі, цяпер маўклівы ад радасці, цяпер маўклівы ад таго, што ён знайшоў ключы набліжэння да ўз'яднання: на зямлі Давіда Сасунскага іх так лёгка знайсці, бо гэтая зямля, як і яго Беларусь, шматпакутная, гераічная, эпічная! Б'ецца хваля Севана пад ногі маўклівага Янкі Купалы, не ведаючы, што разгойдвае рытм яго песням уз'яднанню. Высіцца валун на валуне сцяною храма Гаянэ, не ведаючы, што і яны ўзвышаюць страфу над страфой новых

вершаў Купалы. І ўсенародная радасць агромністай чашы сталічнага стадыёна, сама не ведаючы таго, улівалася таксама ў пералівы радасці Янкі Купалы — ва ўсе адзінаццаць Купалавых вершаў «На заходне-беларускія матывы», пад якімі яго рукой будзе прастаўлена месца і дата напісання: «Ерэван — Мінск. Верасень 1939 г.».

Вершы на заходнебеларускія тэмы былі прарывам Купалы ў эпас і ў лірыку. Прарыў у эпас быў слабейшы, бо самога рэальнага жыцця заходніх братоў, адлучаных на цэлых доўгіх дваццаць год, паэт не ведаў: яго ўяўленні аб ім былі ўявамі аб сярмяжнай дарэвалюцыйнай Беларусі ўвогуле, і тут Купала сюжэтамі быў вельмі блізкі да трагічных сюжэтаў сваіх дарэвалюцыйных паэм. Затое песенныя, лірычныя вершы былі ўсе — само натхненне, былі сапраўды ўсенароднай радасцю ўз'яднання, выражанаю вялікім народным паэтам:

Ты з Заходняй, я з Усходняй
Нашай Беларусі,
Больш з табою ўжо ніколі
Я не разлучуся...

У добрай долі і прыгодзе,
Радасны, шчаслівы,
Жыць ты будзеш у свабодзе,
Браце мой цярплівы.

...Яшчэ 29 верасня Якуб Колас чакаў Купалу. Колас пісаў у гэты дзень аднаму са сваіх сяброў: «Чакаю Янку... Мабыць, прыедзе сёння... Хачу падгаварыць яго зрабіць выезд у лес. У яго засталася машына. Ён так заездзіў яе, што яна аказалася не ў стане служыць у арміі. А мая, наадварот, была ў поўнай спраўнасці, і яе мабілізавалі».

Лес быў, канешне, больш повадам. Яны, Купала і Колас, цэлы ж год не бачыліся! — галоўнае — не бачыліся пасля ўз'яднання. Цэлая ж эпоха прайшла, і ці не на ўлонні лесу найлепш ім з гэтага поваду выгаварыцца?!.

Але ж і Колас — акуратыст! Вось дзе будзе пасміхацца над ім Купала: «Каб ездзіў на сваёй, то і цяпер бы ездзіў! Але гэта, Каласок, і патрыятычна, бо ты ж спецыяльна бярог колы свайго «Шаўрале» на гістарычную службу, ці ж не так?..»

У лес, аднак, ім выехаць у тую восень часу так і не выпала, бо і купалаўскае «Шаўрале» чакалі заходнебеларускія дарогі. Першым быў іх выезд 8—15 кастрычніка ў Стаўбцы — на радзіму Коласа і ў Ваўкавыск і Беласток, другі — 27 кастрычніка — у Беласток, трэці — у сярэдзіне лістапада — у Беласток і Слонім. Кожная з гэтых паездак глыбока хвалявала Купалу, але асабліва — на Народны сход Заходняй Беларусі, які прыняў Дэкларацыю аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад БССР.

Тры дні адбываўся гэты сход — 28, 29, 30 кастрычніка, Вялікі Сход, гістарычны сход, які здзяйсняў мары і Купалы, і Коласа, і Браніслава Тарашкевіча з усёй яго 100-тысячнай Сялянска-работніцкай беларускай грамадой, Сяргея Прытыцкага, Веры Харужай, Уладзіміра Царука, мары лепшых песняроў Заходняй Беларусі Максіма Танка, Валянціна Таўлая, Піліпа Пестрака, Міхася Машары, Анатоля Іверса, Міколы Засіма, Ніны Тарас, Гальяша Леўчыка, Міхася Васілька, Алеся Салагуба.

«Мне ніколі яшчэ не выпадала бачыць такі з'езд, такі народны сход, дзе б з такой сілай вылівалася душа народа, яго горкая крыўда... І які гэта цудоўны народ!..» — пісаў аб сходзе Якуб Колас, адначасова прызнаючыся ў тым, аб чым у яго толькі ў гэтым адзінкавым лісце, а ў Купалы і ў ніводным лісце не прачытаць. Колас, радуючыся за свой народ, дадаваў: «Мяне таксама глыбока ўсхвалявала і тая акалічнасць, што беларускі народ не забыўся і пра сваіх песняроў, пра мяне і Купалу, і выразіў нам гучна сваё прызнанне».

Яны, Купала і Колас, на сходзе былі скрозь і ўсюды поруч. Што гаварыў, пісаў аб сходзе Колас, тое было і ў сэрцы Купалы, тое захапляла, уражвала, хвалявала і Купалу. І абодва яны разумелі, адчувалі, што яны — пры вялікай эпічнай тэме народнай героікі, народнай барацьбы і пакуты, мары і надзеі, веры і

ўпэўненасці. Іх позіркі ў твары дасюль незнаёмых ім людзей былі пільнымі і любоўнымі. Іх вочы прагна ўбіралі ў сябе, як ужо дапатопнае дзіва, краявіды з незаворанымі межамі, вузкімі палоскамі, з падслепаватымі пад шэрай саломай хатамі і падпертымі каламі гуменцамі і хлеўчукамі. Сваім каларытам, непаўторнасцю вуліц і завулкаў, склепікаў і крам уражвалі заходнебеларускія мястэчкі, барокавымі касцёламі, крыклівымі вітрынамі — большыя гарады; уражвалі сацыяльныя кантрасты — асадніцкія хутары, пышныя асабнякі старостаў, ваявод, ужэнднікаў-чыноўнікаў і хаткі-катушкі рабочых, рамесніцкіх ускраін, бядота частых — адна за адной пры дарозе — вёсак.

Купала, пэўна, больш Коласа ўсё браў на слых. Ён усё прасіў, каб яму расказвалі пра канцлагер у Бярозе-Картузскай, пра Грамаду, пра страйкі-забастоўкі лесарубаў, пра здзек дэфензівы і асаднікаў, пра расстрэлы дэманстрантаў у Косаве, пакаранні правакатараў у Вільні, Слоніме, Беластоку. Купала адчуваў сябе ў даўгу перад гэтым народам, што сабраўся на свой гістарычны сход. Было чырвона ад сцягоў і лозунгаў, і сэрца аж заходзілася раднаснымі перабоямі, душа перапаўнялася гордасцю ад гарачых слоў прамоўцаў, ад таго, што сцвярджалася і зацвярджалася тут, на сходзе.

Купала, як толькі першы раз пераехаў былую граніцу, адразу ж зразумеў, што ён не ведаў гэтага жыцця свайго народа — яго складу, яго духу. Праблемы сацыяльнага, нацыянальнага вызвалення тут былі тыпалагічна тыя ж, што ў дарэвалюцыйнай Беларусі, але формы выяўлення падобных жа сацыяльна-палітычных працэсаў былі ўжо іншыя. Спазнаць іх — да апошняй драбніцы! Спазнаць, бо без ведання іх, які можна эпас напісаць — эпас вось гэтага народнага жыцця, якое толькі рэхам радыёхваль адбівалася ў яго мінскай хаце пад таполяй? Купала, Колас ведалі: і жыццё заходніх беларусаў павінна легчы старонкамі мастацкага летапісу беларусаў. Яны паміж сабой аб гэтым не гаварылі, ды кожны з іх аб гэтым напружана думаў,

кожны сам па сабе таксама будучы героем легендарных зорных дзён зменлівай гісторыі свайго народа.

...Шаша-гравійка нырала з узгорка і пад узгорак у тунелі шэрых ад імжы вербаў, голае голле якіх спляталася над шасейкай. Вербы былі старыя — камлістыя і часта дуплістыя. Вільнуўшы апошні раз налева, бліскуча чорны, бо мокры, «Шаўрале» выскачыў на ўзгорак, з якога відно было, што пачынаўся горад: слуп з надпісам «Слонім» стаяў якраз на расстаі трох вуліц, з якіх горад пачынаўся. «Шаўрале» паехала па прамой, бо стрэлка направа паказвала «Баранавічы». Налева былі могілкі, направа — Купала пазнаў па шыльдах — дзве карчмы. «На выездзе — як калісь на Камароўцы ў Мінску,— падумаў Купала,— толькі там было на развілцы двух шляхоў тры карчмы, а тут на сутыкненні трох выездаў — дзве карчмы!» Купала ўсміхаўся, а «Шаўрале» траслося на рэзка спадзістай брукаванай вуліцы, што ўрэзалася між двух стромых утравянелых адхонаў: злева — крыжы, зарасці бэзу. Купалу здалося, што на спадзістым, зацяжным ужо бруку падтрэсвае, як на даўнішнім-даўнішнім яго ўездзе на бацькавым возе ў Беларучы: і там злева былі могілкі, а потым раскрывалася панарама яроў, хат у прысадах. Але тут перад вачыма паэта раскрывалася іншае: панарама касцельных вежаў чымсьці нагадала Вільню, але седзячы ззаду за шафёрам, Купала ўбачыў яе сапраўды толькі на момант, і ўжо заставалася глядзець толькі на адзін бок вуліцы, якая яшчэ ўсё ішла ўніз, але ўжо не так рэзка. «Шавец», «Кравец», «Шавец», «Кравец» і прозвішчы — больш яўрэйскія — мільгалі ў адзанавешаным акенцы «Шаўрале». Купала заўсміхаўся: «Ці не кожны дзень мяняюць тут людзі боты і касцюмы?» А пасля зачасціліся шыльды з булкай хлеба ці якім-небудзь крандзялём («Хлебны горад Ташкент!»); з прычоскамі то «panów», то «pań» [1] («Няўжо ў кожнага тут бароды да зямлі, як у Саваофа, а валасы растуць, як у Галіяфа?!»). Але «Шаўрале» было ўжо на роўным пляцы:

---

[1] Мужчын, жанчын.

справа — заўважаў Купала — у адну шарэнгу зліліся будкі — гандлёвыя склепікі, а павярнула «Шаўрале» налева — убачыў: майстэрня гадзіннікаў, магазін з гарэлкай, зноў цырульня, потым — кінатэатр,— як саляя, паўсонцам цэментныя ступенькі перад ім; за кінатэатрам — кнігарня, прамтавары, прамтавары. Крамы былі з меншымі і большымі вітрынамі, не вельмі каб багатыя, але з прэтэнзіяй. Увесь горад увогуле здаваўся суцэльна крамным прыстанішчам, бо дзе яны спыніліся — насупраць белых сцен касцёла — насупраць таксама ўвесь доўгі другі бок вуліцы быў больш, чым 20 крамамі пад адной жалезнай чырвона-ржавай страхой. Супраць касцельнай званіцы была і зашклёная арка дзвярэй пераходу на той бок гандлёвых ячэек. Куды тут было ісці, каб трапіць хоць у які аддзел культуры ці райана, Купала не ведаў. Але быў у гэтым гарадку, апрача шаўцоў, краўцоў, цырульнікаў, пекараў, крам і касцёлаў, і патрэбны Купалу аддзел, была ўжо і рэдакцыя зусім маладой тады газеты «Вольная праца». У аддзеле далі Купалу адрас рэдакцыі, у рэдакцыю Купала зайшоў, павітаўшыся па-руску,— у капелюшы, чорным паліто — лацканы замшавыя; галошы каля вешалкі здымаў маруднавата, паглядаючы, каго ж ён застаў у рэдакцыі.

З двух чалавек, якіх застаў, адзін аказаўся надзвычай радасным, сінявокім, гаваркім. Купалу ён пазнаў і не ведаў, на якім крэсле яго пасадзіць, як сустракаць, як вітаць.

— Ці абедалі? Ці мо перакусімо ў кавярэнцы — праўда, часовай — у доме былога мільянера Руткоўскага?..— прапанаваў сінявокі.

Хоць было каля чатырох дня, «мільянер Руткоўскі пачакае,— жартаваў Купала.— А ці не завезлі б вы нас насамперад да Гальяша Леўчыка?..»

...У другой палове дня 14 лістапада 1939 г. у Слоніме было яшчэ больш імжыста, чым у першай. Леўчык, выйшаўшы з хаты на двор, зрабіў руку паддашкам каля броваў, выглядаючы, а хто ж там ад весніц да яго ідзе? Невысокі, стары, кучаравая сі-

візна стаўбуром, і вось ён пазнаў Купалу, пайшоў, ледзь ужо не ўподскежкі рынуўся насустрач, рукі разняўшы, як крылы для палёту. Разняў свае цяжкаватыя рукі і Купала, і так яны сустрэліся — грудзі ў грудзі — старэйшы Гальяш і маладзейшы Купала, былыя паэты-нашаніўцы, сённяшні вялікі народны паэт і забыты тады ў былой панскай Польшчы богам і людзьмі Гальяш Леўчык. Забыты ўсімі, ды не Купалам.

Хата, якую сам Леўчык праектаваў, зрубіў, шаляваў, маляваў, была ад вуліцы воддаль — за агародам, які ў той дзень шарэў дробнымі грудкамі, зааранымі на зіму. Не хата, а, лепш сказаць, дамок — акуратны, як і яго гаспадар, светлы ад сонечна-карычневай афарбоўкі нават у імжыстай паволоцы. У калідорчыку было цесна, тым больш што на абедзвюх сценках віселі гітары, скрыпка, на палічках стаялі нейкія яшчэ іншыя інструменты — пузатыя, блішчастыя, як паліваныя збанкі, з чорнымі вочкамі адтулінак. Купала не ведаў, што гэтыя свістулькі называліся акарыны.

— Даруй, цесна,— прамовіў Гальяш.

— А мы — бачком, бачком! — і Купала, як бы падштурхоўваючы кагось плечуком, удаючы, што ён падскоквае, прайшоў вузкімі сенцамі поруч з гаспадаром...

Дом Гальяша Леўчыка быў не дом, а музей, бо Леўчык быў і паэтам, і жывапісцам, і музыкантам, аматарам антыквару, збіральнікам усёй старыны — грамат, прывілеяў, летапісаў, кніг старых і новых, звязаных з яго роднай Слонімшчынай. Купала, Леўчык успаміналі нашаніўскія часы — Купала, седзячы на покуце на самаробнай лаве, Леўчык і Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн (а гэта ён з рэдакцыі прыехаў да Леўчыка з Купалам) — на самаробных табурэтках.

— Чыжык, чыжык, дзе ты быў? — пытаўся Купала, пазіраючы ў нестарэючыя вочы энтузіяста Гальяша словамі яго ж вядомага верша, які Купала запомніў з часоў рэдагавання першай кніжкі Гальяша «Чыжык беларускі» ў Вільні ў 1912 г.

— Я на Белай Русі жыў,— адказваў Гальяш.

— Таму і белы,— намякаючы на сівізну кучаравай чупрыны гаспадара, роздумна мовіў Купала.

Ад'язджаць з гэтай антыкварнай хаткі старога Гальяша Купалу не хацелася, і ён усё адкладваў ад'езд, хоць новы ягоны шафёр Яртымік усё падганяў Купалу і падганяў.

— А тут яшчэ недзе блізка Жыровіцы,— звяртаўся Купала да маладога Новіка-Пеюна, які таксама аказаўся і паэтам і кампазітарам.

— А так — дзесяць кіламетраў,— адказаў той.

— Халімон з-пад пушчы быў родам адтуль,— сказаў Купала.

Халімона з-пад пушчы ў хаце Гальяша не ведалі. Купалу ж было прыемна маўчаць-прыпамінаць у гэтай хаце і пра белыя пецярбургскія ночы, гаваркія гаваркім Яўгенам Хлябцэвічам, які ледзь не стаў папом, а стаў сябрам пецярбургскага Купалы.

Дык вось, як яно! Заходнебеларускія маршруты Купалы вяртаюць яго вунь у якія дальнія куткі яго маладосці. Але яны вярталі Купалу не толькі ў мінулае, яны паядноўвалі яго і з будучым...

...Цяпер і я заходжу ў той дамок. Даруйце мне, Ілья Міхайлавіч, Іван Дамінікавіч, Сяргей Міхайлавіч,— я не перашкоджу?..

## 4. ІНТЭРВ'Ю АЎТАРА КНІГІ Ў ЯНКІ КУПАЛЫ

А. Л. Дарагі Іван Дамінікавіч!

Я ўжо столькі дзён і начэй вяду з Вамі маўклівую размову, што мне здаецца, не толькі я Вас ужо ведаю пэўным чынам, але, пэўна, ведаеце ўжо і Вы мяне. У мяне да Вас усяго толькі некалькі пытанняў і некалькі просьбаў аб прабачэнні. Адчуваю Вашу згоду, дык — пытанне першае. Здаўна кажуць людзі: вочы — люстра душы. Я з самага пачатку імкнуўся ўбачыць перш

за ўсё Вашыя вочы, а якія яны, яшчэ дасюль не ведаю. Сушынскаму ў Пецярбурзе, Максіму Гарэцкаму ў Вільні, Міхайлу Грамыку ў Мінску на пачатку 20-х гадоў і Міхасю Рыгоравічу Ларчанку ў 1940 годзе Вашыя вочы здаваліся сінімі, а Якубу Коласу — карымі. Дык каму верыць, хто сказаў праўду, ці Максім Гарэцкі ці Якуб Колас?

Я. К. Праўду сказаў і той і другі.

А. Л. Не разумею.

Я. К. Праўду сказаў і рамантык і рэаліст. Яны ў мяне — і сінія, і карыя. Як для каго...

А. Л. Мне трэба для жыццёвай праўды...

Я. К. Жыццёвая праўда і ў рамантызме і ў рэалізме.

А. Л. А ў неарамантызме — у сімвалізме? Вы ж самі згаджаліся з Пляханавым, што «сімвалізм — гэта нешта накшталт пасведчання аб беднасці».

Я. К. Не кожная рамантыка — сімвалізм. Чытайце Бялінскага. Шкада, што не маю пад рукой.

А. Л. Ведаю. Вы — было — давалі том Бялінскага чытаць Пятру Фёдаравічу Глебку. «Рамантызм, без жывой сувязі і жывога дачынення да іншых бакоў жыцця, ёсць найвялікшая аднабаковасць».

Я. К. Галоўнае — сувязь з жыццём... Славацкі быў рамантыкам. Але які гэта вялікі паэт!

А. Л. Я вас і люблю, дарагі Іване Дамінікавічу, як рамантыка. Я сам — рамантык. Але ці даруеце Вы мне мае адступленні ад праўды фактаў?

Я. К. Якіх?

А. Л. Я, напрыклад, у гэтай кнізе пра Вас падáў, нібы рэальныя, некалькі эпізодаў, якіх у самым Вашым жыцці не было. Вось яны: Вы самі не хадзілі да Мысаўскога ў дом Дворжыца — у рэдакцыю «Северо-Западнага края», а Ваш верш «Мужык» занёс туды Уладзімір Іванавіч Самойла, а тая памятная сустрэча была не ў мінскіх металістаў, а на Барысаўскай запалкавай фабрыцы...

Я. К. О, састаў віны набіраецца немалы! Але Вы, напэўна, ведаеце «Паэтыку» Арыстоцеля. Можа, я недакладна ўспомню, але, здаецца, у Арыстоцеля так: «Задача паэта гаварыць не аб тым, што папраўдзе здарылася, але аб тым, што магло б здарыцца, значыцца аб мажлівым па імавернасці або па неабходнасці». Калі ў Вас гэтае правіла вытрымана, то толькі чыстую праўду Вы сказалі.

А. Л. Чыстую, ды не зусім, бо я змяняў прозвішчы Вашых рэальных сучаснікаў, і я Вас прашу зноў жа прабачыць мяне за гэта, бо я кіраваўся пры гэтым адным.

...Можа, людзі, прозвішчы якіх я змяніў, былі ў рэальным жыцці лепшыя, а можа, горшыя: я іх так не спазнаў, не адкрыў для сябе, як Вас, не зліўся так з імі душою, як з Вамі, бо столькі пра іх, як пра Вас, не думаў і так палка не жадаў, думаючы пра іх, як жадаў, думаючы пра Вас, дайсці да самых глыбінь душы чалавечай. Я гэтым, вядома, многіх рэальных людзей пакрыўдзіў, а гэта было не па-купалаўску. І яшчэ скажу Вам, што мне важна было не так захаваць прозвішчы, як раскрыць атмасферу часу, у якім Вы жылі,— такога зменлівага, такога рознага на розных этапах Вашага жыцця...

І даруйце мне, калі ласка, яшчэ адно — тое, што ў маёй кнізе пра Вас больш Вашых унутраных маналогаў, чым Вашага голасу. Але што я мог зрабіць, калі Вы такі памаўклівы?! Я ўвесь час больш чуў, што Вы думаеце, чым чуў Ваш глухаваты барытон. Вы ўвесь час і скрозь і ўсюды былі перада мной больш мара і ўспамін, больш паміж марай і ўспамінам, як гэта і належыць быць рамантыку, чым у сучаснасці. Вы ўвесь — на пераваде паміж Былым і Наступным...

Але — даруйце, Іван Дамінікавіч,— не хочучы таго, я Вас усё ж затрымаў у дарозе. Дык у заключэнне — дзяжурнае, як кажуць, пытанне: што б Вы пажадалі слонімцам?

Я. К. Ці ж Вы не ведаеце? А таго, што я заўсёды жычыў усім сваім адрасатам: «Усяго светлага! Усяго вясёлага і шчаслівага! Будзьце добрых думак аба мне і аб усіх нашых белару-

сах!..» Дзякую, дарагі Іван Дамінікавіч! Шчаслівай Вам дарогі!.. І не пакрыўдзьцеся на мяне, калі ласка, калі я напішу Вам яшчэ праз які дзень-два ліст, бо я, напэўна, не ўсё, што хацеў, паспеў спытаць у Вас, не ўсе пытанні адважыўся Вам задаць...

Я. К. Згода! Пісаць лістоў не люблю, але чытаць — люблю. Буду, праўда, у блізкім часе ў раз'ездах, дык шліце наўздагонку...

### 5. ЦХАЛТУБА — МАСКВА

Першы раз у Цхалтуба Купала трапіў з руставелеўскага пленума ССП у Тбілісі. Нараілі ўрачы, выявіўшы дрэнны стан яго пазваночніка. Прыпісалі ванны, і да 24 студзеня 1938 г. Купала быў у Цхалтуба. «Цхалтуба мне вельмі і вельмі дапамагла»,— пісаў ён ужо з Кіславодска Гарадзецкаму, прывёзшы з Цхалтубы вершы «Генацвале», «Мы людзі свабодныя», «То не рыцары з князем», «Грузія».

Каўказ лячыў, Каўказ для Купалы быў усё-такі той прыгожай далеччу, з якое свет увесь бачыўся ў іншым святле, і на тое, што заставалася ў Беларусі, паэт пачынаў таксама глядзець адсюль праз прызму цудоўнай далечы. Не аберацыя зроку, а законы чалавечай псіхалогіі: час злечвае раны сэрца, прастора таксама як бы аддаляе чалавека ад іх, хоць яны ў яго сэрцы.

Прыгожая далеч — благаславёны Каўказ! Ты быў у лёсе Пушкіна, Лермантава, Льва Талстога, і ты вось у лёсе Янкі Купалы! «Отделкой золотой блистает мой кинжал...»; «Кавказ подо мною, один в вышине стою одиноко на крае стремнины»; газавата [1] няма: у насунутай на арліныя бровы кучомцы не твар суровага Шаміля, а пявучага Сулеймана Стальскага і дасціпнага Гамзата Цадасы...

[1] Свяшчэнная вайна.

Пекная ты, Цхалтуба! Ты ляжыш у нізкай катлавіне, адным краем упіраючыся ў горы. З другога боку цягнецца шырокая раўніна. Тут маса зеляніны, кветак, магутны парк. Тут цячэ цёплая рака, ёсць цёплае возера, невялікае, але вельмі глыбокае. Ды пякней вас, горы і долы Цхалтуба, Эліко Метэхелі, пякней мова Акакія Цэрэтэлі ці проста Акакія, як называюць свайго любімага паэта грузіны. Найпякней жа мова Акакія з вуснаў Эліко.

— Елена Міхайлаўна,— просіць Янка Купала,— запішыце ж мне хоць радок гэтай песні.

Эліко (Елена Міхайлаўна) запісвае: «Даідзінэ, генацваласнешы мшабеліё». І Купала чытае нараспеў: «Даідзінэ генацваласнешы! Даідзінэ генацваласнешы мшабеліё!..» Як гэта хораша гучыць! Эліко ўсміхаецца. Яна — галоўны ўрач санаторыя, ды такая маладая, прыгожая: не змрочная царыца Тамара з цясніны Дар'яла,— белатварая, чорная кветачка Цхалтуба!.. Шостая палата, у якую ў першы свой прыезд у Цхалтуба пасяліўся Купала, калі зойдзе ў яе Эліко, не шостая, а першая. Купалу хочацца мець яе фота на памяць, і ён ахвяруе ёй сваё: можа, Эліко намёк зразумее. Не зразумела! Яму ж не семнаццаць! Яна ведае, што ёю ўсе мужчыны захапляюцца, і прымае іх захапленні як належнае — прывыкла. Ды не можа да яе незвычайнай горнай красы прывыкнуць Купала. Не, ён не ў тым узросце, каб пісаць любоўныя мадрыгалы. Яго захапленне Эліко — захапленне красой па-філасофску, па Канту,— па-за ўсялякімі зацікаўленасцямі. Ён ёю проста не налюбуецца, як і чароўнай паэзіяй Акакія.

Сёмы дзень ужо ў яго на вуснах «Даідзінэ генацваласнешы», а на восьмы ён ёй дорыць адзін са сваіх найпякнейшых вершаў:

Было люба мне ў Цхалтуба
У жыватворнай цёплай цхалі,
Было люба, як галубіў
Цябе ў думках, Генацвале.

Ты лячыла ўсмешкай мілай,
Твае лекі чаравалі,
Сны чароўныя будзіла
Ты, грузінка, Генацвале.

Ой, паеду я далёка,
Сэрца сціснецца ад жалю,
Будзе сумна, адзінока
Без цябе мне, Генацвале.

О, Янка Купала! Вы сапраўды магутны рыцар шчырага культу Жанчыны! Няхай жыве несмяротны культ Жанчыны — Прыгожай Дамы, Дульсінеі не толькі з Табоса, але і з Цхалтуба! І Вы, Янка Купала, на гэты раз нікім не пераўзыдзены. На турнір з Вамі проста, пэўна, пабаяўся выйсці Ваш найбліжэйшы сябра, якога Вы ўсё ж сагітавалі ехаць у Цхалтуба ў сакавіку ўжо 1941 г. Вы былі тут трэці раз, ён — першы. Вы трэці раз захапляліся чароўнай Эліко, Колас — першы, але яго Эліко стала Ціна Дзмітрыеўна. Колас, праўда, таксама не мог стрымацца перад яе красой, бо нават сваёй Дзмітрыеўне — жонцы пісаў: «Наша доктарша, Ціна Дзмітрыеўна, грузінка, вельмі мілы чалавек і цудоўная дзяўчына, якою можна толькі захапляцца...» Захапляцца?! І пасля «захапляцца» адно «трохкроп'е»?! А дзе верш? Вы, Янка Купала, поўны пераможца ў турніры народных паэтаў Беларусі па ўслаўленню красы нашчадніц руставелеўскіх Цінацін і Нестан-Дараджан!..

— А хто сказаў, што не за верш «Генацвале» прысуджана мне Першая прэмія СССР? — жартаваў Купала за столікамі, застаўленымі ружамі і шампанскім, 15 сакавіка 1941 г., у дзень з'яўлення Пастановы СНК СССР аб прысуджэнні яму гэтай прэміі.

— Ніхто не сказаў, што «не за»!..— жартавала Эліко.

— Ніхто не сказаў!..— падхапіла Ціна Дзмітрыеўна.

І як соладка пахлі ружы ў той дзень у Цхалтуба! Нібы ніякіх шыпоў ніколі на іх не было. А Эліко і Ціна былі ў той дзень яшчэ прыгажэйшымі, чым калі-небудзь!

Цхалтуба Купала і Колас пакідалі праз тыдзень пасля прысуджэння Купалу прэміі — 22 сакавіка. З Цхалтуба да Харкава ехалі разам. Святочны настрой не пакідаў іх абаіх ад самага 15 сакавіка, хоць ужо і тыдзень зляцеў пасля гэтага. Колас перажываў свята Купалы як сваё, бо гэта было іх агульнае свята, свята беларускай літаратуры, Беларусі. Чаго, здавалася, большага можна было жадаць пасля 17 верасня 1939 г., пасля Беластока з яго Народным сходам і спаўнення гістарычнай справядлівасці, атрымання роўнага права на Усход і Захад быць сабой, працаваць на сябе, спяваць песні на поўныя грудзі?.. Чаго большага? Хіба што свята песні, якая некалі падняла Народ у паход. Але яны — Купала, Колас, менш за ўсё чаго-небудзь падобнага жадалі, на нешта падобнае чакалі. Бо песня ж іх спета? Не песенька, а песня — у высокім гучанні гэтых слоў. Яна — спета, але — ці дзеля нейкіх будучых узнагарод яны яе пялі? Ні ў думках было! Ні ў думках, і раптам — такое прызнанне спетай песні! Раптам — свята песні! Свята пасля гэтулькіх перыпетый, якія пасля бакала шампанскага ўспаміналіся ім нават цяпер ужо як нейкія кур'ёзы.

— Чыжык-пыжык, дзе ты быў? — змоўніцкі пачынае Колас.

— У «Звяздзе» Купалу біў,— нараспеў утуруе Купала. І ў адзін голас падхопліваюць:

Юдзіў, блудзіў, аслабеў,
Толькі збрудзіў, а не з'еў!

І гэтая эпіграма Купалы гучыць для іх цяпер наперш як антыбэндаўская, хоць не супраць Бэндэ яе Купала пісаў.

Ды ці бывае вяселле без сумнага рэчытатыву?! І ўжо праз гадзіну-другую язды Купала і Колас сядзяць на лаўцы ў купэ поруч, нібы на лаўцы, што ў садзе Коласа ў Мінску за паркам імя Горкага, сядзяць і спяваюць «Ой, у полі вярба...», «За туманам нічога не відна» і, вядома ж, «Зайшло сонца, узышоў месяц...». Імправізаваў то Купала, то Колас, то ў два галасы, у адначассі:

Над крынічкай расла дзічка,
Няма зоркі, ляціць знічка...
Былі зоркі, сталі знічкі...
Ой, ты месяц — серп займісты,
Зоркі ў небе — не маністы...

Недзе пасля паўночы пад зоркамі харкаўскага неба народныя паэты рассталіся: Колас паехаў на Гомель — у Мінск, Купала — у Маскву. Аднаму ў купэ Купалу стала маркотна. Спаць не хацелася, пасцелі ён не рассцілаў. Спачатку доўга-доўга глядаў у цемень, што бегла за акном, перарываючыся раз-пораз беглымі агнямі паўстанкаў і больш павольнымі — станцый. Пачынаў драмаць і зноў пазіраў. Ад раўнамернага перастуку калёс было прыемна, як ад бясконцага вясёлага рытму. Калёсы закалыхвалі, тармазы будзілі з прыемнай хмяльной дрымоты, каб тым жа калёсам зноў закалыхваць паэта. Не з кірмашу яшчэ ён едзе! Едзе з Эльбруса, ад Коласа. Не паязджанін! Скрозь родны дом, Радзіма! І поўніцай поўніць яго пачуццё споўненага абавязку. Можа, гэтага пачуцця не было б, каб не Прэмія. Прэмія ўсё-такі прымусіла зірнуць на сябе па-іншаму: яна — як падвядзенне рысы, вянец выніку, знак перамогі. Маёй? Канешне, і маёй! Але ці ж толькі маёй? «Народа, народа, народа» — выстукваюць на стыках рэек колы. «Я ж гэта ведаю, я ж неаднойчы пісаў, гаварыў пра гэта,— ківае моўчкі галавой Купала ў рытм перастуку колаў.— «Паклон мой, паклон мой народу за песні, народу...». Так пачынаецца верш — з канца:

Паклон мой народу за песні,
Што даў, навучыў, як складаюць,—
Спяваў іх калісь у прадвесні,
Сягоння вясну апяваюць.

Думка вяртаецца «з канца» — у «прадвесне»:

Народныя думы і казкі
Давалі мне сілы нямала,
А моладасць прагнула ласкі,
А моладасць ласкі не знала.

Цяпер трэба страфу пра «вясну»:

І сёння не тое, іначай,—
Не знаюць стамлёнасці думы,
Душа не сумуе, не плача,—
Пявучыя вокала шумы...

Сягоння з народам шчаслівым
Я свя́ткую свята ўрачыста...

Колькі мільгнула быстрых паўстанкаў, павольных станцый, Купала не лічыў. Але перад ім не на пудэлку ад «Казбека», на чыстым белым аркушыку верш. Круглаваты, як дзявочы, акуратны почырк. Аркушык ляжыць на прыбраным ужо ад вячэры століку, і над ім успёртая на сашчэпленых пальцах рук пасівелая галава паэта, выразныя хвалі маршчын на чале, вочы закрыты. Спіць Купала? Дрэмле?..

На якім гэта паўстанку ці, можа, на станцыі было, Купала не запомніў. Але было гэта ў час, калі за шыбінамі вагона блеклі ўжо зоры і пачынала працэджвацца недзе з усходу яшчэ няпэўнае пудлівае святло світанку — зелянава-смарагдавае; пачынала працэджвацца не ў яго акне, а ў супрацьлеглых ягонаму, яму нябачных вокнах. І было тады, што ў купэ злёгку пастукалі. Нехта малады,— таропкія рухі,— шырокім махам адкрыў дзверы. Без чамаданаў, нават без авоські, але з яснай усмешкай, сінявокі. Як Сяргей Палуян,— падумаў Купала,— а той прасіў дазволу зайсці, за кіўком Купалы на згоду зайшоў і — не сядае.

— Присаживайтесь, калі ласка! — першае слова па-руску, два па-беларуску сказаў гаспадар купэ.

— Дзякуй! — нечакана для гаспадара купэ па-беларуску азваўся пасажыр.

— Ну то́!

Хлопец сеў. Відаць, студэнт, а можа, ужо настаўнік: настолькі малады, што цяжка здагадацца, колькі гадоў, хто ён.

— Відаць, з Беларусі? — спытаў Купала.

— З Палесся, адкуль усе славяне. Бацька Максіма Багдановіча яшчэ гаварыў пра гэта.

— Бацька? Вы ведаеце бацьку Максіма?

— Чаму ж не? І вас пазнаў.

— Мяне пазнаюць часта.

— Хай смутак вачэй вашых добрых не росіць...

— Ён не росіць.

— А ці так гэта папраўдзе?

Купалу здзівіла, што голас у юнака, які запытаў у яго цяпер аб праўдзе, вельмі чымсьці нагадаў яму голас Ласоўскага, які, мажа, сапраўды быў бы чымсьці, каб быў чым-колечы адным, ■ не і антыкварам, і археолагам, і крытыкам, і палітыкам. «Праўда? — думае Купала.— Літаратура ўвогуле — праўдашукальніца. Хто дзе калі быў большы праўдашукальнік, чым селянін,— беларускі, рускі, украінскі, у XIX ст., на пачатку XX ст.? Ды і цяпер...»

— Вы — з сялян? — пытае юнака Купала.

— На вульгарныя пытанні не адказваю! — рэзка наёршваецца кучаравая капіца светлых валасоў.

— Я не вульгарызатар.

— Ведаю,— упэўнена пацвярджае юнак.

— Я думаў аб праўдашукальніцтве,— нібы апраўдваецца Купала.

— Ведаю,— пацвярджае юнак,— праўдашукальнікам быў і Ласоўскі, пра якога ж вы таксама толькі што падумалі. «Праўда, як агонь, і грэе і паліць, але не йме ш яго рукой. Праўда, як сонца, асвячае ўсю зямлю, але ніхто не ведае, што яна такое. Праўда, як блудная дзеўка, прадаецца на торжышчах, па бажніцах, па харомах, але ніхто ёю сыт не бывае. Жрацы і валхвы сталіся слугамі чужой праўды і праз гэта затрацілі пачуццё сваёй праўды. Кніжнікі таргуюць праўдай...»

— Я не таргую! — Купала ўстаў на ўвесь рост, як некалі перад Бэндэ.— Я не слуга чужой праўды, слуга сваёй!

Юнак, як сядзеў, прадаўжаў сядзець.

— Я — не ваш стары знаёмы,— сказаў спакойна,— я вас не абвінавачваю, я — даследую, я — новы гісторык. Не пазналі? Вы ж самі праглі праўды пра вас, а дзе ваша праўда?

Разам зірнулі на белы аркуш паперы з вершам, што ляжаў на століку паміж імі.

— Праўда? — спытаў юнак.

— Праўда,— адказаў паэт.

— «Пявучыя вокала шумы?..» «А ў падзямелле глянь, князь!..» Як?..

— Вы не баіцеся... так пытацца? — перабіў Купала.

— Бачу, у каго пытаюся! — голас юнака быў цвёрды.— І няўжо гэта сапраўдзе цягне вас ідылія?..

— Калі вы ведаеце, адкуль славяне,— пачаў Купала таксама рэзка,— то вы павінны ведаць, хто і што ёсць славяне. «Слава — Ігару Святаславічу!» — гэта не я пачаў. Не я пісаў панегірыкі гербам Сапегі, Хадкевічаў, Агінскім! Час выражае сябе і ў панегірыках.

— Так, кожны сын свайго часу,— падхопліваў юнак і прадаўжаў: — Сын часу, але ж і сын славян, і калі пачалося зацьменне сонца, то вы, хто пачуваў сябе ў жыцці аўтарам «Слова аб палку Ігаравым», вы павінны ж былі ўбачыць гэта зацьменне, павінны былі папярэдзіць дружыну, і зусім быў бы іншы для яе і для вас час. «Гэй, да сонца, гэй, да зор!» Вы, хто сам цяпер, як сонца, у сузор'і — каго там? — Ліры, Лебедзя, Арыёна, няўжо вы клікалі да сонца ў сузор'ях Ільва, Дракона? «Сонцу, зорам, арлам толькі роўны» — хто роўны? Быў роўны Гусляр, а цяпер хто? Як вы не ўспомнілі таго, чым жахалася яшчэ Марыя Пяледа?..

Юнак высокім голасам чытаў:

Гамоняць зялёныя сосны,
Шумяць у прысадах бярозы.
Жыву я ўквяцістыя вёсны,
Знікуль не пужаюць пагрозы.

— Знікуль не пужаюцца пагрозы,— паўтарыў Купала,— *знікуль.*

— Каб жа! Той цераз парушэнні дастаў рукой і да песні вашай!

Купала здзіўляецца:

— Парушэнні?!. Каб так гаварыць аб ім?!.

— Я — новы гісторык, ці ж вы забыліся? У новага гісторыка і новыя словы, хаця гэтыя новыя часта добра забытыя старыя. І што было *вульгарнаму сацыялагізатару* да таго, што разам з вамі, з Янкам Купалам, песню Маладой Беларусі ў той жа дарэвалюцыйны час праспяваў Ленін. «Для ўкраінцаў і беларусаў,— цытаваў нараспеў юнак,— толькі чалавек, які ў марах жыве на Марсе, мог бы адмаўляць, што тут няма яшчэ завяршэння нацыянальнага руху, што прабуджэнне мас да ўладання роднай мовай і яе літаратурай... тут яшчэ адбываецца. «Бацькаўшчына» тут *яшчэ* не адспявала ўсёй сваёй гістарычнай песні. «Абарона бацькаўшчыны» *яшчэ* можа быць тут абаронай дэмакратыі, роднай мовы, палітычнай свабоды супраць прыгнятаючых нацый, супраць сярэдневякоўя...»

Юнак цытаваў словы Леніна, і вочы яго блішчалі жывой ідэяй. Якраз гэткі ж бляск калісь бачыўся самому Купалу ў вачах героя ягонай п'есы «Раскіданае гняздо» — Незнаёмага. Незнаёмым Купалу быў і гэты юнак. Героі ж Купалу чамусьці заўсёды бачыліся высакарослымі, а юнак быў невысокі, каржакаваты.

Юнак больш ужо ні пра што не пытаўся ў Купалы. Не слухаў Купалы, а толькі гаварыў сам:

— Луначарскі вас разумеў разуменнем Леніна, Чарвякоў, Гікала, Галадзед, Панамарэнка — разумеў, разумеюць разуменнем Леніна вас, песняра бацькаўшчыны, абаронцу дэмакратыі, роднай мовы, палітычнай свабоды ад Лукі Іпалітавіча, ад Лукі Апанасавіча. Вы, пясняр вялікай сацыялістычнай Радзімы — Краіны Саветаў, дружбы народаў СССР; вы — адзін з найбольшых сімвалаў славянскага свету (апынецца гэты свет пад па-

грозай, ваша імя сярод першых, як шчыт, будзе ўздымацца ў абароне яго); вы — за плячыма ў якога не толькі «Слова аб палку Ігаравым» — уся беларуская літаратура: Кірыла Тураўскі, Ефрасіння Полацкая, Францыск Скарына, летапісы, статуты, «Песня пра зубра» Міколы Гусоўскага...

— Не ведаю такога,— прызнавацца памкнуўся Купала.

— Новы гісторык ведае,— гаварыў узнёслы юнак, твар якога цяпер Купалу нагадваў чымсьці твар маладога Якуба Коласа — часоў іх першай сустрэчы ў Мікалаеўшчыне...— Купала, пэўна, і памрэ,— прадаўжаў юнак,— і ведаць не будзе, як ён шырока і глыбока быў звязаны са страсцямі старажытнай беларускай літаратуры, асабліва XVII ст., ды ўжо і XVI, пачынаючы з таго, як Сымон Будны павучаў Радзівілаў, каб красой сваёй роднай мовы забаўляцца рачылі [1]; пачынаючы з таго, як Васіль Цяпінскі, маючы на ўвазе тых жа Радзівілаў і ўсё апалячанае беларускае магнацтва, кідаў ім у вочы словы аб разбыдленні, аб адступніцтве; пачынаючы з таго, як заступаўся Мялешка за на́шынца — жыхара сярэдневяковай Беларусі, каб было і яму, абрабаванаму панамі і іх слугамі, чым жывіцца, і як ненавідзеў той жа Мялешка радных баламутаў, дзеячаў сойму, пра якіх казаў, што хоць і наша костка, ды сабачым мясам абрасла і ваняець. А як павязаны вы, Янка Купала — пясняр Маладой Беларусі з «Фрынасам-плачам» Мялеція Сматрыцкага! Як у таго Маці — праваслаўная царква, голая, зрабаваная з усіх бакоў, так і ваша Маці-Беларусь корчыліся ў літаннях, у праклёнах адшчапенцам, рэнегатам, здрада якіх падваліны матчынага дому вываравае. А вашы заклікі да барацьбы — па адкрытасці і катэгарычнасці, ці ж не падобныя яны да філіпік Афанасія Філіповіча, да яго патрабавальнага выслоўя: «Ідзі, звыцяжай-пераможцай ворагаў зямлі беларускай!», з якім Афанасій шукаў калісьці заступніцтва для роднай зямлі, веры і народнасці ў рускага цара Міхаіла Фёдаравіча,— у Маскве?!

---

[1] Мелі за прыемнасць *(старажытнабел.)*.

— Дзе ж вы хоць вучыліся? — спытаў Купала, калі раптам убачыў, што юнак, скончыўшы гаварыць, падняўся ці не выходзіць.

— У Ленінградзе,— з гонарам адказваў юнак,— дыпломную пісаў пра «Новую зямлю» Якуба Коласа.

— Дзе ж яе пачытаць?

— У Ленінградскім універсітэце, на філфаку. І — даруйце, дарагі Іване Дамінікавічу, калі я сказаў што-небудзь не так.

«Не так, не так, не так» — спяшаліся колы па стыках рэек. «Та-ак, та-ак, та-ак» — та́калі, калі паравоз прытармажваў. «Гм?! — усміхаўся Купала.— І трэба ж! Паслухаў бы гэтага Каласок, што б ён запяяў?..» А цягнік тым часам пад'язджаў да Масквы. Радыёпрадуктар ажыў. «С добрым утром, товарищи! Вы подъезжаете к сердцу Родины — Москве!..»

Купала стаў збіраць рэчы, апранацца. «Дзе мой конь?» — павесіў на левую руку кульбачку-кіёк з манаграмамі. У вокнах вагона было поўна святла, сонца ўжо над Масквой разгарэлася, але ўсё адно было прыемна слухаць, што «Утро красит нежным светом...». Ранак сапраўды, як вясна-красна, красіў новы прыезд Паэта ў сталіцу — прыезд Паэта, адзначанага Прэміяй. Гэта не толькі пяяў рэпрадуктар, гэта і сама душа Купалы пяяла з ім — звонка і шматгалоса:

Кипучая, могучая,
Никем не победимая,
Страна моя, Москва моя,
Ты — самая любимая!..

Маскву Купала любіў. Упершыню прыехаў ён у Маскву яшчэ восенню 1915 г. Настрой быў няважны, бо ён, як сам напісаў тады Б. І. Эпімах-Шыпілу, не ведаў, якое ліха яго чакала тут заўтра. І таму тады яму Масква «не зусім» спадабалася, «нейкая,— як пісаў ён Шыпілу,— заплутаная і не зусім выразная. Петраград ямчэй захоплівае думку сваёй велічынёй і размахам». Але пісаў паэт пра Маскву тых жа 1915—1916 гадоў з Мінска

1919 года І. А. Белавусаву і зусім па-іншаму ўспамінаў яе. «Масква мне ў той час вельмі спадабалася,— прызнаваўся ён І. А. Белавусаву,— нават быў не супраць пасяліцца ў ёй на сталае жыхарства». Быў не супроць, бо жаніўся, жаніла яго Масква. А з 30-х гадоў як пачалося, то ўжо ў 1939—1940 гадах Колас не называў Купалу інакш, як толькі наш масквіч Янка. Ды калі б ні пад'язджаў наш масквіч Янка да Масквы, ён заўсёды хваляваўся. Нечаканага спадарожніка-юнака забыцца ён не мог, асабліва карцелі яму яго колкія пытанні пра сузор'е Льва, пра зацьменне сонца, пра панегірык. «Малады — гарачая галава! Але ці не ён сам, Купала, гаварыў калісьці пра шалёныя галовы маладых Алеся Бурбіса, Самойлы, Лапкевічаў? Ці не ён сам быў калісьці шалёная галава?.. Не ўсё, вядома, зразумеў, асэнсаваў гэты юнак,— думаў Купала,— маладое віно бурліць, бушуе. Але калі ён, Купала, называе сённяшнюю савецкую моладзь Вярнігарой, то яна і ёсць Вярнігара, бо ці ж бы ён, Купала, так памыляўся, што яна не такая, а іншая? А калі такая, а не іншая, вярнуць жа ёй горы? Казбек, Эльбрус, Памір з пікам Сталіна?.. Варочаць горы цяжка, ды і варочаць іх не трэба; іншая рэч — узвышацца духам...»

На пероне Кіеўскага вакзала Купалу таксама чакалі ружы. Яны былі ў руках і Налі Елісеевай, і ў Гарадзецкіх — у Німфы Аляксееўны і Рагнеды Сяргееўны, і ў Косткі Буйлянкі. Купала шкадаваў, чаму не напісаў, каб прыехала на гэтыя дні ў Маскву Уладка, з бярэмем руж абдымаючы ўсіх сваіх маскоўскіх сяброў.

## 6. POST SCRIPTUM СЛОНІМА, ВІЛЬНЮСА, БЕЛЫХ НАЧЭЙ І ІНШАГА

Нялёгкую задачу задалі Вы мне, дарагі Іван Дамінікавіч,— слаць Вам ліст наўздагонку. Я яго сапраўды цераз два-тры дні пасля Вашага наведвання Слоніма напісаў Вам — з пытаннямі,

якія Вам ці не паспеў ці не адважыўся задаць, але што з гэтага «наўздагонку» атрымліваецца,— не паверыце. На канверце ўжо штэмпеляў — пошце няма дзе ставіць, жывога месца няма. Усё на дзень пазней прыходзіць мой ліст, не застаючы Вас, і зноў вяртаецца каторы ўжо раз — ды не каторы,— дванаццаты ўжо раз вяртаецца да мяне назад у Слонім, і па штэмпелях я ведаю: 5 лістапада пайшоў мой ліст да мяне назад з Навагрудка, бо 4-га Вы, наведаўшы ў ім музей Адама Міцкевіча, паехалі ўжо рыхтавацца да вечара памяці А. Міцкевіча ў Калоннай зале Дома Саюзаў у Маскве. З Масквы ў Слонім назад да мяне пайшоў мой ліст 27 лістапада, бо ў ноч на 27-е, выступіўшы са словам аб А. Міцкевічу ў Калоннай зале, Вы ўжо спяшаліся ў Мінск (на снежань рыхтаваўся Ваш вялікі юбілей 35-годдзя). Пакуль ліст вярнуўся з Масквы ў Слонім, Вы былі зноў у Маскве, ды хоць былі Вы ў ёй 26 снежня — на сваім творчым вечары ў Маскоўскім клубе пісьменнікаў і 28 студзеня наступнага — ужо 1941 г., пакуль я зноў пераадрасаваў свой ліст Вам удагонку, Вы былі ўжо ў Тбілісі на святкаванні 20-годдзя Грузінскай ССР. Зноў на дзень спазніўся туды мой ліст да Вас, і ведала б пошта, што Вы з 2 сакавіка будзеце ў Цхалтуба — Вы ўжо ў Цхалтуба напэўна б атрымалі мой ліст — гэта ж блізка ад Тбілісі. Але ліст з Тбілісі пайшоў па зваротнаму адрасу з-за адсутнасці адрасата, і пакуль ён з Тбілісі ў Слонім, а я яго са Слоніма ў Цхалтуба, Вы ўжо зноў былі ў Маскве. Пасля Цхалтуба я ўжо накіроўваў Вам ліст свой у Вільнюс...

Гасцяваў Купала ў Вільнюсе 16—19 мая 1941 г. Шмат гадоў прайшло пасля жніўня 1915 г. Але Вільня помнілася, нібы 35 год з таго часу і не мінала. Ехалі ў Вільнюс на ўрадавых машынах. Узначальваў дэлегацыю сакратар ЦК КПБ па прапагандзе Цімох Сазонавіч Гарбуноў, уваходзілі ў яе склад, апрача Купалы, Якуб Колас і Міхась Ларчанка — будучы прафесар універсітэта, а тады малады крытык і супрацоўнік Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР. На паўдарозе зрабілі, як сказаў Купала, папаску. І не майскі водар свежых траў, не пераліў-

ны посвіст салаўёў над іх папаскай хмяліў галовы, радаваў Купалу і Коласа, а набліжэнне да Вільні. Успамінамі яны проста засыпалі сваіх удзячных слухачоў — паважанага Цімоха Сазонавіча і маладзенькага, кучаравага, як Міхась Чарот, Міхаську. Радасці яны сваёй не таілі, і наймаладзейшы з дэлегацыі — Міхась Ларчанка — неўзабаве мог пераканацца, што такое ёсць Вільня, чым была яна для Купалы і Коласа і колькі сяброў яны тут, аказваецца, маюць.

Цэлы натоўп чакаў беларускіх пісьменнікаў ля найлепшай тады віленскай гасцініцы «Брыстоль». Паперадзе ўсіх — Людас Гіра. Абдымкі. Узбуджаныя першыя словы сустрэчы, больш засяроджаныя, роздумныя, з няпрошанай слязінкай, што закручваецца ў воку,— пасля: у рэстаране «Брыстоль», у запаўночным гасцінічным нумары Купалы.

Расказвае Людас Гіра. Уладзіміра Іванавіча Самойлы ў Вільнюсе няма. Купалу паказваюць акно яго кватэры «на паддашшы», як называў сваю кватэру на рагу вуліц Татарскай і Людвісарскай сам Уладзімір Іванавіч. «Адышоў ад руху,— пацвярджае Людас Гіра чутку, якую чуў раней Купала ў Мінску.— Праўда,— агаварваецца Людас,— потым зноў наладзіў сувязь з ТБШ — Таварыствам Беларускай Школы, але супраць рэвалюцыі стаў катэгарычна выступаць — па-талстоўскаму: не змена знешніх сацыяльных абставін зменіць чалавека, а яго ўнутранае духоўнае перанараджэнне. Рэвалюцыя для яго стала прымройвацца толькі ў вобразах ампірнае мэблі, якую блокаўскія дванаццаць паляць на плошчах ці ў буржуйках, і ў вобразах разбітых парцаляваных талерачак з ружамі на дне — кветка чырвоная, галінка зялёная...» «У каго гэта я іх бачыў?» — прыпамінаў Купала. «А хто стаў яго Мадоннай?..» — пытаў.

— Шляхцянка. Прыходзіла спачатку толькі хаваць, тоесёе згатаваць на паддашшы. Потым нарадзіла сына. Сын гаварыў па-польску. І пераважна па-польску стаў гаварыць у апошнія гады і малавядомы польскі журналіст з паддашша...

— Пяледа, Марыя,— дзе яна?

— У Каўнасе. Там з ёю і Стасютэ — наша хросніца,— адказвае Людас.

«Post scriptum Вільні — у Каўнасе»,— моўчкі робіць адно са сваіх жыццёвых заключэнняў нядаўна яшчэ такі ўзбуджаны, а цяпер — у запаўночным гасцінічным нумары «Брыстоля» такі аціхлы, сумны Купала.

— А Лапкевіч, што?

— З хлебам-соллю вітаў Чырвоную Армію, гаварыў на першым мітынгу ў Вільні прамову,— але цяпер яго на вуліцах таксама не відно, як і Аляксандра Уласава... Дзе, што з імі, невядома, як і з Уладзімірам Самойлам. Але ці ведаеш, Янка,— пытаўся Людас,— ці чуў, як пасля твайго верша адбіваўся Антон Лапкевіч ад Радаслава Астроўскага, ад Акінчыца, з якімі ўвайшоў быў у іх фашысцкі хаўрус. Антону ў гэтым шчыра памагаў Самойла. Уладзімір Іванавіч вёў грамадзянскі суд над Астроўскім і даказаў віленскай публіцы, што Астроўскі і яго жонка — Жар-псіца, як яе называў Самойла,— платныя агенты польскіх і нямецкіх фашыстаў. Астроўскаму прыйшлося пакінуць Вільню. Уладзімір Іванавіч усё-такі быў завадны!..

...Купала быў наважыўся ехаць у Каўнас, як толькі кончацца ўсе літаратурныя імпрэзы тут, у Вільнюсе. Але пазваніла з Мінска ў «Брыстоль» Уладка: чакаюць у Маскве на пасяджэнне Усесаюзнага лермантаўскага камітэта...

«...Так, дарагі Іван Дамінікавіч, ужо дзесяты раз вяртаўся да мяне ў Слонім ліст, які я напісаў Вам яшчэ ў лістападзе. 25 мая ён быў у Маскве ў гасцініцы «Масква», а ў ноч на 25-е Вы з яе выехалі ў Мінск. Тады ўжо я адрасаваў свой ліст наўздагонку Вам у Рыгу — на першы з'езд пісьменнікаў Латвійскай ССР, але пакуль ён дайшоў у Рыгу, Вы выехалі ў Каўнас. Каўнаскі адрас на маім лісце быў дванаццаты. Хоць я не забабонны, але трынаццаты наўздагонны адрас на канверце я ставіць не схацеў: паставіў «Мінск, Кастрычніцкая, 36-а. Дом пад таполяй».

І было тады так: ляцеў мой ліст Млечным Шляхам. Ночы былі начамі, калі зара з зарою сходзіцца. Было блізка да Яна, але яшчэ не было Яна. Я так і думаў, што на Купалле мой ліст будзе ў Купалы, і я цешыў сябе гэтым, вельмі цешыў.

Але калі я глядзеў, як у чэрвеньскім небе над Слонімам зара з зарою ўночы сходзіліся, я падумаў у адну з іх і пра Ленінград. Даруйце, Іван Дамінікавіч, я падумаў пра магілу сярод белых начэй Ленінграда, Вы ведаеце, якую: Браніслава Ігнатавіча Эпімах-Шыпілы. Вы ведалі гэтую магілу. Вы свайго настаўніка не забыліся. У ліпені 1933 г. Вы былі ў яго ў Ленінградзе,— у зусім ужо старэнькага, хворага прафесара. Вы былі ў яго з Уладзіславай Францаўнай. Сустрэча была апошняй. Выцвілі піўныя вочы прафесара, ой як выцвілі, але яны былі радыя бачыць Вас жывога, бачыць Уладзіславу Францаўну. І Купала тады ўпершыню бачыў дацэнта Пушкарэвіча, непасрэднага апекуна старога прафесара, пра якога Купала ў Мінску чуў, але рукі якога яшчэ не паціскаў. Было за што паціскаць руку гэтаму чалавеку, поўнаму высокай свядомасці, што за чалавек быў Браніслаў Ігнатавіч.

На жаль, post scriptum Вашых белых начэй, дарагі Іван Дамінікавіч,— не адна магіла шаноўнага выдатнага чалавека Браніслава Ігнатавіча. Post scriptum іх — і ў блакадзе Ленінграда, у ліхалецці, якое прынеслі на ўсю савецкую зямлю фашысты. Вы ведалі, Іван Дамінікавіч, што Бэндэ, адчуўшы небяспеку, з'ехаў у Ленінград. Але не ўведалі Вы вось чаго: у блакадным Ленінградзе дацэнт Пушкарэвіч сутыкнуўся з Бэндэ. І ён бы з ім не сутыкнуўся, калі б Бэндэ не ведаў, што архіў старога прафесара ў распараджэнні Пушкарэвіча. Пушкарэвіч са смерцю прафесара стаў уладальнікам кватэры Б. І. Эпімах-Шыпілы і яго архіва. Ды Пушкарэвіч з блакады жывым не выйшаў, Бэндэ — выйшаў: і жывым, і з ключамі ад кватэры на 4-й лініі Васільеўскага вострава. А пасля вайны ён нават рашыўся абараняць кандыдацкую дысертацыю пра Янку Купалу і Якуба Коласа, слова ў слова паўтараючы ўсё, што пісаў пра іх Пушка-

рэвіч. Сам Бэндэ — «перабудоўваўся». Ды плагіят быў выяўлены, і ўся беспрынцыповасць ліхой і хіжай спекулятыўнасці крытыка скандальна раскрыла сябе да канца...

...А ліст мой усё-такі на Ваш рабочы стол у дом пад таполяй трапіў. Трапіў 22 чэрвеня 1941 г.— у нядзелю. Зоська патрымала яго ў руках. Почырк на канверце здаўся ён вельмі дзяцінным, але Зоська даўно ўжо без дазволу гаспадара ні пачак ад «Казбека», ні газет, ні лістоў са стала яго не выкідала. Яна і мой ліст палажыла ў стусік карэспандэнцыі, што чакаў Вашага звароту з Рыгі і з Каўнаса. Я ведаю: у аўторак, калі Вы былі апошні раз у сваім доме пад таполяй, не да карэспандэнцый Вам было. Так і застаўся мой ліст да Вас на Вашым стале, Вамі не раскрыты, Вамі не прачытаны!..

# ЗЛІЦЦА З СОНЕЧНЫМ ПРОМНЕМ!!!

## 1. МАСКВА. 7 ліпеня — 16 кастрычніка

У Маскву на сваім «Шаўрале» Купала дабраўся 7 ліпеня 1941 г. Якраз аб Купалу ў Маскве ваеннай успамінаў ёсць найболыш, а з іх самыя цікавыя Максіма Лужаніна і Барыса Емяльянава. Гэты раздзел мы і пачнём з успамінаў відавочцаў, і першае слова — Максіму Лужаніну. Гэты званок да яго звінеў у дзень прыезду Купалы ў Маскву, званіла Канстанцыя Буйло:

— Прыехаў Купала. Хоча пабачыцца,— у голасе Канстанцыі Буйло засмучэнне.— Калі можаш, не марудзь. Яму вельмі цяжка.

Максім Лужанін заспяшаўся ў гасцініцу «Масква».

«У дзвярах нумара на пятым паверсе сустрэла знясіленая бледная Уладзіслава Францаўна. Ціха гаворыць:

— Пабудзь ▪ ім трохі, я выйду ў горад.

Іван Дамінікавіч, успёршыся на локаць, ляжаў на канапе. Павярнуў на крокі галаву, адарваўшы на хвіліну позірк ад акна, за якім стаяў ясны, без хмурынкі, дзень. Крыху прыўзняўся.

— Ляжыце, не турбуйцеся, дзядзька Янка.

— Ляжыце! — горка паўтарыў ён.— Каб ты ведаў, колькі людзей палегла. Як луг касою, за адзін дзень агаліла. Я ўсю зямлю нашу праехаў. Усё з месца рушылася. Толькі кветкі цвітуць пры дарозе. Сёння... Як чалавечыя вочы... Здаецца, зямля глядзіць табе ўслед...

І каб не паказаць слёз, лёг тварам да сцяны...»

Вярнулася Уладзіслава Францаўна. Лужанін пачаў адвітвацца. Купала зрабіў рукою рух: застанься.

Вечарэла. Прыходзілі і выходзілі знаёмыя. Купала не варушыўся на канапе.

— Заснуў, здарожыўся,— гаварыла, праводзячы іх, Уладзіслава Францаўна.

І зноў Купала і Лужанін сам-насам. Лужанін маўчаў, разумеючы, што перапыняць яго размовы з самім сабою нельга. Нарэшце Купала загаварыў, устаўшы, пачаў хадзіць па пакоі:

— Дзякуй, што памаўчаў са мною. Удвух і маўчаць лягчэй. Хоць і не гаворыш, а ўсё ж як быццам раішся. Разумееш, якой парады я ў цябе пытаў?

Лужанін разумеў.

«Купала спыніўся каля акна, стаў тварам да дзвярэй.

— І тая, што на свет пусціла, засталася там.— Купала не сказаў «маці» і праглынуў даўкі камяк.— Абедзве ў няволі апынуліся. І тая, што нарадзіла, і тая, што слова ў рукі дала. Аднае, можа, жывое няма, а другая зноў у крыві. І хто яе не крывавіў!..

...Пакрысе браўся прыцемак. Купала запаліў электрычнасць, запрасіў падсунуцца да стала, дзе ад самага пачатку размовы так і стаяла нечапанай бутэлька «Цынандалі». Залацістае пітво афарбавала шклянкі. Ён паглядзеў на віно проці святла:

— І тут ёсць сонца! Многа яго трэба чалавеку. Толькі не ў чэрствую істоту. Туды колькі ні лі, усё намарна, калі ў самім сэрцы няма сонечнага праменьчыка.

Купала падняў шклянку і павольна, з перапынкамі, відаць, на хаду перакладаючы, вымавіў пушкінскі радок:

— Няхай жыве сонца, хай знішчыцца змрок!

...Стаяў пры акне, паглядаючы, як нязвыкла рана пачынае таймавацца рух на галоўнай вуліцы сталіцы. Думаў уголас, абрываў словы, не дагаварыўшы, але нязменна пераходзіў да аднаго:

— Вернемся».

Каб пацвердзіць веру паэта — ды яго ж словамі — Лужанін, неспадзявана для сябе, узгадаў тады, у тым прыцемку, купалаўскія радкі:

О, тады сноп у сноп жніво наша будзе,
Сотня коп, мільён коп, дзівуйцеся, людзі!

— Помніш? — Купала ўважліва паглядзеў на Максіма Лужаніна.— Даўно ўжо я напісаў гэта. А яно ўзяло і ажыло.

І Купала сеў, абхапіў калені рукамі і заспяваў напаўголаса:

Сотня коп, мільён коп...

«...Дзіўна і нават крыху вусцішна стала,— успамінае Лужанін,— аж прабегся лёгкі маразок па спіне — Купала спяваў? Расхрыстаны, у кашулі з расшпіленым каўняром, з пасмамі валасоў, што, ускудлачаныя, павыбіваліся з яго заўсёды акуратнай зачоскі. Спяваў! Ён, хто ніколі, прынамсі, на маіх вачах, не далучаўся да хору ў сяброўскай бяседзе іначай чым усмешкаю ці кіўком галавы. Здавалася, ён блізкі да таго стану, каб загаварыць вершам, як спевакі-імправізатары. Навідавоку да паэта вярталася яго спеўная сіла. Нібыта ў пацвярджэнне гэтых думак ён сціх, запытаўся:

— А ты мог бы цяпер пісаць? — І, не дачакаўшыся адказу, прамовіў: — Я, здаецца, буду...»

Лужанін паспяшаўся пакінуць Купалу аднаго. Два тады вершы ўжо маглі мроіцца паэту: «Беларускім партызанам» і «Грабежнік». А можа, што з так і не напісанага? Ва ўсякім выпадку мы ведаем, што пад двума гэтымі вершамі стаяць подпісы: Масква. Чарнарэчанскае лясніцтва. 19 верасня 1941 г. Ні да гэтых вершаў, ні пасля іх, як пачалася вайна, Купала ў 1941 г. іншых вершаў не напісаў. Але яго творчая думка працавала вельмі напружана, і — гэта яшчэ раз дзякуючы Максіму Лужаніну — сярод яго апошніх твораў трэба, напэўна, лічыць і казку, якую ён тады ж, у Маскве, расказаў Лужаніну (ці не адну з апошніх Амброжыкавых казак?). Лужанін, праўда, не называе

гэта казкай, але паданнем, якое мы таксама зараз працытуем тут, змяніўшы ў ім толькі адну дэталь: клён на таполю — тую, якая ўжо жалобна чарнела абвугленымі голлямі над руінай Купалавага дома, які згарэў у Мінску 24 чэрвеня 1941 г.

Паданне гэтае — пра ўваскрослы попел. І вось пра што ў ім расказваў Купала Лужаніну. Купала расказваў у ім пра моцнае войска, якое напала на адну малую выспу. Жыхары ж яе жылі ў дабры і згодзе і не хацелі рабіцца нявольнікамі. І старыя і малыя, з чым маглі, зацята стаялі за кожны верацень свае зямлі. Мінуў год, два, а няроўная бойка не канчалася. Народ верыў, што змагаецца не марна, гэта дадавала сілы. Каб застрашыць людзей, заваёўнікі пачалі выпальваць усё, што траплялася на дарозе. Захапіўшы адно паселішча, яны сагналі ўсіх, хто жыў у ім, пад вялікую таполю пасярэдзіне вуліцы. Потым паразбуралі хаціны і зладжылі вялізны касцёр. Дзень і ноч шугала полымя, пагарэлі людзі, сатлела ўсё жытло да апошняга бярвенца. А старая таполя не паддалася. Стаяла, падымаючы абсмаленыя галіны, і нібыта клікала адпомсціць.

Зашорхалі хіжыя пілкі, застукалі драпежныя сякеры. Злыя людзі намагаліся знішчыць сведку свайго злачынства. Уздыхнула таполя, пахіснулася і са страшэнным трэскам і грукатам упала долу. А падаючы, прабіла сукам жарало ў зямлі. Адтуль зашугаў струмень, чырвоны ад тапалінага соку і чалавечай крыві. Ён узлятаў аж да вясёлкі, што выплыла на неба, і вяртаўся назад бліскучымі светлымі кроплямі. Пачало дзеецца нечуванае дзіва. Як толькі ўпадзе такая кропля на попел, замест спаленай хаты адбудуюцца дзве, з пня ссечанага дрэва вырастуць два яшчэ прыгажэйшыя, замест аднаго ўстануць два воіны, каб узяць меч загінуўшага.

— Здзірцы кінуліся на свае караблі,— расказваў Купала Лужаніну,— і ўсе патапіліся ў моры, бо перасталі разумець каманду, ашалеўшы ад страху. Той народ, удвая падужэлы, жыве і дагэтуль і верыць, што попел уваскрасае, варта толькі крыві нявіннага чалавека, соку пакрыўджанага дрэва і струменю

зняважанай зямлі зліцца з сонечным промнем. Ад яго ж бярэцца ў рост усё жывое.

Быў яшчэ ліпень 1941 г. Што Купала-паэт мог супрацьпаставіць тактыцы выпаленай зямлі, па знішчальных законах якой ішоў праз Беларусь вораг,— што акрамя магутнай фантазіі народа, казак Амброжыка з Мачанаў, веры народа ў жывую ваду і ўваскрасенне попелу?! І Купала супрацьпастаўляў гэтую сваю веру Паэта сіле, якая рвалася да сцен Чырвонай Масквы: і ён сапраўды знайшоў у грудзях сваіх, здавалася, скамянелых, анямелых, сілу, што супрацьстала сіле, як «Слова аб палку Ігаравым» супрацьстала калісьці блізкаму нашэсцю татар. Вока за вока! Зуб за зуб! Кроў за кроў!

Партызаны, партызаны,
  Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
  Каб не ўскрэслі век яны.

Цень забітых матак, дзетак,
  Дзедаў нашых і бацькоў,
Акрываўлены палетак
Клічуць мсціць крывава гэтак,
  Як не мсцілі ад вякоў.

Не давайце гадам сілы
  Над сабою распасцерць,
Рыйце загадзя магілы,
Вырывайце з жывых жылы,
  Кроў за кроў, а смерць за смерць!

Чарнарэчанскае лясніцтва на Маскоўска-Казанскай чыгунцы было такое ж мірнае, як і ў Ляўках пад Оршай. Бо той жа ляснік і тая ж леснічыха гаспадарылі ў ім, што калісь гаспадарылі ў Ляўках. Мікола Шыманскі будаваў Купалу ў Ляўках дачу, а покуль дачы не было, то ў яго леснічоўцы між векавых дубоў жыў Купала. Ён, Купала, любіў Міколу і Марыю Шыманскіх — гэтых добрых, слаўных працаўнікоў лесу. Хоць у Чарнарэчан-

скім лясніцтве было больш бярозы, чым дуба і соснаў, каля людзей даўно знаёмых, любых, было так, нібы адсюль было бліжэй да Ляўкоў, а то часам і забывалася, што ты не ў саміх Ляўках. Бо на новае месца Шыманскія пераехалі, вядома ж, са старою мэбляй. Толькі сцены былі другія, а той жа паміж імі стаяў ампірнай разьбы стол, у стылі ампіру тыя ж крэслы. Той жа гадзіннік пацікваў на стале, які цікаў Купалу шторанак, калі яшчэ не была гатовая яго дача на строме. І, можа, сама мэбля, сам гэты гадзіннік былі тым апошнім, што, як і ў Ляўках, дало раптам нечуваную сілу сэрцу. Хаця — раптам — гэта, відаць, недакладна.

Спачатку было — маўчанне. Усё пачалося з маўчання. Відаць, яшчэ з маўчання ў купэ цягніка Вербаліс — Масква, у які ён сеў у Каўнасе 22 чэрвеня недзе адразу ж пасля 10 раніцы. Потым быў Вільнюс. Суматоха. Бамбёжка. Разбіты вагон. Але з вакзала ў Дом пісьменніка Купала 23 чэрвеня ў 5 ці 6 гадзін ранку прыходзіць не адзін — дзвюма жанчынамі — жонкамі саўпартработнікаў Літвы. Адна — зусім маладая, была з дзіцем на руках. Ізноў сіроцтва! Купала не мог пакінуць на раздарожжы сірот! Купала адводзіць абедзвюх жанчын у ЦК. Дапамагае ім эвакуіравацца, і тады толькі Уладзіславай Францаўнай і Марыяй Канстанцінаўнай ідуць зноў у СП, а потым у дом пад таполяй. Сустрэць Купалу на «Шаўрале» жанчыны не змаглі, бо без Купалы машыну з гаража СНК не выпусцілі...

Гэты дзень быў увогуле днём суцэльнай неспагадлівасці. Маці Купалы не аказалася ні ў доме пад таполяй, ні ў сястры Анці, да якой нібы маці пайшла хавацца ў падвал ад бамбёжкі. Маці, людзі сказалі, нібы ўвогуле сышла з Анцяй у лес, і ўсе пошукі былі марныя. Перад ад'ездам у доме пад таполяй абедалі, ды нішто ў горла не лезла. Уладка была аптымістка: з'язджаем жа толькі ў Ляўкі. Перабудзем там, і навошта браць архіў, і маці тады знойдзецца. У «Шаўрале» Уладка пакавала чамаданы, банкі, шклянкі. Прыбегла жонка шафёра Яртыміка з

дзвюма дачушкамі: «Вазьміце нас!» Яртымік просіць: «Вазьміце!» — «Куды?! — вырашае гарачая Уладка.— Вернецца Яртымік з Ляўкоў, тады вас возьме!»

Шафёр крыўдзіцца. Марыя Канстанцінаўна хоча ехаць з Купаламі, але ёй пагражаюць за адлучку з паліклінікі трыбуналам. Марыя Канстанцінаўна застаецца ў Мінску. Купала маўчыць...

Ужо ў Ляўках з Оршы пазваніў Колас: ён з сям'ёй на станцыі: Купала прывозіць Коласа ў Ляўкі, але сустрэча невясёлая. Маці! Купала маўчыць з-за маці («Вось дзе пачаліся сапраўды ліхія часы!») і разумее, чаго маўчыць з ім Колас. 27 чэрвеня яны ў Ляўках развітваюцца. 30 чэрвеня пакідае Ляўкі і Купала з жонкай. Іх чакала сем дзён дарогі да Масквы.

І было тады, што перапынялі «Шаўрале», раптам паўставалі перад ім у сінім чыстым небе вясёлкі. Дажджу няма, а вясёлкі — скуль яны? Ці не праз крышталь слёз народных праламляецца дзённае святло? Ці мо праз крышталь слёз, што ўсё крупяцца ў вачах Купалы, а Купала іх хавае, затульвае рукавом ад Уладкі, ад Ярты міка?.. Спачатку Купала ўчарнеў, як зямля; потым чарней вугалю стаў яго твар, і вочы не зразумець якія,— усё іх хавае.

Дзед — сівы, высокі — распасцёр крыжам рукі, раптам паўстаў на расстаі дарог. Голас, нібы ў Амброжыка:

— Прачма і плачма! Прачма і плачма!

Відаць, звар'яцеў. Машыны, людзі, абозы — міма, на ўсход і на захад, а гэты стары стаіць, маячыць прывідам:

— Прачма і плачма! Яшчэ ніколі не было, каб нічога не было, але каб такое было?!.

Да трупаў наўзбоччы людзі прывыклі, прывыклі да свежых магіл, да ўторкнутых у іх разбітых вінтовак. Але гэты жывы крыж каля дарогі? Гэты голас і аблічча, так падобныя да Амброжыкавых?!

Нямое пытанне ў вачах паэта. Зрэнкі яго расшыраны: чорныя-чорныя. Уладцы страшна. Купала маўчыць.

Купала не бачыў яшчэ ў твар фашыста. Самалёты праляталі з чорнымі крыжамі на крылах, але ў піке на «Шаўрале» яны не заходзілі, не завывалі, ледзь не рыючы прапелерамі зямлі. Купала, Уладка то не даязджаюць да бамбёжкі, то пераязджаюць цераз яе ахвяры. Не даязджаць — лягчэй, пераязджаць — хоць вочы завязвай, а яны ж — адкрытыя, зрэнкі вунь як расшыраны. Купала і так бачыць фашыста, хоць не бачыць яго,— рабаўніка, грабежніка, трупаеда, смаўжа, фюрэра прускага, шакала,ругана, забойцу. З дна памяці сваіх расшыраных зрэнак Купала і падыме пасля пачварны вобраз грабежніка — падыме ў Чарнарэчанскім лясніцтве ў адзін дзень з грамавым клічавым «Партызаны, партызаны, беларускія сыны!».

Ціхае лясніцтва Шыманскіх, мірная чарнарэцкая леснічоўка,— цераз беларускага народнага паэта вы сталі, як веча, звонкімі, як званы, чутнымі ва ўсе бакі! І калі амаль паўмільёна лясных салдат налучыцца неўзабаве ў атрады і брыгады ў беларускіх барах і пушчах, то ці не таму іх столькі налучыцца, што і слова Паэта клікала іх праз усе гады чорнай акупацыі на бой з вылюдкамі? І калі мільён захопнікаў наложыць сваімі галовамі ў барацьбе з партызанамі Беларусі, то зноў жа ці і не таму, што нянавісцю да ворага кулі і шаблі партызан вастрыла ўсё тое ж магутнае слова Купалы, стаўшы вершамі «Беларускім партызанам» і «Грабежнік»?

Але ў вайне з фашыстамі пералому яшчэ не было. Фашысты перлі пад Маскву, і гэта абумоўлівала тыя захады, якія ўрадавыя органы рабілі ў Маскве ў другой палове кастрычніка 1941 г. «14 кастрычніка,— успамінае маскоўскі сябра Купалы Барыс Емяльянаў,— па загаду ўрада фарміраваліся і накіроўваліся ў глыбокі тыл эшалоны. Ад'язджалі пісьменнікі. Раніцою Янка быў калючы, як выцягнуты з вады ёрш.

— Нікуды я не паеду,— мармытаў ён,— ні ў якія Ташкенты. Што я, звар'яцеў? За сем тысяч вёрст кісель сёрбаць. Немцу ў Маскве не бываць — успомніш маё слова. Я ад'еду крыху ад Масквы, куды-небудзь у лясок і спынюся. Потым вярнуся.

Раптам ён неспакойна агледзеў мяне і спытаў:

— Эшалоны перапоўнены?

І тут жа сеў за стол і напісаў запіску ў Саюз пісьменнікаў, у якой прасіў замест яго ўзяць у эшалон мяне.

Потым падняўся, замармытаў і пачаў выкідваць з чамадана рэчы.

— Трэба жыць лягчэй. Нікому не патрэбны гэтыя анучы.

Уладзіслава Францаўна запіхвала рэчы назад у чамадан. «Дуэль» працягвалася мінут пяць. Нарэшце Янка не вытрымаў.

— Вось так усё жыццё,— сказаў ён, уздыхнуўшы.— Я адно, яна другое, я адно, яна другое.

Ён пайшоў у спальню. Уладзіслава Францаўна пабегла за ім. Калі я ўвайшоў туды, то застаў ужо карціну чуллівага сямейнага яднання. Абое яны рэзалі хлеб, сыр, масла і каўбасу і раскладвалі па кучках.

— Гэта нам, гэта табе,— гаварыў Янка.

— Гэта нам, а гэта вам,— паўтарала Уладзіслава Францаўна.

— Не вазьму,— сказаў Барыс Емяльянаў.

Яны пачалі крычаць на яго абое адразу. Выходзіла, што ён таксама «ўсё жыццё» быў такі-гэтакі і, калі яму гаварылі адно, заўсёды рабіў другое...

— Усё жыццё ты быў эгаістам,— сцвярджаў Купала.

— Не быў,— пратэставаў Емяльянаў.

— Быў...

Емяльянаў узяў сыр. Тады яму ў кішэню пасыпаліся цукеркі, піражкі, булкі.

— Памерці з голаду вы заўсёды паспееце,— сказала Уладзіслава Францаўна.

Яна выцягнула з-пад стала два вялікія слоікі марынаваных грыбоў, сунула Емяльянаву ў рукі, і ён стаў пасярэдзіне пакоя, усхваляваны і разгублены, не ведаючы, што рабіць з гэтымі шклянымі бомбамі.

— Бярыце.

Ва Уладзіславы Францаўны былі на вачах слёзы. Емяльянаў усё разумеў. Ён трымаў у руках крохкія ілюзіі створанага Уладзіславай Францаўнай зноў — замест мінскага і аршанскага — маскоўскага дома Купалы. І вось дома Купалы не будзе зноў — наперадзе толькі дарога — цяжкая дарога вайны...

Чалавек ведае, калі што ў яго першы раз, і ніколі не ведае, калі што ў яго раз апошні. У гэты год шмат што ў Янкі Купалы было ў раз апошні. У раз апошні было і развітанне з Барысам Емяльянавым.

— Бывай,— казаў паэт сябру.— Жадаю табе шчасця,— і, як бы сам сабе, паўтараў любімы гайдараўскі выраз:— А што такое шчасце, кожны разумее па-свойму.

Ды тут Купала раптам стаў з сабой не згаджацца:

— Не, не! Цяпер мы ўсе чакаем аднаго і таго ж шчасця. Адзінага, велізарнага і агульнага. І яно прыйдзе, не можа не прыйсці: інакш навошта ж мы жылі?..

І яшчэ ў той дзень, у які так і не развітаўся Купала з Емяльянавым, Купала гаварыў сябру:

— Калі б я не быў паэтам і старым чалавекам, я хацеў бы быць каменшчыкам пасля вайны. У мяне будзе ў Мінску спачатку пакой. Не будзе пакоя — будзе будан, будзе палатка... Я буду спаць на драўляным ложку і працаваць за кухонным сталом. Я буду пісаць лепш, чым калі б там ні было.

— ...Вырастуць новыя сады. Чаранок ад падмаскоўнай яблыні мне прышлі. А калі мяне не будзе, пасадзі яблыню на магіле.

Купала развітаўся з Емяльянавым назаўтра, 16 кастрычніка. Ён ехаў на ўсход датуль, дакуль давёз яго «Шаўрале».

## 2. У НОЧ ПАД НОВЫ 1942 год

Як ужо трэці месяц запар, так і ў гэтую ноч Купала быў жыў у доме млынара на высокім правым беразе Волгі ў невялікім пасёлку Пячышча.

Тут, у Пячышчах, з дня ў дзень Купала заставаўся пераважна сам-насам з шыбінай — маўчаў з ёю, узіраючыся больш у сябе, чым у акно. Доўга білася ў восеньскім акне галінка з адзінокім лістком, пакуль лістападаўскі вецер з-за Волгі не сарваў яго. І ці гэта той жа лісток, ці іншы некаторы час быў яшчэ прыліплы да яго падваконня, а пасля ўмярзаў, нібы ў слёзы, у кроплі, што сцякалі з шыбіны, за каторай і з каторай Купала маўчаў. Умёрз лісток у лёдзе, зацярушаны сняжком, ён і цяпер у лёдавай аправе — на той бок яго шыбіны. Лісток мінулага года. Не! Лета. З мінулага лета, бо год яшчэ не мінуў; бо гэты год міне толькі пасля вось гэтага доўгага-доўгага марознага вечара. І будзе поўнач, да якой пакуль што далёка; і прыйдзе апоўначы з-за Волгі, з-за Урала новы 1942 год.

Да Урала Купала не даехаў. Ды ён і не рваўся да Урала,— бо толькі ў які-небудзь замаскоўны лясок. Але ўсё ж даехаў да Чэбаксараў,— дакуль давёз «Шаўрале». Забуксаваў «Шаўрале», і Купала быў нават рады, што забуксаваў. Стоп, машына,— і так далёка ад'ехалі ад Масквы. Але ў Чэбаксары прыехаў, як на даваенны Севан, бо ў хату чувашскага паэта Сямёна Эльгера, з якім пасябраваў у Арменіі, на Севане. Даваенны час, ён не скончыўся з пачаткам вайны. Даваенная дружба, яна ў агні вайны толькі па-сапраўднаму крэпла. Купала адчуваў, разумеў гэта, можа, больш, чым хто іншы. Ён прагнуў веры, а дружба давала веру: Дружба ратавала. Дружба — гэта грамада, грамадой, талакой — заўжды лягчэй, і, можа, таму так асабліва магутна заклікаў паэт сваёй публіцыстыкай 41-га да дружбы, да яднання ў вялікай талацэ, што сам адчуваў сябе, як ка̀ня, адзінокім. Вобраз кані нагадваў яму і старую легенду, якую ён апаэтызаваў яшчэ ў «Жалейцы». Легенда асуджала каню за яе адмаўленне ад гуртавой працы. За што ж асуджаны на адзіноцтва ён? У той легендзе было: настаў час, калі высахлі рэкі і крыніцы і не стала ў свеце вады. Усе людзі, звяры і птушкі сабраліся, каб капаць возера. Каня ўхілілася. Ці ж ён праз усё сваё жыццё дзе ўхіляўся, каб не раскопваць са сваім народам найвялікшае,

найсвятлейшае пад сонцам возера? За што, сапраўды, на яго гэтая кара адзіноцтвам тут, у Пячышчы?!

Адзінокім быў у млыне на правым беразе Волгі Янка Купала, хоць была з ім поруч Уладка. Ён ведаў, што мучыць яе тым, што маўчыць, што не прымае ад яе знакаў увагі, што раздражняецца абы з чаго. У новым годзе ён папалепшае. Даруй, Уладка! Збірай сёння навагоднюю вячэру! Трасі апошні скарб, які на такі выпадак вельмі прыдасца! Запросім і мельніка і яго жонку і не будзем адзінокімі, а я пакуль пастаю каля акна. Не дзьме, не бойся! Кашляю не ад таго і не ад бясконцай папяросы: на сэрцы цяжка — ты ж ведаеш!

Ён стаіць, маўклівы каторы ўжо вечар, ноч. Каб шыбіна магла гаварыць, каб фіксавала яго думкі! Думкі? Жыццё! Жыццё, што паўставала, як на экране, у квадраце акна. У квадраце акна ці зноў жа на крыжы белай аконнай рамы?..

Квадрата Купала не любіў: любіў сонца, а пагэтаму любіў круг, кола, ды каб праменні ад яго, як ад сонца, як шпіцы бярозавыя ў калясе, што спальвалі яны дзецьмі на Купалле, каб дачакаць новага сонца, новага Купалля. Ён любіў круг, сонца, а сам трапляў у кругі пекла, адразу часам і не ўсведамляючы тое. Цераз колькі кругоў ён прайшоў? Не лічыў. Не памятае, колькі іх у Дантэ. Але прайшоў праз усе, што лёс яму наканаваў, і ў кожным быў, як у віры. Чаму, аднак, віры яго не засмакталі, не ўкруцілі на дно? Яны ж вунь якія былі віратлівыя, гэтыя віры Свіслачы, Дняпра! Купала толькі моўчкі вачыма ўсміхаецца: ён жа быў у вірах і над імі! У вірах — целам, над імі — духам, душой, паэзіяй. Паэзія — яго выратальны круг, тое, што не давала яму ісці на дно, хоць віры круцілі.

І няпраўда гэта: на кругі свае нішто не вяртаецца, на былыя кругі жыцця. Можна вярнуцца на круг Айчыны, і ён вернецца, абавязкова вернецца, як сонца вяртаецца пасля ночы зноў адбівацца асляпляльным кругам у ціхай гладзі ранішніх крыніц.

Купала бачыць сябе ў розных абліччах: бялявы хлопчык-абдуванчык на возе бацькі-арандатара; бледнатвары юнак са

смутнымі вачамі; малады «стары» сярод маладнякоўцаў; рэвалюцыйна радасны дзяцюк на трыбуне на пляцы Волі з Галадзедам, Чарвяковым, Гікалам; пажылы ўжо дзядзька ў сальцы ў Ляўках — поруч з Коласам у ціхай радасці світанку над Дняпром. Але хто ж усё ж ён? Кім стаў? «Я ад мамкі ўцёк!..» — кальнула сэрца. Ад сябе нікуды не ўцячэш. О, мудрасць прыказак! А пісаў жа калісь Клейнбарту: «...стараўся... не ўмешвацца...» Уцячы?!. Ад пана Івана — уцёк, ад пана Антона ўцёк, і ад Вацлава ўцёк, ад Бэндэ ўцёк, ад Тулягера ўцёк... Каб жа ўсё было так кругленька, як у калабочка,— каб так просценька па дарожцы каціласяl..

Ён не ўцёк ні ад сябе, ні ад свайго лёсу, як ніколі не ўцякаў ні ад народа, ні ад свайго часу. Не ўцёк ні ад вялікага ў гэтым часе, ні ад псеўдавялікага, ні ад векапомнага, ні ад таго, што вецер гісторыі змятае, як пазаддзе. Не! Ён быў заўсёды з народам, з народным лёсам: што было ў народным лёсе, было і ў ягоным. Хаця... ці ж Бэндэ быў у лёсе і народным і яго? Як гара̀, ціснуў, як татарын, таптаў. Чаму ж не заціснуў, не затаптаў? А ці ж народ затопчаш? Патаптацца па ім можна, затаптаць — не! Ды Бэндэ не думаў, што ён топча народ,— таптаў толькі ж Купалавае сэрца. Але крыўдзіў тым і народ! «А ці тых, што крыўдзяць, народ абараняе?!» — смылела гэта, ой смылела на вуснах Купалы!..

Бэндэ для Купалы — нябожчык, труп. Пра нябожчыкаў або не гавораць нічога, або памінаюць дабром. Не гаварыць аб ім нічога колькі разоў даваў сабе зарок паэт, бо гаварыць як бы прадаўжаць апраўдвацца. А навошта апраўдвацца, калі ты не вінаваты.

Не вінаваты? Каб жа можна было выбіць, як шкло з рамкі, гранкі «Адкрытага ліста» — чорныя — з белай газетнай рамкі?! «Стыль! Стыль — не мой,— колькі разоў ужо крычаў і цяпер душой крычыць Купала,— бо вось мой стыль: «Перуновым голасам будзем гаварыць..., бліскавічнымі літарамі будзем упісваць сваю гісторыю ў векавечную кнігу гісторыі народаў. З квяці-

стымі сонечнымі думкамі, з нязломнай верай у лепшую долю і волю пойдзем усе наперад і наперад пад святым сцягам вольнай Беларусі. Змагайся і стань вольным, Беларускі народ!» Вось мой стыль — стыль Купалы! І яго ты не забіў, Бэндэ! Бо стаў вольным мой народ і будзе вольны. Вось мой стыль, сапраўдная мая душа:

Не загаснуць зоркі ў небе,
    Покі неба будзе,—
Не загіне край забраны,
    Покі будуць людзі.

Ночка цёмная на свеце
    Вечна не начуе;
Зерне, кінутае ў ніву,
    Ўсходзіць ды красуе...

Беларускаю рукою
    Светлай праўды сіла
Славу лепшую напіша
    Бацькаўшчыне мілай.

Зацвіце яна, як сонца
    Пасля непагоды,
Ў роўнай волі, ў роўным стане
    Між усіх народаў...

Ведала яна, зямля мая, непагоды-нягоды, ведае, церпіць іх і цяпер. Але ён, Купала, адпойчы і назаўсёды зразумеў гэта — «ў роўным стане між усіх народаў»: яна — непераможная, шлях яе — непераможны, як непараможныя шляхі бальшавікоў. А яго стыль, яго шлях,— ён і ў радках, прысвечаных XVIII з'езду партыі бальшавікоў:

Абняўшыся, як дзве сястрыцы,
Масква-рака і Волга шумам
Збіраюць да сябе крыніцы —
Усё з жыватворпаю вадзіцай —
І шумам будзяць, песцяць думы.

Мне сняцца сны аб Беларусі...
З Масквы, з Крамля хадою ўдумнай,
Усенароднай, чалавечай
Ідзе, таварышы, Камуна
На свеце шчасце ўвекавечыць.

Ідзе! І ўвекавечыць! Вось ідэя майго жыцця. Беспартыйны бальшавік, я ў гэта веру, як паверыў калісьці ў Маладую Беларусь, у тую, якую ты ж, Бэндэ, таптаў, адлучаў ад рэвалюцыі, ад сацыялізма, нясламіў — мяне, яе, «Нашу ніву», якая цяпер бачыцца мне ва ўсім яе абліччы — як газета, любімая маім народам, будзіцелька, сімвал, душа таго, што называем адраджэннем нацыянальнай культуры, прачынаннем ад сну, прадвеснем. Не, няма табе, Бэндэ, даравання! Бо праўда майго жыцця ёсць праўда Беларусі, майго народа. Што ж? Праўда і тое, што мой народ позна ачнуўся. Але ці XX ст.— сапраўды позна? У самы раз, бо гэта стагоддзе рэвалюцый, Леніна, новага сацыяльнага абнаўлення чалавецтва. Якраз Купала і паспеў да гэтага абнаўлення, не спазніўся. Але ён мог бы спазніцца, каб не спяшаўся. Рэвалюцыя спяшалася, і Купала спяшаўся. І гэта праўда таксама і мая і ўсіхная, што ні адно на свеце адраджэнне народа, ні адна вялікая ідэя не пашыралася так шпарка, як ідэя нацыянальнага адраджэння беларускага народа. Пачалося ўсё з некалькіх шалёных галоў. Не ўсе, аднак, не ўсе знасілі свае галовы, не ўсе горда пранеслі іх праз жыццё, неперaможна, чэсна, найсумленней...»

«Можа, я ў тым вінаваты?» Купала тут, у Пячышчах, думаў і пра гэта, як раней у доме пад таполяй, маўчучы на качалцы — пляцёнцы. Як фенікс, ён заміраў на доўгія вечары перад шыбінай дома мельніка,— як птушка, што ажывае з попелу, як паэт, які пра жывы попел расказвае, думаючы і пра спапялёнае, якое не ўваскрэсіш.

А магло б быць інакш, каб умелі існі. Га! Каб умелі існі!.. Ці ж адзін можа заварыць вялікую кашу? Ці ж, калі заварвае, не відно. Кацёл смалы кіпячай, калі заварваецца, на ўсіх жа ён.

Ці не застаўся б паркан, каб ні штыкеціны не даць камусьці з яго выломваць? А калі ўжо хтосьці намерыўся выламаць хоць штыкеціну, то выламаная штыкеціна ці ж не выяўляе намер зладзюгі паваліць увесь плот. Прасунуў паганы пашчу ў зеўру выламанай штыкеціны — зважай, каб назад галавы не выцягнуў выбіваць новую штыкеціну, глядзі, каб ужо засеў галавой у вышчарбленым плоце, як ліса ў збане!..

Усё ж дзіця вёскі, Купала часта думаў сялянска-побытавымі вобразамі, даўно ім перажытымі ўявамі, хоць сэрца яго ўмяшчала памяць усяго ягонага жыццёвага і творчага шляху. Мець бы нам карту душы Купалы, знаць бы геаграфію яго душы! Геаграфія, вядома, з прывязкай да зямлі, да мясцін: яе скласці прасцей. Цяжэй было б скласці карту дум і пачуццяў паэта ў часе. Раніцай, слухаючы апошнія паведамленні пра баі пад Масквой, ён як бы быў толькі пад Масквой і толькі ў гэтай раніцы — у гэтай пурзе, у гэтым саракаградусным марозе, з гэтымі 28 панфілаўцамі на Валакаламскай шашы, ці з безыменнымі байцамі, танкістамі, лётчыкамі, сапёрамі пад Кашырай, Зарайскам, Тулай, на Яхраме. А ўдзень ён мог вяртацца на любую паралель даваеннага жыцця, увечар — уяўляць сябе ў будучым. Ці, наадварот,— раніца ў будучым, дзень — у мінулым, вечар пад Масквой. Варыяцыі думак — бясконцыя і ўсе, як стрэлка компаса на поўнач, вастрыём нарэшце ў будучае. Але менш за ўсё паўночны магнітны полюс быў у вастрыі памяці Купалы. Як магніт, цягнула яго вельмі шмат балявы́х кропак, бо балела паэту былое радаснае і нягодлівае, былое шчасце і няшчасце, балела ўсё, што ўжо завяршылася, і ўсё тое, што яшчэ не завяршылася.

Шыбіна пытае ў Купалы:

— Сапраўды, што ў цябе ж засталося незавершаным?

— З далёкага-далёкага? — перапытвае Купала.

— Так, з самага далёкага,— пацвярджае Шыбіна.

«З самага далёкага,— думае Купала,— засталася ў яго, канешне, паэма аб нянавісці, аб Рагнедзе, узятай сілком замуж

князем Вялікім Уладзімірам. Аб Рагнедзе-палачанцы. Рагнедзе, якая выхавала свайго адзінага сына Ізяслава ў нянавісці да бацькі. Мястэчка Ізяслава — Заслаўль,— гэта ж блізка ад Мінка і ад яго Вязынкі — радзімы. Але чаму ён не скончыў тае паэмы? Гарыслава ці Гораслава называлася ў яго Рагнеда? Гарыслава ці Гораслава гэта — гарэць нянавісцю? Можа, не высвятліўшы для сябе гэтага пытання, ён пагэтаму і не скончыў калісьці паэмы?..»

Сёння сэрца Купалы сапраўды гарыць усёспапяляючай нянавісцю — да фашыстаў, за спаленую імі Радзіму, за ўкрадзенае шчасце любіць. І жаданні яго толькі адныя: калі вораг сарве яблык, які даспеў у садзе над Пцiччу ці Дняпром, няхай яно разарвецца ў руках яго гранатай! Калі ён сажне жменю зерня над Нёманам ці Прыпяццю, няхай зерні абернуцца свінцовым дажджом з неба і з кронаў вяцістых пушчаў! Калі ён падыдзе да чыстых студзёных калодзезяў ля шляху Мінск — Масква, няхай яны перасохнуць, чорнаю смагай спапялючы паганыя раты акупантаў! Тыя, хто сеюць нянавісць, нявечныя. Нянавісць спапяліць гадаў. Слаўны той, хто «чувства добрые в людях возбуждал». Няслаўе — лёс подлых захопнікаў...

Але што гэта засталося ў яго незавершаным, што магло вось-вось стаць завершаным? Ды песня ж шчасця, песня ўз'яднання, здзяйсненне мары — уз'яднаны народ. Ды шчасце ўжо і ў тым, што народ цяпер уз'яднаны для адзінай, агульнай барацьбы. У барацьбе вунь як загартуецца гэтае ўз'яднанне, адзінасць дасюль раз'яднаных. Шчасце вызвалення, мірнай будучыні, яно будзе адно на ўсіх, адзін лёс — на ўсіх. І Купала яшчэ напіша пра адзін лёс на ўсіх...» «Зноў будзем шчасце мець і волю... Адбудуем свае сялібы зруйнаваны... Як красаваўся, красавацца над намі сцяг чырвоны будзе!..» Ён, Купала, яшчэ напіша пра гэта, абавязкова напіша.

Ён напіша і пра селяніна-воіна. Бо калі хто калі-небудзь і думаў, што ён поўнасцю сплаціў доўг селяніну, сказаў аб ім усё, то гэта толькі не ён, Купала. І асабліва не ён сярэдзіны

30-х гадоў, калі пісаў ляўкоўскія вершы, калі ў бібліятэкі было-га свайго настаўніка па Бяларучах Турчановіча, бібліятэкі, якую ў Мінску захавалі нашчадкі настаўніка, адкладваў на стол для сябе на потым усё, што знайшоў пра сялянскія войны, пра навалу шведаў і французаў. Як шкадаваў ён у Маскве, што няма ў яго ні гісторыі Карамзіна, ні запісак у чатырох частках Хамякова — аб 1812 годзе, ні кніжкі пра бітву каля Лясной, якую Пётр I і назваў маці Палтаўскай перамогі. Ён, як жывыя, бачыў ужо тады, з тых, так далёкіх цяпер для яго сярэдзінных 30-х гадоў, твары сялян-паўстанцаў, сялян-партызан. Як гэта кепска, што ён не паспеў якраз пра гэта напісаць! Як кепска!..

А што было дзе калі кепскага, ці ж пра гэта ягоны лёс пісаць? Тым больш ці цяпер аб гэтым пісаць? Перад вялікім горам чалавек забывае ўсе свае крыўды — меншыя і большыя. Смерць у гэтым сэнсе мудрая. Як там гаварыў Амброжык: «Хто арэ, хто барануе,— усіх бог параўнуе»? Смерць — разлука. Большага гора няма на свеце, чым разлучацца з сапраўдным чалавекам. Разлучацца? А ці ж не ён гаварыў, што душа вечная. «Ці вы ў бога верыце?» — пытаўся наіўна нехта ў яго. «Якога бога! — былі тады яго, Купалавыя, словы.— Душа існуе без бога, але калі яна чалавечная, то з аднаго часу ў другі і пераходзіць, і таму гэта — вечная!..»

Вечная?.. Што вечнае — жыццё ці смерць, перад абліччам якой у адносінах да іншых людзей чалавек дабрэе, становіцца больш даравальны, не зважае, крыўдзілі яны яго ці не крыўдзілі. Што́ былыя крыўды перад вялікім сапраўдным горам?! Гора вялікае, сапраўднае,— фашызм. І перад яго навалай за той мяжой, дзе засталося даваеннае, усё здрабнела. Усё яно як і не вельмі важнае цяпер. А некалі ж балела?

Гэта, аднак, адно Купалу перад замаскіраваным ад начных самалётаў акном здаецца, што ўсё ў яго даваенным часе здрабнела, усё перастала ўсім балець назаўсёды. Бо ці ж здрабнеў

у памяці ўсіх тых, хто Купалу даваеннага ведаў і любіў, ён сам — высокі, светлы, з памаўклівай усмешкай?..

...Як заўсёды нечакана, ён з'яўляўся ў Доме пісьменніка на тадышняй Савецкай вуліцы, дзе адначасова туліліся і некалькі рэдакцый газет. Абходзіў рэдакцыі, абдорваючы дзяўчат карабкамі цукерак, расплачваючыся, ніколі не беручы рэшты, з машыністкамі, кідаючы ў бок запрацаваных хлапцоў:

— То, можа, сходзім ды хоць па куфлю піва вып'ем, а то вы нешта тут вельмі запічыраваліся.

«Ну, і ішлі. Цугам — за ім». Гэта — са ўспамінаў Яна Скрыгана, які «ніколі не бачыў, каб Купала хадзіў адзін — вечна за ім цэлы хвост маладых. А на руцэ ў яго вісіць кіёчак. А ён наперадзе. Твар шчаслівы, харошы, сяды-тады прабяжыць па ім усмешка. Павернецца, што-небудзь скажа каму цераз плячо, трошачкі крывячы ўніз губу...» Міколу Хведаровічу:

— І ціха, і глуха,— не жыццё, а пацяруха! — успамінаючы пра райскі закутак лесу ў аколіцы Капыля, дзе разам яны гасцявалі.

Алесю Бачылу — на Прэзідыуме ў СП пры абмеркаванні вершаў:

— То колькі тысяч радкоў вы напісалі? — бо што ты за паэт, калі не тысячамі радкоў пішаш?

Заіру Азгуру, які першым стаў ляпіць бюст Купалы і грашовыя пераводы якому Купала стаў слаць, куды б гэты шматабяцаючы скульптар ні ехаў ні ішоў:

— Ці ж не так, мастачок, што жанчына — хараство, але хараством павінна быць і жанчына, як і малітвы павінны быць у гармоніі з грахамі?..

Але піва папілі ўжо, і цяпер Купала вядзе маладых у найлепшы даваенны кінатэатр у Мінску — у «Чырвоную зорку». Колькі браць білетаў, ён ужо ведае. Гэта ён не ведаў, колькі куфляў піва заказваць Лёўцы Браўну, а як заказаў, то цяпер ведае: на адзін білет менш, чым уся іх кампанія. І ён купляе

білетаў на адзін менш усёй кампаніі, дзякуе за іх касіршы, раздорвае па білету на кожнага са сваіх маладых сяброў, адносна ж сябе кажучы: «Фільм папраўдзе добры, я ўжо глядзеў». Хлопцы ідуць у кіно, Купала накіроўваецца ў добрым гуморы дадому, бо ўжо і Уладка чакае — чацвертая гадзіна блізка.

«Шчасце міру, чаму ж яно, аднак, цалкам пазнаецца толькі цераз цябе, вайна, цераз гэтае вось адзіноцтва ў Пячышчах — каля замураванага марозам адзінокага акна?!.» «Не «патрошачкі крывіцца ўніз губа паэта».— Не патрошачкі! «Пры Сталіне ў бежанцах не будзем»,— гэта ж ён пісаў, а што выйшла? Не, ён, Купала, больш не паязджанін, і гэта вялікая заваёва Савецкай улады. Савецкія людзі, савецкі чалавек — не паязджанін, не паязджане ў сваім Краі ад Гродні да Уладзівастока і ад Кушкі да Таймыра!

Але год назад хто ўвогуле ў свеце ці мог падумаць, што яны будуць цераз год каля Масквы, будуць таптаць Нямігі крывавыя берагі, сінія вочы васількоў і незабудак, з якімі, як з людзьмі, ён, Купала, так цяжка расставаўся, так цяжка было пакідаць іх у палоне чорнай свастыкі. Чорны арол прымасціўся на карнізе Дома ўрада, зырыць драпежным вокам, азірае ўсю яго Беларусь. Божа! Ці не чорнае сонца ўвогуле ўзыходзіць над Беларуссю. Купала памятае пра чорнае сонца ў«Ціхім Доне» Шолахава — над магілай, якую капае Грыгорый Аксінні. «Над краем магілы сонца чарнее; краем магілы сонца чарнее,— думае Купала.— Ты, Шыкльгрубер, капаеш гэту магілу Беларусі — не выкапаеш, не дажывеш таго дня!»

«Gräber» — магільшчык па-нямецку. Грэбер — грубер,— ці не адзін чорт?! Але ж не схацеў чорт, каб крычалі перад ім: «Хайль Шыкльгрубер!» Зрабіў кароткае, як брэх: «Хайль Гітлер!» А яно ж усё роўна адно і тое ж — «Хайль магільшчык! Жыві магільшчык!..». Не дажывеш!.. Знішчальны вал агню косціш, у ім і задыхнешся; у попел зямлю абяртаеш, ён і асыплецца на твае вочы, аслепіць, давядзе да ямы-магілы, да бездані. Але — пакуль давядзе?..»

Надвалжанскі мароз вырысоўваў на шыбіне ні то вяцістыя пальмы, ні то разложыстыя букеты жытніх снапоў, ні то прагнутыя грані халодных іскрыстых штыхоў. «Штыхоў! — выпрашае Купала.— Навісайце ж шчацініста, вострыя, гнеўныя, напорвайся на іх, нечысць, будзе апошні твой «хайль»! Да Масквы *няпраўдай* дойдзеш, а назад не вернешся, як не вярнуліся Лжэдзмітрыі, як не вярнулася армада Напалеона!»

І зноў Купала бачыць сябе на знакамітых Чырвоных камянях у Кіславодску. Яны сядзяць на іх удвох з Петрусём Броўкам, не толькі верш Марыі Канстанцінаўне сачыняюць, але і гавораць аб усім чыста. Эльбрус Купалу не чуе, але Броўка чуе, можа, перакажа...

Што, аднак, так турбуе Купалу, каб нехта нешта пераказаў? Недагаворанае ім турбуе? Броўку ж дагаварваў, і Лыню-Лынькову, і Кузёмцы — Кузьму Чорнаму. Але ці ўсё ім сказаў? Трэба сказаць усё, а таму трэба адсюль у Маскву. Як толькі рушыцца лёд, як толькі пойдзе Волга, назад — у Маскву: ад адзіноцтва — да іх, да будучыні.

Можа, не толькі ад адзіноцтва, але і ад таго, што пачатая гаворка з Броўкам на Чырвоных камянях у Кіславодску засталася няскончанай?..

«Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць» — гэта жычыў ён, Купала,— чалавек са смутнымі вачамі...» Людзі, хай смутак вачэй *вашых* добрых не росіць»,— папраўце вы, людзі, гэты мой радок толькі так!..

Пясняр беларускага сейбіта і ратая не мог не спалучыць стальное і сейбіцка-сялянскае. Ён мог ідэалізаваць сталь толькі па-сялянску. Ён не думаў цяпер, пад новы, 1942 год, ці трэба гэта было яму ідэалізаваць сталь, ці не трэба было, ці добра гэта было ці блага, што ён стаў песняром сталі, і ці шчаслівы гэта лёс паэта зводзіў вобраз купальскай кветкі з вобразам сталёвага чалавека ці нешчаслівы. На той бок фронту пад Масквой была сіла, супрацьпаставіць якой можна было толькі сталь, перамагчы якую можна было толькі сталлю, толькі сталёвай воляй, сі-

лай. У сталь Купала, верыў... Верыў: «зноў будзем шчасце мець і волю...»

Ён столькі аб шчасці спяваў, ён проста заспяваў тэму шчасця, але ці ж ён вінаваты, былы галодны, які пазнаў дастатак пасля былой несыці, які таму і цаніў дастатак, бо ўдосталь звedaў беднасць. Таму ён так рэзка і супастаўляў: беднасць — багацце, ліха — шчасце,— агаляў да схемы, можа, і завельмі. Але адтаму яшчэ агаляў, што быў рамантык, што сэрца яго было адкрыта кантрастам лёду — вады, вады — агню. У рамантыка заўсёды ўсё завельмі.

Завельмі і ў фанатыка. І гэта проста шчасце тваё, Купала, што ў руках Бэндэ не аказалася твая метрыка, што Бэндэ не быў сапраўдным вучоным, не ведаў, што такое, як крот, рыцца ў архівах. Дарыўся б ён да гэтай тваёй метрыкі, кім бы ўжо тады быў ты для яго? Калі не Дзянікіным, дык ужо дзянікінскім афіцэрам абавязкова. Белагвардзейцам!

Змрочна пасміхаецца Купала. Бачыць сябе за штурвалам у кабіне самалёта. На нагах — унты. Гэта ён фатаграфуецца на аэрадроме паблізу Ляўкоў. Спяваюць жаўранкі. Чэрвень. Вось і да зор блізка: рукой можна апшупаць на крылах самалёта. Быў бы маладзейшы, можна было б і старту папрасіць. Быў бы ён нестарым чалавекам, ці ж высядзеў бы ён за печчу ў Пячышчах?! Ніколі! А ў вайну ці ж гэта занятак разважаць аб шчасці-няшчасці? Але што яму застаецца як не гэты вельмі ж нялёгкі занятак — у доўгія лістападаўскія вечары 1941 года, у яшчэ даўжэйшыя — снежаньскія, у самую доўгую ноч — пераднавагоднюю?..

І не ведае Купала, што ён у гэтую ночку не толькі тут — адзінокі каля адзінокага акна. Ён і тут і не толькі тут, таму што ён — гэта не толькі яго сённяшні такі глыбока засмучоны, знураны позірк, не толькі вось гэтыя маўклівыя, апушчаныя на падваконне рукі. Ён і тут і не тут. Ён — там. Ён ляціць — туды. Яго рукі, яго вочы, яго сэрца, яго любоў і нянавісць стварылі тое, што невымерна большае яго самога каля гэтай настылай

паўночнай аконнай рамы — ці не да зор яно сягае, ці не вятрамі-завірухамі стала неадольнымі?

Сустракалі партызаны той самалёт і ў Прыпяцкай зоне, і ў лясах Полаччыны, і на кручах дняпроўскіх, нёманскіх, бужскіх... Ды і ці ж толькі адзін самалёт з Вялікай зямлі ляцеў тады курсам на захад — і ў яго Беларусь, і на Украіну, у Літву, Латвію, Малдавію — ляцеў з яго словам, вёз ягонае слова гэтаксама, як патроны, міны, харч, медыкаменты, рацыі. З лістовак Янка Купала глядзеў у вочы партызан такім, якім яны яго памяталі ў дні міру — даверліва, па-свойску, любячы, верачы.

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!

Ён заклікаў іх, ён песняй сваёй станавіўся з імі плячо ў плячо. Ён — у гэтай завірусе, што заносіла сумётамі паляны, сцяжыны, дарогі, неаглядныя прасторы,— ён ішоў з імі, крочыў з імі па-волатаўску, як і яны. Ён быў і ў іх памяці волатам, і гэтыя словы, што былі ў іх на вуснах, былі для іх сцвярджэннем іхняй уласнай духоўнай сілы, былі сілай, што іх уздымала, напаўняла нечуванай напорыстасцю:

Партызаны, партызаны!..

Яны перапісвалі словы лістоўкі на апошніх аскраўках паперы, пры самаробных каганцах, у сутунку зямлянак, эстафетай перасылалі перапісанае ад рукі з атрада ў атрад, з брыгады — у брыгаду. Рукі іх зяблі. Можа, таму зяблі і яго рукі, што замерлі на падваконні ў доме на волжскай кручы?..

Калісьці ён пісаў:

Зайграюць сурмы нам да бойкі,
Пажарам задымяць шляхі,—
Алоўкі зменім на вінтоўкі,
Заменім пёры на штыхі.

І сапраўды, ці ж не было цяпер пяро Купалы самім штыхом, нацэленым у грудзі ворага,— штыхом у руках беларускіх сыноў,

сыноў Купалы?! Яго мініяцюрнае пяро-вінтоўка — дар металістаў — згарэла ў доме пад таполяю. Ды ці ж яно згарэла, калі слова Купалы б'е па ворагу, калі тое пяро стала цяпер вогненным, выкрасае агонь нянавісці да ворага — у сэрцах беларускіх партызан, у сэрцах усіх партызан Беларусі, адкуль іх у Беларусь лёс ваенны ні закінуў — з-над Волгі ці з Сібіры, з Каўказа ці Дона, ■ Амудар'і ці з Ташкента!..

Уладка, Уладачка! Табе ўсё ж лягчэй. Мне б сюды і хоць каго з хлопцаў: у вайну мужчына мужчыну разумее больш. Але ты не крыўдуй, калі шчаслівая са мною калі не была. І ўсё гэта глупства — французская кроў, Мелехава Аксіння. У кожнай жанчыне — французская кроў, у кожнай жанчыне — Аксіння. Кожная жанчына, як агонь і як вада,— як паэзія! Бо кожная жанчына і ўспалымняе, і тушыць, спапяляе і злагоджвае. Адзін агонь вайны толькі спапяляе. Ды не ён неўміручы — неўміручы агонь любові, кахання, паэзіі.

Што застанецца? Гісторыя. Застаецца заўсёды гісторыя. Калі вулкан дыміцца, ён жыве: можа пачацца вывяржэнне. Будзе лава, якая стане новымі Чырвонымі камянямі. Гісторыя заўсёды застаецца, і камяні застаюцца. Саклі гараць, лес гарыць,— Эльбрус застаецца. Запалка, гаснучы, ярчэй гарыць...

Што яшчэ не гарыць? Рукапісы? Гараць і рукапісы і сэрцы! Але заўсёды, аднак, застаецца попел, і — галоўнае — зліцца попелам з сонечным промнем. Розум чалавека ўсемагутны, поле яго дзейнасці і вопыту — бясконцае. І няхай не ў XXI стагоддзі — у XXX! — а знойдзе розум чалавечы спосабы чытаць попел — згарэлыя напісаныя і ненапісаныя лісты, якіх ён, Купала, не любіў пісаць, напісаныя і ненапісаныя старонкі дзённіка, якія ці пісаў ці не пісаў Купала, хто ведае? Але людзі навучацца чытаць попел — Купала ў гэта верыць, і тады будзе да самага апошняга патаемнага куточка прачытана сэрца любога чалавека. Будзе! А пакуль людзі будуць чытаць толькі тое, што не згарэла, што засталося Купалавымі вершамі, паэмамі, п'есамі, людзі будуць ведаць яго толькі па напісаным. Ён — не Гогаль,

аўтадафэ над сваёй душой не ўчыняў. Што, аднак, з яго папер пачнуць адкідваць, спальваць нашчадкі? Хай паляць! Усё роўна ж застанецца попел. Галоўнае — зліцца з сонечным промнем!..

А шчасце? Шчасце ўжо ў тым, што цябе маці нарадзіла; што ты выйшаў з цемры, ды яшчэ Купалам; што выйшаў шукаць адвечную кветку шчасця і ў пошуку ў людзях не зняверыўся; што праз цябе адкрыў, пазнаў сябе цэлы асобны народ, цэлы асобны край — Беларусь; што ты быў барацьбітом. Шчасце — у барацьбе. Асалоду такога шчасця ты, Купала, спазнаў поўніцай.

А вы яшчэ пытаецеся пра шчасце асабістае? Купала і сам не ведае, што было яго сапраўдным шчасцем: ці злашчасныя каханні без узаемнасці ці нібы шчаслівыя ва ўзаемнасці? Пэўна, і тыя, і тыя, бо і ў тых было сваё шчасце і няшчасце, і ў другіх — сваё шчасце і няшчасце. Але сапраўды, ці гэта не іронія лёсу: прыехаць у Каўнас, каб вярнуцца на трыццаць год раней, каб убачыць не на руках да хрэсту Стасютэ, а на высокім ганку з працягнутымі да цябе рукамі, ды — замест гэтага спачатку пачуць, потым убачыць, як пікіруе на высокія ганкі мімалётнага на зямлі шчасця чалавечага «Месершміт».

— Хто ты, чорная рыбіна?..

— Я — бомба.

— Хто ты, што стаіш перад ганкам?

— Чалавек я.

— А [redacted] думала — Купала...

— Калі чалавек я, то і Купала, і сонца, і месяц, і агонь, і вада, і сталь, і ружа...

Бомба выбухае, і Купала ўяўляе ўвачавідкі, як корчыцца ад агню яго чорная ружа каля дома пад таполяй — у самым сэрцы клумбы.

«Ужо без шыпоў, не колецца,— толькі чорны попел»,— думае Купала, і гарацъ, гараць усе дваццаць тысяч тамоў яго бібліятэкі ў доме пад таполяй...

Гарыць усё напісанае ім і аб ім. Гарыць усё, перакладзенае з яго, Купалы, Купала і не ведае, на колькі ўжо моваў людскіх перакладзенае, гарыць і перакладзенае ім на ягоную родную мову — беларускую: «Медны коннік» Аляксандра Пушкіна, «Прычынна» Тараса Шаўчэнкі, з «Конрада Валянрода» Адама Міцкевіча, «Парыжская Камуна» Уладзіслава Бранеўскага, «Эрос і Псіха» Ежы Жулаўскага... І гарыць перакладзенае Купалам «Слова аб палку Ігаравым»: першы раз згарэла ў маскоўскім пажары ў першую Айчынную вайну, у другі раз — у хаце Купалы побліз Нямігі — у другую, у Вялікую Айчынную. Гарыць і любімы Купалам Аляксандр Блок і Кароль-Дух вялікага рамантыка Юльюша Славацкага, які ўлюбляў у сябе і якога так баялася Марыя Пяледа...

О любоў, якая ты складаная, людская, простая, народная, усенародная!.. Калі ёсць і ты, усенародная, то каму апяваць цябе, як не народнаму песняру?! Гэй, дзе вы, народныя? У казахскіх юртах, у каўказскіх саклях, у беларускіх хатах?.. Джамбулава юрта не гарыць, Стальскага сакля не гарыць, гарыць Купалаў дом пад таполяй — агонь аж вочы Купалу адбірае, ад яго зырыстых галавешак ён закрываецца ўзнятаю да вачэй рукою, адгароджвае агонь ад сябе, адштурхоўвае, аддаляе...

Кніг, як і людзей, шкада. Невыносна шкада, калі ты нават і не Купала, а проста кніжнік. А ён жа, Купала, быў і проста кніжнікам. Любіў проста так патрымаць кнігу ў руках, адчуць яе вагу, шурпатасць вокладкі, любіў проста так доўга-доўга пазіраць на яе назву, знаёмячыся з кнігаю, як з чалавекам, адчуваючы яе глыбіню, святло, цяпло.

А тут — адзін агонь, прагныя языкі агню, усё кане ў ім. Кане, як у Леце.

І ўспамінаецца яшчэ Купалу яго фатэль — плеценае крэсла, у якім любіў некалі раскашавацца Браніслаў Ігнатавіч, яго любы прафесар, у якім калісьці, будучы ў апошні раз у Купалавай хаце, сядзеў Прэзідэнт. Прэзідэнта не стала, і, вярнуўшыся тады з яго пахавання, Купала закінуў фатэль на «хвалях

Леты» на гарышча. Гарыць цяпер і гарышча, і фатэль, і сама Лета.

І як бы з агню Купала чуе словы Прэзідэнта:

— Нам — можна, нас — легіёны, вам — нельга ніколі. Паэты не маюць на гэта права...

«На што не маюць права паэты?» — не разумее Купала.

— ...Не маюць права не быць,— скрозь трэск галавешак чуе Купала.— Не маюць права паддацца агню, дапусціць знішчэння. Не маюць!..

І раптам бачыць ён сябе ў арандатарскай хаце — у Селішчах. Бацька Домінік, маці Боня і ўсе сямёра дзяцей. Бацька не ведае, што яны ўсе сямёра за сталом разам у апошні раз. Ніхто не ведае. Бацька яшчэ не ведае, што сын пойдзе шукаць кветкі-папараці, што яго сын — Купала. А які шчаслівы сядзіць ён за сваім селішчанскім сталом! Не ведае...

А Купала шчаслівы, што ведае ўжо аб тым, што пойдзе шукаць кветку-папарадь, не ведаючы, колькі кругоў пекла ён пяройдзе, каб апынуцца ў высокім доме над крутасхілам Волгі.

Пачакайце, а гэта не шчасце мець такі псеўданім, як яго, Яся Луцэвіча, Івана Дамінікавіча? Мець у XX ст. Атрымаць яго ад Рэвалюцыі, якая дала і псеўданім Уладзіміру Ільічу Леніну. Рэвалюцыя і паэзія. Як мякка, як ласкава гучыць псеўданім Уладзіміра Ільіча, падказаны яму ні то ласкавым дзявочым імем, ні то велічнай лірычнай таемнанеабдымнаю сібірскай ракою, памяццю пралітай над ёю рэвалюцыйнай крыві. Рэвалюцыя не магла без паэзіі. Рэвалюцыя нарадзіла Леніна, дэмагогія — Гітлера. І не дэмагогія, а рэвалюцыя пераможа,— пераможа Ленін і Паэзія!..

І ўсё яшчэ ў Купалы наперадзе,— як у маладосці, як у вечнай маладосці!..

Зайшло сонца, узышоў месяц...

Ён любіў цябе, народная песня беларусаў. Але цяпер любіць ён не народную песню, не бунтоўнага Шапэна і няўрымслівага ў весялосці аўтара «Сільвы»,— ён не адрываецца цяпер ад ра-

дыёкропкі тады, калі з яе картоннага чорнага круга пачынаюць гучаць маршы. І асабліва ён цяпер любіць «Паходны марш» Хачатурана. Бо ён, як ніколі раней, адчувае сябе ў паходзе, рытм сэрца яднае з рытмам паходнага марша, і ці не ўчуе яшчэ свет новага «Слова аб паходзе сэрца Купалавага»? «А хто там ідзе? А хто там ідзе?» — сапраўды, усім жыццём ён даваў адказ свету на гэтае пытанне. Паход у будучыню прадаўжаецца, павінен быць і працяг песні. Іграйце ж, паходныя сурмы! Трубіце бой! Набліжайце перамогу!.. Я, Купала — сэрцам, песняй — з вамі!

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!..

І радкі Купалавага верша ўжо не толькі лістоўкай падаюць на белы снег лясных партызанскіх палян, на зялёную траву зарэччаў, у зялёна-сутонкавыя зараснікі папараці ў векавечных дубровах. Чуеце, яны ўжо сталі песняю непакоранага народа — песня грыміць сярод баёў, песня барацьбы, песня неперамож-ных, і рэха разносіць яе шырока-шырока, далёка-далёка — за небасхілы — насустрач Перамозе. Бо толькі ж той не перамагае, хто не быў барацьбітом — за праўду, за гонар і за славу народа, за светлыя зоры ідэалаў чалавецтва.

І над Волгай, над усёй Беларуссю, над усімі франтамі, што набліжаліся да яе, каб стаць трыма Беларускімі франтамі, у агні і крыві гучала:

Клічу вас я на пабеду!..
Клічу вас я на пабеду!..

...Паліто з вялізным рыжым мехавым каўняром (каўнер нагадваў Купалу Журана) вісела на вешалцы ля дзвярэй. Захацелася ўхутацца ў яго, паклікаць Уладку, выйсці пад марозныя надвалжанскія зоры. Але было ўжо блізка поўначы: радыё, на шчасце, працавала. Левітан даваў слова для навагодняга віншавання савецкаму народу Кліменту Яфрэмавічу Варашылаву. Віншаванне слухалі моўчкі — Купала, Уладка, Іван Наякшын з

жонкай. На стале была горкая маскоўская гарэлка і нават бутэлечка віна з журавін.

— І ўсё ж, Уладка, усё роўна перажывём,— сказаў Купала, падымаючы кілішак («wszystko jedno» — шаляснула, мільганула, як само рэха маленства русявага абдуванчыка).

— З Новым годам, з новым шчасцем! — гаварыў Наякшын.

Словы ўспрымаліся, як самападман: якое шчасце?..

— Рушыць зіма, і мы рушым,— прадаўжаў Купала,— але не на Казань,— на Маскву. На «Елісейскія палі» да Елісеева. Грузінка ж найбліжэй да Беларускага вакзала, а з Беларускага вакзала — найбліжэй дадому.

— Найбліжэй,— пацвердзіла Уладка.

Пасля навагодняга застолля сон прыходзіў цяжка. І было тое ці ўжо ў сне, ці ў паўсне,— не сказаць. І бачыўся Купалу высозны недабудаваны будынак, як Вавілонская вежа, каля якое людна, гварна, гаманліва і кожны кожнага разумее, кожны кожнаму ўсміхаецца, кожны кожнага абдымае, бо ўсе гавораць на адной, зразумелай кожнаму мове. А ён, Купала, прыслухоўваецца да гэтай мовы маўчком, разумее яе і рады, бо гэта ж як здзяйснёная яго мара — здзяйснёнае запаветнае: «Была б сусветная літаратура на адной мове, не было б у ёй ніякіх паўтораў, не прыйшлося б у ёй у соты і ў тысячны раз адкрываць вады і агню, ружаў і зораў. А пазнаваць яе ўсю, як гэта лягчэй было?!»

— А ці быў бы тады ты Купалам? — разлягаецца вокліч у сценах таго высознага-высознага недабудаванага будынка: над ім зоры замест страхі, а сцены ў ім без вуглоў і толькі вокны ў сценах рад над радам, кожнае без крыжа рамы...

— Хай не быў бы,— адказвае Купала,— абы толькі людзі адзін аднаго разумелі, абы адна песня шчасця лунала ў свеце!..

Але вось Купала ўжо бачыць, што ён сваё запаветнае гаворыць не ў высозным-высозным недабудаваным будынку, але ў будыніне збудаванай, толькі што страха на ёй праваліласяа, а

яна, будыніна, зусім не высозная, а можа, такая, як тэатр оперы і балета на Траецкай гары ў Мінску. Але будыніна, як і вежа, якую ён бачыў рапей, таксама круглая, а сцены ў ёй павышчарблены — пад адкрытым небам над ім ні то рыфамі, клыкамі, памі, ні то чырвонымі языкамі полымя ўвысь бухаюць. А ў цэнтры будыніны, як у цырку, арэна. Гладыятары на ёй, ці што?..

«Вечны горад! — здагадваецца Купала.— Даехаў бы я да цябе,— кажа ён сам сабе,— каб не Мусаліні. Хаця... усё роўна ж даехаў, бо ўсе дарогі...»

Але фразы Купала не канчае, бо зноў становіцца ў вушах шумна. Галерэі ажылі. Гамана, крык, раз'юшанасць на арэне і несусветны бедлам на галерэях. Купала бачыць твары, безуважныя да ўсяго, што адбываецца на арэне. Іх профілі строгія, арлінbackslash насы, высокія чыстыя лбы, кучаравяцца валасы, як у Апалона. Але — не Апалоны. Над іх лоджыямі — таблічкі, золата літар, якія, хоць у Калізеі і сутунак, блішчаць ярка. Купала чытае: Аўгуст, Цэзар, Актавіян, Нерон, Антоній...

А на арэне — роў. І Купала бачыць — ільвы, чырвоныя, грывастыя, раз'юшаныя. Усталі на лапы адзін супраць другога, пашчы разяўлены, як агонь з іх вось-вось бабухне. Але агонь не бабухае. І Купала здзіўляецца з таго, што бачыць: хвасты — ільвіныя, грывы — ільвіныя, а морды... То ж адна са скасавуранымі вачамі Лукі Іпалітавіча, другая — лысай абразінай другога Лукі — Апанасавіча. Нехта ж, выбегшы на залітую ўжо крывёй арэну, дэкламуе:

— O tempora, o mores!..

А з галёркі, з самай верхатуры, голас іншы, але вельмі знаёмы,— Купала пазнаў: Амброжыка. Амброжык на ўсе грудзі лямантуе:

— Якая ўмора? Скажы лепш, чаго гэтыя львы б'юцца?

— Не чаго, а з-за каго, трэба пытаць,— ментарскі папраўляе дзядзьку Амброжыка высокі кучаравы аратар у туніцы.

— Дык з-за каго, з-за каго?! — гукае Амброжык.

— З-за яго,— адказвае туніка, торкаючы сваім вялізным указальным пальцам у грудзі Купалу і дадае: — За права забіць яго першым!..

У ложах прадаўжаюць апладзіраваць з поўнай абыякавасцю да ўсяго, што на арэне адбываецца.

Ды што гэта дзеецца? Ніхто іншы, а сам ён, Янка Купала,— з якога гэта яруса галерэй? — зрываецца (залішне высунуўся за мармуровы край балюстрады?), ляціць (галава закружылася, ці што?), вецер у вушах свішча, а ён ляціць. А на арэне пад ім усё той жа прамоўца (Цыцэрон мне знайшоўся?!), голас яго ўсё выразней і выразней:

— Quo vadis?! Камо грядеши?!.

Купала яму выгуквае:

— Не бачыш?! Не іду, а лячу!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І ўжо не Купала, а Цыцэрон чуе:

— ...Лячу, каб зліцца з сонечным промнем!..

— ...Гэй, да сонца, гэй, да зор!..

— ...Хай смутак вачэй вашых добрых не росіць!..

— ...Прыйдзе новы, а мудры гісторык...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Купала, прачнуўшыся ў халодным поце, сваім прачынаннем збудзіў Уладзіславу Францаўну.

— Што з табою? — затрывожылася яна.

— Спі, спі, Уладачка, гэта мне прыснілася.

## ПАСЛЯСЛОЎЕ

Янка Купала загінуў трагічна 28 чэрвеня 1942 г. Далёка была ў тое фатальнае імгненне ад свайго Янкі Уладзіслава Францаўна. Яшчэ далей — маці паэта Бянігна Іванаўна. Сыну, кажуць беларусы, калі ён у дарозе,— адзін шлях, маці, якая яго чакае,— сто шляхоў, а як для маці паэта, то і тысяча. Пра тысячу іх, напэўна, не магла не думаць Бянігна Іванаўна ў акупіраваным Мінску, і — пэўна што — матчынае сэрца адчула, што адзін з іх раптам абарваўся. Адчула і перажыць таго не магло: 30 чэрвеня 1942 г. і сэрца маці паэта спынілася — у два дні пасля смерці паэта.

Хавалі іх у адзін дзень — 1 ліпеня 1942 г. Прамову над Купалам гаварыў сакратар ЦК КП(б) Беларусі Ц. С. Гарбуноў. Пра вялікі шлях «вялікага паэта, песняра вялікага свабодалюбівага народа», «тытана паэтычнага даравання», класіка беларускай літаратуры, паэта-рэвалюцыянера, аднаго з любімых паэтаў савецкіх народаў, аднаго з выдатных славянскіх паэтаў, які «ўнёс беларускі нацыянальны ўклад у скарбніцу 300-мільённага славянства, у скарбніцу агульначалавечай культуры», гаварыў Цімох Сазонавіч Гарбуноў.

І прадаўжала шугаць у яснае неба да самых зор адна з найгрознейшых войнаў, свет якое дасюль не ведаў. Агнявая лінія шматлікіх франтоў бязлітасна размяжоўвала магілы сына і маці.

На пахаванне Купалы з Пячышчаў у Маскву Уладзіслава Францаўна паспець не магла. Маўчун Купала, які ўсё жыццё не любіў пісаць лістоў, свой апошні ліст напісаў Уладцы і выслаў яго з Масквы 19 чэрвеня 1942 г. І апошнімі словамі ў ім сталі: «...Цалую. Твой Янка».

Сёння прах і сына, і маці, і Уладзіславы Францаўны — у адной зямлі, на адных могілках, пад аднымі соснамі. На Воінскіх магілках у Мінску віднеюцца поруч магілы двух вялікіх сыноў беларускага народа, двух першых народных паэтаў Беларусі — Янкі Купалы і Якуба Коласа. Поруч з магілай Купалы — магіла Уладзіславы Францаўны. Янка ж Купала як бы некалькі крокаў не дайшоў у сваім вяртанні да тае, якая яго на свет нарадзіла, якую ён некалі пакідаў, але заўсёды да якое вяртаўся. Цяпер жа ўсе трое яны поруч сняць сны аб Беларусі ва ўлонні мацеры-зямлі, якая ўсіх нас народжвае,— ва ўлонні мацеры-зямлі Беларусі.

ЗМЕСТ

**Лойка А.**

Л 72 Як агонь, як вада....: Раман-эсэ пра Янку Купалу.— Мн.: Маст. літ., 1984.— 486 с. 8 л. іл.

У пер.: 1 р. 90 к.

У кожнага народа ёсць паэты, веліч і значэнне якіх узрастае ад пакалення да пакалення. Творчасць Янкі Купалы даўно ўжо прызнаная ў свеце. Але і само жыццё чалавека такога маштабу і такога лёсу, як Янка Купала,— гэта адна з найцікавейшых старонак у жыцці ўсяго народа. Між тым да апошняга часу не было мастацкай біяграфіі народнага паэта. Упершыню такую біяграфію напісаў вядомы паэт, крытык і літаратуразнавец, доктар філалагічных навук А. Лойка. Яго раман-эсэ пашырае нашы ўяўленні пра чалавечую сутнасць і маштаб творчасці Янкі Купалы.

Л $\frac{4702120200-013}{М\ 302(05)-84}$ 13—82

ББК 84Бел7

Бел2

**ОЛЕГ АНТОНОВИЧ ЛОЙКО**

*Как огонь, как вода...*

Роман-эссе о Янке Купале

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Г. С. Шупенька.
Мастак М. Г. Селяшчук.
Мастацкія рэдактары В. П. Жыжэнка, М. Я. Янчук.
Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо.
Карэктар Т. В. Трубач.

ІБ № 1218
Здадзена ў набор 17.06.82. Падп. да друку 18.11.83. АТ 08738. Фармат 60×70¹/₁₆. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 23,79+0,78 укл. Ум. фарб.-адб. 26,91. Ул.-выд. арк. 23,33. Тыраж 20 000 экз. Зак. 2716. Цана 1 р. 90 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.